*Лыч Леанід.* Беларуская нацыянальная ідэя: тэарэтычны і практычны аспекты.

У кнізе раскрываюцца фармаванне канцэпцыі беларускай нацыяналь-най ідэі і шляхі пераўвасаблення яе ў практыку. З усяго комплексу звязаных з гэтым пытанняў найбольш падрабязна разгледжаны нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва і асветніцка-моўны фактар. Храна-лагічна кніга заканчваецца 30-мі гадамі XX ст. Разлічана на шырокае кола чытачоў, зацікаўленых гісторыяй нацыянальна-адраджэнскага руху на Беларусі.

## ЗМЕСТ

### Частка I

**Частка II**



**Частка III**

# УВОДЗІНЫ

Паўнавартаснае жыццё любога народа не ўяўляецца без глыбокага асэнсавання ім важнасці сваёй нацыянальнай ідэі. Ступень яе распрацаванасці, навуковасці можа быць самай рознай, але, нягледзячы на ўсё гэта, яна (ідэя) так ці інакш уздзейнічае на лёс грамадства. Натуральна, найбольшую ролю нацыянальная ідэя адыгрывае тады, калі праўдзіва ўлічвае карэнныя інтарэсы народа, у належнай ступені даступныя яго разуменню. Паслядоўная рэалізацыя нацыянальнай ідэі павінна гарантаваць народу найперш поўны дзяржаўны суверэнітэт, дынамічнае эканамічнае развіццё як галоўную ўмову матэрыяльнага дабрабыту, захаванне, узбагачэнне прыроднага патэнцыялу духоўнага жыцця.

Нацыянальная ідэя не застаецца бяззменнай у часе. У ёй пастаянна мяняюцца суадносіны паміж паасобнымі складнікамі. Калі, да прыкладу, у XIX ст. народы Еўропы пачалі актыўна прабуджацца да нацыянальнага руху, у нацыянальнай ідэі кожнага з іх на першае месца вылучыўся дзяржаўна-палітычны фактар, бо, не стварыўшы ўласнай суверэннай дзяржавы, нельга забяспечыць свайму народу ўмоў для нармальнага эканамічнага і культурнага жыцця, адгарадзіць апошняе ад асіміляцыйнага ўздзеяння з боку іншых этнічных супольнасцяў, часцей за ўсё тых, што пры спрыяльных для іх умовах дасягнулі найбольшага духоўнага прагрэсу. Стаўшы ж трывала на шлях суверэннага дзяржаўнага развіцця, урады народаў, што скінулі з сябе нявольніцкі прыгнёт, ужо свядома, мэтанакіравана імкнуцца да таго, каб у іх нацыянальнай ідэі, у залежнасці ад канкрэтных абставін, важнае месца занялі эканамічны ці культурны (у самым шырокім сэнсе слова) аспекты, а пры спрыяльных варунках – аднрачасова і першы, і другі.

У вельмі цяжкае, а нярэдка і ў бязвыходнае становішча трапляе народ, калі пэўныя палітычныя і інтэлігентцкія сілы тонка, у завуаляванай форме навяз-ваюць апошняму пад выглядам нацыянальнай ідэі нешта такое, што не толькі не адпавядае, а, наадварот, супярэчыць яго карэнным інтарэсам. Дзеля выпрацоўкі, усталявання і ўмацавання пазіцый гэтай антынацыянальнай ідэі не шкадуюць фінансавых сродкаў, прыцягваюць шматлікія дзяржаўныя ідэала-гічныя структуры, установы навукі, культуры, адукацыі, рэлігійныя службы, сродкі масавай інфармацыі, якім даволі часта ўдаецца навязаць народу гэтую варожую яго інтарэсу ідэю і такім чынам зрабіць аб’ектам

палітыкі дэнацыя-налізацыі. Многія з народаў, якіх напаткаў такі злавесны лёс, назаўжды зніклі з твару зямлі.

У цяжкіх пакутах нараджалася нацыянальная ідэя ў беларусаў, што тлума-чылася крайне неспрыяльнымі ўмовамі іх дзяржаўна-палітычнага і сацыяльна-культурнага жыцця. Доўгі час найбольш адукаваныя людзі, прыняўшы за ўзор польскія культурна-моўныя традыцыі, г.зн. будучы апалячанымі, у нацыяналь-ную ідэю беларускага народа ўкладвалі польскія формы і змест, а пасля далучэння нашага краю да Расійскай імперыі цалкам адмаўлялі яго карэннаму насельніцтву ў праве мець уласную нацыянальную ідэю і ўсяляк імкнуліся навязаць рускую нацыянальную ідэю. З цягам часу той, хто даверыўся польскай ці рускай нацыянальным ідэям, трансфармаваўся адпаведна ў палякаў альбо ў рускіх. Асаблівых цяжкасцяў у гэтым беларусамі не зведвалася, бо яны і антрапалагічна і ў культурна-моўным, побытавым планах былі вельмі блізкія да гэтых двух сваіх суседніх славянскіх народаў. Гэта акурат той выпадак, калі блізкасць, роднасць замест карысці прыносяць шкоду.

Працяглы час этнічнае выжыванне беларусаў ва ўмовах адсутнасці дасканала выпрацаванай уласнай нацыянальнай ідэі ці наяўнасці чужой нацыянальнай ідэі, навязанай палітыкамі, грамадска-культурнымі, рэлігійнымі дзеячамі суседніх народаў, забяспечвалася толькі дзякуючы захаванню ў іх (беларусаў) памяці аб колішнім існаванні магутных для свайго часу дзяржаваў у асобах Полацкага, Турава-Пінскага, Смаленскага княстваў, Вялікага Княства Літоўскага, дзякуючы непадзельнаму панаванню беларускай культуры, мовы, спецыфічных псіхалагічных рысаў сярод сельскіх жыхароў, на якіх тады прыпадала абсалютная бальшыня насельніцтва. Гэтыя два магутныя фактары заўсёды вялі адукаваных, не пазбаўленых этнічнай самасвядомасці людзей да слушнай думкі, што беларусы – гэта не палякі і не рускія, а самабытны народ з багатай гісторыяй, арыгінальнымі культурай і мовай, які мае натуральнае права на самастойнае дзяржаўна-палітычнае і духоўнае жыццё. А каб такое законнае, Богам прадвызначанае права стала рэальнасцю, патрэбна была дасканала выпрацаваная беларуская нацыянальная ідэя, патрэбны былі асобы – і ў немалой колькасці, – якія надалі б гэтай ідэі матэрыяльную сілу, прывялі б яе ў рух.

Ушчыльную наблізіліся да правільнага разумення беларускай нацыянальнай ідэі і выказалі наконт гэтага шэраг каштоўных тэарэтычных палажэнняў некаторыя з беларускіх прафесараў Віленскага універсітэта і найперш Міхаіл Бабро́ўскі, Тэадор Нарбут, Ігнат Даніловіч. На іх працах вучыліся любіць свой край

многія сябры тайных студэнцкіх таварыстваў філаматаў і філарэтаў. Асабліва вялікая заслуга згаданых навукоўцаў у даследаванні гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. У творах гэтых таленавітых вучоных дадзеная дзяржава з яе параўнальна развітымі для таго часу палітычнай сістэмнай, эканомікай і культурай характарызуецца самай адметнай з’явай у гісторыі літвінаў, як тады было прынята называць славянскае насельніцтва ВКЛ, г.зн. пазнейшых беларусаў. Азнаямленне з падобнымі поглядамі на беларускую дзяржаўнасць выклікала ў людзей са здаровай этічнай самасвядомасцю нястрымнае жаданне зноў дамагчыся такой палітычнай незалежнасці, што з асаблівай моцай выявілася падчас паўстання 1830-1831 гг. Але, на жаль, фартуна адвярнулася ад беларусаў. За падтрымку ці ўдзел у паўстанні розныя меры пакарання панеслі і выкладчыкі, і студэнты Віленскага універсітэта. На вялікую бяду, была спы-нена дзейнасць гэтай адзінай на Беларусі вышэйшай навучальнай установы. Вільня на нейкі перыяд перастае адыгрываць ролю генератара нацыянальнай ідэі беларускага народа.

Ад гэтага часу цэнтрам выпрацоўкі беларускай нацыянальнай ідэі стано-вяцца на многія гады вышэйшыя навучальныя ўстановы Санкт-Пецярбурга, на вучобу ў якія трапляла шмат моладзі і з нашага краю. Вывучэннем яго гісторыі, эканомікі і культуры сур’ёзна займаўся студэнт юрыдычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта Кастусь Каліноўскі, у якога на базе глыбокіх ведаў склалася цвёрдае перакананне ў тым, што беларускі народ не ёсць адгаліна-ваннем ні польскага, ні рускага, ні украінскага народаў, а ўяўляе сабой зусім адметны ад іх самабытны этнас, хаця і мае шмат агульнага з імі ў гісторыі, культуры, побыце і мове. Дасканала разумеў студэнт з Гарадзеншчыны і ролю ВКЛ у гісторыі беларускага народа, таму не мог не перажываць, што цяпер ужо ў яго адсутнічаюць нават самыя элементарныя рысы дзяржаўнасці. Вось чаму, як толькі з’явілася пэўная магчымасць вярнуць страчанае, К. Каліноўскі павёў у 1863 г. шчыра адданых Беларусі сыноў на разрыў кайданоў, начэпленых на яе царскай Расіяй. Сілы ў апошняй хапіла, каб патапіць у крыві самаахвярных змагароў за нацыянальную незалежнасць беларускага народа.

Маючы яснае ўсведамленне таго, што пры тагачасных варунках не існуе рэальнай магчымасці вырвацца з-пад палітычнага прыгнёту расійскага самаўладдзя, адукаваныя, апантаныя вялікай любоўю да Бацькаўшчыны людзі пры распрацоўцы тэарэтычных асноў беларускай нацыянальнай ідэі свядома рабілі крэн на культурна-моўны аспект. Неабходнасць

такога павароту тлумачылася тым, што пасля далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі дэнацыяналізацыя іх карэннага насельніцтва істотна ўзмоцнілася, бо цяпер асімілятарскую дзейнасць у яго асяроддзі актыўна, з зайздросным размахам праводзілі не толькі польскія паны і інтэлігенцыя, але і створаныя царскай уладай мясцовая адміністрацыя і сістэма народнай адукацыі, Руская праваслаўная царква, уплыў якой значна павялічыўся пасля забароны ў 1839 г. спавядаць уніяцкую веру. У такіх неспрыяльных умовах нацыянальная ідэя магла б даць хоць крыху станоўчых вынікаў беларускаму народу толькі тады, калі б ў ёй удалася правільна вызначыць месца культурна-моўнаму аспекту.

Варта падкрэсліць, што і ў больш раннія часы рабіліся спробы пракласці шлях у жыццё беларускай мастацкай літаратуры, вяліся плённая краязнаўчая праца, этнаграфічныя даследаванні, у выніку якіх без усялякіх нацяжак пацвярджалася самабытнасць культуры і мовы беларусаў, адметнасць іх гісторыі ад усіх суседніх народаў. Цяпер гэтую навукова-асветніцкую дзейнасць належала ўзмоцніць, бо іншага сродку, каб супрастаяць навале паланізацыі і русіфікацыі, у беларускага народа не было. У барацьбе з імі ён не мог абаперціся на дзяржаўную ўладу, бо яна сама была ініцыятарам правядзення русіфікатарскай палітыкі на беларускіх землях.

Каб не стаць яе лёгкай ахвярай, дачакаца лепшых часоў, калі з'явіцца магчымасць закласці ў нацыянальную ідэю тую ці іншую форму ўласнай дзяржаўнасці, трэба было ўсе сілы і энергію выкарыстаць на тое, каб не дапусціць далейшага размыву духоўнага патэнцыялу беларускага народа, адчужэння ад сваёй культуры і мовы, а пры больш-менш спрыяльных варунках адрадзіць, узбагаціць гэтыя бясцэнныя каштоўнасці.

У гэтую святую справу ўзнесена тытанічная праца не аднаго пакалення найлепшых людзей нашай Бацькаўшчыны. Не раз поспех змяняўся няўдачай, дарагія сэрцу дасягненні разбураліся чарговымі хвалямі русіфікацыі і паланізацыі, але беларуская нацыянальная ідэя працягвала існаваць, папаўняцца ўсё новымі і новымі пераканаўчымі высновамі.

У яе змест шмат каштоўнага, неабвержанага часам уклалі А. Кіркор, А. Вярыга-Дарэўскі, У. Сыракомля, Я. Чачот, П. Шпілеўскі, І. Насовіч, Ф. Багушэвіч, М. Доўнар-Запольскі, Я. Карскі і іншыя навукоўцы і культурныя дзеячы, працы якіх садзейнічалі выпрацоўцы тэарэтычных асноў беларускага нацыянальна-духоўнага Адраджэння. У гэтым жа накірунку вельмі плённа працавала ў апошнія дзесяігоддзі XIX ст. беларуская народніцкая

група ў Пецярбурзе, якой удалося нелегальна выдаць у 1884 г. на рускай мове два нумары часопіса “Гомон”. Змешчанымі ў ім матэрыяламі народавальцы ўнеслі каштоўны ўклад ва ўзбагачэне тагачасных поглядаў на беларускую нацыяналь-ную ідэю, дапамаглі многім далучыцца, заняць актыўную пазіцыю ў адраджэнскім руху. “Гоманаўцы”, – як справядліва зазначыў беларускі гісторык і літаратуразнавец Аляксей Каўка, – асэнсавалі заканамерны характар развіцця беларускага этнасу, цяжкасці яго нацыянальнай кансалідацыі і адначасова гістарычную жыццеўстойлівасць народа пры векавечным асіміляцыйным націску з боку суседніх Расіі і Польшчы, сталай небяспецы растварэння “ў вялікарасійскім або польскім моры”. Як альтэрнатыву імперскаму абса-лютызму яны абгрунтавалі ідэю “федэратыўнасці Беларусі” на падставе свабоднага пагадненя з іншымі народамі дэмакратызаванай Расіі”[1].

З’яўленне фактару “федэратыўнасці Беларусі” ў поглядах гоманцаў – гэта вялікае дасягненне ў справе выпрацоўкі як самой нацыянальнай ідэі, так і шляхоў выратавання беларускага народа з той асіміляцыйнай багны, куды яго загналі палітыкай паланізацыі і русіфікацыі.

Спецыфічнае геапалітычнае становішча нашага краю, часцей за ўсё неспрыяльныя для вялікіх здзяйсненняў унутраныя фактары ніколі не рабілі лёгкай справу беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Вось якой яна некалі падавалася таленавітаму беларускаму пісьменніку, крытыку Сяргею Палуяну: “Непрыхільныя варункі жыцця завялі народ наш у такі тупік, з якога, здавалася, ужо не было выхаду. Уся інтэлігенцыя адхінулася ад нас; усе – нават самыя маленечкія – пісьменнікі ішлі працаваць у чужую літаратуру; заціснены, пакрыўджаны беларус ад нараджэння да самае смерці не выходзіў з ярма нечалавечае работы. Ярмо душыла яго, зніштажала яго духоўныя сілы, паставіла яго ў палажэнне быдла. Цяжка было прабуджацца такому народу, цяжкая работа ляжала на плячах яго правадыроў. Без грашэй, без супрацоўнікаў выйшлі яны на народную ніву і гукнулі ўсіх да работы. Дзе-хто адазваўся, дзе-хто маўчаў, але пачатак быў заложаны...[2]. Такім пачаткам С. Палуян лічыў з’яўленне на свет беларускамоўных газет “Наша доля” і “Наша ніва”.

Да гэтага пачатку з поўнай падставай можна дадаць і шмат іншых адметных з’яў на шляху беларускага нацыянальнага Адраджэння і ў першую чаргу ўтварэнне ў 1902-1903 гг. партыі

[1] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі (у далейшым – ЭГБ). Т.І. Мн., 1993. С. 445.
[2] Наша Ніва. 1910. № 33.

леванародніцкага кірунку Беларускай сацыялістычнай грамады, у праграмных дакументах якой ужо не раз сустракалася і палажэнне аб забеспячэнні Беларусі абласной аўтаноміі на выпадак пераўтварэння Расіі ў федэратыўную дэмакатычную рэспубліку. Зацвярджэнне пад той час у беларускай нацыянальнай ідэі палажэння аб неабходнасці надзялення нашага краю пэўнымі дзяржаўнымі правамі ніяк нельга прызнаць выпадковасцю. Усе папярэднія намаганні яго адукаваных, з неразмытай нацыянальнай самасвядомасцю людзей не былі марнымі, дапамагалі многім глянуць на сябе як на самабытны народ, які, як і ўсе іншыя, мае права на сваю дзяржаўную ўладу, родную культуру і мову і зусім не абавязаны жыць паводле чужых нормаў і правілаў, як гэта яму на працягу некалькіх стагоддзяў навязвалі суседзі.

Існаванне на Беларусі нацыянальных партый і розных прагрэсіўнага напрамку грамадска-палітычных рухаў падавала надзею, што адукаваным, неабыякавым да лёсу свайго народа людзям нарэшце ўдасца выпрацаваць яшчэ больш дасканалую і адпаведную яго карэнным інтарэсам нацыянальную ідэю. З бегам часу ўсё больш палітыкаў, грамадскіх і культурных дзеячоў разумела, што ў яе павінен быць закладзены і палітычны кампанент, сутнасць якога заключалася ў заваяванні беларускім народам права на абласную аўтаномію, а пры спрыяльных умовах і на якую-небудзь больш высокую форму дзяржаўнасці. Разам з гэтым нельга было дапусціць аслаблення ролі культурна-моўнага фактару ў беларускай нацыянальнай ідэі, бо на практыцы нішто не сведчыла пра паслабленне асіміляцыйных працэсаў у нашым краі. Складовымі часткамі іх, як і раней, з’яўляліся паланізацыя і русіфікацыя, з той толькі розні-цай, што цяпер ужо апошняя значна перасягнула першую і нават уяўляла сур’ёзную пагрозу для саміх этнічных палякоў, што жылі на беларускай зямлі. У належнай ступені быў увасоблены ў беларускай нацыянальнай ідэі і эканамічны аспект, бо матэрыяльнае становішча насельніцтва ніяк нельга было лічыць нармальным. Асноўны ўпор рабіўся на аграрны сектар, бо пераважную бальшыню беларускага народа складалі сяляне. Без рэзкага паляпшэння іх жыцця нельга было б зрабіць яго прыстойным для людзей усяго краю.

Уклад элітарнай, з высокай грамадзянскай пазіцыяй часткі інтэлігенцыі ў распрацоўку нацыянальнай ідэі садзейнічаў таму, што адраджэнне беларускага народа з году ў год набывала ўсё большы размах, станавілася для многіх прыцягальнай сілай, хаця і ўнутранае жыццё краю, і палітыка царскага самадзяржаўя ніколькі гэтаму не садзейнічалі. Хутчэй наадварот. Беларускі

нацыянальна-культурны рух пачатку XX ст. наткнуўся на крайне цяжкія і неспрыяльныя варункі, бо ён, як справядліва пісаў С. Палуян, адбываўся “ў часы пышнага росквіту польскай і рускай нацыянальнай культуры, польскага і рускага нацыяналізму, гэта значыць у часы моцнай русіфікацыі з усходу і паланізацыі з захаду”. Але ўсё ж гэты рух не заміраў, а меў тэндэнцыю да развіцця, што С. Палуян адносіў “на рахунак глыбока жывучага ў народзе пачуцця самааховы”, якое “прыводзіць беларуса да свядомай нацыянальнай ідэалогіі ад звычайнай прыхільнасці да роднай хаты, да роднай вёскі, да роднага краю”[1].

Асаблівая актывізацыя беларускага жыцця назіралася напярэдадні і ў час рэвалюцыйных падзей 1905-1907 гг. Не замерла яно і ў гады рэакцыі, якая прыйшла на змену нацыянальнаму ўздыму. Адукаваныя пласты грамадства, якія ўмелі падпарадкаваць свае асабістыя інтарэсы агульнанародным, не шкадавалі сілы і энергіі, каб беларуская нацыянальная ідэя станавілася рэальнасцю, нягледзячы на ўсе складанасці часу, супраціўленне з боку цэнтральных і мясцовых уладаў, што цвёрда трымаліся курсу на адзіную і непадзельную Расію. Нішто так не пацвердзіла моц, жыццёвасць гэтай ідэі, як суровыя выпрабаванні Першай сусветнай і Грамадзянскай войнаў, кастрычніц-кая рэвалюцыя 1917 г. у Расіі. Каб беларуская нацыянальная ідэя мела штучны характар, была гвалтам навязана народу звонку, то падчас усіх гэтых выпрабаванняў ад яе і следа не засталося б. Атрымалася наадварот. Яна нават была матэрыялізавана ў розныя формы дзяржаўнасці – Беларускую Народную Рэспубліку, Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (БССР), прычым пры самым актыўным супраціўленні камандавання кайзераўскіх войскаў, Варшавы, Масквы і сваіх унутраных ворагаў Беларушчыны. Каб не даць згаснуць ідэі беларускага нацыянальнага Адраджэння, многім яе прыхільнікам давялося ісці на барыкады, у няроўных баях з лютым ворагам скласці свае галовы за святую справу.

Нялёгка было сцвярджацца беларускаму народу ў сваім сапраўдным абліччы, будучы падзеленым у 1921 г. паміж Расіяй і Польшчай, знаходзячыся ў моцна залежнай ад Масквы БССР. Але ён выстаяў, колькасна вырас у сваёй дзяржаве, дзякуючы паэтапнаму далучэнню да яе беларускіх этнічных тэрыторый у 1924, 1926 і 1939 гг. Пазітыўныя зрухі адбыліся у нацыянальна-кансалідацыйных працэсах, у чым вырашальную ролю адыграла палітыка беларусізацыі. Яе вынікі маглі б быць больш адчувальнымі, калі б беларускаму народу, як і ўсім іншым савецкім

[1] Палуян Сяргей. Лісты ў будучыню. Мн., 1986. С. 67.

нацыям, не давялося зведаць нечуваных паводле сваёй жорсткасці масавых рэпрэсій 30-х гадоў. Фізічнае вынішчэнне элітарнай інтэлігентнай часткі беларускага народа істотна затармазіла, але канчаткова не спаралізавала яго эканамічнае, нацыянальна-культурнае развіццё. Жыццё працягвалася, хаця і ва ўмовах сталага дэфармавання яго прыродных этнакультурных асноў, прычынай чаму з'яўлялася ганебная бальшавіцкая нацыянальная палітыка.

Светлыя мары многіх пакаленняў беларускіх адраджэнняў XIX – даваенных гадоў XX ст. убачыць сваю Бацькаўшчыну рэальна суверэннай, дэмакратычнай дзяржавай з магутнай эканомікай, развітой нацыянальнай культурнай, шырока распаўсюджанай у грамадскім жыцці роднай мовай, якім не пагражала б аніякая асіміляцыя, аказаліся няспраўджанымі. На працягу ўсяго гэтага амаль паўтарастагадовага перыяду толькі лічаныя гады беларусізацыі былі спрыяльнымі для здзяйснення нацыянальна-культурных ідэалаў беларускага народа. І калі да іх не быў страчаны інтарэс, і калі яны падтрымліваліся людзьмі, значыцца, у дзейнасці саміх дзяржаўных органаў, грамадска-палітычных і культурна-асветніцкіх арганізацый, усяго грамадства мелася нямала чаго і разумнага, што не дазволіла цалкам спыніць этнакультурнае развіццё беларускага народа. Гэтае разумнае заслугоўвае самага ўважлівага і грунтоўнага вывучэння як з пункту гледжання тэорыі, так і практыкі.

Не сакрэт, што і пасля таго, як у ліпені 1990 г. Беларусь стала суверэннай дзяржавай, становішча яе нацыянальнай культуры калі і палепшылася, дык толькі на вельмі сціслы тэрмін – да майскага рэферэндуму 1995 г., якім статус дзяржаўнай мовы надалі і рускай і пачалі замест беларускай спрэс выкарыстоўваць яе ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Пагроза канчатковага этнічнага вымірання беларускага народа яшчэ ніколі не была такой рэальнай, як сёння. Каб змагчы супрацьстаяць гэтай страшэннай трагедыі, важна ведаць, як у мінулым прагрэсіўныя колы грамадства, а часам і сама дзяржава вялі змаганне за выратаванне беларускага народа ад культурна-моўнай асіміляцыі. Веданне такой практыкі набудзе яшчэ большую актуальнасць у выпадку аб'яднання Беларусі і Расіі ў адну федэратыўную (канфедэратыўную) дзяржаву, бо насельніцтва не апошняй, а першай з-за сваёй меншай колькасці і істотнай дэнацыяналізацыі акажацца вельмі няўстойлівай ад асіміляцыі ў добра вядомай для яго форме русіфікацыі.

Гэта дазваляе аўтару дадзенай кнігі спадзявацца, што яна выкліча немалую зацікаўленасць у шырокага кола чытачоў і

адыграе пазітыўную ролю ва ўдасканальванні практыкі рэгулявання міжнацыянальных дачыненняў на Беларусі незалежна ад яе дзяржаўнага статусу.

РАЗДЗЕЛ I
# ЗАРАДЖЭННЕ І ВЫСПЯВАННЕ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

## §1. Беларуская нацыянальная ідэя як рэакцыя на дзяржаўную палітыку русіфікацыі

Шлях да глыбокага і ўсебаковага ўсведамлення сутнасці беларускай нацыя-нальнай ідэі аказаўся доўгім, складаным і пакручастым. Над яе тэарэтычным абгрунтаваннем давялося творча папрацаваць не аднаму пакаленню навукоўцаў, грамадска-палітычных і культурных дзеячоў. Напачатку беларускую нацыянальную ідэю ўсё ніяк не ўдавалася вылушчыць з тых агульных, цесна пераплеценых паміж сабой польска-беларускіх праблем, якія адразу ж узніклі пасля трох гвалтоўных падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793 і 1795) самымі магутнымі ў Еўропе манархіямі – Расійскай, Прускай і Аўстрыйскай. Што такімі варварскімі метадамі нерэальна было вырашыць ні польскага, ні беларускага пытанняў, усталяваць мір і спакой на гэтай велізарнай тэрыторыі еўрапейскага кантынента, ведалі амаль усе, каго хоць трохі цікавіла праблема міжнацыянальных дачыненняў.

Справядлівай, заканамернай рэакцыяй на грубае ўмяшанне жандарскіх рэжымаў ва ўнутраныя справы федэратыўнай дзяржавы – Рэчы Паспалітай, у якой не апошняя роля належала і беларускаму народу, з'явілася паўстанне 1794 г. пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Паўплываць на агульны ход падзей яно не змагло, а вось пашырэнню ідэі нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасці ў пэўных колах грамадства паспрыяла. Праўда, у гэтай ідэі вельмі слаба прасочваецца беларускі аспект. У ёй практычна ўсё зводзілася да вяртання былых нацыянальна-дзяржаўных парадкаў у Рэчы Паспалітай з аднаўленнем у яе межах былога палітычнага становішча Вялікага Княства Літоўскага. Як разумеў, шчыра і самаахвярна служыў ідэі нацыянальнай незалежнасці слынны сын беларускага і польскага народаў, кампазітар і дыпламат, вялікі падскарбі літоўскі Міхал Клеафас Агінскі (1795-1833), відаць з такіх яго слоў: "Я не быў дапушчаны… да тых таямніц, з якіх складалася рэвалюцыя; прызнаюся нават, што, ведаючы нашыя слабыя рэсурсы і велізарныя сілы, якія можна было выкарыстаць дзеля нашага задушэння, я не падманваў сябе дарэмнымі надзеямі і не суцяшаў сябе, што вынік будзе адпавя-дацць чаканням патрыётаў, але незалежна ад гэтага наважыўся не пакідаць край, дзяліць небяспеку з маімі суграмадзянамі і хутчэй загінуць са зброяй у руках, чым зняславіць

сябе, ухіліўшыся ад удзелу ў патрыятычным уздыме адчаю”[1]. Пад той час у Міхала Агінскага, як і ў многіх беларусаў, што далучыліся да паўстанцкага руху, на першым месцы стаяла пытанне аб лёсе Рэчы Паспалітай увогуле. Але толькі варта было дачакацца тае пары, калі Напалеон I у 1807 г. з часткі захопленых Прусіяй польскіх зямель створыць васальнае ад Францыі Варшаўскае герцагства (а гэта ўжо нешта значыла ў польскім нацыянальна-дзяржаўным адраджэнні), як Міхалу Агінскаму захацелася штосьці падобнае ажыццявіць і для другога суб’екта Рэчы Паспалітай – Вялікага Княства Літоўскага. У 1811 г. ён падаў цару Аляксандру I праект, у якім утрымліваліся ўмовы ўтварэння Вялікага герцагства Літоўскага. Праект з поўным правам можа разглядаць як адзін з важных крокаў на шляху зараджэння беларускай нацыяльнай ідэі ў яе дзяржаўна-прававым аспекце.

Расійскі імператар не падтрымаў прагрэсіўнай для свайго часу ідэі Міхала Агінскага, што, аднак, не паўплывала на яе прэстыжнасць і папулярнасць, жыццеўстойлівасць у пэўных колах грамадства. На поўную моц гэта праявілася ў час, калі Беларусь у 1812 г. апынулася ў сферы ўплыву французскага імператара Напалеона I. З яго дапамогай многія разлічвалі аднавіць і Рэч Паспалітую, і вярнуць да дзяржаўна-палітычнага жыцця яе складовую частку – Вялікае Княства Літоўскае. Першым практычным крокам да гэтага з’явілася стварэнне Напалеонам у Вільні камісіі “часовага ўрада ВКЛ на чале са старшынёй першага дэпартамента менскага галоўнага суда Камінскім”[2]. Няўстойлівасць напалеонаўскага рэжыму на Беларусі не дазволіла зрабіць штосьці істотнага па адраджэні ВКЛ, на што без асаблівай прыхільнасці глядзелі многія прадстаўнікі польскіх магнатаў і шляхты, грамадска-палітыч-ныя дзеячы. Іх найбольш за ўсё цікавіла аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г., у якой галоўнай дзяржаўна-палітычнай сілай павінен быў з’яўляцца польскі народ.

Ізноў, як і пасля задушэння паўстання Тадэвуша Касцюшкі, беларускай нацыянальнай ідэі даводзілася чакаць лепшых часоў. Зразумела, што ў час крутых рэвалюцыйных і ваенных падзей яе, асабліва ва ўсіх аспектах, шматбакова, практычна немагчыма выпрацаваць. Для гэтага патрэбны гады напружнай тэарэтычнай працы па вывучэнні гістарычнага мінулага і сучаснага народа, яго перспектыў на будучае і, бадай, самае важнае, у якіх узаемадачыненнях знаходзіцца ён з дзяржаўнай нацыяй, пад панаванне якой давялося трапіць. Акурат гэтыя і блізкія да іх

[1] Літаратура і мастацтва. 1995. 13 студзеня. С. 10.
[2] Нарысы гісторыі Беларусі ў 2-х частках. Ч.1. Мн., 1994. С. 273.

пытанні найбольш за ўсё і хвалявалі буйных вучоных, прафесараў беларускага паходжання з Віленскага універсітэта (такі статус пачала з 1803 г. насіць Галоўная віленская школа) Міхаіла Баброўскага (1784-1848; урадж. в. Вулькі Бельскага павета) і Ігната Даніловіча (1788-1843; урадж. в. Грынявічы Бельскага павета). Некаторыя сучасныя даследчыкі, у прыватнасці Юрый Лабынцаў, лічаць М. Баброўскага адным "з першых беларускіх скарыназнаўцаў...Дасягнуўшы, як і Скарына, найвышэй-шых вучоных ступеняў, ён прысвяціў сябе вывучэнню старажытнай культуры беларусаў і ўсяго славянства. Як ніхто іншы, Баброўскі спрыяў узнікненню асобнага кірунку ў гуманітарных навуках – беларусазнаўства, абуджэнню сярод еўрапейскіх навукоўцаў цікавасці да гістарычнага лёсу яго роднага народа"[1]. Выдатна ведаў гісторыю свайго краю, асабліва самы шчаслівы яе перыяд – перыяд існавання Вялікага Княства Літоўскага ў якасці самастойнай незалежнай дзяржавы – І. Даніловіч. Для гэтых віленскіх прафесараў проста не існавала аніякага сумнення ў тым, што з такой багатай нацыянальна-дзяржаўнай і культурнай гісторыяй беларускі народ рана ці позна стане на шлях адраджэння. Сваімі навуковымі працамі яны шмат зрабілі дзеля больш глыбокага разумення людзьмі значэння гэтай высокароднай мэты. Наяўнасць сярод педагогаў і студэнтаў Віленскага універсітэта вялікай колькасці шчырых прыхільнікаў паўстання 1830-1831 гг. у Польшчы, Літве, Заходняй Беларусі ў пэўнай ступені можа быць вытлумачана вынікам той плённай навуковай, педагагічнай працы, якую вялі М. Баброўскі, І. Даніловіч у сценах гэтай навучальнай установы.

Грамадска-палітычная думка часу паўстання 1830-1831 гг. не вызначалася належнай спеласцю, не мела ў комплексе ўсіх рысаў сапраўднай беларускай нацыянальнай ідэі. Залежнасць, падпарадкаванасць польскай нацыянальнай ідэі практычна прасочвалася па ўсіх параметрах, а найбольш рэльефней – у імкненні аднавіць Рэч Паспалітую у адміністрацыйных межах 1772 г. Прадстаўнікамі беларускіх колаў не выказваліся канкрэтныя прапановы аб тым, што трэба будзе самым рашучым чынам змяніць на выпадак аднаўлення дзяржавы ў яе палітыцы па пытаннях нацыянальнай аўтаноміі, культурна-асветніцкага развіцця ВКЛ, карэннаму славянскаму насельніцтву якога паспела прычыніць такую велізарную шкоду паланізацыя.

Сур'ёзную спробу пакончыць з такой аднабаковасцю беларускай нацыяналь-най ідэі наважыліся вялікія патрыёты Бацькаўшчыны, што на чале з выпускні-ком юрыдычнага

[1] Мысліцелі і асветнікі Беларусі. X-XIX стагоддзі. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1995. С. 175.

факультэта Пецярбургскага універсітэта Кастусём Каліноў-скім падрыхтавалі і ў 1863 г. вывелі людзей на нацыянальна-вызваленчую барацьбу з самым рэакцыйным, дэспатычным у Еўропе рэжымам – расійскім самадзяржаўем. Зараз адным з важных кампанентаў беларускай нацыянальнай ідэі побач з іншымі на ўвесь рост паўстаў культурна-асветніцкі. Кіраўнік паўстання і яго паплечнікі выдатна разумелі, што дзеля сцвярджэння беларусаў як самабытнага этнасу ім абавязкова патрэбна мець школу і літаратуру на роднай мове, нацыянальную рэлігію, ролю якой найлепш за ўсе канфесіі на працягу доўгага часу выконвала ліквідаваная ў 1839 г. у адміністрацыйным парадку уніяцкая царква. Так глыбока і правільна зразумець месца культурна-асветніцкага аспекту ў кантэксце самой нацыянальнай ідэі дапамагалі тыя багацейшыя здабыткі, якія ўдалося атрымаць вучоным пры даследванні гісторыі, духоўнай спадчыны беларускага народа.

Да пачатку паўстання 1863-1864 гг. у розных гарадах Расіі па дадзенай праблеме выйшла маса кніг, у т.л. і такіх, якія належалі пяру прагрэсіўных навукоўцаў. Не было аніводнага важнага пытання з эканамічнай, ваенна-палітычнай і культурнай гісторыі Беларусі, якое пад тым ці іншым вуглом ні закранала ся ў гэтай літаратуры. З многімі яе творамі, напэўна ж, быў знаёмы і К. Каліноўскі. Асабліва вялікую карысць ён, як і ўсе астатнія, мог пачарпнуць для сябе з прац этнографаў, бо імі прыводзілася столькі арыгінальнага матэрыялу аб беларускім народзе, што ў самабытнасці, адметнасці апошняга ад ўсіх іншых славянскіх народаў мог усумніцца толькі крайне абмежаваны ў разумовым развіцці чалавек ці толькі той, хто непахісна стаяў на пазіцыях рускага вялікадзяржаўнага шавінізму.

Трываламу ўсталяванню поглядаў на беларускі народ як на зусім сама-бытны, цалкам адрозны ад рускіх, палякаў, украінцаў этнас паспрыяла з’яўленне на яго роднай мове твораў новай мастацкай літаратуры: верш Паўлюка Багрыма “Зайграй, зайграй, хлопча малы!” (напісаны не пазней як у 1830 г.), ананімныя, як раней лічылася, жартоўныя паэмы “Энеіда навыварат” (не пазней як у 1830 г.; мяркуемы аўтар – Вікенцій Равінскі) і “Тарас на Парнасе” (прыпісваецца пяру Канстанціна Вераніцына; 50-я гады XIX ст.).

Многіх прымусіў паверыць у арыгінальнасць, багатыя магчымасці жывога беларускага слова быць мовай мастацкай літаратуры адзін з самых адметных яе пачынальнікаў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Яго першы значны твор драма “Сялянка”

(“Ідылія”) быў надрукаваны ў 1846 г. у Вільні і карыстаўся шырокай вядомасцю.

У 50-я гады XIX ст. з напісаных ім паэтычных твораў, вершаваных аповесцяў і апавяданняў найбольш значнымі былі “Вечарніцы” і “Гапон” (1855), “Купала” (1856), “Шчароўскія дажынкі”, “Травіца брат-сястрыца” (1857). У 1859 г. ім завершаны першы пераклад на беларускую мову паэмы Адама Міцкевіча “Пан Тадэвуш”. Усе, хто быў апантаны, жыў беларускай нацыянальнай ідэяй, цяпер ужо проста не мог не ўлічваць такога ўзлёту беларускай жывой мовы ў мастацкай літаратуры.

Найлепшага варыянту паспрыяць гэтаму, відаць, не было ў К. Каліноўскага і яго верных сяброў, як распачаць у канцы чэрвеня – пачатку ліпеня 1862 г. выданне на ёй газеты “Мужыцкая праўда”. Гэты слынны сын нашага народа з вялікім майстэрствам карыстаўся беларускай мовай “у сваёй публіцыстыцы, садзейнічаў яе літаратурнаму развіццю. Пісаў таксама і вершы. Як родапачынальнік беларускай рэвалюцыйнай дэмакратыі Каліноўскі зрабіў вялікі ўплыў на ўсю наступную беларускую літаратуру і культуру, садзейнічаў паглыбленню ў літаратуры і мастацтве прынцыпаў рэалізму і народнасці, замацаванню высокіх ідэалаў барацьбы за свабоду”[1].

Сведчанем наяўнасці ў К. Каліноўскага і яго паплечнікаў больш спелага погляду на нацыянальную ідэю, чым гэта было характэрным для іх папярэд-нікаў, трэба прызнаць з’яўленне цвёрдага пераканання аб неабходнасці і мэтазгоднасці надання Літве і Беларусі статусу самастойных дзяржаў, што нарэшце вызваліла б апошніх ад падпарадкавання Варшаве. К. Каліноўскі катэгарычна не пагаджаўся з тымі дзеячамі Літоўскага камітэта, у прыватнасці з капітанам Людвікам Звяждоўскім, якія насіліся з планамі “аб поўным зліцці ў адну Польшчу ўсёй былой Рэчы Паспалітай… Ён разумеў справу мяцежу ў такім сэнсе, што … “такой бесталковай галаве, як Варшава, нельга давяраць будучы лёс Літвы.

(…) Кастусь Каліноўскі з настроем герцэнаўскай школы, на чале самых славалюбных асобаў з чырвоных ліцвінаў, настойліва праводзіў ідэю аб самастойнасці Літвы”.

Дзеля дасягнення гэтай мэты ён лічыў, “што яму значна выгадней будзе самому стаяць на чале, чым плесціся ў хвасце” якіх-небудзь іншых кіраўнікоў паўстання. Нездарма ў высокіх колах варшаўскіх палітычных і грамадскіх дзеячоў заяўлялася, што К. Каліноўскі – гэты “самазванец-дыктатар Літвы і Беларусі – рашуча ведаць не хацеў” пра польскую айчыну. Незадоўга да

[1] Мысліцелі і асветнікі Беларусі. С. 452.

паразы паўстання пачаўся выраб пячаткі, пісьмовы тэкст якой засведчваў дзяржаўную самастойнасць Літвы і Беларусі, што выклікала крайне адмоўную рэакцыю ў тых, хто займаў прама процілеглую па дадзеным пытанні пазіцыю, асабліва ў камісара варшаўскага паўстанцкага ўрада ў Літве і Беларусі Нестара Дзюлёрана, які неўзабаве пакінуў Вільню і падаўся ў Варшаву, дзе прасіў аб звальненні са сваёй пасады[1].

Не спрыяла глыбокаму і ўсебаковаму асэнсаванню ролі беларускай нацыянальнай ідэі адсутнасць у межах Паўночна-Заходняга краю сур'ёзнага тэарэтычнага цэнтра, дзе б выпрацоўвалася, шліфавалася навуковая канцэпцыя па дадзеным пытанні. Можна смела сцвярджаць, што дзеля з'яўлення на свет, умацавання ў свядомасці людзей такой ідэі больш карыснага зрабіў Санкт-Пецярбург, чым які-небудзь горад самой Беларусі. З прычыны таго, што сталіца Расійскай імперыі яшчэ напярэдадні паўстання К. Каліноўскага стала месцам адпрацоўкі асноўных палажэнняў беларускай нацыянальнай ідэі, тут узнікла і думка аб неабходнасці выдання беларуска-моўнай газеты. Праўда, справа далей за размову не зрушылася.

Беларускае пытанне шматкроць ўздымалася і на старонках рускай штотыднёвай грамадска-літаратурнай газеты "День" (выдавалася з кастрычніка 1861 да 1865 г. у Маскве), рэдакцыя якой мела сувязі з беларускімі гурткамі Пецярбурга і Паўночна-Заходняга краю. Але ўздымалася яно не дзеля практычнага вырашэння, а, наадварот, з мэтай умацавання на беларускай зямлі рускага элементу. Добра вынікае гэта са зместу публікацыі, змешчанай у № 25 газеты "День" за 1863 г.: "… неабходна, каб селянін разумеў гасудараў указ і прапановы рускай улады зусім выразна, без непаразуменняў, неабходна, каб адчуў сябе зусім рускім, а для таго ён павінен адчуць сябе перш за ўсё беларусам: адразу *выляпіць з яго вялікарускага мужыка* немагчыма, дый няма патрэбы. Мы мяркуем, з прычыны гэтага, што было б надзвычай карысна: выкладаць першапачатковыя веды і сэнс урадавых распараджэнняў беларускаму селяніну на беларускай гаворцы, вучыць яго чытаць і пісаць па-беларуску, а затым абавязкова і па-руску і па-царкоўнаславянску, што, пасля беларускай граматы, яму дасца лёгка…"[2].

Па розных прычынах прапанову гэтую не ўключылі ў практыку навучаль-ных устаноў Беларусі. Аднак, калі б і ўключылі, у яе знайшлося б нямала апанентаў у асяроддзі людзей, у якіх

[1] Ратч В. Сведения о польском мятеже 1863 года в Северо-Западной России. Т.1. Вильна. 1867. С. 181, 184, 185, 231, 233.
[2] Цытавана па кн.: Драгоманов М.П. Политические сочинения. Т.1. М., 1908. С. 108, 109.

фармавалася і мелася правільнае ўяўленне пра сваю этнічную ідэнтычнасць. Жыццё паказвала, што, нягледзячы на мэта-накіраваную дзяржаўную русіфікатарскую палітыку, такіх патрэбных Беларусі людзей, калі і не большала, дык і не станавілася менш.

Сказанае вышэй дае дастаткова падстаў сцвярджаць, што К. Каліноўскі разам са сваімі аднадумцамі і паслядоўнікамі мелі ў той час у самых асноўных рысах даволі правільнае ўяўленне пра беларускую нацыянальную ідэю. Але, пўтару яшчэ раз, толькі "ў самых асноўных рысах". Тэарэтычная думка яшчэ не дарасла да большага. Але, каб і тое, што ўжо ўдалося напрацаваць па беларускай нацыянальнай ідэі, прынялі афіцыйныя дзяржаўныя структуры Расіі, падтрымалі грамадска-палітычныя колы Польшчы, Беларусь змагла б стаць на шлях суверэннага развіцця, далучыцца да катэгорыі тыповых нацыянальных дзяржаў Еўропы, якіх нямала ўзнікла на працягу XIX стагоддзя.

Такіх спрыяльных умоў для пераўвасаблення беларускай нацыянальнай ідэі ў жыццё ніхто не пажадаў стварыць для яе законных носьбітаў. Пачалася новая хваля рэпрэсій, у выніку якіх наш край быў пазбаўлены многіх таленавітых, нацыянальна-самасвядомых людзей, якія толькі і маглі б сваімі навуковымі працамі даць усе адказы на пытанні, што ёсць такое беларускі народ, які лёс чакае апошняга ва ўмовах бяспраўнага жыцця, навязанага яму царызмам пасля задушэння паўстання К. Каліноўскага.

Па прапанове галоўнага начальніка Паўночна-Заходняга краю Міхаіла Мураўёва (1863-1865) у ход было пушчана ўсё, каб толькі дамагчыся тут шырокага распаўсюджання праваслаўна-хрысціянскага вучэння і ўзбуджэння "ў народзе ўсведамлення, што ён – рускі". У лісце ад 18 лютага 1864 г. на імя міністра ўнутраных спраў Расіі князя Васіля Даўгарукава М. Мураўёў прапаноўваў "усімі сродкамі, не шкадуючы ні працы, ні выдаткаў, узмацняць і ўзвышаць рускую ў тутэйшым краі народнасць" [1]. Архішавіністычны наказ гэтага зацятага русіфікатара: "Патрэбна ўсім і стала тлумачыць, што край Паўночна-Заходні заўсёды быў і ёсць рускі"[2], бездакорна праводзіўся на практыцы ва ўсіх сферах палітычнага і культурнага жыцця. Асабліва жорстка парушаліся законныя правы беларускага народа на нацыянальную адукацыю. Аб ужыванні тут яго роднай мовы нават і гаворкі не дапускалася.

Пры ўсіх такіх неспрыяльных варунках беларускае пытанне не магло доўгі час заставацца без развязвання. Інтарэс да яго быў каласальным і ў мясцовых даследчыкаў, і ў іх калегаў з Санкт-

---

[1] 1863 г. на Меншчыне. Мн., 1927. С. 151.
[2] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. н., 1940. С. 582, 584.

Пецярбурга, Масквы, Варшавы, іншых навуковых цэнтраў Расійскай імеры. Вынікам такога інтарэсу стала з'яўленне на свет усё новых і новых прац гісторыкаў, этнографаў, філолагаў па Беларусі. Многіх прымусіла карэнным чынам змяніць свае погляды на яе выданне ў 1870 г. у Санкт-Пецярбурзе "Словаря белорусского наречия" Івана Насовіча. У ім сабрана больш за 30 тыс. слоў з тагачаснай жывой беларускай мовы, якія не сустракаліся ў рускай мове. Кожны непрадузяты чытач, пазнаёміўшыся з гэтым слоўнікам, ужо не мог і надалей прытрымлівацца лжывага погляду, што беларуская мова нібыта неарыгінальная, з'яўляецца дыялектам рускай мовы.

Шмат цікавых, адмысловых фактаў пра гісторыю, эканоміку, культуру і быт сваёй Бацькаўшчыны знайшоў дапытлівы чытач на старонках багатай на змест, вельмі цікава напісанай і прыгожа аформленай кнігі "Живописная Россия. Отечество наше в его земельном, племенном, экномическом и бытовом значении. Т. 3. Т. 4. Литовское Полесье. Ч.ІІ. Белорусское Полесье" (пад агульнай рэдакцыяй П. Сямёнава. Спб – М., 1882). Абсалютная бальшыня яе старонак напісана выдатным беларускім этнографам, археолагам, гісторыкам Адамам Кіркорам, які сам цвёрда верыў у існаванне самабытнага беларускага (літвінскага) народа і выдатна паказаў гэта ў сваіх раздзелах кнігі. Ён дапамог многім рассеяць памылковую думку, што да Люблінскай уніі 1569 г. жыхары Літвы і Беларусі адставалі ад насельніцтва Кароны Польскай паводле ўзроўню культурнага развіцця. "Злітыя з Польшчаю народы, – пісаў ён, – не панеслі страту, аднак, ад гэтага як у адносінах разумовых здольнасцяў, так і мужнасці, сіле характару, вытрымцы і цвёрдасці; насупраць, яны не толькі не ўступалі палякам ў гэтых якасцях, але часта нават перасягалі іх. Найлепшыя, славутыя людзі на ўсіх палях дзейнасці ў перыяд трохсотгадовага агульнага гістарычнага лёсу большаю часткаю былі з ураджэнцаў Літвы і Беларусі" (с. 136). У якасці прыкладаў былі названы ім Тадэвуш Касцюшка (фамільны маёнтак бацькоў знаходзіўся ў в. Сяхновічы Кобрынскага павета), гісторык і паэт, асветнік Адам Нарушэвіч (Пінскі павет), пісьменнік і публіцыст, гісторык Юльян Нямцэвіч (в. Скокі сучаснага Брэсцкага раёна), паэт Адам Міцкевіч (хутар Завоссе на Навааградчыне), пісьменнік, гісторык і грамадскі дзеяч Юзаф Крашэўскі (нарадзіўся ў Варшаве ў сям'і пружанскага харунжага, дзяцінства правёў у в. Доўгае каля Пружан, вучыўся ў Свіслацкай гімназіі і Віленскім універсітэце). Знаёмства з такой пазітыўнай характарыстыкай духоўных якасцяў беларускага народа, дадзенай аўтарытэтным вучоным Адамам Кіркорам, параджала ва ўсіх і кожнага гонар, што з'яўляешся прыродным

прадстаўнікам гэтага народа, выклікала жаданне ведаць як мага больш праўды аб мінулым роднай Бацькаўшчыны, каб на гэтым грунце скласці правільны прагноз яе далейшага лёсу пад уладай Расійскай імперыі, у нацыянальнай палітыцы якой вельмі мала чаго можна было адшукаць станоўчага і суцяшальнага.

### §2. Погляды народнікаў на беларускую нацыянальную ідэю

На вялікай глыбіні грунтоўна шукалі карані беларускай нацыянальнай ідэі некаторыя з тых нашых землякоў, што працавалі і вучыліся ў вышэйшых навучальных установах Санкт-Пецярбурга. Пасля закрыцця ў 1832 г. Віленскага універсітэта гэты горад стаў у пэўнай ступені цэнтрам і беларускай навуковай думкі. Тут узгадавана не адно пакаленне высокаадукаванай, нацыянальна-самасвядомай беларускай інтэлігенцыі, якая і ў прасторавым адрыве ад роднага краю жыла яго інтарэсамі і клопатамі.

Сур'ёзным прарывам на шляху да выпрацоўкі канцэпцыі беларускай нацыя-нальнай ідэі ва ўсёй яе комплекснасці сталі выдадзеныя ў лютым-сакавіку, лістападзе 1884 г. у Санкт-Пецярбургу беларускімі студэнтамі-народнікамі два нумары тайнага тэарэтычнага рускамоўнага часопіса "Гомон". Але яшчэ да гэтага яны паспелі выдаць шэраг дакументаў і матэрыялаў, у якіх выказана нямала арыгінальных, слушных думак па беларускім пытанні ўвогуле і неабходнасці для інтэлігенцыі яго глыбокага і ўсебаковага даследавання. Сказанае датычыць і адозвы "Да беларускай моладзі" (1881), дзе з усёй катэгарычнасцю заяўлялася, што і беларускі "народ, як і ўсялякі іншы, мае задаткі, а значыцца і законныя правы на абранне з сябе самастойнага і раўнапраўнага члена агульнай федэратыўнай славянскай сям'і"[1]. Неабходнасць вызначыць дачыненні беларускага народа да апошняй тлумачылася тым, што ў многіх праектах утварэння такой сям'і яму не знаходзілі месца, бо не лічылі за самастойны этнас. Аўтары адозвы справядліва не падзялілі такога памылковага, антынавуковага погляду на свой народ і на ўсіх законных падставах адвялі яму адпаведнае пачэснае месца ў славянскай супольнасці народаў.

Яшчэ больш глыбокім аналізам вызначаліся думкі людзей, заклапочаных бязрадасным нацыянальным жыццём беларусаў, калі размова заходзіла аб вызначэнні ім месца сярод народаў Расіі, аб дачынені з самым буйным з іх – рускім, без чаго было б проста

[1] Публицистика белорусских народников. Нелегальные издания белорусских народников (1881-1884). Мн, 1983. С. 21.

немагчымым паказаць нашую беларускую самабытнасць, а не паказаўшы яе, разлічваць, што нацыянальная ідэя стане зразумелай і блізкай для бальшыні людзей.

З усім гэтым добра разабраліся і справіліся аўтары і выдаўцы першага нумара часопіса “Гомон”. “Пануючая ў дзяржаве нацыянальнасць, – чытаем у адным з раздзелаў яго, – падаўляе вольнае развіццё так званых плебейскіх нацыянальнасцяў у формах, выпрацаваных іх папярэднім гістарычным жыццём, навязвае ім сваю культуру сілаю, якая, не будучы ў стане прышчапіць ім чужую ім культуру, тармозіць іх самастойнае развіццё і перашкаджае свабоднай распрацоўцы імі вышэйшых формаў культуры. Такім чынам, панаванне адных грамадскіх груп над іншымі выклікае застой у росце і развіцці культуры прыгнечаных нацый, найлепшыя сілы гэтых нацыянальнасцяў уходзяць на служэнне пануючай у дзяржаве нацыянальнасці, на працу ў духу яе культуры, яе гістарычных, этнаграфічных і бытавых асаблівасцяў, зусім упускаючы з поля зроку патрэбы сваёй радзімы, свайго народа”[1]. Прыведзеная цытата дае ўсе падставы сцвярджаць, што гоманаўцы правільна разумелі ролю культурнага фактару пры выпрацоўцы канцэпцыі нацыянальнай ідэі і аб’ектыўна выкрывалі прычыны, што тармазілі духоўнае развіццё беларускага народа ва ўласцівых для яго самабытных формах.

У сваіх сталых, глыбокіх роздумах над нацыянальнай ідэяй гоманаўцы крок за крокам набліжаліся і да правільнага вызначэння ролі фактару самастойнага эканамічнага і палітычнага жыцця беларусаў, што на справе ўяўлялася вельмі складаным і праблематычным ва ўмовах існавання ў Расійскай імперыі жорст-кага палітычнага рэжыму. Лік рэальных праціўнікаў апошняга працягваў расці і, што вельмі важна, галоўным чынам за кошт прадстаўнікоў нярускіх народаў.

Сярод іх невядомую да гэтага папулярнасць набыла ідэя нацыянальнай сама-стойнасці ў самых яе разнастайных формах, у чым велізарная заслуга рэвалю-цыйных народнікаў Расіі. Гэта яны ў прынятай у 1880 г. праграме асмеліліся адкрыта заявіць: “Народы, гвалтоўна далучаныя да рускага царства, вольныя аддзяліцца або застацца ў агульнарускім саюзе”[2].

Трохі пазней такія думкі пачалі выказвацца на старонках перыядычнага органа народавольцаў газеты “Народная воля”. У пісьме да замежных таварышаў Выканаўчы камітэт партыі “Народная воля” заяўляў, што ён супраць палітыкі гвалтоўнага

[1] Публицистика белорусских народников. С. 69.
[2] Русское народничество 70-х годов XX в. Т.II. М., 1965. С. 188.

задушэння нацыянальнасцяў, не перашкаджае “каму б то ні было аддзяляцца”, што вызначэнне сваёй прыналежнасці павінна цалкам залежаць ад самога народа[1].

Аднак такое аддзяленне ўвесь час ставілася ў вялікую залежнасць ад патрэбаў агульнарасійкага руху за звяржэнне царызму. Неаднаразова выказвалася думка, што толькі пасля перамогі над ім, пасля замацавання рэвалюцыйных набыткаў, “цвёрдай установкі агульных асноў новага ладу паасобным народнасцям павінна быць дадзена права – вызначыць сваю палітычную сувязь з цэлай дзяржавай”[2]. Неўзабаве сярод народавольцаў знайшліся тэарэтыкі, якія цалкам адмаўлялі правы нацый на самавызначэнне. Найбольш выразна такія погляды прасочваюцца ў публікацыях Льва Ціхамірава, што змяшчаліся на старонках “Вестника “Народнай воли” (1884, № 2; 1885, № 4). “Нацыянальны рух і абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці прыгнечаных народаў Ціхаміраў разглядае як шкодныя з’явы, якія перашкаджаюць вызваленчай барацьбе, з якімі, аднак, рэвалюцыянерам даводзіцца лічыцца як з непазбежным злом”[3].

Няцяжка ўявіць, якія складанасці меліся б на шляху тых, хто пры распрацоўцы беларускай нацыянальнай ідэі звяртаў бы ўвагу на яе дзяржаўна-палітычны аспект, калі б у Расіі на нацыянальнае пытанне існавалі толькі такія меркаванні, як у Льва Ціхамірава. Гэта магло б надоўга адсунуць з’яўленне правільнага погляду на ролю абласной аўтаноміі ці якіх-небудзь іншых форм палітычнай самастойнасці Беларусі. Такога не адбылося, таму што далёка не ва ўсіх тэарэтыкаў быў погляд аналагічны таму, які выказваў вышэйзгаданы ідэолаг народавольцаў.

Шмат у чым разыходзіўся з ім украінскі гісторык, фальклярыст, публіцыст і палітычны дзеяч, прыхільнік ідэі федэралізму Міхаіл Драгаманаў (1841-1895). Нацыянальна-самасвядомым беларусам гэты вучоны найбольш за ўсё падабаўся, відаць, тым, што ён адстойваў права на самавызначэнне і іх народа. Украінскі вучоны і палітык належаў да заўзятых праціўнікаў “моцнай цэнтральнай урадавай улады і атаясамліваў усякую цэнтралізаваную дзяржаву з бюракратычным цэнтралізмам. Ён выступаў за дэцэнтралізацыю ў кіраванні дзяржавай, за разбурэнне яго “бюракратычнай машыны” і ўсталяванне на яе месцы такіх установаў, якія забяспечылі б “самакіраванне абшчын і абласцей”, што магло быць ажыццёўлена, паводле яго меркавання, толькі пры федэратыўным ладзе дзяржавы…

[1] Там же. С. 320.
[2] Литература партии «Народная воля». М., 1930. С. 166.
[3] Самбук С.М. Революционные народники Белоруссии (70-е – начало 80-х годов XX в.). Мн., 1972. С. 168.

Драгаманаў зацвердзіў гоманаўцаў у думцы, што беларусам можа гаранта-ваць раўнапраўе і самакіраванне толькі федэратыўная пабудова будучай дзяржавы”[1].

Беларускія народнікі ніколькі не сумняваліся ў непазбежнасці развалу ненавіснага, крайне рэакцыйнага расійскага самадзяржаўнага палітычнага рэжыму і, зыходзячы з гэтага, цвёрда верылі ў “практычную магчымасць федэратыўнай самастойнасці Беларусі ў будучым і неабходнасць падрыхтоўкі гэтай самастойнасці ў цяперашні час”[2].

Яны не пагаджаліся з шэрагам вядомых тэарэтыкаў рускага народніцтва, якія ў імкненні нярускіх народаў да палітычнай і эканамічнай самастойнасці ўбачылі “недарэчнасць” і “штучнасць” стварэння ў Расіі новых нацыянальнасцяў, што нібыта можа перашкодзіць аб’яднанню сіл для барацьбы з яе рэакцыйным палітычным ладам. У палеміцы з такімі тэарэтыкамі яны любілі спасылацца на погляды рускага дробна-буржуазнага рэвалюцыянера, аднаго з заснавальнікаў і тэарэтыкаў анархізму Міхаіла Бакуніна, згаданага вышэй Міхаіла Драгаманава і многіх іх аднадумцаў, што стаялі на пазіцыях абласнога федэралізму. Гоманаўцаў радавала, што гэтыя асобы, “гаворачы аб распадзенні Расійскай імперыі на натуральныя федэрацыі, побач з Польшчай і Маларасіяй ставяць Беларусь” і ў развіццё гэтай думкі дадаюць, што “нават урад, прытрымліваючыся ідэалу казарменнай аднастайнасці, лічыцца з ёй (Беларуссю. – Л.Л.), як з вобласцю своеасаблівай, і існуе цэлы шэраг эканамічных і адміністрацыйных мер, якія датычаць спецыяльна Беларусі. Зразумела, у народзе пакуль яшчэ няма свядомага імкнення да федэратыўнай незалежнасці ў тым яе выглядзе, як гэта разумее інтэлігенцыя, але неабходнасць гэтай незалежнасці вынікае сама сабой з разумення сваёй розніцы ад суседзяў, гэтая самастойнасць вынікае з эканамічных і кліматычных умоў Беларусі, многа адметных ад умоў іншых абласцей Расіі, з арыгінальнасці характару самога народа”[3]. Слушнасць такога погляду не выклікае аніякага пярэчання. Гэта быў каштоўны ўклад тэарэтычнай думкі ў абгрунтаванне гістарычнай важнасці абласной аўтаноміі для беларускага народа.

У гэтым жа нумары часопіса ёсць нямала і іншых фармулёвак, з якіх вынікае неабходнасць пераходу Беларусі да самастойнага палітычнага жыцця. Пры-вядзем іх хаця б у самым



---

[1] Самбук С.М. Революционные народники Белоруссии. С. 190, 191.
[2] Публицистика белорусских народников. С. 83, 84.
[3] Публицистика белорусских народников. С. 85.

сціслым выглядзе: "… мы павінны змагацца ў імя мясцовых інтарэсаў беларускага народа і федэратыўнай аўтаноміі краіны…

Сучасны гістарычны момант з'яўляецца найбольш зручным для абуджэння Беларусі, якая пры дружнай працы і барацьбе нашай інтэлігенцыі перародзіцца для новага самастойнага жыцця і зойме ганаровае месца сярод іншых федэрацый Расіі на пачатках *вольнага пагаднення з імі.* (…) мы павінны будзем стаць прапагандыстамі сацыяльнага паляпшэння і федэратыўнага адраджэння краіны…"[1].

Так смела і рашуча, а з другога боку і з правільных пазіцый выступаць за федэратыўную аўтаномію Беларусі, несумненна, стала магчымым таму, што гэтае пытанне хвалявала грамадскую думку ўсіх нярускіх народаў, што на яго ўжо сфармаваліся цвёрдыя погляды. Невыпадкова ў праграме партыі "Народная воля" быў такі прагрэсіўны, у поўным сэнсе слова інтэрнацыяналістычны пункт: "Народы, якія гвалтам далучаны да рускага царства, вольныя адлучыцца ці застацца ў агульнарускім саюзе"[2].

Практычна ва ўсіх праграмных дакументах беларускіх народнікаў па пытан-нях нацыянальнай ідэі прысутнічалі глыбока абгрунтаваныя думкі аб ролі роднай мовы, што можа разглядацца як сведчанне высокага прафесіяналізму, цвярозага розуму гэтых людзей. Пераканаўча прагучала іх думка па дадзеным пытанні ў другім нумары часопіса "Гомон", што добра пацвярджаецца наступнай цытатай з яго: "Беларусь мае сваю адметную мову, якая, паводле меркаванняў вопытных філолагаў, уяўляе шмат цікавага, як рэшткі найбольш захаванай славянскай мовы… Утрыманая шляхецка-бюракратычнай інтэліген-цыяй, якая ўсё яшчэ глядзіць на народ з пагардлівай грэблівасцю, гэтая мова здаецца вельмі грубай, але трэба ўважліва паслухаць вясковых гаварунoў, каб убачыць, наколькі беларуская мова выразная. Беларуская мова з цягам часу можа атрымаць гэтакае ж права грамадзянства, як і мова маларасійская. Развіццё мовы, зразумела, справа будучага, калі Беларусь колькі-небудзь акрыяе, а гэта галоўным чынам будзе залежыць ад яе эканамічнага паляпшэння. Клопаты пра яе мы пакідаем аматарам-беларусам"[3].

Разгледзеўшы ўсе асноўныя складовыя пытанні беларускай нацыянальнай ідэі, аўтары другога нумара часопіса "Гомон" яшчэ раз спыняюцца на самым галоўным у ёй – палітычнай арганізацыі жыцця беларускага народа. Сваю выснову па дадзеным пытанні

---

[1] Там же. С. 120, 121.
[2] Литература партии «Народная воля». С. 312.
[3] Публицистика белорусских народников. С. 111.

яны фармулююць так: “Усе гэтыя асаблівасці (прыродна-геаграфічныя, гістарычныя, эканамічныя, этнакультурныя. – Л.Л.) Беларусі даюць права на аўтаномную федэратыўную самастойнасць у сям’і іншых народнасцяў Расіі ў будучыні…”[1]. Гэта была даволі смелая на той час выснова, бо нарадзілася яна ў час, калі ў Расійскай імперыі душылася любая праява актывізацыі мясцовага нацыянальнага жыцця, усё больш сканцэнтроў-валася палітычная ўлада ў цэнтры краіны.

З прыведзенай цытаты вынікае, што цяпер ужо лёс беларусаў ніяк не звязваецца з лёсам палякаў, літоўцаў, украінцаў ці якіх-небудзь іншых народаў і адсутнічае ўсякае атаясамліванне з якім-небудзь з іх. Беларусы – гэта зусім самабытны народ, і таму сваё дзяржаўна-палітычнае жыццё ён павінен вырашаць у адпаведнасці з уласнымі нацыянальнымі патрэбамі, а не так, як гэта рабіў у час паўстанняў 1830-1831 і 1863-1864 гг., падпарадкоўваючы свае інтарэсы ў значнай ступені польскім.

Паняцце беларуская нацыянальная ідэя было б няпоўным, калі б у яе характарыстыку не ўключалі ўсяго таго, што паказвала беларусаў як самабытны этнас, адрознівала іх ад палякаў і рускіх. Гэта было, бадай што, ці не самым складаным пры распрацоўцы беларускай нацыянальнай ідэі.

Спачатку польскімі, а затым рускімі вучонымі прашавіністычных поглядаў было напісана столькі хлусні адносна таго, што беларусы не ёсць самабытны народ, а ўсяго толькі адгалінаванне палякаў, пазней – рускіх, што, каб выкрыць гэтую гнюсную фальсіфікацыю, давялося добра папрацаваць не адной генерацыі беларусіх гісторыкаў, этнографаў, мовазнаўцаў, краязнаўцаў. Справа абцяжарвалася тым, што погляды польскіх і рускіх вучоных на гэтае пытанне цалкам падзялялі каталіцкая і праваслаўная цэрквы, навязваючы гэты ў аднолькавай ступені памылковы і шкодны погляд вялізанаму колу сваіх вернікаў.

І ўсё ж праўда, хаця і з вялікімі цяжкасцямі, перамагала хлусню. Не проста рос лік вучоных, якія глядзелі на беларускі народ як на самабытны этнас, але з кожным годам станавіліся ўсё больш пераканаўчымі і абгрунтаванымі іх погляды на дадзенае пытанне. Для многіх вучоных апошняй чвэрткі XIX ст. ужо не існавала аніякага сумнення ў тым, што беларускі народ уяўляе сабою “асаблівую галіну славянскага племені…, адчувае сваю арганічную сувязь і адрознівае свае інтарэсы ад інтарэсаў польскіх і вялікарасійскіх. Ён да гэтае пары, нягледзячы на доўгі ўплыў вялікаросаў, называе іх “маскалямі” і знаходзіць вялікую розніцу між сабою і імі. Сухасць натуры і практычная смеласць

[1] Там же. С. 112.

велікаросаў робяць іх падазронымі ў вачах добрадушна-недаверлівага беларуса, гатовымі заўсёды яго абысці. Гэтакая ж, калі не большая, падазронасць праяўляецца і ў дачыненні да палякаў”[1].

Беларускія вучоныя, грамадскія дзеячы мелі цалкам дастаткова ведаў, каб даказаць, якую непапраўную шкоду прыносяць цывілізаванаму свету ўсякія спробы не заўважаць ці згладжваць этнакультурныя адрозненні паміж народамі, асабліва суседнімі, блізкароднаснымі, з мэтай дасягнення нейкага ўяўнага, штучнага адзінства апошніх.

Шэраг прынцыпова важных навуковых палажэнняў сфармулявалі па дадзеным пытанні беларускія народнікі. У іх другім нумары часопіса “Гомон” праводзілася такая слушная думка: своеасаблі-выя адметнасці нацыянальнасці “застануцца прагрэсіўнымі элементамі развіцця чалавецтва, наколькі гэтыя адметнасці адпавядаюць духоўнаму і матэрыяль-наму развіццю і волі дадзенай нацыі і не заглушаюць развіцця іншых нацый і краін. Гістарычны прагрэс заключаецца ў тым, што чалавецтва, уваходзячы ўсё у больш і больш блізкую сувязь, у той жа час дыферэнцыруецца для вольнага развіцця і праяўлення ўсякай нацыі ў цэлым чалавецтве... Без усведамлення сваёй асобы кожным чалавекам народ быў бы быдлам; без усведамлення сваіх адметнасцяў кожным народам такім быдлам было б ўсё чалавецтва. Гісторыя чалавецтва заключаецца акурат у тым, што з першапачатковай абыякавасці дзікіх народаў стала выдзяляюцца **асобы народаў** гістарычна цывілізаваных”[2].

Беларускія народнікі правільна рабілі, што не абмяжоўваліся толькі паказам прагрэсіўнасці развіцця ў таго ці іншага народа спецыфічных этнакультрных рысаў. Яны звярнулі яшчэ ўвагу на тое, як важна гэтыя рысы свядома адстойваць народу ў цэлым, яго кожнаму члену паасобку, як недапушчальна больш шматлікім, пануючым нацыям перашкаджаць такім прагрэсіўным працэ-сам.

“Усякая нацыя, як і ўсякая асоба, – пісалася ў тым жа нумары часопіса “Гомон”, – не толькі мае права, але і абавязана абараняць сваю самастойнасць ва ўсім, што не супярэчыць развіццю чалавецтва ўвогуле і кожнай чужой нацыі ў прыватнасці. **Усякая** таму нацыя, якой бы яна слабай ні была, заслугоўвае поўнага прызнання яе самастойнасці і ўсякую спробу з боку іншых нацый задушыць гэтую слабую суседку трэба **прызнаць шкоднай**, пад якой добра-прыстойнай падставай яна не ўзнікала б, не толькі для гэтай слабай нацыі, але і для самой прыгнятальніцы. Не

---

[1] Публицистика белорусских народников. С. 110.
[2] Там же. С. 109.

паважаючы чужую самастойнасць, пераможніца тым самым не паважае сваю і, прытрымліваючы ў сваіх членах дух насілля, сама рызыкуе апынуцца пад тыраніяй паасобных членаў сваёй нацыі”[1].

Усе, хто групаваўся вакол часопіса “Гомон”, катэгарычна адхілялі памылко-вую, варожую пазіцыю па дадзеным пытанні вучоных, палітыкаў шавіністыч-нага толку, сутнасць якой зводзілася да наступнага: “Калі нацыя не можа абараняць сваю самастойнасць ці ж валодае слабай культурай і слабай фізічнай сілай, дык яна павінна быць паглынутай іншай нацыяй – моцнай”. Гоманаў-цы ж, наадварот, лічылі, “што такую нацыю трэба падтрымаць і даць ёй магчы-масць стаць на ногі дзеля таго, каб вольна праявіць сябе”, што неабходна “энергічна абараняць Беларусь як ад польскага, так і ад вялікарасійскага насілля…”[2].

Уклад беларускіх народнікаў, аўтараў і рэдакцыі часопіса ”Гомон” у распрацоўку канцэпцыі беларускай нацыянальнай ідэі высока цаніўся яе шчырымі прыхільнікамі, бо менавіта яны падвялі пад апошнюю трывалы навуковы падмурак, прымусілі многіх людзей задумацца над уласным лёсам, штосьці практычнае рабіць дзеля свайго выратавання ад дэнацыяналізацыі. Не выпадкова добры знаўца дадзенай праблемы Фёдар Турук пісаў, што сапраўднае беларускае нацыянальна-культурнае адраджэнне ўзнікае ў канцы 70-х – пачатку 80-х гадоў, калі і ў нашым краі сталі шырока распаўсюджвацца ідэі рускага народніцтва[3].

Беларусь спрадвеку з’яўлялася краем з вельмі відавочнай колькаснай перавагай свайго карэннага насельніцтва над некарэнным. Але, паколькі апошняе жыло ў нашым краі, усе, хто быў заняты выпрацоўкай беларускай нацыянальнай ідэі, не мог прайсці міма высвятлення пытання аб узаема-адносінах беларусаў з этнічнымі групамі сваёй гістарычнай тэрыторыі. Пра якую-небудзь варожасць паміж імі не гаварылася ў навуковых працах, бо яе не існавала ў прыродзе, асабліва што датычыць простых людзей. На Беларусі яе карэнны народ мірна жыў з перасяленцамі з Расіі (пераважна стараверы), Польшчы, Украіны, яўрэямі, татарамі, латышамі, літоўцамі, цыганамі і прад-стаўнікамі іншых народаў. Калі ж і ўзнікалі канфліктныя сітуацыі, дык толькі такія, у аснове якіх ляжалі не этнічныя ці канфесійныя фактары, а сацыяльна-эканамічныя. Апошнія маглі быць прычынай непаразумення і паміж самімі беларусамі.

Што гэта так, сведчыць і наступная цытата з часопіса “Гомон”: “Яўрэйскі элемент, які жыве на Беларусі з давён-даўна,

---

[1] Публицистика белорусских народников. С. 109, 110.
[2] Там же. С. 110.
[3] Турук Ф. Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белорусов. М., 1921. С. 8.

даволі моцна зжыўся з народам (беларускім. – Л.Л.), і хоць ён неміласэрна часамі эксплуатуе беларусаў, тым не менш народ прывык да яўрэя і ахвотна ўступае ў здзелкі з яўрэямі, чым з кулакамі-велікаросамі ці панамі-памешчыкамі. Гэта тлумчыцца тым, што яўрэі тут страшэнна бедныя і падпадалі разам з народам аднолькаваму прыгнечанню і пагардзе ад польскага "панства". Гэтая акалічнасць зблізіла народ з яўрэямі... Акрамя таго яўрэі вядуць свае справы тонка, праяўляючы ўсё сваё майстэрства ў справе змякчэння саміх форм эксплуатацыі, тады як шляхецкае панства і рускае кулацтва, якое трапляе тут зрэдку, нягледзячы на сваё хрысціянства, абыходзяцца з сялянамі пагардліва, груба і вядуць эксплуатацыю з нахабнай адкрытасцю.., найбяднейшая частка яўрэйства нідзе гэтак не сышлася з народам, як на Беларусі: яўрэі не толькі засвоілі тут некаторыя звычаі і забабоны, але нават нярэдкія выпадкі аднадушнай барацьбы гэтай часткі яўрэйства з беларусамі супраць яўрэяў жа багацеяў і паноў..."[1].

Для народнікаў, як і ўсіх адукаваных людзей, не з'яўлялася сакрэтам, што найбольш глыбока зразумець сэнс беларускай нацыянальнай ідэі, зрабіць яе матэрыяльнай сілай можа толькі цесна знітаваная з народам інтэлігенцыя. Яны не раз адкрыта заяўлялі, што такога элітарнага слоя не мае беларускі народ. Правільна тлумачыліся і прычыны падобнага становішча. Сведчаннем таму і разважанні па дадзеным пытанні на старонках другога нумара часопіса "Гомон": беларуская інтэлігенцыя "пакуль знаходзіцца ў патэнцыі як прадстаўніца народных інтарэсаў, і ... давядзецца шмат працаваць для яе ўзнікнення, тым больш што і цяперашняя бязгрунтавая інтэлігенцыя вельмі апатычная, непаваротлівая і заражаная тым бязмэтавым рэзанёрствам, якая заўважаецца ва ўсіх безгрунтавікоў, што жывуць больш у галіне тэарэтычных мудраванняў, чым у практыцы сапраўднага жыцця... Больш за ўсё можна разлічваць на тую частку інтэлігенцыі, якая выйдзе з слаёў, што блізка стаяць да народу, і таму найбольш спагадлівых да яго патрэбнасцяў"[2].

Справядліва лічылася, што гэтую лёсавызначальную для беларускай нацыі ідэю могуць самі правільна зразумець і данесці да народных масаў толькі найбольш высокаадукаваныя, з трывалай грамадзянскай свядомасцю людзі. Іх у нашым краі, у параўнанні з Польшчай і Украінай, было надзвычай мала, а шмат з тых, хто належаў да такой катэгорыі грамадства, не вызначаўся асаблівай прыхільнасцю да беларускай нацыянальнай ідэі. Усё гэта вельмі добра разумелі гоманаўцы, але не лічылі справу зусім

[1] Публицистика белорусских народников. С. 115.
[2] Там же. С. 115, 116.

безнадзейнай і бесперспектыўнай. У другім нумары часопіса “Гомон” пісалася: “Нідзе, як вядома, не заўважаецца такіх неладоў паміж народам і інтэлігенцыяй, як на Беларусі. Наша інтэлігенцыя выходзіць звычайна з паразітычнага класа палякаў памешчыкаў або з бюракратыі; адрозненне рэлігій, шляхецкія замашкі і бюракратычнае самавольства тут атрымліваюць самы востры характар, самую шырокую прастору. Тут адсутнічае ўсё, што хоць колькі-небудзь магло б змякчыць стаўленне культурнага слоя да народу”. Улічваючы ўсё гэта, інтэлігенцыі, што цягнулася да народа, прапаноўвалася “загадзя паклапаціцца аб падрыхтоўцы ўмоў для самастойнасці краіны”. Народавольцамі, што групаваліся вакол часопіса “Гомон”, “прапаганда федэратыўнай самастойнасці Беларусі” прызна-валася галоўнай задачай[1].

З усяго вышэйсказанага відаць, як істотна наблізіліся да правільнага разу-мення нацыянальнай ідэі беларускія househ народнікі, аўтары і выдаўцы часопіса “Гомон”. На гэта ўжо і раней звярталі ўвагу айчынныя гісторыкі, у іх ліку і Сусана Самбук, якая пісала: “Гомон” сваімі довадамі на карысць існавання беларускай нацыі не прымаў думку тых, хто ўпарта адмаўляў за беларускім народам права лічыцца самастойнай нацыяй і ўяўляў гэты народ настолькі цёмным, забітым і інертным, што не верыў у яго здольнасць да барацьбы і ў магчымасць даверыць яму кіраванне сваімі справамі.., у вырашэні нацыяналь-нага пытання “Гомон” стаяў на дэмакратычных пазіцыях, абараняючы права кожнага народа самому вырашаць свой лёс”[2]. Важнасць укладу рэдакцыйнага і аўтарскага калектыву гэтага часопіса ў распрацоўку канцэпцыі беларускай нацыянальнай ідэі становіцца яшчэ больш відавочнай, калі ўявіць, у якой складанай у палітычных адносінах сітуацыі даводзілася займацца даследаван-нем дадзенага пытання. Пад той час ужо мінула больш за два дзесяткі гадоў, як у легальным друку Расійскай імперыі не з’явілася аніводнага мастацкага твора на беларускай мове[3].

---

[1] Публицистика белорусских народников. С. 85, 86.
[2] Самбук С.М. Революционные народники Белоруссии. С.  195.
[3] Нарысы гісторыі Беларусі ў 2-х частках. Ч. 1. С. 344.

## §3. У пошуках вызначэння этнічнай адметнасці

У афіцыйнай навуковай літаратуры наадрэз адмаўлялася само існаванне самабытнай беларускай нацыі, а значыцца яе культуры і мовы. Аднак, нягледзячы на ўсё гэта, і ў нашым краі, і за яго межамі з'яўляецца ўсё больш людзей цвярозага розуму, якія, як і гоманаўцы, цалкам адхіляюць такога роду фальсіфікацыі і здзяйсняюць сапраўдны навуковы пераварот у выпрацоўцы тэарэтычных асноў беларускай нацыянальнай ідэі, правільна вызначаюць шляхі самастойнага развіцця беларускага народа ў складзе Расіі на федэратыўнай аснове.

Не лішнім будзе яшчэ раз адзначыць, што найбольшы ўклад у выпрацоўку канцэпцыі беларускай нацыянальнай ідэі ўнеслі інтэлектуалы не нашых гарадоў. Прыярытэт тут, як вынікае з вышэйсказанага, належаў паўночнай сталіцы Расійскай імперыі – Санкт-Пецярбургу. І на гэта меліся дастаткова важкія прычыны: паводле этнічнай прыкметы гарады Беларусі ўсё яшчэ працягвалі заставацца небеларускімі. Асабліва мізэрную ролю ў беларускім нацыянальным жыцці адыгрывалі гарады Магілёўскай губерні. З-за амаль поўнай адсутнасці ў іх складзе карэннага насельніцтва у 1861 г. з агульнай колькасці гарадскіх жыхароў гэтай губерні каля 86% падала на яўрэяў[1]. Пазней становішча трохі змянілася, але не ў такой ступені, каб гэты тып населеных пунктаў лічыць беларускай з'явай. На момант правядзення 28 студзеня 1897 г. у Расійскай імперыі першага усеагульнага перапісу насельніцтва ў Віцебску на яўрэяў даводзілася 52% усіх жыхароў, у Бярэсці – 65, Гародні – 48, Мінску – 47, Пінску – 74, Слуцку – 77, Магілёве – 50, Гомелі – 55[2]. Даволі значны працэнт сярод гараджан займалі палякі і рускія, прычым у найбольшай ступені такое датычыла самых заможных і адукаваных пастоў насельніцтва, як правіла, здольных і на выпрацоўку, і на матэрыялізацыю нацыянальнай ідэі.

Усім, хто ўдзельнічаў у распрацоўцы тэарэтычных асноў беларускай нацыянальнай ідэі, даводзілася стала дыскутаваць з вучонымі, якія не прызнавалі карэннае насельніцтва нашага краю за адзіны ў сваім родзе народ. Пэўныя падставы на гэта яны мелі, бо і сапраўды значная частка яго пад уплывам царквы і палітыкаў называла сябе ў залежнасці ад вызнання праваслаўнай ці каталіцкай веры адпаведна рускімі і палякамі. Да канца XIX ст. не адышлі ў нябыт і такія саманазвы беларусаў, як ліцвіны (літвіны), русіны. Працяглы час кансалідацыі беларусаў у нацыю

[1] Иофе Э.Г. Страницы истории евреев Белоруссии. Мн., 1996. С. 52.
[2] Там же. С. 60.

перашкаджалі недастаткова цесныя эканамічныя і культурныя сувязі паміж імі на ўсёй тэрыторыі рассялення. У некаторым сэнсе перыферыйныя беларусы былі больш звязаныя з памежнымі этнасамі, чым з уласным.

У выніку ўсіх гэтых і ішых прычын этнонім “беларус” яшчэ і ў апошняй чвэртцы XIX ст. не паспеў скрозь прыжыцца на этнічнай тэрыторыі Беларусі. Асабліва слаба бытаваў ён ў тыповых палескіх паветах нашага краю – Пінскім, Мазырскім, Рэчыцкім, што ў першую чаргу тлумачылася іх прыродна-геаграфічнымі асаблівасцямі, адарванасцю ад іншых мясцовасцяў. Усё гэта вельмі трапна прыкмеціў гісторык Адам Кіркор: “Паляшук – кансерватар па прынцыпе. Ён дзіця сваёй прыроды, ён верны запаветам сваіх продкаў як у правах і звычаях, так увядзенні сваёй гаспадаркі і прыбавачных заняткаў, для яго прыбытковых і прыемных. Закінуты ў бясконцыя, дрымучыя лясы, сярод непраходных балотаў і тундраў, ён не знаёмы ні з якімі новаўвядзеннямі і паляпшэннямі; яго абстаноўка, род заняткаў, звычак, нават самая знешнасць не змяніліся на працягу цэлых стагоддзяў. Ёсць такія жыхары, якім не ўдавалася пабываць нават у сваім павятовым горадзе”[1]. Падобнае жыццё давала людзям вельмі мала падстаў лічыць сябе часткай нейкай больш буйной чалавечай супольнасці, у нашым выпадку – беларускай.

Далейшая праца над асэнсаваннем беларускай нацыянальнай ідэі была абцяжарана аслабленнем рэвалюцыйнага народніцкага руху як у цэлым у Расійскай імперыі, так і на Беларусі. Пастараліся аб гэтым і афіцыйныя ўлады, і прыхільнікі марксізму, асабліва тыя з іх, што ўваходзілі ў створаную ўвосень 1883 г. у Жэневе групу “Вызваленне працы”. Давяршылі ж барацьбу з народнікамі Уладзімір Ленін і яго паплечнікі. Той, хто ў нашым краі стаяў на пазіцыях марксізму, прапагандаваў у масах гэтае вучэнне, нічога асаблівага не зрабіў для сцвярджэння беларускай нацыянальнай ідэі. У такіх людзей на першым плане было разгортванне рэвалюцыйнай барацьбы з царызмам, а пасля перамогі над ім – пабудова сацыялістычнага грамадства.

Доўгі час у праграмных дакументах, тэарэтычных працах марксістаў Расіі нацыянальнае пытанне займала ў пэўным сэнсе слова пабочнае значэнне, хаця дзейнічаць даводзілася ў поліэтнічнай краіне, дзе вельмі парушаліся інтарэсы ўсіх нярускіх народаў. Марксістаў найбольш цікавілі ідэі інтэрнацыяналізму, чым нацыянальнае пытанне, якое ва ўмовах дэспатычнага рэжыму самадзяржаўя мела тэндэнцыю да няўхільнага абвастрэння. Праўда, на першым з’ездзе РСДРП, які праходзіў у 1898 г. у

---

[1] Живописная Россия. Т. 3. СПб, М., 1882. С. 345, 346.

Мінску, было прызнана права кожнай нацыянальнасці на самавызначэнне, але гэтая ідэя не знаходзіла належнага адлюстравання ў іншых праграмных дакументах сацыял-дэмакратаў. Ва ўсіх сваіх канкрэтных практычных дзеяннях яны паказвалі сябе заўзятымі працаўнікамі разгортвання рабочага, рэвалюцыйнага руху ў адпаведнасці з нацыянальнымі інтарэсамі народаў.

На схіле XIX ст. ініцыятыва ў далейшай распрацоўцы беларускай нацыя-нальнай ідэі перайшла да асобаў, якія не ўваходзілі ў склад якіх-небудзь партый, а найбольш займаліся навуковай, творчай дзейнасцю, збіраннем і сістэматызацыяй народнага фальклору. Першым тут заслугоўвае быць названым гісторык, этнограф Мітрафан Доўнар-Запольскі. Да пачатку XX ст. у яго навуковым багажы мелася каля сотні публікацый, большыня з якіх датычыла айчыннай гісторыі. У іх малады вучоны на падставе глыбокага аналізу багатага фактычнага матэрыялу пераканаўча даводзіў аб самабытнасці беларускага народа, наяўнасці ў яго арыгінальнай культуры і мовы, выказваўся за непазбежнасць і неабходнасць яго нацыянальнага адраджэння. На фарма-ванне такіх поглядаў на беларускі народ вялікі ўплыў зрабіла творчае супрацоўніцтва М. Доўнар-Запольскага са сваімі кіеўскімі калегамі, у якіх пад той час меліся вельмі багатыя набыткі ў распрацоўцы ўкраінскай нацыянальнай ідэі. У сваіх ранніх працах, як заяўляў сам вучоны, ён імкнуўся даказаць бясспрэчнасць “спрадвечнай дзяржаўнай адасобленасці беларускага народа, яго адметнасць ад іншых славянскіх народаў і яго права на самастойнае існаванне”[1]. З гэтай задачай ён справіўся на выдатна, нідзе і ні ў чым не парушыўшы гістарычную ісціну.

Для распаўсюджвання ў народзе сутнасці беларускай нацыянальнай ідэі вельмі важную ролю адыграла тое, што ў канцы 80 – пачатку 90-х у падцэнзурным расійскім друку сталі публікавацца некаторыя беларускамоўныя творы. Дзеля гэтага выкарыстоўваліся і замежныя друкарні. Бадай ніхто так не прымусіў беларусаў задумацца на сваім “Я”, як паэт, празаік і публіцыст Францішак Багушэвіч. Дасягаў жа ён гэтага выключна толькі сваімі беларускамоўнымі мастацкімі творамі. Яго першы паэтычны зборнік “Дудка беларуская” (пад псеўданімам Мацей Бурачок) выйшаў у свет у 1891 г. у польскім горадзе Кракаве. Паэтычным творам зборніка папярэднічала прасякнутая вялікай любоўю да роднай мовы прадмова аўтара. Да гэтага ў нашай літаратуры яшчэ не сустракалася такога пераканаўчага і ў той жа

[1] Цытавана па газеце: “Навіны Беларускай акадэміі”.1992. 28 жніўня.

час эмацыянальнага погляду аб самабытнасці беларускай мовы, неабходнасці шанавання апошняй дзеля таго, каб не страціць яе, а таксама дзеля захавання самога ж народа. Чытача не маглі не прымусіць задумацца такія словы з прадмовы "... я шмат дзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў, і пераканаўся, што мова наша ёсць такая ж людская і панская, як і французская, або нямецкая, або іншая якая. Чытаў я ці мала старых папераў, па дзвесце, па трыста гадоў таму напісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай чысцюсенькай, як бы вось цяпер пісалася... Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добра людцам.., але так ужо мы самі пусцілі яе на здзек.

(...) Ці ж ужо нам канешне толькі ў чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але наперш трэба знаць сваю.

(...) Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю так, як той чалавек перад скананнем, каторaму мову займе, а потым і зусім замерлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі".

І сапраўды, дачыненні да яе прыкметна мяняліся ў лепшы бок. І гэта цалкам апраўдана, бо, як сведчыла тагачасная сусветная практыка, усе вядомыя гісторыі нацыянальныя рухі пачыналіся са змагання за адраджэнне мовы. Беларусь не магла стаць выключэннем з гэтай жалезнай гістарычнай заканамернасці. Як і ў іншых народаў, прыклад паказвалі майстры мастацкага слова, прадстаўнікі педагагічнай інтэлігенцыі, якія лепш за іншыя катэгорыі адукаваных людзей разумелі ролю мовы ў лёсе беларускага народа. Цяжка, а практычна зусім немагчыма было надзяліць яе якімі-небудзь сацыяльнымі функцыямі ў грамадскім жыцці краю. Тут непадзельна панавала руская мова, галоўнымі ахавальнікамі якой з'яўляліся мясцовая адміністрацыя, сістэма народнай адукацыі, праваслаўная царква. І ўсё ж, нягледзячы на гэтыя штучныя перашкоды, найлепшая частка беларускай інтэлігенцыі, што была прасякнута вялікай, шчырай любоўю да Бацькаўшчыны, не проста стыхійна, а зусім свядома пацягнулася да матчынай мовы. На ёй пачыналі пісаць і тыя, хто паспеў зрабіць – і даволі паспяхова – першыя крокі на ніве польскай або рускай мастацкай літаратуры.

Апошняе дзесяцігоддзе XIX ст. дало магутны штуршок развіццю новай беларускай мастацкай літаратуры, якое ўжо ніколі больш не перапынялася, а, наадварот, з кожным такім адрэзкам часу набывала ўсё новыя і новыя, больш шырокія прасцягі. У тым надзвычай важным для справы беларускага Адраджэння дзесяцігоддзі працягвалі працаваць ці рабілі толькі першыя крокі

на ніве нацыянальнай мастацкай літаратуры Фелікс Тапчэўскі (1835 ці 1836 – 1910), Альгерд Абуховіч (1840-1898), Марыя Косіч (1850 – пасля 1906), Янка Лучына (І. Неслухоўскі, 1851-1897), Адам Гурыновіч (1869-1894) і інш. Амаль усе яны прыйшлі ў беларускую мастацкую літаратуру ў вельмі маладым узросце, магчыма, не так розумам, як сэрцам усведамляючы важнасць гэтай справы для лёсу беларускага народа. Падобнае можна сказаць і пра іншыя прафесійныя катэгорыі тагачасных маладых пакаленняў.

Нацыянальна-культурная ідэя паступова пачала пашырацца і сярод навучэн-цаў семінарый і гімназій. Шчырыя прыхільнікі былі ў яе ў Мінску, хаця ў канцы XIX ст., як і многія іншыя гарады нашага краю, гэты горад не меў ярка выяўленага беларускага нацыянальнага аблічча. У той час у Мінску якраз вучыліся ў гімназіі браты Іван і Антон Луцкевічы. Яны і сталі кіраўнікамі аднаго з гурткоў вучнёўскай моладзі. Дзейнасць яго зводзілася ў асноўным да вывучэння гісторыі, этнаграфіі і культуры роднага краю. Гэтай мэце служыла закладзеная гурткоўцамі бібліятэка, у якой, акрамя твораў В. Дуніна-Марцінке-віча і Ф. Багушэвіча, мелася і іншая літаратура, пераважна краязнаўчага харак-тару[1].

Беларускай адраджэнскай ідэяй жыла нашая моладзь, якая вучылася ў Маскве. Група студэнтаў-беларусаў, што за сваю палітычную дзейнасць адбывалі пакаранне ў Бутырскай турме, у 1891 г. арганізавала “Беларускі сацыялістычны гурток”, які выдаў у перакладзе на беларускую мову апавяданне рускага пісьменніка У. Гаршына “Сігнал”[2], а таксама брашуру “Дзядзька Антон”. Часам, калі беларусаў-студэнтаў, што гарнуліся да нацыянальнай ідэі, было мала ці з іншай прычыны, яны аб’ядноўваліся з палякамі і літоўцамі, каб сумеснымі намаганнямі шукаць для сваіх народаў шляхі выратавання ад культурна-моўнай асіміляцыі, захавання іх як самабытных этнічных суполь-снасцяў. У Пецярбургу, напрыклад, да лета 1893 г. існаваў “Гурток моладзі польскай, літоўскай і беларускай”, створаны з ураджэнцаў заходніх губерняў Расіі.

З’яўленне ў друку арыгінальных беларускіх мастацкіх твораў, як і публіка-цыя ў розных працах вучоных-этнографаў і краязнаўцаў матэрыялаў па вуснай творчасці людзей нашага краю ўсё мацней пераконвала найбольш нацыянальна-самасвядомую частку з іх у адмысловым характары беларускай культуры і мовы, іх адметнасці ад падобнага роду рускіх, польскіх і ўкраінскіх адпаведнікаў. У руках вучоных з’явілася велізарная колькасць каштоўнага фактычнага матэрыялу, аналіз якога непазбежна

[1] Луцкевіч А. За дваццаць пяць гадоў. Вільня. 1928. С. 7, 8.
[2] Турук Ф. Белорусское движение: очерк истории национального и революционного движения белорусов. С. 11.

прыводзіў іх да высновы, што беларускі народ, нягледзячы на ўсю сваю блізкасць да суседніх славянскіх народаў, ёсць зусім самабытны народ, якому проста недаравальна ствараць штучныя бар'еры для стрымання нацыянальна-культурнага развіцця, як гэта раней свядома рабілі прапольскія свецкія і духоўныя ўлады Рэчы Паспалітай, а пазней такія ж улады прарускай арыентацыі Расійскай імперыі.

Пазітыўныя зрухі ў этнакультурным даследаванні краю прычыніліся да таго, што ў характэрных для канца XIX ст. поглядах на беларускую нацыянальную ідэю яўна пераважаў яе культурна-моўны аспект і нашмат слабей былі распрацаваны пытанні нацыянальна-дзяржаўнай будучыні нашага народа. У значнай ступені тлумачылася гэта тым, што ў царскай Расіі канца XIX ст. сурова душылася ўсякая думка аб дзяржаўным самавызначэнні яе народаў. Займацца глыбокім навуковым вывучэннем дадзенага пытання і асабліва выказваць погляды на яго вырашэнне ў перспектыве з'яўлялася крайне небяспечным. Такія часы яшчэ не надышлі і ў першую чаргу для Беларусі, якая ўсімі ідэолагамі царызму падавалася як звычайны рускі край. Аднак і ў гэты нялёгкі ў палітычных адносінах час усё ж былі вучоныя, якія мелі цвёрдую перакананасць у існаванні самастойнай беларускай дзяржаўнасці ў далёкім мінулым і не адмаўляліся ад думкі аб магчымасці яе адраджэння, калі Расія стане на шлях вольнага дэмакратычнага развіцця, адмовіцца ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту ўсіх нярускіх народаў. Што такое абавязкова адбудзецца ў новым, XX стагоддзі верылі і многія людзі на Беларусі. Прагрэсіўная ў сэнсе нацыянальнай самасвядомасці інтэлектуальная меншасць беларускага народа ў канцы XIX ст. ужо не была такой слабай, бездапаможнай, як 20-30 гадоў таму назад, а гэта давала надзею, што з цягам часу яна (меншасць) яшчэ больш наблізіцца да правільнага разумення нацыянальнай ідэі і вызначэння свайго месца ў змаганні за яе пераўвасабленне ў жыццё.

Добры прыклад беларусам, як трэба змагацца за свае карэнныя нацыяналь-ныя інтарэсы, паказвалі тутэйшыя палякі і яўрэі, асабліва першыя з названых, якія практычна ніколі не мелі ласкі ад цара, стала з'яўляліся адным з аб'ектаў вялікадзяржаўнай палітыкі русіфікацыі. Нямалыя страты ад яе неслі яўрэі, хаця ў паасобныя гады яны асабліва не зведвалі ад царызму моцнага нацыянальнага ўціску. Так, з дазволу віцебскага губернатара ў цэнтры гэтай губерні ў 1898 г. яўрэйскі мастак Юдэль Пэн адкрыў прыватную школу малявання і жывапісу. Асноўнымі прадметамі выкладання ў ёй былі рысаванне геаметрычных целаў, арнаментаў

і гіпсавых фігур. Вучылі тут таксама пісанню з натуры. Сярод навучэнцаў гэтай школы быў і пазней добра вядомы ў свеце яўрэйскі мастак Марк Шагал. Сканцэнтраваная пераважна ў гарадах і мястэчках яўрэйская этнічная група так не ўплывала – становўча ці адмоўна, – як гэта было характэр-на мясцовым палякам і рускім, на беларускае нацыянальна-культурнае Адраджэнне. Да таго ж гэтаму не спрыялі прынцыповыя адрозненні паміж яўрэямі і беларусамі ў культуры, рэлігіі, мове, побыце.

У нялёгкіх умовах даводзілася жыць татарскай грамадзе. Яна найбольш за ўсе астатнія была ўключана ў культурны працэс карэннага насельніцтва і разам з ім з'яўлялася бездапаможнай ахвярай дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі. Асабліва гэта датычыла тых, хто жыў у горадзе. Сярод татараў мелася нямала прыхільнікаў беларускага нацыянальна-культурнага руху, паколькі яны і самі з'яўляліся ў значнай ступені носьбітамі духоўных каштоўнасцяў нашага краю.

Сярод этнічных груп Беларусі не было праціўнікаў яе нацыянальнага адраджэння. Яму ўсяк шкодзілі толькі мясцовыя прыхільнікі рускага вяліка-дзяржаўнага шавінізму і ваяўніча настроеныя польскія нацыяналісты. І тыя, і другія і ў канцы XIX ст. не прызнавалі беларусаў за самабытны народ, адмаўлялі наяўнасць ў яго ўласнай культуры і мовы, апраўдваючы гэтым самым сваю прысутнасць, распаўсюджванне на дадзенай тэрыторыі царскай імперыі, сваіх нацыянальна-духоўных традыцый.

## РАЗДЗЕЛ II **СТАН НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАГА РУХУ НА ПАЧАТКУ XX СТ.**

### §1. Першыя спробы паказаць месца палітычнага фактару ў канцэпцыі нацыянальнага Адраджэння

Беларусь уступіла ў новае, XX стагоддзе з моцна дэфармаваным нацыяналь-ным патэнцыялам свайго карэннага насельніцтва. Адбылося гэта не ў выніку нібыта прыроджанай яму няздольнасці, нежадання тварыць прыстойнае нацыянальна-самабытнае жыццё. Прычыны дэфармацыі этнакультурных асноў беларускай нацыі палягалі ў той палітыцы, якую на яе зямлі больш за сто гадоў праводзілі свецкія і духоўныя ўлады Расійскай імперыі. Зусім не спрыялі нацыянальнай стабільнасці і ўзаемадачыненні беларусаў з палякамі, якія ніяк не хацелі адмовіцца ад сваёй колішняй палітыкі асіміляцыі жыхароў нашага краю, сапернічаючы ў яе правядзенні з царскім рэжымам.

Прарабам культурна-моўнай асіміляцыі не раз падавалася, што ў беларускага народа ўжо няма аніякіх прыкметаў для далейшага самабытнага існавання, і з гэтай нагоды яны гатовыя былі нават ладзіць хаўтуры. Аднак у самы кульмінацыйны час у загадзя пахаванага народа раптам абуджаліся нейкія невядомыя, патаемныя сілы, якія, быццам бы з падзямелля, выходзілі на паверхню, заяўляючы пра свае цвёрдыя намеры весці барацьбу да поўнай перамогі дзеля таго, каб толькі захаваць уласнае жыццё, не дапусціць яго растварэння пад уздзеяннем якіх-небудзь чужародных элементаў. Апошняя чвэртка XIX ст. дала нямала прыкладаў такой самаахвярнай барацьбы найлепшых, самых здаровых сілаў беларускага народа супраць яго русіфікацыі і паланізацыі. Існавала поўная гарантыя, што з няменшай энергіяй і актыўнасцю будуць дзейнічаць такія сілы і ў новым стагоддзі. Жыццё цалкам пацвердзіла падобны прагноз.

І ў XX стагоддзі царскі ўрад практычна ні ў чым не збіраўся змяншаць сацыяльны і нацыянальны прыгнёт усіх нярускіх народаў імперыі. Іх зусім заканамерны рух за паслабленне, а ў лепшым выпадку за поўнае выкараненне такога прыгнёту царскімі ўладамі меркавалася паралізаваць праз далейшае ўзмацненне рэпрэсій. Даводзіцца здзіўляцца, што ў гэтай рэакцыйнай, антынацыянальнай палітыкі Расійскай імперыі ніколі не было недахопу ў абаронцах з боку навуковай і творчай інтэлігенцыі. Сярод іх заўсёды знаходзілася шмат асобаў, якія не пагаджаліся з наданнем права ўсім нярускім народам будаваць сваё жыццё ў адпаведнасці з нацыянальнымі традыцыямі, што забяспечыла б

поліэтнічнай Расіі багатую культурную шматстайнасць. Наадварот, гэтыя асобы прапаноўвалі палітыкам такія шляхі, якія прывялі б Расію праз ліквідацыю характэрнай ёй культурна-моўнай адметнасці да поўнай аднароднасці, канчатковага знікнення нацый і народнасцяў. Да ліку тыповых выразнікаў такой шкоднай, антыгуманнай нацыянальнай палітыкі царскай Расіі з поўнай падставай можна аднесці прафесара П. Кавалеўскага, якому шырокую вядомасць у краіне прынесла кніга “Национализм и национальное воспитание в России в двух частях”. Яе трэцяе дапоўненае выданне пабачыла свет у 1912 г. у Санкт-Пецярбургу. Хаця аўтар лічыў сябе маларосам, для пашырэння, умацавання рускага нацыяналізму ён зрабіў не менш за любога свайго калегу рускага па паходжанні. У згаданай яго кнізе сфармулявана такая думка: “Стваральніца рускай дзяржавы – руская нацыя, а таму гэтая нацыя па ўсіх боскіх і чалавечых правах павінна быць **пануючай** нацыяй, якая трымае ў дзяржаве ўладу, кіраванне і перавагу, або **дзяржаўнай нацыяй**. Усе астатнія нацыі ... павінны быць ёй супадпарадкаванымі. Таму гаварыць пра роўныя правы ў дзяржаве ўсіх членаў дзяржавы розных нацый наўрад ці правільна і справядліва” (с. 139-141).

З крайне нацыяналістычных пазіцый выказваўся П. Кавалеўскі ў дачыненні да палякаў, пішучы, што апошнія, “як і ўсе іншародцы ў Расіі, **тады толькі могуць разлічваць на раўнапраўе ў Расіі**, **калі яны на справе дакажуць, што яны перш за ўсё рускія, а затым палякі** ... (с. 154). А гэтага ж якраз і не хацелі аніяк рабіць палякі, нягледзячы на прыклады адваротнага парадку з боку некаторых прадстаўнікоў беларускай і ўкраінскай інтэлігенцыі, асабліва першай. У П. Кавалеўскага не існавала аніякіх сумненняў, што і беларусы, і ўкраінцы – гэта разнавіднасці рускай нацыі. Добра, што ён за імі хоць прызнаваў права “гаварыць, чытаць і пісаць на сваім дыялекце”. Што ж датычыць асноўнай дзяржаўнай і школьнай мовы, дык ёю ва ўсіх кутках краіны, ён лічыў, павінна быць толькі руская (с. 141).

Вучоныя, публіцысты з аналагічнымі П. Кавалеўскаму поглядамі на нацыя-нальнае пытанне ў Расіі проста закідалі яе кнігарні і бібліятэкі падобнай вяліка-дзяржаўнай шавіністычнай літаратурай у надзеі спыніць рух нярускіх народаў за сваю палітычную самастойнасць, захаванне нацыянальна-культурнай адметнасці. І дзесьці такая літаратура і сапраўды магла паўплываць на погляды, стаўленне народаў да сваёй будучыні. Актыўнаму, шырокаму выступленню за прыстойны самабытны лад жыцця перашкаджалі і жорсткія захады па заду-шэнні ўсіх формаў нацыянальна-вызваленчага руху. Па гэтых і іншых прычынах ён не

атрымаў належнага размаху і на Беларусі. Як і ў апошняй чвэртцы XIX ст., тут ён меў найбольш ярка выяўлены культурна-асветніцкі характар. Сур'ёзныя спробы скіраваць такі рух і на вырашэнне нацыянальна-дзяржаўнага пытання рабіла галоўным чынам толькі ўтвораная ўзімку 1902-1903 гг. нацыянальная партыя леванародніцкага напрамку Беларуская рэвалюцыйная грамада (БРГ), якая неўзабаве атрымала новую назву – Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ).

Свае філіялы БРГ мела ў Вільні, Мінску і Пецярбургу. У якасці яе стваральнікаў і кіраўнікоў выступілі такія вядомыя грамадскія дзеячы, вучоныя і літаратары, як браты Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Алесь Бурбіс, Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец), Вацлаў Іваноўскі, Франц Умястоўскі і інш. На першым з'ездзе БРГ у 1903 г. (Вільня) заяўлялася аб неабходнасці звяржэння самадзяржаўя ў Расіі, але, які пасля гэтага павінен узнікнуць дзяржаўны лад, дэлегаты нічога не сказалі. Затое ўжо ў 1905 г. БСГ у сваіх пракламацыях "выступала за ўстанаўленне ў Расіі федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі з супольным сеймам (Канстытуцыйным сходам) для ўсіх народаў і прадстаўленне кожнаму народу права мець свой сейм, які вёў бы яго справы"[1]. Прыкладна такое было зафіксавана ў адпаведных раздзелах прынятай у студзені 1906 г. у Мінску новай праграме БСГ, у якой гаварылася яшчэ і пра культурна-нацыянальную аўтаномію. Але якіх-небудзь масавых выступленняў людзей у падтрымку гэтай ідэі грамадоўцам не ўдалося арганізаваць і, зразумела, не з-за яе быццам бы непапулярнасці ў народзе, а толькі з прычыны поўнай адсутнасці ў краіне магчымасці штосьці канкрэтнае зрабіць для вырашэння дадзенага пытання.

Засяроджванне кіраўніцтвам Беларускай рэвалюцыйнай (сацыялістычнай) грамады такой вялікай увагі на пытанні будучага нацыянальна-дзяржаўнага жыцця краю ніколі не саштурхоўвала яе (грамаду) да ганебных, пагардлівых адносін да нацыянальных меншасцяў апошняга. Пачціваe стаўленне да ўсіх іх жыццёва важных патрабаванняў не ў малой ступені тлумачылася мо акурат тым, што сама БРГ (БСГ) абараняла інтарэсы народа, які на працягу некалькіх стагоддзяў быў аб'ектам нацыянальнага ўціску з боку прашавіністычна настроеных уладаў Рэчы Паспалітай, а затым Расійскай імперыі. У прынятым на першым з'ездзе Беларускай Сацыялістычнай Грамады дакуменце гаварылася: "Мы стаім за нацыянальную аўтаномію, але сейм (меркавалася, што ён будзе знаходзіцца ў Вільні. – Л.Л.) мы патрабуем не для беларусаў, а для ўсяго краю – у сейме павінны быць прадстаўнікі ўсіх

[1] ЭГБ. Т. 1. Мн., 1993. С. 410.

народнасцяў Паўн.-Зах. краю”[1]. Адсутнасць у дзейнасці БСГ ўсякага нацыянальнага сепаратызму вельмі добра пацвярджаецца зместам прынятай ёю ў студзені 1906 г. праграмы. Тут было запісана, што БСГ стаіць за стварэнне Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі, у якой і Беларусь павінна мець дзяржаўную аўтаномію з мясцовым сеймам у Вільні. Інтэрнацыяналістычны характар прынятай тады праграмы БСГ найбольш за ўсё вынікае з такіх яе пунктаў: “4. Роўныя правы для ўсіх народнасцяў, якія жывуць на адной тэрыторыі (культурна-нацыянальная аўта-номія). 5. Раўнапраўе ўсіх грамадзян без адрознення полу, рэлігіі, нацыяналь-насцяў і расы …”[2]. Таму нельга пагадзіцца з заўвагай да артыкула У. Леніна “Да гісторыі нацыянальнай праграмы ў Аўстрыі і ў Расіі” (люты 1914 г.), што Беларуская Сацыялістычная Грамада з’яўлялася нацыяналістычнай (у бальшавіцкім разуменні слова. – Л.Л.) арганізацыяй, “адстойвала інтарэсы беларускай буржуазіі, памешчыкаў і кулакоў.., імкнулася адарваць, адасобіць беларускі народ ад рускага рэвалюцыйнага рабочага класа”[3].

Кіраўнікі БСГ былі першымі сярод тых, хто да канца зразумеў вялізную ролю перыядычнага друку для прапаганды ў народных гушчах ідэі нацыянальна-культурнага Адраджэння і актыўнага далучэння іх да гэтага руху. Дзякуючы клопатам БСГ 1 (14) верасня 1906 г. выйшла на беларускай мове газета “Наша доля”. Усяго пабачыла свет толькі шэсць нумароў, з якіх пяць былі канфіскаваныя. 3 лістапада таго ж года на беларускай мове стала выдавацца газета “Наша ніва”.

Палітыкі Расіі і набліжаныя да іх вучоныя вельмі ўважліва сачылі за развіццём і пашырэннем ідэй федэралізму, абласной аўтаноміі ў нацыянальных раёнах. Ніякіх уступак у гэтым не меркавалася рабіць. Самадзяржаўе лічылася найлепшай формай арганізацыі кіравання краінай, а непадзельнасць Расіі ўзводзілася ў абсалют. Да Расіі, пісаў спамянуты вышэй прафесар П. Кавалеўскі, “могуць быць зробленыя прырашчэнні – але змяншэнне недапушчальна і немагчыма. Гэтак жа немагчыма расчляненне яе на паасобныя часткі ў выглядзе штатаў, аўтаномій, федэрацый і інш.”[4].

---

[1] Солошенко В.И. Большевики в борьбе с мелкобуржуазными партиями в Белоруссии. Мн., 1981. С. 46.
[2] Шлюбскі А.А. Да гісторыі БСГ. Полымя. 1925, № 5. С. 158.
[3] Ленин В.И. Полн. собр. соч. Т. 24. С. 462.
[4] Ковалевский П.И. Национализм и национальное воспитание в России в двух частях. С. 240.

## §2. Беларуская мова – дамінанта нацыянальнага Адраджэння

На рубяжы XIX-XX ст., а яшчэ больш яскрава ў час і пасля рэвалюцыі 1905-1907 гг., высветлілася, што з улікам палітычнага становішча ў Расійскай імперыі і культурна-моўнай сітуацыі на Беларусі найбольшай эфектыўнасці ад нацыянальнага руху ў апошняй можа будзе дасягнуць тады, калі ўдасца надаць яму культурна-асветніцкі характар. Народ толькі тады добра ўсведамляе значэнне барацьбы за дзяржаўную самастойнасць і актыўна выступае за яе, калі ён яшчэ не паспеў да канца адарвацца ад сваіх гістарычных каранёў, трымаецца духоўнай спадчыны, захоўвае, карыстаецца роднай мовай. Тут у беларусаў з-за працяглай паланізацыі і русіфікацыі існавала безліч надзвычай важных праблем, ад своечасовага вырашэння якіх залежаў лёс самой нацыі. У першую ж чаргу трэба было па прыкладзе актывістаў нацыянальна-культурнага руху другой паловы XIX ст. ратаваць родную мову, якая ўжо больш за два стагоддзі на сваёй гістарычнай тэрыторыі не выконвала аніякіх сацыяльных функцый і таму мела ярка выяўленую тэндэнцыю падзення прэстыжнасці ў грамадстве і нават у асяроддзі саміх прыродных носьбітаў гэтага слова.

Дапамагчы выратаваць яго ў значнай ступені магла б мастацкая літаратура. На пачатку XX ст. у яе ўліліся новыя, вельмі таленавітыя асобы, якія сваёй плённай творчай дзейнасцю зрабілі беларускую мастацкую літаратуру магутным сродкам нацыянальна-культурнага Адраджэння. Адметнай з'явай трэба прызнаць, што сярод пачынальнікаў беларускай літаратуры загучаў – і прытым прыгожа, уладарна – жаночы голас Цёткі (сапр. Алаіза Пашкевіч). Пачатак яе літаратурнай дзейнасці прыпаў на 1902 г. Афіцыйная забарона друкаваць кнігі па-беларуску не дазваляла здольнай паэтцы матэралізаваць свой літаратурны талент на радзіме. Выйсце знайшла ў Жоўкве (каля Львова), дзе ў 1906 г. пабачылі свет зборнікі яе вершаў "Хрэст на свабоду" і "Скрыпка беларуская".

За год да рэвалюцыйных падзей 1905-1907 гг. кіне складаць вершы на польскай мове і пачне пісаць іх па-беларуску малодшы прыказчык у паме-шчыка Сенненскага павета Магілёўскай губерні Іван Луцэвіч – наш незабыўны Янка Купала. Яго першы друкаваны верш "Мужык" (змешчаны 15 мая 1905 г. у мінскай газеце "Северо-Западный край") неўзабаве стаў вядомым, палюбіўся на ўсёй этнічнай тэрыторыі Беларусі. Такім жа папулярным у народзе быў першы зборнік вершаў Янкі Купалы "Жалейка" (Пецярбург, 1908).

Праз два гады выходзіць яго новы зборнік паэтычных твораў "Гусляр", а ў 1913 г. – "Шляхам жыцця". Апошні з пералічаных змог з'явіцца ў свет толькі дзякуючы таму, што на гэта не пашкадаваў асабістых грошай дырэктар Елісееўскай бальніцы (знахо-дзілася ў загарадным раёне Пецярбурга) беларус па паходжанні Аляксандр Ярэміч[1]. Паэзія маладога беларускага песняра Янкі Купалы ўжо на першым этапе яго плённай літаратурнай дзейнасці вызначалася глыбокім пранікненнем у нетры чалавечага жыцця, вымушала ўсіх і кожнага задумацца над далейшым лёсам свайго роднага краю. Найперш гэта было ўласціва вершам "А хто там ідзе?", "За свабоду сваю", "Прарок", "Маладая Беларусь", "Бацькаўшчына", паэме "Адвечная песня".

У час, калі ў народзе шырыўся нацыянальна-культурны рух, наважыўся ўсяк паспрыяць яму мастацкім словам настаўнік Верхменскай школы Ігументскага павета Канстанцін Міцкевіч, які навекі ўвайшоў у гісторыю сваёй Бацькаў-шчыны пад літаратурным псеўданімам Якуб Колас. Пачаў жа ён служыць справе гэтага руху з таго, што адмовіўся ад напісання вершаў на рускай мове і цвёрда стаў на шлях беларускай нацыянальнай паэзіі. Яго першы друкаваны верш "Наш родны край" з'явіўся 1 верасня 1906 г. у першым нумары газеты "Наша доля", якая выдавалася кірыліцай і лацінкай у Вільні. У гэтым жа горадзе ў 1910 г. выходзіць яго першая кніга вершаў "Песні жальбы", а праз два гады і першы празаічны зборнік "Апавяданні". З 1913 г. яго творы пачынаюць друкавацца ў Пецярбургу: апавяданні "Тоўстае палена" і "Нёманаў дар", апавяданні ў вершах "Прапаў чалавек" і "Батрак", а ў 1914 г. выйшаў вялікі празаічны зборнік "Родныя з'явы". Сваімі раннімі літаратурнымі творамі Якуб Колас дапамог многім людзям найлепш разабрацца ў прычынах іх сацыяналь-нага і нацыянаьнага прыгнёту, зразумець прыгажосць роднага слова, убачыць, хто перашкаджаў яму заняць належнае месца ў грамадстве.

Трэцім паводле часу з'яўлення волатам ў беларускай мастацкай літаратуры першага дзесягоддзя XX ст. лёс наканаваў стаць Максіму Багдановічу. У свае шаснаццаць гадоў ён друкуе ў газеце "Наша ніва" (1907, № 24) першы твор-апавяданне "Музыка", а ў 1913 г. выдае ў Вільні адзіны прыжыццёвы зборнік вершаў "Вянок". Шмат вострых, надзённых праблем узнімалася ў яго творах, але найбольш за ўсё ў іх гаварылася пра нялёгкі лёс беларускага народа, што ўвасоблена ўжо ў саміх назвах вершаў: "Рушым, брацця, хутчэй", "Кінь вечны плач свой аб старонцы!", "Слуцкія ткачыхі", "Край мой родны! Як выкляты богам", "Народ,

[1] Літаратура і мастацтва. 1997. 14 лістапада. С. 13.

Беларускі, Народ!”, “Беларусь, твой народ дачакаецца” і інш. “У паэзіі Багдановіча, – справядліва адзначае сучасны паэт Алег Лойка, – моцна гучалі ідэі нацыянальна-вызваленчай барацьбы супраць царскай імперыі як турмы народаў, супраць вялікадзяржаўнага шавінізму”[1].

Нельга абмінуць і такой прыемнай у маладой беларускай літаратуры з’явы. У час, калі яшчэ на ўсю моц гучаў голас Цёткі, да яго далучылася не па гадах таленавітая пяснярка Канстанцыя Буйло. Цяпер ужо на ніве беларускага прыгожага пісьменства ў адначасе закрасавалі дзве выдатныя жаночыя постаці. Друкавацца Канстанцыя пачала з 1909 г., а свой першы зборнік “Курганная кветка”, які рэдагаваў сам Янка Купала, выдала ў 1914 г. Яе вершы вызначаліся высокай меладычнасцю, і таму паасобныя з іх, дзякуючы стараннням сама-дзейных і прафесійных кампазітараў, сталі вельмі папулярнымі ў народзе песнямі. Яе ў аднолькавай ступені і нацыянальна-патрыятычны, і высока-мастацкі верш “Люблю наш край, старонку гэту”, калі быў пакладзены на музыку, моцна загучаў на абсягах усёй Бацькаўшчыны і яшчэ сёння з’яўляецца адной з самых папулярных у нас песень.

Даводзіцца толькі выказаць вялікае шкадаванне, што жорсткі лёс не даў многім з тых, хто ў такі адказны для народа час прыйшоў у літаратуру з мэтай пераўтварэння яе ў сапраўдную трыбуну нацыянальнага Адраджэння, не змог з-за ранняй смерці да канца выкарыстаць свой творчы патэнцыял. І не выкарыстаў яго не з прычыны мо хілага здароўя, а толькі таму, што жылі і працавалі на адраджэнскую ідэю ў архіскладаных умовах, увесь час адчуваючы на сабе варожасць з боку мясцовай адміністрацыі і блізкай да яе інтэлігенцыі, у т.л. і беларускай паводле свайго паходжання. Першая пачынальніца беларускай літаратуры з ліку жанчын Цётка ўжо ў 30 гадоў сур’ёзна захварэла на сухоты і скончыла свой жыццёвы шлях у 40-гадовым узросце. Пісьменнік і крытык Сяргей Палуян адышоў на той свет у 20 гадоў (скончыў жыццё самагубствам), паэты Альфонс Петрашкевіч – у 24, Максім Багдановіч – у 26, пісьменнік і публіцыст Лявон Гмырак – у 25 (загінуў на франтах Першай сусветнай вайны), паэт Алесь Гарун – у 33 гады. І такі пералік можна было б прадоўжыць за кошт іншых пісьменнікаў з падобным лёсам, але і названых дастаткова, каб бачыць, які нялёгкі шлях быў у станаўленні і развіцці новай беларускай мастацкай літаратуры.

Здольныя да літаратурнай дзейнасці людзі браліся за пяро не дзеля таго, каб толькі штосьці цікавае напісаць для чытача ці

[1] Беларуская савецкая энцыклапедыя (у далейшым – БелСЭ). Т. 2. Мн., 1970. С. 60.

праславіць сябе. У апошнім выпадку куды больш шырокія перспектывы адкрываліся б пры напісанні руска- ці польскамоўных літаратурных твораў. А іх тады нямала стваралі беларускія паводле нацыянальнага паходжання аўтары. Цяпер жа амаль усе яны перакінуліся ў беларускую літаратуру. Чаму? Адказ вельмі просты. У ёй яны беспамылкова бачылі магутны сродак свядомага супрацьстаяння паланізацыі і русіфікацыі, выхавання ў людзей павагі да сваёй роднай мовы, без захавання, развіцця якой у беларускага народа адстунічалі б усякія ўмовы для выжывання, сцвярджэння сябе ў якасці самабытнага этнасу. Далей. Чытанне літаратуры на роднай мове выклікала ў кожнага беларуса вялікі, законны гонар за яе, дапамагала пераканацца ў тым, што і на ёй можна пісаць пра самыя складаныя рэчы, узвышаныя, глыбокія пачуцці. Раней людзям гаварылі, што такое падуладнае толькі вялікім, багатым мовам, у прыватнасці рускай ці польскай, а ваша ж мова, маўляў, гэта ўсяго толькі дыялект, адгалінаванне ад вышэй-пералічаных моваў суседніх народаў. Першымі ж беларускамоўнымі літаратур-нымі творамі ўдалося рассеяць навязаны нашаму народу памылковы, варожы погляд на сваё роднае слова, як грубае і мужыцкае, паказаць яго прыродную моц і прыгажосць, адметнасць ад суседніх славянскіх моў.

Глыбокае разуменне празаікамі і паэтамі ролі роднай мовы ў лёсе народа падштурхоўвала іх не толькі пісаць свае творы па-беларуску. Хацелася яшчэ выказаць уласнае стаўленне да яе, пагаварыць з чытачом аб тым, якой яна была раней і стала цяпер. Практычна не было аніводнага пісьменніка, які б на старонках сваіх твораў не ўздымаў гэтай лёсавызначальнай для беларускага народа праблемы. Ласкава запрашала чытача, асабліва моладзь, задумацца над ёю паэтэса Цётка, спецыяльна прысвяціўшы дадзенай тэме артыкул (пад псеўданімам Мацей Крапіўка) “Як нам вучыцца”. Як набатны звон у абарону беларускай мовы гучала наступная фраза з названай публікацыі: “Доўга мы, беларусы, цураліся сваёй мовы і, як кажуць, хаваліся з ёю за печ перад чужымі народамі. Вось і зллажылася нейкая дурная пагаворка, што наша мова хамская, брыдкая, што на ёй няможна гаварыць з вучоным чалавекам, ані пісаць кніжак, як на іншых, “далікатных” мовах. Але гэта толькі выдумка”[1].

У гэтым жа артыкуле Цётка выказала вельмі прагрэсіўную, у поўным сэнсе адраджэнскую пазіцыю па пытанні аб школе на Беларусі. Паэтка не сумнява-лася, што толькі навучанне дзяцей у школе на мове, на якой яны размаўляць дома, будзе садзейнічаць іх хутчэйшаму ўсебаковаму развіццю, дапаможа лягчэй пазнаць

[1] Наша ніва. 1906. № 1. 10/23 лістапада.

“іншыя мовы – расейскую ды польскую. Дзеля таго ўсе беларусы і ўсе, хто хоча даць народу праўдзівую навуку, павінны дамагацца для беларусаў беларускай начальнай школы”[1]. Не сакрэт, што толькі такім узроўнем нацыянальнай школы, не зрабіўшы нацыянальнай і вышэйшую адукацыю, справу адраджэння асабліва не зрушыш наперад, але ў тых умовах і такое патрабаванне мела немалаважнае прагрэсіўнае значэнне.

Правільныя, вычарпальныя адказы аб ролі беларускай мовы на розных этапах гісторыі нашага краю знаходзіў чытач і ў публіцыстычных творах іншых аўтараў. Пераканаўча гаварыў пра яе значэнне Мячыслаў Бабровіч (1891-1915; літ. псеўданім – Лявон Гмырак). Справядліва не пагаджаючыся з тымі, хто пад уплывам рускіх вучоных вялікадзяржаўнага толку называў беларускую мову дыялектам рускай, ён у артыкуле “Мова ці гутарка” (“Наша ніва”, 1914, 13 лютага) прапаноўваў чытачам не верыць гэтай хлусні, а больш уважліва прыслухоўвацца да голасу сур’ёзных філолагаў і этнографаў, сярод якіх ёсць і расійскія, “што беларусы гэта аддзельны народ, мова якіх распадаецца на свае гаворкі (нарэчыя) таксама, як і вялікаруская, але зусім незалежна ад яе. Трэба прыпомніць гэтым ягамосцям (што не прызнаюць самастойнасці беларускай мовы. – Л.Л.), што беларускае “нарэчые” было праз цэлыя вякі часу гасударст-веннай мовай, у ёй пісаліся, ва ўсіх дзяржаўных установах яна панавала, па-беларуску гаварылі князі і вяльможы, беларускіх кніг тады друкавалася болей, як маскоўскіх, першая наша кніга надрукавана без малога 400 гадоў таму назад (1517 г. – Біблія Скарыны)”[2]. Напісанае Лявонам Гмыракам пра беларускую мову дапамагло многім правільна зразумець яе ролю ў мінулым, а таксама ў будучым, прасякнуцца шчырай павагай да тых, хто не толькі высока цаніў, але і самааддана змагаўся за тое, каб жыло беларускае слова, а разам з ім і яго носьбіты, як самабытны, з багатай гісторыяй і адметнай культурай славянскі народ.

Уздзеянне пісьмовага роднага слова на народныя масы, на актывізацыю іх удзелу ў адраджэнскім руху значна ўзрасло пасля арганізацыі выдання першых беларускамоўных газет “Наша доля” (І.ІХ-І.ХІІ.1906) і “Наша ніва” (10.ХІ.1906-7.VIII.1915). Іх выхад у свет трэба разглядаць як вялікую заваёву ў духоўным жыцці беларускага народа. Менавіта так ставіліся да гэтай падзеі і самі выдаўцы, ведаючы наперад, з якімі неверагоднымі фінансавымі цяжкасцямі і палітычнымі перашкодамі ім давядзецца сутыкнуцца, бо як першая, так і другая газеты не збіраліся

---

[1] Тамсама.
[2] Гмырак Лявон. Творы... С. 103.

працаваць у рэчышчы той палітыкі, якую праводзілі на Беларусі царскія ўлады Расійскай імперыі.

Сваім абавязкам рэдакцыі газет “Наша доля” і “Наша ніва” лічылі ўсяк садзейнічаць нацыянальнаму абуджэнню беларускага народа, мазгі якога такі працяглы час дурманілі рознага роду асімілятары. Надзейным сродкам для выйсця з нацыянальнай дэпрэсіі, меркавалі, можа быць актыўнае далучэнне да адраджэнскага руху не толькі інтэлігенцыі, але і шырокіх слаёў простага люду, толькі трэба дзеля гэтага гаварыць з ім не чужой, а яго роднай мовай. Вось як яе месца вызначыў у звароце да чытачоў адзін з членаў рэдакцыі газеты “Наша доля” Франц Умястоўскі: “Дайце беларусу такую кніжку, каб ён зразумеў, што ў ёй напісана. Толькі кніжка, напісаная на мове бацькоў яго, патрапіць сноп свету закінуць у цяжкое жыццё беларуса.., толькі яна пакажа яму дарогу да лепшае, яснейшае долі”[1]. Такі акцэнт на беларускую мову Франц Умястоўскі рабіў таму, што далёка не ўсе інтэлігенты, якія ішлі ў народ, каб скіраваць яго на шлях нацыянальнага Адраджэння, добра разумелі ролю беларускай мовы ў дасягненні гэтай гістарычнай важнасці мэты. Прычына недаацэнкі дадзенага фактару тлумачыцца тым, што шмат хто і з беларускай інтэлігенцыі не валодаў роднай мовай, паколькі быў выхаваны ў сям’і, у вышэйшых і сярэдніх навучальных установах на духоўных, педагагічных традыцыях чужых народаў.

З прычыны кароткатэрміновага існавання газеты “Наша доля” яна не паспела многае зрабіць дзеля ўмацавання пазіцый роднага слова беларусаў. Затое багатыя набыткі ў гэтым мела газета “Наша ніва”. На яе старонках была змешчана велізарная колькасць артыкулаў, у якіх абгрунтавана, пераканаўча даводзілася чытачам пра самабытнасць беларускай мовы, непадзельнае пана-ванне апошняй у службовым справаводстве ў статусе адзінай дзяржаўнай у перыяд існавання Вялікага Княства Літоўскага. Знаёмства з такімі матэрыяламі дапамагла многім стаць яе свядомым носьбітам. Дзякуючы газеце дзесяткі здольных ад прыроды да літаратурнай дзейнасці людзей выраслі ў прафесійных беларускіх празаікаў і паэтаў. Ва ўсіх дасягненнях нацыянальна-культурнага руху пачатку XX ст., несумненна, ёсць велізарны ўклад і газеты “Наша ніва”. Ад таго часу, як яна пачала выдавацца, беларуская літаратура, пісаў Сяргей Палуян, “знайшла грунт пад сваімі нагамі”, стала моцна ўплываць на ўсе бакі жыцця нашага краю. “Калі раней кожны год прыносіў нам адну толькі страту, калі нашая інтэлігенцыя, адрокшыся ад усяго роднага, старалася забіць народнае пачуццё у нашых народных масах, калі

[1] Наша доля. 1906. 1 верасня (№ 1).

з кожным годам расла лічба абрусеўшых і спольшчаных беларусаў, то цяпер справа саўсім іншы мае выгляд. Свядомая сваёй нацыянальнасці частка інтэлігенцыі робіць па сумлен-ні сваю работу, нягледзячы на цяжкія варункі жыцця, на вялікія перашкоды".

Газета "Наша ніва" была сапраўднай трыбунай беларускага Адраджэння, чаго доўгі час не хацелі прызнаваць яго праціўнікі, беспадстаўна называючы газету нацыяналістычнай у бальшавіцкім разуменні гэтага слова. Яе любілі ўсе, хто не адышоў, не выракся матчынай мовы. Сацыяльнае становішча, веравыз-нанне, прыналежнасць да пэўных грамадска-культурных рухаў ужо не адыгры-валі аніякай ролі ў гэтай любові да дадзенага перыядычнага органа. Хоць ён у найбольшай ступені прызначаўся будзіць ад цемры і невуцтва простых людзей, яму фінансава дапамагалі і такія вядомыя на Беларусі зямельныя магнаты, як Вайніловічы, Івашкевічы і сама княгіня Магдалена Радзівіл.

Пераканаўшыся ў важнасці нацыянальнага друкаванага слова, беларускія адраджэнцы і ў тых зусім неспрыяльных умовах зрабілі надзвычай шмат для яго распаўсюджвання ў народзе. Для многіх ужо зусім не рэдкай з'явай было трымаць у руках і чытаць на роднай мове самага рознага зместу кнігі і брашуры, у т.л. і прызначаныя для дзяцей. Выданне кніг практыкавала і рэдакцыя газеты "Наша ніва". Дзякуючы яе старанням у 1912 г. выйшлі два нумары "Зборнікаў "Нашай нівы", у якія ўвайшлі выбраныя творы саміх аўтараў гэтай газеты. У лютым таго ж года на базе сельскагаспадарчага аддзела "Нашай нівы" ствараецца часопіс "Саха". Матэрыялы яго прысвячаліся сельскагаспадарчай тэматыцы, але паколькі яны падаваліся на беларускай мове, часопіс адыграў і немалаважную ролю ў нацыянальна-культурным абуджэнні, узгадаванні сваіх чытачоў. Не выпадкова цэнзура дала яму такую характары-стыку: "заўважаецца апазіцыйна-дэмакратычны дух і адценне беларускага сепаратызму"[1].

Важнай вяхой у гісторыі беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху з поўнай падставай можна прызнаць далейшае пашырэнне яго ў асяроддзі маладых пакаленняў. Адбылося такое зусім не стыхійна. Яму папярэднічала вялікая крапатлівая праца людзей старэйшых узростаў па ўзгадаванні моладзі ў нацыянальным духу. І тут не апошнюю ролю адыграў друк. Яго ўплыў набыў асаблівую моц тады, калі са студзеня 1914 г. у Мінску пачаў выходзіць дзіцячы краязнаўчы часопіс "Лучынка". Заслуга ў гэтым належала рэдактару газеты "Наша

[1] Александровіч С.Х. Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX-пачатку XX стагоддзя. Мн., 1971. С. 235.

ніва” Александру Уласаву. Усю ж асноўную працу па выданні і рэда-гаванні часопіса выконвала добра вядомая на той час дзеячка на ніве бела-рускага прыгожага пісьменства Элаіза Пашкевіч (Цётка). У часопісе было шмат надрукавана яе асабістых твораў, у якіх найчасцей гаворка ішла пра прабле-мы нацыянальнай школы, родную культуру і мову. Знаёмства з яе творамі дапамагло многім маладым людзям правільна вызначаць сваю пазіцыю ў нацыянальна-культурным Адраджэнні. Асабліва паспрыяў ім ў гэтым пера-давы артыкул трэцяга нумара часопіса “Шануйце роднае слова”. У ім Цётка з такімі словамі звяртаецца да моладзі: “Вы, маладыя, найчасцей пападаеце між чужых людзей, што вашай мовы не шануюць, “простай”, “мужыцкай” завуць. З вас часта насмяхаюцца, калі гаворыце па-свойму. І вы, чуючы гэта, пачынаеце саромецца матчынай мовы, свайго народу, сваёй радні…”[1]. Каб пераадолець гэты моўны комплекс, Цётка вучыць моладзь стойка пераносіць такія здзекі, паверыць у прыгажосць роднага слова, ставіцца да яго ў адпаведнасі з заклікам паэта-адраджэнца Францішка Багушэвіча: “Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!”. З мэтай пераадолення характэрнага для многіх з-за працяглай палітыкі паланізацыі і русіфікацыі песімізму Цётка з ўсёй рашу-часцю заяўляе моладзі, што вокліч Францішка Багушэвіча ўжо “збудзіў прыспаныя сэрцы. Народ прачнуўся. Ён пазнаў, хто ён. Родная мова яго – загнаная, пагарджаная – паднялася высока і стае ўжо поруч з “панскімі” мовамі. І здабывае пашану ў людзей: людзі бачаць, што мы яе шануем, што яна для нас мае вялікую цану, – ды самі пачынаюць інакш глядзець і на нас, і на яе”[2].

Паколькі не ўсе на Беларусі аддавалі перавагу чытанню газет і часопісаў, якія ўжывалі кірыліцу, існавала патрэба ў выданні іх і лацінкай. Больш за ўсё пра гэта дбала інтэлігенцыя каталіцкага веравызнання, сярод якой на пачатку XX ст. сфармаваўся даволі моцны асяродак нацыянальна-самасвядомых ксяндзоў. Дзякуючы іх намаганням, са студзеня 1913 г. на беларускай мове пачала выходзіць газета “Bielarus”. З усіх яе аўтараў найбольш паслядоўнай адраджэнскай пазіцыі прытрымліваўся паэт Алесь Гарун, які выступаў пад псеўданімам А. Сумны. Яго верш “Браты! Дакуль мы будзем спаць?”, у якім былі такія радкі:

Браты! Дакуль мы будзем спаць
Страшнейшым сном, бо сном магілы!?
Браты! Ці не пара ўжо ўстаць –

[1] Цётка. Творы. Мн., 1976. С. 217.
[2] Тамсама. С. 218.

Да працы ўзяцца што ёсць сілы?[1]

стаў прычынай канфіскацыі віленскай цэнзурай дадзенага нумара газеты.

З публіцыстаў, якія змяшчалі свае творы ў газеце “Bielarus” пытанням беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння найбольш увагі надаваў Пётра Просты. Каб пакончыць з ілюзіямі, што яно можа набыць шырокі размах у нашым краі дзякуючы якойсьці знадворнай сіле, ён наступнымі словамі пераконваў чытача ў адваротным: “Толькі тыя народы былі сапраўды дужыя і шчаслівыя, каторыя сабе самі долю выкавалі, а тыя, што чакалі, злажыўшы рукі, пакуль ім доля з неба зваліцца, змарнелі і вымерлі. Наша будучыня – у нашых руках. Але каб яна была поўнай і прыгожай, усім нам трэба ўзяцца за працу. Ніхто не мае права адшывацца ад агульнай культурнай работы; думаць толькі аб сабе, шукаць толькі свае выгады, – гэта грэх і ганьба, за каторыя будзе мсціцца і Бог і Бацькаўшчына”[2].

Адмысловыя здабыткі ў беларускага пісьмовага слова меліся і на многіх астатніх дзялянках нацыянальна-культурнага руху. Як і ў іншых народаў, яно адыгрывала вырашальную ролю ў мабілізацыі масаў на змаганне супроць любых формаў культурна-моўнай асіміляцыі, дапамагала шмат каму пера-адолець цяжкія вынікі дэфармацыі нацыянальнай самасвядомасці.

Гэтыя здабыткі цешылі не толькі мясцовых беларусаў, але і тых, хто па розных прычынах жыў і працаваў па-за межамі Бацькаўшчыны. З радасцю вітаў першыя дасягненні беларускай літаратуры ў пашырэнні нацыянальна-адраджэнскай ідэі вядомы ў Расіі вучоны-славіст, этнограф, фалькларыст Мікалай Янчук (1859-1921, урадж. Канстанцінаўскага павета Седлецкай губерні). У артыкуле “Несколько слов о новейшей белорусской литературе”, змешчаным у 1913 г. у “Сборнике общества славянской культуры”, ён пісаў: “На гэты раз ужо ніякія – ні яўныя, ні тайныя – злыя сілы не заглушаць таго, што выпешчана самім народам і што зрабілася жыццёваю патрэбаю яго духоўнага існавання. Занадта шмат усемагчымага літаратурнага матэрыялу пушчана ў народны абыходак, каб можна было зніштожыць беларускую літаратуру, не зніштожыўшы самой народнасці”[3].

[1] Bielarus .1914. 2 красавіка.
[2] Bielarus. 1914. 3 студзеня.
[3] Труды Белорусского Государственного Университета в Минске. Мн., 1922. № 2-3. С. 288.

## §3. Нацыянальная адукацыя як найважнейшы складнік адраджэнскага працэсу

У нацыянальна-культурным руху на Беларусі не магло не заняць выключна важнага месца змаганне за адпаведную яе інтарэсам адукацыю. Ролю апошняй у гэтым працэсе ўсё больш пачынала разумець наша інтэлігенцыя. Адбывалася такое не дужа проста, бо адукацыю атрымлівала яна ў рускіх і часткова ў польскіх навучальных установах, дзе беларуская ідэя цалкам ігнаравалася. Да яе трэба было прыйсці нейкім уласным шляхам, праз глыбокі, крытычны аналіз усяго таго, што паспелі напісаць далёкія ад аб'ектыўнасці рускія і польскія вучоныя.

З радасцю адзначу: нягледзячы на велізарнае стараннe зацікаўленых бакоў, вышэйшая і сярэдняя спецыяльная руска- і польскамоўная адукацыя далёка не ўсіх беларусаў прывяла да адрачэння ад саміх сябе, ад сваёй прыроднай нацыянальнасці. Больш таго, некаторыя з іх, узбагаціўшы за час вучобы свой інтэлект, яшчэ мацней сцвярджаліся ў беларускасці, станавіліся свядомымі, непахіснымі носьбітамі ўласнай, а не чужой культуры і мовы. Вядома, напрыклад, які каштоўны ўклад у пашырэнне беларускага нацыянальна-культурнага руху ўнеслі студэнты Пецярбурскага універсітэта і перадусім браты Іван і Антон Луцкевічы, хаця іх бацькі і размаўлялі ў сям'і па-польску.

Прыхільнікам нацыянальнай сістэмы адукацыі для нярускіх народаў ніколі не быў і сам царскі ўрад. Ён упарта не згаджаўся на якія-небудзь перамены ў сістэме адукацыі з мэтай набліжэння яе да патрэбаў нацыянальных рэгіёнаў, дзе расла незадаволенасць тамтэйшай русіфікатарскай практыкай выхавання і навучання маладых пакаленняў. У адказ такім рэфарматарам царскі ўрад любіў спасылацца на тэзіс рускага палітычнага дзеяча і публіцыста С. Хамякова: “Руская асвета – жыццё Расіі”, з якога вынікала, што няруская, іншана-цыянальная асвета – гэта ўжо смерць Расіі, чаго ніяк не маглі дапусціць улады.

На пачатку XX ст., як ніколі раней, нягледзячы на ўсякія перашкоды, ідэя нацыянальнай адукацыі становіцца ўсё больш папулярнай, што можа раз-глядацца як сведчанне прасвятлення, абуджэння нярускіх народаў імперыі. Водападзел паміж двума процілеглымі поглядамі на дадзеную праблему меў тэндэнцыю да паглыблення, што абавязвала афіцыйныя органы народнай асветы да рашучых дзеянняў з мэтай абароны наскрозь прасякнутай рускім шавінізмам сістэмы адукацыі. Спрэс назіралася такая з'ява: чым больш у нацыянальных раёнах Расіі разгортваўся рух за арганізацыю навучання ў школах на родных мовах, тым з большай

напорыстасцю адхілялася гэта прыхільнікамі палітыкі цэнтральнай улады, сярод якіх заўсёды сустракалася нямала і адданых ёй вучоных. Погляды і першай і другіх вельмі добра выказаў ужо неаднаразова цытаваны мною П. Кавалеўскі: “На чале рускай народнай школы павінны быць пастаўлены рускія людзі. Выкладанне скрозь павінна быць на мове дзяржаўнага народа (г.зн. рускага. – Л.Л.), на рускай.

(…) У справе выхавання юнацтва мы павінны па-найстражэйшаму кіравацца асаблівасцямі і асноўнымі якасцямі нашай нацыі…”[1].

Чытаючы такія радкі, хтосьці з нацыянальна-самасвядомых, высокаадукава-ных беларусаў мог іх папросту павярнуць з рускай арыентацыі на беларускую і яшчэ больш зразумець неабходнасць пабудовы адукацыі ў краі згодна з яго гістарычнымі традыцыямі і духоўнай спадчынай. Да такога ж нацыянальнага прасвятлення беларусаў у пытаннях узгадавання сваёй маладой змены маглі прывесці і наступныя выказванні П. Кавалеўскага: “Адукацыя, як і выхаванне, павінна быць для рускіх **строга нацыянальнай**…

Мова ў школе … павінна быць абавязкова і непахісна **рускай**…

Вялікая задача нашых педагогаў настойліва культываваць у рускіх дзецях іх рускія нацыянальныя рысы і ўхіляць усё, што будзе іх прывабліваць на глебу касмапалітызму”[2].

Беларусь адносілася да ліку нацыянальных раёнаў, дзе гэтыя “рускія нацыянальныя рысы” ў адукацыі культываваліся з самым вялікім размахам. “Заслуга” ў гэтым не настаўнікаў, а тых, хто быў у адказе за арганізацыю тут дзейнасці ўстаноў народнай асветы. Што ж датычыць пазіцыі настаўнікаў, дык яна часта ішла ўразрэз з тымі, хто ўкараняў у школах “рускія нацыянальныя рысы”. Духам сапраўднага адраджэнства жыло настаўніцтва Слуцкага павета Мінскай губерні. Нягледзячы на забарону ўводзіць беларускую мову ў навучальна-выхаваўчы працэс, у ім яна ўсё ж у той ці іншай ступені прысутні-чала. Сведчаннем таму з’яўляецца закрыццё пасля рэвалюцыі 1905-1907 гг. 72 школ за вывучэнне ў іх беларускай мовы[3].

Словам, і практычны стан народнай адукацыі ў нашым краі, і ўсё тое, што пра гэтую сферу духоўнага жыцця пісалі зарубежныя вучоныя і іх калегі з Расіі, давалі інтэлігенцыі, асабліва педагагічнай, багата матэрыялу для глыбокага роздуму. А думаць – прычым з усёй сур’ёзнасцю – трэба было, бо анідзе ў царскай Расіі

[1] Ковалевский П.И. Национализм и национальное воспитание… С. 267, 268, 293.
[2] Там же. С. 345, 357, 397.
[3] Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мн., 1968. С. 227.

гэтак лёгка і доўга не ўдавалася трымаць народ у адрыве ад нацыянальнай адукацыі, як у нашым краі. Дзеткі Польшчы, Фінляндіі, Грузіі, Арменіі … ужо працяглы час вучыліся на роднай мове, а нашым гэта было забаронена ў заканадаўчым парадку. Шэраг нярускіх народаў, якія не мелі такой магчымасці да рэвалюцыйных падзей 1905-1907 гг., цяпер атрымлівалі яе. Аніякіх пазітыўных зрухаў у вырашэнні дадзенай праблемы не назіралася ў самым блізканароднасным да рускіх народзе – у беларусаў. Таму як крайне адмоўную з'яву ў духоўным жыцці Беларусі трэба адзначыць, што з усіх буйных нацыянальных рэгіёнаў Расіі толькі ў яе не развівалася на афіцыйнай аснове нацыянальная сістэма адукацыі. Тут мы істотна адставалі і ад суседняй Украіны. У розных тыпах яе сярэдніх навучальных устаноў у першыя дзесяцігоддзі ХХ ст. ужо выкладалі нацыянальную мову і славеснасць, гісторыю Украіны. Запісы ў пасведчаннях аб заканчэнні вучобы рабіліся на рускай і ўкраінскай мовах. Ведаючы пра падобную сітуацыю ў народнай адукацыі ў суседняй Украіне, усе сумленныя людзі Беларусі, а тым больш педагогі, ужо не маглі далей маўчаць, са спакойнай душой узгадоўваць дзяцей на чужых для іх нацыянальна-культурных традыцыях, у няроднай мове. Гаварыць пра гэтую лёсавызначальную для беларускай нацыі праблему сваім пачэсным грамадзян-скім абавязкам лічыла і рэдакцыя газеты "Наша ніва". Ужо на другім месяцы свайго існавання яна рашуча выступіла за ўвядзенне абавязковай бясплатнай народнай асветы, забеспячэнне для беларускіх дзетак права вучыцца на сваёй роднай мове. У далейшым гэты напрамак нацыянальна-культурнага руху стане яшчэ больш грунтоўна асвятляцца на старонках газеты. Прычым браліся за пяро, каб выказацца, не толькі настаўнікі, якіх найбольш за ўсіх хваляваў антыбеларускі стан адукацыі ў краі, але і прадстаўнікі іншых катэгорый інтэлігенцыі, а таксама простыя сяляне. Па ўсім відаць было, што асноўныя масы людзей не задавальняла рускамоўная адукацыя, ім хацелася ўзгадоўваць сваіх дзяцей у роднай мове. Гэта з усёй падставай можа разглядацца як фактар нацыянальнага абуджэння беларусаў. Важна было толькі не звужаць маштабу растлумачальнай асветніцкай працы з народам, каб ён пры першых няўдачах не адмовіўся ад свайго інтарэсу і памкненняў да нацыянальнай школы.

І такая праца праводзілася. Буйным дасягненнем трэба прызнаць арганіза-цыю выдання падручнікаў і дапаможнікаў, іншай літаратуры для беларускіх дзяцей на іх роднай мове. У маі 1906 г. у Пецярбургу была зарэгістравана першая легальная беларуская выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша аконца"

(старшыня Вацлаў Іваноўскі), якая ўжо ў ліпені таго ж года выпусціла кніжку "Беларускі лемантар, або Першая навука чытання", а неўзабаве і яшчэ кніжку "Першае чытанне для дзетак беларусаў", аўтарам якой з'яўлялася паэтка Цётка. Такім чынам, гэтыя першыя падручнікі і дапаможнікі выходзілі яшчэ да таго, як царскія ўлады афіцыйна згадзіліся адчыняць школы на беларускай мове. Той з настаўнікаў, які асмельваўся патаемна вучыць на ёй, цяпер меў для гэтага патрэбную літаратуру. Яе ахвотна набывалі ў сем'ях, дзе дзеці школьнага ўзросту ўзгадоўваліся ў адпаведнасці з нацыянальнымі інтарэсамі беларускага народа.

Практычна пад той час не ладзілася аніводнага калектыўнага мерапрыемства настаўнікаў, на якім не ўздымалася б пытанне пра неабходнасць для Беларусі мець сваю адмысловую нацыянальную сістэму адукацыю. Не абмінулі яго і на нелегальным з'ездзе настаўнікаў Мінскай губерні, што праходзіў па ініцыятыве маладога педагога Канстанціна Міцкевіча (Якуба Коласа) у ліпені 1906 г. у яго роднай вёсцы Мікалаеўшчына. З самым сур'ёзным намерам разгледзець шляхі стварэння школы, якая ўсёй сваёй сутнасцю была б звязана з патрэбамі роднага краю, ехалі настаўнікі ў маі 1907 г. на з'езд у Вільню. Тут было абвешчана аб заснаванні "Беларускага настаўніцкага саюза" і вырашана "дабівацца ўвядзення ў школе навучання на роднай мове"[1].

Не толькі думаць, а і штосьці канкрэтнае рабіць па ўнясенні ў адукацыю беларускіх пачаткаў дапамагаў станоўчы практычны досвед суседняй Украіны, якая ў сваім нацыянальна-культурным адраджэнні значна апярэджвала нас. На той час "на Украіне былі да некаторай ступені прызнаны правы мовы, і пачалася энергічная праца па ўкраінізацыі школы. У 1905-1907 гг. арганізаваны былі 150 таварыстваў "просвіты"[2].

Заклапочаныя, узважаныя размовы, што ўжо не першы год і гэтак грунтоўна вяліся вакол ідэі нацыянальнай адукацыі, не сталі марным лямантам у пустыні. Пры поўнай пасіўнасці, а найчасцей пры самым актыўным супраціўленні мясцовай адміністрацыі, у якой ніколі неставала чынавенства прарускай арыентацыі, сям-там гэтая ідэя станавілася рэальнасцю, няхай сабе і вельмі кволаю. Вядома, што на пачатку XX ст. беларуская школа існавала ў вёсцы Сані, што на Магілёўшчыне. Утрымлівалася яна на сродкі адданай беларускай ідэі асобы Канстанціна Гардзялоўскага. Адну зіму тут працаваў за настаўніка Канстанцін Міцкевіч. Школа часта зведвала патрэбу ў настаўніку беларускай мовы, бо педагагічныя навучальныя ўстановы не рыхтавалі кадры па дадзеным прадмеце.

[1] Ільюшын І.М., Умрэйка С.А. Народная асвета ў Беларускай ССР. Мн., 1967. С. 52.
[2] Милюков П.Н. Национальный вопрос. Берлин. 1925. С. 175.

22 верасня 1910 г. Канстанцін Гардзялоўскі звярнуўся у рэдакцыю газеты "Наша ніва" з лістом такога зместу: "Летась надта кепска выйшла, што дзеці не вучыліся беларускаму языку. Калі найдзеце ахвотніка, дык прысылайце яго да першага акцябра. Варункі мае ведаеце, 35 рублёў у месяц, навукі 6-7 месяцаў (да 1 мая), харчаванне апроч гэтага ..."[1].

Несумненна, выступаць рашуча і паступова за нацыянальную сістэму адукацыі штурхала беларускіх настаўнікаў і сусветная практыка. Не думаецца, што сярод іх цалкам адсутнічалі асобы, якія не чыталі б, што па дадзеным пытанні гаварылася ў 1909 г. у Англіі на міжнародным з'ездзе аб духоўным выхаванні, хаця б, да прыкладу, такое: "...лёс будучага кожнай нацыі ў руках паасобных людзей; людзі гэтыя – настаўнікі народных школ, якія сеюць той ці іншы пачатак у сэрцы дзяцей. Настаўнікі могуць быць дабрадзеямі чалавецтва, але могуць і загубіць цэлае пакаленне". Нашым настаўнікам не трэба было быць вельмі эрудзіраванымі асобамі, каб зразумець, што, вучачы сваіх дзетак на польскай ці рускай мовах (а такая ж заганная практыка ўжо доўжылася не адно стагоддзе!), яны акурат і губяць маладыя пакаленні беларускай нацыі.

З улікам той палітычнай сітуацыі, якая склалася ў краіне пасля рэвалюцыі 1905-1907 гг., цэнтральная ўлада, праўда, патроху мяняла сваю пазіцыю і часам не толькі не ішла ў адкрыты наступ на нацыянальную школу на сваіх ускраінах, а, наадварот, сям-там давала афіцыйны дазвол на іх заснаванне. Затое не збіралася маўчаць, падтрымліваць гэтую прагрэсіўную ідэю тая частка рускай інтэлігенцыі, якая непахісна стаяла на пазіцыях адзінай і непадзельнай імперыі, у якой усё, у т.л. і адукацыя, павінна быць толькі рускім. Гэтая ж частка інтэлігенцыі знаходзілася ў апазіцыі і да іншых відаў нацыянальных рухаў, лічачы, што ўсе яны не адпавядаюць інтарэсам галоўнага народа імперыі – рускага. Афіцыйны друк даваў самыя шырокія магчымасці для распаўсюдж-вання падобнага роду поглядаў у спадзяванні, што такім шляхам удасца калі не цалкам спаралізаваць, дык у значнай ступені аслабіць усе віды нацыянальных рухаў на велізарных прасторах царскай імперыі. Дзе-небудзь гэта і сапраўды ўдавалася, асабліва калі на бок улады і верных ёй ідэолагаў схіляліся мясцовая адміністрацыя і прадстаўнікі тутэйшай нацыянальнай інтэлігенцыі. Разам з тым, у некаторых месцах такіх вынікаў і не назіралася, на што былі свае прычыны.

---

[1] Александровіч Сцяпан. Гісторыя і сучаснасць. Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мн., 1968. С. 243.

## §4. Распрацоўка тэарэтычных асноў беларускай нацыянальнай ідэі

Афіцыйнага толку вучоныя, што не толькі ва ўсім падтрымлівалі антына-цыянальную палітыку царскага ўрада, а нават яшчэ і паказвалі шляхі паглыб-лення яе рэакцыйнай сутнасці, сваёй заўзятай абаронай рускага нацыяналізму, як не дзіўна, часам маглі не прытупляць, а, наадварот, насуперак свайму жадан-ню, абвастраць нацыянальныя пачуцці ў іншых народаў. І сапраўды, ці ж нельга было ім не запазычыць для сябе штосьці карыснага і павучальнага з таго, што пісаў М. Дурнаво пра рускі народ: "Сваім нацыянальным жыццём ён унясе ў агульную сусветную барацьбу за дабро больш, чым жыццём чужым, абясколерным, інтэрнацыянальным"?[1]. Прачытаўшы такое, кожны, хто яшчэ безнадзейна не захварэў на нацыянальны нігілізм, напэўна ж, пачынаў з большай павагай ставіцца да традыцый, духоўных каштоўнасцяў і свайго народа, бо толькі такім чынам і ён мог бы заявіць пра сябе свету.

Не дасягалі пастаўленай перад сабой мэты па ідэалагічнай апрацоўцы масаў буйныя дзяржаўныя палітыкі, рознага роду чыноўнікі цэнтральнага апарату Міністэрства ўнутраных спраў, Найсвяцейшага Сінода Расіі сваім непрыхава-на шавіністычным сцвярджэннем, што Заходні край (сюды ўключалася і Беларусь) – гэта "калыска рускай народнасці", рускай дзяржаўнасці, мовы і веры"[2]. Не дасягалі таму, што ўжо зусім іншы, праўдзівы погляд на гэты край сфармаваўся ў яго мясцовай, нацыянальна самасвядомай інтэлігенцыі, якая не пераставала клікаць масы да прыстойнага, змястоўнага жыцця паводле сваіх, а не чужых, суседскіх традыцый, даводзіць людзям, як важна шанаваць родную мову, мець нацыянальную сістэму адукацыі. І найлепш за ўсіх гэтую святую справу, як і на пачатку сваёй дзейнасці, рабіла рэдакцыя газеты "Наша ніва". На яе старонках чытач усё часцей сустракаўся з публікацыямі, у якіх ужо гаварылася не столькі пра гаротнае жыццё беларуса, колькі пра нацыянальна-культурнае адраджэнне краю.

Багата зрабіў для распрацоўкі тэарэтычных асноў, распаўсюджвання беларускай нацыянальнай ідэі крытык, публіцыст і празаік Лявон Гмырак, хаця Першая сусветная вайна вельмі рана пазбавіла яго жыцця. Нацыянальнаму пытанню ён прысвяціў наступныя артыкулы: "Беларускае нацыянальнае адраджэнне", "Мова ці гутарка", "Якой нам трэба школы", "Аб

[1] Ковалевский П.И. Национализм и национальное воспитание… С. 96.
[2] Витте С.Ю. По поводу непреложности законов государственной жизни. СПб. 1914. С. 179.

вясковай інтэлігенцыі” і інш. У другім з названых артыкулаў ён за святую павіннасць кожнага сумленнага інтэлігента лічыў данесці да розуму беларускага народа, што яго мова ні ў якім разе не ёсць нейкі дыялект рускай, што на ёй раней і болей за апошнюю друкавалася кніг, пачатак чаму паклаў Францішак Скарына. Палемізуючы з тымі, хто пісаў пра няздольнасць беларусаў даць свету Пушкіных і Талстых і сцвердзіць сябе як цывілізаваны народ, Лявон Гмырак заяўляў, што “геніі на каменню не родзяцца... Датчане, сербы, балгары, румыны і інш. народы лепей ад беларусаў жывуць, не дэнацыяналізаваны, а пісьменнікаў, роўных Талстому, у іх няма. Тым не меней ніхто, здаецца, не сумняваецца ў тым, што гэтыя народы маюць права да нацыянальнага жыцця. Маем яго і мы, беларусы...”[1]. Такі аптымізм быў надзвычай патрэбны ў асветніцкай працы з масамі, бо вельмі многімі ўпарта даводзілася ім бесперспектыўнасць усякага нацыянальнага адраджэння на Беларусі.

Накшталт сваіх сяброў Лявон Гмырак асабліва радаваўся, што апошнім часам людзі сталі большае значэнне надаваць адукацыі сваіх дзетак. Але не ўсімі яшчэ разумелася, што гэтая адукацыя ў нашым краі павінна быць нацыя-нальнай, беларускай. Ён вельмі пераканаўча паказаў, якія цяжкасці зведваюць дзеці ад таго, што дома яны гавораць па-беларуску, а ў школе вучацца ў рускай мове. Дадзены фактар затармажваў не толькі іх разумовае развіццё, але і адмоўна адбіваўся на дзіцячай псіхіцы. Выйсце з такога ненармальнага становішча бачылася толькі ў пераводзе рускай школы ў беларускую. Тым, хто сумняваўся ў здольнасці роднага слова беларусаў выконваць такую функцыю, Лявон Гмырак тлумачыў: ”У нашай мове ўсё чыста, што трэба, можна сказаць. Увесь народ гаворыць ёю, і слоў яму, каб ўсё выказаць, хапае. І газеты, і кніжкі, якія аб усім пішуць, у нашай мове выходзяць.., наша мова такая ж добрая, як і ўсе другія...”. А найбольш дарага за ўсё яна таму, “што першае слова, сказанае намі, было беларускае...”. На падставе вышэйвыкладзенага робіцца ва ўсіх дачыненнях вельмі слушная выснова: “...усюды мы, беларусы, павінны чуць беларускую мову: і ў храме Божым, і ў судзе – у роднай нашай мове, а не інакшай якой, павінна вясціся і навучанне нашых дзетак...

Усе школьныя кніжкі павінны быць дапасаваны да патрэб нашага народа і краю”[2].

Падобнае можна было сустрэць і ў выказваннях іншых шчыра заклапочаных лёсам Бацькаўшчыны людзей, што сведчыла

[1] Гмырак Лявон. Творы. С. 104.
[2] Тамсама. С. 112, 113.

не толькі пра іх здольнасць правільна зразумець заканамернасць, асаблівасці культурнага развіцця полі-этнічнай Расійскай імперыі, але і дастаткова высокі ўзровень нацыянальнай самасвядомасці, нястрымнае імкненне прабудзіць у народа інтарэс да сваіх духоўных каштоўнасцяў, жаданне жыць у адпаведнасці з імі, перадаць іх дапоўненымі, узбагачанымі новым пакаленням. І калі б на той час у асяроддзі беларускага народа такія заўзятыя ўдзельнікі нацыянальна-культурнага руху знаходзіліся ў пераважнай бальшыні, ён, несумненна, набыў бы больш шырокія прасцягі і эфектыўнасць. Да ўсяго гэтага Беларусь, будучы працяглы час аб'ектам жорсткай дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі, яшчэ не даспела.

За пэўную недарэчнасць трэба лічыць, што супраць беларускай нацыяналь-най ідэі іншым разам выступалі нават аб'яднанні і арганізацыі, у назвах якіх прысутнічала слова "беларускае". Не прызнавала беларускую нацыянальную ідэю і створанае пераважна дэнацыяналізаванай інтэлігенцыяй і чыноўнікамі на хвалі рэвалюцыі 1905-1907 гг. у Вільні "Белорусское общество". Яно "ўяўляла сабой дробнабуржуазную арганізацыю, заснаваную групай асобаў, што выйшлі са складу вядомага віленскага таварыства "Крестьянин". У кадэцкай газеце "Речь" (1909, № 10) "Белорусское общество" надрукавала сваю праграму, у якой адхіляла беларускую мову як мову навучання ў школах у сувязі з тым, што яна нібыта недастаткова распрацаваная, бедная[1]. З чэрвеня 1912 г. гэтае праваакцябрысцкіх, вялікадзяржаўных пазіцый таварыства наладзіла выпуск уласнай штодзённай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты "Белорусский вестник" (спыніла выхад у студзені 1913 г.). Адкрыта выступаючы супраць ужывання беларускай мовы ў перыядычным друку, выдавецтвах, адукацыі і іншых сферах духоўнага жыцця, рэдакцыя тым не менш не саромелася называць свой друкаваны орган "истинно белорусской газетой".

Пад той час, калі пісалася і гаварылася такая хлусня, дастаткова шырокія колы беларускай інтэлігенцыі – і галоўнае настаўніцтва – ужо мелі такі ўзровень тэарэтычнай падрыхтоўкі, нацыянальнай самасвядомасці, што не маглі прыняць на веру вышэйпрыведзеныя словы. Погляды "Белорусского общества" на беларускую мову рашуча адхіляліся і ў артыкуле "На каком языке учить в школах Белоруссии?", што быў змешчаны ў зборніку "Белорусский учитель" (Вып. I. СПб., 1909. С. 30). Яго аўтар лічыць, што беларускія паэты пішуць "бясспрэчна мастацкія рэчы чыстай

---

[1] Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986. С. 425.

беларускай мовай". Ёю ж напісаны і іншыя народныя і навукова-папулярныя выданні, "якія паказваюць, што гэтая мова мільёнаў можа далучыць іх да агульначалавечых ведаў". Ён выказвае неўразуменне, як гэта грамадская арганізацыя, называючы сябе беларускай, можа выступаць за выгнанне беларускай мовы са школы. Паводле яго цвёрдага перакanання, "Беларусь можа існаваць настолькі, наколькі ёсць нешта рэзка адрознае ад іншага чалавечага, арганічна ўласцівае беларускаму народу – а гэтай адрознай прыкметай толькі і можа быць мова народа, няма беларускай мовы – няма і беларускага народа…

Як жа можа "самастойна і незалежна" развівацца тая мова, якой не даюць культурнага руху, уводзячы ў школу іншую, не родную народнай масе мову?"[1].

Дадзенае пытанне хвалявала ўсё больш і больш беларускіх настаўнікаў. І для іх не з'яўлялася сакрэтам, што арганізацыя працы ўсіх тыпаў школ на роднай мове дзяцей – гэта той адзіны шлях, які дапаможа паставіць народную адукацыю на нацыянальны грунт, выратуе беларускі народ ад культурна-моўнай асіміляцыі, якую архітэктары дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі так упарта і настойліва ажыццяўлялі ў нашым краі праз школу.

Гэтай жа антыбеларускай справе, акрамя школ, аддана служыў і перыя-дычны рускамоўны друк, не выключаючы і педагагічны, у прыватнасці, штомесячны "Белорусский учительский вестник", які з мая 1910 да пачатку 1911 г. выходзіў у Магілёве (выдадзена 6 нумароў). На яго старонках трапля-ліся матэрыялы з яўна адмоўным стаўленнем да маладой беларускай мастацкай літаратуры, ідэі нацыянальнай школы. Прычым аўтарамі іх былі не чыноўнікі органаў народнай асветы, а самі настаўнікі. І гэта не павінна здзіўляць, бо Магілёўская губерня знаходзілася вельмі блізка да цэнтральнай часткі Расій-скай імперыі, адкуль магутнымі хвалямі насоўвалася на захад руская культурна-моўная асіміляцыя. Супраціўляцца ёй як след не маглі не толькі непісьменныя, але і адукаваныя беларусы, у т.л. і настаўнікі, якія прафесію педагога атрымлівалі ў рускамоўных навучальных установах. Нездарма вядомы беларускі этнограф і фальклярыст, археолаг Еўдакім Раманаў (1855-1922) біў у званы, апавяшчаючы грамадства, што на Магілёўшчыне гіне беларуская мова. На вялікі жаль, разумны, своечасовы набатны голас вучонага застаўся непачу-тым і для многіх настаўнікаў Магілёўшчыны. Адзін з такіх гора-настаўнікаў у "Белорусском учительском вестнике" не пасаромеўся нават падзяліцца са сваімі калегамі ўласным вопытам

[1] Антология педагогической мысли… С. 280.

адвучвання беларускіх дзяцей ад лексікі і фанетыкі іх роднай мовы[1].

Вялікую заклапочанасць з-за распаўсюджвання беларускай літаратурнай мовы на яе ж гістарычнай тэрыторыі выказвала і газета “Минское Русское Слово”. У артыкуле Б. Дабрышына “Замах на адзінства рускага народа” пасля крытыкі аўстрыйскіх уладаў за абмежаванне рускай культуры і мовы на тэрыторыі Галіччыны ён у той жа час выступае супраць стварэння адзінай для ўсіх украінцаў літаратурнай мовы. Такое меркаванне ў гэтага аўтара і да беларускай мовы. “Самой гісторыяй, – піша ён, – для ўсіх рускіх говараў (зразумела, і беларускага. – Л.Л.) выпрацавана агульная руская літаратурная і навуковая мова, у аднолькавай ступені зразумелая, блізкая і родная кожнай галіне адзінага рускага народа (уключаны і беларускі. – Л.Л.), таму што ў багатую скарбніцу гэтай мовы ўклалі свае дары ўсе рускія говары”[2]. Калі б украінская і беларуская інтэлігенцыя ўзяла пад казырок і рабіла так, як ёй раіў гэты аўтар, культура двух славянскіх народаў прыпыніла б сваё развіццё і непазбежна прыйшла б у заняпад. Такому не наканавана было адбыцца, чым беларусы ў значнай ступені абавязаныя азнаямленню з тагачасным нацыянальна-патрыятычным культурна-асветніцкім рухам на Украіне.

Украінскі народ меў больш тэарэтычна падрыхтаваную і нацыянальна спе-лую інтэлігенцыю, чым беларусы. Апошняя добра разумела, што поспех украінскага нацыянальна-культурнага адраджэння ў многім будзе залежыць і ад таго, як гэты працэс пойдзе ў іншых нярускіх народаў і асабліва беларускага, з якім шмат агульнага ў гісторыі, культуры і мове. Павольнае абуджэнне беларусаў ад спячкі, у што завяла іх хітрая, а часта і гвалтоўная асімілятарская палітыка свецкіх і духоўных уладаў царскай Расіі, не магло не турбаваць прагрэсіўную частку ўкраінскай інтэлігенцыі. Каб дапамагчы сваім заходнім братам, украінскія вучоныя з вялікай ахвотай пачалі даследаваць усё, што звязана з зараджэннем і развіццём беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Па-сур’ёзнаму ім цікавіўся вельмі малады на той час студэнт Кіеўскага універсітэта, сакратар Украінскага навуковага таварыства ў Кіеве Змітра Дарашэнка (1882, Вільня – 1951). Ужо ў першым дзесяцігоддзі XX ст. у яго выйшла шэраг публікацый па нацыянальным адраджэнні беларусаў, у якіх дадзена глыбокае і праўдзівае асвятленне гэтага з разраду надзвычай складаных ва ўмовах Беларусі працэсу.

---

[1] ЭГБ. Т. 2. Мн., 1994. С. 7.
[2] Минское Русское Слово. 1912. 15 сентября.

Актыўна прапагандавала беларускую нацыянальную ідэю вядомая ўкраін-ская грамадская дзеячка, педагог і публіцыст, адна з заснавальнікаў і рэдакта-раў украінскага педагагічнага часопіса “Світло” С. Русава (1856-1940). З пры-свечаных ёю дадзенай ідэі твораў у першую чаргу варта назваць: “Адраджэнне беларускай літаратуры” (Познание России. 1909. Кн. 3), “Беларускі песеннік з нотамі для народных і школьных хораў” (рэцэнзія ў часопісе “Світло”. 1911. № 7); “Беларускі каляндар на 1912 год” (рэцэнзія; тамсама, 1912, № 5).

Дабратворны ўплыў на нацыянальнае абуджэнне беларускай моладзі рабіла яе вучоба ў Кіеўскім універсітэце. Практычна кожны з нашых землякоў, якому пашчасціла закончыць гэтую прэстыжную ў краіне навучальную ўстанову, у той ці іншай ступені быў далучаны да беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Некаторыя ж з іх бралі актыўны ўдзел у ім ужо ў час вучобы. Датычыць гэта ў першую чаргу пісьменніка і крытыка дэмакратычнага накірун-ку Сяргея Палуяна (1890-1910). Бадай, не знойдзеш такой адметнай з’явы ў беларускім Адраджэнні, пра якую б ні сказаў свайго адмысловага слова і гэты здольны не па гадах літаратар. Асабліва вялікі рэзананс не толькі сярод настаўніцтва, але і самых шырокіх пластоў грамадства выклікаў яго артыкул “Пра нацыянальную школу на Беларусі”. Ён садзейнічаў фарміраванню цвёрдага пераканання ва ўсіх, што толькі праз нацыянальную школу ляжыць рэальны шлях да выратавання беларускага народа ад асіміляцыі, захавання сябе як сама-бытнай этнічнай супольнасці. Яшчэ і сёння не ўстарэла ні адно з палажэнняў гэтага артыкула, напісанага аўтарам, якому нават не споўнілася і дваццаці гадоў ад роду. Такое мы маем права сказаць пра ўсё астатняе, што пісаў С. Палуян, асабліва пра месца роднай мовы ў нацыянальным жыцці краю. Ён сам меў цвёрдае перакананне і ўсяк імкнуўся давесці яго да чытача, што “... калі мы паставім мэту – адрадзіць наш народ на нацыянальнай глебе, то нам у першую чэраду трэба адрадзіць сваю мову. Толькі тады ў нас будзе якоесь асобнае національнае жыцьцё, бо асобная мова – гэта і ёсць форма національнай асобнасьці”[1]. Пасля таго, як былі напісаны гэтыя словы, сусветная практыка, у т.л. і наша беларуская, ні на ёту не пахіснула іх праўдзівасць. І калі сёння беларусы не маюць ці маюць толькі ў самым зародкавым стане “асобнае національнае жыцьцё”, дык гэта толькі таму, што яны не адвялі свайму роднаму слову належнага месца ва ўсіх сферах дзейнасці чалавека.

---

[1] Наша ніва. 1909. № 35, 36.

С. Палуян належаў да тых актывістаў нацыянальнага руху, якія ўвесь час клікалі народ да больш актыўных і рашучых дзеянняў, скіраваных на абарону, пашырэнне рамак ужывання беларускай мовы “ня толькі на паперы, а ў грамадзкім жыцьці”. Да чытачоў газеты “Наша ніва” ён звярнуўся з такім пытаннем: “Але, паклаўшы руку на сэрцы, ці ўсякі з нас можэ сказаць, што ён шануе яе (беларускую мову. – Л.Л.)?” і сам дае на яго (пытанне) такі адказ: “Не! Яшчэ не згладзіўся векавечны праклён над ёю. Яшчэ многіе думаюць, што ў ёй калі і можна пісаць, то хіба якіесь сьмешныe рэчы, на ўцеху людзём. Ня могуць яны падняцца да таго, каб і сваю людзкай лічыць, не хавацца з ёю па хатніх кутках, а ў свет шырокі выносіць”[1]. За шчырую павагу да культуры і мовы род-нага народу С. Палуян здабыў сабе вялікую і заслужаную любоў у сваіх аднадумцаў. Яго заўчасную смерць многія ўспрынялі як сапраўдную нацыя-нальную трагедыю. Янка Купала прысвяціў яму паэму “Курган”, Ядвігін Ш. – апавяданне “Раны”, Максім Багдановіч – два вершы і свой адзіны прыжыццёвы зборнік вершаў “Вянок”.

Такія выдатныя асобы, як С. Палуян, не маглі б з’явіцца на свет, калі б на абсягах нашага краю не ўзнік, не шырыўся рух за нацыянальна-культурнае Адраджэнне. У сваю чаргу яно мацнела, развівалася толькі таму, што ў яго шэрагах з кожным годам большала людзей, падобных С. Палуяну. У бела-рускага народа зараджалася тая катэгорыя інтэлігенцыі, якая імкнулася жыць і жыла толькі яго інтарэсамі. Калі раней практычна ўсе нашыя найлепшыя сыны і дочкі ўліваліся ў польскую і рускую інтэлігенцыю, аддаючы свой талент гэтым суседнім народам, цяпер многія інтэгруюцца ва ўласнае нацыянальна-культур-нае жыццё, без рэшты прысвячаюць сябе эканамічнаму і духоўнаму росквіту дарагой Бацькаўшчыны. Служыць яе нацыянальна-культурнаму адраджэнню прызнавалася імі за найважнейшы свяшчэнны абавязак.

Самы буйны па колькасці пласт беларускіх інтэлігентаў жыў і працаваў у сельскай мясцовасці, адкуль яны пераважна былі і родам. Добра разумеючы значэнне вясковых народных традыцый для самабытнага існавання беларускай нацыі, яны рабілі нямала дзеля іх захавання і ўзбагачэння. Асабліва прыкметна была ў гэтым роля вясковых настаўнікаў. Хаця вучыць дзяцей даводзілася паводле патрабаванняў і правілаў рускай педагогікі, апантаныя беларускасцю настаўнікі ўмела прышчаплялі любоў да яе ў маладых пакаленняў, усяк імкнуліся даць ім неабходныя веды па гісторыі і культуры роднага краю. А даваць такія веды крайне

[1] Тамсама.

важна было, бо на пачатку XX ст. і на вёску ў вялікай колькасці паступала рускамоўных газет і часопісаў, старонкі якіх стракацелі шавіністычнай накіраванасці матэрыяламі, са зместам якіх правільна маглі разабрацца толькі адукаваныя людзі. Актывісты, ідэолагі беларускага нацыя-нальнага Адраджэння заклікалі такіх людзей да паўсядзённай асветніцкай працы з вяскоўцамі, каб адгарадзіць іх ад шкоднага ўплыву рускага вяліка-дзяржаўнага шавінізму. Такое не заўсёды ўдавалася і зачастую па віне мясцовай адміністрацыі, якая неадступна праводзіла ў сваім краі курс цэнтральнай улады на ўсямернае пашырэнне рускага ладу жыцця.

## §5. Стаўленне хрысціянскага духавенства да беларускай нацыянальнай ідэі

У многіх адносінах супярэчную беларускай нацыянальнай ідэі дзейнасць вяла ў народзе праваслаўная і каталіцкая царква. Такое вельмі рэдка дзе назіра-лася ў сусветнай практыцы. Звычайна царква заўсёды асвячала рух свайго народа за дзяржаўную незалежнасць, стаяла на абароне яго духоўнай спадчы-ны, усяк садзейнічала ўмацаванню этнічнай, нацыянальнай самасвядомасці вернікаў. Усімі гэтымі якасцямі празмерна былі надзелены ва ўсе часы Праваслаўная Царква Расіі і Каталіцкі Касцёл Польшчы, прычым да такой ступені, што не грэбавалі прышчапляць нацыянальна-духоўныя стандарты сваіх народаў і беларусам. І прышчаплялі так спрытна, што многія беларусы праваслаўнай веры беспадстаўна лічылі сябе за рускіх, а каталіцкай – за палякаў. Гэтая ржаўчына так глыбока раз'ела і працягвала раз'ядаць беларускі арганізм, што без прыняцця адпаведных папераджальных захадаў з цягам часу ў нашым краі без усякіх кровапралітных войнаў не засталося б аніводнага беларуса. З хрысціянскай нацыяй – як нядзіўна! – пакончыла б само хрысціняства. Яго антынацыянальная, антыбеларуская роля станавілася ўсё больш зразумелай для шырокіх колаў інтэлігенцыі.

Не ваяваць з гэтым злом ужо ніяк нельга было, бо з кожным годам актывізоўвалася, набывала ўсё больш пагражальны характар дзейнасць дзвюх хрысціянскіх канфесій – праваслаўнай і каталіцкай – па дэнацыяналізацыі сваіх жа вернікаў з мэтай далучэння, зліцця адной часткі іх з рускім, другой – з поль-скім народамі. Як высветліцца, выратаванне малаадукаваных масаў ад такога шкоднага ўздзеяння царкоўнікаў станецца зусім нялёгкай справай, бо шмат хто з людзей больш верыў ім, чым каму-небудзь з

мясцовых інтэлігентаў, якія гаварылі адваротнае таму, што даводзілася чуць у хрысціянскіх храмах.

Не спужаўся быць незразумелым, непачутым вернікамі за растлумачэнне ім антынацыянальнай дзейнасці на Беларусі і служыцеляў культу згаданы вышэй крытык і публіцыст Л. Гмырак. Бадай, ніхто яшчэ да яго так пераканаўча не выказаўся, што нацыя і рэлігія – гэта зусім розныя між сабою паняцці. Каб малаадукаваны чалавек лепш зразумеў такое, Л. Гмырак звяртаў яго ўвагу на тое, што ў свеце існуе звыш трох тысяч нацый і народнасцяў, што намнога больш за колькасць вер. "Вось тут адразу кідаецца ў вочы тое, – пісаў ён, – што нацыя і рэлігія не адно і тое ж, калі нацый ёсць болей, як вер. Далей мы ведаем, што, часта бывае, адной веры ёсць некалькі народаў. Так, напрыклад, праваслаўнай веры трымаюцца большая частка беларусаў, расейцы, украінцы, балгары, грэкі, сербы, грузіны, румыны і інш.; каталіцтва прызнаюць меншая частка беларусаў, палякі, літвіны, французы, італьянцы, іспанцы, чэхі, частка немцаў і шмат іншых народаў…"[1] Л. Гмырак звярнуў увагу і на тое, што нацыя можа вызнаваць некалькі рэлігій, але гаворыць на адной мове, складаючы адзін народ. Гэтага не разумеюць не толькі непісьменныя людзі. Блытаць дадзеныя паняцці ёсць ахвотнікі і сярод вучоных, што стаяць на пазіцыях рускага і польскага ваяўнічага нацыяналізму. "Робяць яны гэта, – працягвае Л. Гмырак, – саўсем не праз тое, што не ўмеюць адрозніць нацыі ад рэлігіі, яны гэтую розніцу добра ведаюць і разумеюць, што нацыя адно, рэлігія другое; яны тутака толькі наўмысна прытвараюцца дурнямі, каб задурыць і збіць з толку цёмны народ… Мэта іх тая, каб перарабіць беларусаў на расейцаў ці палякаў.., вось яны круцяць, муцяць, не прызнаюць беларусаў народам, не дапушчаюць беларускай мовы ў царкву і касцёлы"[2].

Гэтую заганную антынацыянальную і ў роўнай ступені антыхрысціянскую практыку ў царкоўна-рэлігійным жыцці Беларусі ўсё больш пачыналі разумець, рашуча адхіляць не толькі высокаадукаваныя, з належным узроўнем нацыя-нальнай самасвядомасці свецкія людзі. Не пагаджаліся, асуджалі яе (практыку) і некаторыя духоўныя асобы, найчасцей з ліку дзеячоў Каталіцкай Царквы. Іх калегам з праваслаўя значна цяжэй было стаць на шлях беларускага нацыя-нальнага Адраджэння, паколькі высокія кіраўнікі гэтай канфесіі вельмі пільна сачылі за тым, як цэрквы на месцах праводзяць лінію па ўмацаванні рускіх пачаткаў у асяроддзі праваслаўнага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю

[1] Гмырак Лявон. Творы… С. 133, 134.
[2] Тамсама. С. 135.

Расіі. А вось каталіцкія святары былі больш-менш вольнымі ад такога кантролю зверху, што развязвала іх рукі, дазваляла нешта карыснае рабіць і для беларус-кай нацыянальнай ідэі. Шчырыя прыхільнікі яе ўзгадоўваліся з ліку тых нашых землякоў, што вучыліся у Пецярбургскай духоўнай семінарыі і Пецярбургскай духоўнай акадэміі. З 1914 г. у ёй на пасадзе прафесара працаваў вельмі пра-грэсіўны паводле сваіх поглядаў Фабіян Абрантовіч. Пад яго непасрэдным уплывам амаль кожны з беларусаў, што закончыў акадэмію, лічыў, што касцёл у нашым краі не павінен быць праваднікам пальшчызны, памяркоўна ставіўся да выкарыстання роднай мовы ў набажэнстве і шмат рабіў дзеля таго, каб гэта станавілася рэальнасцю.

З вялікім жаданнем служыць нацыянальнаму ідэалу вяртаўся дамоў пасля заканчэння ў 1910 г. Пецярбургскай духоўнай семінарыі Аляксандр Астрамовіч (літ. псеўданім Андрэй Зязюля). Касцёлы, у якіх яму даводзілася служыць, з цягам часу ператвараліся ў сапраўдныя беларускія нацыянальна-культурныя асяродкі, што не падабалася не толькі высокім каталіцкім духоўнікам, але і прарускай мясцовай адміністрацыі. Беларускую ідэю ўмела і настойліва ён прапагандаваў на старонках газеты “Наша ніва”. У 1912 г. разам са збіральнікам беларускага музычнага фальклору, выдаўцом, педагогам і кампазітарам Антонам Грыневічам ён выпусціў другі том “Беларускіх песень з нотамі”. У наступ-ным годзе з’явіўся з друку яго першы зборнік вершаў “З роднага загону”, якія ў роўнай ступені вызначаліся як належнай паэтычнасцю, так і высокім нацыя-нальна-беларускім патрыятызмам.

У баку ад бурных падзей, якія былі выкліканы рэвалюцыяй 1905-1907 гг. і прывялі ў рух шырокія колы людзей, не маглі заставацца тыя з дзеячоў каталіц-кай канфесіі, што належалі да хрысціянскіх дэмакратаў. Напачатку іх асноўныя патрабаванні зводзіліся да надання Беларусі статусу нацыянальна-культурнай аўтаноміі ў складзе Расіі, увядзення беларускай мовы ў набажэнства касцёла, навучальна-выхаваўчы працэс школ. З мэтай прапаганды гэтых ідэй пачалі ствараца гурткі. Пачатак ім паклаў гурток, заснаваны ў 1911 г. у Вільні ксяндзом Адамам Станкевічам. Гэта быў вельмі адданы беларускай ідэі духоў-нік, чым здабыў сабе вялікую папулярнасць ў шырокіх колах інтэлігенцыі і шараговага люду. Да працы ў гуртку ён змог прыцягнуць нямала актыўных змагароў за беларускае Адраджэнне, у іх ліку ксяндзы Язэп Рэшаць, М. Шал-кевіч, Андрэй Цікота, Вінцэнт Лукша, Казімер Стэповіч, а са свецкіх асобаў – Францішак Аляшкевіч, Аляксандр Аўгустыновіч, Мікалай Кавалеўскі і Язэп

Дашута. Кожны з іх як толькі мог спрыяў пашырэнню нацыянальна-культурнаму руху, бачачы ў ім магутную сілу дзеля абуджэння беларускага народа ад спячкі, у якую ён пагрузіўся пад уплывам асімілятарскай палітыкі свецкай і духоўнай улады царскай Расіі. Хрысціянскія дэмакраты стварылі беларускі гурток з аналагічнымі мэтамі і ў Пецярбургскай Духоўнай Акадэміі, у працы якога бралі ўдзел пераважна ксяндзы, у тым ліку П. Пякарскі, Францук, Ігнат Жаўняровіч, Вінцэнт Гадлеўскі[1].

Факт узнікнення і пашырэння на рубяжы XIX-XX ст. нацыянальна-вызва-ленчага руху сярод каталіцкіх святароў можа разглядацца ў якасці найважней-шага чынніка беларускага Адраджэння. Гэты рух мог бы набыць і яшчэ большыя прасцягі, перакінуцца на праваслаўны клір Беларусі, каб ён не знаходзіўся ў такой моцнай залежнасці, падпарадкаванасці ад Найсвяцейшага Сінода.

## §6. Узрастанне папулярнасці адраджэнскага руху

Насуперак русіфікатарскай палітыцы царызму, дэструктыўнай дзейнасці асноўных хрысціянскіх канфесій ў дачыненні да беларускай нацыянальнай ідэі і шэрагу іншых прычын, яна не толькі не траціла, а, наадварот, набывала, хоць і не ў жаданай ступені, аўтарытэт у народзе. Шмат што стваральнага ў гэтым плане рабіла народжаная ў яго асяроддзі інтэлігенцыя. Моцна перашкаджала паглыбленню этнічнай дэфармацыі беларусаў вёска з яе трывалымі нацыя-нальна-культурнымі традыцыямі.

Як пазітыўнае можна адзначыць, што на пачатку XX ст. пэўныя прыкметы разумення свайго нацыянальнага "Я" сталі ўсё ў большай ступені праяўляецца і сярод дробных чыноўнікаў беларускага паходжання, у т.л. праваслаўнага веравызнання. Гэтыя прыкметы не раз траплялiся на вочы маладому публіцысту Лявону Гмыраку, які так характарызаваў іх: у расейскую гаворку дробных чыноўнікаў, што выйшлі ў людзі з беларускай вёскі, свядома ўводзяцца звароты і словы з роднай мовы. "У сваёй кампаніі беларушчына лунае побач з расейскім. Сутыкаючыся на службе с чыноўнікамі вялікаросамі, беларусы не надта з імі сябруюць, усё болей сваёй кампаніі трымаюцца; часамі паміж тутэйшымі і наезднымі нават праяўляецца нейкі антаганізм". Праўда, такое "пачуцьцё лёкальнай асобнасці", паводле меркаванняў Л. Гмырака, шмат слабей, чым на Украіне[2].

[1] Гамулка Крыстына. Беларуская хрысціянская дэмакратыя (1918-1939). Наша слова. 1996. 5-11 снежня.
[2] Гмырак Лявон. Беларускае нацыянальнае адраджэньне. У кн.: Вялікодная пісанка 1914 год. Вільня, 1914. С. 14.

Нельга не адзначыць і таго, што нацыянальны рух на Беларусі ахапіў даволі значную частку асобаў з высокай адукацыяй, якія добра бачылі цяжкія наступствы вялікадзяржаўнай палітыкі для народа і гатовыя былі ісці на сур'ёзныя ахвяры дзеля вызвалення яго ад нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту.

Што ў беларускім нацыянальна-культурным Адраджэнні таго часу бралі ўдзел самыя эрудзіраваныя людзі, можна пераканацца і з біяграфічных звестак Уладзіміра Самойлы. У нашую гісторыю ён увайшоў як глыбокаўдумлівы філосаф-эстэтык, таленавіты публіцыст (працаваў у газетах "Северо-Западный край" і "Минский курьер"), даследчык беларускай, польскай і іншых літаратур, паэт і празаік. Вучачыся ў Пецярбургскім універсітэце, ён адначасова наведваў заняткі на філасофскім, хімічным і медыцынскім факультэтах, а пазней яшчэ і на гісторыка-філалагічным. Да ўсяго гэтага неабходна дадаць, што Уладзімір Самойла валодаў сямю мовамі[1]. Умудраўся і ў рускамоўных перыядычных вы-даннях адстойваць законнае права беларусаў на нацыянальную школу.

Важна, што беларускі нацыянальна-культурны рух усё больш сталеў у асяроддзі насельніцтва буйных гарадоў, асабліва Вільні і Мінска, якое пачало інтэнсіўна папаўняцца выхадцамі з навакольных вёсак з уласцівымі ім спрад-вечнымі трывалымі народнымі традыцыямі. У выніку такой міграцыі мянялася, праўда, вельмі павольна, крайне неспрыяльная для нармальнага развіцця беларускай нацыі этнічная структура насельніцтва гарадоў. У іх колькасна пераважалі яўрэі, рускія і палякі, што самым непасрэдным чынам уплывала на быт і культуру дадзенага тыпу рассялення людзей. Беларусы ж сваёй колькасцю не маглі тут па-сапраўднаму заявіць пра сябе. Паводле даных Усерасійскага перапісу насельніцтва 1897 г. у Мінску жыло іх толькі 8,2 тыс., Магілёве – 12,9, Віцебску – 8, Гомелі – 6,5, Гродне – 5,4. Затое ў Пецярбургу іх было 66,5 тыс., Маскве – 15,9, Адэсе – 16,9[2], таму невыпадкова ў гэтых гарадах беларуская нацыянальная ідэя часта мела даволі трывалыя пазіцыі, з'яўлялася прадметам самага глыбокага і сур'ёзнага абмеркавання яе шчырымі носьбітамі, знаходзіла ўвасабленне ў жыццё. Сказанае ў найбольшай ступені датычыла Пецярбурга, дзе былі вельмі моцныя беларускія культурна-адраджэнскія традыцыі.

Словам, многае з таго, што назіралася ва ўнутраным жыцці Беларусі і за яе межамі на пачатку XX ст., сведчыла, што і тут

---

[1] Літаратура і мастацтва. 1998. 6 лютага. С. 15.
[2] Панютич В.П. К вопросу о развитии отхожих промыслов в Белоруссии в эпоху капитализма 1861-1914 гг. //Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. Вильнюс. 1964. С. 638.

поўным ходам, з большым размахам, чым у папярэднія гады, ідзе працэс нацыянальна-культурнага Адраджэння. Не заўважаць апошняга маглі толькі яго ярыя праціўнікі ці зусім непісьменныя людзі. Як станоўчае трэба прызнаць, што ў нацыянальную ідэю паверылі ва ўсіх кутках Беларусі і людзі самых розных сацыяльных станаў. Бачыць сваю родную зямлю пад нацыянальным прыгнётам, без уласнага аблічча станавілася да болі крыўдна ўсё большай колькасці беларусаў. Не цярпелі такой несправядлівасці і тыя з іх, што жылі ў геаграфічным цэнтры Беларусі – Мінску. У лістападзе 1909 г. з нагоды трохгоддзя ад часу выхаду першага нумара газеты "Наша ніва" з гэтага горада прыйшоў на яе адрас ліст, у якім звяртаюць на сябе ўвагу наступныя радкі: "Больш за 300 гадоў гасіўся народны дух, але ён не патух, цяпер сьведамасць ўласнай чэлавецкай годнасці ўжо нічым пагасіць ня можна. Уваскрасае народны дух, і гэтае ўваскрашэнне ёсць першый дасьвед экономічнаго і культурнаго адрадзэньня края"[1].

Што ў першае дзесяцігоддзе XX ст. і Беларусь не абмінуў рух за адраджэньне, быў цвёрда перакананы і С. Палуян. "Доўга мы спалі, – пісаў ён, – доўга ціхімі крокамі набліжаліся да ідэі національнаго вызваленьня і … набралося такіх сіл для вытварэньня ўласнаго національнаго жыцьця"[2].

Шчыра радаваўся, што ў гаротным лёсе беларускага народа маюць месца станоўчыя перамены, рэдакцыйны калектыў газеты "Наша ніва". У яе 42-м нумары за 1912 г. з вялікім пафасам адзначалася: "… мы можам смела глядзець у будучыню: народ прачнуўся, ён ідзе наперад – да лепшай долі…"

Аднак далёка не ўсе нацыянальна-сумленныя беларусы былі задаволеныя размахам адраджэння роднай Бацькаўшчыны. Да іх належаў і С. Ясяновіч. Высока ацэньваючы, што зроблена дзеля ладкавання нацыянальнага жыцця аднамільённым чувашскім народам, ён ставіць пытанні перд сваймі суплямен-нікамі: "Што-ж тады рабіць нам беларусам, вялікаму 10-мільённаму народу. Ці не мусіць быць наша справа ў многа разоў лепей пастаўленай?" І на іх (пытан-ні) дае адказ: "Так, мусіць, а мо калі і будзе… А пакуль што мы такі добра ўмеем спаць, ды час ад часу с прасоньня паглядаць на здабыткі суседзеў"[3].

Адмаўляць, што многія тады і сапраўды спалі, знаходзіліся ў баку ад актыўнага ўдзелу ў нацыянальным жыцці, няма сур'ёзных падстаў. Яно было ў нездаровым стане, бо вечна хтосьці ўмешваўся ў яго, расхістваў прыродныя асновы культуры беларусаў, не даваў

---

[1] Наша ніва. 1909. № 47.
[2] Тамсама. 1909. № 35-36.
[3] Тамсама.

прасторы іх роднай мове. Усякія спробы адбудавацца жорстка душыліся свецкімі і духоўнымі ўладамі, адсюль недавер, спячка пэўнай часткі людзей. Аднак іх лік ні ў якім разе нельга перабальшваць. Пачатак новага стагоддзя ўжо быў нечым значна большым, чым толькі пачатак новага беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Калі раней на гэтую праблему глядзелі як на штосьці выключна тэарэтычнае, дык цяпер яна набывае і практычныя рысы, хвалюе ўсё больш людзей, спецыяльна выносіцца і абмяркоўваецца на старонках перыядычнага друку, кніг і брашур.

Увагу многіх да дадзенай праблемы прыцягнуў грунтоўны артыкул Л. Гмы-рака “Беларускае нацыянальнае адраджэнне”, які быў змешчаны ў выдадзеным у 1914 г. у Вільні зборніку “Вялікодная пісанка. 1914 год”. Аўтар справядліва адзначае вялікую ролю ў разгортванні нацыянальнага руху з’яўлення літаратур-ных твораў на беларускай мове, адпаведнай накіраванасці працы настаўніцтва сярод навучэнцаў і дарослых. Прызнае, што на пачатку XX ст. шмат зрабіла дзеля нацыянальнага абуджэння народа Беларуская сацыялістычная грамада. Звярнуў увагу Л. Гмырак і на карысную для беларускай справы дзейнасць народных тэатраў і хораў, якія закладаліся не толькі ў буйных гарадах, але і мястэчках. Зразумела, такога шчырага патрыёта сваёй Бацькаўшчыны не ў поўнай меры задавальняў размах нацыянальнага Адраджэння, якому тварылася шмат перашкодаў і забаронаў. Ён клікаў да нястомнага змагання з праціўнікамі беларускай справы, быў да канца ўпэўненым у поспеху, настойліва перакон-ваючы людзей у магчымасць перамогі. “Національна сьвядомые беларусы, – пісаў ён, – цьвёрда веруць у тое, што калі варункі палепшаюць – будзе можна вясьці шырэйшую работу, калі ўвесь беларускі народ даведаецца аб гэтым ды здалее падаць свой голас у гэтай справе, то ён зусім ясна і адкрыта стане на старане тых, каторые “падалі голас” у абарону свайго народу. Тады справу беларускаго національнаго адраджэньня возьме ён на свае магутные плечы, і зусім ня страшны ёй будуць усе патугі ворагаў ды іх нападкі”[1].

Такая вера ў падтрымку народам адраджэнскай справы з’яўляецца лішнім доказам яе моцы і жыццёвасці. А калі шырокія пласты людзей уключаюцца ў рух за сваё нацыянальнае адраджэнне, значыцца, ёсць гарантыя іх выратавання ад культурна-моўнай асіміляцыі, ёсць надзея на далейшае нармальнае развіццё на сваёй прыроднай аснове. Усім, хто знаходзіўся на правым флангзе змагання за нацыянальна-культурнае Адраджэнне, робіць вялікім гонар, што яны ў тых далёка не спрыяльных

[1] Вялікодная пісанка. 1914 год. Вільня. С. 29, 30.

варунках змаглі пераламаць ход гісторыі, якая, здавала-ся, нічога не пакідала для беларусаў як толькі паглынанне іх больш шматлікімі народамі – рускім і польскім. Гісторыя нібыта зноў пачала паварочвацца тварам да беларусаў, пераконвала, што яны становяцца, ідуць правільным шляхам, з якога аніяк нельга сыходзіць ні ўлева ні ўправа.

Наяўнасць адраджэнскага руху на Беларусі прызнаваў і рускі перыядычны друк. Так, у часопісе “Познание России” за 1909 г. быў змешчаны артыкул Софіі Русавай “Адраджэнне беларускай літаратуры”. Некалькімі гадамі пазней у пасланым з Вінніцы лісце на адрас газеты “Наша ніва” гэтая ж аўтарка па-ведамляла, што збіраецца ўвосень 1914 г. прачытаць у Кіеве даклад “Нацыянальны рух у Беларусі”, таму прасіла рэдакцыю выслаць ёй “навінкі беларускай літаратуры, а таксама падрабязныя звесткі пра новыя культурна-асветныя і грамадскія таварыствы і арганізацыі”, адзначыць, хто з беларускіх жанчын бярэ ўдзел у нацыянальным руху[1].

Аднак у той час у рускай манаграфічнай, навукова-папулярнай літаратуры, падручніках і дапаможніках, перыядычным друку намнога больш пісалі негатыўнага, чым станоўчага пра беларускі нацыянальна-культурны рух, што, несумненна, адмоўна ўплывала на яго размах. Асабліва вялікую шкоду сваімі працамі і практычнымі дзеяннымі прычынялі беларускай справе прыхільнікі “заходнерусізму”, якія не лічылі наш народ за самастойную і самабытную этнічную супольнасць, атаясамлівалі яе з велікарусамі. Хутчэй з пэўных сацыяльных выгодаў, а не паводле перакананняў пачалі далучацца да “заходнерусізму” і асобы беларускай нацыяльнасці, што вельмі ўхвалялася ідэолагамі і буйнымі практыкамі русіфікатарскай палітыкі. Не ўстаяў на трывалым беларускім нацыянальным грунце, адышоў ад аб’ектыўнасці нават наш таленавіты вучоны-філолаг Яўхім Карскі. Беларускую супольнасць ён разглядаў як “галіну рускага народа”, беларускую мову – як “заходнярускую галіну сярэднярускіх гаворак”, лічыў мэтазгодным навучаць беларускай мове толькі ў пачатковай школе, а “сярэдняя ж і вышэйшая адукацыя, навука могуць забяспечвацца выключна праз “агульнарускую мову”[2]. Гэта яўна супярэчыла прагрэсіўным поглядам нашых адраджэнцаў на этнічную самабытнасць беларускага народа, ролю адукацыі на роднай мове дзеля яго нацыянальна-духоўнага развіцця.

Свайго апагею “заходнерусізм” дасягнуў у нашаніўскі перыяд. Паслядоўнікі гэтага архірэакцыйнага напрамку

[1] Александровіч Сцяпан. Гісторыя і сучаснасць… С. 244.
[2] ЭГБ. Т.3. Мн., 1996. С. 417.

кваліфікавалі беларускі нацыянальна-адраджэнскі рух як “польскую інтрыгу”, называлі яго актыўных дзеячоў “белаляхамі”. З мэтай барацьбы з такім рухам закладваюцца адмысловыя таварыствы “Селянін”, “Рускае ўскраіннае таварыства”, Беларускае таварыства[1]. Іх усяк падтрымлівалі рознага роду русафільскія перыядычныя органы, найперш газеты “Белорусский голос” (Гомель), “Минский голос”, “Минское слово”, “Могилевский вестник”, “Витебский вестник”, “Гомельское слово” і інш. На пазіцыях непрызнання мэтазгоднасці мець беларускую літаратуру і беларускую нацыянальную школу стаяла рэдакцыя штомесячнага часопіса “Белорусский учительский вестник”.

Сваім даволі шырокім распаўсюджаннем на Беларусі “заходнерусізм” у многім абавязаны дзейнай падтрымцы цэнтральнай дзяржаўнай улады, па-шаві-ністыцку настроенай ітэлігенцыі Санкт-Пецярбурга, Масквы і іншых расійскіх гарадоў. Яго прыхільнікі, да прыкладу, не дазволілі правесці ў жыццё прынятую ў сакавіку 1907 г. на пасяджэнні “Отделения русского языка и словес-ности» Расійскай акадэміі навук прапанову этнографа і мовазнаўца Мікалая Янчука аб перавыданні твораў беларускай народнай творчасці ў старых і наогул рэдкіх запісах, беларускай мастацкай літаратуры пераважна першай паловы XIX ст. Але ёсць прыклады – і нямала, – калі прадстаўнікі прагрэсіўнай рускай інтэлігенцыі ва ўсім падтрымлівалі змаганне беларускіх адраджэнцаў за выратаванне свайго народа ад культурна-моўнай асіміляцыі, бо добра ведалі, якую непапраўную шкоду апошняя можа прычыніць агульнаславянскай супольнасці, сусветнай цывілізацыі. Вось толькі колькасна такая інтэлігенцыя істотна ўступала тым, хто займаў процілеглую пазіцыю па дадзеным пытанні. Нездарма ўжо першыя крокі беларускага нацыянальна-культурнага руху выклікалі пярэпалах у тых станах рускіх і палякаў, якія глядзелі на наш край, як на штосьці спрадвечна сваё. Фальсіфікацыя яго мінулага набыла нечуваныя да гэтага маштабы. Архінацыяналістычна настроеная частка рускай і польскай інтэлігенцыі амаль цалкам адмаўляла прысутнасць беларускасці ў самой прыродзе.

Як і на схіле XIX ст., так і ў першыя дзесяцігоддзі новага стагоддзя ў беларускім Адраджэнні цэнтральнае месца займаў нацыянальна-культурны напрамак. Над тэарэтычным абгрунтаваннем яго плённа працавалі дзесяткі высокаэрудзіраваных, шчыра адданых нацыянальным традыцыям краю людзей. Паслядоўна, рашуча выступаў за будаванне духоўнага жыцця на нацыянальным грунце – а такога ў

[1] Тамсама.

афіцыйных сферах жыцця беларусаў ужо стагоддзямі не назіралася! – публіцыст, гісторык беларускай літаратуры, краязнавец Рамуальд Зямкевіч: “Нам, беларусам, – пісаў ён, – німа чаго брацца за чужое, годзі ўжо служыць гноем пад чужую культуру. Мы маем сваё мінулае дый ні абы якое, цяперашняе рунея й красуе на дзіва, ёсьць з чаго быць гордым і будучыня будзе нашай”[1].

У надзвычай багатым на ваенныя падзеі 1917 годзе ідэолагі беларускага нацыянальнага руху не забыліся, што 400 гадоў таму Францішак Скарына пачаў у Празе друкаваць Біблію для ўсяго люду паспалітага. У ліку тых, хто заклікаў беларусаў урачыста адзначыць гэты юбілей, быў Павел Ксяневіч. У адной з сваіх публікацый у газету “Вольная Беларусь” ён пісаў: “Нам трэба як-небудзь згаварыцца, каб цяпер, у час страшэннай вайны, калі самае паняцьце “культура” топчэцца ў балота, калі людзі ўсю моц свайго розуму кіруюць на тое, каб як найбольш забіць сваіх братоў, – каб нам, цяпер ціха адсвяткаваць сваё вялікае культурнае сьвята”[2]. І гэтая гістарычная падзея не прайшла незаўважанаю. Так, рэдакцыя газеты “Вольная Беларусь” 400-годдзю беларускага друку прысвяціла два свае нумары – за 8 і 11 жніўня 1917 г. З грунтоўнымі артыкуламі па дадзенай праблеме выступілі добра вядомыя на той час дзеячы культуры і навукі Максім Гарэцкі, Рамуальд Зямкевіч, Язэп Лёсік.

Святкаванне юбілею беларускага друку было з вялікай аддачай выкарыстана адраджэнцамі дзеля прыцягнення ўвагі народа да незайздроснага лёсу свайго роднага слова. З карыснай прапановай да тых, хто добра разумеў яго значэнне, звярнуўся сябра Беларускай Цэнтральнай Рады Ігнат Дварчанін. Датычыла ж гэта складання беларуска-расійскага слоўніка. Праз газету “Вольная Беларусь” ён заклікаў прыхільнікаў такой працы выпісваць з беларускіх кніг і газет чыста беларускія словы, што не сустракаюцца ў рускай і польскай мовах, і высылаць іх на яго мінскую кватэру[3].

І такіх прыкладаў бацькоўскіх клопатаў пра родную беларускую культуру, без якой нацыянальнае – гэта фікцыя, дае процьму тагачаснае складанае ваеннае жыццё. Таму ніяк нельга пагадзіцца з выказваннем сучаснага філосафа Сямёна Падокшына, што “працэс нацыянальнага адраджэння быў перапынены Першай сусветнай вайной, але аднавіўся пасля Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый[4]. Наадварот, звязаныя з

[1] Вольная Беларусь. 1917. 8 жніўня.
[2] Тамсама. 24 чэрвеня.
[3] Вольная Беларусь. 1917. 28 жніўня.
[4] Народная воля. 1997. 21 мая.

вайной падзеі падштурхнулі беларусаў больш глыбока задумацца над сваім лёсам, паспрабаваць адшукаць глыбінныя прычыны яго хранічнага пагаршэння і знайсці сродкі іх ухілення. І такім сродкам найперш за ўсё лічылася нацыяльна-культурнае Адраджэнне, пад сцягам яго з кожным годам ішло ўсё больш і больш людзей.

Засяроджванне ўвагі барацьбітаў за лепшую долю роднага краю найперш за ўсё на культурна-моўным аспекце ніяк нельга лічыць слабасцю тагачаснага Адраджэння, бо без вяртання беларускага народа да сваёй гістарычнай і духоўнай спадчыны, без шырокага распаўсюджвання ў яго асяроддзі самабыт-най нацыянальнай культуры і мовы нельга было спадзявацца, што ён можа рашуча кінуцца на заваяванне для сябе той ці іншай формы нацыянальна-дзяр-жаўнай незалежнасці. Да таго ж і рэальных перадумоваў для гэтага не існавала ў Расіі на пачатку ХХ ст., што адчувалася на характары і змесце нацыянальнага руху і ў яе іншых рэгіёнах, абсалютная бальшыня якіх значна раней за Беларусь стала на такі шлях.

Варта адзначыць, што сярод усіх актыўных змагароў за беларускую нацыя-нальную ідэю не было такіх, якія ганьбілі б прадстаўнікоў рускага, польскага, украінскага, літоўскага ці якога-небудзь іншага народа нашага краю. Паважліва ставіўся да чужых духоўных каштоўнасцяў і іх носьбітаў не раз ужо згаданы мною Л. Гмырак, артыкулы якога досыць часта друкаваліся на старонках газеты “Наша ніва”. Адзін з іх так і называўся: “Свайго не цурайцеся, чужому навучай-цеся” (1913, 17 кастрычніка). Стала заяўляючы аб вялікай шкодзе гвалтоўнага пашырэння ў нас у мінулым і цяпер польскай і рускай культур, ён тым не менш ніколі не выступаў за тое, каб кітайскай сцяной адгарадзіць ад іх беларускі народ. Такое ж стаўленне ў Л. Гмырака было і да культур іншых народаў, што вынікае з наступных яго слоў: “Каб лепш і глыбей пранікала культура ў бела-рускую народную масу, трэба, каб і мы, свайго не цураючыся, чужому вучы-ліся”[1]. Будучы гарачым прыхільнікам нацыянальнай сістэмы адукацыі, Л. Гмы-рак разам з тым пісаў: “Трэба, каб у большых класах вучылі і расейскай мовы як дзяржаўнай, але ўся пачатковая навука павінна вясціся толькі па-нашаму”[2].

Падобнага зместу выказванні можна знайсці ў бальшыні актывістаў бела-рускага Адраджэння. Таму трэба прызнаць архіпамылковай, шкоднай пазіцыю тых беларускіх савецкіх гісторыкаў, якія дзесяцігоддзямі недаацэньвалі, а то і ахайвалі яго,

[1] Антология педагогической мысли Белорусской ССР. С. 299.
[2] Гмырак Лявон. Творы ... С. 113.

бачылі ў ім больш негатыўнага, чым станоўчага, у чорных танах паказвалі дзейнасць многіх правафланговых беларускага нацыянальна-культур-нага руху.

# РАЗДЗЕЛ III **НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ Ў ГАДЫ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ І ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВОЙНАЎ**

## §1. Актывізацыя пошукаў шляхоў палітычнага самавызначэння беларускага народа ў часы нямецкай інтэрвенцыі

У многіх дачыненнях даволі паспяховаму ў сваім уздзеянні на масы бела-рускаму нацыянальна-культурнаму руху неўзабаве давялося сутыкнуцца з не-прадбачанымі цяжкасцямі з прычыны таго, што ўлетку 1914 г. у Еўропе выбухнула Першая сусветная вайна, у якую была ўцягнута і Расія. Хаця на пачатку гэтай крывавай бойні Беларусь знаходзілася на вялікай адлегласці ад лініі фронту, усё ж жыццё стала зусім не падобным да мірнага. Многімі адраджэнцамі добра разумелася, што зараз выступаць з якімі-небудзь канкрэт-нымі прапановамі перад мясцовай адміністрацыяй ці цэнтральнай уладай аб задавальненні нацыянальных патрабаванняў беларускага народа з'яўлялася не больш як марнай справай, бо цяпер яны кіраваліся прынцыпова іншымі інтарэсамі. Да таго ж жандарскі рэжым Расіі стаў больш жорсткім у дачыненні да ўсякіх нацынальных рухаў, нават калі яны абмяжоўваліся толькі чыста культурна-асветніцкімі мэтамі. Таму няма падстаў здзіўляцца, што раней дадзены Беларусі дазвол адкрываць з 1914/15 н.г. пачатковыя школы на нацыя-нальнай мове яе карэннага насельніцтва не быў падмацаваны якімі-небудзь канкрэтнымі дзеяннямі з боку мясцовых органаў народнай асветы.

Яшчэ больш неспрыяльныя ўмовы для ажыццяўлення нацыянальнай працы склаліся ў 1915 г., калі Беларусь апынулася ў прыфрантавой паласе. Адсюль пачалася масавая, пераважна прымусовая, эвакуацыя цывільнага насельніцтва ў аддаленыя раёны краіны. Практычна ўся тэрыторыя Беларусі была наваднена войскамі і рознага роду армейскімі службамі. Сур'ёзнага кантролю за іх дзеян-нямі і паводзінамі ніхто не ажыццяўляў, таму мелі месца частыя выпадкі, калі вайскоўцы самаўпраўна забіралі ў сялян коней і фураж, прадукты харчавання. Пад ружжом знаходзілася каля 50% здольных да службы ў войску мужчын Беларусі, чаго не назіралася ў іншых раёнах царскай Расіі. Дарослае насельніц-тва сістэматычна адрывалі ад асноўнага занятку і прымушалі да выканання абарончых работ.

З узнікненнем рэальнай пагрозы захопу кайзераўскімі войскамі тэрыторыі Беларусі пачалася эвакуацыя самых важных яе прадпрыемстваў і ўстаноў. У іх лік трапіў і шэраг навучальных устаноў, пераважна больш высокага тыпу. Разам з імі ў далёкія

краі падаваліся іх навучэнцы і педагогі, г.зн. якраз тыя катэгорыі людзей, якія маглі б заняць – а многія з іх і сапраўды займалі – самую актыўную пазіцыю ў нацыянальна-духоўнай адбудове Бацькаўшчыны. У таго, хто жыў яе інтарэсамі, узнікалі тады самыя супярэчлівыя думкі.

З аднаго боку хацелася застацца дома, каб разам з усімі бараніць яго ад чужынцаў, з другога – мелася зусім лагічнае для таго часу жаданне агарадзіць навучэнскую моладзь ад магчымых трагічных вынікаў узброенага супрацьстаяння расійскіх і кайзераўскіх войскаў і падацца разам з ёю ў вызначанае для эвакуацыі месца. Такой пазіцыі прытрымлівалася абсалютная бальшыня і выкладчыкаў, і навучэнцаў. Так, калі ўзнікла неабходнасць эвакуацыі ў Яраслаўль Мінскага настаўніцкага інстытута, на такі крок не адважыліся толькі адзінкі з ліку яго педагогаў і навучэнцаў. Сярод іх апынуўся і выкладчык матэматыкі Радаслаў Астроўскі (у 1913 г. закончыў фізіка-матэматычны факультэт Юр'еўскага універсітэта).

Далейшы лёс яго склаўся так. Жыве на Случчыне, дзе пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. абіраецца камісарам павета, затым у верасні таго ж года становіцца першым дырэктарам Слуцкай беларускай гімназіі і кіруе ёю да 4 снежня 1918 г. Праўда, на гэтую пасаду ён яшчэ вернецца, калі Слуцк захопяць палякі, але папрацуе на ёй усяго толькі паўгода. Адначасова з педага-гічнай дзейнасцю даводзілася браць актыўны ўдзел у грамадска-палітычным жыцці. Такі ўжо быў час, што нацыянальна-самасвядомы чалавек проста не мог адседжвацца дома. Будучы сябрам ЦК Беларускай сацыялістычнай грамады, займае самую актыўную пазіцыю ў змаганні за правы Беларусі на тэрытарыяль-ную аўтаномію ў складзе Расіі, удзельнічае ў працы Першага Усебеларускага з'езда, што праходзіў у снежні 1917 г. у Мінску. Так падрабязна гаворыцца пра гэтага чалавека толькі таму, каб паказаць, што мо і дарэмна з набліжэннем лініі нямецка-расійскага фронту многія вельмі патрэбныя для беларускага нацыяна-льнага руху асобы пакідалі Бацькаўшчыну і шукалі паратунку па-за яе межамі. На выбар такога шляху была скіравана і ўся афіцыйная расійская прапаганда, на вудачку якой лёгка траплялі і з багатым жыццёвым узроўнем, адукаваныя людзі. Словам, жыццё ўваходзіла ў такое рэчышча, што, здавалася, пра нацыяна-льна-культурнае Адраджэнне або ніхто не загаворыць, або загаворыць толькі напаўголаса. Такое з ім і сапраўды магло б здарыцца, каб яно не мела цвёрдага падмурка пад сабой, не абапіралася на шырокія станы народа і найперш на інтэлігенцыю, якая ў кожнай нацыі з'яўляецца генератарам адраджэнскіх ідэй,

лепш за ўсіх разумее, што трэба рабіць у час вялікіх і суровых выпрабаванняў лёсу.

Не сакрэт, што для народа, на тэрыторыі якога вядуцца баі, усякая вайна – гэта вялікая трагедыя. І для беларусаў ёю стала Першая сусветная вайна. Але што дзіўна: апошняя паспрыяла таму, што на іх многа ў якіх краінах Еўропы сталі глядзець як на самабытны народ. Добра пра гэта пастаралася газета “Wilnaier Zeitung”, якая на сваіх старонках рэгулярна друкавала матэрыялы пра Беларусь і розныя пераклады з беларускай мовы на нямецкую. Нямецкі генерал Гіндэнбург, які служыў на Беларусі, не без гонару заяўляў у Берліне, “што на берагох Нёмана ён знайшоў новы народ”[1]. Пра нараджэнне “новага народа” пісала ў час правядзення ў канцы снежня 1917 г. Першага Усебеларускага з’езда яўрэйская газета “Вэкер”. А вось значная частка ўзгадаванай у рускай і польскай культурах беларускай інтэлігенцыі не спяшалася заявіць пра існаванне самабытнага беларускага народа. Аднак пад уплывам падзей, што адбываліся ў родным краі і свеце, і яна паступова мяняла ў лепшы бок свае погляды на нацыянальнае пытанне. А залежалі яны часта ў значнай ступені ад таго, дзе апошняе разглядалася: на занятай нямецкімі інтэрвентамі тэрыторыі ці там, дзе працягвалі панаваць царскія парадкі, дзе былі сканцэнтраваны шматлікія рускія войскі.

У навуцы ёсць дастаткова пераканаўчых фактаў, якія дазваляюць сцвярджаць, што ідэі абласной палітычнай незалежнасці Беларусі вельмі дапамаглі абудзіцца, умацавацца ў свядомасці людзей падзеі Першай сусветнай вайны, калі ў перадавых станах беларускага народа абвастрылася пачуццё адказнасці за яго лёс, калі ў нашым краі адзін прыгнятальнік змяніўся другім. І зусім лагічна, што такая ідэя з найбольшай сілай праявілася на Віленшчыне, дзе былі жывучымі і трывалымі беларускія гістарычныя і нацыянальна-духоўныя традыцыі. Вось як прыгадваў падзеі таго часу адзін з іх сведкаў Антон Луцкевіч: “У Вільні мы ўжо ад 1915 году станулі на грунт дзяржаўнае незалежнасьці зямель былага Беларуска-Літоўскага гаспадарства і стварылі “Канфэдэрацыю Вялікага Князьства Літоўскага”, аб’яднаўшы на груньце ідэі незалежнасьці краю лепшых прадстаўнікоў дэмакратыі ўсіх чатырох нацыянальнасьцяў: беларусаў, літоўцаў, жыдоў і палякаў”[2]. Як вынікае з цытаты, актыўныя змагары за стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы, знаходзячыся яшчэ на вельмі далёкай адлегласці ад пераўтварэння гэтай прагрэсіўнай, лёсавызначальнай ідэі ў

[1] Беларускі шлях. 1918.11 мая.
[2] Луцкевіч Ант. За дваццаць пяць гадоў (1903-1928). Вільня. 1928. С. 44, 45.

жыццё, ішлі на самае цеснае супрацоўніцтва з нацменшасцямі свайго краю.

З прыведзеных вышэй слоў А. Луцкевіча бачна, што ў процілегласць многім прыхільнікам нацыянальнай аўтаноміі ў складзе дэмакратычнай федэратыўнай Расіі некаторыя моцна загартаваныя ў змаганні за волю беларускія грамадскія і культурныя дзеячы, што знаходзіліся на акупаванай кайзераўскай Германіяй тэрыторыі, насіліся з думкамі аб утварэнні сумеснай беларуска-літоўскай дзяр-жавы. На з'яўленне такіх поглядаў, несумненна, паўплывала рэальнае існаванне яе ў Сярэднявеччы. Але ад тае пары мінула шмат часу, і таму адраджэнне такой дзяржавы, шчырымі прыхільнікамі якой з'яўляліся прадстаўнікі віленскай арга-нізацыі Беларускай сацыялістычнай грамады, нельга было прызнаць да канца ўзважаным. Да таго ж яшчэ гэтая ідэя аказалася і нерэальнай, бо з ёю звязвалі зусім процілеглыя мэты беларусы, літоўцы і палякі. Апошнія, да прыкладу, у аднаўленай канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага адводзілі сабе галоўную ролю, не адмаўляючыся ад далейшага апалячвання ў ім беларусаў, якіх царскай імперыі ўдалося істотна зрусіфікаваць за час пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. У моц усяго гэтага ідэя стварэння беларуска-літоўскай дзяржавы не мела шматлікіх прыхільнікаў.

Датычна будучага нацыянальна-дзяржаўнага развіцця беларускага народа існавалі і іншыя, прычым больш рэалістычныя погляды. Так, моцна заклапо-чаны неўладкаванасцю яго лёсу літаратурны крытык і публіцыст Л. Гмырак пад уплывам прагрэсіўных ідэй, выказаных у праграмных дакумента Беларускай сацыялістычнай грамады яшчэ ў 1905-1906 гг., а таксама зыходзячы з уласнага асэнсавання дадзенай праблемы, лічыў разумным ва ўмовах тагачаснага жыцця выступаць не за поўны дзяржаўны суверэнітэт Беларусі, а за яе нацыянальна-культурную аўтаномію ў саюзе з прагрэсіўнымі, дэмакратычнымі сіламі Расіі, але толькі не той, якой яна была напярэдадні Першай сусветнай вайны.

Дзеля здзяйснення сваіх нацыянальных запатрабаванняў беларускія грамад-ска-палітычныя і культурныя дзеячы не раз звярталіся да падтрымкі рознага роду міжнародных сіл і арганізацый. У гэтых мэтах пастараліся яны выкары-стаць і "З'езд прыгнечаных народаў Расіі", што праходзіў па ініцыятыве немцаў улетку 1916 г. у швейцарскім горадзе Лазане[1]. У сваіх выступленнях нашы дэлегаты гаварылі аб неабходнасці падтрымкі

[1] Собственноручные показания А.И. Луцкевича 30 октября 1939 г. // «Нёман». 1995. № 1. С. 139.

беларусаў з боку перадавой су-светнай грамадскасці з мэтай "прымусіць паважаць іх нацыянальныя і культур-ныя правы"[1].

Гады змагання за выратаванне беларускага народа ад культурна-моўнай асіміляцыі, з якой можна пакончыць толькі пры наяўнасці самастойнай, незалежнай дзяржавы, не прайшлі марна і для ўсходніх раёнаў нашага краю. Невыпадкова "абвешчаны Кастрычніцкай рэвалюцыяй лозунг самавызначэння народаў аж да дзяржаўнага аддзялення ад Расіі беларускія нацыянальныя арганізацыі ўспрынялі як патрабаванне безадкладнага самавызначэння Беларусі і яе неадкладнага аддзялення ад Савецкай Расіі"[2]. Але хапала і праціўнікаў такога аддзялення. На пазіцыях непадзельнасці Расіі трывала стаялі Саюз беларускай дэмакратыі ў Гомелі, Беларускі нацыянальны камітэт у Магілёве, Саюз беларускага народа ў Віцебску, Беларускі народны камітэт у Оршы, Хрысціянска-дэмакратычнае аб'яднанне ў Мінску, створаныя да Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. на базе буржуазных арганізацый. Лідэры пералічаных саюзаў і камітэтаў "выступалі супраць права беларускага народа на стварэнне нацыянальнай дзяржаўнасці, самастойнага культурнага развіцця"[3]. Асабліва непрымальнай была беларуская ідэя для многіх кіраўнікоў Саюза беларускай дэмакратыі ў Гомелі, хаця ў сваёй назве ён і насіў слова "беларуская". Адзін з іх П. Каранкевіч заяўляў: "Нам трэба будзе дапоўніць працу нашых продкаў і аб'яднацца з іншымі роднаснымі нам плямёнамі – вялікарускім і маларускім – у адну магутную і несакрушальную народнасць рускую"[4]. Няцяжка прадбачыць, што такое аб'яднанне мела б вынікам поўную пагібель для беларускай культуры і мовы, паколькі ў выніку колішняй працяглай і зусім рэальнай у будучым русіфікацыі яны аказаліся б зусім неканкурэнтназдольнымі ў абслугоўванні патрэбаў насельніцтва аб'яднанай краіны з больш развітымі на той час рускай культурай і мовай. Да таго як стаць на шлях такой эканамічнай, палітычнай і культурнай інтэграцыі з вялікарусамі і маларусамі, беларусы павінны былі прайсці добрую адлегласць суверэннага дзяржаўнага развіцця, каб як след навесці належны парадак у сваім нацыянальным доме, адрадзіць і давесці да нармальнага ўзроўню маштабы выкарыстання роднай мовы ў грамадскім жыцці, зрабіць пануючай у краі прыродную культуру яго карэннага насельніцтва.

Па-ранейшаму якіх-небудзь станоўчых перамен на беларускае пытанне не назіралася з боку расійскіх афіцыйных

---

[1] Милюков П.Н. Национальный вопрос: Происхождение национальности и национальные вопросы в России. Берлин. 1925. С. 182.
[2] Игнатенко И.М. Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии. Мн., 1992. С. 30.
[3] Там же. С. 28, 29.
[4] Сташкевич Николай. На пути к истине. Мн., 1983. С. 43.

улад. Наадварот, неабходнасць вядзення вайны зрабіла іх яшчэ больш непрымірымымі да ўсіх нацыянальных рухаў і, вядома ж, да беларускага, які, лічылася, мог бы вельмі нашкодзіць у барацьбе з кайзераўскімі войскамі.

Не праяўлялі аніякай зацікаўленасці да карэнных нацыянальных патрабаван-няў беларускага народа асобы, што стаялі на пазіцыях бальшавіцкай партыі. Яе больш цікавілі глабальныя праблемы, галоўная з якіх – сусветная пралетарская рэвалюцыя, дамагчыся якой лічылася можна толькі аб'яднанымі сіламі народаў. У такой сітуацыі патрабавалася ўсе інтарэсы, у т.л. і нацыянальныя, падпарад-каваць справе сусветнай рэвалюцыі. Выдатна разумеючы значэнне агульнарэва-люцыйных інтарэсаў, З. Жылуновіч ўсё ж востра крытыкаваў тых рабочых і іх ідэолагаў, якія за такімі інтарэсамі не бачылі нацыянальных. "О, яны (рабочыя. – Л.Л.), – пісаў Цішка Гартны (З. Жылуновіч), – ведаюць, як соладка жыццё ўціснутых і не дзяржаўных нацый. Ведаюць яны, што… іх Беларусь стогне ад знявагі, але на гэта не звяртаецца іх думка.., ім убіта ў галаву сухая аднабокая думка аб агульна-работніцкім інтарэсе і ўбіта тым, каго абходзіць справа ўціску нацый, каму не знаёма тая падвойная сіла прыцягнення, якая цісне беларуса, як работніка наогул і беларуса ў асобку"[1].

Адной з прычын – да таго ж вельмі істотнай – адмоўнага стаўлення бальша-вікоў да нацыянальных інтарэсаў Беларусі з'яўлялася іх амаль поўная недасвед-чанасць у пытаннях яе гісторыі і культуры. Афіцыйная адукацыя добра пастара-лася аб гэтым. Праціўнікам беларускай нацыянальнай ідэі быў і Міхаіл Фрунзе, які з красавіка 1916 г. вёў рэвалюцыйную агітацыю ў рускіх войсках, што ды-слакаваліся на тэрыторыі Беларусі, а пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. стаў адным са стваральнікаў Мінскага савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, з 4 са-кавіка да 25 кастрычніка 1917 г. узначальваў народную міліцыю г. Мінска. Сур'ёзнай пагрозай для разгортвання рэвалюцыйных падзей ёй лічыў магчы-масць далучэння да нацыянальнага руху на Беларусі шматлікага тут сялянства. А яно і сапраўды, дзякуючы намаганням Беларускай сацыялістычнай грамады, прыходзіла ў рух, пачынала ўсё лепш разумець значэнне барацьбы не толькі за сацыяльнае, але і нацыянальнае вызваленне. Апошняе не заўсёды знаходзіла падтрымку ў многіх з тых, каго лёс закідваў у наш край. Сярод іх быў і вопытны арганізатар мас М. Фрунзе. Асабліва яскрава праявілася гэта ў час яго ўдзелу ў красавіку 1917 г. у Мінску ў рабоце сялянскага з'езда Мінскай губерні. Ён нават не даў вынесці на парадак дня з'езда абмеркаванне беларускага пытання.

---

[1] Гартны Ц. Работнікі-беларусы ў Петраградзе. // Вольная Беларусь. 1917. 23 жніўня.

Абмежаваліся разглядам яго на прэзідыуме з’езда, дзе беларускі рух названы М. Фрунзе памешчыцкай інтрыгай, а Беларуская сацыялістычная грамада – панскай арганізацыяй.

Калі бальшавікам удавалася больш-менш лёгка адводзіць ад нацыянальнага пытання беларускіх сялян і рабочых, дык гэтага ніяк нельга было зрабіць з пераважнай часткай інтэлігенцыі, бо пад той час яна ўжо добра разумела, што без дасягнення калі не поўнай, дык хаця б урэзанай дзяржаўнай незалежнасці беларусам цяжка будзе заставацца самабытным народам з адметнай культурай і мовай. Сярод розных нацыянальна-культурных рухаў, што праяўлялі тады найбольшую актыўнасць, заканамерна спела думка аб неабходнасці самай цеснай каардынацыі іх намаганняў з мэтай выпрацоўкі правільнай лініі дзеян-няў і дасягнення пастаўленых мэтаў. Прадметная размова пра гэта вялася 25-27 сакавіка 1917 г. у Мінску на з’ездзе прадстаўнікоў беларускіх арганіза-цый. З’ехалася сюды каля 150 чалавек, сярод якіх прысутнічалі і беларусы, што жылі па-за межамі роднага краю. На з’ездзе заяўлялася пра неабходнасць дзяржаўнай аўтаноміі для Беларусі ў складзе федэратыўнай дэмакратычна-рэспубліканскай Расіі, на што, меркавалася, дасць сваю згоду Часовы ўрад. Створанаму на з’ездзе Беларускаму нацыянальнаму камітэту (БНК) прапаноў-валася ў “першачарговым парадку заняцца асветнымі справамі, заснаваць таварыства “Прасвета” і запрасіць для дапамогі яму У. Ігнатоўскага, Б.Эпімах-Шыпілу, М. Багдановіча і іншых вядомых дзеячоў на ніве беларускай культуры. З’езд выказаўся за ўвядзенне беларускай мовы ў настаўніцкіх і духоўных (праваслаўных і каталіцкіх) семінарыях, за адкрыццё ў адным з беларускіх гарадоў вышэйшай школы”[1].

Але на гэтым з’ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый разносіліся гала-сы і зусім іншага характару. Прычым гучалі яны з вуснаў далёка не шараговых у палітычным жыцці людзей. Крайне антыбеларускім па змесце было высту-пленне памочніка камісара ад Часовага ўрада, эсэра І. Метліна (ён жа быў за старшыню гэтага з’езда): “Кіньце свае летуценьні (датычна надання Беларусі нацыянальнай аўтаноміі. – Л.Л.), цяпер не час падымаць нацыянальныя пытань-ні, а трэба замацаваць атрыманую свабоду, злучыўшыся разам усім для склі-кання ўстаноўчага сходу. Беларускі рух не натуральны, бо пад ім няма цвёрдага фундаменту народных нізоў”[2].

Зразумела, дзе тонка, дзе гвалтам праведзеная царскай Расіяй палітыка па дэнацыяналізацыі беларускага народа не

[1] Нарысы гісторыі Беларусі ў 2-х частках. Ч. 1. С. 438, 439.
[2] Ж.З. З’езд беларускіх нацыянальных арганізацый 25 сакавіка 1917 г. // Полымя. 1925, № 6. С. 204.

давала аніякай магчымасці, каб для яго нацыянальнага руху ўтварыўся такі цвёрды фундамент, пра які гаварыў І. Метлін. Аднак, калі б з азначанай прычыны нічога не рабілася ў масах па іх далучэнні да нацыянальнай дзейнасці, як гэтаму ён вучыў, дык падобнага роду паводзінамі можна было б толькі паспрыяць далейшаму аслабленню падмурку нацыянальнага руху, прывядзенню яго (падмурка) у такі стан, што ўжо і сапраўды нельга было б гаварыць аб практычных кроках па выратаванні, захаванні беларускага народа як самабытнай этнічнай супольнасці. Рэакцыя на выступленне І. Метліна была такой рэзкай, што ён па патрабаванні дэлегатаў з'езда далей ужо не прысутнічаў на яго пасяджэнні.

Жыццё ўсё больш і больш пераконвала ў тым, што насельніцтва акупаванай кайзераўскімі войскамі часткі тэрыторыі Беларусі нацыянальна выспявала знач-на хутчэй за жыхароў тых яе зямель, дзе панавалі расійскія парадкі. Яскрава вынікае гэта і са зместу прынятай 19 жніўня 1917 г. у Вільні Беларускім нацыянальным камітэтам (БНК) платформы: "1) незалежнасць і непадзельнасць Беларусі і Літвы; 2) унутранае размежаванне аўтаномных Беларусі і Літвы на аснове роднай мовы насельніцтва; 3) роўныя правы для ўсіх нацыянальнасцяў краю; 4) прызнанне дзяржаўнымі ўсіх мясцовых моваў; школы – на роднай мове". Увасабленне гэтых прагрэсіўных, інтэрнацыяналістычных пунктаў плат-формы ў жыццё, несумненна, дазволіла б нарэшце спыніць працэс русіфікацыі і паланізацыі беларускага народа, стварыла б усе неабходныя перадумовы для яго духоўнага адраджэння. Шкада толькі, што пад уплывам розных абставін БНК вымушаны быў мяняць свае пазіцыі, ісці на кампрамісы за кошт урэзвання правоў Беларусі на самастойнае нацыянальна-дзяржаўнае развіццё, без чаго станавілася мала верагодным рашэнне надзённых задач па яе культурным адраджэнні. Пакончыць з такімі сур'ёзнымі вынікамі дэградацыі нацыянальнага патэнцыялу беларускага народа можна было толькі пры наяўнасці ў яго моцнай, самастойнай, незалежнай ад каго б там ні было дзяржавы. Для паспяховага рашэння гэтай гістарычнай важнасці задачы зусім не абавязковым было ісці на дзяржаўнае аб'яднанне Беларусі і Літвы, улічваючы крайнюю нятоеснасць этнічнага складу іх насельніцтва. Тут кіраўнікам БНК было чаму карыснаму павучыцца ў "Літоўскай тарыбы[1], якая яшчэ ў пачатку 1917 г. парвала сувязі з беларускімі арганізацыямі ў Вільні"[2] і няўхільна праводзіла курс на нацыяналь-на-дзяржаўную суверэнізацыю сваёй краіны. У гэтым напрамку БНК і іншыя

[1] Рада.
[2] Игнатенко И.М. Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии. С. 42.

беларускія арганізацыі практычна не вялі аніякай растлумачальнай работы ў масах, каб пераканаць іх у бясспрэчных перавагах і для Беларусі самастойнага нацыянальна-дзяржаўнага развіцця. У гэтым згаданыя арганізацыі разам з БНК вельмі істотна ўступалі бальшавікам у іх настойлівай агітацыі за неабходнасць самага цеснага дзяржаўнага аб'яднання Беларусі з Расіяй дзеля перамогі над буржуазіяй і абароны заваёваў пралетарскай рэвалюцыі.

У пытаннях дзяржаўнага суверэнітэту яшчэ менш паслядоўнай, чым Бела-рускі нацыянальны камітэт, была створаная ў Менску на другой сесіі Цэнтраль-най Рады беларускіх арганізацый 15 (28) – 24 кастрычніка (6 лістапада) 1917 г. Вялікая Беларуская рада (ВБР). Як вынікае са зместу прынятай тады ж адозвы “Да ўсяго Народа Беларускага”, яна ўяўляла Беларусь толькі “злітаванай з Вялі-карасійяй і іншымі суседнімі рэспублікамі Расіі на аснове федэрацыі”, згаджа-лася перадаць вышэйшаму заканадаўчаму органу Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі вырашэнне пытанняў агульнадзяржаўнага будаўніц-тва, міжнародных зносін і гандлёвых дагавораў з замежнымі дзяржавамі[1]. Затое куды больш прагрэсіўнымі былі погляды ВБР на пытанні нацыянальна-культур-нага Адраджэння. Тут яна трывала стаяла на нацыянальных пазіцыях, дамагала-ся адкрыцця на Беларусі універсітэта, увядзення ў праграмы педагагічных навучальных устаноў па падрыхтоўцы настаўнікаў для краю курсаў беларускай літаратуры і мовы, нацыянальнага фальклору, гісторыі і геаграфіі Беларусі[2].

Працяглае панаванне афіцыйнага погляду на непадзельнасць Расіі, нязадоль-насць яе нярускага насельніцтва да самастойнага дзяржаўна-палітычнага, экана-мічнага жыцця зрабілі яго (погляд) да такой ступені непахісным, што ў бес-памылковасці апошняга не сумняваліся нават многія даволі адукаваныя для таго часу людзі. Не з'яўляўся выключэннем з іх і такі пазней вядомы палітык, навуковец, як Аляксандр Цвікевіч. У ліпені 1917 г. ён заяўляў: “Расійская дзяржава, праўда, будавалася захватамі, заваяваньнямі. Але гэты працэс ішоў так доўга, што народы прывыклі ўжо жыць у блізкіх адносінах адны з другімі. Сэпаратысцкія тэндэнцыі ў іх надта слабыя. Украінства – гэта рэвалюцыйны ўзрыў. Але яно з часам схлыне, бо малых дзяржаў цяпер быць ня можа... Нам патрэбна аўтаномія, як гаспадарскае самакіраванне. Тады ўсё будзе добра. Хто хоча, каб Расія была моцнаю, павінен прызнаць патрэбу тэрытарыяльна-гаспа-дарскай

[1] Турук Ф. Белорусское движение. М., 1921. Приложение 13. С. 96.
[2] ЭГБ. Т.2. С. 435.

аўтаноміі.., Беларускай Рады быць ня можа, бо мы занадта бедны сіламі. З Украінай нас раўняць ня можна. Што-ж нам трэба рабіць? Не захоплі-ваць заканадаўчых функцый, а ўзяцца за арганізаваньне мас. Іначай мы сапсуем справу”[1].

Нешта падобнае выказваў адзін з самых вядомых дзеячоў Беларускай сацыя-лістычнай грамады Сымон Рак-Міхайлоўскі (1885-1937). У сваім звароце ад 17 жніўня 1917 г. да беларускай інтэлігенцыі і вясковых настаўнікаў ён (на той час служыў у войску) так сфармуляваў асноўныя нацыянальныя патрабаванні БСГ: “... пры нашай культурна-нацыянальнай аўтаноміі аб ніякім аддзелу ад Расіі і гутаркі быць ня можа, ніхто гэтага і дабівацца ня будзе і ніколі народ гэтага не захоча, бо мы зьвязаны з усей Расіяй і ў гандлю, і ў промыслах, і ва ўсім гаспадарскім жыцьці гасударства, і мы будзем разам з усей Расіяй крапчэй, мацней, чым аддзяліўшыся...Мы толькі хочам, каб было тут, у нас краёвае самапарадкаваньне с сваіх выбарных мейсцовых людзей, свае выбарные чыноўнікі і вучыцелі, суд і школы ў роднай мові”[2]. Паводле сваіх поглядаў на нацыянальнае жыццё грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі шмат у чым уступалі сваім украінскім, польскім, літоўскім, латышскім калегам, якія толькі ў поўным аддзяленні ад Расіі бачылі сапраўдны прагрэс для сваіх народаў.

### §2. Уплыў кастрычніцкага перавароту 1917 г. у Расіі на беларускі нацыянальны рух

Такія памылковыя погляды на ролю нацыянальнага суверэнітэту ў лёсе бела-рускага народа ў значнай ступені з’яўляліся вынікам нізкай палітычнай адука-ванасці многіх нашых грамадскіх і культурных дзеячоў. Але падзеі разгортваліся так, што ўзровень такой адукацыі нязменна павышаўся і не столькі ад чытання спецыяльнай літаратуры, колькі ад усяго таго, што ішло ад самога жыцця. Як нішто іншае, на яго моцна паўплывала Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г. у Расіі, што самым непасрэдным чынам адбілася і на беларускім нацыянальна-культурным руху. Як станоўчае варта адзначыць, што практычна ўсе грамадска-палітычныя арганізацыі і рухі, якія выступалі ва ўмовах вайны, набліжэння Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. за тую ці іншую форму дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, прытрымліваліся вельмі прагрэсіў-ных поглядаў на яе нацыянальна-культурнае развіццё, асабліва ў пытаннях беларускай мовы, добра разумеючы, што толькі яна забяспечыць сваім

[1] Вольная Беларусь. 1917. 30 ліпеня.
[2] С. Рак-Міхайлоўскі. Да беларускае інтэлігэнцыі і вясковых вучыцялеў // Вольная Беларусь. 1917. 17 жніўня.

носьбітам гарантыю заставацца самабытным народам, зробіць яго духоўнае жыццё непадлеглым да любых формаў асіміляцыі. Шчырай прыхільніцай беларускіх нацыянальна-культурных пачаткаў, як і на першым этапе свайго існавання, заставалася БСГ, што знайшло адлюстраванне ў яе праграмных дакументах. У прынятай на III партыйным з’ездзе БСГ (14-25 кастрычніка 1917 г., Менск) праграме гэта было пацверджана наступным чынам:

“32 Шырокае развіццё Беларускай нацыянальнай культуры як адзіны шлях да развіцця грамадскасці і агульнага павышэння культуры мас на Беларусі.

33 Заканадаўчае прызнанне права беларускай мовы на развіццё і ўжыванне ў школе, судзе, адміністрацыйных і грамадскіх установах Беларусі”[1].

У аснове сваёй занадта сціплы §33 праграмы ўсё ж на той час быў прагрэсіў-ным, калі ўлічыць, што ў зазначаных сферах беларуская мова або зусім не пры-сутнічала, або займала пабочнае месца. Гарантаваць жа ёй можна было бяспечнае жыццё, паўнакроўнае развіццё толькі наданнем прыяртэту ў параў-нанні з усімі іншымі мовамі, паколькі Беларусь не з’яўлялася для іх гістарыч-най тэрыторыяй.

На ўсе напрамкі беларускага нацыянальна-культурнага руху, акрамя самой Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., вялікі ўплыў зрабілі і тыя падзеі, што з неве-рагоднай моцай адразу ж пракаціліся пасля яе па неабсяжных прасторах былой Расійскай імперыі, не абмінуўшы і наш край. Невыпадкова, калі на з’ездзе бела-рускіх дзеячоў у сакавіку 1917 г. і ў прынятым ў жніўні таго ж года Статуце Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый адсутнічала патрабаванне аб выхадзе са складу Расіі, што тлумачылася адпаведнасцю яе дзяржаўнага, грамадска-палітычнага ладу настроям і пажаданням гэтых дзеячоў і арганізацый, дык затое пасля здзяйснення ў Расіі ў кастрычніку 1917 г. рэвалюцыйнага перавароту іх стаўленне да дзяржаўна-нацыянальнай незалежнасці Беларусі пачало крута мяняцца. Да прыкладу, патрабаванне аб аддзяленні нашага краю ад Расіі ўтрымлівалася ў праекце рэвалюцыі Аб’яднанай сацыялістычнай фракцыі аб дзяржаўным ладзе Беларусі. Праўда, створаная тут пасля кастрычніка 1917 г. улада зусім не ставіла і не магла ставіць перад сабой задачу яго нацыянальна-культурнага адраджэння. Тлумачылася гэта тым, што тая ўлада знаходзілася ў асноўным у руках прышлых, нетутэйшых людзей. Вырашыць жа гэтую вялікай важнасці задачу былі здольныя толькі высокай нацыянальнай самасвядомасці беларусы, якія захавалі гістарычную памяць,

[1] Палітычныя партыі Беларусі: Дапаможнік для вывучаючх гісторыю Беларусі. Мн., 1994. С. 77.

адчувалі повязь з роднай зямлёй, паважалі яе духоўныя традыцыі і мову. Але такія людзі практычна адсутнічалі ў кіраўніцтве Выканаўчага камітэта Заходняй вобласці, куды ўваходзіла ўся неакупаваная кайзераўскімі войскамі тэрыторыя Беларусі. Тут варта мець на ўвазе, "што ў складзе Выканкамзаха членаў-ваеннаслужачых было ў паўтара разы больш, чым членаў, якія ўваходзілі ў Саветы сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў і Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў шэрагу гарадоў вобласці. Па-другое, прэзідум Выканкамзаха складаўся толькі з прадстаўнікоў фронта. Па-трэцяе, у кіраўніцтве Выканкамзаха не было ніводнага беларуса"[1].

Зусім непрыкрытая непавага савецкай улады "да нацыянальных інтарэсаў і патрабаванняў беларускага народа, як справядліва пісаў акадэмік АН БССР Іларыён Ігнаценка, мела вынікам аслабленне палітычнага ўплыву Аблвыкам-заха сярод працоўных у канцы 1917 г. – пачатку 1918 г."[2]

Ідэю стварэння рэальна суверэннай дзяржавы Беларусь, якая не ўваходзіла б у аніякія федэрацыі, прызнавалі далёка не ўсе беларускія нацыянальныя аргані-зацыі, што дзейнічалі на тэрыторыі самой Расіі. Датычыла гэта і Беларускага абласнога камітэта пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў у Петраградзе. Ім меркавалася, што фармаванне беларускай дзяржаўнасці павінна адбы-ваецца толькі ў складзе РСФСР, прычым у савецкай форме. Камітэт вельмі непакоіў працэс разбурэння цэласнасці Расійскай рэспублікі. На пазіцыях саюза з Расіяй стаялі ваенныя рады Паўночнага, Паўднёва-Заходняга і Румынскага франтоў, выбарныя 3-8 снежня 1917 г. на з'ездах воінаў-беларусаў. Надзвычай асцярожна ставіўся да ўсякіх спробаў нярускіх народаў, і асабліва беларускага, стаяць на шлях незалежнага дзяржаўнага развіцця Наркамнац РСФСР, які ўзна-чальваў Сталін-Джугашвілі. Так, калі яму стала вядома аб правядзенні ў снежні 1917 г. у Менску Першага ўсебеларускага з'езда, ён, як узгадваў удзельнік тых падзей М. Краўцоў, паслаў туды аднаго салдата і двух ці трох рабочых-белару-саў з прапановай "дабіцца ад Зьезду прызнаньня ўсерасійскаю ўладаю петра-градзкае рады народных камісараў. З гэтых стараньняў нічога не выйшла"[3].

Нацыянальныя арганізацыі і рухі, што выступалі за права беларусаў на ўласную дзяржаву, аказаліся не ў стане належным чынам паўплываць на такі шматлікі пласт насельніцтва, як сялянства. Затое бальшавікі не ўпусцілі моман-ту для апрацоўкі яго

---

[1] Игнатенко И.М. Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии. С. 43.
[2] Игнатенко И.М. Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии. С. 70.
[3] Шлях моладзі. 1938. № 6. 26 лютага.

ў духу яднання, цеснага саюзу з Расіяй, без чаго, заяўляла-ся, нельга давесці да лагічнага канца ідэю Кастрычніцкай рэвалюцыі. І як вынік такой апрацоўкі, у рэвалюцыі III з’езда Саветаў сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губерняў (прынята 20 лістапада 1917 г.) сустракаецца наступны пункт: “Беларусь ёсць непадзельнае цэлае вялікай рэвалюцыйнай Расіі, а таму да з’езда беларусаў, які склікае Вялікая беларуская рада, сялянскі з’езд ставіцца адмоўна”[1]. Нешта падобнае можна было прачытаць у рэзалюцыях Віцебскага губернскага з’езда Саветаў сялянскіх, салдацкіх, рабочых і батрацкіх дэпутатаў (праходзіў 11-16 снежня 1917 г.), чацвёртага Магілёўскага губернскага сялянскага з’езда. У рэзалюцыі першага з названых з’ездаў мясцовыя аддзяленні Вялікай Беларускай рады крытыкаваліся за іх імкненне да нацыянальнай дыктатуры, дзеля чаго “яны заключылі саюз са сваёй буржуазіяй…”, замест таго, каб распачаць непрымірымую барацьбу з ёю. З‘езд выказаўся “супроць арганізацыі нацыянальных органаў улады, пабудаваных на пачатках пагаднення са сваёй буржуазіяй”, нібыта не ведаючы, што без актыўнага ўдзелу апошняй такую ўладу ўвогуле нельга было стварыць у тых умовах. Далей у рэзалюцыі заяўлялася, што “з’езд адмаўляе ў сваёй падтрымцы ўсім радам, пабудаваным паводле нацыянальнага прынцыпу”[2]. У наказе дэлегатаў ад Мсціслаўскай воласці Мсціслаўскаму губернскаму сялянскаму з’езду заяўлялася: “Мы катэгарычна пратэстуем супраць якога б там ні было драблення па нацыянальнасцях і супраць аддзялення Беларусі ад астатняй Расійскай Рэспублікі, бо для сапраўднай дэмакратыі нацыянальнасцяў няма” (наказ складзены не пазней за 8 студзеня 1918 г.). Тут мы бачым поўную адсутнасць разумення ролі нацыянальнага фактару, асабліва дзяржаўнага суверэнітэту, у жыцці народа. Магчыма змест такога наказа мог у той ці іншай ступені паўплываць на адну з рэзалюцый з’езда сялян Магілёўшчыны, прысвечанай пытанню “аб скліканні з’езда Савета і роспуску “нацыяналістычнага Беларускага з’езда”, у якой гаварылася аб неабходнасці зацвердзіць уладу “працоўнага народа ва ўсёй Беларусі і яе безумоўнай непарыўнасці і неадарванасці ад маці-Расіі”, і ў выпадку склікання другога Усебеларускага з’езда Саветаў сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў там не павінны быць прадстаўнікі ад “самазваных беларускіх рад і грамад” (8 студзеня 1918 г.)[3].

[1] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Документы и материалы. Т.2. Мн., 1957. С.235.
[2] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии… Т.2. С. 547, 548.
[3] Там же. С.719, 724.

Абвінавачваць дзеячоў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў неда-статковым уплыве на шырокія колы народа няма аніякіх падстаў, бо гэтаму вельмі перашкаджала тагачасная сітуацыя на Беларусі. Яна, як справядліва адзначае акадэмік І. Ігнаценка, уяўляла сабой не што іншае, як “ваенна-грамадзянскі дзяржаўны лад”. Такога прэцэдэнта не знайсці ва ўсёй Расіі. Ад часу Кастрычніка на значнай частцы неакупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі “дзейнічалі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронта, Выканкам Саветаў вобласці і фронта і Саўнаркам вобласці і фронта. Усе гэтыя органы былі пера-важна франтавымі, укамплектаваны ваеннымі работнікамі, грамадзянскіх асо-баў у іх былі адзінкі”[1]. Да сказанага можна яшчэ дадаць, што сярод іх амаль адсутнічалі беларусы. З многіх аддзелаў Аблвыканкамзаха, да прыкладу, толькі адзін узначальваўся беларусам. Таму так лёгка было бальшавікам ужо ў самым зародку душыць любую ідэю аб беларускай нацыянальна-дзяржаўнай незалеж-насці, ажыццяўляць палітыку на саюз, яднанне Беларусі з Савецкай Расіяй.

Адсутнасць адзінай пазіцыі адносна перспектыў нацыянальна-дзяржаўнага развіцця Беларусі ва ўмовах перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі рабіла вельмі актуальнай сустрэчу прадстаўнікоў усіх найбольш уплывовых беларускіх нацыянальных арганізацый і партый з мэтай пошуку адказу на гэта складанае пытанне. І такая сустрэча адбылася ў снежні 1917 г. у Менску, якая ўвайшла ў айчынную гісторыю як Першы ўсебеларускі з’езд (кангрэс). Сярод тых, хто на ім займаў найбольш ярка акрэсленую лінію на дзяржаўную суверэнізацыю нашай краіны, была Беларуская вялікая рада. На шчасце прадстаўнікоў апош-няй, Аблвыканкамзах адмовіўся ўдзельнічаць у рабоце з’езда, дзякуючы чаму яна “атрымала магчымасць актыўна праводзіць сваю палітычную лінію, накіра-ваную на аддзяленне Беларусі ад РСФСР і стварэнне нацыянальнай буржуазна-дэмакратычнай дзяржавы”[2], г.зн. такой формы дзяржавы, якая была характэрна для многіх еўрапейскіх краін. Аднак такой магчымасцю БВР як след не пакары-сталася, пра што своечасова паклапаціўся Беларускі абласны камітэт (БАК) пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў у Петраградзе. Менавіта паміж імі і разгарнуліся асноўныя спрэчкі на адкрытым вечарам 14 снежня 1917 г. Першым усебеларускім з’ездзе, паколькі дэлегаты БАК лічылі Беларусь неадрыў-най часткай Расіі і не ішлі далей за прызнанне першай аўтаномнай вобласцю апошняй. Для сцвярджэння беларускай

[1] Игнатенко И.М. Великая Октябрьская социалистическая революция и самоопределение Белоруссии. С. 87.
[2] Игнатенко И.М. Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии. С. 54.

нацыянальнай ідэі на з’ездзе немала-важную ролю адыграў удзел у яго працы пераважна асобаў карэннага народа нашага краю. “Па нацыянальнай прыналежнасці радаўская частка складалася з беларусаў, у дэлегацыі абласнікоў (дэлегаты ад БАК. – Л.Л.) больш за дзевяць дзесятых дэлегатаў складалі беларусы”[1]. Гэта зусім не тое, што назіралася ў нацыянальнай структуры органаў Паўночна-Заходняга АК РСДРП(б) і Абл-выканкамзаха, дзе беларусы, як ужо адзначалася вышэй, былі ў меншасці, асабліва ў іх самым высокіх звёнах.

Многіх ўдзельнікаў Першага ўсебеларускага з’езда ўдалося ўшчыльную наблізіць да нацыянальных патрэбаў Бацькаўшчыны дзякуючы добрай аргані-зацыі яго працы. Асабліва вялікае ўражанне зрабіла на іх выкананне пасля ўступнай прамовы Сымона Рак-Міхайлоўскага аб’яднаным хорам беларускага рэвалюцыйнага гімна “Ад веку мы спалі і нас разбудзілі”. Пра гэта пакінуў вельмі кранальны ўспамін адзін з самых паважаных ўдзельнікаў з’езда былы царскі генерал К. Алексіеўскі.

Пад уплывам усяго таго, што адбывалася і гаварылася на з’ездзе, меў месца і такі немалаважны факт, як ўтварэнне з левага крыла БСГ Аб’яднанай сацыялі-стычнай фракцыі, што трывала стала на пазіцыі абвяшчэня Беларусі незалежнай народнай рэспублікай. У кіраўнічае ядро гэтай фракцыі (налічвала больш за 100 чалавек) уваходзілі Тамаш Грыб, Язэп Мамонька, М. Дулін, Язэп Дыла і Васіль Захарка.

Калі ж прааналізаваць усё тое, што было сказана і зроблена на Першым усе-беларускім з’ездзе, дык вынікае, што ўсё ж бальшыня яго ўдзельнікаў схілялася да федэрацыі з Расіяй, не стаяла за стварэнне незалежнай, суверэннай беларус-кай дзяржавы.

Акрамя партыйнай прыналежнасці, часта на стаўленне дэлегатаў з’езда да праблемы дзяржаўнага суверэнітэту краю пэўны ўплыў рабіла іх месца на-раджэння. Так, прысутныя “з Віленшчыны і Гродзеншчыны на чале з Я.Я. Ва-ронкам не хацелі заставацца ў цесным саюзе з Расіяй. З імі салідарызаваліся віцябчане і мінчане, у меншай ступені – смаляне, магіляўчане ж стаялі на глебе рускай арыентацыі і выказваліся супроць усякай аўтаноміі”[2]. І, відаць, вы-казаліся так, што былі на той час больш зрусіфікаванымі, чым іх землякі з іншых раёнаў Беларусі.

Выступленне ўсё ж даволі значнай часткі дэлегатаў Першага ўсебеларускага з’езда за незалежнае нацыянальна-дзяржаўнае развіццё Бацькаўшчыны паслу-жыла асноўнай прычынай яго

[1] Там жe. С.60.
[2] Касцевіч М. 20 гадоў назад (Успаміны); Шлях моладзі. 1938. № 4, 6 лютага; № 6. 26 лістапада.

разгону Саветам народных камісараў Заходняй вобласці і фронта, які займаў зусім іншую пазіцыю па дадзеным пытанні. Заканамернае жаданне гэтай часткі дэпутатаў мець уласную суверэнную дзяржаву прабальшавіцку настроенымі асобамі і арганізацыямі называлася сепаратызмам, здрадай ідэям Кастрычніцкай рэваюцыі, нацыяналізмам у самым пачварным разуменні гэтага слова. Любыя выступленні дэпутатаў на карысць незалежнага дзяржаўнага развіцця краю праціўнікі беларускай ідэі называлі не інакш, як шавіністычным чадам і ўсяк стараліся, каб у гэта паверылі як мага большыя колы самога беларускага народа. І сям-там гэта дасягалася дзякуючы старанна арганізаванай і хітра праведзенай бальшавікамі агітацыі і прапагандзе.

Нельга не прызнаць правільным, што на Першым усебеларускім з'ездзе з усёй катэгарычнасцю прапаноўвалася, каб у складзе Саветаў сялянскіх салдац-кіх і рабочых дэпутатаў пераважалі прадстаўнікі ад мясцовага насельніцтва, бо толькі пры такой умове мелася больш магчымасці ўлічваць яго інтарэсы. Карацей кажучы, даволі шмат удзельнікаў з'езда добра ведала цану дзяржаў-нага суверэнітэту і як магла ваявала за яго. З усіх беларускіх арганізацый як напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі, так і ў першыя дні і месяцы пасля яе найбольш радыкальную палітыку ў пытаннях нацыянальна-дзяржаўнай неза-лежнасці займалі віленцы.

25-27 студзеня 1918 г. у Вільні адбывалася беларуская канферэнцыя, у палітычнай рэвалюцыі якой указвалася на неабходнасць стварэння не толькі беларуска-літоўскай, а нават і беларуска-літоўска-латышскай дзяржавы, якой, лічылася, будзе дастаткова, "каб уяўляць рэальную баявую моц"[1]. З'яднаць тры розныя паводле свайго этнакультурнага складу народы ў адну дзяржаву, нават калі б яны гэтага і пажадалі, наўрад ці было магчыма. Але ва ўмовах, калі Савецкая Расія не рабіла аніякіх крокаў па ўстанаўленні для Беларусі нацыянальна-дзяржаўнай аўтаноміі ў складзе РСФСР, пазіцыю беларускай канферэнцыі ў Вільні няма падставаў рэзка крытыкаваць, улічваючы складанасць тагачаснага становішча. Абраная на канферэнцыі Віленская Беларуская Рада вельмі адмоўна ставілася да палітыкі, што праводзілі партыйныя і савецкія органы Заходняй вобласці РСФСР, у якую ўваходзілі незанятыя кайзераўскімі войскамі беларускія губерні. 18 лютага 1918 г., г.зн. адразу ж пасля выезду савецкай адміністрацыі з Мінска ў сувязі з маючым заняццем яго нямецкімі войскамі, Віленская Беларуская Рада з улікам гэтых падзей адзначала ў свай пастанове: "Палякі выказваюць захопныя

[1] Собственноручные показания. А.И. Луцкевича... С. 140.

тэндэнцыі на Беларусі, рускія войскі ня далі магчымасці зарганізавацца беларускай арміі і самі кінулі Беларусь безабаронай; Беларусь мае ў гісторыі доказы магчымасці незалежнага палітычнага існавання; бальшавіцкі ўрад вёў гвалтоўную палітыку перад беларускім народам, аб чым сведчыць разгон Усебеларускага кангрэсу у Мінску. Прымаючы ўсё гэта на ўвагу, Віленская Беларуская Рада абвяшчае сувязь паміж Расіяй і Беларуссю парванай.

Рада звяртаецца да ўсіх заходніх дзяржаваў.., каб яны дапамаглі ў справе адбудовы дзяржаўнай незалежнасці колішняга Літоўска-беларускага гаспадар-ства, нягледзячы на цяперашні падзел яго мяжою фронту"[1].

Многае змяніла ў нацыянальна-культурным жыцці Беларусі наступленне кайзераўскіх войскаў у лютым 1918 г. На гэты раз у руках інтэрвентаў апынуў-ся другі пасля Вільні важны беларускі нацыянальны асяродак г. Менск. Небаль-шавіцкія грамадска-палітычныя і культурныя дзеячы не рушылі на ўсход напя-рэдадні захопу немцамі Менска, бо там у іх не было аднадумцаў. Дзяржаўныя і партыйныя кіраўнікі Савецкай Расіі не ішлі ні на якія палітычныя ўступкі Беларусі, працягвалі глядзець на яе на спрадвечна рускі край. У гэтых умовах лічылася лепш застацца адзін на адзін з інтэрвентамі і паспрабаваць штосьці зрабіць з іх ласкі дзеля ўсталявання Беларускай дзяржаўнасці, арганізацыі ўсяго мясцовага жыцця на ўласным нацыянальным грунце.

З зусім іншага парадку фактам даводзілася сустракацца і пасля кастрычніка 1917 г. ва ўсходніх губернях Беларусі, насельніцтва якіх было больш зрусіфіка-вана і да таго ж знаходзілася пад моцным уплывам бальшавіцкіх арганізацый і тых сіл, што рашуча выступалі за адзіную і непадзельную Расію. Паводле сказанага, зразумела, чаму ў рэзалюцыі IV з'езда сялянскіх дэпутатаў Магілёў-скай губерні, што праходзіў у пачатку 1918 г., гаварылася аб безумоўнай нераз-рыўнасці Беларусі "ад мацеры-Расіі"[2]. І гэта не павінна здзіўляць, бо такой пазіцыі прытрымліваліся вельмі многія бальшавікі, прысланыя на Беларусь з Петраграда, Масквы ці іншых гарадоў. Антыбеларускую лінію рашуча пра-водзіў у жыццё рэдактар газеты "Звезда" Вільгельм Кнорын. Ён лічыў рэакцый-ным "дамаганне правоў усіх народаў на самавызначэнне ў сацыялістычнай рэспубліцы Радаў", бо яно скіравана супроць пралетарыяту. "Заклік самавызна-чэння народаў, – працягваў гэты дзеяч, – мы павінны выкасаваць з

[1] Тогулева А. Дз. Беларуская Сацыялістычная Грамада: Праблемы ўтварэння і палітычнай дзейнасці (канд. дысер.). Мн., 1997. С. 89).
[2] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии… Т.2. С.724.

праграмы Расіі Радаў”. Трэба “ні лібэральнічаннем і патураннем, але ўмацаваннем работ-ніцкай дыктатуры” выступаць “проці буржуазных нацыянальных рухаў, так як мы выступалі бы проці іх, каб яны ні хаваліся за нацыянальныя прапоры”[1].

## §3. Беларуская Народная Рэспубліка – знакавая вяха ў гісторыі нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва

Трохі больш магчымасцяў для працы на карысць дзяржаўнага адраджэння роднага краю мелі нацыянальныя арганізацыі і партыі той часткі Беларусі, што падпалі пад юрысдыкцыю кайзераўскай ваеннай адміністрацыі, паколькі не зведвалі на сабе ўціску шавіністычна настроеных бальшавікоў. І зрухі былі на гэтым шляху, у чым галоўная заслуга створанага неўзабаве пасля разгону баль-шавікамі Першага ўсебеларускага кангрэса ўрада Беларускай Народнай Рэспуб-лікі, які не разгубіўся ў час нямецкай інтэрвенцыі і ў экстрэмальных умовах акупацыйнага рэжыму зрабіў амаль немагчымае для нацыянальна-дзяржаўнага і духоўнага адраджэння сваёй краіны. Асаблівую ўвагу гэтаму ён надаваў пасля таго, як 25 сакавіка 1918 г. БНР аб’явіла сябе суверэннай, незалежнай дзяржа-вай і неадкладна распачала яе адбудову, не чакаючы падыходу больш спрыяль-нага часу. Беларускія нацыянальныя сілы добра разумелі, якую велізарную адказнасць узвальвалі яны на свае плечы. Добра ведалі гэта і ў рэдакцыі газеты “Беларускі шлях”, калі пісалі: “Цяпер ідзець будаваньне асноў жыцьця для мно-гіх пакаленьняў”[2].

Урад БНР быў адзінай палітычнай сілай у нашым краі, з якой у той ці іншай ступені лічыліся нямецкія ваенныя і цывільныя органы. Пад іх кантролем ён меў права рабіць пэўныя захады па гаспадарчым і культурным адраджэнні. Пераход такіх функцый у рукі ўрада БНР яшчэ не азначаў, што вельмі лёгка будзе пакласці канец усім старым парадкам. Як і ва ўсіх падобных выпадках, старое вельмі моцна трымалася за жыццё, нідзе і ні ў чым не жадала ўступаць новаму. Датычыла гэта і сферы нацыянальна-культурнага жыцця, якому не вельмі лёгка было надаць сапраўды беларускі характар, на што дзяржава лічыла сваім абавязкам звярнуць увагу самых шырокіх колаў грамадскасці.

Панёсшы такія велізарныя страты ў нацыянальным патэнцыяле ў выніку па-ланізацыі і русіфікацыі, маладой беларускай дзяржаве вельмі важным было цяпер спыніць усякае яго размыванне. Разумна выхоўвала ў людзей пашану да сваіх

[1] Беларускі шлях. 1918. 17 жніўня.
[2] Беларускі шлях. 1918. 3 мая.

духоўных каштоўнасцяў рэдакцыя газеты “Беларускі шлях”. На яе старон-ках неаднаразова сцвярджалася, што галоўная нацыянальная асаблівасць бела-рускага народа – цяга да прыроднай культурнасці, на якой “і можна пачаць нашу нацыянальную дзержаўную будову. А калі выявіцца значна і будзе добра з’арганізавана наша дзержаўная сіла, то нават апалячваныя і абруселыя інтэлі-генты нашыя пачнуць свой адваротны адліў у роднае беларускае нацыянальнае моро.., іх верне да нас народны інстынкт”[1].

Складанасць сітуацыі, у якой Беларусі даводзілася рабіць першыя практыч-ныя крокі на шляху нацыянальнага Адраджэння, патрабавала актыўнага ўдзелу ў ім усіх, хто жыў інтарэсамі роднай краіны. Перад імі на задні план адсоўвалі-ся сацыяльнае паходжанне і становішча кожнага канкрэтнага чалавека, яго рэлігійныя погляды, далучанасць да таго ці іншага грамадска-палітычнага, культурнага руху і г.д. Час, як ніколі раней, патрабаваў сумесных намаганняў усіх людзей дзеля агульнанацыянальнай справы, што добра разумелася многімі палітыкамі, прадстаўнікамі інтэлігенцыі, словам, усімі, каго можна было назваць сапраўднымі беларускімі беларускімі нацыянальнымі патрыётамі. Вострая неабходнасць усенароднага яднання у гэтую цяжкую для нацыі гадзіну пераканаўча адлюстравана ў вершы менскага аўтара Міхалкі Махавенкі “Гоман Беларуса”:

“Спячы Народ Беларускі ўставай!
Бярыся да працы агульнай;
Багаты і бедны, вучоны, ратай,
Ідзі да работы ўспульнай
Брат – брату падайце, вы, рукі свае,
У згодзе з сабой пачынайце…”[2]

Правільна выказаўся па дадзеным пытанні у інтэрв’ю “Минскому Ежене-дельнику” (выходзіў замест “Минской Газеты”) ад 25 мая 1918 г. вядомы беларускі палітык Раман Скірмунт: “Цяпер момэнт, калі патрабуецца зьбіранне ўсіх інтэлігентных сілаў краю для творчай працы ў дзеле аснавання Беларускай дзяржаўнасьці. Партыйны склад, на якім да гэтых часоў асноўваліся, саўсім не адпаведае ні момэнту, ні становішчу. Цяпер ідуць падгатаваўчыя чыны для адбудавання Беларусі, як дзяржавы. І трэба сабраць усе сілы, якія могуць быць карыснымі як у дзяржаўна-творчай працы, так і для культурна-эканамічнага адраджэння краю”. З такой пазіцыяй Р. Скірмунта цалкам пагаджалася рэдак-цыя газеты “Беларускі шлях”, таму дадзеную

[1] Беларускі шлях. 1918. 11 мая.
[2] Беларускі шлях. 1918. 19 мая.

вытрымку з яго інтэрв'ю і змясці-ла 29 мая 1918 г. на сваіх старонках.

Неверагодна складаная на Беларусі сітуацыя вымусіла ўрад, адданыя яму сілы ўнесці істотныя карэктывы ў свае погляды на нядаўняга царскага афіцэра высокага чыну Станіслава Булак-Балаховіча. У заяве на імя старшыні Рады народных міністраў БНР ён пісаў: "Зьяўляючыся грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі, лічу патрэбным, каб маё войска было скарыстана для абароны цэльнасьці і недзялімасьці маёй бацькаўшчыны, а таму прапаную майму ураду залічыць мяне і мой атрад на беларускую службу". Просьбу генерала С. Булак-Балаховіча нельга было не задаволіць, бо абарона БНР ад усіх яе магчымых ворагаў з'яўлялася тады самай важнай задачай. У шчырасць жадання С. Булак-Балаховіча аддана і самаахвярна служыць народу ніхто не сумняваўся. У той час пра яго так пісалі: "Атаман добраахвотніцкага народнага атраду генэрал Булак-Балаховіч аказваўся ня толькі ні палякам, ці літвінам, аказваўся ня толькі самым сапраўдным беларусам, але апрача гэтага ён яшчэ зусім сьвядомы ў беларускіх пытаньнях грамадзянін, добра ведае беларускую літаратуру і мову і нават сам піша вершы па-беларуску..."[1].

Беларуская нацыянальная ідэя станавілася такой актуальнай, што пра яе нават не маўчаў тэатр-батлейка. У сюжэце адной з яго пастановак, што прапа-ноўваўся газетай "Беларускі шлях" (13 мая 1918 г.), беларус, галоўная дзеючая асоба, прамаўляў такія словы:

"Мая арыентацыя:
Гэта нацыя
Беларуская!"

Закладаючы падмурак пад нацыянальную дзяржаву, беларусам вельмі важна было мець у гэтым надзейную падтрымку ад прадстаўнікоў тых народаў, якія жылі ў іх краі. Варожыя беларускай нацыянальнай ідэі людзі ўсяк распаўсюдж-валі плёткі, што створаная ў нашай краіне дзяржава быццам бы будзе служыць інтарэсам толькі яе карэннага насельніцтва і пры нагодзе пастараецца адпом-сціць тым, хто на працягу некалькіх стагоддзяў гэтак бязлітасна прыгнятаў яго, ганьбіў беларускую культуру і мову. Каб не даць умацавацца такім ілжывым поглядам на палітыку новай улады, ёй трэба было неадкладна і на словах, і на практыцы даказаць адваротнае. І такое стала правілам для многіх, хто стаяў на чале ўлады, працаваў з людзьмі. Правільную пазіцыю па дадзеным пытанні займаў старшыня сакратарыята Рады БНР Р. Скірмунт. Выступаючы 9 ліпеня 1918 г. на пасяджэнні Рады БНР,

[1] Беларускі шлях. 1918. 5 жніўня.

ён сказаў наступнае: “Любіць свой народ, гэто ішчэ не знача нінавідзець другіх”[1].

На трывалых інтэрнацыяналістычных пазіцыях стаяла штодзённая грамадска-палітычная газета “Беларускі шлях”, якую доўгі час беларускія афіцыйныя гісторыкі незаслужана абвінавачвалі ў нацыяналізме, у бальшавіцкім разумен-ні гэтага слова і сепаратызме. Даючы ацэнку палітычнага становішча на Бела-русі ў час, калі тут панавалі кайзераўскія войскі, яна заяўляла: “Трэба уступіць у дыпломатычныя зносіны з Цэнтральнымі Дзержавамі, Вялікарасіей, Украінай. На мейсцы трэба зарганізаваць разсеянныя нацыянальныя сілы, трэба выкары-ставаць вялікі запас інтэлігентных сіл з усіх нацый, жывучых у Беларусі і прызнаючых яе дзержаўнасьць. А такіх сіл у нас больш, як у якім нібудзь краю быўшай імпэрыі”[2].

Ва ўрадзе БНР, пры ўсёй яго нявопытнасці, з аднаго боку, і моцнай залеж-насці ад кейзераўскіх ваенных і адміністрацыйных уладаў, з другога, мелася нямала шанцаў дасягнуць патрэбнай яму падтрымкі і паразумення з нацменша-сцямі, бо на нашай зямлі спрадвеку не назіралася сур’ёзных міжэтнічных канфліктаў, у якіх сутыкаліся б інтарэсы карэннага насельніцтва з нацыяналь-нымі групамі, у т.л. і з яўрэйскай, як самай шматлікай. Яна вельмі рана пачала праяўляць самую пільную ўвагу да беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху. У яўрэйскім часопісе “Ды Юдышэ Вэльт”, які выдаваўся ў Вільні з 1913 г., ужо тады пачалі змяшчацца артыкулы, прысвечаныя дадзенай прабле-ме. У наступным годзе выйшаў з друку яўрэйскі “зборнік “Літва”, дзе былі перэклады з беларускай і літоўскай літэратур і артыкулы а беларускім руху”, якому давалася вельмі высокая ацэнка ў яўрэйскім перыядычным друку, а так-сама інтэлігентнымі коламі беларускіх яўрэяў, што зміігравалі ў Амерыку. Паводле сведчання Змітрака Бядулі, “да друку быў падрыхтаваны і другі зборнік “Літва” с перэкладамі вершаў Я. Купалы, апавяданняў М. Гарэцкага, але хутка, у часе вайны, расійскі ўрад забараніў друкаваць па жыдоўску”. Як вядома, такую санкцыю ўжылі і ў дачыненні да беларускай мовы. Згодна з успамінамі Змітрака Бядулі, “калі беларусы ў Менску пачалі выступаць пад сваім уласным штандарам, то гарачэй усіх віталі іх жыды – нацыяналісты”. Яны разам з беларусамі “ўвайшлі ў коаліцыю і зрабілі адзін спісак кандыдатаў” у час выбараў у Менскую думу. На першым сялянскім з’ездзе, што праводзіўся ў Менску ў красавіку 1917 г. Беларускім Нацыянальным Камітэтам, прысутнічаў дэлегат

[1] Там жа. 13 ліпеня.
[2] Беларускі шлях. 1918. 2 ліпеня.

ад Паўловіцкай воласці Магілёўскага павета яўрэй Мордух Зільберман. Вартым быць адзначаным і такі факт, што яўрэйскія нацыянальныя партыі заявілі свой пратэст з прычыны разгону бальшавікамі ў снежні 1917 г. Першага ўсебеларускага з'езда. У складзе Беларускага сакратарыяту ў Менску з асобаў яўрэйскай нацыянальнасці былі Гутман (без партфеля) і Белкінд-сакратар фінансаў. Дзеля аб'ектыўнасці варта падкрэсліць, што сярод яўрэйскай мен-шасці былі і асобы – прычым даволі значная колькасць, – якія адмоўна ставіліся да беларускага нацыянальнага руху. Іх Змітрок Бядуля падзяляў на дзве групы: прадстаўнікі першай з іх так дзейнічалі адтаго, што не верылі ў магчымасць далейшага існавання нацый, другой – з прычыны таго, што не хацелі падзяляць яўрэяў на беларускіх, украінскіх і г.д., бо гэта абавязвала б іх ведаць мовы тых народаў, сярод якіх яны жывуць[1].

Узаемадачыненні яўрэйскай нацменшасці з карэнным насельніцтвам нашага краю так характарызаваў тагачасны беларускі нацыянальны друк: "... калі ў Вялікаросіі і да апошняга дня ўладжваліся спэцыяльныя жыдоўскія пагромы тут на Беларусі нічога падобнага ні было ні гледаючы на вялікія старанні наўмысне камандзіраванных да гэтай справы расійскіх чорнасоценцаў – беларускі селянін ні мог гэтаго рабіць"[2].

Гэтыя чарнасоценцы шмат шкодзілі беларускай справе і тады, калі наш край знаходзіўся пад акупацыяй кайзераўскіх інтэрвентаў. Не мянялі свайго адмоў-нага стаўлення да суверэнізацыі Беларусі і тыя рускія чыноўнікі з мясцовай адміністрацыі, што працавалі тут да рэвалюцыйных падзей 1917 г. На карысць дружбы гэтых двух усходнеславянскіх народаў не пайшла пазіцыя Савецкай Расіі ў час падпісання ў Брэсце ў сакавіку 1918 г. мірнага дагавора з Германіяй, у адпаведнасці з якім зусім не ўлічваліся інтарэсы беларускага народа. Яго тэрыторыяй гандлявалі, як толькі маглі. Паводле падпісанай дамовы Украін-скай Народнай Рэспублікі перадаваліся беларускія землі на поўдзень ад Палес-кіх чыгунак. Такое адвольнае распараджэнне прадстаўнікамі славянскіх краін беларускай тэрыторыяй не магло не пакласці адмоўнага адбітку на ўзаемадачы-ненні паміж іх уладамі і народамі. Пры ўсякім зручным выпадку ўлады БНР не лічылі лішнім пагаварыць пра гэта са сваімі суайчыннікамі.

Адначасова ўлады БНР усяк папярэджвалі людзей у гэты складаны і да канца не высветлены час цалкам не даверацца сваім заходнім суседзям – паля-кам. Нехта Я-р пісаў: "Услед за

[1] Беларускі шлях. 1918. 23 жніўня.
[2] Беларускі шлях. 1918. 11 мая.

“таварышамі” (бальшавікамі Расіі. – Л.Л.), назапасіўшыся алоўкамі, пачалі падыходзіць да беларускае мапы і палякі, маючы замер, пры акрэсьліванні канфігурацыі будучай Польшчы вымалеваць сабе на беларускай глебі добры акраец. На жаданні і жадаючых, наогул, німа граніц і меры. Выходзіць так, нібы ў Беларусі знаходзіцца адвечная касса дзеля выплаты страт розным славянскім братом”[1].

Многае рабіў дзеля інтэрнацыянальнай кансалідацыі насельніцтва Беларусі яе нацыянальна-дэмакратычна перыядычны друк, асабліва газета “Беларускі шлях”. Глыбінёй думкі, правільным поглядам па дадзеным архіактуальным пы-танні вызначаўся артыкул “Адносіны Беларусі да суседніх народаў”. Яе аўтар Я-р даводзіў, калі новая Беларуская дзяржава жадае заняць належнае ёй у свеце месца, яна павінна правільна вырашыць пытанне аб дачыненнях “беларускага народу да жывучых доўгімі гадамі народаў бок аб бок з ім. Ні ўспамінаючы аб старых крыўдах, нанесяных нам некаторымі з гэтых народаў, як палякамі і вялікарусамі, мы пэўны што з цяперашняй эры гэтаму будзе акрэсована мяжа”. Я-р справядліва выказваўся за такое, каб усе прадстаўнікі народаў, што жывуць на Беларусі, пагадзіліся на яе “беларуска-дзяржаўнае афарбаванне”, садзейніча-лі атрафіраванню ўсяго антыбеларускага. Вялікую каштоўнасць мелі яго меркаванні датычна ладкавання духоўнага жыцця: “Барацьба культур, якая вялася проціў беларускай культуры палякамі, расійцамі і беларусамі, перайшоў-шымі да гэтых станаў, ні можа мець далей мейсца – справа перэвагі будзе тут на старане **беларускай дзержаўнай культуры**.

Разумеецца, пры гэтым павінна быць забеспэчэна магчымасьць развіцця замешканых у нас меншасьцяў.

(…) Наша ідэя такая, каб у нацыянальным смысле кожны народ быў сам сабою і гэтым ён выпоўне свой прыроднаэтычны доўг”. Зусім справядліва прадбачачы магчымае супраціўленне эдэнацыяналізаванай часткі карэннага насельніцтва працэсу духоўнага адраджэння, Я-р слушна раіў наступнае палі-тыкам і грамадскім дзеячам: “А што тычыцца беларусаў, якія ўзгадаваліся пад польскай і расійскай культурай, носюць марку першай ці другой нацыі, што мы іх гвалтом у свой лагер ні пацягнем – вольнаму воля”[2].

Асаблівай пільнасці патрабавала дзяржава ад адданых нацыянальнай ідэі людзей у вывучэнні таго, што робяць руская і польская супольнасці ў галіне адукацыі, заканамерна хвалюючыся,

[1] Там жа. 18 чэрвеня.
[2] Беларускі шлях. 1918. 13 ліпеня.

каб яна і цяпер не з’яўлялася сродкам культурна-моўна асіміляцыі маладых пакаленняў беларусаў. Ніколі не забыва-лася звярнуць увагу грамадскасці на гэта газета “Беларускі шлях”. Вось адно з пацвярджэнняў: “Русіфікатары з земсаюзу захапілі ў свае рукі самауправы і аса-бліва заняты “прасьветай” беларускага народу. Сваіх пазыцыяў у школі яны ні за што ні хочуць здаваць. Дый ці можа быць іначэй. Яны цяпер амаль што ні “собиратели земли русской”. Хто-ж апрача іх зможа аднавіць ланцугі, якімі прыкула Масква да сябе “Западный край”? Хто будзе бараніць слаўныя традыцыі Мяруасва (відаць, трэба: Мураўёва? – Л.Л.), Шміта і Замыслоўскага, сьцерагчы рубяжы, “всея России”?

Асуджаючы русіфікатарскія настроі ў тагачаснай сістэме адукацыі на Бела-русі, аўтар цытуемага артыкула папярэджваў, што аніяк нельга аслабляць увагу да магчымасці і яе паланізацыі, хоць многія палякі – бежанцы, імігранты пачалі ад’язджаць на радзіму. Ён пісаў, “... цяперака, як бежанцы з’едуць дамоў, астануца адны дзеці нашых тутэйшых каталікоў і ўсе яны будуць выгадаваны на палякоў (тут, несумненна, дапушчана перабольшанне. – Л.Л.) .., польская школа ... будзе падтрымана тутэйшым спольшчаным грамадствам. Памятаючы ягелонскія запаветы, яно верна будзе служыць мачысе дый проці роднае маткі. У гэтай справе аб’еднаюцца ўсе палякі – і правые і левые, нават прыяцелі бела-рушчыны. І доўга ішчэ будзе гадавацца вялікая часьціна дзяцей беларускіх у романтычнай Польшчы да чужаніцы далёкай мачыхі і ў пагардзі да свайго роднаго беларускаго. І доўга ішчэ будзе часьціна маладзежы нашай насіць на грудзях лупежніка-арла замест радзімай пагоні”[1].

Пэўнае перабольшанне небяспекі польскага ўплыву на адукацыю на Белару-сі магчыма і апраўдана, бо трэба ж было любым коштам зарганізаваць масы на пабудову сапраўды нацыянальгай сістэмы асветы. Аўтар цытаванага артыкула вельмі верыў у яе моц, прагрэсіўную ролю, пішучы: “Беларусам трэба будаваць школы і школы. Ні сіла духоўнай культуры нашых суседзяў, ні іх зпадворная магутнасьць ні падаюць вялікага духа адраджэння. Дух гэты ўжо ўходзіць у беларускія школы і ён нам створыць новы народ, які паверне сабе славу даўней-шых часоў сваёй гісторыі. Тады не страшны будуць нам чужынцы. Аб часох іх панавання над Беларусьяй будуць расказваць як аб даўнай цемнай мінуўшчыні. Вось як цяпер аб часах паншчыны”[2].

Здаўна пазбаўлены, нават на мясцовым узроўні, уласнай формы самакіраван-ня, беларускі народ вызначаўся вельмі нізкай

[1] Беларускі шлях. 1918. 27 красавіка.
[2] Беларускі шлях. 1918. 27 красавіка.

ступенню нацыянальна-дзяржаў-най свядомасці. Існавала рэальная пагроза абыякавасці значнай часткі грамад-ства да стварэння сваёй дзяржавы, тым больш што праціўнікаў яе было дужа багата сярод праруску настроеных мясцовых чыноўнікаў і польскай арыентацыі памешчыкаў. Небяспеку такой сітуацыі добра разумелі прагрэсіўныя грамад-ска-палітычныя, культурныя дзеячы Беларусі і таму ўсяк імкнуліся пераканаць людзей у перавагах самастойнага дзяржаўнага развіцця. Не забывалася даводзіць ім такое і рэдакцыя газеты "Беларускі шлях". Даволі аптымістычна пісалася пра гэта ў яе артыкуле "Народная дзяржава". З усталяваннем такой, заяўлялася, "мы будзем гэтым самым ужо эўропэйскай нівялікай дзержавай. Выгада невялікай дзержавы, як Беларусь, тая, што тут усе адзін аднаго добра знаюць, – будзе як бы адна вялікая сем'я. Усе ўстановы і канцэлярыі лёгка кантраліравацца цэнтральнай Уладай і народам.

Усе інтарэсы і патрэбы краю будуць ведамы, усе нужды народа могуць быць залагоджаны.

Голас народа лёгка і скора дойдзе да нашай беларускай Улады…

Беларусь можэ выйсьці і выйдзе на шырокую дарогу матэрыяльнага і духоў-нага прагрэсу і свабоднага грамадзянскага развіцця Народнай Рэспублікі". Вельмі важна, што забяспечыць такі прагрэс заклікаліся самі людзі. "Зруйно-ваная вайной Беларусь, – пісалася ў гэтым артыкуле, – можэ мець надзею толькі на свае сілы і на сваю ўладу. Ніхто другі ні будзе плакаць над яе разарэннем. У ўсесусьветнай ваеннай разрусе кожны народ дбаець толькі сам аб сваёй шкуры"[1]. З такой думкай ніяк нельга не пагадзіцца. Перадавыя, больш-менш нацыянальна-самасвядомыя пласты беларускага народа актыўна падтрымалі яе.

Увесь гэты непрадказальны час клопатам нумар адзін для ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі з'яўлялася пытанне аб урэгуляванні дзяржаўных межаў краіны. І гэта лёгка зразумець, бо ўлетку 1918 г. з усіх 63 паветаў Беларусі 35,5 знаходзілася на тэрыторыі, занятай нямецкімі акупантамі, 19,5 павета належала Савецкай Расіі, 8 – Украіне. Існавала рэальная небяспека, што ў выпадку за-канчэння Першай сусветнай вайны Беларусь не збярэ ўсе гэтыя свае этнічныя паветы пад адзін дах. Такое добра прадбачыў нехта А.У., пішучы: "Гэтая вайна найбольш збурыла наш край. Калі граніца паміж Усходам і Захадам будзе праходзіць праз сярэдзіну Беларусі, то гэта заўсягды будзе ўгрозай нашаму краю і нацыянальнай бядой, а с развіццём маладых сьвядомых беларускіх пака-ленняў, беларускае пытанне заменіць у Эўропе

[1] Беларускі шлях. 1918. 13 жніўня.

польскае запытанне і будзе стаяць вечным знакам запытання"[1]. Як бачым, нямала з таго, пра што папя-рэджваў А.У., мела месца ў далейшай гісторыі нашай Бацькаўшчыны.

Як высветлілася, не так усё было лёгка для Беларусі пры вызначэнні сваіх дзяржаўных межаў з Украінай, якая інтэнсіўна рухалася на шляху незалеж-насці, набывала моц і аўтарытэт сярод краін Еўропы, удзельнічала ў 1918 г. у абмеркаванні ўмоў Брэсцкага міра. "Каменям спатычкі пры перагаворах Бела-русі і Украіны аб мяжы", адзначалася ў газеце "Белорусское Эхо" (выходзіла ў Кіеве), былі "Пінскі, Мазырскі, Рэчыцкі, Гомельскі паветы з артэрыяй Бела-рускага арганізму – Прыпяцьцю і с чыгункай Пінск-Гомель, а так сама паветы: Мглінскі, Суражскі, Старадубскі, Новазыбкаўскі і частка Городнянскаго павету Чарнігаўшчыны, а такаж частка Гродзеншчыны…". Гэтыя тэрытарыяльныя замахі да суседняй краіны аўтар вышэйпрыведзеных слоў Я. Юзюкевіч назваў спробамі "будаваць Вялікую Украіну … перш за ўсё за кошт братняга Бела-рускага народу". Урад Украіны ўсяляк не дапускаў беларусаў да ўдзелу ў пера-гаворах, якія яна вяла з Савецкай Расіяй па тэрытарыяльных пытаннях. "Характэрна, – пісаў далей гэты аўтар, – што ўкраінцы проці допуску бела-рускіх прадстаўнікоў на Кіеўскія міравыя перагаворы выстаўлялі акурат такія ж аргумэнты, якія праводзілі большэвікі на міравых перагаворах у Бярэсьці проці допуску Украіны.

Гэткім чынам пачалася другая публічная ліцітацыя Беларусі – Кіеўская – ішчэ страшнейшая чымся першая – Берасцейская – як па сваёй гістарычнасьці, так і па тому, што ліцітацыя робіцца ад імяні братняго з давен-даўна дружняго Украінскага Народу". Нібы папярэджанне ўсім ворагам Беларушчыны прагу-чалі наступныя радкі з артыкула: "… памятайце, што колькі бы вы ні раздзіралі і ні прадавалі Беларусь, яна жыве і будзе жыць!"[2].

Распачатая на Беларусі адбудова жыцця на ўласным, нацыянальным грунце ўсяк была падтрымана яе сынамі і дочкамі, якія па розных прычыных апынулі-ся па-за сваім домам. Інтарэсамі любай Бацькаўшчыны ў той крайне цяжкі для яе час жыла беларуская інтэлігенцыя Петраграда. У ліпені 1918 г. у гэтым горадзе на Няве злажыўся "Гурток пазнання Культурна-Прамысловага стану Беларусі", у склад якога ўваходзілі толькі навуковыя сілы. Старшынёй гуртка абралі прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілу, сакратаром – інжынера Кляў-дыша (Клаўдзія)

[1] Беларускі шлях. 1918. 22 жніўня.
[2] Беларускі шлях. 1918. 16 жніўня.

Душэўскага. Першым крокам дзейнасці гуртка стала складан-не бібліяграфіі беларусазнаўства.

У нялёгкіх умовах жыцця ў Маскве тут ўлетку 1918 г. пры садзеянні Бела-рускага нацыянальнага камітэта працаваў Беларускі народны універсітэт. У яго праграме належнае месца адводзілася беларусазнаўству, у якое ўключаліся мова і літаратура, гісторыя, этнаграфія і геаграфія, народная гаспадарка, нацыянальна-рэвалюцыйны рух на Беларусі. Шмат цікавага давалася па гісторыі адукацыі. Ва універсітэт у першую чаргу прымалі настаўнікаў, работнікаў ад-дзелаў народнай асветы, культурна-асветных арганізацый. За наведванне занят-каў не бралася ніякай платы. Для іншагародніх было выдзелена памяшканне на 100 асобаў, а самым бедным, якія мелі адпаведныя пасведчанні, – "матэр'яльнае падтрыманне і вернуты кошт на праезд"[1]. Прычым ва універсітэт прымаліся асобы, што жылі на тэрыторыі Беларусі, захопленай кайзераўскімі войскамі. 14 ліпеня 1918 г. у гэтым жа горадзе ў памяшканні Педагагічнага інстытута імя Шалапуціна адбылося першае публічнае пасяджэнне Беларускага Навуковага Зграмаджэння, на якім прысутнічала больш за 100 чалавек. Яго задачы так акрэсліў ва ўступным слове прафесар Уладзімір Пічэта: "… падняцце куль-турна-нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў, згромаджэнне найбольш шырокіх колаў беларускаго грамадзянства да культурнаго будоўніцтва края і аб'яднанне ў адну сям'ю падзеляных цяпер вялікарусаў, маларусаў і беларусаў". З апошняй пасылкі вынікае, што ў той час У. Пічэта не быў прыхільнікам суверэннага нацыянальна-дзяржаўнага развіцця, хаця ўжо паспелі ў гэтым напрамку нямала чаго здзейсніць не толькі ўкраінцы, але і беларусы. "Згромаджэнне віталі ад Беларускага Юрыдычнага Таварыства, ад Маскоўскай Народнай Грамады і іншых арганізацый. Былі прачытаны даклады пр. Любаўскім і прыв.-доц. Урсы-новічам", а таксама "чыталіся творы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў"[2].

Тых жыхароў Беларусі, якія ў выніку вайны дзвюх вялікіх дзяржаў Еўропы – Расіі і Германіі – апынуліся далёка ад роднага дома, найбольш цікавіла, як тут ладкуецца дзяржаўнае жыццё, што робіцца па яго суверэнізацыі, бо толькі ў такіх умовах у народа ўзнікае гарантыя стаць гаспадаром свайго лёсу, адкараскацца ад любых формаў асіміляцыі. Прымусовая эвакуацыя беларусаў з тэатра баявых дзеянняў расійскіх і нямецкіх войскаў – гэта велізарная трагедыя для ўсёй нашай нацыі. Але з гэтай трагэдыі былі атрыманы і пэўныя пазітыўныя ўрокі, якія дазволілі

[1] Беларускі шлях. 1918. 29 чэрвеня.
[2] Беларускі шлях. 1918. 21 жніўня.

многім больш глыбока ўсвядоміць сябе беларусамі, зразумець сваю адметнасць найперш за ўсё ад рускіх і ўкраінцаў, чаго яшчэ зусім нядаўна не хацелі прызнаваць палітыкі і ідэолагі Расійскай імперыі, органы народнай асветы, Руская праваслаўная царква.

Дзе-нідзе ў Расіі, на Украіне і сапраўды беларусаў-уцекачоў сустракалі як братоў. Але назіраліся і факты зусім адваротнага парадку. З імі давялося сустрэцца і тым беларусам, лёс якіх закінуў у Казань. Як і ў многіх іншых гарадах, і тут уцекачоў лічылі за асноўную прычыну эканамічных цяжкасцяў, падаражання і недахопу тавараў, росту беспрацоўя. Сведка тых падзей В. Грыневіч так ахарактарызаваў становішча беларусаў у Казані: “Прыехаўшы туды, яны, замест абецанаго братэрскаго народу, спаткалі зусім чужых людзей, каторыя ні толькі ні сьпяшылі прывітаць іх па братэрску, але, наадварот, стараліся паказаць сябе ўсюды лепшымі, разумнейшымі, зухавацейшымі, ад каторых наш народ спатыкаў на кожным кроку толькі кпіны з сваёй вопраткі, з сваіх звычаеў і сваёй мовы. Асабліва цяжка даставалася нашым людзям за нашу мову. І па праўдзе, яна ніздатна да такой лаянкі як расійская, дзеля чаго мусіць і паказалася расійцам брыдкаю”.

Пішучы пад свежымі ўражаннямі нялёгкага жыцця ў эвакуацыі, В. Грыневіч мог штосьці і перабольшыць. Нельга, напрыклад, пагадзіцца і з такой яго высновай: “... ні адзін цар любіў зьдзекавацца над нашым народам, што гэта ён рабіў за згодаю ўсяго Вялікарасійскага народу”[1] (падкрэслена мною. – Л.Л.).

Часта зусім інакш да беларусаў-уцекачоў ставіліся нярускія народы, якія зведалі на сабе нямала здзекаў ад вялікадзяржаўнай шавіністычнай палітыкі Расійскай імперыі. Звернемся і на гэты раз да ўспамінаў В. Грыневіча: “Адно хто добра ў Казані адносіўся да нашых людзей, то гэта татары.

Змучаныя расійскімі зьдзекамі над усім сабе сьвятым і прывучаныя бараніць і шанаваць усё сваё, яны прыхільна спаткалі нашых братоў”[2].

У далечыні ад роднага дома, у асяроддзі іншых народаў больш дарагімі і любымі для беларусаў сталі іх родная мова, песні і танцы, сямейна-бытавыя звычаі. Групуючыся адзін з адным, яны зведвалі раней не так вядомую імі моц роднасці, што спрычынялася ад вялікага жадання вярнуцца дамоў, як толькі з’явяцца для гэтага хоць самыя мізэрныя магчымасці.

Не забываліся на сваю беларускасць нашыя землякі, якіх падзеі Першай сусветнай вайны закінулі ў Адэсу. Тут існавала культурна-асветніцкае згуртаванне “Беларускі Гай”, якое мела

[1] Беларускі шлях. 1918. 9 ліпеня.
[2] Тамсама.

сваю тэатральную трупу, аркестр, хор і біблія-тэку. Штотыдня ладзіліся тэатральныя беларускія выступленні.

Ад 30 мая 1918 г. у Кіеве пачала выходзіць на рускай мове газета “Белорус-ское Эхо”, якая прызначалася ў асноўным для беларусаў, што апынуліся на тэрыторыі Украіны. Матэрыялы, што праходзілі праз літаратурны аддзел газе-ты, друкаваліся па-беларуску. У змешчаным у №№ 1 і 2 артыкуле “Ад рэдак-цыі” заяўлялася, што газета будзе азнаямляць сваіх чытачоў не толькі аб падзеях на Украіне, але і на Беларусі, асабліва “зьвязаных з змаганнем беларус-каго народу за едзінство і дзяржаўнае істнаванне”. Адзначалася, што на Беларусі “сучаснае палітычнае жыццё занадта багата зьместам; стан беларус-каго адраджэння досыць яскравы для таго, каб ўзбудзіць да сябе цікавасьць шырокіх колаў ні толькі беларускаго грамадзянства на Украіне, але таксама ўкраінцаў і членаў іншых інтэрнацыянальных сем’яў”.

Са жніўня 1918 г. газета “Белорусское Эхо” стала выходзіць як тыднёвік, падобны на тыднёвік “Вольная Беларусь”, што выдаваўся ў Мінску. У вялікую заслугу рэдакцыі гэтага друкаванага органа можна паставіць яе выступленне “за адбудову, умацаванне і незалежнасць беларускай дзяржавы, яе свабоднае нацыянальнае і эканамічнае развіццё, нацыянальнае адраджэнне, аб’яднанне ўсіх грамадскіх сіл беларускага народа дзеля рэалізацыі нацыянальных інтарэсаў, прызнанне суверэннасці Беларусі з боку суседніх дзяржаў, найперш РСФСР…” Рэзка выказвалася газета “супраць прэтэнзій гетманаўскай Украін-скай дзяржавы на паўднёва-беларускія землі”[1]. У тым годзе ў Кіеве працавалі курсы беларусазнаўства, лекцыі на якіх чыталі (па-руску) прафесары Мітрафан Доўнар-Запольскі, Уладзімір Завітневіч (ураджэнец в. Ліцвяны, што на Уздзеншчыне). Заўважу, што ініцыятарам арганізацыі такіх курсаў была культурна-асветніцкая секцыя Беларускай вайсковай рады ў Кіеве.

Цеснай лучнасцю з духоўнай спадчынай Бацькаўшчыны жылі беларусы-ўцекачы, што апынуліся ў Казані. Шчыра стараўся пра гэта прапаршчык Я. Станкевіч, які служыў за пяць кіламетраў ад гэтага горада. З яго ўдзелам “на першым тыдні па Вялікадні ў 1917 годзе ў новым тэатры беларусы здолелі паставіць сваю вечарыну”, якая з аднаго боку паспрыяла “прыцягнуць пад беларускі штандар шырэйшыя колы, а з другога – даць матэр’яльныя сродкі для працы…

Далей удалося дастаць дазваленне ад загадчыцы Некрасаўскай бібліятэкі склікаць там сходы…”[2].

---

[1] ЭГБ. Т.2. Мн., 1994. С.8.
[2] Беларускі шлях. 1918. 26 чэрвеня.

Беларускае жыццё ў Казані стала яшчэ больш цікавым і змястоўным, калі з дапамогай усё таго ж самага Я. Станкевіча тут быў створаны нацыянальна-культурны гурток “Пралеска”. Найбольш актыўны ўдзел у ім бралі эвакуаваныя ў гэты горад на Волзе вучні Віленскай школы. Варта адзначыць, што яны, нягледзячы на сваю маладосць, нават выступалі за палітычную незалежнасць Беларусі. На іх баку цвёрда стаялі служачыя “Менскага аддзялення расійскаго дзержаўнаго банку. За іх пачынам 10.XI.1917 году ў Некрасаўскай бібліотэцэ быў склікаштаны агульны сход усіх беларусаў с тэй ці іншай прычыны папаўшых на жыццё у Казань. Для асьведамлення аб мэці сходу былі адбіты на шапіро-графе адозвы і апавешчэння, у якіх гаварылася, што сход склікаецца дзеля ства-рэння нацыянальна-палітычнай арганізацыі.

Перад назначанай гадзінай досыць умесная зала Некрасаўскай бібліатэкі перапоўнілася народам… Прапазыцыя адчыніць у Казані аддзел Беларускай Рады шчыра віталася і была прынята аднагалосна. Пастанова аб патрэбі ства-рэння беларускаго войска была прынята воплескамі і выклікала ў ўчасьнікаў сходу жаданне злажыць і свае ахвяры на карысць Ц. Вайск. Рады у Менску. Вялікая Рада ў Менску прызнавалася ядыным правамоцным кіраўнічым нацыянальным органом. Быў выбраны урад паўстаўшэй ад гэтаго сходу Беларускай Казанскай Рады”. Дзейнасць яе аказалася не надта рашучай і плённай, бо не заўсёды мела належную падтрымку ад беларусаў-уцекачоў і ўсяк уціскалася з боку “большэвіцкаго правадыра ў Казані Грасіса, каторы нацкоўваў на яе цемныя сілы”[1]. Адной з прычын, што Беларуская Казанская Рада спыніла сваю дзейнасць, стаў разгон бальшавікамі Першага ўсебеларускага з’езда ў снежні 1917 г. Ад гэтага часу ўцекачы з Беларусі больш займаліся не палітычнай, а культурнай працай, арганізатарам якой стаў ураджэнец з Пружан Гродзенскай губерні Уладзіслаў Багдановіч.

Натуральна, працяглая вайна з Германіяй і Аўстра-Венгрыяй не магла не аб-вастрыць нацыянальнага пачуцця ў тых беларусаў, што са зброяй у руках удзельнічалі ў гэтай кровапралітнай бойцы. З асаблівай моцай яна праяўлялася ў тых вайсковых часцях, дзе служыла шмат беларусаў. Часта па прыкладзе вай-скоўцаў іншых нярускіх нацыянальнасцяў і яны выступалі за фармаванне нацыянальных падраздзяленняў. Так, пры стварэнні беларускай арміі на Румын-скім фронце першымі сталі на шлях беларусізацыі 357-я Віцебская і 401-я Мінская дружыны, 6-ы Таўрагенскі полк, 48-я пяхотная дывізія, цалкам 4-ы армейскі корпус у складзе 30-й і

[1] Беларускі шлях. 1918. 29 чэрвеня.

40-й дывізій. Камандзірам усіх беларускіх часцей быў прызначаны генерал-маёр Пажарскі[1].

Працэс беларусізацыі не мог не ахапіць і тых вайсковых фармаванняў, якія дыслакаваліся на тэрыторыі нашага краю. Гэтаму пытанню надавалі вельмі вя-лікае значэнне беларускія нацыянальныя арганізацыі і рухі. У Менску працава-ла Вайсковая Рада пад кіраўніцтвам генерала Кіпрыяна Кандратовіча і падпа-ручніка Кастуся Езавітага, якому неўзабаве прысвоілі званне палкоўніка. У гэтым жа горадзе быў арганізаваны і нёс службу Першы беларускі полк. З улікам беларускіх інтарэсаў фармаваў адзін час атрады лігіянераў генерал-лей-тэнант рускай арміі Юзаф Доўбар-Мусніцкі.

Уплыў Першай сусветнай вайны на стан нацыянальнага руху на ўсёй велі-зарнай прасторы імперыі, у т.л. і на Беларусі, вельмі праўдзіва паказаў Я-р у артыкуле “Сучасная вайна і адраджэнне пад’ярэмных народаў у Расіі”. На яго думку, менавіта ў гэты час ярка выбухнула “самая чыстая нацыянальная ідэя…

Сучасная вайна знаменуе сабой іменна адраджэнне пад’ярэмных малых народнасьцей. Воляй льосу выйшло так, што гэтая вайна шмат ім памагла ў напрамку самаістасьці.

Па ўсёй быўшай Расійскай імпэрыі мы бачым выступленні на арэну дзяр-жаўнага нізалежнаго да Расіі жыцця кожнаго з вышэйпамянёных народаў (у найбольшай ступені тут меліся на ўвазе палякі, украінцы і беларусы. – Л.Л.).

(…) адраджэнне народнасьцей Расіі – самыя лепшыя трафеі сучаснай вялікай вайны”[2].

Накшталт іншых народаў і ў беларусаў рух за стварэнне ўласнай нацыяналь-най дзяржавы набыў такі магутны размах, што гэтаму ўжо лічылі больш немэ-тазгодным супраціўляцца ў вышэйшых эшалонах улады Савецкай Расіі. З іх згоды і была абвешчана 1 студзеня 1919 г. Беларуская Савецкая Сацыялістыч-ная Рэспубліка, дзяржаўны суверэнітэт якой хутчэй меў сімвалічны, чым рэаль-ны характар.

Набыты вопыт ладкавання нацыянальнага жыцця ва ўмовах нямецкай інтэр-венцыі вельмі спатрэбіўся пасля таго, як яна змянілася на польскую. Беларусам ад гэтага нікольки не стала лягчэй, хаця ў апошнім выпадку даводзілася мець справу з блізкароднасным па культуры і мове славянскім народам – палякамі. Дамогшыся ўвосень 1918 г. незалежнасці ад Савецкай Расіі, прашавіністычна настроеныя польскія колы ніяк не хацелі, каб на такі шлях стала і Беларусь. Наадварот, усе іх памкненні

[1] Звязда. 1930. 27 снежня.
[2] Беларускі шлях. 1918. 10 ліпеня.

былі скіраваны на тое, каб як мага больш адхапіць тэрыторыі ад сваёй усходняй суседкі. Каб не дапусціць выступлення, пратэстаў беларусаў супраць польскай інтэрвенцыі, яе галоўны арганізатар, вярхоўны правадыр польскіх войскаў і кіраўнік дзяржавы Польскай Юзэф Пілсудскі 18 верасня 1919 г. зрабіў такую заяву ў Менску: “Войска польскае, якім я маю гонар камандаваць, нясе ўсюды аслабаненьне і сапраўдную волю. Польшча ідзе на акраіны ня дзеля таго, каб навязаць сваю волю. Я выдаў адозву, у якой заявіў, што гэтым землям (беларускім. – Л.Л.) ніхто і нічога гвалтоўна навяз-ваць ня будзе, яны будуць вольны і само насельніцтва вызначыць формы свайго палітычнага жыцьця…

Няхай жыве вольная Беларусь паміж вольнымі народамі”[1].

Многія актывісты беларускага нацыянальнага руху сур’ёзна памыляліся, лі-чачы, што ён нібыта і сапраўды будзе падтрыманы нашым земляком, беларусам па нацыянальнасці Ю. Пілсудскім. Паколькі ўплывовыя сілы дзяржавы Поль-скай вызначаліся крайнім нацыяналізмам у падыходах да беларускага пытання, не мог хоць трохі інакш ставіцца да апошняга і Ю. Пілсудскі. Таму вельмі наіўнымі павінны былі б падавацца і некалі і цяпер погляды і спадзяванні на яго даволі прагрэсіўнай беларускамоўнай газеты “Звон” (выдавалася ў Менску з 25 жніўня да 19 кастрычніка 1919 г.): “Нам здаецца, што надыходзіць разьвязуючы момант. Пілсудскі – на Беларусі… Свядомыя гэтай павагі, мы разам з усімі радасна вітаем нашага вялікага зямляка ў сэрцы зямлі беларускай, прастарым Менску. Мы хочам верыць, што ён, гэты рыцар з Захаду, не па тое заваладаў сэрцам Беларусі, каб яе скрыўдзіць, але каб падняць з заняпаду зачараваную княжну ў сялянскіх шатах, каб вярнуць ёй адвечны пасад яе, каб памагчы ўтварэнню незалежнай і непадзельнай Беларусі…”[2].

Паабяцанай Ю. Пілсудскім волі не ўдалося адчуць беларускаму народу. Наадварот, многае з таго, што было дасягнута на шляху нацыянальна-культур-нага Адраджэння ў гады панавання на Беларусі кайзераўскіх войскаў, цяпер даводзілася страчваць, бо на яе спакутаваную зямлю вярталася ў сваім былым, да канца яшчэ не забытым аблічча паланізацыя. Бадай, ніхто так глыбока не разумеў і раней і цяпер яе небяспекі, як самі апосталы беларускага Адраджэння. “Вершам “Спадчына”, напісаным у 1918 годзе, – справядліва зазначаў наш літаратуразнавец Віктар Каваленка, – Янка Купала выказаў крэда ўсёй маладой беларускай інтэлігенцыі, якая трывожылася, каб у крывавых падзеях вайны, у часы, якія неслі людзям безліч фізічных і маральных пакут, не

[1] Минский Курьер. 1919. 20 верасня.
[2] Цытавана па газеце “Звязда”. 1930. 5 снежня.

страцілася, не забылася ўжо існуючая, ужо набытая і ўзбагачаная духоўная спадчына беларус-кага народа”[1].

Па-ранейшаму ледзь тлела беларуская нацыянальная ідэя на той частцы тэрыторыі нашага краю, якая знаходзілася пад юрысдыкцыяй Савецкай Расіі. У той час як яе нярускія народы, хаця і з вялікімі цяжкасцямі, але ўсё ж сёе-тое рабілі ў плане духоўнага адраджэння, у нас яно пачало даваць задні ход. Гэта вымагала ад нацыянальных арганізацый і рухаў вялікай, напружнай працы, узважаных падыходаў ва ўсіх сваіх дзеяннях, каб толькі захаваць хоць якую-небудзь надзею на пабудову ўласнай дзяржавы, без якой ніводзін народ не ў стане здзейсніць свае нацыянальныя ідэалы. Асаблівую пагрозу для беларускай справы ўяўлялі намеры Польшчы і Расіі падзяліць паміж сабой землі гэтага нібыта няздатнага для самастойнага дзяржаўнага развіцця народа. А такое пытанне не раз і падоўгу абмяркоўвалася імі. Выдатна бачачы, што ў час пера-моваў паміж РСФСР і Польскай Рэспублікай інтарэсы Беларусі ігнаруюцца як адным, так і другім бакамі, старшыня Рады Народных Міністраў Беларускай Рэспублікі Вацлаў Ластоўскі, Міністр замежных спраў Яўген Ладноў, Міністр фінансаў Аляксандр Валькові і Дзяржаўны сакратар Кастусь Езавітаў у сваім лісце ад 15 верасня 1920 г. на адрас Мірнай канферэнцыі ў Парыжы прасілі яе: “3) узяць пад французскае камандаваньне або кіраўніцтва як існуючыя ўжо бела-рускія часьці, так і тыя, якія будуць з’арганізаваны ў будучым.

4) даць магчымасьць Беларускаму ўраду сабраць беларускіх ваякаў, якія змагаюцца ў розных арміях, на бацькаўшчыну.

5) дапамагчы беларускаму народу і яго ўраду ў яго барацьбе з бальшавіцкай акупацыяй”[2].

Найрадчэйшы парадокс: урад славянскай дзяржавы Беларусь, будучы ігнара-ваны братамі-славянамі, звяртаецца з просьбай аб абароне да кіраўнікоў між-народнай канферэнцыі, на якой першую скрыпку іграюць прадстаўнікі несла-вянскіх краін! Зусім натуральна, калі з нацыянальнымі інтарэсамі беларусаў не лічыліся самі браты-славяне, марнымі былі спадзяванні займець падтрымку ад кіраўнікоў краін, якія належалі да іншых груп народаў. Таму рана ці позна ніхто іншы, як менавіта славянскія Савецкая Расія і Польшча, павінны былі расставіць усе кропкі над “і” па пытанні аб падзеле беларускай тэрыторыі. І зроблена гэта было ў час падпісання ў сакавіку 1921 г. у Рызе мірнага дагавора. Заходнія беларускія землі, што адышлі да Польшчы, былі практычна поўнасцю пазбаўлены ўсякіх правоў на нацыянальна-

[1] Звязда. 1986. 20 красавіка.
[2] Звязда. 1930. 27 снежня.

дзяржаўнае развіццё. У БССР жа яно насіла чыста сімвалічны характар. Такімі незайздроснымі аказаліся вынікі зма-гання нацыянальных партый і арганізацый Беларусі за аднаўленне яе дзяржаў-насці ў час, калі нашаму народу давялося спаўна зведаць усе жахі Першай сус-ветнай вайны, кастрычніцкага перавароту 1917 г., класавай, грамадзянскай бойкі. Хаця да пастаўленай мэты не ўдалося дайсці, гераічная барацьба за яе дасягненне робіць вялікі гонар ўсім тым, што змагаўся за карэнныя нацыяналь-ныя інтарэсы Бацькаўшчыны, ахвяруючы сваіх жыццём.

### §4. Наданне прыярытэту нацыянальнаму фактару ў культурным жыцці

Вырашаючы нялёгкія задачы нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, права-фланговыя беларускага Адраджэння ніколі не выпускалі з свайго поля зроку пытанняў арганізацыі духоўнага жыцця краю на яго прыродным нацыянальным грунце. Гэтую функцыю спаўна ўзялі на сябе і паспяхова спраўляліся з яе ажыццяўленнем рэдакцыі менскіх беларускамоўных грамадска-палітычных га-зет нацыянальнага кірунку “Вольная Беларусь” (чэрвень 1917 г. да лістапада 1918 г.) і “Беларускі шлях” (сакавік – жнівень 1918 г.). Па вядомых прычынах манаграфічных прац культуралагічнага характару тады яшчэ не мелася. Гута-рыць з людзьмі пра выключную ролю іх нацыянальнай культуры і мовы можна было толькі на старонках перыядычнага друку. Рабілася гэта сістэматычна і грунтоўна, пра што сёння так упарта маўчаць дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Асабліва высокай прафесійнасцю вызначаліся артыкулы грамад-скага і палітычнага дзеяча, мовазнаўца, пісьменніка, рэдактара газеты “Вольная Беларусь” Язэпа Лёсіка. Яго першай сур’ёзнай лінгвістычнай працай з поўнай падставай можна лічыць артыкул у гэтай газеце (28 студзеня 1918 г.) пад назвай “Наш правапіс”. Тут ён паказаў сябе прыхільнікам фанетычнага прынцыпу ў беларускай мове (пішы так, як чуеш), але не выключаў у некаторых выпадках і этымалагічнага падыходу на пісьме, паколькі не ўсе словы аднолькава вымаў-ляюцца ў розных раёнах Беларусі. Шэраг выказаных Я. Лёсікам думак адносна правапісу вытрымалі праверку часам і не страцілі свайго значэння па сённяшні дзень.

Далучаным да беларускага нацыянальнага Адраджэння дзеячам Я. Лёсік настойліва рэкамендаваў праводзіць сярод людзей растлумачальную працу пра ролю іх роднай мовы, ужо не адно стагоддзе выведзеную з грамадскага ўжытку польскімі і рускімі асімілятарамі, а таму і стаўшую далёкай, а не дык і чужой

для многіх яе законных носьбітаў. У яго артыкуле “Родна мова і яе значэнне” (1918 г.) знаходзім такое слушнае разважанне: “Народ трэба навучыць, яму трэба паказаць, што покі не запануе ў краю яго наша родная беларуская мова, да таго часу ён будзе бедны, цёмны і галодны.

(...) родная мова – гэта душа народа, яго скарб, багацце і аздоба. Толькі праз асвету у роднай мове мы дойдзем да лепшай долі, толькі яна выведзе нас із цемры на шлях волі, братэрства і светлага, разумнага жыцця”[1].

Павярнуць беларусаў тварам да сваёй роднай мовы дапамагала высвятленне яе ролі ў далёкім мінулым. А была яна тады даволі вялікай, пра што пераканаў-ча даводзіў чытачу на старонках газеты “Вольная Беларусь” (11 жніўня 1917 г.) публіцыст, гісторык беларускай літаратуры Рамуальд Зямкевіч у артыкуле “Значэньне Францішка Скарыны ў беларускай літаратуры”. Пасля азнаямлення са зместам артыкула беларус не мог не ганарыцца, што першая друкаваная Біблія выйшла на нямецкай мове, другая – на чэшскай, а трэцяя – на мове Скарыны: царкоўнаславянскай у старабеларускім варыянце. Францішку Скарыну – аўтар ставіў у вялікую заслугу, што ён першым зразумеў: “...родная мова павін-на быць заведзена ў малітвах, бо царкоўнаславянская (старабаўгарская) людзям нізразумелая”. Такой яна з’яўляецца і сёння, чаго, аднак, ніяк не хоча прызнаць сучаснае кіраўніцтва Беларускай праваслаўнай царквы.

Змяніў сваё стаўленне, з больш прагрэсіўных пазіцый пачаў асвятляць пытанні беларускай культуры і шэраг рускамоўных выданняў нашага краю, што зусім не выключала і ўзмацнення варожых нападак на яе. У якасці пазітыўнай з’явы трэба прызнаць выхад 25 лістапада 1917 г. у Менску першага нумара газеты Выканаўчага камітэта Цэнтральнай беларускай вайсковай рады “Бело-русская Рада”. Хаця друкавалася яна на рускай мове, у аддзеле прыгожага пісьменства многія матэрыялы даваліся і па-беларуску. На старонках газеты прапагандаваліся “ідэі дзяржаўнасці беларускай мовы, адкрыцця дзяржаўнага універсітэта ў Менску, асветніцка-адражэнскай ролі нацыянальнай інтэлі-генцыі”[2].

Усведамленню шырокімі коламі грамадства выключнага значэння нацыяна-льнага фактару ў культурным жыцці тагачаснай Беларусі нішто так не садзей-ніча, як плённая праца майстроў прыгожага пісьменства, найперш Янкі Купалы, Якуба

[1] Лёсік Язэп. Творы. Мн., 1994. С. 275, 280.
[2] ЭГБ. Т.2. С. 6.

Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага. Штогод шэрагі пісь-менніцкай інтэлігенцыі папаўняліся ўсе новымі і новымі імёнамі, чаму не перашкаджалі цяжкія наступствы ні Першай сусветнай і Грамадзянскай войнаў, ні рэвалюцыйных падзей 1917 г. Пісьменнікі, што прыйшлі ў літаратуру яшчэ да ці адразу ж пасля кастрычніцкай рэвалюцыі, добра ведалі слабыя і моцныя бакі ў беларускім менталітэце. Іх не без падставы хвалявала, што, магчыма, і пасля такога карэннага сацыяльнага перавароту беларус будзе грашыць праз-мернай талерантнасцю, баяцца на ўвесь голас заявіць пра свае нацыянальныя патрабаванні. Маючы гэта на ўвазе, зусім яшчэ малады паэт Міхась Чарот пісаў у 1918 г.:

Кінь саромецца мовы сваёй,
Звацць сябе беларусам пачні.
Папрацуй над сялібай сваёй,
А пасля з ціхатой адпачні.

І чым больш шырокае кола людзей далучалася да чытання беларускай мас-тацкай літаратуры, тым менш станавілася сярод іх тых, хто саромеўся ці цураўся сваёй роднай мовы. І ў беларусаў створаная ў ёй мастацкая, публіцы-стычная літаратура пераўтваралася ў магутны чыннік нацыянальнага руху.

Глыбокае разуменне многімі кіраўнікамі і ідэолагамі беларускага нацыя-нальнага Адраджэння ролі культурна-моўнага фактару добра вынікае з таго, што нават у крайне складаных умовах працы Першага ўсебеларускага з’езда і то не забыліся аб стварэнні на ім секцыі асветы і культуры. Скрозь, дзе гэта толькі было дарэчы, узнімалася самая сур’ёзная гаворка і пра беларускую мову, бо пераважная бальшыня грамадска-палітычных і культурных дзеячоў выдатна разумела, што без вяртання яе ў дзейнасць дзяржаўных, адміністрацыйна-гаспа-дарчых, культурна-асветных устаноў роднае слова карэннага народа краіны не будзе мець аніякіх перспектыў. Сведчаннем правільнага вызначэння ролі бела-рускай мовы ў нацыянальным Адраджэнні можа служыць факт упамінання пра яе ў час правядзення не раз ужо згаданага вышэй Першага ўсебеларускага з’езда ў Менску. Выступаў жа па дадзеным пытанні са спецыяльнай лекцыяй “Аб асаблівасцях беларускай мовы, а таксама аб тэрыторыі і этнаграфіі Белару-сі” добра вядомы на той час сярод вучоных-філолагаў славянскіх народаў ураджэнец Гарадзеншчыны прафесар Яўхім Карскі[1].

Актывісты беларускага Адраджэння вельмі хутка пераканаліся, што каман-дванне кайзераўскіх войскаў не будзе рабіць аніякіх крокаў па стварэнні на за-хопленых імі землях

[1] Игнатенко И.М. Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии. С. 79.

чагосьці падобнага на незалежную беларускую дзяржаву. Пазіцыя захопнікаў у гэтым пытанні не змянілася і пасля таго, як была заснава-на Беларуская Народная Рэспубліка. Не маючы ў тых умовах рэальных магчы-масцяў весці змаганне за ўсталяванне сапраўднай беларускай дзяржаўнасці, сваю галоўную ўвагу кіраўніцтва БНР канцэнтруе на правядзенні культурна-асветніцкай работы з народам з мэтай дапамагчы яму лепш усвядоміць сваё месца ў гісторыі, зразумець неабходнасць стаць на шлях суверэннага, незалежнага развіцця, ад чаго беларусаў упарта адвучвалі на працягу добрых двух апошніх стагоддзяў. Таму лідэры рады БНР лічылі, што цяпер "трэба "збіраць творчыя сілы", ствараць сетку беларускіх школ, "прасякнутых нацыя-нальных духам", заняцца культурна-асветніцкай работай, ставіць пытанне пра адкрыццё ў Менску універсітэта і сельскагаспадарчага інстытута, бо "гэта з'явіцца падрыхтоўчым этапам да заснавання нацыянальнай дзяржавы"[1].

Ужо падчас самых першых крокаў па стварэнні належных умоваў для развіцця беларускай культуры, адукацыі і навукі на сапраўдна нацыянальным грунце стала зразумелым для многіх, што гэта надзвычай складаная праблема. І не толькі таму, што вырашаць яе даводзілася ў варунках замежнай інтэрвенцыі, непрыняцця беларускай ідэі бальшавікамі. Існавала рэальная небяспека, што паколькі ў беларускага народа ўжо выгадавана не адно пакаленне спачатку на польскіх, а пазней на рускіх культурна-моўных традыцыях, значная частка яго можа праявіць абыякаваць да адраджэння свайго духоўнага жыцця на ўласным прыродным грунце. Трэба было лічыцца і з такім фактарам, што гэтага не маглі жадаць прадстаўнікі ўсіх нацыянальных меншасцяў Беларусі і найперш тыя, што мелі самае прамое дачыненне да асіміляцыі яе карэннага насельніцтва. Не ўсё да канца было зразумелым, у якіх суадносінах сама беларуская культура, як культура асноўнага этнасу краіны, павінна прысутнічаць у духоўным жыцці яе нацыянальных меншасцяў.

Правільнай скіраванасцю поглядаў на дзяржаўную палітыку ў дачыненні да прадстаўнікоў іншых народаў вызначалася рэдакцыя газеты "Беларускі шлях", якую ў беларускай савецкай гістарычнай навуцы зусім незаслужана было пры-нята лічыць нацыяналістычнай у тагачасным разуменні гэтага слова. Аўтар, які схаваў сябе пад крыптонімам П., пісаў: "Мы разумеем канечне, што паляк ніко-лі не перастане быць паляком, вялікарус – вялікарусам, а жыд – жыдам. У кожнага з іх былі і будуць свае

[1] Круталевич В.А. Рождение Белорусской Советской Республики (на пути в провозглашению республики. Октябрь 1917 – декабрь 1918 г.). Мн., 1975. С. 214.

нацыянальныя ідэалы, ад каторых барані нас Бо-жа каго-нібудзь адвучаць – мы *за надта* пазналі смак гэткага адвучання на сабе. І дзеля гэтага мы лічым патрэбным забеспячэнне прэдстаўнікам кожнай самешканай на Беларусі ні беларускай нацыянальнасці магчымасьці захавання і развіцця сваей нацыянальнай культуры…"[1] І трэба прызнаць, што маладая бела-руская дзяржава ў форме БНР ніколі не адступала ад такога прынцыпу.

Не знайшла падтрымкі ў дзяржаўных уладаў думка, што іх функцыяй не можа стаць ладкаванне культурнага жыцця ў краі, паколькі ён знаходзіцца пад уладай чужынцаў, зведвае неверагодна велізарныя цяжкасці эканамічнага, сацыяльнага парадку. Як і ў стаўленні да іншых пытанняў, узважаную, глыбока прадуманую пазіцыю ў нацыянальна-культурным Адраджэнні займала рэдак-цыя газеты "Беларускі шлях". У сваім перадавым артыкуле ад 10 мая 1918 г. яна справядліва крытыкавала тых, якія "кажуць, што тады толькі можа пачацца нацыянальная культурная праца на Беларусі, калі ўжо будзе наладжэны добра эканамічны добрабыт, а да тых часаў трэба пачакаць з гэтай, нібы то, нiперша-чароднай вартасьцю – культурнай працай". Пахвальна, што такога спрыяльнага часу ніхто не чакаў з нацыянальна-самасвядомых палітыкаў і культурных дзеячоў. Іх намаганні па арганізацыі культурнага жыцця на нацыянальнай аснове ўсяк падтрымлівала і само насельніцтва. Спаўна датычыла сказанае і тэатральна-музычнага мастацтва.

Разуменне інтэлігенцыяй ролі беларускага нацыянальнага тэатра было такім глыбокім, што яна не спыняла сваёй дзейнасці на гэтай дзялянцы духоўнага жыцця і падчас нямецкай інтэрвенцыі. У Менску гэтай карыснай і неабходнай пры ўсіх умовах творчай працай з вялікай любоўю займаўся малы па колькасці, але таленавіты калектыў артыстаў "Беларускай Хаткі". Сярод іх асабліва высо-кім артыстычным майстэрствам вызначаліся Фларыян Ждановіч, Паліна Мядзёлка. Тагачасная прэса вельмі хваліла апошнюю за выкананне ролі Пронкі ў спектаклі "Хам" паводле сюжэту аднаіменнага апавядання польскай пісьмен-ніцы Элаізы Ажэшкі.

Ні нямецкі акупацыйны рэжым, ні абумоўленыя ім велізарныя матэрыяль-ныя цяжкасці не сталі перашкодай для адкрыцця 19 мая 1918 г. у Менску, г.зн. у першую гадавіну існавання Першага таварыства беларускай драмы і камедыі, Беларускага народнага дома імя Максіма Багдановіча. "Адкрыццё, – пісаў пад псеўданімам Знаёмы ўдзельнік тых падзей, – адбылося

---

[1] Беларускі шлях. 1918. 30 красавіка.

вельмі пекна й вечар зацягнуўся далёка за поўнач да ранку 20 мая. Пачаткам вечару была драма У. Галубка "Бязвінная кроў"…

Пасьля пьесы быў пекны рознахарактэрны дывертысмэнт, у каторым найвыразней выступаў Ф. Ждановіч, якога доўга клікалі на "вія".

Дывэртысмэнт закончыўся пекнай для публікі ніспадзеванкаю: выступлен-нем стройнаго хору ягомосьця Цераўскаго (у сучасным напісанні Тэраўскі. – Л.Л.), відаць дось папрацаваўшаго над сваім хорам, выканаўшым шмат бела-рускіх песьняў.

Чыста народны склад песьняў пры трафнай гармонізацыі іх і добрым выка-нанню хора, зрабілі на публіку надта добрае ўражэнне і хор пакарыставаўся за-служаннымі ім вызавамі"[1].

На гэтым вечары прысутнічаў і беларускі пісьменнік Змітрок Бядуля, даўшы яму самую высокую адзнаку, асабліва хору Цераўскага, які змог данесці пры-сутным усю прыгажосць "праўдзівай тыпічнай беларускай песьні… Строгасьць апрацоўкі, тыпічнасьць перадачы беларускай песьні прэўзашлі ўсялякія дагэ-туль меры на беларускай сцэні"[2].

Як заўсёды, вялікай папулярнасцю у аматараў тэатральнага мастацтва ка-рысталіся выступленні калектыву Першага таварыства беларускай драмы і ка-медыі, у якім і ў той час працавала нямала таленавітых акцёраў. Як вядома, яшчэ да пачатку кастрычніцкіх падзей 1917 г. Таварыства паспела выступіць са спектаклямі ў Слуцку, Бабруйску, Магілёве, Жлобіне, Радашковічах. Але най-больш спектакляў яно дало ў Менску. Калі ў ліпені 1917 г. тут праходзіла канферэнцыя беларускіх дзеячоў, для іх ставілася драма Янкі Купалы "Раскіда-нае гняздо". Адметным у гісторыі Таварыства быў дзень 26 мая 1918 г., калі яно ў Беларускім народным доме імя М. Багдановіча паставіла камедыі "Паўлінка" і "Міхалка". У загалоўных ролях гэтых камедый выдатна выступілі Паўліна Мядзёлка і Фларыян Ждановіч.

У якасці адметнай з'явы таго часу трэба адзначыць моцнае ажыўленне нацыянальна-культурнага жыцця на перыферыі. І гэтаму ёсць пэўнае тлумачэн-не: яе насельніцтва не ў такой ступені, як гараджане, зведала разбуральнае ўдзеянне дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі і таму з большай ахвотай і жаданнем памкнулася да сваіх духоўных вытокаў, прыродных каранёў, бачачы, што гэтаму цяпер ніхто не збіраецца перашкаджаць.

Святочны выгляд мела 6 мая 1918 г. мястэчка Койданава, пра што своечасо-ва і добра паклапацілася мясцовая Беларуская

[1] Беларускі шлях. 1918. 22 мая.
[2] Беларускі шлях. 1918. 23 мая.

рада. У гэты дзень яго жыхарам былі паказаны дзве п’есы: “Ні розумам сьцяміў, а сэрцам” (К. Вясёлага) і “Па рэвізіі “(М. Крапіўніцкага). Перад імі выступаў аркестр балалаечнікаў. Ладзіліся ў той дзень з местачкоўцамі танцы і гульні. Паведамляючы пра ўсё гэта, нехта Койданаўскі так заканчваў свой допіс: праведзены мерапрыемствы паказалі, “якім вялікім аружжам нацыянальнай сьвядомасьці яўляецца тэатр, выклікаючы нацыянальнае пачуццё у людзей і прабуджаючы ў іх любоў да роднага жыцця і роднай мовы”[1].

Заслугоўвае быць адзначаным і такі факт, што са жніўня 1918 г. у Менску распачалася праца па стварэнні Беларускага Таварыства апекі “літаратуры і гісторыі дзеля ахраны памяткаў беларускага пісьменства, калекцыянавання тых з іх, якія будуць ахвяраваны т-ву, стварэння мажлівых становішч для працы беларускіх пісьменнікаў, гісторыкаў і археолагаў, арганізацыі спэцыяльнаго фонду дзеля падмогі літэратарам, гісторыкам і г.д.”[2].

Як станоўчае трэба адзначыць, што вяртанне беларусаў да нацыянальных вытокаў сваёй культуры не сустракала аніякіх перашкодаў з боку новых гаспадароў – нямецкіх інтэрвентаў. Больш таго, у многіх выпадках яны нават садзейнічалі падпарадкаванаму краю ў духоўным адраджэнні. Для пацвярджэння прывядзем хоць колькі з іх. З 29 мая 1918 г. у менскім тэатры пачаліся гастрольныя выступленні нямецкага тэатра “Усходні фронт”. Наведваць іх маглі і мясцовыя жыхары. Трупа тэатра складалася з 20 чалавек. Паводле загаду нямецкага галоўнакамандуючага на Усходзе ўвесну 1918 г. быў выдадзены на 720 старонках у форме лексіконаў нямецка-польска-расійска-беларуска-літоўска-латышска-жыдоўскі слоўнік. Гэта таксама можа разглядацца як доказ прызнан-ня нямецкімі ўладамі беларускай мовы за арыгінальную, адметную ад най-больш блізкіх ёй рускай і польскай моваў. У газеце “Беларускі шлях” ад 26 мая 1918 г. паведамлялася, што ў чэрвені меркавалася выдаць першы нумар беларускага часопіса на нямецкай мове. На чале яго паставілі аднаго з самых актыўных беларускіх грамадскіх і культурных дзеячоў, сябра выдавецкага таварыства “Заранка” Аляксандра Уласава. Часопіс меўся выходзіць два разы на месяц. Вядома таксама, што ў ліпені 1918 г. з Вільні ў Менск на сталае месца знаходжання пераехаў Нямецкі віленскі сімфанічны аркестр, якім дырыжы-раваў Бруно-Плотаў. Пры актыўным старанні берлінскага археолага доктара Іппеля (Імпэля) і пры садзеянні рэдакцыі нямецкай газеты “Zeitung der 10. Armee” ў чэрвені 1918 г. у Вільні

[1] Беларускі шлях. 1918. 28 мая.
[2] Беларускі шлях. 1918. 17 жніўня.

ладзілася выстава беларускіх старажытных мастацкіх вырабаў, рукапісных і друкаваных кніг, у іх ліку Літоўскі статут 1588 года, Каран на беларускай мове (напісаны арабскімі літарамі). Бальшыня экспанатаў для выставы перадаў са сваіх збораў Іван Луцкевіч[1].

### §5. Беларуская нацыянальная школа ў гады замежнай інтэрвенцыі

Поўным парадоксам можна прызнаць, што акурат у гады Першай сусветнай вайны, нямецкай інтэрвенцыі адраджэнцы Беларусі поўным ходам разгарнулі працу па стварэнні нацыянальнай сістэмы адукацыі. Тое, чаго нашым адукава-ным, нацыянальна-самасвядомым, сапраўдным патрыётам Бацькаўшчыны не ўдавалася зрабіць на працягу доўгага часу за Рэччу Паспалітай, Расійскай імпе-рыяй, яно стала магчымым у экстрэмальных умовах вайны дзвюх самых магут-ных краін Еўропы. Для бальшыні грамадска-палітычных і культурных дзеячоў, педагогаў не з’яўлялася сакрэтам, што стварэнне ў тых экстрэмальных умовах нацыянальнай сістэмы адукацыі – адна з самых складаных праблем. Усё, што раней дзеялася ў практыцы навучання і выхавання беларускай моладзі, зусім не апавядала мэтам і задачам нацыянальнага Адраджэння. “Да гэтага часу, – як вобразна пісаў А.У., – народная школа мела 2 глаўныя навукі: вялікарасійскую мову з буквай “ять” і ніжегародскім патрыятызмам і арыфметыкай. Гэта сыстэ-ма схоластычна-філологічная для жыцця беларускаго хлопца была мала карыстна”[2]. Каб адукацыя садзейнічала фармаванню здольнага жыць інтарэсамі род-нага краю маладога пакалення, яна павінна была будавацца на нацыянальным падмурку і працаваць на мове карэннага насельніцтва. Цяпер гэтаму спрыяла сітуацыя, бо кайзераўскія вайсковыя і адміністрацыйныя органы не ўмешваліся ў моўную палітыку навучальных устаноў, чаго не скажаш пра мясцовыя ўлады на працягу ўсяго перыяду існавання Расійскай імперыі. У канцы 1915 г., г.зн. праз тры месяцы як рускія войскі пакінулі Вільню, у гэтым горадзе Беларускі камітэт дапамогі пацярпелым ад вайны адкрыў першыя беларускамоўныя народныя школы і настаўніцкія курсы. “Навука ў школах была дармовая, ды апрыч таго дзецям выдаваліся дарма абеды, адзежа,

[1] Беларускі шлях. 1918. 15 чэрвеня.
[2] Беларускі шлях. 1918. 14 жніўня.

чаравікі і інш. Школ сперш было 6, але с прычыны нідастачы грошай у першай палавіне 1916 году число іх прышлося паменшыць да 5. Пры кожнай школі была свая страўня для дзяцей; пры дзьвёх былі наладжэны майстэрні ручных работ і пры аднэй – сталярска-рэзьбярскі варштат.

(...) З восені 1917 году число беларускіх школ у Вільні было паменшэно: дзеці с чатырох аднаклясовых школ былі злучэны ў дзьве вышэйшаго тыпу, а адна – закрыта зусім. Гэта было вызвано тым, што 40 дзяцей было вывезено ў прытулак у Качанох, а каля 70 беларускіх дзяцей былі прыняты на пастаяннае жыццё ў прытулак новазаснаванаго Т-ва "Золак""[1].

Своечасова і старанна паклапаціўся згаданы вышэй Камітэт пра напісанне і надрукаванне школьных падручнікаў, укладанне праграм, арганізацыю настаў-ніцкіх курсаў. Усімі гэтымі пытаннямі займалася заснаваная пры ім школьная камісія. У гэты час Камітэт узначальваў вядомы дзеяч беларускага Адраджэння А. Луцкевіч, функцыі скарбніка выконвала Ю. Мэнкэ, сакратара – Я. Салавей, сяброў – І. Луцкевіч, А. Рачкоўская, Ф. Вішнеўскі і Я. Ліцкевіч. Усе "яны пра-цавалі дарма, і ўтрыманне Камітэту нічога ні каштавала"[2].

Поўная ці амаль поўная адсутнасць у дзяржаўнай казны магчымасці фінанса-ваць патрэбы асветы абавязвала ісці на актыўнае прыцягненне неабходных для яе матэрыяльных і грашовых сродкаў бацькоў вучняў. Не застаяліся безудзель-нымі ў вырашэнні гэтага важнага пытання і найбольш заможныя станы бела-рускага народа. Так, з дазволу княгіні Магдалены Радзівіл у час нямецкай аку-пацыі беларускамоўная школа пачала працаваць у яе маёнтку Жорнаўка (Ігу-менскі павет). Заняткі ў ёй вяла ўжо добра вядомая пад той час сваім актыўным удзелам у беларускім нацыянальна-культурным жыцці Паўліна Мядзёлка. Спа-чатку бацькі дзяцей вельмі насцярожана паставіліся да таго, што тут будуць вучыць на "мужыцкай мове", але, як толькі пераканаліся, што вучні добра чытаюць на роднай мове пасля трох месяцаў заняткаў, адкінулі ўсякую падазро-насць. "Прыходзілі маткі дзякаваць мне, – узгадвала Паўліна Мядзёлка, – і не маглі надзівіцца, што так хутка іх малыя навучыліся чытаць"[3]. Шкада, што пазней княгіня Магдалена Радзівіл пачала сама зведваць вялікую патрэбу ў грошах і таму адмовілася фінансаваць школу, пасля чаго ў ёй спыніліся заняткі.

---

[1] Беларускі шлях. 1918. 3 мая.
[2] Тамсама.
[3] Мядзёлка Паўліна. Сцежкамі жыцця. Мн., 1974. С. 105.

Цяжкія паследкі вайны для беларускага народа, не выключана, пасадзей-нічалі іншымі вачыма паглядзець на нацыянальную асвету і насельніцтва цэнтральных і ўсходніх раёнаў нашага краю. Праўда, па розных прычынах яно не так актыўна выступала за беларускую школу, як у мясцовасцях, што зна-ходзіліся пад юрысдыкцыяй нямецкіх інтэрвентаў. І ўсё ж становішча да лешага у беларускім нацыянальным жыцці мянялася і на ўсходзе ад лініі руска-нямец-кага фронта. Тут “па-беларуску праводзіліся мітынгі, распаўсюджваліся беларускамоўныя лістоўкі, перадвыбарчыя адозвы і г.д. У красавіку-чэрвені 1917 года ў Менску выдавалася газета “Грамада” – орган адроджанай Беларускай сацыялістычнай грамады, з мая 1917 да канца 1918 года выходзіла грамадска-палітычная, эканамічная, і літаратурная газета “Вольная Беларусь”. Друкаваліся літаратурна-мастацкія і публіцыстычныя брашуры. Нарастаў самадзейны культурна-асветны рух”[1].

Калі ў верасні 1917 г. у Магілёве праходзіла нарада настаўнікаў сярэдніх навучальных установаў Заходняга краю па пытаннях нацыяналізацыі і дэмакратызацыі школы, у прынятай імі рэзалюцыі было запісана, “што ў народных школах беларускіх губерняў выкладанне павінна весціся на роднай беларускай мове паралельна выкладанню дзяржаўнай (рускай. – Л.Л.). У вышэйшых жа пачатковых вучылішчах краю і сярэдніх навучальных установах краю павінны быць уведзены, у якасці неабавязковага прадмета, вывучэнне бе-ларускай мовы, гісторыя Беларусі, этнаграфія, агульная і фізічная геаграфія краю і т.п.”[2]. З апошняй пасылкай рэзалюцыі, вядома, ніяк нельга пагадзіцца, бо, калі ў названых тыпах навучальных установаў не вывучаць у абавязковым парадку беларускую мову (больш таго, на ёй павінен будавацца і іх навучальна-выхаваўчы працэс), гісторыю Беларусі і іншыя прадметы беларусазнаўчага цыклу, тады наўрад ці ўдасца забяспечыць выкладанне на беларускай мове ў народных школах (усе яны лагічна будуць імкнуцца выкладаць на той мове, якая з’яўляецца рабочай у навучальных установах больш высокага тыпу), дамагчыся таго, каб маладыя пакаленні вызначаліся належным узроўнем нацыянальнай самасвядомасці, сталі носьбітамі беларускай культуры і мовы. Падобнага разрыву ў мове выкладання паміж навучальнымі ўстановамі самага нізкага і больш высокага тыпаў, як гэта прапаноўвалі магілёўскія настаўнікі, педагогіка цывілізаваных краін не дапускае.

---

[1] Голас Радзімы. 1997. 1 мая.
[2] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии (февраль-октябрь 1917 г.). Документы и материалы. Т.1. Мн., 1957. С. 723.

Найбольш значныя зрухі ў фармаванні нацыянальнай сістэмы адукацыі ад-быліся пасля таго, як была створана Беларуская Народная Рэспубліка. Абвеш-чаны ёю курс на нацыянальна-культурнае Адраджэнне мог стаць рэальнасцю толькі пры ўмове карэннай перабудовы ўсёй колішняй сістэмы навучання і выхавання дзяцей. Многімі выдатна разумелася, што цяпер трэба было так арганізаваць асвету, каб яна вялася на роднай мове беларуса і дапамагала яму, як пісаў А.У., пазнаць "усю акружаючую яго прыроду, дарамі каторай і ён будзе жыць і дзяды яго карміліся. Шанаваннем беларускай мовы, беларускаго быту народнаго, традыцый гісторыі выхоўваць трэба з дзяцей сумленных беларусаў і грамадзян". Аўтар выказваў упэўненасць, што сярод настаўнікаў ёсць ужо нямала беларусаў па духу, якім падуладна вырашэнне гэтай задачы. Ім зусім справядліва прапаноўвалася "адвясьці мейсцы на покуці ў Беларускай дзержаве"[1]. Але, як сведчылі шматлікія факты, сустракаліся і настаўнікі зусім іншага кшталту.

Вырашаючы надённыя пытанні стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі, урад БНР, грамадскасць больш за ўсё былі заклапочаны тым, у чые рукі трапіць гэтая справа. З былых настаўнікаў, асабліва рускага і польскага паходжання, вельмі мала хто адпавядаў нацыянальнаму ідэалу Бацькаўшчыны, бо бальшыня з іх не мела шчырай арыентацыі на беларускае жыццё. Гэтае пытанне сур'ёзна хвалявала рэдакцыю газеты "Беларускі шлях", і яна, трэба сказаць, знайшла на яго правільны адказ: "… ёсьць адна галіна дзержаўна-грамадскаго жыцця, якая ў цэласьці і заўсёды павінна знаходзіцца ў беларускіх руках. Гэта – прасьвета.

Прасьвета будучы найвялікшым начыннем усесьветнага развіцця можа быць у той жа час і наймацнейшым з спосабаў палітыкі. Беларусь добра пазнала гэту ісьціну на сабе. Школы, якія знайходзіліся ў чужых руках, абезсілівалі, нішчылі нацыю, ні давалі ёй жыць і разьвівацца…Запытайцеся ў любога з "інтэлігентаў" на Беларусі, што ён ведае аб яе гісторыі, географіі, натуральных багаццях? – Нічога. За тое добра ведае хронологію маскоўскіх цароў і польскіх каралёў, і можа сказаць, чым знаменіто якое-нібудзь нівялікае сяло ў панізоў'ях Волгі. Гэта ўсё зрабіла школа, якая была ў чужых руках.

Дзеля таго прасьвету наўсюдах і заўсёды беларусы павінны затрымоўваць за сабой"[2].

Несумненна, у выкладзеных вышэй разважаннях аб настаўніках-беларусах меліся на ўвазе толькі тыя з іх, што

[1] Беларускі шлях. 1918. 14 жніўня.
[2] Беларускі шлях. 1918. 12 чэрвеня.

вызначаліся адпаведным узроўнем нацыя-нальнай самасвядомасці, бачылі у адукацыі магутны сродак адраджэння роднай Бацькаўшчыны. Каб вырашэнне кадравай праблемы ў дадзенай сферы дзей-насці чалавека не падалося каму-небудзь з палітыкаў, арганізатараў народнай асветы вельмі лёгкай і простай справай, А.У. папярэджваў – і з поўнай падста-вай, – што сярод настаўнікаў шмат беларусаў-абрусіцеляў, “каторым перэвер-нулі ў сэмінарыях мазгі. Гэта злейшыя ворагі свайго народу, яны ганюць і ні па-чытаюць сваю родную матку-бацькаўшчыну, яны адракліся ад сваёй мовы, яны плююць на сваю родную хату. Лепш за іх тыя велікарусы і палякі вучылі, каторыя ў нас даўно жывуць – у ніх хоць німа нінавісьці да беларускай культуры, і яны яе больш падтрымаюць, чым беларусы-абрусіцелі”. Будучы такім гарачым прыхільнікам нацыянальнай школы, аўтар, аднак, лічыў патрэбным выкладаць у ёй асобныя прадметы рускую і нямецкую мовы, а дзе захочуць – і польскую[1].

Не выключана, што такія катэгарычныя меркаванні А.У. у чымсьці і не адпа-вядалі рэчаіснасці. Але тым не менш было б сур’ёзнай памылкай не прызнаваць, што і сярод настаўнікаў беларускага паходжання мелася шмат асобаў, якія не прымалі ідэю стварэння нацыянальнай школы ў нашай краіне. Давалася ў знакі іх руска- ці польскамоўная адукацыя. Спаслацца тут можна і на праведзены ў красавіку 1918 г. у мястэчку Столін з’езд народных настаўнікаў Пінскага павета, у час якога было выказана пажаданне, “каб у павеці, хаця і “ўкраінізаваным”, справечнай дзержаўнай мовай была – расійская”[2].

Такое стаўленне саміх настаўнікаў да праблемы беларускай нацыянальнай школы вельмі моцна хвалявала ўрад БНР. І ён не бяздзейнічаў, кіраўнікам на-роднай асветы, педагагічнай інтэлігенцыі стала нагадвалася, што старая сістэма адукацыі, якая выхоўвала беларускіх дзяцей у поўным адрыве ад нацыянальна-га жыцця, ужо не адпавядае ідэалам суверэннай дзяржавы. На такіх жа пазіцыях стаяў і вядомы на Беларусі палітык, памешчык з Піншчыны Р. Скірмунт, заявіў-шы ў маі 1918 г. аб неабходнасці звярнуць галоўную ўвагу “на стварэнне сеці пачатковых беларускіх школаў, пранятых нацыянальным духам”[3].

Шмат пісалася пра неабходнасць адкрыцця, не зважаючы на ўсякія эканаміч-ныя цяжкасці, беларускіх нацыянальных школ у газеце “Беларускі шлях”. Яе аўтараў і членаў рэдкалегіі пужалі шматлікія факты адкрыцця польскіх школ на акупаванай немцамі

[1] Беларускі шлях. 1918. 14 ліпеня.
[2] Беларускі шлях. 1918. 13 мая.
[3] Беларускі шлях. 1918. 29 мая.

тэрыторыі Беларусі. У перадавым артыкуле ад 10 мая 1918 г. пісалася, што "ў адпор гэтаму, нам трэба як найхутчэй парупіцца аб сваіх нацыянальных школах па ўсяму краю". Прапаноўвалася як мага хутчэй адкрыць настаўніцкія беларускія курсы. "Школы і толькі школы – залог нашага добрабыту і нацыянальнага істнавання нашай будучыні".

Адводзячы такую велізарную ролю нацыянальнай асвеце, маладая беларус-кая дзяржава не магла не паклапаціцца і пра тое, каб аддаць гэтую справу ў рукі самых апантаных любоўю да роднага краю людзей і да таго ж яшчэ з высокім узроўнем прафесійных ведаў і багатым практычным вопытам. Знайсці такіх людзей было не проста, але ўсё ж пэўнага поспеху ўдалося даягнуць. Вельмі апраўданым крокам трэба прызнаць, што ў жніўні 1918 г. у Беларускі Народны Сакратарыят запрасілі на пасаду загадчыка справаздачнага аддзела па народнай асвеце Аркадзя Смоліча. Гэта быў высокаэрудзіраваны чалавек, валодаў выдат-нымі арганізатарскімі здольнасцямі і галоўнае – правільна разумеў выключную ролю адукацыі ва ўзгадаванні патрэбнага краіне маладога пакалення.

Стварэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі, асабліва ў сельскай мясцовасці, у значнай ступені аблягчалася тым, што ў вельмі многіх выпадках жаданне на-вучаць дзяцей на беларускай мове ішло ад саміх бацькоў. Некаторыя з іх па свай уласнай волі ехалі у Менск, каб ад яго ўладаў даведацца, што трэба на мес-цах рабіць дзеля адкрыцця нацыянальных школ. З гэтай высакароднай місіяй наведала сталіцу БНР і дэлегацыя мястэчка Пасадзец Вілейскага павета, бо іх вельмі ж хвалявала, што справу адукацыі імкнуцца захапіць у свае рукі пры-хільнікі польскай адукацыі. "Польскія школы, – пісаў М. Плаўнік, – запаўняюць цэлыя ваколіцы. Нават ў адным мейсцы каля нас быўшы крайскі (ад мястэчка Крайск. – Л.Л.) паліцэйскі стражнік зрабіўся вучыцелем польскай школы". Далей гэты аўтар пісаў, што "вельмі жаданно было-б, каб беларускія дзеячы ў Менску зацікавіліся болей беларускай правінцыяй і каб па розных мястэчках уладжывалі беларускія гімназіі накшталт будслаўскай. Жыхары мястэчак і сялян пайшлі-б з ахвотай на сустрач грашовымі і інш. дапамогамі"[1].

У многіх месцах і сапраўды вясковае, местачковае насельніцтва брала актыўны ўдзел у такой патрыятычнай акцыі, добра разумеючы, што ў беднай дзяржавы няма на гэта сродкаў.

Значна цяжэй было схіліць да ўдзелу ў пабудове беларускай нацыянальнай школы жыхароў гарадоў, сярод якіх, як вядома,

---

[1] Беларускі шлях. 1918. 17 жніўня.

пераважалі прадстаўнікі нека-рэннага насельніцтва краю. Да таго ж гараджане ў непараўнальна большай сту-пені, чым вяскоўцы, зведалі на сабе ўціск русіфікатарскай палітыкі. Усё гэта трэба было максімальна ўлічваць тым, хто дбаў пра беларускую школу. Не глядзеў на гарадскіх здэнацыяналізаваных беларусаў, як на прыхільнікаў нацыя-нальнай сістэмы адукацыі, і пісьменнік Змітрок Бядуля, бо для іх "думка аб том, што на Беларусі павінна быць і беларуская школы, – думка новая, як ніспа-дзевана і самая беларуская дзержаўнасьць". Зусім верагодна, што такая частка беларусаў магла аказваць найбольшае супраціўленне пераводу на нацыянальны грунт сярэдніх школ. Але, лічыў пісьменнік, так не можа доўжыцца бясконца. Варта толькі зрабіць нацыянальна-беларускай пачатковую школу, што намнога лягчэй, чым здзейсніць такую мэту пры рэфармаванні сярэдняй адукацыі. "Пра-грамма навукі ў сярэдняй школе, якая будзе служыць далейшым разьвіццём праграмы навукі ў нізшай школе, зьвяжа яе з апошняю і вольна-нівольна павінна будзе стацца нацыянальнай праграммай і зрабіць нацыянальнай самую школу, бо ў яе з ніжшых школаў дзеці выгадаваныя ў нацыянальным духу…

Разумеецца, найменей тут паможа рэволюцыйный спосаб замены старых сыстэм новымі, але мы пэўны, што рэформа сярэдняй школы пойдзе такімі шпаркімі крокамі, як толькі ўмацуецца Беларуская дзержаўнасьць, што гэто будзе лепі ўсякіх рэвалюцый"[1].

Аднак, нягледзячы на ваенныя цяжкасці, этнічную спецыфіку гарадоў нашага краю і ў іх насельніцтва паступова пранікала ідэя беларускай нацыянальнай школы. Не быў выключэннем з гэтага правіла і горад Менск. У чэрвені 1918 г. тут працавала каля 20 камплектаў пачатковых беларускіх школ, што зусім і нямала, калі ўлічыць, што ў той час у Менскім губернскім земстве працавалі і кіравалі асветаю пераважна "праціўныя беларускай школе элементы"[2]. Пазіцыі іх былі даволі моцныя, таму замест, здавалася б, зусім заканамернага ва ўмовах суверэннай БНР далейшага пашырэння сеткі беларускамоўных школ, давялося мець месца з зусім процілеглай тэндэнцыяй. Насычанасць Менскага губернскага земства чыноўнікамі прарускай арыентацыі, адсутнасць нацыянальных традыцый у адукацыі, немагчымасць поўнасцю задаволіць яе патрэбы ў беларускіх настаўніках, падручніках і дапаможніках тлумачаць, чаму да 1918/19 н.г. у Менску ўдалося падрыхтаваць да заняткаў толькі 8 беларускіх пачатковых школ, затое рускіх – 18. На гэты ж час былі гатовымі

[1] Беларускі шлях. 1918. 18 чэрвеня.
[2] Тамсама.

да прыёму дзяцей на вучобу 4 яўрэйскія, 2 польскія і адна татарская (№ 23-Б. Татарская, д. Багдановіча). З 8-мі вышэйшых пачатковых школ Менска толькі адна была яўрэйская, а ўсе астатнія – рускія. Колькасная перавага апошніх ні ў якай ступені не можа быць вытлумачана пільнай патрэбай грамадства ў іх. Проста ў апошняга ў моц аб’ектыўных і суб’ектыўных прычын, пра што ўжо ішла гаворка вышэй, адсутнічалі ўмовы для адкрыцця такіх тыпаў беларускамоўных навучальных установ.

Акупацыю Беларусі кайзераўскімі войскамі імкнуліся, праўда, часта не ў меру, выкарыстаць у інтарэсах адукацыі тутэйшыя польская нацменшасць і спаланізаванае насельніцтва. Як вядома, у апошняй чвэртцы XIX – на пачатку XX ст. польскую адукацыю тут вельмі пацяснілі праваднікі русіфікатарскай палітыкі. Таму з уварваннем на Беларусь нямецкіх войскаў палякі ў апоры на спольшчаных беларусаў намерыліся як мага хутчэй аднавіць свае былыя пазі-цыі ў народнай асвеце, чым дазволілі запужаць многіх нацыянальна-самасвядо-мых людзей з карэннай нацыі. Не маўчаў і перыядычны друк, бачачы, як пад самым носам беларусаў ідзе апалячванне іх дзяцей. Палякі, звяртала ўвагу сваіх чытачоў газета “Беларускі шлях”, будуюць тут школы “такіе, як ім трэба. Бела-рускае дзіцяне з гэтай школы ці ахронкі прытулку ні выйдзе беларускім; мала надзеі, каб яно і пасьля вярнулося да свайго народу – яго ужо ахвяравалі Варшаве … ва усіх польскіх школах і да гэтага часу пераважалі беларусы-ката-лікі”[1], г.зн. не этнічныя палякі.

Беларускія нацыянальныя арганізацыі, актыўныя дзеячы на ніве народнай адукацыі не абмяжоўваліся толькі адкрыццём пачатковых школ, а ішлі значна далей у вырашэнні гэтай лёсавызначальнай праблемы. Па ініцыятыве вядомых актывістаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху Язэпа Васілевіча, Эдзюка Будзькі ў Будславе Вілейскага павета ў канцы 1917 г. на базе беларускай пачатковай школы ствараецца і распачынае са студзеня 1918 г. дзейнасць бела-руская гімназія. У 1918/19 н.г. яна мела два падрыхтоўчыя, два першыя, 2-і, 3-і і 4-ы класы, якія наведвала больш за 300 дзяцей. “Выкладанне вялося на беларускай мове. Пры гімназіі дзейнічаў вучнёўскі кааператыў. Вясной 1918 г. Народны сакратарыят Беларусі выдзеліў фінансавыя сродкі на будынак для гімназіі, якая часова размяшчалася ў арандаваным памяшканні. Архітэктар Л.І. Дубейкаўскі распрацаваў праект у традыцыях нацыянальнага дойлідства, і летам 1918 г. пачалося

[1] Беларускі шлях. 1918. 27 красавіка.

будаўніцтва. Мясцовыя спаланізаваныя памешчыкі раз-гарнулі кампанію супраць гімназіі”[1].

З пэўнай падставай можна назваць адметным дасягненнем на шляху стварэн-ня нацыянальнай сістэмы адукацыі і распачатую ў самыя сціслыя тэрміны працу па падрыхтоўцы настаўніцкіх кадраў для беларускіх школ. 9-10 жніўня 1918 г. адбыліся выпускныя экзамены для навучэнцаў чацвертага элементар-нага курса Свіслацкай беларускай настаўніцкай семінарыі.

Зусім рэальную надзею павысіць ролю нацыянальнага фактару ў адукацыі педагагічная інтэлігенцыя бачыла ў маючым адбыцца вяртанні на радзіму эвакуаванага ў Яраслаўль Менскага настаўніцкага інстытута (МНІ). І яна мела на гэта падставы, бо ў яго калектыве працавала нямала прыхільнікаў беларус-кай нацыянальнай ідэі. Характэрна, што не ў сябе дома, а ў чужым горадзе Яра-слаўле некаторыя выкладчыкі МНІ па сваёй уласнай ініцыятыве пачалі выкла-даць прадметы па-беларуску, добра падрыхтаваўшы псіхалагічна да такіх моў-ных перамен і саміх студэнтаў. Па просьбе прадстаўнікоў Менскага настаўніц-кага інстытута, што ўлетку 1918 г. прыбылі ў Менск з Яраслаўля, Беларускі Народны Сакратарыят узяў самы непасрэдны ўдзел дзеля забеспячэння тэрмі-новай рээвакуацыі на Бацькаўшчыну дадзенай навучальнай установы. Гэта важ-ная для лёсу нашай нацыянальнай асветы задума не засталася незаўважаным і для рэдакцыі газеты “Беларускі шлях”. У нумары ад 16 жніўня 1918 г. яна паве-дамляла сваім чытачам: “Прыбыўшыя з Ярославўля ад эвакуаванага ў 1915 г. менскага вучыцельскага інстытута, зьвярнуўшыся да Беларускага Народ. Са-кратарыяту па пытанню аб найхутчэйшым звароці інстытуту ў Менск спаткалі поўнае спадчуванне, знаходзючы гэта вельмі патрэбным і пажаданным, тым болей, што некаторыя з расійскіх мест, хочучы перэцягнуць інстытут да сябе, рабілі яму выгодныя прэпанаванні. У культурна-асьветнай камісіі Бел. Рады ёсьць праэкт расходнай сьметы на інстытут, па якому да каляд інстытуту аван-сыруецца 50 000 руб., пры чым нямецкія ўласьці нічога ні маюць проціў звароту інстытуту ў Менск”. Адбылося ж такое 22 верасня. У 1918/19 н.г. у МНІ увялі новыя прадметы – беларускую мову і літаратуру, гісторыю беларус-кай мовы і літаратуры, геаграфію Беларусі. Акрамя гісторыі Беларусі, на бела-рускай мове чыталі яшчэ хімію, праводзілі практыкумы па фізіцы[2]. Неўзабаве пасля прыбыцця на радзіму педагагічны калектыў інстытута ўстанавіў цесныя сувязі з настаўнікамі школ з тым, каб сумеснымі намаганнямі закладаць

[1] ЭГБ. Т.2. С. 116.
[2] Ляхоўскі У.В. Прадвеснік Адраджэння // Адукацыя і выхаванне. 1994. № 11. С. 111.

трывалыя падваліны пад беларускую нацыянальную сістэмы адукацыі, добра разумеючы, што без яе не можа распачацца працэс духоўнага адраджэння краю, не прыйдзе канец асіміляцыі яго насельніцтва.

Наблізіць дзейнасць усіх тыпаў навучальных установаў да нацыянальна-адраджэнскіх мэтаў можна было толькі пры ўмове, калі ўвесь педагагічны працэс будзе падпарадкаваны ім. Ён ні ў якім выпадку не павінен быў абмяжоў-вацца толькі клопатамі аб выкладанні на належным узроўні школьных дысцы-плін, няхай сабе нават і на беларускай мове. Не менш важным з’яўлялася яшчэ выхаванне беларускіх дзяцей у нацыянальна-патрыятычным духу з тым, каб зрабіць іх актыўнымі носьбітамі духоўных традыцый роднага краю, зацікаўле-нымі ў яго адраджэнні. Усяму гэтаму раней не вучылі беларускіх дзяцей, наад-варот, яны былі аб’ектам жорсткай палітыкі паланізацыі і русіфікацыі. На неаб-ходнасць, акрамя ўвядзення дзяцей у краіну ведаў, дбаць яшчэ і пра нацыя-нальна-патрыятычны аспект выхавання і навучання, пісаў і беларускі пісьмен-нік Змітрок Бядуля: “... трэба, каб тыя, хто займаецца яе (хрэстаматыяй. – Л.Л.) складаннем, выкарысталі пры гэтым найлепшае з найбагацейшай міфологіі і гісторыі: казкі, паданні, летапісныя апавяданні і інш., каб хрыстыматыя будзіла ў дзецях нацыянальны патрыятычны дух”[1]. І гэта многім педагогам удавалася.

Актыўнай нацыянальнай пазіцыяй вызначалася “Беларуская Студэнцкая Райніца”. У словах яе адозвы да студэнтаў Менска: “Нацыянальнае адраджэн-не – гэта вайна культур, каторая звычайна канчаецца вызваленьнем прыдуша-най, падняўшай паўстаньня”, выразна відаць упэўненасць у неперамажнасць распачатай у рэспубліцы справы па яе нацыянальна-культурным адраджэнні. Сябры гэтай суполкі выдатна разумелі, што ва ўмовах Беларусі яе нацыяналь-ная культура выйдзе пераможнай, не паддасца асіміляцыі з боку рускай ці польскай культур не сама па сабе, а праз вялікія намаганні ўсяго народа і аса-бліва ўсіх пластоў інтэлігенцыі. “У гэтым змаганьні, – гаварылася далей у адозве, – патрэбны не багнеты (штыкі. – Л.Л.) і салдаты, але інтэлігент і духоў-ная сіла. Тут патрэбны тварцы культуры, армія інтэлігенцыі, пранятая сьвятым жаданьнем культурнага росквіту для свайго народу”.

Можна толькі пазайздросціць таму энтузіязму, з якім народ раскрыжаванай вайною на кавалкі, знясіленай Беларусі браўся і верыў у сваё нацыянальна-культурнае адраджэнне. Не дзеля прыгожага слоўца пісаў З. Янкоўскі ў артыку-ле “Брама да новага

[1] Беларускі шлях. 1918. 15 чэрвеня.

жыцця”: (“Беларускі шлях, 18.VIII.1918): “Ідуць людзі да нашай брамы беларускай з усіх старон….

Брама наша расшыраецца, захопліваючы ўсё большыя і большыя грамады людзей. Нават частка з нашых быўшых праціўнікаў, якая часам шкодзіла бела-рускай справе, і то цяпер захопліваецца і пачала верыць у сілу беларускага адраджэння.

Адразу адпадаюць ранейшыя ўпікі і іранічныя пытанні: Дзе ваша гісторыя? дзе ваша мова? дзе вашыя школы? дзе ваша літэратура? дзе ваш тэатр? дзе вашыя здабыткі старых гадоў?

На ўсё цяпер ёсьць адповедзі.

Гісторыя нашага народу, выціснутая вялікарускім урадам з грубай тэндэн-цыяй знішчэння ўсяго беларускаго з усіх школ, цяпер выходзіць наверх “як моцны рэактыў” … І мова аказалася, і літэратура знайшлася, і беларускі бадай сталы тэатр з досіць нібедным рэпертуарам, і беларускае штукарство. Да двух сот беларускіх школ істнуюць ужо на нашай зямлі, некольні сярэдніх школ, а ў хуткім часе універсітэт так сама будзе.

(…) Цэлы народ ні можа быць сьцёртым з твару зямлі, як бы яго ў працяг соткаў гадоў ні стараліся знішчыць”.

## §6. У шэрагах адраджэнцаў вайскоўцы

Ва ўмовах Беларусі, калі нацыянальна-культурнае Адраджэнне ад самага свайго пачатку зведвала такі шалёны супраціў з боку рускіх вялікадзяржаўнікаў і крайніх польскіх нацыяналістаў, выключна важным было займець для адраджэнскага руху падтрымку ад людзей у вайсковых шынялях. Іх надзелі ледзь не на ўсіх беларусаў прызыўнога ўзросту, і ў значнай ступені таму, што баявыя аперацыі кайзераўскіх і расійскіх войскаў вельмі рана перакінуліся на іх родную зямлю. Праўда, многім беларускім вайскоўцам даводзілася ўдзельнічаць у баях і па-за межамі сваёй Бацькаўшчыны. Такая ўжо была палітыка ў царскага самаўладдзя. Таму значная частка беларускіх жаўнераў альбо зусім не ведала, што адбывалася на іх радзіме, альбо атрымлівала з дому весткі з вялікім спазненнем. І ўсё ж уплыў ваеннага фактару на ход беларускага нацыянальнага руху стаўся даволі адчувальным, і таму ніяк нельга апраўдаць, што ён яшчэ не знайшоў сабе належнага адлюстравання ў навуковай, публіцыстычнай літара-туры, што падахвоціла аўтара дадзенай кнігі не абмінуць у ёй дадзенага пытання, зусім не прэтэндуючы на яго глыбокае, падрабязнае раскрыццё. Такое рэальна магчыма толькі ў адмысловым манаграфічным даследаванні.

Агульнавядома, што ўжо сама спецыфіка вайсковага жыцця, знаходжанне ўвесь час пры зброі павышаюць у такога чалавека асабістую адказнасць за лёс Бацькаўшчыны. Яго, як нікога з цывільных людзей, хвалююць любыя замахі на яе тэрытарыяльную цэласнасць, эканамічную самастойнасць, дзяржаўны суве-рэнітэт. Зусім не абыякавыя асобы ў вайсковай форме да духоўных каштоў-насцяў роднага краю, якія яны гатовыя абараняць з такой жа адказнасцю, як і матэрыяльныя багацці.

Сярод мабілізаваных у войска беларусаў ужо на першым часе вайны з Германіяй было нямала такіх, што не проста краем вуха чулі штосьці пра нацыянальна-адраджэнскі рух у родным краі, а і самі бралі актыўны ўдзел у ім. Трапіўшы на фронт, яны не маглі не цікавіцца ўсім тым, што адбывалася на беларускай нацыянальна-адраджэнскай ніве. Моцна хвалявала гэта праблема Максіма Гарэцкага, які, да таго як быць узятым на фронт, паспеў стаць добра вядомым многім чытачам, дзякуючы сваімі частымі допісамі ў газету “Наша ніва”, публікацыяй апавядання “У лазні” (1912), першага зборніка “Рунь” (Вільня, 1914). Вось толькі доўга павaяваць яму не давялося, бо атрымаў цяжкае раненне. І года не пабыў на фронце беларускі крытык, публіцыст і празаік Лявон Гмырак [загінуў 30.VI. (13.VII.) 1915]. У 1915 г. мабілізавалі ў армію Якуба Коласа, у наступным годзе – Янку Купалу, якія ўжо паспелі нямала карыснага зрабіць на ніве беларускага прыгожага пісьменства. Царскія ўлады не збіраліся пакідаць на ёй і іншых творцаў – а іх, дзякаваць Богу, з’явілася нямала, бо на беларускую мастацкую літаратуру, публіцыстыку глядзелі, як на мала каму патрэбную рэч. Такой і падобным да яе катэгорыям беларускіх дзеячоў і на франтах вайны заўжды была вельмі блізкай ідэя нацыянальна-культурнага адраджэння роднай Бацькаўшчыны, і яны нямала зрабілі дзеля яе пераўвасаблення ў жыццё. Без актыўнага ўдзелу нашых суайчыннікаў-франтавікоў у гэтай святой справе Беларусь не мела б такіх адчувальных вынікаў у змаганні за сваё палітычнае самавызначэнне, пабудову культуры на нацыянальным грунце, хаця і даводзілася развязваць гэтую лёсавызначальную праблему ў экстрэмальных умовах імперыялістычнай і грамадзянскай войнаў, сапраўднай рэвалюцыйнай калатнечы.

З пачаткам Першай сусветнай вайны, калі пад ружжо было пастаўлена няма-ла і беларусаў нацыянальнай арыентацыі, істотна ўскладнілася праца па выра-таванні краю ад далейшай дэфармацыі яго культурнага жыцця ў выніку няспыннага працягу дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі. Тым, хто заставаўся дома, даводзілася працаваць з падвоенай энергіяй. І яны працавалі, ні

на хвіліну не забываючыся пра крайнюю неабходнасць шырыць беларускую нацыяналь-ную ідэю сярод нашых суайчыннікаў, што трапілі ў войска. Верылася, што рана ці позна закончыцца вайна, і яны пасля вяртання дахаты актыўна ўключацца ў беларускае нацыянальна-культурнае Адраджэнне. Гэтай высакароднай патрыя-тычнай ідэяй не маглі не жыць салдаты і афіцэры Заходняга фронту, бо яго ж вайсковыя падраздзяленні акурат дыслакаваліся, удзельнічалі ў баях на тэрыто-рыі Беларусі і добра бачылі, якія страшэнныя беды чыніць ёй вайна. З дазволу камандавання фронту вайскоўцамі ладзіўся 15 мая 1917 г. у Менску мітынг. Удзельнічалі ў ім толькі ўраджэнцы з Беларусі. Не будучы задаволенымі поўным нацыянальна-дзяржаўным бяспраўем апошняй, яны выказаліся за яе палітычнае самавызначэнне у складзе федэратыўнай дэмакратычнай Расіі. Такое патрабаванне тады выстаўлялася многімі партыямі і грамадскімі арганіза-цыямі Беларусі. Удзельнікі мітынгу актыўна падтрымалі прапанову аб увядзен-ні ў школы беларускай мовы, што сведчыла пра добрае разуменне імі яе ролі ў нацыянальным жыцці свайго народа, якое якраз так істотна здэфармавалася з прычыны таго, што ва ўсіх асноўных сферах дзейнасці чалавека панавала рускае слова. І найбольшую шкоду яно прыносіла з-за бязмежнага выкары-стання ва ўстановах народнай адукацыі. Паставіць на мітынгу пытанне аб беларусізацыі школ, напэўна ж, паспрыяла веданне яго ўдзельнікамі тых пазітыўных зрухаў, якія ўжо меліся на практыцы ў такіх установах у захо-пленных нямецкімі інтэрвентамі раёнах.

Арганізатары і ідэолагі беларускага нацыянальнага Адраджэння не ўяўлялі сваёй дзейнасці без удзелу ў ёй і тых, каму далі ў рукі зброю, каб абараняць інтарэсы царскага самаўладдзя ў вайне з кайзераўскай Германіяй. Сказанае можна пацвердзіць і тым, што пасланцы ад беларусаў-вайскоўцаў удзельнічалі ў ліпені 1917 г. у Менску на з’ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый і партый, дзе была створана Цэнтральная Рада беларускіх арганізацый. На сваёй першай сесіі (5-6 жніўня 1917 г.) яна ўхваліла Статут беларускіх нацыянальных культурна-прасветных гурткоў у войску. Дзеля таго каб зрабіць нацыянальную ідэю блізкай для кожнага салдата-беларуса, у Статуце меліся такога зместу пункты:

“11) Кожны беларускі культурна-прасьветны гурток павінен выпісваць і пашыраць беларускія кнігі і газэты.

(...) 14) Усе члены беларускай грамады ў вайсковых часьцях павінны гаварыць паміж сабой па-беларуску.

15) Пастановы свае і дзелаводства гурткі павінны весьці ў беларускай мові.

16) Кожын член Грамады павінен вучыцца пісаць у беларускай мові і пісаць лісты да дому толькі па-беларуску і паведамляць сваіх у вёску пра беларускі рух.

17) Кожын беларус павінен скрозь ужываць сваёй роднай мовы.

(...) 19) Кожын член Беларускай Грамады ў войску павінен насіць беларускі нацыянальны знак – белая стужка с чырвонай палоскай па сярэдзіні; усе тры палоскі белая, чырвоная і белая аднэй шырыні”[1].

Наданне такога важнага месца беларускай мове ў вышэйзгаданым Статуце дыктавалася не толькі жаданнем павысіць яе ролю ў грамадскім жыцці нашага народа, у асяроддзі тых, хто служыў у войску. Быў належным чынам улічаны і той факт, што, апынуўшыся ўдалечыні ад Бацькаўшчыны, часта будучы на крок ад смерці, людзі надзвычай востра адчувалі павагу да ўсяго свайго, што іх адрознівала ад іншых народаў. Родная мова тут займала, бяспрэчна, першае месца. Таму абмінуць яе ў тэксце Статута ніяк нельга было.

Цалкам зразумелую, апраўданую настальгію па роднай Бацькаўшчыне сал-даты часта выказвалі ў сваіх лістах на адрас рэдакцый беларускамоўных газет. Але былі ад іх і лісты тыпова адраджэнскага зместу. Салдаты звярталіся ў рэдакцыі з просьбай высылаць ім газеты і кніжкі, з якіх можна было б даведац-ца пра сапраўднае жыццё іх радзімы. Вось адзін з такіх лістоў (аўтар К. Філо-нік), што змясціла газета “Вольная Беларусь” ад 29 верасня 1917 г.: “Вельмі прашу выслаць усё, што маеце аб Беларусі. У нас німа ні кніг, ні газэт, а тым часам салдаты, ахвіцэры і чыноўнікі вельмі цікавюцца рэдкімі весткамі, якія бываюць у газэтах, на конта беларускага руху (падкрэслена мною. – Л.Л.). І ў гэты час, калі ўсе нацыі, пачынаючы ўкраінцамі і канчаючы малдаванамі, маюць свае органы друку, нам на’т аб выхадзе беларускіх газэт дагэтуль нівядома.

Прышліце нам усё, што маеце.

Пакажыце нам дарогу да нашага хутчэйшага злучэньня”.

На такія просьбы заўжды адгукалася рэдакцыя газеты “Вольная Беларусь”, што заслугоўвае вялікай пахвалы, бо змешчаныя ў ёй матэрыялы глыбока і праўдзіва асвятлялі, разам з іншымі надзённымі пытаннямі, тое, што найбольш за ўсё цікавіла, хвалявала нашых салдат: становішча з палітычным самавызначэннем роднага краю, ход нацыянальна-культурнага Адраджэння

[1] Вольная Беларусь. 1917. 17 жніўня.

як процівага дзяржаўнай палітыцы русіфікацыі, якая не адышла ў нябыт і пасля прыходу да ўлады Часовага ўраду. З усім гэтым куды больш было праблем, чым жаданых набыткаў.

З узрастаннем нацыянальнага патрыятызму вайскоўцаў, прыналежных да нярускіх народаў, не маглі не лічыцца ні Часовы ўрад, ні ваеннае камандаванне, таму імі быў прыняты шэраг дэмакратычнага характару захадаў з мэтай пашы-рэння іх (вайскоўцаў) сувязяў са сваёй радзімай, у т.л. і праз атрыманне ад яе перыёдыкі. Не стала гэта выключэннем і для воінаў-беларусаў. Яны таксама мелі "права трэбаваць выпіскі на казённыя грошы ў палкавыя і інш. бібліотэкі беларускіх часопісаў, а калі іх у тым не здавольняць", жаліцца ў Беларускую Цэнтральную Раду[1].

У вялікіх клопатах аб гаротным лёсе роднай Бацькаўшчыны жыў, праводзіў усю сваю дзейнасць Беларускі нацыянальны гурток вайскоўцаў пры "Упраўлен-ні Начальніка інжынераў №-скай арміі". На адным з сваіх пасяджэнняў ён абмеркаваў становішча на Беларусі і справядліва прызнаў, што Першая сусвет-ная вайна ўзваліла на яе больш цяжару, чым на любую з абласцей Расіі. Марачы ўбачыць свой край адроджаным, яны лічылі патрэбным здзейсніць шырокі комплекс розных добра ўзважаных мерапрыемстваў стваральнага характару. Вось некаторыя з іх:

"5) Глаўнаю мэтаю мы ставім прасьвету Беларусі; на гэта павінны мы выда-ваць найбольш грошы.

6) Усе беларусы павінны злучацца ў гурткі, таварыства і зьвязвацца з Цэнтр. Радай Бел. Арганізацый; толькі арганізаваны народ можэ мець сілу, каб палеп-шыць сваё духоўнае і матэрыяльнае жыцьцё.

7) Калі мы раз'едзімся па сваіх кутках, кожны з нас зробіць беларускі нацыя-нальны гурток для арганізованай і сьвядомай грамадзянскай працы ў старай нашай бацькаўшчыне – Беларусі"[2].

Увагу і ваенных, і цывільных беларускіх нацыянальна-адраджэнскіх сіл моц-на прыцягнула да сябе такая важная падзея, як правядзенне 15-24 кастрычніка 1917 г. у Менску з'езда беларусаў-вайскоўцаў Заходняга фронту з удзелам прадстаўнікоў Паўночнага фронту і Балтыйскага флоту. У гэтыя ж дні ў Мен-ску адбылася яшчэ адна знакавая падзея: на базе рэарганізацыі Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый была ўтворана Вялікая Беларуская Рада (ВБР). Сабраліся беларусы-вайскоўцы ў памяшканні Губернскага Камісарыята. Адкрыў паседжанне Сымон Рак-Міхайлоўскі. Ад імя Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый з'езд вітаў Язэп Дыла, Беларускай сацыялістычнай грамады –

---

[1] Вольная Беларусь. 1917. 26 кастрычніка.
[2] Тамсама. 9 кастрычніка.

Палута Бадунова, Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта – Аркадзь Смоліч, Бела-рускай фракцыі перадпарламента – Язэп Варонка, Бабруйскага аддзела Бела-рускай сацыялістычнай грамады – Фабіян Шантыр, Беларускіх бежанскіх арганізацый – Латышэнка, Арганізацыі менскіх вучняў – Чэрапук, Беларускіх арганізацый у Арле – Муха, ад Кіеўскага гуртка "Зорка" – Паліна Мядзёлка, XII-й арміі Паўночнага фронту – Язэп Мамонька. Было прывітанне з'езду і ад Украінзахкамітэту, сустрэтае шчырай эвацыяй. Прадстаўніка ад украінцаў абралі ганаровым таварышам старшыні з'езда. Усе даклады прысвячаліся пытанню арганізацыі беларусаў у войску. У заключэнне Ф. Шантыр прачытаў даклад аб патрэбнасці нацыянальнага жыцця для беларусаў, які ў наступным годзе ў Слуцку выйшаў, істотна дапоўнены, паасобнай брашуркай. На з'ездзе было пастаўлена стварацць беларускія палкі. Надаючы надзвычай важнае зна-чэнне дадзенай акцыі, газета "Вольная Беларусь" зазначала, што "Беларускае войска – гэта гістарычны мамэнт для Беларусі!".

Неўзабаве пра многае з таго, што гаварылася у Менску на з'ездзе воінаў-беларусаў Заходняга фронту, стала досыць шырока вядома і на перыферыі. Тут шмат дзе прыхільна сустракалі ідэю аб неабходнасці для Беларусі мець уласнае войска.

З усіх вайсковых злучэняў, бадай, найбольшай нацыянальнай актыўнасцю воінаў-беларусаў вызначалася XII армія Паўночнага фронту. Ужо 20 ліпеня 1917 г. тут зарганізаваўся "Часовы Выканаўчы Камітэт. У пасядзэнні 1-го лістападу было ўхвалено: 1) зараз-жа арганізаваць войско ў тылу і на фронці; 2) прызнаць, што Расія павінна быць толькі фэдэратыўнай дэмакратычнай рэспублікай; 3) арганізаваныя беларусы XII арміі, у тым выпадку, калі ім будуць перашкаджаць, дабьюцца сваіх дамаганняў усімі заходамі, нават і рэвалюцыйным поўстаннем. Маюць на мэце ўвайсьці ў цесны блок з усімі нацыянальнасьцямі. Ухвалено вымагаць перадачы ўсёй уласьці на Беларусі самому беларускаму народу і адміністратыўныя пасады даручыць тым асобам, якія прытрымліваюцца палітычнай пляцформы Вялікай Беларускай Рады"[1]. Гэта была цалкам адпаведная беларускаму нацыянальнаму інтарэсу рэзалюцыя. Яна дае ўсе падставы разглядаць згуртаванне нацыянальнай арыентацыі воінаў-беларусаў XII арміі ў якасці важнага звяна ў змаганні за палітычнае сама-вызначэнне ахопленага вайной, рэвалюцыйнымі падзеямі роднага краю.

Яшчэ ніколі так глыбока не прасякала нацыянальная ідэя душы беларусаў, як у першыя дні пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. Многія зразумелі, што адбылося штосьці надзвычай важнае

[1] Вольная Беларусь. 1917. 8 снежня.

ў гісторыі ўсіх народаў былой царскай Расіі. З усіх іх, без усялякіх сумненняў, у самае цяжкае становішча з прычыны вайны з Германіяй трапіў беларускі. Над яго Бацькаўшчынай, якая не прызна-валася афіцыйнымі ўладамі Расіі за самабытны этнічны край, навісла рэальная пагроза быць падзеленай паміж суседнімі краінамі. Гэта выклікала велізарны неспакой не толькі ў беларусаў, што не пакінулі сваёй айчыны, але і тых, каго вайна змусіла развітацца з родным кутам. Ні на хвіліну не забываліся на яго і тыя, што вымушаныя былі змяніць цывільную вопратку на шынель і з прычыны ваеннага становішча абаранялі далёкія ад Беларусі землі Расіі.

З вялікім хваляваннем атрымлівалі звесткі з радзімы нашыя суродзічы, што змагаліся на Румынскім фронце. На момант кастрычніцкага перавароту ў Расіі тут іх знаходзілася пад штыком каля 100 тыс. чалавек. Найбольш беларускім па нацыянальным складзе салдат і афіцэраў з'яўляўся 4-ы армейскі корпус. Дарэчы, яго армейскі камітэт не падтрымаў рэвалюцыйнага перавароту ў кастрычніку 1917 г. і выказаў гатоўнасць аказаць самае моцнае процідзеянне паўстанню узброенай сілай. Пры ўсім жаданні афіцэрам, што падзялялі такую пазіцыю, ніяк нельга было падавацца ў родную Беларусь, паколькі на значнай тэрыторыі яе пры самым актыўным удзеле расійскіх бальшавікоў усталяваліся савецкія парадкі.

Істотна актывізавалася, набыло ячшэ больш змястоўны характар нацыяналь-нае жыццё нашых воінаў пасля стварэння ў лістападзе 1917 г. у Менску Цэнтраль-най беларускай вайсковай рады (ЦБВР). Адбылася гэтая вялікай гістарычнай важнасці падзея падчас правядзення ў гэтым горадзе з'езда (31.X.-6.XI.1917) беларусамі-вайскоўцамі Заходняга фронту, XII-й арміі Паўночнага фронту і Балтыйскага флоту. Абраным на з'ездзе Часовым выканаўчым камітэтам ЦБВР дазволілі кіраваць добравядомаму ў асяроддзі беларусаў-вайскоўцаў Сымону Рак-Міхайлоўскаму. "ЦБВР стварыла спецыяльны аддзел па фарміраванні бела-рускіх вайсковых адзінак, які ўзначаліў генерал-лейтэнант К.А. Кандратовіч і адправіла на франты вярбоўшчыкаў". Пасля праведзеных у лістападзе-снежні 1917 г. з'ездаў беларусаў-вайскоўцаў Паўночнага, Румынскага, Паўднёва-Заход-няга франтоў і іх прадстаўнікі папоўнілі склад Выканкама рады. "Намаганнямі ЦБВР у лістападзе 1917 г. створаны беларускі полк у Мінску і конны эскадрон пад Оршай"[1]. Друкаваным органам Выканаўчага камітэта ЦБВР стала вайскова-грамадская і літаратурная газета "Белорусская Рада". Першы нумар яе выйшаў у Менску ўжо 25

[1] ЭГБ.Т.6. Кн. II. С. 117.

лістапада 1917 г. Зрэдку на яе старонках змяшчаліся і беларускамоўныя матэрыялы. "Газета адлюстроўвала нацыянальна-кансалідацыйныя працэсы ў беларускім грамадстве на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі, асабліва сярод беларусаў у вайсковых фарміраваннях былой царскай Расіі, імкненне беларускага народа да нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння з уласным войскам". Друкаваліся таксама артыкулы па гісторыі і эканоміцы Беларусі, творы М. Багдановіча, Янкі Купалы, Алеся Гаруна, І. Дварчаніна, Л. Родзевіча, Зоські Верас, Змітрака Бядулі, П. Бадуновай[1]. Спыніўся выхад газеты 5 лютага 1918 г., аднак і за гэты час яна паспела сказаць многа праўды сваім чытачам, дапамагчы заняць правільную пазіцыю беларусу-вайскоўцу ў змаганні за шчаслівую будучыню роднай айчыны.

Ад гэтага часу Вялікая Беларуская Рада супольна з Цэнтральнай беларускай вайсковай радай разгарнулі актыўную дзейнасць па стварэнні беларускага нацыянальнага войска і мелі на гэтым адказным, цяжкім шляху пэўныя дася-гненні.

У тыя багатыя на палітычныя падзеі дні здаровы беларускі нацыянальны дух панаваў у шэрагу падраздзеленняў Балтыйскага флоту, у якім традыцыйна слу-жыла і тады нямала нашых землякоў. Паводле прыблізных падлікаў, тут іх уво-сень 1917 г. знаходзілася каля 1000 чалавек. У выпрацаваным імі статуце былі пункты, у якіх гаварылася пра неабходнасць заснавання на Беларусі нацыяналь-най асветы, надзейнага забеспячэння абароны цэласнасці тэрыторыі краю, надзялення шырокімі функцыямі беларускай мовы, арганізацыі дзейснай дапа-могі ўцекачам і інш.

Словам, роля людзей у вайсковай форме ў адстойванні нацыянальных інтарэ-саў свайго краю невымерна вырасла пасля таго, як у адпаведнасці з устаноўкай з'ездаў беларускіх арганізацый і беларусаў-воінаў Заходняга фронту пачалося фармаванне нацыянальных беларускіх войскаў. Выканкамы Вялікай Беларускай Рады і Цэнтральнай беларускай вайсковай Рады, Беларускі выканкам Заходня-га фронту заявілі, што "да гэтай важнай нацыянальнай працы неабходна залу-чыць усе беларускія сілы, што знаходзяцца ў арміі"[2]. І такое рабілася. Гэты нацыянальна-патрыятычны працэс не спынілі і падзеі, выкліканыя Кастрычніц-кай рэвалюцыяй 1917 г. у Расіі. Наадварот, ён набыў яшчэ большы размах і ў шэрагу месцаў даволі паспяхова пераўвасабляўся на практыцы.

Не толькі на франтах, але і ў іншых месцах, нашыя сыны, апранутыя ў вайсковыя шынялі, уважліва сачылі за тагачаснымі

[1] ЭГБ. Т.2. С. 6.
[2] Турук Ф. Белорусское движение. С. 98.

падзеямі на Беларусі. Хва-лявалі яны і нашых уцекачоў. Сказанае найперш датычыла тых, хто знаходзіўся ў самім сэрцы Расіі – Маскве. Тут, як пісала газета “Вольная Беларусь” (8.XII 1917 г.), 26 лістапада 1917 г. “адбыўся першы сход беларусаў-воінаў, на каторым, выслухаўшы даклад аб рабоці з’ездаў і Вайсковай Рады, быў выдзелен, так званы, ініцыатыўны гурток беларусаў-воінаў Маскоўскае ваеннае акругі, у склад катораго ўвайшло 10 чалавек. Знаходзіўся гэты гурток у будынку Рады Сялянскіх дэпутатаў па вуліцы Цвярской”.

Воінам-беларусам імкнуліся даць як мага больш поўную і праўдзівую інфар-мацыю пра працу Вялікай Беларускай Рады, прынятыя рашэнні на Менскім з’ездзе беларускіх вайскоўцаў. З асаблівай зацікаўленасцю слухалі тых, хто ўдзельнічаў у пасяджэннях ВБР ці гэтага з’езда. Ад 9-й артылерыйскай брыгады права ўдзельнічаць у пасяджэннях ВБР і з’езда атрымалі Свішчэўскі і Турцоў. Вярнуўшыся ў сваю часць, яны пра ўсё чутае і бачанае падрабязна паведамілі воінам-беларусам, якія заявілі: мы ахвотна далучаемся “да ўхвалаў зьезду і абецаемся памагчы ў сьвятой працы колькі можна.

Мы шчыра вітаем нашу Вялікую Вайсковую Беларускую Раду. Усе свае сілы, усё сваё жыццё мы аддамо за сваю нацыянальную волю. Мы ў кожную хвіліну гатовы падтрымліваць свой найвышэйшы і аўтарытэтнейшы рэволю-цыйны орган нават узброенай сілаю.

Ніхай на векі жыве шырокая тэрыторыяльная аўтаномія Беларусі ў Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай Рэспубліцы.

Слава Вольнай Беларусі!

Слава Вялікай Беларускай Радзі!”

Надаючы выключна важнае значэнне выспяванню, распаўсюджванню бела-рускай нацыянальнай ідэі сярод нашых землякоў, раскіданых па розных участ-ках вайны з кайзераўскай Германіяй, усе ўцягнутыя ў адраджэнні рух у метра-поліі імкнуліся, чым толькі можна, паспрыяць сваім дарагім франтавікам не страціць веру ў канчатковую перамогу па выратаванні Бацькаўшчыны ад учыненага ёй чужынцамі вялікага гора. З гарачым палымяным словам да тых, каго царскі, а затым і Часовы ўрады пагналі з нашага краю у бойню, звярнуўся беларускі пісьменнік Змітрок Бядуля: “Воіны беларусы, змучаныя, абездоляныя за ўвесь час вялікай вайны! На вас ляжыць вялікі абавязак, самы законны і справядлівы абавязак кожнага чэлавека – бараніць самаго сябе.

Каб вы мелі да каго і да чаго вернуцца посьля вайны, каб цёмныя сілы ні зруйнавалі да шчэнту вашу бацькаўшчыну – Беларусь, запісывайцеся цяперака ў Беларускае войска.

Дзе б вы ні былі, на ўсіх фронтах, вымагайця, каб вас фарміравалі ў аддзель-ныя часьці і напраўлялі ў свой край да родных межаў. – Бараніце сябе ад без-стыдных, цёмных людзей-зьвяроў!

Гэтыя подлыя трусы-скоты пабаяцца аднаго вашаго з'яўлення, і вам ні пры-дзіцца ўжываць сілы.

Запісывайцеся ў Беларускае войско і бараніце свой родны край ад загібелі!"[1]

Шчырае жаданне воінаў-беларусаў прыняць свой пасільны ўдзел у вырашэн-ні лёсу Бацькаўшчыны ў гэты найцяжэйшы для яе час усяляк вітала і падтрым-лівала нацыянальна-самасвядомая творчая інтэлігенцыя, бо добра ведала, як многае залежыць ад людзей, што носяць зброю ў руках. На магутных хвалях беларускага Адраджэння не раз з'яўляліся творы на вайсковую тэматыку. Пісаў іх і Леапольд Родзевіч. Яму належыць верш "Салдацкая песьня" з моцна выяў-леным нацыянальным патрыятызмам. Вось некалькі радкоў з яго:

Я салдат малады,
Я дзяцюк, хоць куды,
І без меры я дуж.
Зваць мяне – беларус.

Эх, як стане ў рад
Малайцоў гэткіх шмат!
Усе вольны яны –
Беларусі сыны.

(…) Хай з салдацкіх грудзей
Па зямельцы ўсей
Сказ імчыць, як страла:
"Беларусі хвала!"[2]

Ніколі не шкадавала сваіх старонак для надрукавання матэрыялаў, што паступалі з фронту, рэдакцыя газеты "Вольная Беларусь". Не раз дасылаў іх на яе адрас нехта з салдат С.П-скій. У адным са сваіх допісаў ён з вялікім пафасам паведамляў: "Беларускі нацыянальны рух у арміі раптоўна выбухнуў стыхійнай сілай. Раптам схамянуліся беларусы і шпарка бяруцца за працу, як бы хочучы нагнаць той змарнованы час с пачатку рэвалюцыі, калі да арганізацыі ні было такога палкага жадання. 13XI г.г. адбылося

[1] Вольная Беларусь. 1917. 8 снежня.
[2] Вольная Беларусь. 1917. 31 снежня.

ў нашым корпусі сабранне бела-русоў усяго корпусу, на яком ухваляна думка пра выбары Беларускіх Гурткоў у полках, дывізіях і корпусі. Аднастайне ўхвалілі склікаць фронтовы з'езд воіноў беларусоў у г. Кіеві... На собраніі ясна выявілася думка, што нам канечна патрэбна мець сваё беларускае войско, каб бараніць сваю дарагую Бацькаў-шчыну – Беларусь ад разгрому пры дэмобілізацыі і ад апэтытаў тых паноў, каторыя будуць процягіваць на яе сваю лапу, каб раздзеліць яе на некалькі шматкоў.

Сабранне прайшло ў велькай еднасьці ўсіх сяброў-беларусаў і паходзіло на адну дружную беларускую сямейку"[1].

Такая пазітыўная накіраванасць назіралася ў поглядах і практычных дзеян-нях многіх воінаў-беларусаў Паўночнага фронту. Свой першы з'езд правялі яны 15-22 лістапада 1917 г. у Віцебску. Сярод удзельнікаў з'езда быў і ўраджэнец Дзвінска (цяпер Даўгаўпілс) паручнік Кастусь Езавітаў. У той час яму было толькі 24 гады, але сябры па зброі выбралі яго намеснікам старшыні з'езда, увялі ў склад выканкама створанай у жніўні 1917 г. Беларускай цэнтральнай вайсковай рады, дзе ён выконваў функцыі намесніка старшыні прэзідыума яе выканкама[2]. І спраўляўся з імі бездакорна. За нацыяналізацыю войска, аўтаномію Беларусі рашуча выказваліся воіны-беларусы на сваім з'ездзе, што праходзіў у лістападзе 1917 г. у Смаленску. З выразна сфармуляваных нацыя-нальных пазіцый зыходзілі воіны-беларусы і падчас іншых з'ездаў, пра што ахвотна паведамляла сваім чытачам рэдакцыя газеты "Вольная Беларусь" з мэтай падтрымання сярод іх адраджэнскага духу. З такіх паведамленняў найбольш закрануў сэрцы чытачоў факт, калі на беларускім вайсковым з'ездзе, што праходзіў у пачатку снежня 1917 г. і дзе прысутнічала каля 200 чалавек, адзін з дакладчыкаў згадаў імёны беларускіх пісьменнікаў, якія памерлі ў росквіце сваіх творчых сіл, дык ўсе дэлегаты дружным уставаннем ушанавалі іх памяць.

Як вялікую заваёву беларускага нацыянальнага руху ў войску трэба пры-знаць атрыманы ў канцы лістапада 1917 г. ад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага рускай арміі Мікалая Крыленкі дазвол на "беларусізацыю вялікіх вайсковых частак на фронці"[3]. Не выключана, што такое магло быць вынікам нараджэння, узгадавання гэтага ваеначальніка на смаленскай зямлі (Сычоўскі павет), на якой у тыя гады яшчэ добра пачуваўся дух беларушчыны. Адначасова з гэтым М. Кры-ленка аддаў распараджэнне аб стварэнні у Менску 1-га Беларускага палка. Праўда, дамагацца

---

[1] Вольная Беларусь. 1917. 30 лістапада.
[2] Звязда. 1992. 19 жніўня.
[3] Вольная Беларусь. 1917. 30 лістапада.

рэальнай беларусізацыі ў паасобных частках савецкага вой-ска сталася зусім нялёгкай справай, бо многімі імі камандавалі асобы, што не прызнавалі, як і ў старыя часы, беларусаў за самабытны народ з-за іх моцнай зрусіфікаванасці. Але ўжо нішто не магло стрымаць нацыянальна самасвя-домую частку беларусаў, у т.л. і ў ваеннай форме, ад цалкам законнага змагання за права заставацца гаспадаром на сваёй роднай бацькоўскай зямлі. Яскравых прыкладаў у пацвярджэнне сказанаму даволі багата, прычым незалежна ад таго, справа датычыла цывільнага ці вайсковага жыцця.

Беларускі нацыянальны патрыятызм яскрава выявіўся на першым з'ездзе воінаў-беларусаў Паўднёва-Заходняга фронту, што адкрыўся 17 снежня 1917 г. у Кіеве. На пачатку яго працы некаторыя ўдзельнікі вызначаліся пасіўнасцю, а часам нават і варожасцю да беларускага руху, бо не ведалі яго сапраўднага сэнсу. Але варта было ім хоць трохі пазнаёміцца з ідэяй беларускага Адраджэн-ня, як яны адразу ж сталі на яго бок. Да таго як пачаліся выступленні, была прынята пастанова прасіць Усебеларускі з'езд, што праходзіў у гэтыя ж дні ў Менску, неадкладна паслаць свайго "прадстаўніка на мірную канфэрэнцыю дзеля абароны праў Беларусі, яе нізалежнасьці і цэласьці". У час дакладаў не раз гучала думка пра неабходнасць надання аўтаноміі для Беларусі "арганізацыі беларускіх войск, каб бараніць сваю старонку ад безладдзя".

Асабліва абвастрылася ў воінаў нацыянальнае пачуццё пасля выступлення Леўшчэнкі, які гаварыў пра колішнюю незалежнасць і нацыянальны росквіт Беларусі ў перыяд Вялікага Княства Літоўскага. У выступленнях чарговых прамоўцаў усё часцей заяўлялася, "што даволі апекаваць беларуса, што ён сам патрапіць зрабіць у сваёй хаці парадак. Дзеля гэтага канечная патрэба зараз жа ўтварыць краевую Беларускую Народную Уласьць". Была вынесена прапанова паслаць Усебеларускаму з'езду ў Менск тэлеграму, "каб ён аб'явіў Беларускую Народную Рэспубліку". Як бачым, ідэя беларускай дзяржаўнасці ў форме народнай рэспублікі выспела ў нашых вайскоўцаў за некалькі месяцаў да таго, як палітыкамі і грамадскімі дзеячамі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Не забыліся на з'ездзе нашых воінаў у Кіеве расказаць ім і пра неспрыяльны духоўны стан беларускай нацыі. Па дадзеным пытанні выступіў Фарботка. Яго даклад пра "вялікую барацьбу лепшых сыноў Беларусі за беларускую культуру, мову і патрэбы Беларусі" зрабіў "моцнае ўражэнне на ўсіх". Ён нагадаў прысутным пра гістарычную ролю ў беларускім Адраджэнні такіх вядомых пісьменнікаў, як Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Іван

Неслухоўскі (літ. псеўданім Янка Лучына), Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гарун, Максім Багдановіч, у творах якіх "чуецца крык пакрыўджанага цяжка беларуса, яго цяжкая доля, безпраўнае жыццё. Але вітае і надзея на лепшую долю". За старшыню гэтага з'езда дэлегаты абралі Краскоўскага[1].

У той архіскладанай, непрадбачанай нават на самы кароткі тэрмін сітуацыі воіны-беларусы былі вельмі моцна прасякнуты цяжкім лёсам сваіх землякоў, якім вайна з кайзераўскай Германіяй наканавала стаць уцекачамі. А налічвалася ж іх не менш за 1,5 млн. чалавек. На чужыне давялося сустрэцца з вялікай нястачай. Ведаючы пра ўсё гэта, арганізацыя беларусаў-воінаў фінскага горада Гельсінфорс, як і іншых населеных пунктаў Расіі, праводзіла збор грашовых сродкаў для гэтых няшчасных людзей. Сабраныя сродкі пасылаліся на адрас Выканаўчага Камітэта Вялікай Рады для перадачы Цэнтральнаму Беларускаму Бежанскаму Камітэту.

Маецца дастаткова звестак, што пры любым зручным выпадку паміж воінамі-беларусамі і іх братамі-ўцекачамі ўсталёўваліся самыя цесныя прыяцельскія кантакты. Важна, што пад уплывам салдат і цывільныя людзі пачыналі лепш разумець, як многа ўжо залежыць і надалей будзе залежаць у Беларусі ад яе здольнасці абараніць сваю незалежнасць са зброяй у руках.

Пра тое, як моцна хваляваў уцекачоў лёс Бацькаўшчыны і як яе трэба было ратаваць ад рабаўніцтва, вельмі добра можна меркаваць і паводле такіх скупых звестак, што рэгулярна прыводзіліся ў раздзеле "Хроніка" газеты "Вольная Беларусь", у прыватнасці ад 8 снежня 1917 г. З іх чытачы даведваліся, што ў Маскве пачалася арганізацыя беларусаў-міліцыянераў, беларусаў-тэлеграфістаў-тэхнікаў, збіраюцца склікаць агульны арганізацыйны сход беларусаў-студэнтаў; што 19-21 лістапада адбыўся другі беларускі з'езд (колькасна пераважалі ўцека-чы), на якім пастанавілі: "Беларусы павінны мець нацыянальна-тэрытарыяльную аўтаномію ў межах этнаграфічных граніц беларускага народу; 2) аўтаномная Беларусь павінна ўваходзіць у склад будучай Расійскай фэдэратыўнай рэспублі-кі; 3) Беларусь павінна складаць самабытную дэмакратычную рэспубліку і мець зараз-жа свой заканадаўча-адміністрацыйны орган; 4) Вялікая Беларуская Рада на першай сваёй сесіі павінна абвясьціць Беларусь Дэмакратычнай Рэспублікай, а сябе часовым урадам і ўпраўляць Беларускай Рэспублікай да склікання Бела-рускаго Устаноўчаго Сойму, і т.д.". Крыніцай, як вынікае з "Хронікі" таго ж нумара газеты, бруіла нацыянальнае жыццё беларусаў-ўцекачоў і ў

---

[1] Вольная Беларусь. 1917. 31 снежня.

іншых гара-дах Расіі, і, зразумела, у Петраградзе. Тут Беларускі Абласны Камітэт пры Усерасійскай Радзе сялянскіх дэпутатаў выпусціў дэкларацыю, у якой заклікаў “усіх беларусаў паўстаць на абарону свае бацькаўшчыны і домагацца аўтаном-най Беларусі ў межах фэдэратыўнай Расійскай Рэспублікі”. У Таганрозе дзеля правядзення сумесных акцый пачалі арганізоўвацца рабочыя-беларусы эвакуа-ванага сюды Балтыйскага суднабудаўнічага завода і іншых прадпрыемстваў, у Ніжнедняпроўску (Екацерынаслаўская губ.) – галоўных майстэрняў Екацеры-наслаўскай чыгункі. Падобнага роду звесткі паступалі з Шуі, Іванава-Вазня-сенска і іншых гарадоў. Зарганізавалася больш за 800 матросаў-беларусаў Балтыйскага флоту, якія адчувалі сябе звязанымі “агульным жаданнем пастаяць за родную Беларусь”.

Выкарыстоўваючы запанаваныя ў расійскім, а пазней у савецкім войску хаос і беспарадкі, многія беларусы ў пагонах любымі шляхамі імкнуліся падацца дахаты, дзе так патрэбныя былі людзі, здольныя да абароны роднага краю са зброяй у руках. Даволі часта такія салдаты-вяртаннікі станавіліся дома самымі актыўнымі змагарамі за стварэнне беларускага нацыянальнага войска, папуляр-насць якога ў народзе расла як на драждджах. Як і ў многіх іншых месцах, гэтую ідэю ахвотна падтрымалі жыхары вёскі Старыцы Слуцкага павета. На сваім агульным сходзе, што адбываўся 15 лістапада 1917 г., яны пастанавілі: “Прасіць Вялікую Беларускую Раду скарэй арганізаваць беларускае войско, каб бараніць сваю нізалежнасьць”[1].

Аб’яднаныя ў нацыянальныя арганізацыі воіны-беларусы з вялікім болем у сэрцы прынялі трывожную, бязрадасную вестку пра ўчынены бальшавікамі ў ноч з 17 на 18 снежня ў Менску разгон Усебеларускага з’езда (кангрэса). Гнеў-на абураліся на гэтую злачынную акцыю Выканаўчы камітэт воінаў-беларусаў Паўночнага фронту і Віцебскі камітэт Беларускай сацыялістычнай грамады. У звароце да грамадзян краю яны заклікалі “ўсіх, каму дарагая воля, каму дарагая сьветлая будучына Беларусі, – злучыцца цясьней увакруг беларускіх пролетарскіх арганізацыяў і агульнымі стараннямі даць адпор усім гвалтоў-нікам і памоўзьліўцам, якія хочуць адняць у нашага народу яго права самому вырашаць сваю долю ў цяперашні трагічны для Беларусі момэнт”. Выказвалася ўпэўненасць, што беларускі народ, аб’яднаўшыся ў свае нацыянальныя аргані-зацыі, не дазволіць “розным цёмным, нівядомым асобам кіраваць яго доляй, а сам сабе працярэбіць шлях да волі, роўнасьці і брацтва!”[2].

[1] Вольная Беларусь. 1917. 8 снежня.
[2] Таксама. 31 снежня.

Гнеўнае абурэнне ў сувязі з разгонам Першага ўсебеларускага з’езда выка-залі 3 студзеня 1918 г. салдаты-беларусы 289-га пяхотнага палка, што дыслака-ваўся ў Менску. Полк цалкам падтрымліваў Цэнтральную беларускую вайско-вую раду. Энергічны пратэст на адрас разгоншчыкаў Першага ўсебеларускага з’езда яна заявіла Беларуская вайсковая рада ў Ясах. У сваім звароце да ўдзельнікаў з’езда яна заклікала: “Не трацце надзеі і верце, што прыгону сатра-паў мінскіх скора будзе паложан канец, а з гаспадаркі іх у нішчаснай Беларусі застанецца адзін прыкры ўспамінак. Хутка прыдзе праўдзівы гаспадар нашае зямлі, селянін і работнік беларускі, і праз свой Беларускі Установучы Сойм прыкажа ціперашнімніпрошаным госьцям: “Да дому!”[1]

Злачынны разгон Першага ўсебеларускага з’езда не быў выпадковай акцыяй невялікай купкі людзей. Як і ў многіх іншых антыбеларускіх дзеяннях, і тут не абышлося без указанняў высокіх бальшавіцкіх інстанцый. Яны істотна абцяжарылі, але не паралізавалі рух перадавых станаў беларускага грамадства стаць гаспадаром уласнага лёсу. Бачачы, што Савецкая Расія не праяўляе аніякай увагі да законных патрэбаў беларускага народа на самастойнае нацыя-нальна-дзяржаўнае развіццё беларускага народа, усё больш людзей пачынала разумець, што звязаныя з ім пытанні давядзецца вырашаць у даволі неспрыяль-ных умовах, таму немагчыма будзе абысціся без уласнага войска. Канкрэтныя захады ў гэтым напрамку рабіліся як у час Першага ўсебеларускага кангрэса, так і адразу ж пасля яго. Тут можна, у якасці прыкладу, згадаць пра абранне выканкамам Рады кангрэса за Народнага сакратара па ваенных справах вядомага нацыянальнага дзеяча Кастуся Езавітава. Ён цалкам апраўдаў сябе на гэтай адказнай пасадзе і пазней шмат карыснага зрабіў па фармаванні беларускіх ваенных часцей.

Як і прадбачылася ідэолагам і непасрэдным удзельнікам беларускага нацыя-нальна-культурнага Адраджэння, на шляху да стварэння ўласнага войска пера-шкод – прычым вельмі сур’ёзных – узнікла сапраўдная процьма. Калі што-небудзь і ўдавалася зрабіць, яно не мела прынцыпова важнага значэння для беларускай справы. Віной усяму гэтаму было бальшавіцкае кіраўніцтва Савецкай Расіі, якое ажыццяўляла сваю палітыку на значнай частцы тэрыторыі Беларусі праз Абласны выканаўчы камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту (Аблвыкамзах). Неабходна асабліва падкрэсліць, што ўрад Заходняй вобласці вельмі непакоіла даволі актыўная

[1] Вольная Беларусь. 1918. 7 студзеня.

дзейнасць Беларускай цэнтральнай вайсковай рады па стварэнні нацыянальных вайсковых фармаванняў, паколькі яе кіраўнікі добра разумелі, што без гэтага аніякая іншая сіла не ў стане абараніць нацыянальныя інтарэсы роднага краю. У лютым 1918 г. Савет Народных Камісараў Заходняй вобласці прыняў пастанову, у адпаведнасці з якой належала неадкладна "Цэнтральную вайсковую Беларус-кую Раду распусціць. Усе яе аддзелы закрыць, кіраўнікоў і членаў арыштаваць і аддаць пад суд ваенна-рэвалюцыйнага трыбунала"[1].

Апошнія надзеі на стварэнне беларускага нацыянальнага войска добра паста-раліся рассеяць у людзей і Менскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які ва ўсім падпарадкаваўся рэвалюцыйнаму Петраграду. Патрэба ж у такім войску працягвала заставацца надзвычай вострай, бо ў краі панавалі страшэнныя бес-парадкі, адсутнічала арганізацыя, якая на сілу магла адказаць сілай. Беларусь пераўтварылася ў арэну жорсткіх, блізкіх да сапраўднага ваеннага канфлікту сутычак паміж бальшавікамі і польскімі легіёнамі, якія замахваліся на беларус-кія землі.

Сведка тых жахлівых падзей у Менску Язэп Лёсік пісаў: "Чорныя хмары ваеннай калатніны зноў павіслі над Беларуссю. Уперадзе зноў ахвяры, зноў гора, пакута і слёзы. Беларускаму народу давядзецца пераджыць той ваенны жах і страхоцце, каторыя, здавалася, ужо пераджыты. Ужо палякі выказалі жудасную думку, што ў разе вайны яны павядуць яе па ўсіх правілах ваеншчыны. Гэта знача, што насяленне мае пераджыць новую вайну з усім тым, да чаго яна прымушае". Такое і сапраўды здарылася. Я. Лёсіку нельга адмовіць у здольна-сці прадбачыць будучае. Шукаючы надзейнага паратунку, ён піша: "Толькі беларускае войска збавіла б край ад новай паталі, абвясціўшы яго нейтральным. Толькі яно магло б сказаць сваё гаспадарскае слова і прыпыніць распачатую бойню. Але беларускага войска няма"[2]. Пра гэта своечасова паклапаціўся Мен-скі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Паводле яго загаду, паведамлялася ў газеце "Вольная Беларусь" ад 17(4) лютага 1918 г., "26 студня а дванастай гадзіні ў ночы ў памяшканню Цэнтр. Вайсковай Беларускай Рады арыштованы намесьнік старшыні Выканаўчага камітэту Рады, Езовітоў і пісар Захарка за што – німа ведама. Арэшт рабілі узброеныя матросы па ордэру Мінскага Сов. Р. і С. Дэпутатаў. Пры арэшці забралі ўсе паперы, пакінутыя рэчы разбурылі і, паміж іншым, захапілі з сабою і двух прыватных людзей, трапіўшых у Раду на той час выпадкова".

---

[1] Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Ч.II. С. 738.
[2] Лёсік Язэп. Творы. Мн., 1994. С.270, 271.

Рашэнне савецкага ўрада забараніць фармаванне беларускага войска было прынята ў самы цяжкі для нашага народа час, калі ў краі панаваў поўны хаос, у гарадах людзі баяліся ў вячэрні час паказацца на вуліцы. Асабліва гэта адчува-лася ў Менску, перапоўненым салдатамі. Відавочца тых падзей Язэп Ліхадзіеў-скі пісаў: "З 10-і гадзін у вечар жыццё ў горадзі "павінна заміраць" ... вуліцы пусьцеюць і пачынаецца страляніна. Страляюць па ўсіх канцох горада і, мабыць, з усіх "родовъ оружія". Часам здаецца, што горад аблажылі ворагі і бяруць яго прыступам. А гэта салдацкая варта бухае ў паветро... Падчас страшна сядзець у памяшканню і робіцца вусьцішна і маркотна".[1]

Толькі дзякуючы ўварванню ў лютым 1918 г. у Менск кайзераўскіх войск дзеячам Цэнтральнай беларускай вайсковай рады ўдалося выйсці на волю. Пры іх непасрэдным удзеле сталася магчымым захоўваць у горадзе больш-менш спакойны парадак.

Ідэя стварэння беларускага войска была такой актуальнай у тагачасным жыцці, такой папулярнай у асяроддзі самааданых адраджэнцаў, што пра яе не забыліся і пасля прыходу немцаў на змену бальшавікам. Яшчэ да іх з'яўлення 21 лютага 1918 г. у Менск тут быў створаны гарнізон на чале з К. Езавітавым. У складзе кіраўнічых органаў абвешчанай 25 сакавіка 1918 г. Беларускай Народ-най Рэспублікі (БНР) меўся і адмысловы сакратарыят ваенных спраў, якім кіра-ваў К. Езавітаў. І хаця германскія акупацыйныя ўлады разагналі Раду і Народны Сакратарыят БНР, яе ўрад "пачаў ствараць беларускі камандны склад, прызна-чыў спецыяльнага камісара для ваенных спраў (К.Б. Езавітаў) і абвясціў аб узбраенні грамадзян"[2]. Якога-небудзь сур'ёзнага поспеху не ўдалося дамагчыся ў развязванні гэтай надзённай праблемы галоўным чынам з-за супраціву ваеннага і цывільнага кіраўніцтва кайзераўскай Германіі.

Прапалі ўсякія магчымасці працягваць справу стварэння беларускага войска пасля ўходу ў лістападзе 1918 г. нямецкіх інтэрвентаў да сябе на радзіму і ўсту-плення ў Беларусь войскаў Чырвонай арміі. Эвакуаванай у снежні 1918 г. у Гародню Радзе БНР палякі асабліва не дазвалялі займацца вайсковай дзей-насцю. А ёю нельга было не займацца, хаця б дзеля таго, каб сарваць планы Польскай дзяржавы па мабілізацыі ў сваё войска беларусаў Гарадзеншчыны.

Пэўныя магчымасці па фармаванні ў нашым краі нацыянальнага войска ўзніклі пасля абвяшчэння 1 студзеня 1919 г. Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. Тут дарэчы

[1] Вольная Беларусь. 1918. 17(4) лютага.
[2] ЭГБ. Т.І. С. 385.

будзе адзначыць, што яшчэ да ўзнікнення БССР быў створаны у снежні 1918 г. у Петраградзе па ініцыятыве Беларускіх секцый РКП(б) з беларусаў-уцекачоў, чырвонаармейцаў і маракоў Балтыйскага флоту Першы беларускі камуністычны атрад. У яго складзе знаходзілася каля 200 чалавек, у т.л. 90 камуністаў. Паводле пастановы канферэнцыі Беларускіх секцый РКП(б) і выкліку Часовага рабоча-сялянскага ўрада БССР два ўзводы атрада на чале з Р. Каўшылам былі пасланы ў Менск. Дзве часткі асабовага складу атрада накіравалі на працу ў Менскую Надзвычайную Камісію, у партыйныя і савецкія органы, астатніх – у Чырвоную армію[1].

Як далёка справа з утварэннем беларускага нацыянальнага войска рушыла б наперад, была б падтрымана Масквой, цяжка меркаваць, паколькі 27 лютага 1919 г. па ініцыятыве апошняй БССР аб'ядналася з Літоўскай ССР у Літоўска-Беларускую Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку (Літбел). У ходзе яе няўдачнай вайны з польскімі легіянерамі не ўзнікала на дзяржаўным узроўні пытання аб утварэнні беларускіх нацыянальных фармаванняў. Перайменаванне 13 сакавіка 1919 г. Заходняй арміі ў Беларуска-Літоўскую армію (7 чэрвеня таго ж года стала называцца Шаснаццатай арміяй) ніколькі не паспрыяла набыццю ёю беларускага ці літоўскага нацыянальнага характару. Гэта было звычайным вайсковым злучэннем Чырвонай арміі Савецкай Расіі.

Ніколі не пакідала думка мець беларускае нацыянальнае войска тых нашых адраджэнцаў, што адстойвалі інтарэсы свайго народа на захопленай польскімі інтэрвентамі беларускай тэрыторыі. Змаганне вялося да такой ступені энергічна, што польскія ўлады проста не маглі не лічыцца – праўда, часта чыста фармаль-на – з ім. Такая фармальнасць добра бачыцца і на прыкладзе сфармаванай у снежні 1918 г. на добраахвотнай аснове з палякаў і беларусаў-католікаў Віленскай, Гродзенскай і Менскай губерняў Літоўско-Беларускай дывізіі – вай-сковай адзінкі войска польскага. Паколькі ёй у складзе Літоўска-Беларускага фронту польскіх войскаў даводзілася ўдзельнічаць ва ўзяцці Баранавічаў, Нава-градка, Клецка, Нясвіжа, Міра, Стоўбцаў і многіх іншых беларускіх гарадоў і мястэчак, тут, натуральна, не магло не абысціся і без братазабойнай вайны, бо сярод салдатаў Чырвонай арміі, што абаранялі іх, дастаткова было і выхадцаў з мясцовага насельніцтва. Зразумела, такое ніколькі не задавальняла нацыянальна-самасвядомых беларусаў, і яны ўсяляк імкнуліся змяніць сітуацыю да лепшага, чаго нялёгка было дамагчыся.

---

[1] ЭГБ. Т.5. С. 478.

З максімальным улікам інтарэсаў уласнага народа імкнулася будаваць сваю дзейнасць утвораная Цэнтральнай Беларускай радай Віленшчыны і Гарадзен-шчыны 2 жніўня у Вільні Беларуская вайсковая камісія (БВК). Пуцёўку ў жыццё яна атрымала ад самога Начальніка Польскай дзяржавы Юзафа Пілсуд-скага. У склад БВК уваходзілі П. Аляксюк (старшыня), А. Аўсянік, палкоўнікі Г. Канапацкі (камандуючы беларускім войскам) і Д. Якубоўскі, штабс – капіта-ны Ф. Кушаль і А. Якубецкі, Ю. Мурашка, А. Прушынскі (літ. псеўданім Алесь Гарун) і ўжо не раз згаданы мною С. Рак-Міхайлоўскі. “Камісія брала на сябе абавязкі вербаваць добраахвотнікаў і ажыццяўляць “нацыянальнае гадаванне войска” – выхоўваць у афіцэраў і салдат адданасць справе нацыянальнага адраджэння”[1]. З пераездам БВК у лістападзе 1919 г. у Менск яна наладзіла сувязь з Найвышэйшай радай БНР, што дазволіла некалькі актывізаваць іх супольную дзейнасць па фармаванні беларускіх вайсковых сіл. У арганізацыі працы прэрагатыва надавалася беларускім нацыянальна-культурным традыцыям, пра што яскрава сведчаць пераклад на беларускую мову польскіх вайсковых статутаў, выданне на ёй у 1920 г. зборніка “Падарунак беларускаму жаўнеру”. У беларускія вайсковыя часткі прымалі толькі асобаў беларускай нацыянальна-сці, прыхільнікаў палітычнай незалежнасці іх Бацькаўшчыны. Ад афіцэраў патрабавалася валоданне беларускай мовай, што не заўсёды знаходзіла пад-трымку з боку польскіх вайсковых кіраўнікоў. Тут нельга не пагадзіцца са слушным меркаваннем сучаснага беларускага гісторыка Станіслава Рудовіча: “… намаганні стварыць ва ўмовах акупацыйнага рэжыму беларускае войска не мелі сур’ёзных шанцаў на поспех. Польскія ўлады, дазволіўшы для прыкрыцця сваіх анексіяністцкіх планаў існаванне БВК, у сапраўднасці не жадалі стварэння ўзброеных адзінак, якія б надалі беларускай дзяржаўнасці рэальную сілу, таму фактычна пазбавілі камісію магчымасці ўплываць на іх фарміраванне”[2]. 15 мая 1921 г. стаў апошнім днём яе існавання.

Захады польскіх уладаў па мабілізацыі беларусаў у сваё войска, як нішто іншае, моцна непакоіла кіраўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі, бо ў такім выпадку ім даводзілася ваяваць за чужыя інтарэсы, забіваць брат брата. Пры тых экстрэмальных умовах вельмі цяжка было дамагчыся нават самага мізэрна-га поспеху ў фармаванні падуладнага БНР войска, хаця пэўныя захады ў гэтым плане заўжды рабіліся. Яно некалькі падужэла, як у яго склад быў прыняты 20 студзеня 1920 г. конны атрад Булак-

[1] ЭГБ. Т.1. С. 369.
[2] ЭГБ. Т.1. С.369.

Балаховіча ў колькасці 1200 чалавек. Палову афіцэраў і 75% салдат гэтага атрада складалі беларусы. У чэрвені таго ж года "атрады Булак-Балаховіча" (Беларуская група, або Беларуская Нацыяналь-ная Армія, каля 2 тыс. шабель) прымалі удзел у ваенных дзеяннях супраць Чырвонай Арміі на Палессі"[1]. Вяліся ж яны дзеля стварэння незалежнай бела-рускай дзяржавы, што асабліва выявілася падчас арганізаванага ў лістападзе 1920 г. Булак-Балаховіча з мэтай вызвалення захопленага Чырвонай Арміяй Палесся. Супольна з яго атрадамі ў гэтай акцыі ўдзельнічалі "партызанскія атрады "Зялёнага дуба" і вайсковыя атрады Беларускага палітычнага камітэта ў Варшаве на чале з П. Алексюком".

Пасля захопу Мазыра Булак-Балаховіч пачаў выдаваць з 12 лістапада "палітычныя акты і загады, накіраваныя на стварэнне незалежнай Беларускай дзяржавы, абвясціў сябе "начальнікам Беларускай дзяржавы" і праклямаваў незалежнасць Беларусі. 14 лістапада ён выдаў загад пра фарміраванне беларускай арміі з беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі. За тыдзень з добраахвотнікаў сфарміраваны Сялянскі партызанскі атрад і Хабненскі полк"[2]. З гэтых слоў добра вынікае, наколькі сур'ёзна Булак-Балаховіч быў заклапочаны стварэннем беларускага нацыянальнага войска з тым, каб забяспе-чыць сваёй Бацькаўшчыне неабходныя ўмовы для дасягнення палітычнай незалежнасці. І калі такое сталася непаддуладны яму, дык толькі па прычыне, што гэтаму супраціўляліся магутныя сілы, найперш Савецкая Расія.

Паступова ідэя беларускай дзяржаўнасці пачала пранікаць у сялянскае асяроддзе, куды ўлілося нямала нядаўніх вайскоўцаў. Іх нацыянальна-дзяржаў-ная свядомасць прыйшлася даспадобы і многім з тых, хто да гэта, ходзячы за плугам, зусім не задумваўся пра палітычную незалежнасць Бацькаўшчыны. Гэтым у значнай ступені можна патлумачыць даволі масавы актыўны ўдзел вяскоўцаў у паўстанцкіх выступленнях заснаванай увосень 1920 г. па ініцыятыве Беларус-кай вайсковай камісіі і Беларускага палітычнага камітэта ў Варшаве "Беларус-кай сялянскай партыі "Зялёнага дуба" (кіраўніцтва знаходзілася ў Лунінцы), у Слуцкім паўстанні 1920 г., пра што ўжо нам добра вядома з прац беларускіх даследчыкаў.

Удзел вайскоўцаў у беларускім нацыянальным Адраджэнні ў гады Першай сусветнай і Грамадзянскай войнаў – адна са знамянальных старонак у нашай айчыннай гісторыі. Рызыкуючы жыццём, яны не маглі не задумвацца над тым, па чыёй волі на іх

[1] ЭГБ. Т.2. С.121.
[2] Тамсама. С.122.

выпаў такі цяжкі лёс, і многія прыходзілі да правільнай высновы: па волі чужых палітычных рэжымаў, што пры ўласнай дзяржаве становішча магло б быць зусім іншым. Зведаныя падчас гэтых войнаў выпрабаванні, як нішто іншае, станоўча паўплывалі на рост нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці ў пакліканых на сусветную бойню людзей. Узбуджалі такую свядомасць і частыя сустрэчы з абяздоленымі, закінутымі ў чужыя, часам далёкія краі беларускімі ўцекачамі. Некаторыя з іх супроць уласнага жадання апынуліся за Уралам, у мала абжытых раёнах Сібіры. Салдат-беларус душой і сэрцам гарнуўся да свайго супляменніка незалежна ад таго, служыў з ім у адной вайсковай частцы ці выпадкова сустрэўся у месцах рассялення беларускіх уцекачоў. Пра многае гаварылася падчас сустрэч землякоў, але найчасцей пра надзённыя пытанні роднага краю, які спачатку пакутаваў ад нямецкіх, затым польскіх інтэрвентаў, не ўваходзіў у планы бальшавікоў па наданні яму, як многім іншым нацыянальным рэгіёнам былой Расійскай імперыі, права на палітычнае самакіраванне. Вось гэта акурат і з'яўлялася найчасцей за ўсё прадметам абмеркавання для людзей у вайсковай форме. У розных крыніцах засведчана, што яны мелі правільнае ўяўленне пра ролю палітычнага фактару ў справе беларускага нацыянальнага Адраджэння.

Усё гэта вельмі дапамагло пры стварэнні беларускага нацыянальнага войска. Каб у яго не было сур'ёзных праціўнікаў з боку вайсковай і цывільнай адміністрацыі кайзераўскай Германіі, Польскай дзяржавы, Савецкай Расіі, яно адыграла б непараўнальна большую ролю на тых пакручастых шляхах айчыннай гісторыі, бо у ім было каму служыць, прытым і па перакананні. Сказанае датычыць не толькі шараговых жаўнераў. У нас ствараўся і шчыра адданы Бацькаўшчыне, высокапрафесійны камандны склад, чым нельга не ганарыцца нам і сёння. Цвёрда ўваходзіла ў паўсядзённую практыку, каб, акрамя здольнасцяў да вайсковай службы, афіцэр беларускага войска валодаў яшчэ і высокімі нацыянальнымі якасцямі. У шэрагу месцаў пры запаўненні анкеты патрабавалі аб камандзіра адказаць і на пытанне “Адносіны да справы адраджэння Беларусі”. Сцяпан Доўнар, да прыкладу, так адказаў на яго (не пазней ліпеня 1920 г.): “Прыхільна. Толькі адроджаная Беларусь можа спадзявацца на чалавечае існаваньне, ня горшае, чымсьці маюць другія культурныя нацыі”. На пытанне “Адносіны да бальшавізму і матывы” даў наступны адказ: “Бальшавізм лічу ўтопіяй. Апрача сьлёз і крыві ён нічога людзям ня даў”. Да меркаванняў С. Доўнара

вельмі добра стасуюцца выказ-ванні і многіх іншых беларускіх афіцэраў.

Пры такім паважлівым, патрыятычным стаўленні да роднай Бацькаўшчыны і афіцэры, і жаўнеры беларускага войска здольныя былі на любы воінскі ўчынак дзеля яе абароны. Толькі шкада, што ім не раз даводзілася ваяваць і супраць сваіх братоў, што служылі ў чырвонаармейскіх вайсковых частках ці ў польскіх легіёнах. Віной жа ўсяму гэтаму была адсутнасць у беларусаў моцнай, сапраўд-най уласнай дзяржавы. Іх лёсам распараджаліся ў адпаведнасці са сваімі інтарэ-самі чужацкія палітычныя рэжымы. Пралітая па волі апошніх беларуская кроў не мела для іх аніякай каштоўнасці.

Высокае пачуццё адказнасці за лёс Бацькаўшчыны ў адзін з самых цяжкіх для яе часоў прычынілася да таго, што многія яе сыны добраахвотна мянялі цывільную вопратку на вайсковую. Не грэбавалі ёю нават інтэлектуалы, хаця іх праца таксама была вельмі запатрабаванай грамадствам, абуджаным нацыяналь-ным адраджэннем. Вышэй ужо не раз згадваўся мною прагрэсіўнага кірунку педагог, культурны дзеяч, збіральнік фальклору С. Рак-Міхайлоўскі. Але калі час патрабаваў ад яго стаць на абарону Радзімы, ён узначальвае створаную ў кастрычніку 1917 г. у Менску на з’ездзе воінаў-беларусаў Заходняга фронту Цэнтральную беларускую вайсковую раду. У склад рады ўваходзілі асобы, якія пакінулі адметны след у нашай гісторыі. Сярод іх заслугоўвае быць згаданым актыўны ўдзельнік нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, сябра партыі эсэраў Язэп Мамонька (1889-1937). Ён браў удзел у якасці дэлегата XII арміі ў працы III з’езда Беларускай сацыялістычнай грамады, з’яўляўся адным з арганізатараў і дэлегатаў Усебеларускага з’езда, сябрам Беларускай рады. Усё гэта вельмі дапамагло яму ў наладжванні працы Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, на шляху якой увесь час стаялі самыя неверагодныя цяжкасці і перашкоды. Ад ідэі нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту Я. Мамонька ні на крок не адступіў і пасля таго, як ЦБВР вымушана была спыніць сваё існаванне. Пасля удалых уцёкаў у красавіку 1921 г. з ссылкі ў г. Казані ён трапляе за мяжу і ў верасні таго ж года ўдзельнічае ў працы Пражскай канферэнцыі беларускіх палітычных арганізацый, на якой рэзка асуджаў палітыку тагачаснага ўрада Савецкай Беларусі. Я. Мамонька быў у ліку тых удзельнікаў Берлінскай канферэнцыі (кастрыч-нік 1925 г.), якія не пагадзіліся з роспускам урада Беларускай Народнай Рэспуб-лікі. Аднак і такія вопытныя палітыкі, як Я. Мамонька, не застрахаваныя ад сур’ёзных, згубных памылак: у верасні 1928 г. добраахвотна згадзіўся выехаць у

СССР, дзе яго ўжо ў студзені наступнага года прысуджаюць да 10 гадоў канцлагера, а ў верасні 1937 г. расстрэльваюць.

У арганізатараў, ідэолагаў беларускага нацыяльнага Адраджэння, найперш у кіраўніцтва БНР, ёсць і пэўная практыка ваенна-дыпламатычнай дзейнасці, чым не можа не займацца любая дзяржава, асабліва ў нялёгкія, складаныя для яе часы. Першым дыпламатычным прадстаўніцтвам БНР стала накіраваная ў вера-сні 1919 г. Вайскова-дыпламатычная місія БНР у Латвіі і Эстоніі. У яе абавязкі ўваходзілі консульская праца і арганізацыя беларускіх узброеных сіл на тэры-торыі Эстоніі. Узначальваў місію Канстанцін Езавітаў. "Па даручэнні ўрада БНР устанавіў дыпламатычныя адносіны з урадамі Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі, звяртаўся да ўрада ЗША з просьбай ад аказанні ваеннай дапамогі БНР, вёў работу па арганізацыі беларускага войска, пошуку сродкаў на яго ўзбраенне і ўтрыманне. Арганізаваў пераход атрада С.Н. Булак-Балахові-ча з арміі Юдзеніча на службу ўрада БНР"[1]. Місія ажыццяўляла палітычнае і арганізацыйнае кіраванне гэтым атрадам. Разам з іншымі заслугамі забеспячэнне К. Езавітавым паспяховай дзейнасці місіі паслужыла для ўрада БНР падставай прысвоіць яму ў маі 1920 г. званне генерал-маёра. Сваю дзейнасць місія спыніла 1 лютага 1921 г., што не абышлося без дыпламатычнага ўціску Савецкай Расіі на ўрад Латвіі, у сталіцы якой яна размяшчалася.

Унёсак людзей у салдацкіх шынелях у пранікненне беларускай нацыянальнай ідэі ў шырокія пласты грамадства ў гады Першай сусветнай і Грамадзянскай войнаў, рэвалюцыйных узрушэнняў такі велізарны, што калі ён не атрымлівае належнага адлюстравання ў творах навуковай, публіцыстычнай літаратуры, прысвечанай дадзенай праблеме, іх нельга прызнаць вартымі высокай адзнакі. Гэты выключнай важнасці аспект заслугоўваў куды больш поўнага асвятлення і на старонках даволі цікавай, багатай новымі фактамі аб'ёмістай калектыўнай працы "Нарыс гісторыі беларускай дзяржаўнасці. XX стагоддзе" (Мн., "Беларуская навука". 2008).

Характэрная таму часу папулярнасць у шырокіх колах грамадства самой ідэі беларускага нацыянальнага войска, ажыццёўленая праца па яго фармаванні і заслуга апошняга ў адстойванні інтарэсаў Бацькаўшчыны, а таксама прагрэсіў-ныя перамены ў палітыцы бальшавікоў па заканчэнні Першай сусветнай і Гра-мадзянскай войнаў давалі надзею, што гэта ідэя атрымае далейшы працяг ва ўмовах існавання БССР. І такое ў пэўнай ступені мела месца. Пішу "ў пэўнай ступені" таму, што

[1] ЭГБ. Т.3. С. 346.

савецкая Расія рабіла ўсё, каб пытанні абароны заваёваў Кастрычніцкай рэвалюцыі вырашаліся галоўным чынам у Маскве, а не ў саюзных рэспубліках. Асабліва рэльефна гэта абазначылася пасля ўтварэння ў снежні 1922 г. Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (СССР). Аднак, калі пад напорам нацыянальна-прагрэсіўных сіл саюзных рэспублік разгарнулася актыўная дзейнасць па адбудове свайго жыцця з улікам этнакультурных асаблі-васцяў іх тытульных народаў, гэта не магло не закрануць і вайсковай праблемы. Шырока практыкавалася пакідаць дапрызыўнікаў на вайсковай службе ў сваёй рэспубліцы, што дазваляла будаваць армейскае жыццё ў значнай ступені ў ад-паведнасці з яе гістарычнымі, нацыянальна-культурнымі традыцыямі. Таму калі ў адпаведнасці з прынятай у ліпені 1924 г. ЦВК БССР пастановай. Аб практыч-ных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі” быў узяты самой дзяржавай курс на беларусізацыю, яна ахапіла і раскватэраваныя на тэрыторыі БССР вайсковыя часткі. У шэрагу іх беларусізацыя ажыццяўлялася больш гладка, чым у многіх цывільных калектывах. Зразумела, вядомы і факты адкры-тага ці патаемнага супраціўлення ў войску беларусізацыі, паколькі ў ім служылі і асобы небеларускай нацыянальнасці, часта займаючы высокія камандныя пасады.

З улікам нацыянальнага інтарэсу нашага краю будавала сваю дзейнасць створаная ў 1924 г. Аб’яднаная беларуская вайсковая школа імя ЦВК БССР. Яна “камплектавалася курсантамі пераважна з карэннага насельніцтва (у 1931 г. да 83%). На беларускай мове выкладалася большасць дысцыплін (выдатны прыклад для сучасных вайсковых вучэльняў Рэспублікі Беларусь! – Л.Л.), выдавалася шматтыражная газета “Чырвоны сцяг”... спяваліся вайсковыя маршы. Начальнікі школы кіравалі Вайсковай камісіяй пры Інбелкульце, а потым Ваенна-тэрміналагічнай камісіяй пры Інстытуце мовазнаўства АН БССР, пад эгідай якіх выходзілі беларускія вайсковыя слоўнікі, статуты, дапаможнікі”[1]. Істотны адыход школы ад беларускага нацыянальнага жыцця адбыўся ў сувязі з пераўтварэннем у 1937 г. тэрытарыяльных фармаванняў у кадравыя. Да таго ж гэты год стаў самым “ураджайным” на масавыя фізічныя рэпрэсіі, якія ў най-большай ступені наваліліся на нацыянальную эліту БССР, у т.л. і вайсковую. Пасля рэпрэсій 1937-1938 гг. ужо ніколі больш не узнімалася пытанне пра беларускае нацыянальнае войска. Наадварот, рабілася ўсё, каб беларускія юнакі неслі службу ў чужых краях, а ў нас гэтай справай займаліся ўраджэнцы з іншых нацыянальных рэспублік.

[1] ЭГБ. Т.1. С.26.

Практычна для ўсіх нярускіх вайскоўцаў армейскае жыццё з'яўлялася адным з самых эфектыўных сродкаў іх русіфікацыі. Нават выхадцы з беларускай вёскі па заканчэнні вайсковай службы з вялікай цяжкасцю ўваходзілі ў сваё прыроднае моўнае рэчышча, доўгі час з'яўляліся галоўнымі носьбітамі беларуска-рускамоўнай "трасянкі".

Пры ўсёй няўдачы са стварэннем беларускага нацыянальнага войска, амаль поўнай адсутнасці інфармацыі пра яго ў савецкі час, памяць пра гэтыя гераіч-ныя старонкі ў нашай айчыннай гісторыі захоўвалася, перадавалася з пакалення ў пакаленне і не была страчана аж да распаду СССР. Таму, калі 27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Бела-рускай ССР, адразу ж пачалі рабіцца практычныя захады па перабудове вайско-вага жыцця на нацыянальнай аснове. Як вядома з розных крыніц, такая ідэя сталася вельмі да спадобы многім беларускім афіцэрам, што на момант абвя-шчэння іх краіны незалежнай дзяржавай працягвалі служыць па-за яе межамі. У гэтым добра пераканаўся і аўтар дадзеных радкоў падчас правядзення ў снежні 1992 г. у Мінску Першага сходу беларусаў блізкага замежжа, у працы якога бралі ўдзел і беларускія афіцэры з розных рэгіёнаў постсавецкай тэрыторыі, пераважна з Расійскай Федэрацыі. Прысутных у зале і здзіўляла, і радавала, што некаторыя з запрошаных на з'езд выступоўцаў у вайсковай форме карысталіся беларускай мовай. Не выключна, што ў той ці іншай ступені авалодаць ёю па-спрыяў факт абвяшчэння Беларусі незалежнай дзяржавай, бо ў такім палітыч-ным статуце алагічна не выкарыстоўваць мову тытульнага народа ў грамадскім жыцці. На такое могуць пайсці толькі безнадзейна хворыя на нацыянальны нігі-лізм асобы. У сваіх прамовах людзі ў пагонах выказвалі вялікую радасць, што іх краіна стала палітычна незалежнай, пераканаўча абгрунтоўвалі, як важна для яе мець ва ўсіх дачыненнях сапраўднае нацыянальнае войска.

З міністраў абароны РБ больш за ўсіх клапаціўся пра забеспячэнне такога статусу ўзброеным сілам краіны ўраджэнец в. Ваўкоўня Пружанскага раёна генерал-лейтэнант Павел Казлоўскі (красавік 1992-ліпень 1994 г.). Не страціўшы беларускай нацыянальнай самасвядомасці падчас службы на розных камандных пасадах у савецкай арміі, ён, заняўшы пасаду міністра абароны РБ, прыклаў нямала намаганняў па ўкараненні ў войску нацыянальнага духу, што знаходзіла неабходную падтрымку як ад афіцэрскага корпуса, так і шараговых вайскоўцаў. Спрэс назіралася іх паважлівае стаўленне да самай дарагой духоўнай

каштоў-насці Бацькаўшчыны – беларускай мовы. З вуснаў афіцэраў яе можна было пачуць часцей, чым ад многіх катэгорый цывільных службоўцаў альбо інтэлігенцыі, за выключэннем мастацкай і мо яшчэ педагагічнай.

Пасля вартага самай благой памяці майскага (1995 г.) моўнага рэферэндуму многія нашыя міністэрствы і ведамствы, прадпрыемствы і ўстановы ў адно імгненне здрадзілі роднаму слову і ў службовым справаводстве, візуальных мэтах сталі выкарыстоўваць толькі рускую мову. Амаль скрозь зніклі беларускамоўныя аб'явы і транспаранты на вуліцах гарадоў. Нібыта карова языком злізала беларускамоўныя назвы з вітрын і паліц прамтаварных і прадуктовых магазінаў. А вось на адзенні нашых салдат і афіцэраў беларуская мова прысутнічае і пасёння, што вельмі добра дапамагае адрозніць іх ад вайскоўцаў Расіі. Украіны ці якіх-небудзь іншых краін. Не ведаю, як на такое глядзяць іншыя, а мне вельмі прыемна хоць гэты штрышок беларускасці бачыць у нашым войску.

Менавіта такая акалічнасць і падштурхнула мяне заглянуць у больш раннія часы, дакладней у гады Першай сусветнай вайны, з тым каб прасачыць, як жа гэтая катэгорыя людзей тады ставілася да беларускай нацыянальнай ідэі. Не будзем забывацца, што менавіта ў час той сусветнай імперыялістычнай бойкі, калі Беларусь пераўтварылася ў эпіцэнтр ваенных дзеянняў, у яе самых слынных сыноў і дачок наспела думка аб аднаўленні і пабудове незалежнай, суверэннай Беларускай дзяржавы. Многімі разумелася, што дасягненне гэтай высакароднай мэты шмат у чым будзе залежыць ад таго, як успрымуць яе людзі, пастаўленыя пад ружжо, бо ніхто, як яны, маглі даць рашучы адпор тым, хто чакаў зручнага выпадку, каб замахнуцца на нацыянальныя інтарэсы нашага краю. Прыкладаў самаахвярнага змагання вайскоўцаў за іх дастаткова ў айчыннай гісторыі, пра што карысна ведаць тым, хто сёння служыць ва Узброеных сілах Рэспублікі Беларусь.

Недасканаласць сучаснай дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі самым адмоў-ным чынам уплывае і на вайсковае жыццё. У ім, як і ў грамадстве ў цэлым, не шануюць беларускіх гістарычных, нацыянальна-культурных традыцый. Усё службовае справаводства, камунікацыйныя сувязі ў войску, культурна-асветніцкая праца з асабовым складам, прызначаны для яго перыядычны друк не ведаюць ніякай іншай мовы, як толькі рускай. Таму ў вольны ад службовых заняткаў час вайскоўцы чытаюць не "Беларускую вайсковую газету", а "Бело-русскую военную газету", не часопіс "Армія", а "Армия" і выдадзены да яго ўвесну 2009 г. літаратурна-мастацкі дадатак не "Армія і культура",

а “Армия и культура”. Такое можна сказаць і пра ўсе адрасаваныя вайскоўцам статуты, інструкцыі і г.д. Толькі мовай нашай усходняй суседкі Расіі абслугоўваецца навучальна-выхаваўчы працэс ва ўсіх тыпах вайсковых навучальных устаноў Беларусі. У рэпертуарах мастацкай самадзейнасці рэдка можна адшукаць штосьці беларускае. Падчас вайсковых парадаў выконваюцца не ўласныя, а рускія маршы. І ўсё гэта вельмі лёгка растлумачыць: у культурна-моўным плане узброеныя сілы краіны не могуць жыць інакш, чым грамадства ў цэлым. Паколькі яму характэрны глыбінныя працэсы русіфікацыі, яны не абмінаюць і войска. Калі ўладныя структуры рашуча абмовяцца ад палітыкі русіфікацыі ўласнага народа, і для нацыянальнага будаўніцтва надыдуць спрыяльныя часы, да яго абавязкова далучацца і можа будуць адыгрываць найважнейшую ролю вайскоўцы, як гэта было ў надзвычай складаныя, цяжкія для беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння гады Першай сусветнай і Грамадзянскай войнаў. Важна толькі, каб сёння пра гэта ведалі, не забываліся тыя, хто на сваіх плячах носіць шынялі.

## §7. Беларускі адраджэнскі рух 1915-1920 гг. – залатая старонка ў айчынай гісторыі

Тагачасным змагарам беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння робіць вялікі гонар, што поспеху на гэтым гістарычным шляху яны ўмелі дамагацца не ў мірны, спакойны час, а ў экстрэмальных ўмовах вайны, усіх відаў замежнай інтэрвенцыі, у крайне цяжкім матэрыяльным становішчы народа, калі ў дзяржавы амаль пустой была казна. Пра фінансавы стан урада БНР, калі ён вымушаны быў пакінуць тэрыторыю Беларусі і працаваў спачатку ў Рызе, а затым у Коўне, можна меркаваць паводле яго звароту ад 22 кастрыч-ніка 1920 г. да пана дыктатара Усходне-Галіцкай рэспублікі з просьбай аб дапа-мозе. У ім паведамлялася: “Мы, Беларускі Ўрад, перажываем такі страшэнны перыяд, што перад намі паўстае пытаньне аб часовым спыненьні працы. За адсутнасьцю ўсякіх грошай Урад ня можа ня толькі весці аружную барацьбу за сваю ўладу, прапаганду і ўтрымліваць патрэбную сувязь з месцамі, **але ня можа нават утрымаць сябе самога**. Калі на працягу бліжэйшага часу ня будуць знойдзены патрэбныя сумы, – усе сябры Ўраду і Прэзыдыуму Рады Рэспублікі павінны будуць на неазначаны час разьехацца”[1].

[1] Цытавана па газеце “Звязда”. 1930. 31 снежня.

Усё сказанае вышэй дае дастаткова падстаў сцвярджаць, што беларускі нацыянальна-культурны рух меў тэндэнцыю да пашырэння ў той час, калі на нашай зямлі вяліся кровапралітныя баі паміж самымі магутнымі дзяржавамі ў свеце, рабіліся зусім недэмакратычныя і негуманныя крокі па рэвалюцыйным пераўтварэнні асноў усяго жыцця, чыніўся яе падзел на карысць дзвюх суседніх славянскіх краін. Вельмі пахвальна, што галоўная ўмова выратавання, адраджэння беларускага народа самымі лепшымі яго сынамі і дочкамі бачылася ў стварэнні сваёй уласнай дзяржавы, якой ён гэткі доўгі час быў пазбаўлены і ў выніку чаго прыйшоў да такога гаротнага стану. Само сабой зразумела, паколькі наш народ цэлымі стагоддзямі не быў гаспадаром ва ўласнай хаце, у абсалютнай бальшыні жыхарства на крайне нізкім узроўні знаходзілася нацыянальна-дзяржаўная свядомасць. Часта ў гэтым плане не выдзяляліся з лепшага боку і самыя адукаваныя людзі. Таму і на дадзеным этапе, як гэта назіралася раней, мелі месца факты, калі беларускія грамадска-палітычныя і культурныя дзеячы, што вельмі дбалі пра адраджэнне культуры і мовы роднага краю, не ў патрэбнай ступені разумелі, якое гістарычнае значэнне для яго можа ўяўляць дзяржаўны суверэнітэт.

Як станоўчае трэба адзначыць, што да нацыянальнай ідэі беларусы імкнуліся ісці ўсёй грамадой, нягледзячы на свае сацыяльна-класавыя і рэлігійныя адроз-ненні. Там жа, дзе яны ставіліся вышэй за нацыянальны інтарэс, не дасягалася жаданага эфекту. Ніколі не назіралася выпадкаў, каб беларусы, дамагаючыся свайго адраджэння, парушалі інтарэсы тых, хто выбраў іх краіну ў якасці сваёй другой радзімы.

Ідучы па ўхабістым, пакручастым шляху беларускага нацыянальнага Адра-джэння, яго шчырыя і актыўныя прыхільнікі разам з перамогамі не змаглі ўхіліцца і ад вялікіх чалавечых ахвяр. Прычым у змаганні за гэтую святую справу часта гінулі людзі ў самым маладым узросце. Найбольш вялікая страта ў шэрагах беларускіх адраджэнцаў – гэта гібель на фронце ў ліпені 1915 г. мала-дога таленавітага пісьменніка, апантанага нацыянальнай ідэяй Л. Гмырака (нарадз. у 1891 г.). У маі 1917 г. на 26-м годзе заканчваецца жыццёвы шлях дру-гога волата беларускага Адраджэння, пісьменніка М. Багдановіча. Нешчаслі-вым для нацыянальна-культурнага руху быў і наступны, 1918 год. 20 мая, як пісала газета "Беларускі шлях" (24.V.18), "пайшоў да Бога адзін з найстарэй-шых піянэраў беларускага адраджэння, пісьменнік Каганец". Ён з'яўляўся актыўным дзеячом Беларускай сацыялістычнай грамады, "пісаў граматыку беларускай мовы ў той час, калі яшчэ беларускі друк ні быў афіцыяльна пазволены…

К. Каганец меў вялікі ўплыў на ўсіх маладых беларускіх пісьменнікаў сваім бязмежным каханнем роднага краю, роднай мовы. Ён лічыцца духоўным баць-кам усіх працаўнікоў беларускага руху.

Беларусь цяпер мае вялікую страту. Беларусь у жалобі ...”

У гэты ж дзень, 20 мая 1918 г., у 24-гадовым узросце памёр у засценку Він-цэнтава Крайскай воласці Вілейскага павета Альфонс Петрашкевіч (літаратур-ныя псеўданімы Ф. Калінка, Красоўскі). “Паэзія яго, – паведамлялася ў газеце “Беларускі шлях” (28.V.18), – шчырая, простая, пісанная мазольнаю рукою маладога селяніна-хлебароба. Гэта – скромны салоўка беларускіх зялёных далін, кволага бярэзьніка ля рэчкі.

(...) Калінка па ўсёй сваёй ваколіцы шырыў беларускае друкаванае слова і беларускую ідэю”. Шкада толькі, што такі кароткі час.

У жніўні 1919 г. смерць напаткала вядомага грамадска-палітычнага дзеяча, археолага і этнографа Івана Луцкевіча (нарадз. у 1881 г.), у ліпені 1920 г. – пісьменніка Алеся Гаруна (нарадз. у 1887 г.). Іх заўчасны ўход з жыцця – адна з самых трагічных старонак у летапісу беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Але паступальнаму ходу яго ўжо нішто не магло перашкодзіць. Цяпер яму даводзілася крочыць наперад у вельмі цяжкіх і неспрыяльных умовах, паколькі пераважная частка этнічнай тэрыторыі Беларусі належала Савецкай Расіі і Польшчы. Гэтыя дзве дзяржавы пакінулі за Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай толькі тэрыторыю былой Мінскай губерні. У яе межах толькі і магло ладзіцца – але далёка не на трывалых асновах дзяржаўнага суверэнітэту – нацыянальна-культурнае жыццё паўтарамільённай колькасці беларусаў. Пераважная ж бальшыня іх, апынуўшыся пад уладай іншых дзяржаў, практычна выпала з-пад нацыянальна-адраджэнскага працэсу.

## РАЗДЗЕЛ IV **НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЕ АДРАДЖЭННЕ Ў МІЖВАЕННАЙ БССР**

### §1. Нацыянальны рух у кантэксце савецкай палітыкі

У праграмных дакументах бальшавіцкай партыі па нацыянальным пытанні шмат чаго было разумнага, што пры адпаведнай дзяржаўнай палітыцы магло б прывесці да буйных карэнных перамен у эканамічным, палітычным і культур-ным жыцці раней прыгнечаных народаў Расійскай імперыі. І ў многіх нацыя-нальных рэгіёнах нешта падобнае назіралася ўжо ў першыя гады пасля рэвалюцыйнага перавароту ў кастрычніку 1917 г. Шкада толькі, што не ў Бела-русі, карэннае насельніцтва якой ніяк не жадалі прызнаць за самабытны этнас і бальшавіцкія ўлады. Іх нацыянальна-культурная палітыка на тэрыторыі Белару-сі нічым не адрознівалася ад таго, што рабілася ў гэтай сферы ў Расійскай Федэрацыі. У такіх неспрыяльных умовах зусім не проста было ажыццяўляць адраджэнскага характару працу апантаным нацыянальнай ідэяй людзям. А пра-водзіць яе трэба было, каб у народзе спеліць, шырыць думку пра яго этнакуль-турную самабытнасць, фармаваць жаданне будаваць свой нацыянальны дом паводле ўласных, а не чужых культурна-моўных стандартаў. І неўзабаве пэўныя магчымасці для такой лёсавызначальнай стваральнай дзейнасці з'явіліся.

Абвяшчэнне 1 студзеня 1919 г. Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэс-публікі (БССР) сталася важнай падзеяй у гісторыі беларускага народа. Нарэшце і яго прызнала Масква ў якасці самабытнай этнічнай супольнасці, даўшы права будаваць сваё жыццё ў адпаведнасці з гістарычнымі, нацыянальна-культурнымі традыцыямі. У моц розных унутраных і знадворных прычын ладзіць яго да-водзілася надзвычай цяжка і складана, але станоўчыя зрухі на гэтым шляху былі, што натхняла народ да нястомнай стваральнай працы. Істотна дапамагалі пазітыўныя набыткі папярэдніх гадоў у нацыянальна-культурным адраджэнні, асабліва на занятай кайзераўскімі войскамі тэрыторыі. Многія беларусы ў сваім духоўным жыцці пачалі свядома пераходзіць ад навязаных гвалтам, падманам рускіх, польскіх да ўласных стандартаў, жадаючы забяспечыць сабе так важную ва ўсіх варунках самабытнасць, арыгінальнасць, адрознасць ад іншых народаў, у т.л. суседніх, славянскіх.

Як станоўчае можна адзначыць, што правільнае ўсведамленне ролі культуры ў нацыянальным адраджэнні не дазволіла распаўсюдзіцца на Беларусі такой непажаданай з'явы,

як “Пралеткульт” з яго адмоўным стаўленнем да духоўных набыткаў папярэдніх кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. эпох. “Пралеткульт” быў створаны ўпершыню ў 1917 г. у Петраградзе як літаратурна-мастацкая арганізацыя пралетарскай самадзейнасці ў розных галінах культуры, мастацтва і літаратуры. “Пралеткульт” выдаваў уласныя часопісы, у т.л. два на Беларусі: “Искусство” (Віцебск, 1921), “Коммунистическое просвещение” (Гомель, 1920-1921). Самай адмоўнай з'явай “Пралеткульта” і яго структурных арганізацый трэба лічыць поўную адмову іх кіраўнікоў і ідэолагаў ад культурнай спадчыны мінулага, што разыходзілася нават з устаноўкамі РКП(б) па дадзеным пытанні. Як вядома, пэўны час нават і рускі паэт Уладзімір Маякоўскі падтрымліваў пралеткультаўскі заклік “скінуць Пушкіна з карабля сучаснасці”. На заранку савецкай улады мала хто на Беларусі сувымераў свае дачыненні да яе духоўнай спадчыны з вельмі папулярнымі ў рускіх вершаванымі радкамі “Отречемся от старого мира, отряхнем его прах с наших ног”. Наадварот, стараліся ад старога свету ўзяць і паставіць на службу нацыянальнаму інтарэсу ўсё, што толькі захавалася.

Крытычнае стаўленне да ідэй “Пралеткульта” было характэрным для самых высокіх палітыкаў, а таксама многіх прадстаўнікоў інтэлігенцыі Беларусі, на што у іх меліся сур'ёзныя прычыны. Гэта – моцнае збядненне духоўнай спадчыны беларускага народа ў выніку працяглага ажыццяўлення вельмі шкоднай для яго дзяржаўнай палітыкі паланізацыі і русіфікацыі; сістэматычнае разрабаванне і вываз духоўных каштоўнасцяў Беларусі польскімі і расейскімі ўладамі ў свае краіны; вялікія страты такіх каштоўнасцяў у выніку Першай сусветнай вайны (разбурэнне ўстаноў культуры падчас баёў, свядомае знішчэнне, вываз іх у тыл Расіі, а таксама ў кайзераўскую Германію). Таму ўсё з уцалелых культурных каштоўнасцяў высока цанілася не толькі прагрэсіў-нымі коламі грамадства, але і самімі ўладнымі структурамі. Для Беларусі прыйшоў даўночаканы час, калі і апошнія сталі дбаць пра яе нацыянальную культуру, што належным чынам сустрэла, падтрымала грамадства. У дадатак да раней створаных устаноў культуры засноўваюцца новыя, павышаецца мастацкі ўзровень дзейнасці іх калектываў. Многіх цешыла паўсюдная актывізацыя культурнага жыцця ў сельскай мясцовасці з яе багатымі, нягледзячы на шматгадовую паланізацыю і русіфікацыю, нацыянальнымі традыцыямі.

Для нацыянальнай беларускай культуры адкрываліся шырокія перспектывы дзякуючы таму, што яе ўзбагачэнню жадалі дарэшты аддаваць свой талент і творцы, якіх ахвотна маглі б

залучыць у свае шэрагі іх калегі больш развітых, распаўсюджаных у СССР культур, асабліва рускай. І калі таленавітыя ў тым ці іншым відзе мастацтва беларусы апрацоўвалі сваю родную ніву, дык гэта можна патлумачыць нічым іншым, як толькі глыбокім жаданнем іх да канца служыць уласнаму народу, не даць яму занядбаць духоўна, агарадзіць бацькоў-скую зямлю ад запанавання на ёй чужых культур, што заўжды мае вынікам, асіміляцыю карэннага насельніцтва. На шчасце беларусаў, такой здаровай нацыянальнай самасвядомасці людзей культуры і мастацтва ў іх мелася нямала на заранку існавання БССР, прычым і ў такіх сферах, якія раней тут не вызнача-ліся высокім узроўнем развіцця.

Добрую справу дзеля нацыянальнай культуры рабіў Мікола Равенскі. У па-чатку 20-х гадоў, працуючы кіраўніком хору ў Беларускім рабочым клубе г. Менска, ён напісаў першыя кампазіцыі – песні на вершы Максіма Багдановіча ("Не кувай ты, шэрая зязюля", "Завіруха", "Слуцкія ткачыхі"), Канстанцыі Буйло ("Люблю наш край", "Каб я крылле мела", "Я шукала"), уступ па паэмы "Га-пон" В. Дуніна-Марцінкевіча, песьню "Ах ты, Нёман-рака" на словы Цішкі Га-ротнага, выканаў гарманізацыю мелодый, якія не належалі яму: "Чаму ж мне не пець", "Адвеку мы спалі". У 1922 г. у Менску выйшаў з друку яго "Зборнік песьняў з нотамі"[1].

Адметны след у культурным развіцці яшчэ зусім маладой БССР пакінуў харавы дырыжор, кампазітар, фальклярыст Уладзімір Тэраўскі (Цераўскі), хаця савецкая ўлада заўжды з вялікай падазронасцю ставілася да яго. На трэцім годзе існавання БССР гэтага таленавітага, дазвання ўлюбёнага ў Бацькаўшчыну ча-лавека арыштоўваюць і прысуджаюць да расстрэлу. Выратаваў ад такой жорст-кай і несправядлівай расправы шчаслівы выпадак. У 1923 г. на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы ў Маскве планавалася выступленне калектыву Беларускага дзяржаўнага тэатра – БДТ-1 з горада Менска. Акрамя У.Тэраўскага, ніхто не мог належным чынам падрыхтаваць гэты калектыў для такой адказнай паездкі ў сталіцу СССР. Давялося выпусціць на волю аднаго з самых першых на Беларусі "ворагаў народа". У 20-я гг. ён кіраваў харавымі калектывамі пры Беларускім дзяржаўным універсітэце, Менскім педагагічным тэхнікуме, прафе-сійным саюзе паштавікоў-тэлеграфістаў. "Найбольшую вядомасць і прызнанне атрымала яго музыка да спектакля "На Купалле" М. Чарота (1921), якую кры-тыкі прызнавалі за першую нацыянальную оперу". У. Тэраўскі з'яўляўся аўта-рам шматлікіх песень і рамансаў на словы Я. Купалы, Я.

[1] Ян Максімюк. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945-1950. Нью-Ёрк – Беласток. 1994. С. 159, 160.

Коласа, З. Бядулі, М. Чарота і інш. Шмат запісаў і гарманізаваў народных песень, частка якіх апублікавана ў зборніках "Беларускі слоўнік з нотамі на тры галасы паводле народных мелодый" (1921), "Беларускі лірнік" (1922)"[1].

Самай адметнай і жаданай з'явай для духоўнага развіцця БССР сталі клопа-ты дзяржаўных органаў пра яе нацыянальную мову, наяўнасць якой у прыродзе ніяк не хацелі прызнаць і не прызналі аж да свайго скону царскія ўлады. Цяпер яна стала аб'ектам дзяржаўнага кіравання, што менавіта і забяспечыла яе і выратаванне, і паступовы, плаўны ўваход ва ўсе сферы дзейнасці чалавека, асабліва ў культурны працэс. Усяму ж гэтаму папярэднічаў магутны рух народа за сваё выратаванне ад любых формаў асіміляцыі і найперш – русіфікацыі. Ён яшчэ больш актывізаваўся пасля ўтварэння БССР. Не ўзнікае сумнення, што толькі пад уплывам вялікага жадання, актыўнага ўдзелу саміх людзей у адбудове свайго нацыянальна-культурнага жыцця не маглі заставацца ў баку і савецкія, партыйныя органы БССР. У першай палове 20-х гадоў практычна на кожным з усебеларускіх з'ездаў саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, канферэнцыях камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі (слова "з'езды" тады ў рэспубліцы яшчэ не ўжывалася) ішла сур'ёзная прадметная гаворка пра ход развязвання надзвычай складанага нацыянальнага пытання. Прычым найбольш за ўсё пад час правядзення савецкімі і партыйнымі органамі з'ездаў і канферэнцый гаварылася пра шляхі распаўсюджвання беларускай мовы ў грамадскім жыцці, бо яны выдатна разумелі, што без забеспячэння ёй тут прэстыжнага, панавальнага месца немагчыма будзе і кроку зрабіць наперад па шляху нацыянальна-культурнага адраджэння Бацькаўшчыны.

Практычна пакуль што нічога адметнага не назіралася ў адбудове духоўнага жыцця беларусаў на нацыянальнай аснове Віцебскай, Магілёўскай губерняў і іншых тэрыторый іх рассялення, што знаходзіліся ў складзе Расійскай Федэра-цыі. Савецкая ўлада гэтай этнічнай тэрыторыі Беларусі не прызнавала яе карэн-нае насельніцтва за самабытны народ і амаль зусім не ўлічвала яго нацыяналь-ных інтарэсаў у такой важнай сферы, як культура. У цэлым жа ў ім, не беручы пад увагу нацыянальны фактар, было нямала чаго пазітыўнага ў першыя гады мірнага будаўніцтва, галоўным чынам у такіх параўнальна буйных гарадах, як Віцебск, Гомель, Магілёў. Актывізацыі мастацкага жыцця ў Віцебску не ў ма-лой ступені пасадзейнічаў прыезд сюды паводле загаду Наркамасветы РСФСР ужо добра вядомага на той час майстра

[1] ЭГБ. Т. 6. Кн.1. Мн., 2001. С. 558.

пэндзля Марка Шагала, які заняў пасаду ўпаўнаважанага па справах мастацтва Віцебскай губерні. Працаваў у гэтым горадзе ў 1918-1922 гг. выкладчыкам народнай мастацкай школы і таленавіты мастак, заснавальнік адной з разнавіднасцяў абстрактнага мастацтва – супрэ-матызму (ад лацінскага – вышэйшы) Казімір Малевіч (1878, Кіеў – 1935). Пазней, у 1923 г., у гэтым горадзе быў заснаваны Віцебскі мастацка-практычны інстытут, рэктарам якога з'яўляўся І. Гаўрыс, а прарэктарам – настаўнік М. Шагала Юдэль Пэн. Яго праграма прадугледжвала падрыхтоўку моладзі на званне вольнага мастака, графіка, скульптара. Навучаліся тут таксама на інструктара музея, выкладчыка тэхнікума. З-за адсутнасці фінансавых сродкаў інстытут не паспеў зрабіць ніводнага выпуску.

Наступны, 1924 год, паклаў пачатак існавання Віцебскага мастацкага тэхнікума, кіраўніком якога з'яўляўся М. Керзін. Вучобу ў тэхнікуме не ўдалося паставіць на належны ўзровень, вучням давалі ў асноўным толькі фармальныя веды ў галіне жывапісу, лепкі, малявання кампазіцыі. Неўзабаве гэтую мастацкую навучальную ўстанову пакінулі такія выдатныя спецыялісты і выкладчыкі, як Ю. Пэн, С. Юдовін, Я. Мінін[1]. Пералічаныя вышэй навучальныя ўстановы культурнага профілю зусім не працавалі на беларускі нацыянальны інтарэс, хаця зацікаўленасць да яго год ад году павышалася ў жыхароў Віцебска, асабліва творчай інтэлігенцыі.

Росту такой зацікаўленасці, прычым не толькі на Віцебшчыне, а і на ўсёй беларускай этнічнай тэрыторыі Расійскай федэрацыі паспрыялі практычныя захады ўрада БССР у галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Праводзі-ліся яны так вынікова, што проста не маглі не выклікаць вялікага жадання ўзяць ўдзел у ім і ў карэннага насельніцтва Віцебскай, Магілёўскай губерняў Расій-скай Федэрацыі, а таксама і ў іншых яе адміністрацыйных адзінках з пераваж-най колькаснай бальшынёю беларускага жыхарства. Са згоды саюзнага ўрада іх далучэнне да БССР адбылося ў 1924 і 1926 гг.

Пазітыўныя зрухі БССР у развіцці культуры на яе прыродным нацыяналь-ным грунце прычыніліся да таго, што паспрыяць гэтаму ўсяк жадалі і выхадцы нашага краю, што па розных прычынах вымушаны былі жыць па-за яго межамі. А такіх людзей далі нямала войны і рэвалюцыйныя падзеі 1917 г. У мірны ж час многія, асабліва моладзь, пакідалі Бацькаўшчыну ў мэтах атрымання жаданай адукацыі, паколькі на месцах не існавала для гэтага адпаведных умоваў. Для сапраўдных нацыянальных

[1] Налівайка Людміла. Педагог-патрыёт. – Голас Радзімы. 1998. 8 студзеня.

патрыётаў адрыў ад радзімы ніколі не з'яўляецца падставай забыцца на яе карэнныя інтарэсы, і асабліва тады, калі яны зведвалі патрэбу ў падтрымцы. Прыкладаў такога роду багата ў нашай гісторыі. Вось адзін з іх. У пачатку 20-х гг. падаўся на вучобу ў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Брусава ў Маскве ўраджэнец Вілейшчыны Уладзімір Дубоўка, маючы на гэты час толькі нязначныя набыткі на ніве прыгожага пісьменства. Рускамоўная Масква не адарвала яго ад родных каранёў. У гэтым горадзе ён фармуецца як беларускі пісьменнік, піша мастацкія творы, прысвечаныя розным пытанням нялёгкага жыцця Заходняй Беларусі пад уладай Другой Рэчы Паспалітай. Найбольш вядомыя з такога жанру творы паэмы "Студэнт", "Плач навальніцы", а таксама шэраг вершаў.

З узбуйненнем тэрыторыі БССР зусім заканамерна паўстала пытанне пра неабходнасць яшчэ больш актыўнага ўдзелу дзяржаўнага апарату, партыйных органаў у нацыянальным будаўніцтве. Калі ў межах БССР да першага ўзбуй-нення ўвесну 1924 г. ужо былі даволі заўважнымі ў гэтым дасягненні, дык на далучанай тэрыторыі жыццё працякала ў асноўным у рускім нацыянальна-куль-турным рэчышчы. Падобная дваістаць стрымлівала нацыянальную кансаліда-цыю беларускага народа на сацыялістычным грунце і патрабавала тэрміновага правядзення на дзяржаўным узроўні адпаведных захадаў па ўхіленні такой сітуацыі. Самым важным з іх ёсць усе падставы лічыць прынятую 15 ліпеня 1924 г. на другой сесіі Цэнтральнага выканаўчага камітэта (ЦВК) БССР паста-нову "Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі". Гэтым дакументам быў пакладзены пачатак дзяржаўнай палітыкі беларусіза-цыі[1], якая адыграла вялікую ролю ў нашым нацыянальна-культурным Адраджэнні, хаця і праводзілася па ўказцы, пад кантролем Маскоўскага крамля.

Сама назва "беларусізацыя" ўжо раскрывае сэнс гэтага тэрміна: неабход-насць зрабіць жыццё ў БССР і па змесце, і па форме беларускім. Не па віне самога народа яно не адпавядала такім стандартам, чаму на працягу доўгага часу перашкаджала мэтанакіраваная на гэтай тэрыторыі царскай імперыі дзяржаўная русіфікатарская палітыка, якой усяк садзейнічала Руская праваслаў-ная царква. З утварэннем БССР такая палітыка яўна супярэчыла самой пры-родзе гэтага нацыянальна-дзяржаўнага фармавання. Яно ж менавіта таму і з'явілася на гістарычнай

---

[1] Упершыню на тэрмін "беларусізацыя" аўтару ўдалося натрапіць, знаёмячыся з тэкстам складзенага ў канцы лета 1917 г. Праекта платформы беларусаў-аўтанамістаў, адзін з пунктаў якога меў назву "Паступовая бела-русізацыя школы".

арэне, каб забяспечыць беларусам разам з усім іншым яшчэ і неабходныя ўмовы для прыстойнага самабытнага этнакультурнага жыцця на ўласным, а не чужым, як было за царскай Расіяй, падмурку.

У першую чаргу такое жыццё беларускаму народу забяспечвалася праз увядзенне яго роднай мовы ва ўсе сферы грамадскай дзейнасці чалавека: у службовае справаводства, адукацыю, навуку, культуру, выдавецтвы, перыядыч-ны друк, радыё і г.д., дзе да гэта па-за ўсякай канкурэнцыі панавала руская мова. Бальшыня грамадзян з належным разуменнем успрыняла такую моўную трансфармацыю, паколькі і ў зменenай сітуацыі знайшлося месца для выкарыс-тання ў грамадскім жыцці не толькі рускай, але яшчэ і яўрэйскай, і польскай мовам, як самым распаўсюджаным у БССР. Недапушчэнню якіх-небудзь канфліктаў на моўнай глебе садзейнічала сістэматычнае правядзенне ў калекты-вах прадуманай, узважанай растлумачальнай працы пра неабходнасць забеспя-чэння прыярытэтнай ролі роднай мове тытульнай нацыі на яе гістарычнай тэрыторыі, што ўжо даўно ўвайшло ў практыку ўсіх цывілізаваных краін свету і таму павінна стаць непахісным правілам і для БССР.

На час абвяшчэння беларусізацыі дзяржаўнай палітыкай у беларускай мовы, па вядомых прычынах, меўся вельмі бедны досвед абслугоўвання ўсіх сфераў грамадскага жыцця. Шмат праблемаў існавала з унармаваннем правапісу мовы тытульнага народа, што стварала вялікія цяжкасці на шляху фактычнага забеспячэння ёй статусу першай, галоўнай дзяржаўнай мовы ў рэспубліцы. Пошукі выйсця з такога складанага становішча ўзяла на сябе найперш гуманітарная інтэлігенцыя, чаму не толькі не перашкаджалі, а, наадварот, усяляк спрыялі ўлады. З іх дазволу ў лістападзе 1926 г. у Менску па ініцыятыве Інстытута беларускай культуры ладзілася акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу. Выказаныя на ёй слушныя меркаванні, прапановы адыгралі важную ролю ў развіцці, унармаванні беларускай мовы, дапамаглі ліквідаваць разнабой у напісанні многіх слоў, а галоўнае былі скіраваныя на вызваленне ад навязаных ёй у выніку паланізатарскай і русіфікатарскай палітыкі ўплываў, найперш лексічнага характару. У абарону чысціні і сама-бытнасці беларускай мовы выступалі на канферэнцыі і пасля яе самыя вядомыя ў рэспубліцы навукоўцы-філолагі, майстры мастацкага слова, педагогі. Іх клопаты сталіся зусім не марнымі.

Беларуская мова, яшчэ толькі збольшага ачышчаная ад ўсяго чужога і неўласцівага ёй, станавілася больш прыгожай і мілагучнай, паспяхова спраўлялася з ускладзенымі на яе

функцыямі па абслугоўванні грамадскага жыцця, нязмушана гучала з вуснаў самых адукаваных інтэлігентаў, высокіх дзяржаўных асобаў, партыйных і грамадскіх дзеячоў. Не ўяўляла сабою аніякіх цяжкасцяў і нязручнасцяў чытаць на беларускай мове лекцыі па самых розных прадметах для студэнтаў вышэйшых навучальных установ. Грамадскае жыццё ў Беларусі паводле ўсіх сваіх параметраў набывала выразны нацыянальна-беларускі характар, чаго не назіралася такі працяглы час, калі яе народ знаходзіўся пад уладай чужынскіх палітычных рэжымаў.

Глыбінныя перамены ў нацыянальным жыцці самым станоўчым чынам адбіваліся не толькі на культурным развіцці, умацаванні ў ім самабытнага пачатку, але і на стаўленні людзей да ўсяго свайго. І нішто не карысталася ў іх такой вялікай павагай, як мастацкая літаратура, адукацыя на роднай мове. Ні ў палітыкаў, ні ў народа не існавала сумнення ў рэальнасці паспяховага беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, за што так самаахвярна змагаліся – і недарэмна! – многія пакаленні. І хаця за царскім часам ніводзін народ Расійскай імперыі не быў так моцна зрусіфікаваны, як беларусы, у канцы 20-х гадоў БССР па адбудове жыцця тытульнай нацыі на яе прыродным грунце знаходзілася ўжо на ўзроўні астатніх саюзных рэспублік СССР.

Нацыянальна-патрыятычныя колы ўмела, буйнамаштабна выкарыстоўвалі патэнцыял дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі для вяртання народу гістарычнай памяці. Як вядома, усе народы любяць ганарыцца старажытнасцю свайго паходжання, таму шмат увагі надаюць глыбокаму, грунтоўнаму вывучэнню мінуўшчыны. У беларусаў, не па іх віне, тут быў непачаты край працы. І яна даволі паспяхова вялася, найперш дзякуючы актыўнаму ўдзелу ў ёй Мітрафана Доўнар-Запольскага, Усевалода Ігнатоўскага. Ужо да 1925 г. на рахунку апош-няга былі такія каштоўныя даследаванні, як “Кароткі нарыс гісторыі Беларусі”, “Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі”, “Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецця”.

Як толькі маглі, абуджалі гістарычную памяць беларускага народа пісьмен-нікі, літаратуразнаўцы, філолагі. З перакладаў “Слова пра паход Ігара” Янкі Купалы і Максіма Гарэцкага на беларускую мову чытач даведаўся, што многія з апісаных ў названай паэме падзей адбываліся на яго зямлі. Публікацыяй В. Мачульскага “Да пытаньня аб беларускім элеменце ў “Слове аб палку Ігара-вым” (“Запіскі Аддзелу гуманітарных навук”. Т. II, 1929 г.) даволі пераканаўча даводзілася, што і самога аўтара паэмы можна прызнаць за ўраджэнца бела-рускай этнічнай тэрыторыі, больш дакладна – паўночна-заходняй часткі Чарні-гаўшчыны,

сярод насельніцтва якой колькасна пераважалі беларусы, т.н. севяране. В. Мачульскі прывёў цікавы лінгвістычны матэрыял пра падабенства больш ранняй і сучаснай вуснай творчасці жыхароў гэтай часткі Чарнігаў-шчыны да мовы “Слова”.

Ролю гістарычнай тэматыкі ў нацыянальным аздараўленні народа выдатна разумелі, а таму ахвотна працавалі над ёй мастакі, скульптары і іншыя прад-стаўнікі творчай інтэлігенцыі. На свой рахунак яны занеслі нямала таго, што садзейнічала вяртанню гістарычнай памяці беларускаму народу.

На далучэнне людзей да свайго мінулага самым пазітыўным чынам уплывала краязнаўства, якое мела пэўныя набыткі яшчэ да надання палітыцы беларусіза-цыі дзяржаўнага статусу. Цяпер дадзены від народнай творчасці набыў прын-цыпова новыя рысы, чым як гэта было раней, да кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. У той час не раз здаралася, што не толькі навуковымі, але і краязнаў-чымі даследаванні ў нас займаліся не прадстаўнікі мясцовага насельніцтва, а людзі прышлыя, чужыя для нашага краю, маючы пэўную палітычную ўстаноўку. Таму і пісалі не заўсёды аб’ектыўна, нахабна фальсіфікавалі падзеі і факты. Гэтыя скажэнні яшчэ і сёння да канцы не пераадолены, хаця навукоўцы-гісторыкі разам са сваімі малодшымі братамі краязнаўцамі і шмат зрабілі дзеля праўдзівага асвятлення мінулага роднай Бацькаўшчыны.

З’яўленне ў беларусаў сваёй, хаця і шмат у чым абмежаванай, дзяржаўнасці дазволіла параўнальна хутка паставіць краязнаўства на бездакорную службу нацыянальнаму інтарэсу, нягледзячы на тое, што гэта падабалася далёка не ўсім савецкім і партыйным дзеячам. Справы істотна палепшыліся пасля ўтварэння у снежні 1922 г. на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР Інстытута беларускай культуры (Інбелкульт), які ў 1929 г. быў пераўтвораны ў Беларускую акадэмію навук. Сярод яго першых супрацоўнікаў былі ўжо добра вядомыя на той час пісьменнікі Якуб Колас і Янка Купала. У першыя гады існавання Інтелкульта працавалі толькі секцыі: гуманітарная (складалася са слоўнікавай, тэрміналагічнай і літаратурнадаследчай камісій) і прыродазнаўчая (уваходзіла ў яе і геолаглебазнаўчая камісія). У правядзенні даследчай дзейнасці як першая, так і другая камісіі імкнуліся абапірацца на мясцовых актывістаў, сярод якіх знаходзіліся людзі самых розных прафесій і ўзростаў. Але звычайна пераважалі настаўнікі, як найбольш адукаваная і нацыянальна-самасвядомая частка беларускага грамадства.

Неўзабаве краязнаўчы рух набыў такі размах і актыўнасць, што давялося пайсці на заснаванне адмысловай сістэмы кіравання ім. У канцы 1923 г. на правах пастаяннай камісіі Інбелкульта

ствараецца Цэнтральнае бюро краязнаў-ства. Аўтарытэт такога бюро вынікае з таго, што ў яго склад уваходзілі самыя выдатныя і добра вядомыя ў рэспубліцы асобы: першы па ліку рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта Уладзімір Пічэта, дзеяч беларускага нацыяналь-нага руху, географ, педагог Мікалай Азбукін, педагог і гісторык Васіль Друж-чыц, грамадска-культурны дзеяч, навуковец ў галіне прыродазнаўчых навук, журналіст Сяргей Скандракоў (з'яўляўся адказным сакратаром Цэнтральнага бюро краязнаўства) і шэраг іншых актывістаў беларускага нацыянальна-куль-турнага Адраджэння 20-х гадоў XX стагодзя. Праведзеная імі праца па ўдаска-нальванні арганізацыйнай структуры краязнаўчага руху не запавольніла station-ча адбіцца на выніках яго дзейнасці.

Вялікая радасць аматараў і вучоных у галіне краязнаўства ад усведамлення, што зараз і на іх зямлі штосьці пазітыўнае робіцца на самім дзяржаўным узроўні ў інтарэсах беларускай культуры, якая такі працяглы час стагнала пад ботам паланізацыі і русіфікацыі, выклікала на месцах нечуваную да гэтага актыўнасць людзей. Ім, як ніколі раней да гэтага, і дарагім, і любым станавілася ўсё, у чым былі відаць сляды, праявы беларускай матэрыяльнай і духоўнай культуры. Карэнным чынам мянялася стаўленне вяскоўцаў да сваёй мясцовай гаворкі, калі яны ўбачылі, з якой стараннасцю навукоўцы ў час наведвання іх радзімы занатоўваюць у сваіх сшытках, здавалася б, самыя простыя мужыцкія словы і выразы, вядуць і ўдзень і ўначы раскопкі старых, дзе-нідзе дарэшты зруйнаваных часам, прышэльцамі курганоў.

Яшчэ лепшыя ўмовы для такой карыснай працы адкрываліся з пераходам да дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі. Апошняя, як вядома, знайшла шырокую падтрымку ў грамадстве, спарадзіла нямала самых розных ініцыятыў. На здзіў песімістам і ворагам беларушчыны вялікія масы народа, нягледзячы на істот-ную дэфармацыю нацыянальнага жыцця, ахвотна пацягнуліся да сваіх прырод-ных культурных традыцый, праявілі зайздросную актыўнасць і невычэрпную энергію ў працы на карысць святой беларускай справы. Гэтымі высокімі адраджэнскімі якасцямі спаўна былі надзелены і краязнаўцы. Яшчэ ніколі іх старанні ў вывучэнні гісторыі, культуры, побыту роднай Бацькаўшчыны не праяўляліся з такой маштабнасцю, як у зоркавы час беларусізацыі.

Каб надаць гэтаму прагрэсіўнаму руху яшчэ больш магутны размах, мэтанакіраваны характар, на 29 лістапада 1924 г. у Менску было прызначана правядзенне Першай усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі. На яе прыбыло каля 40 самых вядомых прадстаўнікоў краязнаўчых і грамадскіх культурна-асветніцкіх

арганізацый. Даклад ад імя Цэнтральнага бюро краязнаўства зрабіў ужо згаданы вышэй С. Скандракоў. Бралі слова для выступлення прафесар У. Пічэта, гісторык, архівіст, выкладчык этнаграфіі ў Віцебскім вышэйшым педагагічным інстытуце Міхаіл Мялешка і іншыя вядомыя не толькі ў сваім асяроддзі навукоўцы і краязнаўцы. На канферэнцыі была выказана і падтрымана яе ўдзельнікамі прапанова аб неабходнасці надання краязнаўству дзяржаўнага характару, выпрацоўкі эфектыўных метадаў каардынацыі дзейнасці гэтым рухам, арганізацыі выпуску патрэбных яму інструктыўна-метадычнай літаратуры і адмысловага часопіса. Улічваючы, што краязнаўства на Беларусі не можа паспяхова развівацца ізалявана ад іншых рэспублік, удзельнікі канферэнцыі падтрымалі ідэю правядзення Усесаюзнага краязнаўчага з’езда. У якасці яго дэлегатаў было абрана сем чалавек: С. Скандракоў, У. Пічэта, супрацоўнік Віцебскага аддзела народнай асветы Мікола Каспяровіч, Ю. Бібіла, М. Каршукоў, Б. Самцэвіч, Грыгор’еў.

Шмат з таго, пра што гаварылася на Першай усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі, паслядоўна праводзілася на практыцы, давала станоўчыя вынікі. Дасягаліся яны як праз павышэнне самой якасці працы краязнаўчых арганіза-цый, так і дзякуючы ўключэнню ў іх склад усё большай колькасці сяброў. Паводле дадзеных за кастрычнік 1926 г. у склад Цэнтральнага бюро краязнаў-ства ўваходзіла 131 арганізацыя, у якіх налічвалася больш за 6,8 тыс. чалавек. На працягу 1925-1926 гг. інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інстытуце беларускай культуры працаваў і Кандрат Крапіва. На той час гэта ўжо была досыць вядомая сярод творчай інтэлігенцыі асоба.

Паляпшэнню працы краязнаўцаў у многім дапамагло выданне часопіса “Наш край”, які з’яўляўся перыядычным друкаваным органам Цэнтральнага бюро краязнаўства. Яго першы нумар пабачыў свет у кастрычніку 1925 г. Рэдагаваў часопіс беларускі пісьменнік, аўтар шэрага вельмі папулярных сярод чытачоў кніг Змітрок Бядуля. Да гэтага ён паспеў пабыць рэдактарам некалькіх часо-пісаў, што дапамагло на высокім узроўні весці працу ў новым перыядычным выданні краязнаўчага характару. На старонках часопіса “Наш край” асвятля-ліся найбольш надзённыя для Беларусі прыродна-геаграфічныя, грамадска-эка-намічныя і культурна-гістарычныя тэмы. За вялікі гонар публікавацца ў ім лічылі для сябе самыя вядомыя ў рэспубліцы прадстаўнікі навуковай, мастацкай інтэлігенцыі. Шырокі доступ для выступленняў у часопісе даваўся і шараговым мясцовым краязнаўцам. Прыцягненне шматлікіх аўтараў самых

розных прафесій і відаў творчай дзейнасці дазваляла часопісу несці ў масы так важныя ва ўмовах беларусізацыі праўдзівыя веды па гісторыі, геаграфіі, культуры роднага краю. На старонках часопіса з'явілася багата публікацый, прысвечаных гісторыі паасобных населеных пунктаў, заводаў і фабрык, важнейшым падзеям з гісторыі рэвалюцыйнай барацьбы, часоў Першай сусветнай і Грамадзянскай войнаў. Рэгулярна асвятлялася мінулае і сучаснае нацыянальных меншасцяў Беларусі, жыццё якіх таксама значна актывізавалася ў тыя гады.

У час, калі рабіліся практычныя захады па забеспячэнні за беларускай мовай рэальнага статусу дзяржаўнай, пашыраўся дыяпазон яе выкарыстання ва ўсіх тыпах навучальных устаноў, у сферы навукі і культуры, неацэнную каштоў-насць набывалі публікацыі часопіса “Наш край” па пытаннях лінгвістыкі. Старанна, з любоўю сабраныя на месцах словы жывой мовы краязнаўцы рэгу-лярна дасылалі ў рэдакцыю часопіса. Многія з такіх слоў і выразаў затым траплялі на старонкі мастацкай літаратуры, узбагачаючы гэтым самым лексіку беларускай пісьмовай мовы.

Набыты станоўчы вопыт у развіцці краязнаўства паспрыяў выхаду ў свет шэрага каштоўных і цікавых кніг. Да іх у першую чаргу можна аднесці працы М. Каспяровіча (1900-1937) “Беларуская архітэктура” (Віцебск, 1925), “Матэ-рыялы да вывучэння віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва” (Мн., 1927), “Краязнаўства” (Мн., 1929), рускага па нацыянальнасці, ураджэнца Масквы Мікалая Шчакаціхіна (1896-1940) – “Беларуская архітэктура ў XI-XII стст.” (Мн., 1927), “Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва” (Мн., 1928, Т.1.), “Праваднік па аддзеле сучаснага беларускага малярства і разьбярства” (Мн., 1929; разам з Вацлавам Ластоўскім).

Масавы, дастаткова выніковы рух краязнаўства, як і іншыя прагрэсіўныя пачыны, можа разглядацца ў якасці вялікага жадання, здольнасці беларускага народа развівацца на сваім прыродным падмурку. Хаця паланізацыя і русіфіка-цыя моцна дэфармавалі нацыянальна-культурнае жыццё Бацькаўшчыны, у яе знайшліся сілы, таленты, каб паўстаць супроць такой несправядлівасці і забяс-печыць яму жаданае самабытнае аблічча.

## §2. Паралізацыя адраджэнскага працэсу ў выніку барацьбы з “нацдэмакратызмам” і масавых бальшавіцкіх рэпрэсій

У палітыкі беларусізацыі, нягледзячы на яе дзяржаўны характар, заўжды хапала і адкрытых, і патаемных ворагаў. Яны-то і пастараліся, што зоркавы час беларусізацыі доўжыўся не дзесяцігоддзямі, а толькі некалькімі гадамі. Ужо на рубяжы 20-30 гадоў адчулася, што далейшае правядзенне яе на практыцы стане вельмі праблематычным. У шэрагу скіраваных супраць беларусізацыі захадаў стала і спыненне выдання ў кастрычніку 1930 г. на 61-м нумары часопіса “Наш край”. Разлічваць на поспех такога шматграннага нацыянальна-патрыятычнага, культурна-асветніцкага, навукова-пазнавальнага руху, як краязнаўства, без уласнага друкаванага органа не было аніякіх падстаў. Так яно і сталася на практыцы.

У айчынную гісторыю канец 20-х – пачатак 30-х гадоў увайшлі як час жорсткай, несправядлівай барацьбы ідэалагічнага апарату бальшавіцкай партыі і падначаленых ёй спецслужбаў з актыўнымі ўдзельнікамі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. У адпаведнасці са сфабрыкаванай Дзяржаўным палітычным упраўленнем (ДПУ) БССР версіяй аб існаванні контр-рэвалюцыйнага і антысавецкага “Саюза вызвалення Беларусі” было ўзята пад варту больш за сотню самых вядомых і буйных дзеячоў навукі і культуры. Ся-род іх знаходзілася нямала тэарэтыкаў і актывістаў беларусізацыі. На пачатку 30-х гадоў на яе шляху па віне цэнтральных і рэспубліканскіх ідэалагічных і рэпрэсіўных службаў узнікла шмат сур’ёзных перашкодаў.

Партыйны цэнтр у Маскоўскім крамлі асабліва непакоіўся ўзрастаннем са-цыяльнай ролі родных моваў савецкіх народаў, бо гэта, лічылася, можа вельмі моцна паўплываць на рост іх нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці, ускладніць распаўсюджванне рускай культуры сярод карэннага насельніцтва саюзных і аўтаномных рэспублік, якую ўжо і тады разглядалі як адзін з найважнейшых сродкаў пабудовы бяскласавага камуністычнага грамадства.

Добра ведалі ў Маскве пра гістарычныя поспехі Беларусі ў нацыянальна-культурным адраджэнні, дасягнутыя ў першую чаргу дзякуючы шырокаму распаўсюджванню яе роднай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, у выніку чаго непамерна павысілася ў народзе прастыжнасць апошняй. Таму ні савецкія, ні партыйныя органы не адважыліся пайсці на прыняцце якога-небудзь адмысловага нарматыўнага акта па вывадзе беларускай мовы з

афіцыйнага ўжытку і паступовай замене яе рускай. Замест гэтага яны ўсяк садзйнічалі правядзенню рэформы беларускай мовы з мэтай пазбаўлення характэрнай ёй адметнасці і максімальнага насычэння яе тым, што ўласціва рускай мове. Мелася на ўвазе, што гэта прывядзе да максімальнага збліжэння дзвюх моваў і таму не будзе выклікаць у беларусаў вялікага незадаволення на выпадак планамернага абмежавання сацыяльных функцый яго роднай мовы за кошт распаўсюджвання рускай як сродку не толькі моўнай, культурнай, але і палітычнай інтэграцыі БССР ў агульнаэсэсэраўскі дзяржаўны арганізм.

Не без ідэалагічнага ўздзеяння бальшавіцкай партыі на правапісную камісію яна склала праект новага беларускага правапісу, які паслужыў асновай для прыняцця Саветам народных камісараў БССР у жніўні 1933 г. пастановы “Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу”. Гэтым нарматыўным актам улады нанеслі беларускай мове больш шкоды, чым карысці. Абяцанага спрашчэння не атрымалася, а вось прыродную тканіну беларускай мовы ўдалося ў ходзе ажыццяўлення пастановы істотна парушыць. Насычаная не ў малой ступені рускімі сінтаксічнымі і марфалагічнымі нормамі, рускай лексікай беларуская мова, як гэта не дзіўна, узяла на сябе нават нейкую частку функцый з бальшавіцкай палітыкі русіфікацыі беларускага народа. Усё гэта вельмі добра разумелі яго перадавыя станы і як толькі маглі засцерагалі беларускую мову ад русіфікацыі. На пісьме, у вусным абыходку з усіх слоў-сінонімаў перавагу аддавалі таму, якое не сустракалася ў рускай мове. Хапіла розуму не прыняць унесеных рэформай змяненняў у беларускую мову інтэлігенцыяй Заходняй Беларусі. На той час там было нямала выдатных знаўцаў, шчырых носьбітаў беларускага слова, сярод іх аўтар першай “Беларускай граматыкі для школ” (выдадзена ў 1918 г.) Браніслаў Тарашкевіч, рэдактар-выдавец на працягу снежня 1906 – мая 1914 г. газеты “Наша ніва” Аляксандр Уласаў, выдавец шэрага беларускіх газет Антон Луцкевіч. Паколькі жыццё і дзейнасць беларускай інтэлігенцыі польскіх “усходніх крэсаў” не падлягала нормам савецкай моўнай палітыкі, на гэтай тэрыторыі беларуская мова, наколькі гэтаму дазвалялі абставіны, развівалася паводле сваіх уласных традыцый. Ім не здраджвалі ні майстры мастацкага слова, ні публіцысты, ні выдаўцы, ні настаўнікі, чаго нельга сказаць пра іх калег з савецкай Беларусі.

Аб’явіўшы “нацдэмаў” ворагамі народа, ідэалагічныя службы партыі як толькі маглі стараліся апаганіць усё тое, што імі было зроблена ў той ці іншай галіне навукі і культуры. Асабліва непрымальнымі, шкоднымі прызнаваліся спробы “нацдэмаў”

ачысціць беларускую мову ад запазычаных з іншых моваў-пераважна рускай – слоў і замену іх карэнна беларускімі, а не дык і новатво-рамі. З апошніх практычна нічога не пакінулі адданыя партыі вучоныя-філолагі. Больш таго, з афіцыйнага, літаратурнага ўжытку выпала нямала спрадвечна беларускіх слоў, якія ў канцы XIX-пачатку XX ст. перайшлі з пісьмовай стара-беларускай мовы ў мову новай беларускай літаратуры. Таму, як правільна сцвярджае Надзея Старавойтава, на сёння "склад беларускае лексыкі захаваўся прыкладна на 42%, а гэта азначае, што 58% нацыя разгубіла! Гэта непамерныя страты"[1].

З сярэдзіны 30-х гадоў цалкам знікае – і больш чым на паўстагоддзе! – з афі-цыйнага лексікона тэрмін "беларусізацыя", хаця ніякага нарматыўнага акта па спыненні дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі ніхто не прымаў. Мо таму ў плане гэтай палітыкі ўсё ж праводзіліся пэўныя мерапрыемствы, асабліва лакальнага характару. І гэта зразумела, паколькі немагчыма было ўраз спыніць набыты беларускім нацыянальна-культурным Адраджэннем размах. Каб неяк утайма-ваць яго, не выклікаючы лішніх падазрэнняў да сябе, ідэалагічным службам бальшавіцкай партыі даводзілася пускаць у ход розныя дэмагагічныя лозунгі, беспадстаўна абяцаць народу надыход шчаслівых перамен у яго жыццё ў выні-ку перамог у сацыялістычным будаўніцтве.

Шмат клопатаў у партыйных і савецкіх органаў выклікаў не ў меру шырокі размах краязнаўства, што пераканаўча сведчыла пра вялікае жаданне самога народа, а не толькі нейкай найбольш адукаванай яго часткі, да вывучэння сваёй гісторыі, захавання і развіцця нацыянальнай культуры, інтарэс да якой ужо моцна спаў у дзяржавы. Цяпер ужо на першым плане была савецкая культура ўвогуле. Няцяжка зразумець, што нацыянальнай арыентацыі беларускае края-знаўства не магло заставацца па-за рамкамі барацьбы савецкіх рэпрэсіўных органаў з "нацдэмамі". Лічылася, што сярод іх заўжды знаходзілася нямала тых, хто найбольш плённа і актыўна працаваў на ніве беларускага краязнаўства. Дзякуючы старанням пэўных палітычных сіл, яго ўдзельнікі прыкметна звузілі даследаванні гістарычнага характару, менш сталі займацца зборам фальклор-нага матэрыялу, а мінулае царкоўна-рэлігійнае жыццё ўвогуле апынулася прак-тычна зусім па-за ўвагай або наўмысна падавалася ў скажоным выглядзе.

Спрэс абвешчаная рашучая барацьба з рэлігійнымі перажыткамі прычынілася да масавага знішчэння каштоўных твораў культавай архітэктуры, скульптуры царкоўных кніг і жывапісу. Пад вострую бальшавіцкую крытыку трапіў шэраг

---

[1] Наша Ніва. 1997. 28 ліпеня. С. 9.

краязнаўцаў з боку аўтараў выдадзенай у 1931 г. у Менску вельмі тэндэнцыйнай кнігі "Навука" на службе нацдэмаўскай контрэвалюцыі". На старонках кнігі было прызнана вельмі шкоднай справай, што з удзелам варожых ідэям сацыялізму элементаў музеі Беларусі "з зброі культурнай рэвалюцыі ператварыліся ў сховішчы царкоўшчыны і старажытных каштоўнасцяў", што "стаўкай на старажытнасьць нацдэмы дамагаліся адцягнуць нашы музеі ад удзелу ў сацыялістычным будаўніцтве, ад выкананьня задач сёньняшняга дня" (с. 203). Такая "варожая" дзейнасць музеяў тлумачылася свядомым шкодніцтвам, агульнымі ўстаноўкамі "нацыял-дэмакратызму", накіраванымі на "зрыў будаўніцтва сацыялізму, барацьбу з дыктатурай пралетарыяту і рэстаўрацыю капіталізму" (с. 237). Каб пакончыць з такой "антысацыялістычнай" практыкай, прапаноўвалася ў далейшым пры падборы экспанатаў для музеяў строга прытрымлівацца класавага падыходу. І ён няўхільна праводзіўся ў жыццё. Дзейнасць музеяў, як і ўсіх астатніх культурна-асветніцкіх устаноў, была цалкам падпарадкавана ідэалагічным устаноўкам партыі, што часта не толькі не адпавядала нацыянальнаму інтарэсу, а, наадварот, наносіла шкоды яму. Падобнае можна сказаць і пра астатнія віды культурна-асветніцкай працы.

Барацьба з "нацдэмакратамі", русіфікацыя беларускай мовы праз прыняцце адпаведнай пастановы па спрашчэнні яе правапісу, распачатыя дзяржавай заха-ды па вяртанні рускай мовы ў афіцыйнае жыццё, палітызацыя дзейнасці куль-турна-асветніцкіх устаноў – гэта ўсё-такі толькі кветачкі, а не ягадкі ў практы-цы барацьбы бальшавіцкай партыі і савецкіх рэспрэсіўных службаў з беларус-кім нацыянальна-культурным Адраджэннем. Наперадзе лепшыя сілы яго чакалі суровыя выпрабаванні масавых фізічных рэпрэсій, у выніку якіх давялося на многія гады забыцца пра адраджэнскія ідэалы, а будаваць жыццё беларускага народа паводле навязаных яму Масквою ўстановак.

У шматстайным комплексе эксперыментаў, што праводзіліся на Беларусі па ўказцы Масквы, асаблівае месца займае масавае фізічнае знішчэнне нежаданых ёй людзей, на якіх зусім беспадстаўна навешваўся ярлык "вораг савецкага наро-да". Так спадручней было адправіць чалавека на той свет.

Распачатыя бальшавіцкай партыяй захады па згортванні стваральнай нацыя-нальнай дзейнасці ўсіх нярускіх народаў зрабіла надзвычай неабходным пры-цягнуць да ўдзелу ў ажыццяўленні гэтай антыгуманнай, антыдэмакратычнай палітыкі значныя людскія сілы, актыўна ўключаючы ў іх шэрагі і мясцовую

інтэлігенцыю, як найбольш уплывовую, аўтарытэтную складовую частку кожнага грамадства.

Паколькі ў многіх саюзных рэспубліках, у т.л. ў БССР, мясцовая інтэлігенцыя не вызначалася багатым досведам нацыянальнага будаўніцтва, партыі ўдалося параўнальна лёгка схіліць на свой бок у дастатковай колькасці інтэлігентных сіл і ў апоры на іх праводзіць у жаданым напрамку сваю палітыку. Калі не ўдавалася шляхам ідэалагічнай апрацоўкі далучыць іх да ўдзелу ў такой палітыцы, у ход пускалі іншыя сродкі: шантаж, запалохванне і г.д. Словам, да сярэдзіны 30-х гадоў сітуацыя на неабсяжных прасторах СССР склалася досыць спрыяльнай для Маскоўскага крамля, каб ўтаймаваць не ў меру, на яго погляд, нацыянальную актыўнасць у саюзных і аўтаномных рэспубліках. Добра пацвярджаецца гэта і на прыкладзе БССР.

Адыход беларусізацыі ў Лету карэнным чынам адбіўся на ўсіх баках жыцця і асабліва на дзейнасці інтэлігенцыі. Бачачы, наколькі небяспечным з'яўляецца прысвячэнне сваіх творчых здольнасцяў распрацоўцы, ажыццяўленню звязаных з нацыянальным інтарэсам беларускага народа праблем, многія прадстаўнікі навуковай інтэлігенцыі сталі займацца тым, да чаго вялікую зацікаўленнасць праяўляла сама дзяржава: вывучэннем і прапагандай рэвалюцыйнай барацьбы пралетарыяту, яго гераізму ў час Грамадзянскай вайны, "гістарычных" перамог на шляху сацыялістычнага будаўніцтва.

Не спазнілася творчая інтэлігенцыя БССР з апяваннем генія бацькі ўсіх савецкіх народаў – Іосіфа Сталіна. Першую паэму-оду "Пісьмо беларускага народа Вялікаму Сталіну" склалі ў 1936 г. У яе напісанні ўдзельнічала шэсць самых вядомых беларускіх песняроў. На гэтую тэму "плённа" папрацавалі нашыя паэты ў 1940 г., калі з друку выйшлі калектыўныя ода "З тваім іменем у сэрцы" і паэма "Таварышу Сталіну". Першую з іх аўтары пісалі ўчатырох, другую – утрох. Не забывалася нашымі паэтамі і "сталінская моладзь", пад якой тады разумеліся галоўным чынам камсамольцы. Першая сур'ёзная паэтычная паэма на гэтую савецка-патрыятычную тэму "Чырвонасцяжны Камсамол" пабачыла свет у 1938 г. Працавала над ёй шэсць паэтаў, з іх чатыры камсамольскага ўзросту.

Не выключана, што хтосьці са складальнікаў такіх гімнаў і одаў бацьку Ста-ліну, бальшавіцкай партыі, сацыялізму спадзяваўся забяспечыць сабе хоць трохі спакойнае жыццё, з трывогай назіраючы, як над галовамі людзей расце, згушчаецца рэпрэсіўная хмара. Марныя спадзяванні! Выратавацца ад незаслужанага пакарання нават цяжка было тым, хто лічыў сябе самым адданым ідэям Кастрычніцкай рэвалюцыі. У агні рэпрэсій гінулі і

яе гарачыя прыхільнікі, і яе працiўнікі. Беларускасць толькі зрэдку прарывалася на паверхню падчас правядзення рознага роду мерапрыемстваў. Так, родная мовай карысталіся ў час сваіх выступленняў дэпутаты абранага ў кастрычніку 1939 г. Народнага схода Заходняй Беларусі. Некаторыя з іх гэтай мовы не цураліся і на афіцыйных сустрэчах у Маскве, нікольki не задумваючыся над тым, наколькі яны будуць там зразумелымі. Вядомы і такі факт: у час прыёму ўдзельнікаў Першай дэкады беларускага мастацтва і культуры ў Маскоўскім крамлі (праходзіла 5-15 чэрве-ня 1940 г.) нашая славутая оперная спявачка Ларыса Александроўская сваю прамову сказала па-беларуску. Сёння на такое няздольныя не толькі дзяржаўныя мужы Рэспублікі Беларусь, але і за рэдкім выключэннем культурныя дзеячы.

Нягледзячы на крывавую расправу з красой беларускай нацыі, пра што нам цяпер вельмі добра вядома, прагрэсіўныя ідэі беларусізацыі працягвалі жыць у чаканні лепшых часоў. І яны прыйшлі на нашую спакутаваную зямлю прыклад-на праз паўстагоддзе. Калі б не станоўчыя набыткі міжваеннай беларусізацыі ў нацыянальнай кансалідацыі беларускага народа, яму наканавана было б няў-хільнае пераўтварэнне ў нешта падобнае на аморфнае, бесструктурнае народа-насельніцтва. На шчасце, такі спад працэсу нацыянальна-культурнага Адра-джэння адбываўся павольна і дастаткова было якога-небудзьаднаго сур'ёзнага штуршка, каб беларускасць ізноў пайшла ўгару. Не загінуць беларускаму наро-ду ў выніку масавых фізічных рэпрэсій 1937-1938 гадоў, несумненна, у пэўнай ступені дапамагло існаванне ўласнай дзяржаўнасці – няхай сабе і чыста сімвалічнай – у форме БССР. У сродках масавай інфармацыі, галоўным чынам неафіцыйных, неаднаразова прыводзіліся звесткі, што бальшавіцкі тэрор для Беларусі абышоўся ёй у 1,2 мільёна чалавек, з якіх прыкладна траціна расстраляных. Жах! А тым больш калі ўявіць, што гэта была пераважна сапраўдная эліта беларускага грамадства, без якіх яна ўжо не магла нармальна развівацца як пэўны цэласны этнічны арганізм. Сустракаецца ў друку і такое, што савецкая рэпрэсіўная машына знішчыла на Беларусі за 20-50-я гады прыкладна 600 тыс. самых адукаваных і гаспадарлівых, нацыянальна самасвя-домых яе сыноў і дачок. Страх агортвае, калі пачнеш удумвацца ў гэтую лічбу. Нават каб яна была ў дзесяць разоў меншая, той савецкі таталітарны палітычны рэжым заслугоўвае ўсенароднага праклёну. Мы сёння справядліва аплакваем трагічную, загадкавую смерць, да канца невядомае знікненне з палітычнай арэны суверэннай дзяржавы Беларусь такіх дзеячоў, як Віктар Ганчар, Юры Захарэнка, Генадзь

Карпенка. А пад нож жа масавых фізічных рэпрэсій 1937-1938 гадоў трапілі сотні яшчэ больш заслужаных перад Бацькаўшчынай сыноў і дачок.

У тых экстрэмальных умовах ужо вельмі мала хто дбаў пра нацыянальную культуру, родную мову. Перспектывы ў іх былі вельмі нікчэмныя. На першы план камуністычная партыя высунула сацыялістычную ідэю, якой і павінна была падпарадкавацца ўся дзейнасць савецкіх людзей. Масавымі фізічнымі рэпрэсіямі ўдалося забіць тоўсты асінавы кол у беларускае нацыяльна-культурнае Адраджэнне. Неспрыяльны, цяжкі лёс дазволіў у чарговы раз ізноў вярнуцца да яго – на вялікі жаль без адчувальных вынікаў – толькі праз поўстагоддзе, калі змянілася некалькі пакаленняў беларускага народа. Каб захаваць сябе як самабытны этнас, яму належыць ажыццявіць тытанічныя нама-ганні па пераадоленні шкоднага ўплыву рускай культурна-моўнай асіміляцыі, якую на гэты раз ужо праводзіць уласная дзяржава, што стварае дадатковыя цяжкасці на шляху нацыянальнага выратавання. Для паспяховага пераадолення іх пэўную ролю можа адыграць і творчае выкарыстанне найлепшых набыткаў міжваеннага беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння.

### §3. Газета "Зьвязда" – выкрывальніца «нацдэмакратызму» і заступніца беларусізацыі

Дзяржаўнай палітыцы беларусізацыі, якая бярэ свой адлік ад ліпеня 1924 г., лёс наканаваў вельмі кароткае жыццё. Як толькі на рубяжы 20-х-30-х гадоў абвастрылася барацьба з г. зв. нацдэмакратызмам, адразу актывізавалі сваю дзейнасць адкрытыя і патаемныя праціўнікі беларусізацыі.

Самі паняцці «нацдэмакратызм», «нацыянал-дэмакраты» («нацдэмы») не ёсць якімі-небудзь праявамі чыста беларускага характару. Вядома, што яшчэ на пачатку другога дзесяцігоддзя XX ст. сярод рускіх нацыяналістаў, частка якіх уваходзіла ў склад 3-й і 4-й Дзяржаўных дум, узнікла плынь «нацыянал-дэмакратызму». Яна выступала за неабходнасць злучэння нацыяналізму з «дэмакратычнымі» лозунгамі, разлічваючы гэтым самым прыцягнуць да сябе народныя масы. Найбольшую актыўнасць сярод яго прыхільнікаў праяўляў маскоўскі гурток.

Газета «Зьвязда», будучы перыядычным органам самаго ЦК КП(б)Б, першай распачала на сваіх старонках выкрыццё «варожых» планаў «нацдэмакратаў». Калі ў красавіку 1930 г. на

Украіне быў вынесены прысуд «контррэвалюцый-най» падпольнай арганізацыі «Сьпілцы Вызваленьня Украіны», пра выкрыццё якой рэгулярна паведамляў сваім чытачам перыядычны друк і Беларусі, газета «Зьвязда» 21 красавіка таго ж года выступіла з грунтоўным перадавым артыкулам «Рэвалюцыйны прыгавор», дзе прыводзілася вельмі шмат параляляў у дзейнасці членаў гэтай украінскай антысавецкай арганізацыі і беларускіх «нацдэмакратаў». Была зроблена, да прыкладу, такая выснова: «Беларускія нацыянал-демакраты, як і іх браты ўкраінскія контр-рэвалюцыянеры, выкарыстоўвалі лёзунг «незалежнасьці» для рашучай і непарыўнай барацьбы супраць беларускіх працоўных мас, супраць сапраўдна незалежнай Савецкай Беларусі.

(...) Яны, як і ўкраінская контррэвалюцыя, сваім ідэалам лічаць стварэньне фашысцкай дыктатуры, якая-б на трупах беларускіх працоўных аднавіла ўладу абшарніка і капіталіста». Чытаючы ўсё гэта, самая свядомая, перадавая частка беларускіх палітыкаў і інтэлігенцыі не магла не разумець, што рана ці позна і яе напаткае такі ж цяжкі лёс, як і сяброў «Сьпілкі Вызваленьня Украіны».

Асабліва ўзмацнілася барацьба з беларускім "нацдэмакратызмам" напярэ-дадні XIII з'езда КП(б)Б (праходзіў 30 мая - 12 чэрвеня 1930 г.). З вялікім арты-кулам "Нацыянальнае пытанне ў БССР і барацьба з нацыянал-дэмакратызмам і шавінізмам" выступіў у "Зьвяздзе" (21 мая 1930 г.) Аляксандр Сянкевіч, які працаваў у той час рэктарам Камуністычнага універсітэта Беларусі імя У.І. Леніна. У сваёй публікацыі ён беспадстаўна абвінаваціў у нацыяналізме шэраг беларускіх пісьменнікаў, у прыватнасці Тодара Глыбоцкага, Цішку Гартнага, Язэпа Пушчу, Уладзіміра Дубоўку, Міхася Зарэцкага. Раман апошняга "Крывічы" названы "апафяозам беларускага нацыянал-шавінізму". З А.Сянкевічам можна пагадзіцца толькі ў тым, за што ён крытыкуе погляды вяліка-дзяржаўнікаў па пытаннях беларускай культуры і мовы. “Аднэй з форм праяўленьня вялікадзяржаўнага шавінізму з’яўляецца высоўваньне пераважнай ролі расійскай культуры, зьніжэньне або нават адмаўленьне беларускай культуры.

Гэтым вялікарасійскія шавіністы імкнуцца скрыта або адкрыта ўхіліцца ад выкананьня дырэктывы партыі па ажыцьцяўленьні на справе беларусізацыі”.

Калі на старонках перыядычнага друку, у т.л. і газеты "Зьвязда", вялася толькі палеміка вакол "нацдэмакратызму", рускага вялікадзяржаўнага шаві-нізму, у інтэлігенцыі прысутнічалі і смеласць, і жаданне працаваць на святыя ідэалы беларусізацыі. Становішча карэнным чынам змянілася, калі на змену палемікі

прыйшлі розныя меры пакарання. У шэрагі правафлангавых беларусізацыі сур'ёзны пярэпалах унеслі першыя паведамленні аб арышце яе найбольш адданых прыхільнікаў. Адно з іх пад загалоўкам "Арышт контр-рэвалюцыйнай інтэлігенцкай групы нацыянал-дэмакратаў" змясціла 30 ліста-пада 1930 г. на сваёй чацвёртай старонцы і газета "Зьвязда". Вось яго даслоўны змест:

“ДПУ Беларусі арыштавана контррэвалюцыйная інтэлігенцкая група нацыянал-дэмакратаў, якая складаецца, у пераважнай большасьці, з былых эсэраў і белагвардзейскіх эмігрантаў, што вярнуліся з-заграніцы.

Савецкі ўрад Беларусі ў свой час дазволіў вярнуцца з эміграцыі раду асоб, маючы на ўвазе іх запэўніваньні добрасумленна і аддана працаваць у інтарэсах савецкага будаўніцтва. Сапраўды-ж гэтыя асобы, выкарыстаўшы аказанае ім давер’е, працягвалі сваю контррэвалюцыйную дзейнасьць у згодзе з замеж-нымі буржуазнымі нацыянал-фашысцкімі арганізацыямі і па іх указаньнях.

У ліку арыштаваных – былыя міністры БНР Ластоўскі, Цьвікевіч, Краскоўскі, Смоліч, а таксама Лёсік, Некрашэвіч і інш.

Вядзецца сьледства".

Зараз мы зусім іншымі вачамі глядзім на гэтых асобаў. Як ужо і тады стала трывалай практыкай, у наступным нумары газета "Зьвязда" ад 1 снежня 1930 г. змясціла шэраг публікацый у падтрымку праведзенага арышту названых беларускіх “нацдэмакратаў” пад такім гучным шматслоўным загалоўкам “Выбух гневу і абурэньня пралетараў БССР супраць выкрытай органамі ДПУ контр-рэвалюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай групы. Ня можа быць літасьці агентам інтэрвентаў, натхніцелям банд крывавага Булак-Балаховіча”. І што характэрна: першымі ў падтрымку гэтай акцыі ДПУ выступілі беларускія пісьменнікі. Ужо сам загаловак іх звароту ў газету "Сурова пакараць чорную зграю былых белых міністраў, афіцэраў, царскіх чыноўнікаў і буржуазных нацыяналістаў" дае поўнае ўяўленне аб тым, як некаторыя майстры мастацкага слова пад уздзеяннем розных фактараў, не выключана, прыхільна ставіліся да рэпрэсіўнай палітыкі савецкай улады ў дачыненні і да тых, хто так багата зрабіў дзеля нацыянальна-культурнага адраджэння нашага краю. Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў давала клятву "у адказ на контр-рэвалюцыйны замах беларускіх нацыянал-дэмакратаў з большай актыўнасьцю і паслядоўнасьцю… змагацца за генэральную лінію камуністычнай партыі; высьвятляць перад працоўнымі масамі контр-рэвалюцыйную сутнасьць беларускага нацыянал-дэмакратызму..".

У гэтым жа нумары газеты "Зьвязда" змешчаны верш Андрэя Александро-віча "Паэма пра ворага", эпіграфам для якога ўзяты крылатыя словы пралетар-скага, савецкага пісьменніка Максіма Горкага "Если враг не сдается, его уничтожают". Вершаванымі радкамі чытачу даводзіцца, што самы люты вораг гэта той, хто ў нашай хаце, таму не можа быць аніякай літасці да яго:

У сэрцы гнеў штурмуе,
Навальным б'е прыбоем ...
..........................................
Як класу ліквідуем
Уласнаю рукою!

Гнеўна асуджалася "шайка беларускіх нацыянал-дэмакратаў" і ў іншых публікацыях дадзенага нумара газеты "Зьвязда". Агульны ж сход рабочых і служачых мінскага гарбарнага завода "Бальшавік" патрабаваў "узнагароды ДПУ бел. ордэнам Леніна" за выяўленне ворагаў савецкага народа.

Такім жа "змястоўным" па частцы выкрыцця беларускіх "нацдэмаў" быў нумар газеты "Зьвязда" ад 2 снежня 1930 г. Амаль уся другая старонка была прысвечана гэтай праблеме і выйшла пад такім злавесным агульным загалоўкам: "Контррэвалюцыянеры – нацыянал-дэмакраты імкнуліся абярнуць Савецкую Беларусь у калёнію польскага імпэрыялізму. Абураны пралетарыят БССР патрабуе бязьлітаснай кары для агентаў польскага фашызму – Ластоўскіх, Лёсікаў, Цьвікевічаў, Смолічаў і К°". І на гэты раз не змаўчалі беларускія пісьменнікі. З артыкулам "Сурова пакараць агентаў польскага фашызму" выступілі сябры аб'яднання беларускіх пісьменнікаў "Полымя" Міхась Чарот, Цішка Гартны, Янка Нёманскі, Міхась Зарэцкі, Анатоль Вольны, Васіль Сташэўскі, Уладзіслаў Галубок. Для некаторых з іх, у прыватнасці Ц. Гартнага і М. Зарэцкага, гэты артыкул быў выкарастаны для прызнання сваіх "памылак" у поглядах на нацыянальнае пытанне, практычных дзеяннях па яго вырашэнні. У названай публікацыі сьвярджалася, што сама "арганізацыя "Полымя" не пазбаўлена была нацдэмаўскай агентуры, якая хавала свой твар, праводзячы здрадніцкую працу…"

Для барацьбы з рознага роду ўхіламі ў нацыянальным пытанні ідэалагічныя службы партыі бальшавікоў прыцягвалі самых добра падрыхтаваных у тэарэ-тычных адносінах аўтараў. Асабліва пільная ўвага на гэта звярталася тады, калі трэба было знайсці "ворагаў" ленінскай нацыянальнай палітыкі ў асяроддзі навуковай, мастацкай інтэлігенцыі. Ахвотна шукала іх Я.Сякерская, якая высту-піла з аб'ёмістым артыкулам "Беларускі нацыянал-дэмакратызм і вялікарасійскі шавінізм на ідэалёгічным

фронце БССР" на старонках газеты "Зьвязда" (19 лістапада 1930 г.). Аўтар яго нікольні не сумняваецца ў тым, што складанасць і цяжкасць змагання бальшавікоў з беларускім "нацдэмакратызмам" заклю-чаюцца ў зрошчванні "паасобных кіруючых членаў партыі з нацыянал-дэмакра-тызмам, тым самым выступаючых у якасьці агентаў контр-рэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму ў радах КП(б)Б. З найбольшай сілай нацыянал-дэмакраты супольна з нацыянал-апартуністамі ў радох КП(б)Б паразілі нашы ідэалёгічныя вышыні, наша культурнае будаўніцтва...

Амаль да апошняга часу... БАН (Беларуская акадэмія навук. – Л.Л.) была сапраўдным плацдармам беларускага нацыянал-дэмакратузму, разгарнуўшага там ва ўсю шырыню і глыбіню "навуковую" работу пад прыкрыцьцём нацыянал-апартуністычнага кіраўніцтва прэзыдэнта акадэміі Ігнатоўскага".

У лагер ідэолагаў беларускага "нацдэмакратызму" Я.Сякерская, акрамя гісторыка Усевалада Ігнатоўскага, залічыла кіраўніка Белдзяржвыдавецтва Змітра Жылуновіча (літаратурны псеўданім Цішка Гартны), нядаўніх нарка-маў – асветы БССР Антона Баліцкага, земляробства Дзмітрыя Прышчэпава, акадэмікаў БАН Вацлава Ластоўскага і Сцяпана Некрашэвіча, гісторыка Аляксандра Цьвікевіча, аўтара шэрага падручнікаў па беларускай мове Язэпа Лёсіка. Гістарычную навуку Беларусі яна назвала "арэнай для насаджэньня варожай нам нацдэмаўскай ідэалёгіі". Не забылася прыгадаць і акадэмічную канферэнцыю мовазнаўцаў, што праходзіла ў лістападзе 1926 г. у Менску, на якой нібыта ішло змаганне "супроць расійскіх уплываў, але з вельмі лібэральнымі адносінамі да палёнізацыі беларускае мовы". На падставе ўсяго сказанага Я.Сякерская робіць вельмі небяспечную для лесу беларускай справы выснову: “Гісторыя буржуазнай ідэалёгіі нацыянал-дэмакратызму ў БССР – гэта самы яркі прыклад выкарыстаньня нівы ідэй нацыянальнага адраджэньня Беларусі і беларускай культуры для змаганьня за капіталізм, за буржуазную культуру, бо нацдэмы, з аднаго боку, ідэёва змыкаюцца з фашысцкай Польшчай, з другога – былі цесна зьвязаны з чорнасоценцамі тыпу акадэміка Карскага".

Сваю рашучую барацьбу з беларускім "нацдэмакратызмам" партыя імкну-лася заўжды весці адкрыта, рэгулярна інфармуючы пра гэта грамадства, зразумела, у выгадным для сябе плане. Падобнага роду інфармацыя, бадай, найчасцей з'яўлялася ў газеце "Зьвязда" як органе ЦК КП(б)Б. Багата выкры-вальніцкага матэрыялу аб "нацыянал-дэмакратызме" дала яна сваім чытачам у перадавым артыкуле газеты ад 30 лістапада 1930 г. "Зьнішчым драпежныя шчупальцы інтэрвентаў у нашай краіне!" Са зместу

артыкула добра відаць, што рэдакцыю газеты вельмі радавала паспяхова праведзенае органамі Дзяржаўна палітычнага ўпраўлення БССР выкрыццё "групы контррэвалюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай інтэлігенцыі... Арыштован рад контррэвалюцыянераў. Усе гэтыя даўно і добра вядомыя асобы - былыя "міністры" БНР і белагвардзейскія эмігранты, накшталт Ластоўскага, Цьвікевіча, Краскоўскага, Смоліча, Лёсіка ці Некрашэвіча...". Сярод жа "нацыянал-дэмакратаў", якія заставаліся на волі, газета называе Алеся Дудара, Фелікса Купцэвіча, Міхася Зарэцкага, Уладзіміра Дубоўку, Максіма Лужаніна, Язэпа Пушчу і нарэшце Янку Купалу.

Здавалася б, што пасля так удала праведзеных аперацый можна было пакінуць у спакоі "нацдэмаў". На практыцы ж такога не назіралася. Асабліва маштабны, адкрыты характар набыла барацьба супраць іх пасля таго, як газета "Зьвязда" 27 снежня 1930 г. выступіла з вялікай падборкай матэрыялаў па дадзенай праблеме (паўтары старонкі) пад агульнум загалоўкам "Крывавы шлях беларускіх нац.-дэмакратаў". Спасылаючыся на матэрыялы Дзяржаўнага палітычнага упраўлення БССР, рэдакцыя газеты даводзіла сваім чытачам, што "нацдэмы", у склад якіх у першую чаргу залічвалі Я.Лёсіка, В.Ластоўскага, А.Смоліча, А.Цьвікевіча разам з А.Луцкевічам, С.Булак-Балаховічам і іншымі, што жылі за межамі БССР, рыхтаваліся да вайны супраць яе. "Яны імкнуліся шляхам інтэрвэнцыі зьнішчыць БССР і ператварыць яе ў калёнію польскага фашызму. Беларускія нац.-дэмы, – гэтыя заклятыя ворагі першай у сьвеце пралетарскай дзяржавы, вядуць сваё змаганьне супраць дыктатуры пралета-рыяту ня год і ня два. Пры дапамозе польскага фашызму і сусьветных імперыялістычных драпежнікаў, разам з крывавым бандытам Булак-Балахові-чам яны вядуць гэта змаганьне супраць БССР з першых-жа дзён існаваньня пралетарскай Беларускай Рэспублікі".

Маштабы барацьбы з "нацдэмакратызмам" маглі б стаць яшчэ большымі. У пэўнай ступені перашкодзілі гэтаму рашэнні XVI з'езда УсеКП(б), які праходзіў у канцы чэрвеня - пачатку ліпеня 1930 г. На ім вуснамі самаго І.Сталіна было заяўлена, што зараз галоўную небяспеку для краіны ўяўляе вялікадзяржаўны рускі шавінізм. З ім не магла не вясціся інфармацыйная вайна і на Беларусі, у т.л. і на старонках яе вядучай партыйнай газеты "Зьвязда". Праўда, сур'ёзнай барацьбы з гэтым партыйным ухілам, вялікадзяржаўным шавінізмам, як такое назіралася ў дачыненні да "нацдэмакратызму" не вялося. Не вялося таму, што гэтага не хацелі дапусціць самі палітычныя органы. Паўтарыўшы ў час выступлення ў пачатку ліпеня 1930 г. на сходзе Мінскага

партактыву сталін-скую ацэнку рускага вялікадзяржаўнага шавінізму, адзін з вядучых бальша-віцкіх ідэолагаў рэспублікі А.Сянкевіч заявіў, што і зараз мы не павінны "ні на ёту паслабіць змаганьня з беларускім нацыянал-дэмакратызмам..." (Зьвязда, 5 ліпеня 1930 г.). І яна сапраўды не паслаблялася. У выніку такога змагання сотні найбольш адданых ідэі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння асобаў былі пазбаўлены магчымасці ўсялякага ўдзелу ў ім. Той жа, хто не паспеў, а меў жаданне далучыцца да яго, цяпер ужо не адважываўся на такі патрыятычны ўчынак, не верачы, што ў БССР будзе праводзіцца адпаведная яе карэнным інтарэсам нацыянальная палітыка.

Рэдакцыі газеты "Зьвязда" трэба аддаць належнае, што ў адрозненне ад усіх астатніх рэспубліканскіх перыядычных выданняў, яна, актыўна дапамагаючы партыйным структурам, рэпрэсіўным органам граміць "нацдэмакратызм", у той складаны час не выпускала з-пад сваёй увагі і надзённых праблем беларусізацыі, якую з кожным годам станавілася ўсё цяжэй і цяжэй праводзіць. Без перабольшвання газета "Зьвязда" з'яўлялася тады сапраўднай заступніцай беларусізацыі, хаця і мела прыкладна ўсяго толькі тры-чатыры гады працы на беларускай мове. І вельмі важна, што ў такой прагрэсіўнай ролі "Зьвязда" пачала выступаць акурат тады, калі іншыя газеты альбо зусім абыходзілі праблему беларусізацыі, альбо ў завуаляванай форме выказваліся пра нямэтазгоднасць яе далейшага правядзення.

Мелі месца і іншыя істотныя хібы ў асвятленні перыядычным друкам ідэі беларусізацыі. Можна сказаць, што ад самага пачатку ён, не выключаючы і самой "Зьвязды", яўную перавагу аддаваў публікацыям чыста аператыўнага, прыватнага характару, у якіх паведамлялася, што канкрэтна зроблена ў тым ці іншым калектыве па беларусізацыі, і дзе яна найбольш ігнаруецца. Многія аўтары такіх публікацый занадта катэгарычна патрабавалі самага суровага пакарання тых, хто наўмысна перашкаджаў ажыццяўленню беларусізацыі. Так, рэдакцыя газеты "Зьвязда" ў артыкуле "Апартуністы затрымліваюць тэмпы правядзеньня беларусізацыі..." (29 верасня 1930 г.), крытыкуючы кіраўніцтва, камуністаў Магілёўскай швейнай фабрыкі за недаацэнку работы па беларусі-зацыі ў сваім калектыве, выказалася наступным чынам: "Па носьбітах такіх апартуністычных настрояў і дзеяньняў трэба біць і біць моцна і бязьлітасна".

Занадта катэгарычную, бескампрамісную пазіцыю да праціўнікаў беларусі-зацыі "Зьвязда" заняла, змясціўшы 10 кастрычніка 1930 г. падборку артыкулаў пад такім шматслоўным загалоўкам: "Біць па супраціўленцах правядзенью ленінскай

нацпалітыкі. Агонь барацьбы накіраваць супроць самага небясьпеч-нага расійскага вялікадзяржаўнага шавінізму. Ні на хвіліну не паслабім бараць-бы з беларускім контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам і шавінізмамі ўсіх колераў" (1930, 10 кастрычніка). Аналізуючы матэрыялы, атрыманыя за час месячніка па праверцы ходу беларусізацыі, рэдакцыя газеты "Зьвязда" рэкамендуе партыйным арганізацыям савецкіх установ рашуча выкараняць "той бяздушны фармалізм, які часамі пануе ў адносінах да беларусізацыі", прызнае, што яшчэ не вычышчаны з дзяржаўнага апарату чыноўніцка-бюракратычныя элементы, якія шалёна супраціўляюцца "і на фронце правядзеньня нацпалітыкі, і яе састаўной часткі беларусізацыі. Гэтым супраціўленьням трэба даць бязьлітасны бой".

Пад зазначаным вышэй загалоўкам быў змешчаны матэрыял аб фактах грубага парушэння палітыкі беларусізацыі ў Цэнтральным доме селяніна, што знаходзіўся ў Менску. Аўтары дадзенага матэрыялу брыгадзіры па ходу правядзення месячніка беларусізацыі Захарык і Сянкевіч зрабілі правільную выснову, што паколькі "Цэнтральны дом селяніна з'яўляецца адным з магутных вагароў уплыву партыі на працоўныя масы сялянства", дык і "усю яго работу трэба праводзіць на тэй мове, на якой гаворыць маса, якую ён абслугоўвае", г.зн. на беларускай. А вось што датычыць суровага прысуду, вынесенага брыгадзірамі: "Вялікадзяржаўных шавіністаў трэба пазьнімаць з работы ў доме селяніна", тут рэдакцыя газеты "Зьвязда" справядліва не стала на бок прыхільнікаў падобнай пазіцыі, напэўна ж, добра ведаючы, што такім голым адміністраваннем не зробіш беларускую мову любімай і паважанай у асяроддзі працаўнікоў Цэнтральнага дома селяніна.

Бясспрэчна, справе беларусізацыі куды больш карысці прынеслі б глыбока-аналітычныя артыкулы абагульняючага характару аб ходзе яе правядзення, грунтоўны паказ выключнай неабходнасці павяшэння ролі беларускай мовы ў дзяржаўным, грамадска-палітычным, культурным жыцці. У той час ужо рэдакцыямі газет і часопісаў практычна нічога не рабілася па адраджэнні гістарычнай памяці беларускага народа, паказу найбольш адметнага з таго, што ён дасягнуў у папярэдні перыяд у галіне культуры. Без ажыццяўлення такой надзвычай актуальнай ва ўсе часы асветніцкай прапаганды ў разліку на самыя шырокія колы людзей марна было спадзявацца, што яны ўсвядомлена далучацца, будуць самаадданна рухаць наперад нацыянальна-культурнае Адраджэнне, правільна зразумець, чаму ў гады беларусізацыі так важна было ўзняць сацыяльнае значэнне беларускай мовы. Каб народ у належнай ступені ведаў гэта, адпала

б усякая неабходнасць патрабаваць строгіх санкцый да тых, хто ігнараваў, выступаў супраць беларусізацыі. Такія людзі апынуліся б у мізэрнай меншасці і аніяк не маглі б уплываць на ход яе правядзення ў жыццё.

Як ніякая іншая газета, "Зьвязда" пільна засцерагала беларусізацыю ад дэструкцыйнага ўздзеяння на яе рускага вялікадзяржаўнага шавінізму. Нягле-дзячы на заклік XVI з'езда УсеКП(б) да камуністаў пра неабходнасць узмац-нення барацьбы з гэтай шкоднай з'явай большасць беларускіх перыядычных выданняў свядома нічога ці вельмі мала пісала пра яе. Затое ў газеце "Зьвязда" ад 3 верасня 1930 г. канстатавалася, што "за апошні час мы маем яшчэ больш узмоцненае супраціўленьне беларусізацыі, супраціўленьне правядзенью работы ў галіне нацыянальнай палітыкі". У якасці аднаго з яскравых прыкладаў прыводзілася кантора сувязі г. Гомеля, намеснік загадчыка якой камуніст Зонэ не прымаў ад работнікаў ніякіх папер, напісаных па-беларуску, не раз заяўляў аб сваім нежаданні гутарыць "на чужаземнай мове", г. зн. беларускай.

З публікацый паасобных нумароў газеты "Зьвязда" можна было даведацца і пра такое, што, каб выклікаць у мас адмоўную рэакцыю на беларусізацыю, многія яе працўнікі наўмысна выступалі на сходах з такой беларускай мовай, якую вельмі мала хто з прысутных мог разумець і паважаць. Такім жа чынам даволі часта парушаліся адметнасць, вартасці беларускай мовы ў рознага роду пісьмовых дакументах, што прызначаліся для шырокага выкарыстання ў рабочых калектывах, цывільным насельніцтвам.

Для рэдакцыйнага калектыву газеты "Зьвязда" не з'яўлялася сакрэтам, што беларусізацыя набудзе незваротны характар толькі пры ўмове падтрымкі яе самымі шырокімі коламі грамадства. Таму, калі ў верасні 1930 г. ЦК КП(б)Б меркаваў на сваім пленуме разгледзець ход ажыццяўлення на Беларусі нацпалітыкі, рэдакцыя газеты звярнулася 3 жніўня 1930 г. да чытачоў з просьбай выступіць на яе старонках па дадзеным пытанні. У гэтым жа нумары быў змешчаны перадавы артыкул "За бальшавіцкія тэмпы беларусізацыі!", у якім больш гаварылася пра недахопы, чым дасягненні ў яе рэалізацыі. Другая старонка гэтага ж нумара амаль цалкам прысвячалася інфармацыі з месцаў аб ходзе і цяжкасцях ажыццяўлення беларусізацыі, негатыўных праявах рускага вялікадзяржаўнага шавінізму. А паступіла тая інфармацыя ад удзельнікаў праведзенага 28-29 ліпеня 1930 г. рэдакцыяй газеты "Зьвязда" і Фрунзенскім райкамам КП(б)Б г. Мінска налёту на шэраг ведамстваў, прадпрыемстваў і ўстаноў з мэтай вывучэння іх стаўлення да самых актуальных пытанняў беларусізацыі.

Належнай змястоўнасцю, глыбокім усведамленнем ролі саміх мас ў лада-ванні нацыянальнага жыцця вызначаўся перадавы артыкул газеты "Зьвязда" ад 28 лістапада 1930 г. "Беларусізацыю на вышэйшую ступень". У ім асабліва падкрэслена, што рухаць беларусізацыю наперад трэба праз яснае разуменне яе ролі і практычнай неабходнасці кожным чалавекам і не прымусова, а з вялікім жаданнем. Затое зусім іншае стаўленне ў газеты было да тых, хто займаў у грамадстве высокае месца і свядома зрываў палітыку беларусізацыі: "Усіх тых, хто сабатуе ўстаноўленыя тэрміны беларусізацыі паасобных зьвеньняў дзяржаўнага апарату, хто проста ці ўскосна падрывае справу нацыянальна-культурнага будаўніцтва… павінен прыцягвацца да самай суровай адказнасьці".

На матэрыялах "Зьвязды" чытач вучыўся разумець, наколькі гэта не толькі архіважная, але і складаная праблема ўкаранення беларускай мовы ў грамадскае жыццё, г. зн. туды, дзе да гэтага непадзельна панавала руская мова. Па гэтай прычыне больш пашырана за беларускую была яна і ў міжасобасных зносінах гарадскіх жыхароў, у асяроддзях рабочага класа і інтэлігенцыі. Глыбока не разбіраючыся ва ўсіх тонкасцях і складанасцях запланаванага пераходу з рускай мовы на родную мову тытульнай нацыі рэспублікі, некаторыя шчырыя прыхільнікі і непасрэдныя праваднікі ідэй беларусізацыі ў практыку праяўлялі пэўную паспешлівасць і гарачку, звярталіся да адпаведных арганаў з просьбай ужыць прымусовыя метады.

Пасланы газетай "Зьвязда" Таўкачоў для праверкі стану беларусізацыі на прадпрыемтсвах і ў арганізацыях Наркамгандлю БССР, дзе не праяўлялася асаблівай увагі да яе ажыццяўлення, зрабіў такую выснову: "Адміністрацыя павінна поўнасьцю скарыстаць свае правы для таго, каб прымусіць усіх супрацоўнікаў ужываць беларускую мову". ("Зьвязда", 19 лістапада 1930 г.). Са зробленай высновай не пагаджаліся ў газеце, бо такі прымус, акрамя шкоды, не мог прынесці аніякай карысці для беларусізацыі. Гэта павінен быў бы добра разумець і сам Таўкачоў з адказу яму кансультанта імпартнага аддзела таго ж наркамата Ратнэра: "Хорошо говорю и пишу на белорусском языке, но говорить я на нем не буду, а если заставят – буду говорить исключительно по-еврейски". ("Зьвязда", 19 лістапада 1930 г.).

Варта адзначыць, што для такіх публікацый перыядычнага друку канца 20-х – пачатку 30-х гадоў з'яўлялася характэрным занадта шмат крытыкаваць кіраўнікоў наркаматаў і ведамстваў, прадпрыемстваў і ўстаноў за недастатко-вую ўвагу на тых, хто між сабой не ўжывае беларускай мовы, але затое вельмі мала пісалася з

прыцягненнем вучоных-лінгвістаў пра вырашальную ролю апошняй у нацыянальна-культурным развіцці, узмацненні этнаканса-лідацыйных працэсаў беларускага народа. Без глыбокага ж усведамлення такой ролі бела-рускай мовы ў лесе народа немагчыма было дабіцца таго, каб людзі гаварылі на ёй пры ўсіх жыццёвых абставінах. Таму цалкам апраўдана практычна бяззменная прысутнасць моўнага аспекту ў матэрыялах "Звязды" па праблеме беларусізацыі.

Не ад выпадку да выпадку, а стала асвятляла рэдакцыя газеты "Зьвязда" пытанні ажыццяўлення беларусізацыі ў вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школе, добра ведаючы, што ад гэтага ў вырашальнай ступені залежаў лёс беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння ўвогуле. У гэтым жа самым прэстыжным звяне народнай адукацыі далека не ўсё было на належным узроўні з беларусізацыяй, асабліва на тэрыторыі Гомельшчыны, якую толькі ў 1926 г. РСФСР вярнула БССР. У артыкуле некага Я-скага "Бязьдзейнасьць парт’ячэек – на руку вялікадзяржаўным шавіністам" (20.X. 1930 г.) паведамлялася, што гэтыя элементы адкрыта разгарнулі варожую дзейнасць супраць беларусізацыі ў Гомельскім чыгуначным тэхнікуме і дамагліся значнага ўплыву на некаторых з яго навучэнцаў.

На старонках ніводнай з газет, як "Зьвязды" так грунтоўна не асвятляліся месячнікі беларусізацыі. Калі стала вядома, што тэрміны яе завяршэння не вытрымліваюцца, партыйныя і савецкія органы даволі часта пачалі праводзіць такога роду мерапрыемствы. І яны, за рэдкім выключэннем, давалі станоўчыя вынікі. Сур’ёзна падышла газета "Зьвязда" да інфармавання сваіх чытачоў аб арганізацыі і правядзенні намечанага на верасень 1930 г. месячніка самапра-веркі беларусізацыі. Шмат крытычнага матэрыялу змясціла яна 24 верасня 1930 г. пад агульным загалоўкам "Месячнік беларусізацыі праходзіць слаба". Шэраг істотных недахопаў удалося выявіць у час яго і на прадпрыемствах, установах Менска, у прыватнасці на фабрыцы "Беларусь", кіраўнікі якой, хаця і ведалі беларускую мову, аднак пры выкананні сваіх службовых абавязкаў карысталіся толькі рускай. “З 106 партыйцаў гэтай фабрыкі толькі 12 выпісваюць "Зьвязду". Бюлецені, насьценгазеты, абвесткі на фабрыцы - усе пішуцца на расійскай мове". Прыводзіліся факты, што галоўбух Камунбанка Скокаў "настойліва дамагаўся адміністрацыйнага пакараньня тэй машыністкі, якая пералажыла яго работу з расійскай мовы на беларускую. Ня менш абураючы выпадак вялікадзяржаўнага шавінізму меў месца на курсах пры Наркамфіне. Калі адзін курсант адказваў на беларускай мове, дык выкладчык

запрапанаваў яму "пакінуць сваю нямецкую мову" і гаварыць па-расійску.

Парт’ячэйкі гэтых установ да вылазкі вялікадзяржаўных шавіністых аднесь-ліся прымірэнча, ня вынесьлі гэтыя факты на суд шырокай грамадзкасьці, ня далі ім належнай палітычнай ацэнкі".

Рэдакцыя газеты "Зьвязда" ўзяла на сябе галоўную ролю і па асвятленні ходу падрыхтоўкі да аб’яўленага ў адпаведнасці з рашэннямі кастрычніцкага (1930) пленума ЦК КП(б)Б месячніка праверкі беларусізацыі, прызначанага на апошні месяц года. Гэтаму пытанню яна адвяла 10 лістапада цэлую старонку. Будучы крэўна зацікаўленай у поспехах ажыццяўлення беларусізацыі, рэдакцыя ставіла свей задачай найперш паказаць, што перашкаджае гэтаму з тым, каб выпра-цаваць і правесці ў час месячніка эфектыўныя захады па хутчэйшым развязван-ні нацыянальнага пытання на Беларусі. У ліку пераканаўчых фактаў зрыву палітыкі беларусізацыі называліся: "адмаўленьне паасобных работнікаў пошты ў Горках рабіць падпіску на беларускія газэты", адкрытае нежаданне спецыя-лістаў і служачых шэрагу наркаматаў і ведамстваў, установ і прадпрыемстваў ужываць на працы беларускую мову. Меў месца такі факт, што спецыяліст з Лесаб'яднання Бумбэр, які працаваў на Беларусі ўжо дзесяць гадоў, на адным са сходаў "дэманстрацыйна пачаў гаварыць на нямецкай мове, а калі яму задалі пытаньне, чаму ён не гаворыць на беларускай, адказаў: "яшчэ не навучыўся". Зусім апраўдана ў гэтым нумары рэдакцыя "Зьвязды" звярнула ўвагу на ўдзел моладзі ў беларусізацыі. Яна высока ацаніла, што па ініцыятыве ЦК ЛКСМБ праведзены трохмесячнік пралетарскай беларускай і нацменаўскай культуры, адной з асноўных задач якога з'яўлялася і "канчатковая беларусізацыя камса-мольскай арганізацыі". Важна, што ў час гэтага трохмесячніка асаблівая ўвага была звернута на тыя ўсходнія раёны, якія толькі ў 1926 г. увайшлі ў склад БССР і значна адставалі ад іншых яе раёнаў у правядзенні беларусізацыі. Так, "у Гомельскай камсамольскай арганізацыі, у тым ліку ў гарадзкім, Залінейным, Н.-Беліцкім і Рэчыцкім РК ЛКСМБ былі арганізаваны спэцыяльныя ўдарныя брыгады, ініцыятыўныя групы, заключыўшыя паміж сабой дагаворы па сацспаборніцтве, ставячы перад сабой асноўнай мэтай найхутчэйшае вывучэньне і аўладаньне беларускай мовай, найхутчэйшы перавод работы камсамольскіх ячэек на беларускую мову". Але, як паказала праведзеная ў кастрычніку 1930 г. праверка, на такі шлях сталі далека не ўсе камсамольскія арганізацыі гэтай вобласці. У матэрыялах праверкі адзначалася, што "высунутая партыяй задача

аб пераводзе работы на беларускую мову праведзена ў большасьці сваей толькі фармальна і, як правіла, на беларускай мове пішуцца толькі пратаколы". У штодзённым жа жыцці, дома, ля варштата і ў самой камсамольскай ячэйцы яна не выкарыстоўваецца.

Чарговы раз вяртаючыся да снежаньскага месячніка праверкі беларусізацыі газета "Зьвязда" ў перадавым артыкуле "Беларусізацыю на вышэйшую ступень" (28.XI.1930) прапаноўвала такую праверку праводзіць "пры самым шырокім удзеле рабочых, калгасьнікаў, беднаты і бядняцка-серадняцкага сялянства". Усім партыйным ячэйкам рэкамендавалася шырока абмеркаваць пытанне аб месячніку і вызначыць "тыя канкрэтныя мерапрыемствы, якія трэба правесьці, зыходзячы з тых канкрэтных умоў, у якіх працуе арганізацыя". Абавязковай умовай лічылася, каб у штабы па кіраўніцтве ходам правядзення праверкі беларусізацыі, якія ствараліся пры ўсіх райкамах КП(б)Б, уваходзілі рабочыя-ударнікі, камсамольцы, калгасны, батрацкі і бядняцкі актыў.

Па зразумелых прычынах галоўным участкам, на які патрабавалася звярнуць самую пільную увагу пры правядзенні месячніка праверкі беларусізацыі, з'яўлялася сфера адукацыі. Незадоўга да яго завяршэння газета "Зьвязда" (23.XII. 1930) прызнала, што тут далека не ўсё знаходзіцца на належным узроўні, асабліва ва ўсходніх раёнах. Разам з тым меліся сур'ёзныя недахопы ў беларусізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу ВНУ, тэхнікумаў і ў самой сталіцы БССР, не выключаючы БДУ. Частка выкладчыкаў, студэнтаў яго факультэта народнай гаспадаркі была супраць ужывання беларускай мовы пры чытанні лекцый і правядзенні практычных заняткаў.

Калі засталося прыкладна з дзесятак дзён да сканчэння месячніка праверкі беларусізацыі і работы сярод працоўных нацменшасцяў, ЦК КП(б)Б прыняў спецыяльную пастанову па дадзеным пытанні. Трэба палічыць за станоўчае, што ў ёй на гэты раз асаблівая ўвага звярталася на неабходнасць разгортвання шырокай растлумачальнай працы сярод мае аб значэнні беларусізацыі. На гэта ж скіроўвала ўвагу сваіх чытачоў і рэдакцыя газеты "Зьвязда" (20.XII. 1930), каментуючы змест вышэй згаданага партыйнага дакумента. Яна прапаноўвала партыйным арганізацыям даць рашучы адпор тым асобам, якія распаўсюджвалі чуткі, што нібыта з заканчэннем месячніка праверкі беларусізацыі можна будзе лічыць завершанай усю працу на гэтай важнай дзялянцы нацыянальнай палітыкі.

Досыць часта рэдакцыя газеты "Зьвязда" як орган ЦК КП(б)Б брала на сябе абавязак даць ацэнку асвятленню розных пытанняў

беларусізацыі на старонках іншых перыядычных выданняў з тым, каб актывізаваць іх ролю ў прапагадзе дасягнутага тут поспеху, выкрыцці недахопаў. Такога падыходу трымалася яна і пад час не раз ужо згаданага снежаньскага месячніка. Яе асабліва цікавіла, як газеты рыхтуюць калектывы прадпрыемстваў і ўстаноў да ўдзелу ў месячніку праверкі беларусізацыі, бо апошні прадугледжвалася правесці, як ніколі раней, масава і дзейсна, каб нарэшце дасягнуць поўнай беларусізацыі як дзяржаўнага, так і гаспадарчага апаратаў. "У выкананьні гэтай задачы, – адзначалася ў газеце ад 19 лістапада 1930 г., – друк адыгрывае вялізарнае значэньне. Аднак прагледжаныя газэты "Рабочий", "Чырвоная Зьмена", "Савецкая Беларусь" гаворац за тое, што яны яшчэ не павярнуліся тварам да выкананьня гэтай пастановы.

Газэты "Рабочий" і "Чырвоная Зьмена" на працягу апошняга месяца ні словам ні абмовіліся аб месячніку праверкі беларусізацыі, нібы гэта іх не датычыць. Яны абмежаваліся тым, што зьмясьцілі на сваіх старонках некалькі карэспандэнцкіх заметак аб становішчы беларусізацыі, зафіксавалі факт і на гэтым скончылі справу. Палосы гэтых газет кажуць аб тым, што рэдакцыі не паставілі ў цэнтр увагі гэтыя палітычныя заданы.

Яшчэ горшы малюнак прадстаўляе "Савецкая Беларусь". Яна зусім засталася "глухой" і бястурботнай да важнейшага палітычнага пытаньня, якое высунуў пленум ЦК КП(б)Б. Яна не зьмясціла ніводнай заметкі аб ходзе беларусізацыі".

Гэтая справядлівая крытыка слаба падзейнічала на пазіцыю кіраўніцтва ўсіх вышэйназваных газет. Яны працягвалі надаваць больш увагі асвятленню барацьбы з "нацдэмакратызмам", чым выкананню пастаўленых перад беларусі-зацыяй задач. У сваім нумары ад 5 снежня 1930 г. газета "Зьвязда" вымушана была прызнаць, што месячнік праверкі беларусізацыі не выйшаў "на адпавед-ную палітычную вышыню", што "не разгорнута яшчэ пагрэбная масавая праца". У сувязі з гэтым даваліся парады – у пэўнай ступені і даволі слушныя, – як палепшыць становішча з правядзеннем месячніка беларусізацыі. І ўсё ж, па вядомых прычынах, ён не даў таго эфекту, на які разлічвалі. Не той ужо быў час.

1930 год – гэта яшчэ быў годам, калі, здавалася, што ў дзяржаўнай палітыцы беларусізацыі ёсць будучае. Наступны такога ўражання ўжо не ствараў. На яе стала менш увагі звяртаць нават газета "Зьвязда", бо партыя пачала крута мяняць курс сваёй нацыянальнай палітыкі, на што не мог не рэагаваць яе друкаваны орган. Уклад журналісцкага корпуса "Зьвязды" у папулярызацыю ідэі беларусізацыі і яе ажыццяўленне – адна з найвыдатнейшых

старонак у гісторыі гэтага друкаванага органа. Вывучэнне, творчае выкарыстанне тагачаснага пазітыўнага вопыту могуць сёння ў многім дапамагчы больш глыбокаму асвятленню ў перыядычным друку Рэспублікі Беларусь кардыналь-ных пытанняў самабытнага нацыянальна-культурнага развіцця, у якога з году ў год не меншае, а, наадварот, павялічваецца іх колькасць.

## ЧАСТКА II

## САВЕЦКІЯ РЭПРЭСІІ ЯК ІНСТРУМЕНТ ВЫНІШЧЭННЯ ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАГА ГЕНАФОНДУ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ

### §1. На подступах да масавых фізічных рэпрэсій

Перамогу над расійскім самаўладдзем можна было здабыць толькі пры ўмове актыўнага ўдзелу ў барацьбе з ім карэннага насельніцтва нацыянальных рэгіёнаў царскай імперыі. Такога не маглі не ведаць і не зафіксіраваць у сваіх праграмных дакументах кіраўнікі розных палітычных партый. Даволі прагрэ-сіўную пазіцыю у гэтым займалі многія дзеячы Расійскай сацыял-дэмакратыч-най партыі і асабліва тыя з іх, што ішлі за Уладзімірам Леніным. Па яго прапа-нове ў прынятую у 1903 годзе першую праграму РСДРП унеслі вельмі прагрэ-сіўны для ўсіх часоў, усіх народаў пункт наступнага зместу: "Права насель-ніцтва атрымліваць адукацыю на роднай мове, права кожнага грамадзяніна гаварыць на роднай мове на сходзе, у грамадскіх і дзяржаўных установах". Такое не магло не імпанаваць настроям нярускіх народаў, бо і тады для многіх не з'яўлялася сакрэтам, што адукацыя ў чужой мове – гэта самы дзейсны сродак разбурэння нацыянальнай самабытнасці любога народа.

З утварэннем і актывізацыяй дзейнасці РСДРП яе ідэалогамі выдадзена вялікая колькасць кніг па нацыянальнай праблематыцы, якія адыгралі важную ролю ва ўключэнні ў рэвалюцыйны рух карэннага нярускага насельніцтва царскай імперыі, становўча адбіліся на росце яго этнічнай свядомасці. З пра-грэсіўнымі нацыянальнымі лозунгамі выступалі бальшавікі падчас падрых-тоўкі і правядзення Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года. Ад такіх лозунгаў яны не маглі адступіць і пасля яе перамогі. Невыпадкова на ўсёй велізарнай тэрыторыі пражывання нярускіх народаў пачалася па заканчэнні Грамадзянскай вайны буйнамаштабная стваральная нацыянальная праца. На першым часе ёй садзейнічала і бальшавіцкая партыя, пільна сочачы, аднак, за тым, каб нацыянальнае будаўніцтва не выходзіла за дапушчальныя рамкі, не прыносіла шкоды агульнапралетарскаму інтарэсу, не стрымлівала распаўсюджвання ідэй Кастрычніцкай рэвалюцыі па краінах і кантынентах. Хто гэтага не разумеў ці не хацеў разумець, апантана служыў нацыянальнаму інтарэсу з мэтай хутчэйшага вызвалення свайго народа ад цяжкіх паследкаў імперскай вялікадзяржаўнай шавіністычнай палітыкі, не карыстаўся вялікім даверам у новых уладаў, трапляў у поле зроку

створаных імі рэпрэсіўных органаў і мог несці суровае пакаранне. Каб не трапіць у іх лапы, больш далёкабачныя нацыянальныя дзеячы кідаліся наўцёкі, шукаючы надзейнае сховішча ў іншых краінах. З усім гэтым у поўнай меры давялося сутыкнуцца і нашай старонцы.

Насуперак вялікім стараням рознага роду расійскіх вялікадзяржаўных шавіністаў беларускі народ так і не адышоў у нябыт у XIX ст. Наадварот, як толькі чалавецтва ўступіла ў новае, XX стагоддзе, ён на ўсю моц заявіў пра сваё жаданне трымацца беларускасці не толькі на побытавым, але і на больш высо-кім узроўні: мець школу з нацыянальнай мовай навучання, выдаваць на ёй перыёдыку, літаратуру, ладзіць тэатральнае жыццё. Узнікненне такога цалкам заканамернага жадання стала магчымым дзякуючы наяўнасці ў беларускага народа крытычнай масы нацыянальна самасвядомай інтэлігенцыі. Рознымі шляхамі адбывалася яе ўзгадаванне, у тым ліку і ў вышэйшых навучальных установах Санкт-Пецярбурга, Масквы, Кіева, Варшавы. Цесна знітаваная з народам інтэлігенцыя дапамагала яму выстаяць перад суровымі выпрабаван-нямі Першай сусветнай і Грамадзянскай войнаў, Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года, стварыць дзве формы дзяржаўнасці – Беларускую Народную Рэспуб-ліку (БНР) і Беларускую Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку (БССР).

Звязаныя з беларускім нацыянальна-дзяржаўным і культурным адраджэннем праблемы даводзілася вырашаць у надзвычай цяжкіх умовах, часта рызыкуючы жыццём найлепшых сыноў і дачок Бацькаўшчыны. Першай вялікай стратай для яе стала забойства Фабіяна Шантыра (1887-1920). Яго, як і Янку Купалу, Якуба Коласа, Алеся Гаруна, Антона і Івана Луцкевічаў, Вацлава Іваноўскага, Вацлава Ластоўскага і іншых вялікіх людзей дала нашаму народу залатое ў яго гісторыі дзесяцігоддзе – 80-я гады XIX стагоддзя.

Радзіма Ф. Шантыра – багаты на гістарычныя падзеі Слуцк. Да прызыву ў 1914 г. у армію давялося папрацаваць у гэтым горадзе хатнім настаўнікам, мулярам, прыватным адвакатам. Яшчэ да таго, як споўнілася дваццаць гадоў, арыштоўваўся за рэвалюцыйную дзейнасць. Пра вялікі аўтарытэт Ф. Шантыра сведчыць яго ўдзел у снежні 1917 г. у працы Усебеларускага кангрэса (з’езда). Прырода шчодра надзяліла случаніна дарам пісьменніка, публіцыста. У 1918 г. ў Слуцку выйшла яго невялікая па памеры, але вельмі надзённая для таго складанага часу і несастарэлая пасёння брашура “Патрэбнасць нацыянальнага жыцьця для беларусаў і самаадзначэньня народу”. Яе аўтара крайне непакоіла, што ўсяго гэтага не дала беларусам

Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 года, і яны працягвалі жыць у складзе Заходняй вобласці (у верасні 1918 г. перайменавана ў Заходнюю камуну) Расійскай Федэрацыі як нейкае адгалінаванне рускай нацыі. Новыя ўлады не збіраліся на яго роднай мове ствараць школы, выдаваць кнігі, часопісы, літаратуру, весці службовае справаводства. Пакінулі ўсё такім, як у найгоршыя мураўёўскія часы.

Бальшавікі моцна памыліліся, праводзячы мураўёўскую русіфікатарскую палітыку на Беларусі. Не ўлічылі, што зараз яна ўжо не такая, як у першыя дзесяцігоддзі пасля задушэння нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863-1864 гадоў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. За гэты час сфармавалася вялікая плеяда высокаадукаваных, бясконца адданых беларускаму нацыянальнаму інтарэсу інтэлігентаў. Сярод іх адной з самых прыкметных фігураў, несумнен-на, быў Ф. Шантыр, што можна пацвердзіць шэрагам асноватворных палажэн-няў з вышэйназванай яго брашуры, найперш дасканалым разуменнем ролі нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, з якой вялі бязлітасную барацьбу ідэолагі на чале з сакратаром Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б) Вільгельмам Кнорыным, латышом па нацыянальнасці. Насуперак іх стараням Ф. Шантыр усяляк стараўся ўтрымаць беларусаў ад дэнацыяналізацыі, абудзіць у іх этнічную самасвядомасць. У брашуры ён пераканаўча даводзіў, што “толькі народ свядомы сваёй душы, свайго нацыянальнага “я”, свайго народнага імяні становіцца раўнапраўным сябруком у сям’і народаў свету”.

Выключна важную ролю ў фармаванні здаровай нацыянальнай самасвядо-масці Ф. Шантыр адводзіў асвеце і культуры ў роднай мове, сцвярджаючы, што толькі ў такіх варунках “яны дадуць нам можнасць падняцца з той вяковай пропасці, у каторай знаходзіцца наш народ да сюль; яны з беларуса – пакорнага слугі ўсіх, зробяць раўнапраўнага грамадзяніна, без памылак магучаго каваць сваё шчасця, сваю долю; яны ўваскрэсяць яго да творчай гасударственнай працы пад уласным нацыянальным сцягам; яны заставяць другія народы пава-жаць беларуса; а ня глядзець на яго як на нешта мёртвае, часамі з усмешкай”.

Зусім лагічна, што, калі 1 студзеня 1919 года быў утвораны вышэйшы орган дзяржаўнай улады БССР – Часовы рабоча-сялянскі савецкі ўрад Беларусі, за камісара па нацыянальных справах у ім прызначылі Ф. Шантыра. Такога магут-нага нацыянальнага гарту, такога высокага ўзроўню адукацыі палітык пры адпаведнай сітуацыі мог бы вельмі многа карыснага зрабіць

дзеля адраджэння Бацькаўшчыны, фармавання ў беларускага народа так неабходнай яму ў той складаны, адказны час дзяржаўнай свядомасці. Партыйны цэнтр у Маскве хутка разабраўся ў небяспецы трымаць Ф. Шантыра на такой лёсавызначальнай для Беларусі пасадзе і ўжо ў лютым 1919 года яго кідаюць у мінскую турму. Праўда, фізічна расправіцца пакуль што не адважваюцца, баючыся выклікаць незадаволенасць у асяроддзі беларускіх нацыянальных сіл. На такі крок маладыя савецкія рэпрэсіўныя органы пойдуць толькі тады, калі Ф. Шантыра перавядуць на кіраўнічую пасаду ў 16-ю армію. Асобы аддзел гэтай арміі прысудзіць беларускага патрыёта да вышэйшай меры пакарання, што і будзе выканана 26 красавіка 1920 года ў горадзе Навазыбкаў. Ф. Шантыр да такой ступені быў не вінаваты, што нават яго ідэйны праціўнік сакратар ЦК КП(б)Б В. Кнорын прыкладаў стаpанні не дапусціць падобнай кары. На такой жа пазіцыі стаяў і другі высокі палітык БССР Аляксандр Чарвякоў. Як бачым, з кіраўнікамі сімвалічнай беларускай дзяржавы ніколькі не лічыліся спецслужбы Расійскай Федэрацыі. Іх крывавая расправа з Ф. Шантырам – гэта найвялікшая нацыянальная страта XX стагоддзя для ўсяго беларускага народа. Шкада, што гэта сёння ўсведамляецца толькі вузкім колам людзей цвёрдай нацыянальнай арыентацыі. У дадзеным выпадку народ і сотай долі не ведае з таго, што данеслі да яго разумення афіцыйныя ідэолагі пра смерць 15-гадовага піянера-партызана Марата Казея ў гады нямецкай акупацыі.

Не так жорстка склаўся лёс для земляка Ф. Шантыра грамадска-палітычнага дзеяча і пісьменніка Язэпа Дылы (1880-1973). Яшчэ да ўтварэння БССР ён паспеў шмат карыснага зрабіць для нацыянальна-культурнага адраджэння Бацькаўшчыны. Таму нядзіўна, што і яго мы бачым у складзе Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі. Правільная, узважаная пазіцыя Я. Дылы па многіх лёсавызначальных для беларускага народа пытаннях увесь час сус-тракала супраціўленне з боку аднаго з самых уплывовых у гэтым урадзе палітыкаў Аляксандра Мяснікова (Меснікяна). Пры самым актыўным удзеле яго Цэнтральнае бюро ЦК КП(б)Б выносіць у лютым 1919 года рашэнне аб арышце і высылцы Я. Дылы з Беларусі. Для больш суровага пакарання сур'ёзных падстаў не знайшлося. Я. Дылу нават дазволілі жыць і працаваць у Маскве, абы толькі не дома, каб не даць паўплываць на правядзенне тут паліты-кі, адпаведнай карэнным нацыянальным інтарэсам Бацькаўшчыны. У Маскве, зразумела, у яго не было такіх магчымасцяў.

З бальшавіцкіх рэпрэсіўных органаў нельга зняць віну за заўчасную смерць актыўнага дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху, таленавітага пісьменніка Алеся Гаруна (1887-1920; ураджэнец Мінскага павета), хаця адышоў на той свет у выніку цяжкай хваробы і за межамі Савецкай Беларусі (пахаваны ў Кракаве). Аднак жа, будучы хворым на сухоты, ён апынуўся там толькі таму, што ратаваўся ад праследу бальшавіцкіх рэпрэсіўных органаў за ўдзел у будаўніцтве сапраўднай беларускай дзяржаўнасці. Хаця Алесю Гаруну не выпала дастаткова часу для заняцця літаратурнай дзейнасцю, ён з 20-гадовага ўзросту зведаў смак царскіх турмаў і ссылак, ад якіх вызваліўся толькі пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года і адразу ж уключыўся ў беларускі нацыянальна-вызвольны рух. Але і ў гэтых экстрэмальных умовах з-пад яго пяра выходзілі выдатныя самых розных жанраў літаратурныя творы, прасякнутыя вялікай любоўю да роднай Бацькаўшчыны. Чатырохрадкоўе аднаго з яго вершаў

Ты, мой брат, каго зваць беларусам,
Роднай мовы сваёй не цурайся;
Як не зрокся яе пад прымусам,
Так і вольным цяпер не зракайся

нібыта напісана для нас, сучаснікаў, і, думаецца, не хутка страціць сваю актуальнасць.

Вось такіх двух сапраўдных волатаў беларускай нацыі Фабіяна Шантыра і Алеся Гаруна забраў у нас 1920 год.

Пакінуць Бацькаўшчыну з-за нежадання трапіць у лапы савецкіх карніцкіх службаў вымушаны былі сотні таленавітых, адданых свайму народу прадстаў-нікоў беларускай інтэлігенцыі. Сярод іх было нямала і тых, хто ў лістападзе-снежні 1920 года ў складзе слуцкіх паўстанцаў вёў няроўнае змаганне з савецкімі войскамі. Дзеля хутчэйшага аднаўлення эканомікі, вырашэння сацыяльна-палітычных і культурных задач паслякастрычніцкая Беларусь мела вельмі вялікую патрэбу ў адукаваных людзях, але іх неставала з-за масавых уцёкаў за мяжу. Праз пэўны час некаторыя з іх вернуцца дамоў (на сваю бяду, бо панясуць суровыя пакаранні), астатнія ж будуць прымнажаць інтэлектуаль-ны патэнцыял чужых краін.

Становішча ў БССР у першае паслярэвалюцыйнае дзесяцігоддзе склад-валася так, што аніводнага з уцекачоў нельга абвінаваціць у нежаданні праца-ваць на карысць яе рэжыму, у імкненні стварыць сабе за мяжой заможнае жыццё. Яны ратаваліся ад рэпрэсій, якія ў савецкай Беларусі насілі перманентны характар. Да ліку тых, хто яшчэ да распачатай па ініцыятыве ідэалагічных службаў бальшавіцкай партыі барацьбы з

“нацдэмакратызмам”, да разгулу масавых фізічных рэпрэсій стаў ахвярай савецкага рэжыму, належыць такая выдатная ў гісторыі беларускага тэатральнага мастацтва асоба, як Францішак Аляхновіч. Як вядомага прыхільніка і змагара за беларускую нацыянальную ідэю яго ў лістападзе 1926 года запрасілі з Вільні ў Менск для ўдзелу ў працы Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу. Ехаў з вялікай радасцю, бо разумеў вострую патрэбу ў такой рэформе. Візіт жа ў Менск закончыўся арыштам і ссылкай на Салаўкі на дзесяцігадовы турэмны тэрмін. Да канца не адседзеў, бо па ініцыятыве савецкага ўрада ў 1933 года быў абменены на польскага вязня, беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, аўтара першай “Беларускай граматыкі для школ” (1918) Браніслава Тарашкевіча. Вярнуўшыся ў Вільню, ён напісаў і выдаў за ўласны кошт кнігу “У кіпцюрах ГПУ” (1937), якая была перавыдадзена ў 1994 годзе ў Мінску.

Акрамя адкрытага вынішчэння непажаданых бальшавіцкаму рэжыму людзей, пастаўленыя яму на службу рэпрэсіўныя органы шырока практыкавалі патаемныя забойствы, штучна стваралі няшчасныя здарэнні для гібелі тых ці іншых асобаў. Рабілася гэта, надзіва, даволі тонка, умела, што сапраўдныя прычыны смерці многіх так і засталіся невядомымі для гісторыі. Ад першых гадоў усталявання савецкай улады і на Беларусі даводзілася сутыкацца з фактамі трагічнай гібелі зусім не шараговых для яе людзей, часта пры нявысветленых абставінах. У ліпені 1921 года такі лёс напаткаў сакратара ЦК КП(б)Б Сцяпана Булата, ураджэнца вёскі Слабада (цяпер Уздзенскі раён). Да таго як заняць такую высокую партыйную пасаду, яму давялося папрацаваць настаўнікам, а з ліпеня 1920 года – у Менскім губернскім аддзеле народнай асветы. Ён належаў да ліку тых работнікаў, хто вельмі добра разумеў і ўсяляк імкнуўся надаць народнай асвеце нацыянальны характар. Паслядоўна адстой-ваў нацыянальны інтарэс і пад час працы рэдактарам газеты “Савецкая Беларусь”, чым зразумела, не мог не прыцягнуць да сябе ўвагу і ўстаноў, для якіх наш край быў і чужым, і далёкім. Сведчаннем таго, што С. Булат быў вялікім патрыётам Бацькаўшчыны, дбаў пра яе эканамічны і культурны росквіт, сапраўдную дзяржаўную незалежнасць сведчыць стаўленне да яго трагічнай, загадкавай гібелі такіх людзей, як Янка Купала, Змітрок Бядуля, Міхась Чарот. На яе яны адгукнуліся вершамі, адпаведна: “На смерць Сцяпана Булата”, “На смерць Сцяпана Булата” і “Дарогай памяці Сцяпана Булата”.

Вельмі рана трапіў у поле зроку спецслужбаў грамадскі і палітычны дзеяч, пісьменнік, мовазнавец Язэп Лёсік. І не таму, што 25 красавіка 1918 года разам з іншымі кіраўнікамі падпісаў

ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вернападданіцкую тэлеграму кайзеру Германіі Вільгельму ІІ. Гэтым службам больш за ўсё не падабалася актыўная ў мінулым і ў савецкі час нацыянальная культурна-асветніцкая дзейнасць Я. Лёсіка. І яны мелі рацыю, бо яна была і сапраўды надзвычай актыўнай, цалкам адпаведнай патрэбам беларускага народа. Многіх камандзіраваных Масквою ў Беларусь бальшавікоў, напэўна ж, не задавальняў нязменны погляд Я. Лёсіка на яе карэннае насельніцтва, як на выключна самабытную нацыю. Такі погляд ён настойліва прапагандаваў яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года, пішучы: "... мы, беларусы, павінны заўсёды трымаць на ўвазе, што народ мы асобны, не падобны ні да расійцаў, ні да палякаў". Гэта прынцыпова разыходзілася з тым, што думалі, як глядзелі на беларусаў шавіністычна настроеныя колы Расіі і Польшчы. Тое, што зрабіў для сваёй Бацькаўшчыны Я. Лёсік, рэдагуючы газету "Вольная Беларусь" (чэрвень 1917 – лістапад 1918 г.), мала каму ўдавалася з яго папярэднікаў і наступнікаў. Знаёмства чытачоў з публікацыямі ў газеце дапамагло многім у выбары правільнага шляху ў той складаны і заблытаны час, калі розныя расійскія і польскія партыі і рухі ішлі на ўсё дзеля схілення на свой бок як мага больш людзей нашага краю.

Асаблівую каштоўнасць мелі матэрыялы газеты па праблемах нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, выкарыстання яе роднай мовы ў грамадскім жыцці, асабліва ў сферы народнай адукацыі. Яшчэ і сёння многія дзяржаўныя чыноўнікі так глыбока не ўсведамляюць ці не хочуць усведамляць выключнага значэння палітычнай незалежнасці краіны, як гэты разумеў Я. Лёсік. У яго публікацыі "Аўтаномія Беларусі" (1917) даводзілася: "...Беларусь мае ўсё патрэбнае, каб зрабіцца краем цвітучым і багатым, а не такім заняпалым і занядбаным, якім стаўся ён пад загадам маскоўскай дзяржаўнасці. І мы ўсе, грамадзяне зямлі беларускай, павінны далажыць усіх сіл, каб скінуць з сябе апякунства чужынцаў і збавіць наш край аб кіраўніцтва маскоўцаў". Кастрычнік 1917 года не спраўдзіў спадзяванняў аўтара вышэйпрыведзенай цытаты на беларускую дзяржаўнасць.

Актыўным правадніком сваіх прагрэсіўных поглядаў на розныя пытанні нацыянальнага жыцця заставаўся Я. Лёсік і пасля ўтварэння БССР, што падабалася далёка не ўсім як кіраўнікам. Найбольшую трывогу і незадаволенасць выклікалі яго настойлівыя дзеянні па забеспячэнні беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай, шматлікія артыкулы мовазнаўчага характару, якія не пакідалі раўнадушнымі нікога з сапраўдных руплііўцаў матчынага слова. Прагрэсіўныя, цвёрдай нацыянальнай пазіцыі колы

грамадства з вялікай радасцю сустрэлі выхад у 1922 годзе ў свет падручніка Я. Лёсіка “Практычная граматыка беларускае мовы”. А вось бальшавіцкай арыентацыі рускамоўная тады газета “Звезда” назвала гэты падручнік “контррэвалюцыйным”, што дало падставу савецкім рэпрэсіўным органам арыштаваць яго аўтара. Няцяжка здагадацца, чым бы ўсё гэта закончылася, калі б у падтрымку выдатнага мовазнаўца не выступіў уплывовы ў партыйных вярхах народны камісар асветы БССР Усевалад Ігнатоўскі. У снежні 1922 года Я. Лёсіка выпусцілі на волю, але цяпер ужо трэба было абачліва займацца распрацоўкай дадзенай праблемы, не так рашуча адстойваць законныя правы беларускага народа на прыярытэтнае выкарыстанне яго роднай мовы ва ўсіх сферах дзейнасці чалавека. Праўда, такая абачлівасць была не ў характары Я. Лёсіка. Таму яго роля ў распрацоўцы розных праблем беларускага мовазнаўства, ва ўмацаванні пазіцый роднага слова ў грамадскім жыцці выключна вялікая. Арышт у 1930 годзе і высылка з БССР у наступным годзе не дазволілі яму і надалей займацца так патрэбнай народу працай на ніве нацыянальнай філалогіі. Жыццёвы шлях закончыў у 1940 годзе ў саратаўскай турме.

Прыведзеныя вышэй матэрыялы далёка не поўнасцю раскрываюць увесь трагізм тагачаснага беларускага нацыянальнага руху. Аднак было б сур’ёзнай памылкай не прызнаваць пазітыўнага значэння факта ўтварэння беларускай дзяржаўнасці ў форме БССР у актывізацыі дзейнасці яе інтэлектуальных сіл. Сказанае ў поўнай меры датычыць і вучоных-гісторыкаў. Несумненна, сярод іх самай прыкметнай фігурай быў ураджэнец вёскі Такары Брэсцкага павета Усе-валад Ігнатоўскі (1881-1931). Больш сталаму за яго веку Мітрафану Доўнару-Запольскаму (1867-1934) у палярэвалюцыйныя гады даводзілася жыць і праца-ваць пераважна за межамі роднага краю. Толькі трохі больш за год знаходзіўся на пасадах загадчыка кафедры гісторыі Беларусі педагагічнага факультэта Бела-рускага дзяржаўнага універсітэта, старшыні гісторыка-археаграфічнай камісіі Інстытута беларускай культуры, супрацоўніка Дзяржплана БССР. Падрыхтавны ім рукапіс кнігі “История Белоруссии” з-за адмоўнай рэцэнзіі (датавана 6 люта-га 1926 г.) намесніка загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б Віталя Сербенты (1895-1980; літовец па нацыянальнасці) знаходзіўся на паліцах ў спецсховішчах і быў выдадзены ў перакладзе на беларускую мову толькі ў 1994 годзе. Голад на гістарычную літаратуру нідзе не быў такім сур’ёзным, як у БССР. Выдадзеную ў 1910 годзе невялічкую кнігу Вацлава Ластоўскага “Кароткая гісторыя Бела-русі” крайне

рэдка можна было адшукаць у якой-небудзь публічнай ці прыватнай бібліятэках. Беларускі народ працягваў жыць у гістарычным бяспамяцтве, што не магло не хваляваць нацыянальную эліту, да якой належаў У. Ігнатоўскі. На пасадзе народнага камісара асветы БССР (снежань 1920 – люты 1926 г.) ён для ўмацавання нацыянальнага фактару ў гэтай сферы зрабіў больш, чым усе кіраўнікі яе, разам узятыя, за пасляваенныя гады.

Пра сябе як гісторыка-навукоўца У. Ігнатоўскі ўпершыню заявіў выданнем у 1919 годзе ў Менску кнігі “Кароткі нарыс гісторыі Беларусі”. Праз два гады з-пад яго пяра выйшла праца “Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі”, а годам пазней – “Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецця”. Пры жыцці аўтара першая і трэцяя з названых кніг некалькі разоў перавыдаваліся. Знаходзіў У. Ігнатоўскі час для напісання гістарычных прац і пасля таго, як стаў кіраўнікам Інстытута беларускай культуры (студзень 1926 – снежань 1928 г.), а затым першым прэзідэнтам Беларускай акадэміі навук (снежань 1928 – стдзень 1931 г.). Яго апошняя кніга па гісторыі “1863 год на Беларусі” (1930) прысвечана адной з самых яскравых старонак у барацьбе беларускага народа за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Дзякуючы гэтай кнізе шырокія колы людзей даведаліся пра свайго слыннага сына, сама-ахвярнага змаганца за іх шчасце – Кастуся Каліноўскага.

Неацэнная заслуга У. Ігнатоўскага заключаецца ў адыходзе ад памылковых поглядаў на гісторыю беларускага народа, як на нейкае адгалінаванне польскай ці рускай гісторыі. З яго кніг пераканаўча вынікала, што на працягу многіх стагоддзяў беларусы ішлі сваім самастойным гістарычным шляхам, з’яўляліся дзяржаўным народам. Усё гэта не ўпісвалася ў савецкую гісторыяграфію, у адпаведнасці з якой беларусы нібыта ўпершыню ў сваім жыцці стварылі ўласную дзяржаву толькі ў выніку перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года. За процілеглыя такой фальсіфікацыі погляды, а таксама за актыўны ўдзел у нацыянальна-культурным адраджэнні, хаця і на савецкай аснове, ён трапіў у вялікую няміласць бальшавіцкага апарату і пастаўленых яму на службу рэпрэ-сіўных органаў. Сваімі безупыннымі выклікамі на допыты яны моцна аслабілі стан здароўя, псіхалагічную раўнавагу таленавітага беларускага гісторыка, які ў гэтай невыноснай сітуацыі не знайшоў іншага сродку, як пакончыць жыццё самагубствам. Пасля трагічнай гібелі У. Ігнатоўскага на дзесяцігоддзі прыпыні-лася развіццё айчыннай гістарычнай навукі, што крайне адмоўна адбілася на стане інтэлектуальнага патэнцыялу беларускага народа. Зробленага У.

Ігнатоў-скім на ніве беларускай гістарычнай навукі больш чым дастаткова, каб яго імя насілі адно з вышэйшых навучальных установаў Берасцейшчыны (радзімы славу-тага навукоўца) і Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.

Калі адышоў на той свет У. Ігнатоўскі, у Беларусі ўжо поўным ходам вялася барацьба з надуманым бальшавіцкімі ідэолагамі буржуазным нацдэмакратыз-мам. Залічвалі да яго самых адданых беларускай справе людзей. У пацвярджэн-не сказанаму прывяду ў алфавітным парадку хаця б з дзесятак такіх асобаў: Антон Баліцкі – наркам асветы БССР, адзін з творцаў і праваднікоў дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі; Максім Гарэцкі – класік беларускай літаратуры, рэдактар шэрага беларускіх газет, выкладчык вышэйшых навучальных установаў, навуковец, аўтар “Гісторыі беларускай літаратуры”; Уладзімір Дубоўка – рэдактар беларускага тэксту “Весніка ЦВК, СНК і СПА Саюза ССР”, выклад-чык беларускай мовы ў Камуністычным універсітэце народаў Захаду, першы рэдактар часопіса “Беларускі піянер”, паэт; Мікалай Каспяровіч – краязнавец, лексікограф, мастацтвазнавец і літаратуразнавец, навуковы сакратар Цэнтраль-нага бюро краязнаўства пры Інстытуце беларускай культуры, сакратар краязнаўчага часопіса “Наш край”, аўтар “Беларуска-расійскага слоўнічка”, “Віцебскага краёвага слоўніка” і “Слоўнічка ўласных найменняў”, кніг – “Бела-руская архітэктура”, “Матэрыялы да вывучэня віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва”, “Краязнаўства”; Вацлаў Ластоўскі – навуковец, пісьменнік, літаратуразнавец рэдагаваў і выдаваў у Коўне (Літва) часопіс “Крывіч”, дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея ў Менску, загадчык кафедры этнаграфіі пры Інбелкульце, акадэмік БАН, неадменны сакратар БАН, аўтар “Кароткай гісторыі Беларусі”, “Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка”, “Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі; Язэп Лёсік – пісьменнік, педагог, акадэмік БАН, аўтар шматлікіх прац па гісторыі Беларусі і мове – “Практычная граматыка беларускае мовы”, “Беларуская мова: Пачатковая граматыка”, “Бела-руская мова: Правапіс”, “Сінтаксіс беларускае мовы”, “У справе рэформы нашае азбукі”, “Спрашчэнне правапісу”, “Да рэформы беларускага правапісу”, “Граматыка беларускае мовы: Фанетыка”, “Граматыка беларускае мовы: Марфалогія”; Сцяпан Некрашэвіч – мовазнавец, старшыня Навукова-тэрмінала-гічнай камісіі Наркамата асветы БССР, арганізатар і старшыня Інстытута беларускай культуры, акадэмік БАН, віцэ-прэзідэнт БАН, дырэктар інстытута мовазнаўства БАН, старшыня Галоўнавукі пры наркамасвеце БССР, аўтар першага паслярэвалюцыйнага “Беларускага лемантара”, школьнай чытанкі “Роднае слова”,

шматлікіх публікацый па праблемах беларускай мовы, у т.л. “Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы”, “Аб пашырэнні акання на чужаземныя словы”, “Праект беларускага правапісу”; Дзмітрый Прышчэпаў – наркам земляробства БССР, старшыня сельскагаспадарчай секцыі Інбелкульта; Аркадзь Смоліч – навуковец у галіне эканомікі, сельскай гаспадар-кі і картаграфіі, народны сакратар асветы ў першым урадзе Беларускай Народ-най Рэспублікі, стваральнік і першы старшыня арганізаванага ў Вільні Таварыс-тва беларускай школы, прафесар і загадчык кафедры ў Беларускім дзяржаўным універсітэце і Інбелкульце, за навуковыя працы. “Размяшчэнне насельніцтва па тэрыторыі БССР” і “Сельскагаспадарчыя раёны БССР” узнагароджаны Малым залатым медалём Рускага геаграфічнага таварыства, аўтар вучэбнага дапамож-ніка “Геаграфія Беларусі”; Аляксандр Цвікевіч – гісторык, філосаф, публіцыст, прэм’ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі ў Празе, вучоны сакратар Інбелкульта, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі БАН, аўтар кніг: “Кароткі нарыс ўзнікнення Беларускай Народнай Рэспублікі”, “Беларусь: Палітычны нарыс”, “Адраджэнне Беларусі і Польшча”, “Западно-руссизм”: Нарысы з гісто-рыі грамадскай мыслі на Беларусі з XIX і пачатку XX ст.”

Багатую тэарэтычную спадчыну мелі і многія іншыя асобы, што па сфабрыкаванай у 1930 годзе Аб’яднаннем дзяржаўным палітычным упраўлен-нем БССР справе “Саюз вызвалення Беларусі” былі беспадстаўна абвінавачаны ў нацыянал-дэмакратызме і панеслі незаслужанае пакаранне. Гэтыя дарэшты адданыя нацыянальна-адраджэнскай ідэі інтэлектуалы, не ведаючы стомы, цягнулі за сабой спаўна нагружаны воз беларусізацыі. Таму нядзіва, калі апошняя засталася без такіх змаганцаў, яна тут жа збавіла свае абароты, а дзесьці пад сярэдзіну 30-х гадоў зусім заглухла, пакінуўшы ў галовах і сэрцах усіх сумленных беларусаў самыя добрыя ўспаміны аб сябе. Памятаюць пра яе, як штосьці вельмі велічнае ў айчыннай гісторыі, і па сённяшні дзень.

Наколькі сур’ёзна кіраўніцтва БССР узялося за змаганне з надуманым нацдэмакратызмам, перараканаўча сведчыць зняцце ў 1930 годзе з пасады рэкта-ра Беларускага дзяржаўнага універсітэта, таленавітага вучонага – гісторыка Уладзіміра Пічэты. На Беларусь жа ён прыбыў не самохаць, а па просьбе яе ўрада з мэтай дапамагчы стварыць, а затым і ўзначаліць гэтую прэстыжную ўстанову.

Хаця ў выніку барацьбы бальшавіцкіх ідэалагічных і рэпрэсіўных службаў з “нацдэмамі”, за рэдкім выключэннем, не

лілася кроў, усё ж гэта быў адчувальны ўдар па нацыянальнай эліце. Звыш сотні прадстаўнікоў яе панеслі розныя меры пакарання. Адарваныя ад сваіх прафесійных заняткаў, раскіданыя пераважна па аддаленых кутках Савецкага Саюза, яны не маглі, як раней, аддаваць свой талент на карысць інтэлектуальнага патэнцыялу Бацькаўшчыны. Многія з абві-навачаных у "нацдэмакратызме" вымушаны былі працаваць на ўчастках, дзе не патрабавалася аніякай прафесійнай падрыхтоўкі. І гэта ў той час, калі ў СССР і яго складовай частцы БССР адчувалася такая вострая патрэба ў кадрах з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Партыйныя і савецкія органы Беларусі адарвалі ад творчага працэсу нямала такіх людзей, якіх ахвотна ўзялі б да сябе на службу самыя перадавыя, развітыя краіны Еўропы. Рэпрэсіі ў дачыненні да "нацдэмакратаў" істотна затармазілі эканамічны, сацыяльна-палі-тычны і духоўны прагрэс на Беларусі, моцна аслабілі этнічны ген яе тытульнай нацыі.

Між тым, гэта былі не самыя горшыя часы ў яе гісторыі. Чакаць жа іх давялося нядоўга, штогод несучы ўсё новыя і новыя ахвяры, бо спецслужбы не спыняліся фабрыкаваць справы супраць нацыянальнай эліты беларускага народа. Так, у выніку праведзенага ў 1933 годзе палітычнага працэсу па справе "Беларуская народная грамада" больш за 40 чалавек, пераважна пісьменнікі, настаўнікі і нават студэнты, апынуліся за межамі сваёй малой радзімы. Адны з іх трапілі ў папраўчыя лагеры, другія – у аддаленыя месцы ссылкі. Куды больш сур'ёзныя пакаранні вынеслі ў тым самым годзе па выдуманай АДПУ БССР справе "Беларускі нацыянальны цэнтр" ("БНЦ"). Па ёй праходзілі і вядомыя дзеячы нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, якіх, каб вырата-ваць ад рэпрэсій з боку польскіх уладаў, кіраўніцтва СССР абмяняла на польскіх палітзняволеных. Першая партыя актыўных змаганцаў за права беларусаў быць гаспадарамі на сваёй зямлі прыбыла ў БССР у кастрычніку 1930 года, другая – у верасні 1932 года. Паколькі бальшыня гэтых дзеячоў – людзі высокай адукацыі, шчыра адданыя беларускай справе, яны атрымалі ў БССР даволі прэстыжныя адказныя пасады. Вось толькі знаходзіцца на іх давялося нядоўга, бо трапілі ў поле зроку савецкага таталітарнага палітычнага рэжыму. Лагічна меркаваць, што ён наўмысна перацягнуў у БССР самых зацятых барацьбітоў супроць рэакцыйнай нацыянальнай палітыкі Польшчы ў Заходняй Беларусі. Варта адзначыць, што ў той час, калі ў БССР па віне партыйнага Цэнтра ў Маскве пайшла на спад беларусізацыя, на "ўсходніх крэсах" Польшчы беларусы, дзякуючы сваім сапраўдным лідэрам, працягвалі актыўна ўдзельнічаць у нацыянальна-

культурным адраджэнні. Такая неадпаведнасць нацыянальнай сітуацыі ў БССР і Заходняй Беларусі не магла не раздражняць савецкае кіраўніцтва. Найлепшага сродку дасягнуць жаданага выніку яно не бачыла, як перацягнуць лідэраў нацыянальнага руху Заходняй Беларусі ў БССР і ўзяць пад строгі кантроль іх дзейнасць на новым месцы. Такога вопыту было больш, чым трэба, у партыйнага ідэалагічнага апарату і спецслужбаў.

Ушчыльную займаючыся пытаннямі дзейнасці падазроных людзей, спец-службы прыходзяць да высновы аб наяўнасці ў БССР нібыта ячэек "Беларуска-га нацыянальнага цэнтра" ў самім Дзяржплане БССР, а таксама ў наркаматах асветы, ахове здароўя, сувязі, Беларускай акадэміі навук, Беларускай сельгас-акадэміі ў Горках Магілёўскай вобласці, Саюзе беларускіх пісьменнікаў, Беларускай ваеннай акрузе. Прыналежных да "БНЦ" абвінавачвалі ў намерах звяржэння савецкай улады ў БССР з дапамогай Польшчы і стварэння пад яе пратэктаратам Беларускай буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі. Віна, як бачым, надзвычай сур'ёзная, таму "чацвёрка" АДПУ прысудзіла 25 чалавек да расстрэлу (прыгавор выкананы 17 мая 1934 г.). Такая ж мера пакарання была вынесена і яшчэ 15 асобам, але яе замянілі на 10-гадовы тэрмін зняволення ў папраўча-працоўных лагерах. З рэпрэсаваных па справе "БНЦ" 161 чалавек было нямала такіх, што складалі гонар беларускай нацыі, мелі велізарнае жаданне сваёй працай прымнажаць яе духоўны патэнцыял. Назаву сярод іх некаторых палітвязняў, перададзеных у БССР з Заходняй Беларусі: Максім Бурсевіч – член прэзідыума і выканаўца абавязкаў кіраўніка аддзела культуры і навукі Дзяржплана БССР, член Камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры Прэзідыуме Беларускай акадэміі навук; Павел Валошын – адказны сакратар ЦК Міжнароднай арганізацыі дапамогі рабочым (МАДР) БССР, памочнік дырэк-тара Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна і супрацоўнік створанага пры ёй Бібліяграфічнага інстытута: Флягонт Валынец – працаваў у апараце Нарка-мата камунальнай гаспадаркі БССР; Язэп Гаўрылік – загадчык сектара Нарка-мата асветы БССР; Ігнат Дварчанін – доктар філасофіі, аўтар кнігі "Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве", працаваў у Камісіі па вывучэннні Заходняй Беларусі, выканаўца абавязкаў дырэктара Інстытута мовазнаўства БАН; Пётр Мятла – знаходзіўся на кіраўнічых пасадах у Вышэй-шым савеце народнай гаспадаркі БССР, старшыня Камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі, аўтар кнігі "Аб таварыстве бларускай школы і яго барацьбе" і шэрага іншых прац па гісторыі нацыянальна-вызваленчага руху; Сымон Рак-Міхайлоўскі – аўтар музыкі на верш

Максіма Багдановіча “Зорка Венера”, супрацоўнік сектара навукі Наркамата асветы БССР, дырэктар Беларускага дзяржаўнага сацыяльна-гістарычнага музея, уваходзіў у склад Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР.

Відаць, аніводзін з гэтых удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, якіх ўрад БССР запрасіў да сябе на працу, не прадбачыў, што атрымае нож у спіну. Было б лішнім даказваць, якую вялікую патрэбнасць у такіх інтэлігентных, са здаровай нацыянальнай самасвядомасцю людзях мела тагачасная Беларусь. Бальшавіцкі ідэалагічны апарат, рэпрэсіўныя органы не палічыліся з гэтым і сваю брудную справу давялі да канца. Бальшыня са згада-ных асобаў і шмат іншых арыштаваных па розных сфальсіфікаваных справах прадоўжылі свой жыццёвы шлях у Салавецкіх лагерах, у такіх жа нядобрай памяці прымусовых установах Комі АССР.

Пасля 1933 года ў Беларускай ССР назіралася пэўнае зацішша. Аднак яно якімсьці чынам станоўча не адбілася на развіцці эканомікі і культуры, і асабліва апошняй. Выключэнне з гэтай сферы дзейнасці многіх таленавітых людзей і замена іх пасрэднымі, да таго ж яшчэ нацыянальна не зарыентаванымі, у най-большай ступені закранула літаратурны працэс, гуманітарныя навукі. Нават патрыярхі беларускага прыгожага пісьменства нічым не маглі парадаваць свайго чытача. Уся ўвага гісторыкаў скіроўвалася ідэалагічным апаратам да даследавання рэвалюцыйнай барацьбы пралетарыяту, падзеяў грамадзянскай вайны, ходу сацыялістычнага будаўніцтва, “варожай” дзейнасці нацыяналістаў. Планамерны дзяржаўны характар набыло выцясненне з грамадскага жыцця беларускай мовы рускай. Такое ў значнай ступені аблягчалася тым, што першая пазбавілася падтрымкі ад многіх сваіх рэпрэсаваных руплівцаў. Нядзіва, што ў гэтых экстрэмальных варунках Савет народных камісараў БССР змог прыняць у жніўні 1933 года пастанову “Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу”, якая адкрыла шырокія магчымасці сродкамі рускай мовы русіфікаваць бела-рускую. З яе лексікі ў масавым парадку вытураліся самабытныя беларускія словы ці запазычаныя з латыні, польскай мовы і замяняліся рускімі.

Хочацца заўважыць, што распачатыя на Беларусі на стыку 20-30-х гадоў рэпрэсіі дасягнулі даволі шырокага маштабу ў 1933 годзе, супаўшы па часе з прыходам да ўлады ў гэтым жа годзе ў Нямеччыне Адольфа Гітлера. Цяжка сказаць, што абумовіла такую сінхроннасць. Затое добра вядома, што гэты год меў шмат чаго агульнага як для беларускага, так і нямецкага народаў у

прычыненні вялікай шкоды для іх перадавых нацыянальных сіл. Прынцыповая розніца толькі ў тым, што на Беларусі барацьбу з імі вялі носьбіты камуністыч-ных ідэй, а ў Германіі, наадварот, змагаліся з людзьмі падобных поглядаў. Не-араўнальна лепш тут ставіліся да ўсіх катэгорый інтэлігенцыі, праца якіх служыла сацыльна-эканамічнаму і культурнаму прагрэсу краіны. Такой увагі да сябе не адчувала ад дзяржавы толькі інтэлігенцыя яўрэйскага паходжання.

### §2. Пік экзекуцый

Не толькі ў прыродзе, але і ў чалавечым грамадстве даволі часта зацішша змяняецца бурай. У 1937 годзе яна, як няпрошаны госць, уварвалася з усходу і на Беларусь. Яе карніцкія органы, папоўніўшы свой склад за кошт прысланых Масквою загартаваных у правядзенні рэпрэсій чэкістаў, з зайздроснай актыў-насцю распачалі тут сваю брудную крывавую справу. І на гэты раз барацьба вялася не з шараговымі людзьмі, а з сапраўднай красой беларускага народа: адданымі яго нацыянальным інтарэсам інтэлігенцый і палітыкамі. На радзіму вярталі тых, хто на думку савецкай феміды не так сур'ёзна быў пакараны па сфабрыкаваных у канцы 20-х – пачатку 30-х гадоў справах. Вярталі ж дзеля таго, каб на гэты раз ужо напоўніцу выкарыстаць закладзеныя ў савецкі крымі-нальны кодэкс меры пакарання, не спыняючыся нават і перад расстрэлам. Да 1937 года на Беларусі яго пускалі ў ход толькі ў выключна рэдкіх выпадках. Цяпер гэта стала нормай у дачыненні да ўсіх катэгорый грамадзян, але найперш да нацыянальна зарыентаваных інтэлектуалаў, дзяржаўных і партыйных дзеячоў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў.

Арганізаваць масавае вынішчэнне ні ў чым невінаватых людзей ды яшчэ ў мірны час, у дваццацігоддзе перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года, думаецца, наўрад ці адважылася б кіраўніцтва БССР. Як і ў многіх іншых выпадках, ініцыятыва належала агульнасаюзным ідэалагічным, уладным струк-турам. Пачынаючы з 24 студзеня 1937 года друкаваны орган ЦК УсеКП(б) газета "Правда" пачала рэгулярна змяшчаць матэрыялы з судовага працэсу над антысавецкім трацкісцкім цэнтрам. Ад таго часу пад якімі толькі агрэсіўнымі загалоўкамі ні паступала ў гэты партыйны орган інфармацыя ад народа, працоўных калектываў. Так, на старонцы пад нумарам пяць газеты "Правда" ад 25 студзеня стракацяць такія назвы дасланых матэрыялаў: "Расстрелять троц-кистских бандитов", "Колхозная ненависть", "Искореним последствия вреди-тельства", "Смерть

диверсантам!”, “Раздавить гадов!”, “Проклятье троцкист-ской банде”, “Стереть троцкистов с лица земли”. А вось некалькі характэрных для дадзенай газеты эпіграфаў, якія яна падавала ад імя народа: “По всей стране идет грозная волна народнага гнева. Трудящиеся СССР, крепче сплачиваясь вокруг большевистской партии и советского правительства, шлют проклятья презреннай банде иуды-Троцкого.

Стереть с лица земли наемных псов фашизма-таково требование великого народа” (25.01.37).

“Все нарастает великий гнев великого советского народа. Из городов и сел, с заводов и шахт, из колхозов и совхозов несется единодушное требование:

Смерть всей троцкистской своре! Беспощадно раздавить гадину!” (26.01.37).

“Рабочие, кохозники, интеллигенция – весь советский народ на много-численных митингах, идущих сейчас по стране, выражает свой гнев и презрение к троцкистским убийцам.

В тысячах резолюций трудящиеся требуют стереть с лица земли подлых изменников родины, фашистских агентов, шпионов и вредителей” (27.01.37).

“Со всех концов страны несется требование: изменников родины, убийц и шпионов – расстрелять” (28.01.37).

Савецкі суд не мог не выканаць гэтага “шчырага” жадання шматмільёнага народа, народа-будаўніка сацыялізму. У адпаведнасці з вынесеным 30 студзеня 1937 года прысудам 13-ці “ворагам савецкага народа” была вызначана найвышэйшая мера пакарання – расстрэл. У перадавым артыкуле газеты “Прав-да” ад 30 студзеня 1937 года прыгавор суда быў названы голасам народа.

Спадзявацца, што ў такой сітуацыі не распачнецца паляванне на “ворагаў савецкага народа” ў БССР, ніяк нельга было. Гэта ж заходні фарпост СССР, дзе не месца тым, хто не прымае ідэй кастрычніцкай рэвалюцыі, шкодзіць справе сацыялістычнага будаўніцтва, імкнецца адрадзіць капіталістычныя парадкі з дапамогай заходніх краін.

З інтэлігенцкіх колаў першымі трапілі ў савецкую рэпрэсіўную мясарубку пісьменнікі, навукоўцы і педагогі. Выпадковасцю гэтага ніяк нельга назваць, бо менавіта пералічаныя катэгорыі элітарнай часткі грамадства зрабілі найбольшы ўнёсак у пабудову нацыянальнага жыцця беларускага народа ў адпаведнасці з яго культурна-моўнымі традыцыямі, якое цяпер сталася не даспадобы савецкай уладзе. Упершыню за апошнія два-два з паловаю стагоддзі ўдалося нарэшце з парадку дня зняць пытанне аб культурна-моўнай асіміляцыі беларусаў у

такіх небяспечных, агрэсіўных формах, як паланізацыя і русіфікацыя. Аўтарытэт беларускасці ў яе законных носьбітаў узняўся на такую вышыню, пра што не марылі нават самыя вялікія аптымісты.

Зусім інакш глядзелі на нацыянальнае адраджэнне Беларусі ў Маскоўскім крамлі. Не радавалі яго аналагічныя працэсы і ў іншых саюзных рэспубліках, бо гэта, лічылася, перашкаджае ўтварэнню адзінай культуры для не так далёкага шчаслівага камуністычнага грамадства. Таму сярод рэпрэсаваных у 1937-1938 гадах вельмі вялікая вага падае на нацыянальную эліту з ліку навуковай, мастацкай і педагагічнай інтэлігенцыі, цесна знітаваных з народам палітыкаў, кіраўнікоў вытворчасці, розных грамадскіх арганізацый. З пісьменнікаў у жывых пакінулі толькі зусім нязначную колькасць. У іх неставала сіл нават для таго, каб выканаць сацыяльны заказ бальшавіцкай партыі па апяванні "гіста-рычных" дасягненняў Савецкага саюза ў пабудове камуністычнага грамадства. На замену больш за 80 загінутых у самы пік рэпрэсій пісьменнікаў прыходзілі ў мастацкую літаратуру асобы, загадзя скіраваныя на працу ў духу сацыялістыч-нага рэалізму. У многіх з іх першыя і ўсе наступныя творы былі прысвечаны ўсхваленню савецкай рэчаіснасці, узбагачэнню беларускай сталініяны. Не таму, што трэба, вучылі беларускую моладзь у школах, тэхнікумах (вучылішчах), інстытутах. Веданне ёю нацыянальнай гісторыі звялі да нулявой адзнакі. І ўсё гэта не ў малой ступені з-за таго, што Беларусь засталася практычна без нацыя-нальнай навуковай, мастацкай, педагагічнай інтэлігенцыі.

З аналізу прафесійнага складу ахвяр сталінізму яскрава вынікае, што найбольшы інтарэс у рэпрэсіўных службаў выклікалі асобы, занятыя ў розных сферах творчай этнаўтваральнай дзейнасці: мастацкай літаратуры, беларускай філалогіі, гісторыі, духоўнасці, культуры і мастацтве. Здаралася і такое, што пакаранне спасцігала параўнальна маладых у дадзеных сферах дзейнасці асобаў. Так, у кастрычніку 1937 года савецкія рэпрэсіўныя органы абарвалі ў трыццаці-гадовым узросце творчае жыццё былой выпускніцы літаратурна-гістарычнага факультэта БДУ, а затым супрацоўніцы Інстытута літаратуры і мовы АН БССР Ганны Бараноўскай (ураджэнка вёскі Манчыцы Слуцкага раёна).

Мы справядліва за вялікі гонар лічым, што ў незалечанай ад ран імперыя-лістычнай і грамадзянскай войнаў Беларусі ўжо ў ліпені 1921 года была засна-вана буйная вышэйшая навучальная ўстанова – Беларускі дзяржаўны універсі-тэт. Але давайце звернем увагу на яго сумную гісторыю: з усіх сямі рэктараў міжваеннага перыяду шэсць сталі ахвярамі савецкіх рэпрэсій! Можна падумаць,

што рэспубліка была перанасычана такога высокага рангу спецыялістамі ў галі-не вышэйшай школы і з імі можна было абыходзіцца, як з пешкамі на шахмат-най дошцы. Лішнім было б даказваць, як ўсё гэта негатыўна адбілася на навучальна-выхаваўчым працэсе БДУ, ад дзейнасці якога ў многім залежаў стан народнай адукацыі БССР у цэлым. У выніку савецкага тэрору сваіх найлепшых кадраў пазбавілася яе навука.

Але ніштo так не паралізавала адраджэнскі нацыянальна-культурны працэс як бязлітаснае, ледзь не пагалоўнае вынішчэнне пісьменніцкай інтэлігенцыі. Партыйныя ідэолагі ведалі, што менавіта ад яе творчасці ў найбольшай ступені залежыць стан нацыянальна-культурнага жыцця беларускага народа, яго этнічная самасвядомасць. За параўнальна сціслы тэрмін пісьменнікам удалося надзвычай многае зрабіць на літаратурнай ніве, надаўшы ёй у поўным сэнсе слова рэльефнае нацыянальна-беларускае аблічча. Без перабольшвання мастац-кая, публіцыстычная літаратура стала наймагутным нацыястваральным факта-рам. Каб пазбавіць яе такой прагрэсіўнай якасці, нкусаўцы па заданні бальшавіцкай партыі ўчынілі лютую расправу з майстрамі мастацкага слова. Касцы з савецкіх рэпрэсіўных спецорганаў так заўзята працавалі на беларускай літаратурнай сенажаці, што як на ёй была закончана асноўная кампанія, у рэспубліцы ў жывых засталося толькі паўтара дзесятка пісьменнікаў. Пры ўсім жаданні яны былі не ў стане сваёй працай на ніве мастацкай літаратуры хоць збольшага задаволіць патрабаванні і густы чытачоў. Ды многім проста не пісалася, бо ўвесь час жылося пад страхам трапіць у лік пасажыраў “чорнага ворана”. Палітычны рэжым, па віне якога толькі за 29-30 кастрычніка 1937 года былі расстраляны 17 беларускіх і яўрэйскіх пісьменнікаў – гэта Міхась Зарэцкі, Алесь Дудар, Платон Галавач, Анатоль Вольны, Васіль Каваль, Валеры Маракоў, Юрка Лявонны, Зяма Півавараў, Васіль Сташэўскі, Якаў Браніштэйн, Хацкель Дунец, Майсей Кульбак, Ізі Харык, Арон Юдэльсон, Тодар Кляштарны, Янка Нёманскі, Юлі Таўбін, ніяк нельга назваць дэмакратычнымі.

Убачыўшы, як парадчэў персанальны склад пісьменніцкай арганізацыі, ідэа-лагічны апарат ЦК КП(б)Б паспрабаваў штосьці зрабіць па пашырэнні яе шэрагаў найперш за кошт маладых, адданых ідэям кастрычніцкай рэвалюцыі асобаў. У моц розных прычынаў не ўсё з гэтым атрымалася. Як вядома, у найлепшы, зоркавы час Саюз савецкіх пісьменнікаў Беларусі меў у сваім складзе 320 сяброў. Напярэдадні ж вайны з Германіяй у яго шэрагах засталося толькі 40. Асаблівай творчасцю яны не маглі вызначацца, паколькі да любой выказанай імі думкі пільна

прыглядваліся адданыя бальшавікам цэнзары. Па гэтай прычыне пісаць даводзілася не тое, што вымагаў сюжэт задуманага твора, а тое, да чаго не прыдзярэцца афіцыйная цэнзура. У такіх варунках ніколі не зможа рэалізавацца сапраўдны талент пісьменніка. Нездарма ў другой палове 30-х гадоў нічога вартага, цікавага тагачаснаму і сённяшнему чытачу не выйшла з-пад пяра беларускіх пісьменнікаў. Віна не іх, а таталітарнай сістэмы кіравання грамадствам.

Ва ўмовах узмацнення масавых фізічных рэпрэсій было вырашана пера-гледзець справы тых былых заходнебеларускіх нацыянальных дзеячоў, каго судзілі 9 студзеня 1934 года, з мэтай вынясення ім больш суровай меры пакарання. Да расстрэлу былі прыгавораны 22 чалавекі, у іх ліку М. Бурсевіч, П. Валошын, Ф. Валынец, Я. Гаўрылкін, І. Дварчанін, С. Рак-Міхайлоўскі. Што гэта былі зусім не радавыя для беларускай нацыі людзі, а, наадварот, яны складалі элітарнае ядро апошняй, прадвызначалі яе будучыню лёгка перака-нацца на прыкладзе любога з вышэйпералічаных дзеячоў. У друку не раз прыводзіліся звесткі, што з запрошаных з Заходняй Беларусі асобаў фізічна знішчана ў 1938 годзе прыкладна 200 чалавек. Мала які таталітарны палітычны рэжым можа пахваліцца такой “гасціннасцю”.

Апошнім часам з розных крыніц стала вядома, што паводле жорсткасці да падследных савецкія карніцкія органы ні ў чым не ўступалі замежным аналагічным структурам. Пацвярджаецца гэта і шматлікімі прыкладамі з бела-рускай практыкі. Пра іх многія ведалі ўжо і ў даваенны перыяд. Лютыя бясчынствы спецслужбаў трымалі пад вялікім страхам ледзь не ўсю навуковую, мастацкую інтэлігенцыю. Пад яго магутным уздзеяннем шмат у каго падала ўсялякае жаданне ствараць навуку, пісаць літаратурныя творы, займацца іншымі відамі духоўнай дзейнасці. Сярод паасобных творцаў такіх катэгорый мелі месца выпадкі самагубства. Рабіў спробу перарэзаць сабе горла нават цесна інтэграваны ў сацыялістычны лад, бальшавіцкую ідэалагічную сістэму старшыня Праўлення саюза пісьменнікаў БССР Міхась Клімковіч (з 1934 па 1938 г.). З-за нанесенай сабе раны ён пасля не мог нармальна, выразна прамаў-ляць словы. У пякельнай сітуацыі масавых фізічных рэпрэсій спакойна пачувалі сябе толькі зусім нямногія прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, часцей ўсе тыя, чыя праца не так цесна была звязана з адлюстраваннем савецкай рэчаіснасці.

Фізічныя меры пакарання да такой ступені былі старанна прадуманы, рас-працаваны, што часам ахвяра ў руках нкусаўцаў, калі толькі ў іх у гэтым існавала патрэба, мог абгаварыць і сябе, і сваю радню, і самага блізкага сябра. Так было і з дзеячкаю

беларускага нацыянальнага руху, педагогам Палутай Бадуновай (1885-1938). Не вытрымаўшы ў час допытаў лютых катаванняў, яна паказала сваю малодшую сястру Марыю (у першыя гады пасля рэвалюцыі працавала за настаўніцу ў адной са школ г. Менска, затым інструктарам па дашкольным выхаванні Наркамата асветы БССР, дырэктарам менскай школы) у якасці контррэвалюцыянеркі, за што яе паслалі ў лагер адбываць пяцігадовы тэрмін пакарання[1].

Савецкая гільяціна амаль цалкам вынішчыла беларускую нацыянальную палітычную эліту, здольную ажыццяўляць скіраваную на беларускі інтарэс дзяржаўную дзейнасць. Як бы мы нізка ні ставілі рэальны статус нацыянальна-га суверэнітэту міжваеннай БССР, як бы моцна ён ні залежаў ад агульнасаюз-нага палітычнага Цэнтра, усё-такі ў рэспубліцы, хаця і з вялікімі цяжкасцямі, фармаваўся аддады ёй дзяржаўны чыноўніцкі апарат. Калі раней у ім толькі адзінкі трывала стаялі на беларускіх нацыянальных пазіцыях, былі актыўнымі носьбітамі мясцовых культурна-моўных традыцый, дык на 10-м-15-м гадах існавання БССР дзяржаўныя дзеячы з такім нацыянальным гартам з'яўляліся зусім не рэдкасцю. Беларускія культурна-моўныя стандарты прымалі за норму праз пэўны час і многія камандзіраваная Масквою да нас высокія дзяржаўныя, партыйныя дзеячы, не выключаючы нават некаторых першых сакратароў камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі. Нашыя сучасныя першых катэго-рый дзяржаўныя дзеячы на некалькі парадкаў адстаюць у беларускасці ад сваіх калег 20-х-30-х гадоў мінулага стагоддзя.

Істотная рэвалюцыя ў поглядах на беларускасць адбылася ў тыя гады ў Аляксандра Чарвякова. На пачатку нацыянальна-палітычнай кар'еры ён, як і многія іншыя, не вызначаўся належнай інтэграцыяй у беларускае культурна-моўнае жыццё. Абставіны вымушалі кіраваца рускімі стандартамі, якія ўладарна панавалі і за сваёй этнічнай тэрыторый. Праца на пасадзе старшыні Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР (1924-1937 гг.) карэнным чынам змяніла яго стаўленне да ўсяго нацыянальнага, дапамагла ўбачыць у ім найма-гутнейшы фактар эканамічнага і духоўнага росквіту Бацькаўшчыны, забеспя-чэння этнакультурнай самабытнасці яе народа. Свой прагрэсіўны погляд на нацыянальнае ён не раз выкладаў у друку, падчас публічных выступленняў, што станоўча адбівалася на павышэнні этнічнай самасвядомасці ўсяго беларус-кага народа. Па розных прычынах яна працяглы час не вызначалася здаровым станам. І самую галоўную з іх А. Чарвякоў справядліва бачыў у мэтанакірава-най

[1] Звязда. 1995. 19 красавіка.

русіфікатарскай палітыцы царызму, і як толькі мог стараўся давесці гэта народу, бо хацеў, каб ён заняў больш актыўную пазіцыю на выпадак чарговага паўтору такога шкоднага варожага курсу ужо з боку савецкага ўрада. На вялікі жаль, такая навала не абмінула нас.

Аналагічнага погляду на беларускае нацыянальнае пытанне прытрымліва-лася і другая па значэнні дзяражаўная асоба старшыня Савета народных камісараў БССР Мікалай Галадзед. Родам ён быў з этнічнай беларускай тэрыторыі Браншчыны (с. Стары Крывец Навазыбкаўскага павета). На гэтай высокай дзяржаўнай пасадзе знаходзіўся з 7 мая 1927 да 30 мая 1937 года. На дадзены перыяд, як вядома, прыпалі росквіт і затуханне беларусізацыі, барацьба з надуманым нацдэмакратызмам, падрыхтоўка да правядзення масавых фізічных рэпрэсій. Ад пачатку 30-х гадоў усё цяжэй і цяжэй было рабіць штосьці карыснае для беларускай справы нават і самому старшыні СНК БССР. Калі вымушалі абставіны, бічаваў насуперак уласнаму жаданню беларускіх "нацыянал-дэмакратаў", не шкадаваў слоў для пахвальбы Масквы за "ўзважаную" ленінскую нацыянальную палітыку. І ўсё ж у яго поглядах, канкрэтных практычных дзеяннях прысутнічала больш пазітыўнага, стваральнага, чым супярэчнага беларускай нацыянальнай ідэі. Бачачы паўсталыя на яе шляху сур'ёзныя перашкоды, стараўся праз глыбокі аналіз мінулага паказаць, што можа чакаць беларускі народ пры далейшым ганьбаванні яго нацыяналь-най духоўнай спадчыны. Накшталт А. Чарвякова не баяўся і на сконе бела-русізацыі гаварыць пра смяротныя вынікі русіфікатарскай палітыкі ўладаў царскай імперыі ў дачыненні да беларусаў. Дэфармацыю іх нацыянальнай куль-туры разглядаў не як натуральны працэс, а як вынік адпаведнай палітыкі царыз-му, антыбеларускай дзейнасці праваслаўнай царквы, сістэмы народнай адука-цыі, што набыло асабліва пагрозлівы характар падчас кіравання нашым краем галоўным архітэктарам дзяржаўнага русіфікатарскага курсу Міхаілам Мураўё-вым і яго наступнікамі.

У дакладзе, прачытаным 11 ліпеня 1935 года на Юбілейнай сесіі ЦВК БССР з нагоды пятнаццацігоддзя вызвалення БССР ад белапольскай акупацыі, М. Галадзед спецыяльна спыніўся на разглядзе зместу адной з самага антыбеларускага зместу запісак М. Мураўёва на адрас расейскага імператара з тым, каб даць зразумець прысутным у зале, да чаго можа прывесці Беларусь адступленне ад уласцівых яе народу нацыянальна-культурных традыцый, што ўжо пачало сям-там мець месца ў сярэдзіне 30-х гадоў. Самае небяспечнае ў той запісцы М. Галадзедам справядліва

бачылася ў тым, што яе аўтар прасіў імепатара ўзмоцніць і падняць у нашым краі ролю рускай народнасці і праваслаўя для чаго прапанаваў “падтрымліваць праваслаўнае духавенства, паставіць яго ў становішча незалежнае і прывілеяванае... у дачыненні да агульнага адміністравання зрабіць наступныя захады: стварыць такім чынам урадавыя органы краю, каб вышэйшыя службовыя пасады і пасады паасобных начальнікаў, гэтак сама як і тыя пасады, што маюць непасрэднае сутыкненне з народам, былі б замешчаны чыноўнікамі рускага паходжання...” Прапановы М. Мураўёва з зайздроснай упартасцю праводзіліся на Беларусі, руйнуючы нацыянальныя асновы яе культурнага жыцця.

Прадбачачы, у якім небяспечным напрамку можа пайсці БССР ужо ў бліжэйшыя гады, М. Галадзед палічыў патрэбным нагадаць аўдыторыі, як цар глуміўся з беларускага народа, пашыраючы сярод яго маладых пакаленняў рускую адукацыю. У якасці прыкладу прыводзілася прынятая ў 1913 годзе Міністэрствам асветы пастанова, у адпаведнасці з якой патрабавалася, каб у школах Беларусі “дзеці розных нацыянальнасцяў атрымлівалі чыста рускі кірунак і падрыхтоўваліся да поўнага зліцця з рускай народнасцю”.

Пра погляды, канкрэтную дзейнасць М. Галадзеда ў сферы нацыянальна-дзяржаўнага, культурнага будаўніцтва не маглі не ведаць ідэалагічны апарат ЦК УсеКП(б) і спецыяльныя службы, у якіх было зусім іншае стаўленне да гэтай лёсавызначальнай для кожнага савецкага народа праблемы. Добра разу-меючы, якія цяжкасці і перашкоды давядзецца пераадольваць пры правядзенні масавых фізічных рэпрэсій у Беларусі, калі вышэйшая выканаўчая ўлада будзе знаходзіцца ў руках трывалай нацыянальнай арыентацыі дзяржаўнага дзеяча М. Галадзеда, Масква рабіла ўсё, каб расправіцца з ім. Не дома, а менавіта ў гэтым чужым, стольным горадзе савецкай імперыі органы НКУС СССР арыштоўваюць яго 14 чэрвеня 1937 года, а затым этапіруюць пад моцнай аховай у Менск. Каб не зведваць перад вынясеннем найвышэйшай меры пака-рання звярыных здзекаў следчых, у час правядзення 21 чэрвеня таго ж года чарговага допыту М. Галадзед ухітрыўся выкінуцца з акна пятага паверха. Гэта той рэдкі выпадак, калі можна апраўдаць самазабойства, бо яно засведчыла не слабаволле, а магутны волатаўскі выклік бесчалавечай савецкай таталітарнай сістэме.

Такіх шчыра адданых беларускай нацыянальнай ідэі дзяржаўных дзеячоў, як Аляксандр Чарвякоў і Мікалай Галадзед, мы не маем ужо больш за 70 гадоў. Першага закатавалі 16 чэрвеня 1937 года, другі адышоў на той свет на пяць дзён пазней. Каб у

асяроддзі сучасных дзяржаўных чыноўнікаў жыў чарвякоў-скагаладзедаўскі дух, яны не абмінулі б сваёй увагай гэтай трагічнай пяцідзёнкі ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны. Прыклад А.Чарвякова і М. Гала-дзеда пераканаўча сведчыць, што толькі цвёрдай нацыянальнай арыентацыі палітыкі ў стане працаваць у інтарэсах свайго народа, забяспечыць яму неабходныя ўмовы для развіцця заснаваных на прыродным падмурку адукацыі і культуры. Калі мы пачнем матэрыялізоўваць даўно наспелую справу ўшана-вання ахвяр масавых рэпрэсій праз стварэнне адмысловага мемарыяльнага комплексу, у цэнтры змешчаных на ім шматлікіх постацяў, несумненна, павінны знаходзіцца выявы Усевалада Ігнатоўскага, Аляксандра Чарвякова і Мікалая Галадзеда.

Шкада, што асобы з такой прагрэсіўнай нацыянальнай зарыентаванасцю, як у А. Чарвякова і М. Галадзеда, не сустракаліся сярод першых сакратароў ЦК КП(б) беларускага паходжання, бо з 30-х гадоў партыйныя лідэры такой высокай катэгорыі ўжо паступова станавіліся палітыкамі нумар адзін у рэспуб-ліцы, адцясняючы на другі план дзяржаўных дзеячоў. А не стустракаліся таму, што на гэтую адказную і ўплывовую партыйную пасаду Масква свядома пры-значала прадстаўнікоў небеларускага народа. У міжваенны перыяд ёю толькі адзін раз было зроблена выключэнне, прычым у самы пік масавых фізічных рэпрэсій, бо хацелася, каб гэтую гнюсную акцыю выканала падчас знаходжання на пасадзе першага сакратара ЦК КП(б)Б асоба беларускай нацыянальнасці. Відаць, завадатары рэпрэсій з Масквы прадчувалі, што некалі за гэтага давядзецца несці адказнасць перад гісторыяй, таму рабілі ўсё, каб самім хоць трохі ўхіліцца ад непазбежнай народнай кары, усклаўшы гэтую крывавую функцыю на мясцовых лідэраў.

У ролі галоўнага партыйнага ката ў БССР, а затым і адной з ахвяр такіх рэпрэсій давялося, вядома, не па сваёй волі выступіць Васілю Шаранговічу (ураджэнец в. Качаны сучаснага Мядзельскага раёна). Масква адкамандзіравала яго ўзначаліць партыйную арганізацыю Беларусі з Харкаўскай вобласці, дзе выконваў не такога ўжо і высокага рангу функцыю ўпаўнаважанага Кантрольнай партыйнай камісіі ЦК УсеКП(б). На пасадзе першага сакратара ЦК КП(б)Б знаходзіўся з сакавіка да ліпеня 1937 года, але і за гэты сціслы час савецкія спецслужбы фізічна зніштожылі велізарную колькасць ні ў чым невінаватых, самых адданых беларускай справе людзей. Каб зняць за гэта адказнасць з агуль-насаюзнага партыйнага Цэнтра, усю віну за злоўжыванні ў барацьбе з “ворагамі савецкага народа” ўсклалі на В. Шаранговіча і прыгаварылі да расстрэлу. Апошні дзень зямнога жыцця

партыйнага лідэра з асяроддзя беларусаў выпаў на 13 сакавіка 1938 года. Сказанае вышэй – гэта адзін з яскравых прыкладаў злачыннага выкарыстання Масквою нацыянальнага фактару пры правядзенні ў саюзных рэспубліках дзяржаўнай рэпрэсіўнай палітыкі.

Гэты ж фактар стаў прычынай рэпрэсій на Беларусі і ў дачыненні да асобаў некарэннага насельніцтва, калі яны вельмі актыўна працавалі на яе нацыяналь-ны інтарэс. У Маскоўскім крамлі баяліся і росту нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці, і росквіту нацыянальнай культуры і пашырэння сацыяльных функцый родных моваў тытульных народаў саюзных рэспублік, бо лічылі, што ўсё гэта можа прывесці да ўзмацнення цэнтрабежных сіл у СССР, выкліча няўмольную цягу савецкіх нацый і народнасцяў да незалежнага палітычнага, самабытнага культурнага жыцця. І таму, калі такому працэсу ў той ці іншай рэспубліцы садзейнічалі і прышлыя людзі, яны таксама разглядаліся як “ворагі савецкага народа”, падлягалі суроваму пакаранню. Прыкладаў такога роду хапае і ў нашым краі, народ якога пасля працяглай спячкі нарэшце абудзіўся, пажадаў ладзіць уласнае жыццё паводле сваіх прыродных стандартаў. Не даводзіцца здзіўляцца, што ў гэтых больш-менш спрыяльных варунках, асабліва ў 20-я гады, на беларускі нацыянальны інтарэс не маглі не працаваць сапраў-дныя інтэлігенты з ліку некарэннага насельніцтва, якіх лёс самымі рознымі шляхамі прывёў у гэты край. Таму і рэпрэсіі супроць такіх асобаў могуць разглядацца, як удар па нацыянальным інтэлекце Беларускай ССР.

Шмат у чым не падабаліся ідэалагічнаму бальшавіцкаму апарату погляды на беларускую історыю выдатнага знаўца і распрацоўшчыка яе Уладзіміра Пічэты. У 1930 годзе яго знялі з пасады рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта і саслалі на пяць гадоў у горад Вятка. Сярод рэпрэсаваных асобаў небеларускага паходжання, якія плённа працавалі на карысць нацыянальнаму інтарэсу БССР, садзейнічалі яе сацыяльна-эканамічнаму і духоўнаму прагрэсу, у першую чаргу заслугоўваюць быць названымі: прафесар, дырэктар Інстытута мовазнаўства БАН Пётр Бузук (родам з Малдавіі), прафесар, акадэмік БАН Цэлясцін Бурстын (родам з Галіцыі), прафесар, акадэмік БАН, дырэктар Інстытута літаратуры і мастацтва БАН Іван Замоцін (родам з Цвярской губерні), мастацтвазнавец, педагог, старшыня камісіі гісторыі мастацтва БАН масквіч Мікалай Шчакаці-хін.

Вымушаны адыход іх ад навуковай, творчай дзейнасці негатыўна абіўся на многіх баках духоўнага жыцця Беларусі ў міжваенны перыяд. У вялікім прой-грышы засталася яна з-за

арышту і зняцця з працы шматлікіх немясцовага паходжання настаўнікаў, дзеячоў культуры, якія палюбілі Беларусь і рабілі ўсё залежнае ад іх дзеля яе нацыянальна-культурнага адраджэння і росквіту. Набыты ў тыя нялёгкія гады досвед супрацоўніцтва тытульнага народа з прад-стаўнікамі этнічных груп БССР у гэтай гістарычнай важнасці справе заслугоў-вае самага стараннага вывучэння ў нашыя дні з тым, каб усё каштоўнае з яго (досведу) паставіць на службу сучаснаму нацыянальна-культурнаму Адраджэн-ню, якое, на вялікі жаль, не толькі не мае аніякай падтрымкі ад дзяржавы, а, наадварот, усяляк ігнаруецца ёю.

Пазней, калі ўжо закончыцца вайна з Германіяй, Лаўрэнцій Цанава (наркам унутраных спраў БССР са снежня 1938 па люты 1941 г.) так ахарактарызуе "выдатныя" вынікі масавых фізічных рэпрэсій: "Ні ў адным кутку беларускай зямлі не засталося месца для буржуазных беларускіх нацыяналістаў"[1].

Пазбаўленая соцень таленавітых, высокай этнічнай самасвядомасці творцаў Беларусь сутыкнулася з вялікімі цяжкасцямі ў развіцці нацыянальнай культуры. Ізноў узнікла рэальная пагроза, што культурны працэс можа трапіць пад чужыя ўплывы, пачаць траціць сваю самабытнасць у выніку звыклай для гэтай зямлі афіцыйнай русіфікацыі. Сітуацыя не была б такой трагічнай і безнадзейнай, калі б ідэалагічныя і рэпрэсіўныя службы па-варожаму не ставіліся да дзяцей рэпрэсаваных, бо ў сваіх сям'ях яны выхоўвалі маладыя пакаленні ў духу беларускіх нацыянальна-культурных традыцый. Варожыя беларускаму інтарэсу сілы ўсяляк стараліся адарваць нашчадкаў "ворагаў савецкага народа" ад такіх традыцый, не даць ім (нашчадкам) праз пэўны час папоўніць дашчэнту зруйна-ваны пласт нацыянальнай інтэлігенцыі.

Савецкія карніцкія органы не ведалі аніякай мяжы ў сваёй лютасці да сям'і першага прэзідэнта Беларускай акадэміі навук Усевалода Ігнатоўскага, які, будучы не ў стане перанесці несправядлівых абвінавачванняў, 4 лютага 1931 год скончыў жыццё самагубствам. Праз шэсць гадоў гэтыя органы засудзяць на 8 гадоў канцэнтрацыйных лагераў яго жонку і расстраляюць двух іх сыноў – Юру і Валянціна. Такога зверства не чынілі ні сярэднявяковая інквізіцыя, ні жандармерыя Расійскай імперыі. Для савецкай жа імперыі гэта пызнавалася нармальнай з'явай.

Зараз амаль ніхто не сумняваецца, што не "ворагамі народа", а беларускай элітай былі практычна ўсе тыя, хто стаў ахвярай масавых савецкіх рэпрэсій 30-х гадоў. І як добра было б, каб сёння наша зямля пабагацела на такіх "ворагаў народа", можа ім удалося

[1] Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Ч. II. Мн., 1951. С. 824.

б разбудзіць ад працяглага паталагічнага сну, натхніць да актыўнай нацыянальна-адраджэнскай дзейнасці дзяржаўных мужоў, інтэлектуалаў, у жылах многіх продкаў якіх цякла чыстая, пунсовая беларуская кроў.

Шматлікія факты сведчаць, што як толькі ў дзяцей рэпрэсаваных бацькоў надаралася магчымасць вучыцца, яны абавязкова выбіваліся ў людзі, станавілі-ся не толькі высокакваліфікаванымі спецыялістамі ў сферы сваёй дзейнасці, але і сапраўднымі нацыянальнымі патрыётамі. У якасці прыкладу можна прывесці сына арыштаванага старшыні калгаса з Прапойскага (з 1945 г. – Слаўгарадскі) раёна Кірылы Цішчанкі Івана Цішчанку (1930-2001), вядомага фалькларыста, літаратурнага крытыка, аўтара кніг: “Беларуская частушка: Пытанні генезісу і жанру, “Жыццё песні”, “Да народных вытокаў: Збіранне і вывучэнне бела-рускага фальклору ў 50-60-я гг. XIX ст.” і інш.

Духоўныя набыткі, створаныя плённай працай асобаў з ліку “ворагаў савец-кага народу”, цалкам падлягалі выключэнню з грамадскага ўжытку: зніштажа-ліся або перадаваліся ў спецсховішчы. Такое ў нашай гісторыі назіралася толькі падчас інквізіцыі ці ліквідацыі ў 1839 годзе уніяцкай царквы. У адпаведнасці з загадам Галоўліта БССР вд 3 чэрвеня 1937 года, які меў назву “Спіс літаратуры, што падлягае канфіскацыі з бібліятэк грамадскага карыстання, навучальных устаноў і кнігагандлю”, велізарная колькасць кніг трапіла ў разрад шкодных. Да іх аднеслі нават ананімную паэму “Тарас на Парнасе”. Кніжная інквізіцыя не пашкадавала беларускіх тэрміналагічных слоўнікаў, на складанне якіх спатрэбі-лася такая велізарная праца[1].

Тагачасны друк, асабліва партыйны-перыядычны, самымі бруднымі словамі паліваў на старонках сваіх выданняў “нацдэмаў”, “ворагаў савецкага народа”, г.зн. красу беларускай нацыі. У арсенале бальшавіцкай лексікі вельмі часта сустракаліся такія выразы: нацыяналістычная сволач, нацыяналістычныя псы, дыверсанты, шпіёны, халуі фашызму. Пад уплывам ідэалагічнай апрацоўкі масаў многія з іх на веру прымалі такія незаслужаныя абразлівыя ацэнкі, пага-джаліся, што бел-чырвона-белы сцяг фальшыва-нацыяналістычны, што газета “Наша ніва” з’яўлялася рупарам беларускага буржуазнага нацыяналізму.

Учыненыя савецкімі рэпрэсіўнымі органамі катаванні істотна затармазілі нацыянальна-культурнае развіццё не толькі беларускага народа. Крайне адмоўна паўплывалі яны і на стан духоўнага жыцця этнічных супольнасцяў БССР, акрамя рускай. Нават яўрэі,

[1] Наша слова. 1999. 10 сакавіка. С. 7.

якія за некалькі сот гадоў знаходжання на тэры-торыі Беларусі дасягнулі так багата ў сваім самабытным духоўным развіцці, пад канец 30-х гадоў у большай колькасці працавалі на карысць прафесійнай рускай савецкай культуры, чым уласнай.

Масавыя фізічныя рэпрэсіі пакінулі вельмі мала надзей на магчымасць нармальнага духоўнага развіцця польскай, нямецкай і латышскай нацмен-шасцяў Беларусі. Лічылася, што сярод іх знаходзіцца найбольш за ўсё шпіёнаў замежных разведак. У выніку праведзеных акцый па выкрыцці такіх шпіёнаў было арыштавана сярод пералічаных нацменшасцяў прыкладна 23,5 тыс. чала-век, з якіх больш за 21 тыс. расстраляна[1].

Нельга забывацца і на такую акалічнасць, што без жорсткай расправы савец-кіх рэпрэсіўных службаў з красой беларускага грамадства БССР і палітычны рэжым Польшчы ніколі не адважыўся б на масавае вынішчэнне беларускага нацыянальнага духу на яе “ўсходніх крэсах”. Тагачасную сітуацыю вельмі добра ахарактарызаваў, ужо будучы старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспуб-лікі, актыўны ўдзельнік нацыянальна-вызваленчага руху 30-х гадоў у Заходняй Беларусі Вінцэнт Жук-Грышкевіч: “І тут, як згаварыўшыся, Польшча дапамагала бальшавікам у зьнішчэньні беларускай інтэлігенцыі. Яна стварала для яе немагчымыя жыцьцёвыя варункі ў Заходняй Беларусі, дык тая шукала выхаду з цяжкой сытуацыі ў Саветах, а там, замест лепшай сытуацыі, трапляла ў савецкія лагеры сьмерці. Пераканаўшыся, што ніхто не становіцца ў абарону беларусаў, польскія ўлады пазачынялі ўсе беларускія школы й арганізацыі ды стэрарызавалі ўсякую беларускую нацыянальную дзейнасьць”[2].

Затуханне ў нашыя дні беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, несумненна, носіць часовы характар. Пры спрыяльных умовах яно зноў стане магутнай рухальнай сілай беларускага грамадства, таму трэба рабіць усё, каб людзі добра ведалі і шанавалі памяць пра тых, хто склаў галовы ў змаганні за родную, святую Бацькаўшчыну. Па віне партыйнага Цэнтра Масквы тагачасны адраджэнскі працэс на Беларусі захлынуўся, панёс велізарныя людскія страты. У той ці іншай меры рэпрэсіі закранулі каля паўтара мільёна чалавек, прычым, як паказана вышэй, далёка не шараговых па сваёй ролі ў грамадскім жыцці, нацыянальнай дзейнасці. Няма ў Еўропе роўных Беларусі краін, дзе б так жорстка, па-тыранску распраўляліся ў 30-я гады з інтэлектуальнай элітай. Толькі з ліку пісьменніцкай інтэлігенцыі ахвярамі рэпрэсій сталі за гэты час каля 160 чалавек. Многіх з іх

[1] Наша слова. 1995. 18 студзеня. С. 4.
[2] Раіса Жук-Грышкевіч. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта-Канада. 1993. С. 652.

адразу ж прысудзілі да смяротнай кары, вялікая частка атрымала 10-25 гадоў турэмнага зняволення і, не вынесшы суровых умоваў утрымання ў сталінскіх лагерах, без пары адышла на той свет. За ўсе мірныя незакранутыя вайною перыяды гісторыі Беларусі самымі страшнымі, трагічнымі, бясспрэчна, былі 30-я гады XX стагоддзя.

### §3. Традыцыі савецкіх рэпрэсій не канулі ў Лету

Таталітарная палітычная сістэма, да якой належаў і СССР, не можа існаваць без рэпрэсій. Яны могуць толькі аслабяваць на пэўны час. Нешта падобнае назіралася і ў савецкай імперыі пасля 1938 года. А вось з восені наступнага года ў яе рэпрэсіўных органаў ізноў па вушы знайшлося любімай працы. Пасля чарговага падзелу Польшчы ад яе ў склад СССР далучылі беларускія і ўкраінскія землі, на якіх ад экзекуцый польскіх уладаў уцалела нямала актыўных беларускіх і ўкраінскіх дзеячоў нацыянальнага руху. Пасля масавых фізічных рэпрэсій 1937-1938 гадоў таталітарнаму рэжыму СССР такія дзеячы зусім не патрэбнымі былі. Больш таго, баяліся, каб яны і ў новых для сябе варунках не задумалі змагацца за нацыянальныя інтарэсы. Палічылі, што не дапусціць такой непажаданай, шкоднай практыкі можна толькі з дапамогай рэпрэсій. І іх тэрмі-нова пусцілі ў ход. Ізноў Беларусь трацiла сваіх найлепшых сыноў і дачок. Многія, прычым з элітнага асяроддзя, апынуліся ў Сібіры, на Крайняй Поў-начы, у Казахстане і ў іншых аддаленых кутках неабсяжнай савецкай прасторы. Таленавітую, вядомую амаль кожнаму даросламу чалавеку "ўсходніх крэсаў" Польшчы паэтку Наталлю Арсенневу не адну, а разам з двума сынамі выслалі ў Казахстан. Сталага ж веку, сур'ёзна хворы Аляксандр Уласаў (1874 г.н.; рэдактар-выдавец газеты "Наша ніва" з 8 снежня 1906 да 16 мая 1914 г.) памёр ад параліча сэрца на этапе ў месца зняволення. У руках спецслужбаў апынуўся 30 верасня 1939 года запрошаны на сход беларускай інтэлігенцыі паэт і публі-цыст, гісторык, актыўны нацыянальны дзеяч Антон Луцкевіч, пра апошнія дні жыцця якога нам яшчэ і па сёння не ўсё вядома.

Савецкія рэпрэсіўныя органы не спыняліся і перад вынясеннем смяротнай кары самым небяспечным на іх погляд беларускім грамадска-палітычным, культурным дзеячам. Іншай меры пакарання, як расстрэл, не знайшлося для 71-гадовага Рамана Скірмунта (7 кастрычніка 1939 г.). А гэта ж даволі адметная ў грамадска-палітычным і культурным жыцці Беларусі асоба. Не ў прыклад сённяшнім багацеям ён са сваіх асабістых

сродкаў выдзяляў значныя сумы на развіццё беларускай нацыянальнай культуры. Калі ў красавіку 1917 года на чале беларускай дэлегацыі вёў перамовы з Часовым урадам Расіі, патрабаваў ад яго прызнання аўтаноміі для Беларусі. Добры след пакінуў на пасадзе старшыні ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі. У міжваеннай Польшчы выступаў супроць яе палітыкі асіміляцыі этнічных меншасцяў. Карацей кажучы, вельмі патрэбны для Беларусі дзеяч і адначасова зусім не любы для Маскоўскага крамля. Страты беларускай нацыянальнай эліты маглі б стацца непараўнальна большымі, калі б шматлікія прадстаўнікі яе не падаліся наўцёкі ў заходнія краіны, у тым ліку і ў Германію, якая, падзяліўшы з СССР Польшчу, тэрмінова і старанна рыхтавалася да вайны з ім. І яна пачалася ў чэрвені 1941 года, прычым у час, калі савецкія рэпрэсіўныя органы яшчэ далёка не завяршылі сваіх варварскіх акцый па расправе з нацыянальна-патрыятычнымі сіламі ў заходніх раёнах БССР.

Яшчэ ніколі ў айчыннай гісторыі ворагу не ўдавалася так хутка аваладаць беларускай зямлёй, як на гэта раз. Савецкія рэпрэсіўныя падраздзяленні, дарэчы, не зрабіўшы аніводнага выстралу ў бок праціўніка, не ўправіліся нават расстра-ляць тых, хто адбываў тэрмін у турмах і лагерах ці знаходзіўся пад следствам. Парадокс: іх выратаваў ад смерці ці пакарання не самы “справядлівы” ў свеце савецкі суд, а захоп фашысцкай Германіяй беларускай тэрыторыі.

Беларусь спехам здадзеная палітычным і ваенным кіраўніцтвам СССР на з’яданне нямецкім захопнікам, што вымусіла немалую частку яе насельніцтва дзеля выжывання ісці на ўсталяванне пэўных формаў супрацоўніцтва з імі, павінна была з вяртаннем Чырвонай арміі несці за гэта суровае пакаранне ўсё ад тых жа самых назойлівых савецкіх рэпрэсіўных органаў. З велізарным болем яны ўспрынялі вестку, што ўсе самыя зацятыя “ворагі савецкага народа” змаглі да вызвалення Беларусі падацца на захад. Таму давялося заняцца “ворагамі” не такога высокага рангу. Распраўляліся з імі жорстка і даволі працяглы час, для чаго быў задзейнічаны шматлікі штат следчых, аператыўных упаўнаважаных, турэмных работнікаў, канваіраў і г.д. Звычайна гэта былі прысланыя з іншых рэспублік асобы. Праца не спынялася, а іншым разам, наадварот, нават актыві-зоўвалася ў начны час. Ой як неспакойна жылося толькі што вызваленай з-пад нямецкай няволі Беларусі! Яшчэ не высахла кроў ад рук фашысцкіх катаў, а цяпер яе даводзілася праліваць ва ўмовах аднаўленых савецкіх рэпрэсій.

Страціўшы ўсякую веру ў аб’ектыўнасць вядзення следства, некаторыя з паддопытных пры зручным выпадку самі выносілі сабе смяротны прысуд. Так зрабіў актыўны грамадскі і культурна-асветніцкі дзеяч, літаратар Франук (Францішак) Грышкевіч, ураджэнец Беласточчыны (прыкладна 1905-1946 гг.), выпускнік Карлавага універсітэта ў Празе (1931), загадваў у 1940 годзе беларускімі школамі Віленскай школьнай акругі. Нягледзячы на жорсткі польскі і літоўскі супраціў ён атрымаў ад нямецкіх акупацыйных уладаў дазвол на адкрыццё Віленскай беларускай гімназіі і, будучы яе дырэктарам, шмат зра-біў па ўзгадаванні яе навучэнцаў у нацыянальна-патрыятычным духу. Выхаван-цы гімназіі на ўсё сваё жыццё захавалі светлую памяць пра яе дырэктара з моцнай арыентацыяй на беларускі інтарэс. Зусім інакш на ўсё гэта глядзела адноўленая на Беларусі пасля выгнання нямецкіх захопнікаў савецкая ўлада. Ф. Грышкевічам зацікавалася нават першая асоба рэпрэсіўных органаў Лаўрэн-цій Цанава. Не чакаючы ад яго ні на кроплю літасці, наш беларускі нацыяналь-ны патрыёт, які з канца 1944 года знаходзіўся ў Мінскім астрозе, змог і ў супра-ваджэнні яго канваірамі на чарговы допыт выкінуцца на вуліцу праз турэмнае вакно. Хаця Ф. Грышкевіч пражыў ўсяго толькі сорак гадоў, ён, апроч плённай працы на святой ніве нацыянальнай адукацыі, паспеў нямала зрабіць і на іншых дзялянках нашай культуры. Такі талент пасляваеннай Беларусі, толькі не савец-каму рэпрэсіўнаму рэжыму, быў патрэбен, як кісларод для кожнага чалавека.

Не валаводзіліся чэкісты з сумленным сынам роднай зямлі Станіславам Грынкевічам (дарэчы земляком Ф. Грышкевіча): трапным выстралам ён быў адпраўлены на той свет 25 ліпеня 1945 года. Адбылася ж тая трагедыя пад Ма-гілёвам. Не папытаўшыся ў беларускага народа, нкусаўцы знішчылі чалавека, якому пры жыцці можна было б паставіць помнік. Згадаю толькі некаторыя факты з жыцця гэтай ахвяры бальшавіцкай рэпрэсіўнай гільяціны: выпускнік медыцынскага факультэта Пазнанскага універсітэта, аўтар публікацый “Аб пра-ве на Бацькаўшчыну”, “Культура і задачы нацыянальнай працы”, “Псіхааналіз і праблемы літаратурныя і грамадскія”, кнігі “Аб тэатры”, эсэ “У братоў украінцаў”, праца ў Віленскім Беларускім нацыянальным камітэце ў гады Другой сусветнай вайны.

Не абмінулі у першыя пасляваенныя гады савецкія рэпрэсіі той часткі нацыянальнай эліты, якая не прымала і старалася хоць у самых мягкіх формах супрацьстаяць дзяржаўнай палітыцы русіфікацыі. Заўважу, што прадстаўнікоў такой эліты найбольш за ўсё было на тэрыторыі колішняй Заходняй Беларусі, дзе карніцкім

органам не ўдалося дашчэнту вынішчыць нацыянальнага ядра нашага народа, як гэта было ўчынена ў 1937-1938 гадах у БССР. Светлую памяць пра сябе пакінулі ў першыя пасляваенныя гады навучэнцы шэрагу педагагічных вучылішчаў заходнебеларускіх абласцей, якія не жадалі зміріцца з заганнай савецкай практыкай русіфікацыі навучальна-выхаваўчага працэсу шкодныя вынікі якой могуць не абмінуць народа ў цэлым. Наколькі такія погляды і дзеянні навучэнскай моладзі лічыліся небяспечнымі для ідэолагаў і праваднікоў бальшавіцкай нацыянальнай палітыкі, вынікае з таго, што некато-рых будучых беларускіх педагогаў засудзілі на самы высокі тэрмін зняволен-ня – 25 гадоў.

Без працы не сядзелі савецкія рэпрэсіўныя органы і пасля таго, як было завершана пасляваеннае аднаўленне Беларусі. Нацыянальная эліта добра бачы-ла ўсе заганы яе культурна-моўнага жыцця, у якім свядома па ініцыятыве партыйнага Цэнтра ў Маскве прыярытэты надаваліся рускаму фактару. Спакой-на ставіцца да паглыблення русіфікатарскіх працэсаў на Беларусі не маглі шчыра адданыя яе нацыянальнаму інтарэсу патрыёты. На барыкады яны не выходзілі, мітынгаў, шэсцяў не ладкавалі, самаспальваннем не займаліся, але ў вузкім коле аднадумцаў выказвалі катэгарычную нязгоду з той палітыкай. Праз розныя каналы змест гэтых патаемных размоў даходзіў да ведама ідэалагічных і рэпрэсіўных службаў. І яны, зразумела, не даравалі такога вальнадумства. Па іх віне нямала моладзі вымушана было без пары развітацца з навучальнай устано-вай. Дарослыя, ужо сфармаваныя ў сваіх прагрэсіўных нацыянальных поглядах інтэлігенты пазбаўляліся любімай працы, не мелі доступу да сродкаў масавай інфармацыі. Адзінае за што можа дзякаваць агульнасаюзным ідэалагічным органам, спецслужбам – гэта нежаданне паўтарыць сумны вопыт масавых фізічных рэпрэсій 30-х гадоў да асобаў іншых поглядаў на савецкі лад жыцця. Барацьба з імі вялася ў больш мяккай форме.

Не жадае адмаўляцца ад рэпрэсій, прычым супроць уласных грамадзян, палітычны рэжым сучаснай самастойнай Рэспублікі Беларусь, за што празваны ў народзе – і небезпамылкова – таталітарным. Яму прыпісваюць фізічную расправу з такімі выдатнымі палітычнымі дзеячамі, як Віктар Ганчар, Юрый Захаранка, Генадзь Карпенка. З-за страху за ўласнае жыццё вымушаны знахо-дзіцца ў эміграцыі заснавальнік і першы па ліку старшыня сойма Беларускага народнага фронту “Адраджэньне” Зянон Пазняк. Кантынгент палітычных зня-воленых у турмах і лагерах ніяк не адпавядае нормам мірнага часу. Заўжды без асаблівай патрэбы ўжываюцца спецслужбамі грубыя фізічныя

захады пры разгоне мітынгаў, дэманстрацый і іншых мерапрыемстваў апазіцыйных партый і рухаў. І здзіўляцца з гэтага ніяк не выпадзе: любы таталітарны палітычны рэжым, у т.л. і сучаснай Беларусі, не можа абыходзіцца без рэпрэсій, паколькі ў яго заўжды ёсць апазіцыйныя сілы. Сістэматычна звяртаючыся да выкары-стання гвалтоўных метадаў у барацьбе з імі, уладныя структуры РБ не могуць дазволіць сабе на самым высокім афіцыйным узроўні асудзіць палітыку масавых фізічных рэпрэсій 1937-1938 гадоў, пераўтварыць Курапаты ў мемарыяльны комплекс бязвінных ахвяр сталінскай таталітарнай сістэмы.

Любы ўсталяваны на постсавецкай прасторы палітычны рэжым, што не ўшаноўвае памяці ахвяр бальшавіцкіх рэпрэсій, можна беспамылкова залічваць у прыхільніка такіх бесчалавечных акцый. Бязвінныя ахвяры савецкага тата-літарызму заслугоўваюць такой жа вялікай павагі да сябе, як і тыя, што склалі галовы ў абароне сваёй радзімы і адначасова яго (таталітарызму) ад нямецкіх захопнікаў. Такіх змагароў нашыя ўлады ўшаноўвалі і ўшаноўваюць, чаго ніяк нельга сказаць пра ахвяры сталінізму. Перад імі, лічу, не толькі сучасныя, але і ўсе наступныя пакаленні застануцца ў вялікім неаплатным даўгу. А каб ён не быў такім вялікім, трэба хоць штосьці рабіць дзеля яго змяншэння, бяручы прыклад з Расіі, Украіны і іншых былых савецкіх рэспублік. У першай з пералічаных ёсць дзяржавай абвешчаны дзень памяці тых, хто стаў бязвіннай ахвярай рэпрэсій сталінізму. Наша другая суседка Украіна ў кожную чацвёр-тую суботу лістапада афіцыйна адзначае Дзень памяці ахвяраў галадамору і палітычных рэпрэсій. Улады Беларусі проста не могуць не ўзяць прыкладу з расіян і ўкраінцаў.

## ЧАСТКА III

## СУВЕРЭННАЯ ДЗЯРЖАВА – ДАМІНАНТА БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНА-АДРАДЖЭНСКАГА РУХУ

### §1. Ідэя дзяржаўнасці ва ўмовах поўнага палітычнага бяспраўя

У папярэдніх раздзелах ужо ў самых агульных рысах закранаўся дзяржаўна-прававы аспект беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, паколькі без гэтага немагчыма было б раскрыць сэнс апошняга. Аднак з прычыны велі-зарнага значэння названага аспекта ў гісторыі беларускага нацыянальнага руху цалкам лагічна разгледзець дадзеную праблему ў паасобным раздзеле і больш грунтоўна. Неабходнасць такога падыходу дыктуецца і рэальнай пагрозай стра-ты дзяржаўнага суверэнітэту сучаснай Рэспублікай Беларусь. Каб псіхалагічна падрыхтаваць народ да здзяйснення гэтай страшнейшай трагедыі, афіцыйныя ідэолагі ўсяляк пнуцца даказаць, што ён не мае належнага досведу ўласнага дзяржаўнага жыцця, забываючыся, што ў старажытныя часы на нашай зямлі існавалі Полацкая, Турава-Пінскае, Смаленскае і іншыя княствы, што Вялікае Княства Літоўскае – гэта дзяржава пераважна продкаў сучасных беларусаў, а не якіх-небудзь іншых народаў. Нельга называць нашых продкаў бездзяржаўнымі і ў перыяд знаходжання ў федэратыўнай (а паводле меркаванняў многіх навукоў-цаў – канфедэратыўнай) Рэчы Паспалітай, хаця ў ёй непараўнальна большымі правамі карысталіся палякі. Пераканаўча засведчана гэта і ў прынятай 3 мая 1791 г. соймам Канстытуцыі, у тэксце якой ужо адсутнічала сама назва "Вялікае Княства Літоўскае". І тым не менш, як справядліва сцвярджае беларускі гісто-рык Уладзімір Емяльянчык, хаця "аўтаномія беларуска-літоўскіх зямель у скла-дзе Рэчы Паспалітай была значна зменшана, але да канца так і не скасавана"[1].

Затое поўнае скасаванне аўтаноміі наступіла для тых беларускіх зямель, якія яшчэ да прыняцця Канстытуцыі былі гвалтоўна далучаны да Расійскай імперыі. Аналагічным чынам яе ўлады паставіліся да палітычных правоў жыхароў і той часткі Беларусі, што была інкарпаравана ў склад царскай імперыі ў выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.). Нічога іншага, акрамя справядлівага гневу, абурэння, гэта не магло выклікаць у перадавых, улюбёных у свой край людзей. Нездарма ж, калі ўвесну

---

[1] Гісторыя Беларусі. Беларусь у часы Рэчы Паспалітай (XVII-XVIII стст.) Т.3. Мн., 2004. С. 237.

1794 г. пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, яно было актыўна падтрымана і на захопленай царскімі войскамі беларускай тэрыторыі. Ізноў вярнулася да афіцыйнага ўжытку не забытая народам назва “Вялікае Княства Літоўскае”. “24 красавіка ў Вільні быў урачыста прыняты і абвешчаны “Акт паўстання народа Вялікага Княства Літоў-скага”. Згодна з ім утвараўся свой незалежны орган па кіраўніцтве паўстаннем – Найвышэйшая Рада ВКЛ. Менавіта ёй аддавалася ўся паўната ўлады ў Княстве”[1], што дазваляла Радзе дзейнічаць як звычайнаму самастойнаму дзяржаўнаму органу. Такая дзяржаўная незалежнасць ВКЛ не падабалася кіраўніцтву Кара-леўства Польскага. Яно дамаглося замены 10 чэрвеня 1794 года Найвышэйшай Рады ВКЛ Цэнтральнай Дэпутацыяй ВКЛ, “ужо поўнасцю падпарадкаванай Т. Касцюшку і Найвышэйшай Нацыянальнай Радзе ў Варшаве”[2]. Нягледзячы на ўсё гэта можна з поўнай падставай гаварыць пра захаванне ў літвінаў традыцый самастойнага незалежнага існавання. Хуткае паражэнне паўстання не дазволіла да канца высветліць, якое месца ў дзяржаўнай сістэме Каралеўства Польскага належала б ВКЛ, калі б удалося вызваліцца з-пад непажаданай апекі Расійскай імперыі.

Міне ўсяго толькі крыху больш за паўтара дзесятка гадоў і зноў лепшыя людзі нашай зямлі праявяць належны клопат пра яе палітычную адбудову на суверэным грунце. Ролі ў гэтым славянскай Расіі ані кроплі. Аднаўленне незалежніцкай палітычнай ідэі напрамую было звязана з інтэрвенцыяй напалео-наўскіх войскаў у Расію, што ў першую чаргу закранула наш край. Імператару Францыі Напалеону Банапарту аўтаномія Вялікага Княства Літоўскага была бліжэй, чым яго расійскаму калегу Аляксандру І. Парадокс! Варожае стаўленне апошняга нават да самай элементарнай формы палітычай незалежнасці ВКЛ у складзе царскай імперыі прычынілася да таго, што нямала беларусаў са зброяй у руках рухаліся з французскай арміяй на ненавісную ім Маскву з-за яе агрэсіўнай палітыкі да прызнання ВКЛ. Дзякуючы ж Напалеону хоць што-небудзь рабілася па палітычным уладкаванні гэтай дзяржавы. Яе найбольш адукаваная і палітычна актыўная частка ведала і з прыхільнасцю паставілася да таго, што ў адпаведнасці з заключаным у 1807 годзе Тыльзіцкім дагаворам Напалеон дазволіў стварыць Вялікае герцагства Варшаўскае на захопленых Прусіяй польскіх землях. Зусім лагічна было дапусціць, што нешта падобнае ён зробіць і для жыхарства анексіраванай Расіяй беларускай тэрыторыі. “Указам Напалеона ад 19 чэрвеня (1

[1] Гісторыя Беларусі. Беларусь у часы Рэчы Паспалітай (XVII-XVIII стст.) С. 247.
[2] Тамсама. С. 249.

ліпеня) 1812 г. быў створаны Часовы ўрад Вялікага Княства Літоўскага. Яго кампетэнцыя распаўсюджвалася на Віленскую, Гро-дзенскую, Мінскую і Беластоцкую губерні. Урад складаўся з пяці членаў і генеральнага сакратара. Камісіі Часовага ўрада было даверана кіраванне фінансамі краю, дастаўкай правіянту, арганізацыя мясцовага апалчэння і паліцэйскіх фарміраванняў.

Таксама былі створаны губернскія падпарадкаваныя камісіі Часовага ўрада"[1]. Іх дзейнасць цалкам адпавядала інтарэсам французскай ваеннай адміністрацыі, таму няма падстаў гаварыць пра Часовы ўрад як пра беларускую палітычную з'яву, хаця такога зусім нельга выключыць пры ўмове пераможнай вайны для Напалеона.

Сярод тых, хто паверыў у вызваленчую місію паходу войскаў Напалеона на Расію, быў і старшыня галоўнага суда цывільнай палаты ў Мінску, польскамоў-ны паэт Ян Ходзька (нарадз. у Крывічах Вілейскага павета). Свае надзеі на адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага ён выказваў у артыкулах, што змяшча-ліся на старонках у "Zarecie Minskiej". Пяру гэтай асобы належыць аднаактовая камедыя "Вызваленая Літва, або Пераход Нёмана".

Як і заўжды, за разгортваннем палітычных падзей на тэрыторыі ВКЛ пільна сачылі ў Польшчы, робячы ўсё, каб не даць яму сцвердзіцца ва ўласнай дзяржаўнасці. Не мінула і паўмесяца пасля стварэння Часовага ўрада, як у кафедральным саборы ў Вільні быў прыняты "Акт аб далучэнні Вялікага Княства Літоўскага да Генеральнай канфедэрацыі Польшчы". Неўзабаве Часо-вы ўрад зацвердзіў "правілы аб сейміках для выбрання паслоў на сейм варшаўскай Генеральнай канфедэрацыі. У час выбарчых сеймікаў павінна была працягвацца падпіска аб далучэнні да акта Генеральнай канфедэрацыі"[2]. У такіх умовах дамагчыся чагосьці пазітыўнага ў самастойным палітычным развіцці ВКЛ з'яўлялася вельмі праблематычным, але факт імкнення да яго, несумнен-на, заслугоўвае станоўчай адзнакі.

У той ці іншай ступені незалежніцкі палітычны фактар ВКЛ прысутнічаў у нацыянальна-вызваленчых паўстаннях 1830-1831, 1863-1864 гг., ініцыятыва да разгортвання якіх належыць польскім патрыётам, у значнай частцы з ліку эмігрантаў. Да такіх дзеянняў падштурхоўвала актыўная барацьба многіх недзяржаўных народаў Еўропы за сваю палітычную незалежнасць, што напра-мую было звязана з ростам іх нацыянальнай самасвядомасці, глыбокім усведам-леннем, што пад чужой уладай немагчыма дасягнуць сапраўднага шчасця. Самым адукаваным

[1] Гісторыя Беларусі. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII-пачатак XX ст.) Т.4. Мн., 2005. С. 79.
[2] Гісторыя Беларусі. Т.4. С.86.

колам нашага краю імпанавалі крокі Аляксандра I па аднаў-ленні незалежнасці Польшчы: наданне ў адпаведнасці з рашэннямі Венскага кангрэса 1815 г. аўтаноміі і канстытуцыі Каралеўству Польскаму, да якога яны жадалі, каб былі далучаны і літоўска-беларускія землі ў надзеі аднаўлення на іх уласнай дзяржавы ў форме Вялікага Княства Літоўскага. Захаванню, папулярызацыі тэрміна “літоўскі”, галоўнымі законнымі носьбітамі якога з’яўляліся продкі сучасных беларусаў, паспрыяла ўтварэнне ў 1817 г. у расійскім войску асобнага Літоўскага корпуса. Служылі ў ім беларусы і ўкраін-цы. Для корпуса, які ўзначаліў сам галоўнакамандуючы польскім войскам, вялікі князь Канстанцін Паўлавіч, “штандарам была зацверджана “Пагоня” Вя-лікага Княства Літоўскага”[1]. Менавіта надзея на далучэнне яго да здабытага хоць у самай элементарнай форме незалежнасці Каралеўства Польскага і паслужыла галоўнай падставай да ўдзелу літоўска-беларускіх нацыянальных патрыётаў у паўстанні 1830-1831 гг. Важна, што і яго параза не стала прычынай адмаўлення пры спрыяльнай сітуацыі ад ідэі аднаўлення палітычнай незалежнасці нашага краю. Зразумела, толькі у супольнай барацьбе з палякамі супроць тыраніі Расійскай імперыі.

Царскі рэжым усяляк імкнуўся не даць узнікнуць такой спрыяльнай сітуацыі, таму, як і раней, дзяржаўную незалежнасць палякам, літоўцам (і ў той час яшчэ значнай часткай нашых продкаў ужываўся дадзены этнонім у якасці саманазвы) і беларусам даводзілася здабываць у жорсткай няроўнай барацьбе з намнога больш моцным ворагам. Але цалкам зразумелае жаданне прагрэсіўных пластоў грамадства быць гаспадаром на бацькоўскай зямлі рана ці позна зноў павінна было прывесці да новага змагання з заваёўнікамі. Немалаважна, што ўсе часцей і сярод расійскіх рэвалюцыйных дэмакратаў сталі раздавацца галасы аб праве не толькі Польшчы, але Літвы і Беларусі на самастойнае дзяржаўнае існаванне. Асабліва прагрэсіўную пазіцыю па дадзеным лёсавызначальным для іх пытанні займалі выдаўцы “Колокола” ў Лондане Аляксандр Герцэн, Мікалай Агароў, Міхаіл Бакунін.

На гэты раз да выступлення супраць царскіх прыгнятальнікаў рыхтаваліся ў Польшчы, Беларусі і Літве больш грунтоўна, чым падчас паўстання 1830-1831 гг. Прычым органы кіравання паўстаннем ствараліся не толькі ў Варшаве, але і ў Вільні. Аднак, першая пакідала за сабой галоўную ролю ў падрыхтоўцы да яго. Такім органам стаў утвораны ўлетку 1862 г. Цэнтральны нацыянальны камітэт (ЦНК). Ён адразу ж

[1] Там жа.

пераўтварыў віленскі цэнтр у Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК), у студзені наступнага года "аб'явіў сябе Часовым нацыяналь-ным урадам усёй былой Рэчы Паспалітай"[1]. Гэта ўжо не магло не выклікаць сур'ёзных сумненняў датычна забеспячэння беларусам і літоўцам палітычнай незалежнасці ў складзе Рэчы Паспалітай пры шчаслівым зыходзе барацьбы за вызваленне з-пад расійскай акупацыі. Жадалі ж мець такую незалежнасць многія, што сведчыла пра іх дастаткова высокі ўзровень нацыянальна-дзяржаў-най свядомасці. Асабліва настойліва і паслядоўна праводзіў ідэю самастойнага дзяржаўнага існавання Літвы-Беларусі Кастусь Каліноўскі, якога ў кастрычніку 1862 г. абралі за старшыню ЛПК. Цвёрдую незалежніцкую пазіцыю ЛПК ніяк не жадаў прыняць Цэнтральны нацыянальны камітэт у Варшаве. Польскі Нацыянальны ўрад абвясціў 10 (22) студзеня 1863 г. паўстанне без узгаднення з ЛПК. Нягледзячы на ўсё гэта Камітэт сваім мініфестам да літоўцаў, беларусаў, жэмайтаў і жыхароў іншых абласцей, занятых рускімі, заклікаў падтрымаць польскіх паўстанцаў. "Гэта – на думку Міхася Біча, – азначала, што левыя ў ЛПК на чале з Каліноўскім... фактычна поўнасцю падпарадкаваліся польскаму нацыянальнаму ўраду"[2]. Апошні быў утвораны 10 мая 1863 г. на базе рэаргані-зацыі ЦНК. Нацыянальны ўрад прызнаваў Літву і Русь (у той час так даволі часта у афіцыйных дакументах называлі Беларусь) роўнымі часткамі "з Каро-най, з якой яны ўтвараюць адзіную цэласную дзяржаву", г.зн. што выключалася нават пастаноўка "пытання аб праве беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў на сама-вызначэнне свайго лёсу". Заняць такую пазіцыю ў дадзеным пытанні ўрад, несумненна, вымушаў моцны нацыянальна-дзяржаўны сапаратызм пераліча-ных народаў. Можна смела сцвярджаць, што адсутнасць міжнацыянальнага паразумення паміж Каронай і носьбітамі ідэі Вялікага Княства Літоўскага ў дастаткова значнай ступені негатыўна паўплывала на лёс паўстання.

За ўвесь папярэдні час знаходжання Беларусі – Літвы пад уладай царскай імперыі наш народ яшчэ ніколі не зведаў такіх вялікіх страт сваіх найбольш адданых нацыянальнай ідэі людзей. Па сутнасці яго пакінулі без этнічнага ядра, якое заўжды складаюць найбольш адукаваныя, высокай нацыянальнай самасвя-домасці асобы. Таму, не даводзіцца здзіўляцца, што на працягу некалькіх дзеся-цігоддзяў пасля жорсткага задушэння паўстання 1863-1864 гг. гісторыя не ведае колькі-небудзь значнай, буйнамаштабнай акцыі ў абарону беларускім народам сваіх



[1] Гісторыя Беларусі. Т. 4. С. 234.
[2] Гісторыя Беларусі. Т. 4. С. 237.

палітычных правоў. Прагрэсіўныя выказванні беларускіх народнікаў аб неабходнасці ўвядзення і ў нашым краі пры спрыяльных умовах абласной аўтаноміі насілі хутчэй тэарэтычны, а не практычны характар. І ўсё ж такіх поглядаў ніяк нельга недаацэньваць, бо яны забяспечвалі пераемнасць ідэі беларускай дзяржаўнасці паміж людзьмі розных пакаленняў.

Затое больш рашуча і паслядоўна выступалі перадавыя станы беларускага грамадства за захаванне этнакультурнай адметнасці краю, якая мэтанакіравана разбуралася расіфікатарскай дзейнасцю не толькі свецкай улады царскай імперыі, але і Рускай праваслаўнай царквы. Нават вучоны-гісторык прарасій-скіх поглядаў, супрацоўнік аксакаўскай газеты “День” Міхаіл Каяловіч (дарэчы, родам з Гродзеншчыны; 1828-1891) прызнаваў, што і пасля паўстання 1863-1864 гг. “па дамох, па камяністых палетках, па лясных трушчобах і па купінках балот стварылася імкненне да ўласнага адраджэньня”[1]. Адбывалася ж такое з вялікімі цяжкасцямі з-за моцнага супраціву мясцовай адміністрацыі праpускай арыентацыі. Скаргі беларусаў на іх русіфікацыю накіроўваліся ў самыя розныя інстанцыі, у т.л. і ў друкаваны орган славянафілаў газету “День”. І хаця ў апошнія гады свайго існавання яна стаяла на пазіцыях рускага вялікадзяржаў-нага шавінізму, іншым разам змяшчала на сваіх старонках падобнага роду скаргі беларусаў (гл. № 29 за 1864 г.). Такое вялікае жаданне беларусаў і пад неверагодна моцным нацыянальным прыгнётам заставацца самім сабой уласці-ва далёка не многім народам. Каб яно падтрымлівалася, жыло, патрэбна была адпаведная праца з людзьмі. Дзеля фармавання нацыянальнай самасвядомасці карэннага насельніцтва нашага краю вялікую ролю адыграла дзейнасць бела-рускай фракцыі “Народнай волі”. Адным са стваральнікам яе быў Ігнат Грынявіцкі – забойца цара Аляксандра II. На старонках друкаванага органа гэтай фракцыі часопіса “Гомон”, што выдаваўся ў Пецярбургу, змешчана нямала цікавых і правільных думак аб самабытнасці беларускай нацыі, якую і палякі, і рускія ніколі не спыняліся называць сваім адгалінаваннем.

Перамяшчэнне на даволі працяглы час пасля задушэння паўстання 1863-1864 гг. этнакультурнага, моўнага фактараў у цэнтр нацыянальнага руху мела надзвы-чай важнае значэнне. Прычым не толькі таму, што ў нейкай ступені магло зменшыць ўздзеянне русіфікатарскай палітыкі на беларускі арганізм. Пры аздараўленні этнакультурнай самабытнасці беларусаў у іх проста не магло не зарадзіцца і імкнення пакончыць са сваім палітычным

[1] Цытавана па кн.: “Запіскі адзелу гуманітарных навук. Працы катэдры сучаснага права”. Т.I. Мн., 1929. С.5.

бяспраўем. Гэта вельмі добра разумеюць і дзяржаўныя дзеячы сучаснай Беларусі, робячы ўсё ад іх залежнае, каб яе тытульны народ развіваўся ў адпаведнасці з рускімі культурна-моўнымі стандартамі. У такіх варунках у яго ніколі не сфармуецца ўстойлівая нацыянальна-дзяржаўная свядомасць і таму ўладам будзе вельмі лёгка маніпу-ліраваць палітычнай незалежнасцю краіны. Зусім рэальна, што ён і сам будзе цягнуцца да Расіі, паколькі мае (хоць і не па сваёй волі) такое блізкае да яе культурна-моўнае жыццё.

Адданасць значнай часткі тагачасных беларусаў сваёй этнакультурнай самабытнасці давала добры плён. Нягледзячы на ўсе перашкоды яны ў асноў-ным захавалі сваё нацыянальнае аблічча і з уступленнем у новае, XX стагод-дзе, пачалі ўсё больш думаць пра сваё палітычнае самавызначэнне. Безумоўна, не ў такой меры, як таго патрабавала жыццё. Яшчэ і на рубяжы XIX-XX стст. нацыянальна-адраджэнскі рух на Беларусі ў вялікай ступені стрымліваўся адсутнасцю ў яе неабходнай колькасці патрыятычна настроеных заможных і адукаваных людзей. Акурат яны ў многіх народаў з’яўляліся той сілай, якая штурхала, забяспечвала ім поспех у нацыянальным адраджэнні. Вялікі польскі паэт, ураджэнец Беларусі Адам Міцкевіч, напрыклад, справядліва лічыў, што магутнае “прабуджэнне нацыянальнага духу” ў чэхаў у канцы XVIII-пачатку XIX ст. “пачалося дзякуючы адукаванаму класу, дзякуючы чэшскаму дваран-ству”, якое (прабуджэнне) затым падтрымалі і развілі дзеячы навукі і асветы. Асабліва вялікае значэнне ён адводзіў літаратурнаму руху ў Чэхіі, пішучы, што ён “быў ізноў выкліканы да жыцця стараннямі чэшскай арыстакратыі і чэшскіх вучоных; гэты свяшчэнны агонь безупынна падтрымліваецца намаганнямі філосафаў і ў першую чаргу філолагаў”[1]. Беларусь жа і на пачатку XX ст. не магла пахваліцца такім літаратурным рухам.

Прыярытэт у пастаноўцы на парадак дня пытання аб палітычным самавызна-чэнні нашага краю належаў утворанай у 1903 г. нацыянальнай партыі левана-роніцкага кірунку Беларускай сацыялістычнай грамадзе (БСГ). Ужо ад першых дзён свайго існавання яна адвяла цэнтральнае месца гэтаму пытанню. У адным з пунктаў прынятай у студзені 1906 г. праграмы БСГ бліжэйшымі задачамі аб-вяшчаліся: звяржэнне самадзяржаўя, “утварэнне Расійскай федэратыўнай дэма-кратычнай рэспублікі з свабодным самавызначэннем і культурна-нацыянальнай аўтаноміяй народнасцей. Для Беларусі яна патрабавала аўтаноміі з

[1] Мицкевич Адам. Собр.соч. в 5-ти томах. Т.4. М., 1954. С. 392.

сеймам у Вільні”[1]. Падчас рэвалюцыі 1905-1906 гг. за палітычную самастойнасць Літвы-Беларусі з агульным для абодвух народаў устаноўчым сходам у Вільні, устаноў-ленне федэратыўных дачыненняў Літвы-Беларусі з іншымі рэгіёнамі Расіі выступала створаная ў 1902 г. Гродзенская арганізацыя Польскай Сацыялістыч-най партыі ў Літве.[2] Сваёй растлумачальнай працай яны пераканаўча даводзілі людзям, што з бяспраўным становішчам роднага краю можна пакончыць толькі ў барацьбе з царызмам, што горкія слёзы не дапамогуць у бядзе.

Ад енку і стогнаў да актыўнага змагання за сваё нацыянальнае вызваленне клікаў народ малады беларускі пісьменнік Сяргей Палуян. У перадвелікодным пасланні (1910 г.) да Вялікага Беларускага Народа ён пісаў: “Прачынайся ад сну, Беларусь! Годзе стагнаць ды жаліцца, жальба нічога не дасць табе. Уставай! Ідзі будаваць зруйнаваную Бацькаўшчыну!”.

Ідэолагі, актыўныя ўдзельнікі нацыянальнага руху, асабліва тыя з іх, хто дбаў пра палітычнае самавызначэнне Беларусі, сутыкнуліся з велізарнымі цяжкасцямі ў матэрыялізацыі гэтай святой ідэі. Царскі рэжым імкнуўся ў самім зародку душыць такія прагрэсіўныя рухі, у якой бы частцы імперыі яны ні ўзніклі і тым больш, у яе заходніх губернях.

Зацятымі русіфікатарамі праявілі сябе члены “Русского окраинного союза” (“РОС”), утворанага ў кастрычніку 1906 г. ў Вільні ў выніку аб’яднання “Союза русского народа” (“СРН”) з акцябрыстамі Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў. Прычым у кіраўнічы склад яго ўваходзілі і этнічныя беларусы, якія, адарваўшыся ад родных каранёў і прымкнуўшы да рускай культуры, усяляк імкнуліся ўтрываліць яе пазіцыі ў дадзенай частцы царскай імперыі. Гэты саюз “адмаўляў самастойнае існаванне беларускай нацыі, а беларускі нацыянальны рух характарызаваў як “інтрыгу” польскіх паноў і касцёла, накіраваную супраць адзінства Расійскай імперыі”[3]. Дасталася ад яго і самай прагрэсіўнай на той час беларускай нацыянальнай газеце “Наша ніва”, роля якой у этнічнай кансалідацыі карэннага насельніцтва павышалася з году ў год. Нішто так не садзейнічала павароту беларусаў да роднага слова, сваёй культуры, як названая вышэй газета, таму зразумела, чаму яе не любілі ўсіх масцей русіфікатары, у тым ліку і ўласнай гадоўлі.

Дзеля ідэалагічнай апрацоўкі насельніцтва Паўночна-Заходняга краю тут выдавалася вялікая колькасць газет, рэдакцыі

---

[1] ЭГБ. Т.1. С. 410.
[2] ЭГБ. Т.3. С. 123.
[3] ЭГБ. Т.6. Кн.1. С. 143.

якіх цвёрда стаялі на абароне імперскіх інтарэсаў. У найбольшай ступені такое была характэрным друкава-ным органам самога “Русского окраинного союза”: “Окраины России”, “Мин-ское слово”, “Виленский Вестник”. Не толькі не ўтойвала, а, наадварот, як толь-кі магла, праклaмавала сваю вялікадзяржаўна-шавіністычную скіраванасць рэдакцыя штодзённай губернскай газеты “Минское Слово” (выдавалася з ліста-пада 1906 па чэрвень 1912 г.). Агітуючы чытачоў да падпіскі на 1911 г., яна запэўнівала іх, што “Минское Слово”, з'яўляючыся адзіным на ўвесь Паўночна-Заходні край “рускім нацыянальна *перадавым* органам друку, па-ранейшаму застаецца на варце *непадзельнасці* Расіі, інтарэсаў Рускага насельніцтва – гіста-рычнага гаспадара краіны, *праваслаўя* і шырокага, вольнага і мірнага развіцця, духоўных і матэрыяльных сіл Расіі.

“Минское Слово” па-ранейшаму будзе змагацца з націскам аўтанамістаў і даваць пасільны адпор польска-каталіцкім падкопам і прапагандзе”[1].

Аднак не толькі рэдакцыі газеты “Минское Слово”, але і іншым вяліка-дзяржаўным шавіністычным сілам сталася непадуладным паралізаваць рух за аўтаномію, паколькі ўсё больш людзей разумела значэнне палітычнай незалеж-насці. Праўда, не ў такой ступені, як таго патрабаваў час. Тут варта адзначыць, што асаблівым разуменнем значэння нацыянальна-дзяржаўнага фактару не вызначалася нават беларуская буржуазія. Гэта значыць той клас, які ў іншых народаў з'яўляецца кіраўніком розных формаў нацыянальнага руху, змагаецца за адзяленне ад метраполіі і стварэнне самастойнай дзяржавы ў надзеі заняць у ёй кіраўнічыя пазіцыі ва ўсіх важнейшых сферах палітыкі і эканомікі. Нізкі ўзровень этнічнай самасвядомасці беларускай буржуазіі абумовіў і яе крайне ўрэзаныя, абмежаваныя нацыянальна-палітычныя патрабаванні пасля таго, як адбылася Лютаўская рэвалюцыя: краявая аўтаномія Беларусі ў складзе “непадзельнай” Расіі, у той час як у іншых нацыянальных раёнах апошняй мяс-цовая буржуазія выступала за аддзяленне ад былой імперыі, стаяла за стварэнне ўласнай самастойнай дзяржавы.

Беларуская буржуазія аказалася непадрыхтаванай да самастойнай стваральнай дзяржаўнай дзейнасці, не ўяўляла сваёй палітычнай ролі без падтрымкі, згоды Расіі і таму, мне здаецца, што гісторыкі ў сваіх працах грашылі і грашаць супраць ісціны, калі так катэгарычна “заганяюць” усе буржуазныя і дробнабуржуазныя партыі нашага краю ў лагер беларускага буржуазнага нацыяналізму. Для таго, каб аднесці іх да такой

[1] Белорусский учительский вестник (Могилев). 1910. № 5. С. 46.

катэгорыі, неабходны канкрэтныя факты аб распальванні гэтымі партыямі нацыянальнай варожасці да іншых нацый і перш за ўсё рускай, эксплуататарскія класы якой прыгняталі ўсе нярускія народы, у тым ліку і беларускі. Беларускія буржуазныя і дробнабуржуазныя партыі знаходзіліся пад вельмі вялікім уплывам сваіх братоў па класу з еўрапейскай часткі Расіі, таму не маглі мець выразна акрэсле-ную праграму самастойнай нацыянальнай дзейнасці. Але тое, чаго беларуская буржуазія не змагла зразумець за гады мірнага жыцця, яна вельмі хутка ўсвядоміла яго напярэдадні і ў разгар рэвалюцыйных падзей, якія сталі добрай школай вывучкі не толькі для пралетарыяту, але і тых, хто супрацьстаяў яму ў барацьбе за ўладу. Цяпер ужо нацыянальнае аблічча многіх прадстаўнікоў беларускай буржуазіі яскрава вызначалася. Сваё будучае яны справядліва бачылі ў незалежнай ад Расіі беларускай дзяржаве і пастараліся нямала зрабіць, каб прыцягнуць да гэтай прагрэсіўнай ідэі працоўныя масы, абяцаючы ім поўнае выратаванне ад шматвяковага сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, які давялося па горла зведаць за Рэччу Паспалітай і царскай Расіяй.

Настроенасць прагрэсіўных, нацыянальна-самасвядомых колаў беларускага народа на суверэнную дзяржаву вельмі выразна пачала праяўляцца ў час, калі над іх краем навісла рэальная пагроза стаць падпарадкаваным кайзераўскай Германіі. У апублікаваным 19 снежня 1915 г. ў Вільні "Універсале Конфэдэрацыі Вялікага Князьства Літоўскага", які разам з беларусамі падпісалі прад-стаўнікі літоўскіх, польскіх і яўрэйскіх арганізацый, заяўлялася, што яны "пры-ступілі да ўтварэння конфедэрацыі Вялікага Князьства Літоўскага, дабіваючыся супольнымі сіламі абы Літоўскія і Беларускія, каторыя здаўна прыналежалі да Вялікага Князьства Літоўскага, а цяпер апанаваны нямецкімі войскамі, стана-вілі пры новых варунках гістарычных неразьдзельнае цела на фундаменцы незалежнасьці Літвы і Беларусі, як суцэльнае дзяржавы". Стаць гэтай ідэі рэальнасцю перашкодзіў не столькі ўсталяваны пад час нямецкай інтэрвенцыі рэжым, колькі "імкненьне польскага панства падрыхтаваць Літву і Беларусь да ўключэньня ў будучую незалежную Рэч Паспалітую Польскую"[1].

Ведаючы, як важна будзе мець падрымку з боку нецменшасцяў у час станаў-лення, адбудовы ўласнага дзяржаўнага жыцця, складальнікі Універсала Канфе-дэрацыі Вялікага Княства

[1] Парэчын У. Ідэя беларускай дзяржаўнасці перад утварэннем Савецкае Беларусі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Працы катэдры сучаснага права. Т.І. Мн., 1929. С. 7.

Літоўскага запэўнівалі, што гэтая дзяржава будзе засцерагаць “усім нацыям у яе межах усе правы”[1].

На пазіцыі абласной аўтаноміі адразу ж стала рэдакцыя газеты “Вольная Беларусь”, першы нумар якой выйшаў 25 мая 1917 г. Яго перадавы артыкул заканчваўся так: “Да вялікай працы, браточкі, уставайця! Да змагання за аўта-номію Беларусі, за дэмакратычную рэспубліку Дзяржавы Расейскай!”. Газета рэгулярна змяшчала артыкулы па праблеме беларускай аўтаноміі.

Выпрацоўваючы шляхі палітычнага адбудавання Бацькаўшчыны, беларусы-аўтанамісты разам з тым мелі даволі прагрэсіўны для таго часу погляд на яе нацыянальна-культурнае, этнічнае развіццё. У выпрацаваным імі ў канцы лета 1917 г. Праекце платформы беларуская мова ўжо прызнаецца нароўні з рускай (Каралеўствуаўнай) афіцыйнай “ва ўсіх дзяржаўных інстытуцыях краю. Усе пасады на дзярж. і грамадзянскай службе займаюцца, павэдлуг магчымасці, беларусамі!”[2]. Гэтае патрабаванне распаўсюджвалася і на камандны склад Беларускай ваеннай акругі. Прапаноўвалася, каб і царкоўна-рэлігійнае жыццё самым цесным чынам было звязана з нацыянальнымі інтарэсамі краю.

Паступова, але няўхільна ідэя беларускай дзяржаўнасці ахоплівае і людзей з не такой ужо і высокай нацыянальнай самасвядомасцю, не так добра адукава-ных. Віной усяму гэтаму з’яўлялася нямецка-руская вайна. Шырокія народныя гушчы хутка зразумелі, што Расія вяла яе не на сваёй этнічнай тэрыторыі, а на гістарычнай беларускай зямлі, што пры існаванні на ёй уласнай дзяржавы вайна з Германіяй магла б і не закрануць яе. Вялікую незадаволенасць выклікала прымусовая эвакуацыя камандаваннем рускіх войскаў насельніцтва, матэрыяль-ных і духоўных каштоўнасцяў на ўсход царскай імперыі, што часта не выклікалася ні стратэгічнымі, ні тактычнымі мэтамі. Тут не апошнюю ролю адыграла імперскае жаданне як мага большую колькасць беларуска- і польскамоўнага насельніцтва зрушыць з родных мясцін, а пасля выгнання ворага прывезці сюды рускамоўных жыхароў з цэнтральных губерняў краіны, што паспрыяе русіфікацыі заходняй часткі яе тэрыторыі, створыць больш магутны плацдарм для правядзення такой палітыкі і ў этнічных межах Польшчы. Па дарозе ў эвакуацыю і вяртанні назад з-за голаду і іншых прычын загінула больш беларусаў, чым на тэрыторыі, дзе вяліся баі паміж рускімі і кайзераўскімі войскамі. А ў якое страшэннае эканамічнае запусценне прыйшлі многія раёны Беларусі з прычыны таго, што там пасля эвакуацыі мясцовага

[1] Наша Ніва. Зб. Вільня. 1920. С.7.
[2] Вольная Беларусь. 1917. 11 верасня.

насельніцтва не было каму працаваць на зямлі, фабрыках і заводах!

Пра той жахлівы час праўдзіва паведамлялася свету ў Мемарыяндуме прадстаўнікоў беларускіх палітычных партый і рухаў, што ўдзельнічалі ў чэрвені 1916 г. у швейцарскім горадзе Лазана ў працы III-й канферэнцыі нацыяў: "...расійскі ўрад эвукуаваў з розных мейсц Беларусі сотні тысяч сялян беларускіх, нішчыў хлеб на палёх, паміж хаты і гумна; адступаючая армія гнала перад сабой эвакуованых, як быдла, у варунках самых негігіенічных і самых цяжкіх аж у паўночную Расію і Сібір; дзяцей часта бралі ў прытулкі, каб іх русіфікаваць. З зямель беларускіх, захопленых цяпер Аўстра-Немцамі, выгналі каля 300 000 чалавек (пазней іх лік значна павялічыўся. – Л.Л.). Частка жыхароў асталася ў сваіх сялібах, дзякуючы толькі таму, што іх вёскі лежалі па за шляхамі баёў, або дзякуючы таму, што яны загадзя пахаваліся ў лясох і балотах"[1].

Што такая трагедыя адбылася з беларускім народам з-за адсутнасці ў яго ўласнай дзяржавы, разумелі практычна ўсе, хто насіў галаву на плячах. Недаравальна, што гэтую найцяжэйшую старонку ў гісторыі Бацькаўшчыны як след і пасёння не раскрылі навукоўцы.

Па стану на 1 лютага 1917 г. з пяці заходніх губерняў Расійскай імперыі падалося ва ўцекачы 1130 тыс. чалавек. З іх у Маскве атабарылася 128 тыс., у Петраградзе – 101 тыс[2]. Пазней лік уцекачоў з нашага краю працягваў расці, што самым адмоўным чынам адбівалася на ўсіх баках яго жыцця, ставіла пад пагрозу само існаванне значнай часткі беларускага этнасу з-за яе растварэння ў іншанацыянальным асяродзі.

Пры высяленні насельніцтва на ўсход, якое пачалося ад восені 1915 г., пераважную ўвагу звярталі на асобаў праваслаўнага веравызначэння і менш клапаціліся пра каталікаў, гараджан, паноў, align="left"рознага роду гандляроў і іншых катэгорый грамадзян. Гэта ў пэўнай ступені прычынілася да таго, што акупацыйным уладам удалося без асаблівых цяжкасцяў дамагчыся таго, што насельніцтва амаль ўсёй Гродзеншчыны, значнай часткі Віленшчыны і Мін-шчыны не раз выказвала ў канцы 1917 – пачатку 1918 г. сваю згоду адысці ад Расіі і далучыцца да Нямеччыны або Аўстрыі. Затое супроць гэтага катэга-рычна выказваліся беларусы – уцекачы на сваіх з'ездах у верасні і кастрычніку 1917 г., а таксама Беларуская Народная Грамада ў

[1] Вольная Беларусь.1917. 29 верасня.

[2] Сташкевич Николай. На пути к истине (Из истории национально-освободительного движения в Белоруссии. 1917 год.). Мн., 1983.С.30.

Маскве. Апошняя ў пры-нятым у лютым 1918 г. звароце “Да ўсіх народаў Расіі і дэмакратыі ўсяго свету” заяўляла: “Пры ўсіх комбінацыях міравой палітыкі вараждуючых старон, бела-рускаму народу ў цэлым павінно быць дано сьвятое права вызначыць сваю долю і выказваць сабе тую форму дзяржаўнага існавання, якая ядына адпавядае яго гісторыі і да яго чыста селянскага дэмакратычнага быту…

Бараніць свае дабыткі, сваю зямлю і сваю долю прыдушэны вайною беларускі народ ні можа. Абарона гэтая ёсьць доўг усёй Расіі і дэмократыі ўсяго сьвету. Да іх зьвертаюць свой кліч уцекачы – беларусы і верацъ, што яны дасягнуць гэтае мэты[1].” Такія спадзяванні не спраўдзіліся. Праўда, зямлю бела-русаў вызвалілі і ад нямецкай, і ад польскай акупацый, але ніхто не пажадаў лічыцца з іх законным правам на ўласнае нацыянальна-суверэннае развіццё. Да гэтай запаветнай мары даводзілася прабівацца толькі ў разліку на свае ўласныя сілы, пераадольваючы неверагодныя цяжкасці, што не аслабляла, а, наадварот, умацоўвала жаданне людзей да вызвалення з-пад чужога палітычнага прыгнёту.

Ужо на самым пачатку Першай сусветнай вайны яе наступствы сталіся для Беларусі найбольш цяжкімі, чым для якога-небудзь іншага раёна царскай імперыі. Пераканаўча пацвярджаецца такая выснова і тым, што прыкладна кожны пяты беларус стаў уцекачом. Але з гэтага была і пэўная карысць: на чужыне ў людзей вельмі імкліва расла беларуская нацыянальная самасвя-домасць, чаму так перашкаджалі рознага роду асімілятары ў родным краі. Між іншым на гэта звярнуў увагу дэлегатаў з’езда беларускіх партыйных і грамад-скіх арганізацый, што праходзіў 8-10 ліпеня 1917 г. у Менску, намеснік старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэта Павел Аляксюк. Адной з прычын нядужа плённай працы Камітэта ён лічыў, “што нацыанальнае пачуцьцё тут, на Беларусі, вельмі слабае і абуджаецца толькі тагды, як чалавек пападае на чужыну”.[2] І гэтаму нельга запярэчыць. Карысць ад знаходжання на чужыне для больш чым мільённай арміі беларускіх уцекачоў заключалася яшчэ і ў тым, што яны канчаткова, на канкрэтных прыкладах, праз параўнанні цвёрда пера-каналіся ў сваёй непрыналежнасці ні да рускага, ні да польскага, ні да ўкраінскага народаў, а ўяўляюць сабой адрозную ад іх чалавечую супольнасць. Выспяванне нацыянальнага самаўсведамлення сярод беларусаў-уцекачоў адбывалася гэтак жа інтэнсіўна, як сярод салдат і матросаў

---

[1] Вольная Беларусь. 1918. 17 лютага.
[2] Вольная Беларусь. 1918. 21 ліпеня.

беларускага паходжання, што змагаліся супроць кайзераўскіх войскаў.

Каб такая найкаштоўная для кожнага народа якасць, як нацыянальная сама-свядомасць, не дэфармавалася, знаходзілася на належным узроўні сярод бела-рускіх уцекачоў, неабходна было сістэматычна падмацоўваць яе адпаведным мерапрыемствамі ідэалагічнага, культурніцкага характару. У поўнай адпавед-насці з самою сутнасцю нацыянальнай ідэі праводзіў культурна-асветніцкую працу з уцекачамі Арэнбургскі гуртток беларусаў, камітэт якога ўзначальваў Б. Лагутка. Гурток меў бібліятэку-чытальню, рэгулярна арганізоўваў лекцыі, ладзіў канцэрты і спектаклі ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Гурткоўцы пільна сачылі за падзеямі на сваёй далёкай радзіме, выступалі за яе палітычную незалежнасць і культурна-нацыянальнае самавызначэнне, улетку 1918 г. нала-дзілі сувязь з Беларускім нацыянальным камісарыятам[1].

Вайна павысіла зацікаўленасць да роднага краю і ў беларускіх студэнтаў, што вучыліся ў Кіеве. Менавіта яны і сталі стваральнікамі тут Кіеўскага бела-рускага гуртка. Улетку 1917 г. ён налічваў каля 150 сябрукоў.

Народжанае вайной і нямецкай інтэрвенцыяй больш глыбокае ўсведамленне ролі ўласнай беларускай дзяржаўнасці патрабавала ад яе шчырых прыхільнікаў тэрміновага правядзення шэрага канкрэтных захадаў па ўвасабленні на практы-цы гэтай лёсавызначальнай, прагрэсіўнай ідэі. І іх ажыццёўлена нямала. Грун-тоўна абмяркоўвалася яна падчас правядзення 25-27 сакавіка 1917 г. у Менску з’езда беларускіх нацыянальных арганізацый. Галоўным праграмным патраба-ваннем яго стала дзяржаўна-тэрытарыяльная аўтаномія Беларусі ў межах Менскай, Магілёўскай, Віцебскай, Гродзенскай і Віленскай губерняў. Дзякуючы свайму прагрэсіўнаму падыходу да развязвання гэтай набалелай праблемы краю, з’езд знайшоў шырокае водгулле і сярод беларусаў, якіх вайна закінула за межы роднай Бацькаўшчыны. Вось што пісалі нашыя землякі з Петраграда ў газету “Вольная Беларусь” (27.V.17): “Гурток беларускіх жанок “Пралеска” вітае вольны беларускі нацыянальны з’езд і мае надзею, што ён голасна высла-віць радасьць вольнае беларускае кабеты”. Самыя найлепшыя пажаданні і цвёрдую ўпэўненасць у адраджэнне беларускага народа выказалі петраградскі гурток вучняў-уцекачоў з Беларусі, створанае ў гэтым горадзе на Няве Беларускае выдавецтва “Загляне сонца і ў наша аконца” нашыя супляменнікі, якіх эвакуацыя закінула ў Арол і Харкаў. Але, бадай, нідзе так

[1] ЭГБ. Т.1. С. 197.

рашуча не выказаліся за аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай дэмакратычнай рэспублікі, як 1 чэрвеня 1917 г. на мітынгу рабочыя-беларусы Нарвскага раёна Петраграда, якія стаялі на пазіцыях Беларускай сацыялістычнай грамады. На мітынг прыйшло больш за 300 чалавек. Тут было заяўлена, што "толькі вольным злучэньнем паасобных нацый грунтуецца (складаецца) сіла і моц цэлага гасударства, і толькі нацыянальнае самаўсьвядамленьне ёсьць пэўны шлях да інтэрнацыяналу"[1].

Значэнне нацыянальнага суверэнітэту ўсё лепш пачынала разумець сялянст-ва, якое не толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах і раней і зараз не вызначаец-ца сваёй палітычнай актыўнасцю. За федэратыўна-дэмакратычную рэспубліку Расіі, да прыкладу, выказаўся і VI губернскі з'езд віцебскіх сялян. Беларусь у гэтай рэспубліцы яны пажадалі бачыць аўтаномнай. Выступілі сяляне і за нацыяналізацыю школы з тым, каб навучанне ў ёй вялося на роднай мове.

Маюцца звесткі, што абвестку аб правядзенні ў сакавіку 1917 г. у Менску з'езда беларускіх нацыянальных арганізацый прыхільна сустрэлі ў шэрагу месцаў нашага краю прадстаўнікі польскай меншасці, у прыватнасці горада Століна. Вось змест іх прывітання: "Першы вольны сход грамадзян палякаў Пінскага павету, што адбыўся ў мястэчку Століне, пасылае братэрскае прыві-танне беларускаму народу, спадзяючыся разам працаваць на карысьць і дабро роднага краю"[2].

Жыццёвую неабходнасць дзяржаўна-палітычнай і нацыянальна-культурнай аўтаноміі для Беларусі пацвердзілі беларускія партыйныя і грамадскія аргані-зацыі на сваім чарговым з'ездзе (Менск, 8-10 ліпеня 1917 г.). Зместам працы з'езда застаўся вельмі задаволеным прадстаўнік ад Маскоўскай філіі Беларускай сацыялістычнай грамады Язэп Дыла. У сваім выступленні ён заявіў, "што каб ворагі беларускаго руху пабылі на гэтым зьездзі, пабачылі зьехаўшыхся дэлегатаў, яны бы пераканаліся, што погляды іх на беларускі рух, як на "пан-скую выдумку", "польскую інтрыгу" – пагляды памылковыя. Беларускі рух – рух чыста дэмакратычны. Яго робіць работнікі, сяляне і шчырадэмакратычная інтэлігенцыя.

… Мы спіхнём тых, што прыехалі да нас з чужых бакоў, ашуківаюць народ наш, ездзюць як бы яго прадстаўнікамі да Петраграда і Масквы і фальшуюць думкі нашага народу"[3].

[1] Вольная Беларусь. 1917. 24 чэрвеня.
[2] Вольная Беларусь. 1917. 28 мая.
[3] Вольная Беларусь. 1917. 21 ліпеня.

Разуменне выключнай ролі нацыянальнага ў тую трывожную, адказную часіну было такім глыбокім, што некаторыя з удзельнікаў з'езда, у прыватнасці Аляксандр Цвікевіч, заклікалі "ўсіх беларусаў інтарэсы бацькаўшчыны паста-віць вышэй усякіх партыйных заданьняў і злучыцца ўсім".[1]

І такой прагрэсіўнай, выверанай самім жыццём пазіцыі на ўсенародны характар змагання беларускага народа за сваю палітычную волю быў не толькі вышэйназваны грамадска-палітычны дзеяч. Начыста адхіляў усе сацыльныя і канфесійныя адрозненні, якія маглі б толькі шкодзіць нацыянальна-культурнаму адраджэнню Бацькаўшчыны, шчыра адданы ёй сын Язэп Лёсік: "І калі мы хочам жыць на сьвецці, калі хочам быць беларусамі, калі нам сапраўды праціўна рабіцца цэглай і кахляй на чужы будынак, на чужую славу і пыху, дык мы павінны нібаўна, цяпер-жа злучыцца ў адну згодную, моцна злучаную грамаду, павінны стварыць ядыную, моцную, як мур, сямью беларусаў і згодна паўстаць на абарону сябе, свайго гонару і нацыянальнага істненьня"[2].

Маглі не жадаць уліцца ў такую сям'ю толькі безнадзейна, хранічна хворыя на нацыянальны нігілізм, запраданыя рускім вялікадзяржаўнікам ці крайнім польскім нацыяналістам беларусы. Дый то не ўсе, віной чаму з'ўлялася магутнае імкненне людзей беларускага краю самім распараджацца яго дзяржаўна-палітычным лёсам. Таму, відаць, цалкам нельга пагадзіцца з такім пунктам з "Адозвы" газеты "Вольная Беларусь" (21 ліпеня 1917 г.) да сваіх чытачоў: "Багатыя і заможныя станы нашага народу выракліся свайго роду і пашыліся ці то ў палякі, ці то ў маскалі – застаўся адзін працоўны дзесяціміль-ённы народ". Людзей, якія ўпарта шукалі і з радасцю знаходзілі свае гістарыч-ныя карані ў беларускім родзе, было нямала і сярод заможных, і сярод адукаваных станаў, ад чаго нацыянальны рух набываў па-сапраўднаму агульна-народны характар.

Акрамя моцнага ўздзеяння суровых выпрабаванняў вайны на імклівы рост усведамлення беларусамі свайго этнічнага "Я", ніяк нельга забывацца на велізарную ролю і больш ранняга фактару: шырокай прапаганды рэдакцыяй газеты "Наша ніва" гэтай кансалідацыйнай ідэі. Ад першых дзён свайго выдання газета рашуча выступала супроць падзелу беларускага народа на роз-ныя сацыяльныя слаі, рэлігійныя кланы, што толькі магло б аслабіць яго моц у змаганні за нацыянальнае адраджэнне. Пра пазіцыю газеты па дадзеным пытанні вельмі добра можна меркаваць паводле

[1] Вольная Беларусь. 1917. 26 ліпеня.
[2] Вольная Беларусь. 1917. 21 ліпеня.

зместу наступных слоў з яе першага нумара за 1912 г.: “Мы яшчэ ня зусім уцямілі, што, нягледзячы на ўсялякія разьдзелы, споркі і сваркі, усе беларусы – гэта родныя браты, адна сям’я – што 9-мільённая грамада раскінутых па вялізным абшары беларусаў – гэта адзін суцэльны народ”.

Як станоўчае варта адзначыць, што ідэя палітычнага самавызначэння Беларусі знаходзіла сабе ўсё больш прыхільнікаў і ў яе ўсходніх раёнах, хаця ў XIX ст. іх насельніцтва не вызначалася актыўнасцю ў нацыянальна-вызвольнай барацьбе, многае страціла ў сваёй этнакультурнай самабытнасці з-за жорсткай дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі. Так, за аўтаномію Беларусі ў складзе дэмакратычнай федэратыўнай Расіі выступаў і Віцебскі беларускі народны хаўрус. 26 ліпеня 1917 г. яго дэпутацыя наведала Петраград і перадала Часоваму ўраду адпаведны праект, у якім зазначалася, што “кіраваць краёвым жыцьцём павінна Беларуская Рада, складзеная с прадстаўнікоў усіх мясцовых нацыяў на грунці агульнаго, роўнаго, простаго, таёмнаго і прапарцыянальнаго галасаваньня”[1].

З вышэйсказанага становіцца зразумелым, чаму тагачасныя адраджэнцы задачай нумар адзін лічылі прывесці свой народ да глыбокага пераканання, што ён уяўляе сабою пэўную нацыю, а не проста “тутэйшых людзей” як нешта этнічна бесструктурнае і бессістэмнае. Правільны погляд на дадзеную праблему выказваў Язэп Лёсік: “Нацыянальнасьць – гэта крыніца, гэта вечны калодзіж людзкога багацьця, цнот і развою ўсяго чалавецтва…

Толькі праз нацыянальнасьць людзі дайшлі да сучаснае вышы культурнаго развіцьця. Нацыянальнасьць стварае ўсё: навуку, штукарства і літэратуру.

Толькі стаўшы на грунт нацыянальнай культуры З. Эўропа вышла із цемры барбарызму на шлях сьветлай паступовасьці. Толькі на грунці роднай культуры мог зьвіцца Толстой, Шэкспір, Сэрвантэс ці Гёттэ, толькі англіцкая культура магла спарадзіць Дарвіна, а нямецкая дала нам Канта”[2].

Вось толькі давесці гэтыя праўдзівыя думкі датычна палітычнага самавызна-чэння Бацькаўшчыны, ролі нацыянальнага фактару ў лёсе яе людзей аказалася далёка не лёгкай справай. Найменш дасведчанымі па гэтых пытаннях былі вясковыя жыхары, якіх праваслаўнае духавенства і ў значнай ступені мясцовае настаўніцтва ўсяляк схілялі да думкі аб прыналежнасці да рускага народа, пра-пагандавалі ідэю адзінай і непадзельнай Расіі. З такімі ж установкамі да сялян ішлі і бальшавікі, не

[1] Вольная Беларусь. 1917. 11 жніўня.
[2] Тамсама. 21 ліпеня.

прызнаючы Беларусь адметным нацыянальным раёнам Расіі, а яго жыхароў самабытным, адрозным ад рускіх народам. Асабліва гэта было характэрна для пазіцыі арганізатараў на чале з Міхаілам Фрунзе Першага з'езда сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губерняў (20-23 красавіка 1917 г.; Менск), які наадрэз адхіліў ідэю палітычнай аўтаноміі Беларусі. Падобнае выказвалася і на з'ездах сялянскіх дэпутатаў Магілёўскай і Віцебскай губерняў і шэрага паветаў, што затарможвала выспяванне нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці жыхароў вёскі, чаго не маглі не ўлічваць сапраўдныя змагары за палітычнае самавызначэнне Беларусі. Выступаючы на з'ездзе беларускіх пар-тыйных і грамадскіх арганізацый, што праходзіў 8-10 ліпеня 1917 г. у Менску, Змітра Жылуновіч даў усяму гэтаму правільную ацэнку: "… я думаю, што з'езды сялян, што адбываліся тут у Менску, пад кіраўніцтвам прышлых людзей, не выяўляюць сабою праўдзівай волі дэмакратыі"[1].

Праўда была цалкам на баку аўтара вышэйпрыведзенай цытаты, бо і на самай справе той сялянскі з'езд у Менску не адлюстроўваў настрою ўсіх вяскоўцаў Беларусі і ў многіх выклікаў даволі суровую крытыку. Не пагадзіліся з яго рашэннямі і нашыя бежанцы, што трапілі ў Казань. 3 мая тут адбылося экстранае пасяджэнне Рады беларускіх дэпутатаў. Даклад аб рэзалюцыях з'езда і заявах яго старшыні Міхайлава (партыйны псеўданім М. Фрунзе) аб "Беларус-кім Нацыянальным Камітэце" і "Беларускай соцыалістычнай грамадзе" зрабіў Ф. Стульба. Рада "аднагодна пастанавіла:

1) – Протэставаць проціў пастаноў з'езду абрусіцельскага характару.

2) – Прызнаць заяву старшыні Міхайлова аб тым, што "Беларускі Нацыя-нальны Камітэт" – панская інтрыга і што ў "Беларускай Соцыалістычнай Грамадзе" замешаны паны, правакацыйнай і скіраванай, каб разлучыць бела-рускі народ.

3) – Беларускі Нацыянальны Камітэт прызнаць кіраўнікам усяе беларускае нацыі.

4) – Прызнаць, што Беларуская Соцыалістычная Грамада адбівае жаданьня беларускага працоўнага народу.

Старшыня прапаршчык Станкевіч
Пісар Салдат Борк"[2].

У змаганні за палітычныя правы беларускага народа вельмі хутка выспела правільная ва ўсіх дачыненнях думка, што руху за нацыянальнае адраджэнне нельга будзе надаць шырокага размаху без належнай прапагандысцкай, растлу-мачальнай працы ў масах.

[1] Вольная Беларусь. 1917. 21 ліпеня.
[2] Вольная Беларусь. 1917. 28 мая.

Большасць з людзей па прычыне сваёй сур'ёзнай культурна-моўнай асіміляцыі як след не разумела галоўнай сутнасці нацыя-нальнага руху – і таму не праяўляла асаблівай актыўнасці. Шмат папрацаваў дзеля раскатурхвання народа ад сну вядомы грамадска-палітычны і культурны дзеяч Фабіян Шантыр. 16 мая 1917 г. ён выступаў перад менчанамі з лекцыяй на тэму "Патрэбнасць нацыянальнага жыцця для беларусаў".

Дзеля больш правільнага, глыбокага усведамлення шырокімі пластамі наро-да сутнасці адраджэнскіх працэсаў, ролі ў ім нацыянальна-дзяржаўнага фактару шмат карыснага зрабіла рэдакцыя газеты "Вольная Беларусь". Ужо сам факт арганізацыі выдання яе з 28 мая 1917 г. у Менску смела можна назваць адметнай з'явай беларускага нацыянальнага руху ў перыяд Першай сусветнай вайны. Гэта важная падзея адбылася прыкладна праз год і дзевяць месяцаў, як у сувязі з захопам нямецкімі інтэрвентамі г. Вільні было спынена выданне беларускай газеты "Наша Ніва". Першы нумар газеты "Вольная Беларусь" адкрываўся рэдакцыйным артыкулам з аналагічным ёй загалоўкам і з ананімнага яе назве верша, у якім былі такія радкі:

Як нявехна ў ніроднай сямы,
Ты (Беларусь. – Л.Л.) сабе ня надбала, –
Залатыя кляйноты свае
Упыху сёстрам (Маскве і Польшчы. – Л.Л.) сваім даравала.

Даволі пераканаўча раскрыўшы прычыны прыгнечанага стану роднага за-бранага краю, аўтары артыкула беспамылкова вызначылі надзейныя шляхі выхаду з гэтага заняпаду: жывучай і гаючай вадой для народа "ёсьць наша бела-руская мова і асьвета на грунці роднай культуры". Святая павіннасць кожнага свядомага грамадзяніна і беларуса бачылася ў тым, каб "аддаць свае сілы і розум на службу многопакутнага народу", выхоўваць яго "**нацыянальнай, палітычнай і грамадзянскай** сьвядомасьці". Справядліва адзначалася, што дзеля таго, каб адрадзіць беларускі народ, "трэ будзе змагацца ня толькі з забабонамі чужынцаў, але і з уласнаю цемрай, каторая спавіла нас чорнаю хмараю пад час панавання царскаго самадзяржавія".

Газета "Вольная Беларусь" ад першага ж нумара цвёрда ступіла на шлях, па якім да гэтага ішла яе папярэдніца "Наша Ніва". Яна стала сапраўднай трыбу-най беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Галоўным звяном яго цалкам справядліва лічылася родная мова, што добра відаць з артыкула "Дзесяць прыказаньняў для памяці" (пад ім стаіць подпіс Я-р). Амаль кожнае з іх замыкаецца на мове, але найбольш пятае:

"Толькі на роднай, добра зразуме-лай мове, чэлавечы розум развіваецца і багаціць родную духоўную і эканаміч-ную культуру"[1].

Газета "Вольная Беларусь" пачала выходзіць неўзабаве пасля таго, як у Расіі сканаў царскі манархічны рэжым, і ўлада апынулася ў руках Часовага ўрада. І хаця яна зрабіла шэраг важных крокаў па дэмакратызацыі жыцця, многае з колішняй вялікадзяржаўнай шавіністычнай практыкі заставалася без змяненняў у лепшы бок. Прычым гэта найперш датычыла нашага краю, на які і новае кіраўніцтва Расіі не жадала глядзець як на нешта самабытнае, адметнае ад рус-кага. Адсутнасць усякай увагі Часовага ўрада, пераважнай бальшыні рускай інтэлігенцыі да нацыянальных патрэбаў беларускага народа вельмі непакоіла яго прагрэсіўную, з належнай этнічнай самасвядомасцю частку. У сувязі з гэтым рэдактар газеты "Вольная Беларусь" Язэп Лёсік пастараўся засяродзіць чытачоў на такім факце, "што чуллівае вуха маскоўскага грамадзянства ў нацыанальных пытаньнях больш нахіляна да таго, што было (г.зн. да русіфікацыі беларусаў. – Л.Л.), як да таго, што павінна быць".

Заява беларусаў "аб сваёй гістарычнай самабытнасьці, аб жаданьні ўласнага культурнага жыцьця, – нават лепшымі людзьмі маскоўскага грамадзянства талкуецца, як сэпаратызм, дзяліцьба і калатніна"[2]. Ідэолагі беларускага нацыянальнага руху прыклалі шмат намаганняў, каб вызваліць народ ад уплыву такіх фальсіфікацый і прыцягнуць яго да актыўнай палітычнай дзейнасці. Бадай, не было роўнага Язэпу Лёсіку па тым, што на самым адказным павароце ў гісторыі беларускага народа ён зрабіў дзеля фармавання ў яго нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці. У шараговых людзей яна практычна аказалася дашчэнту вытручанай у выніку палітыкі паланізацыі і русіфікацыі. І хаця ўсім, і кожнаму паасобку даводзілася больш дбаць пра сваё біялагічнае выжыванне ва ўмовах вайны, Я. Лёсік і падобныя яму адраджэнцы, як маглі, неслі ў масы ідэю беларускай дзяржаўнасці, ідэю аўтаноміі ў складзе дэмакратычнай федэратыўнай Расіі. З мэтай вызвалення беларусаў ад навязанай ім знадворку ганебнай, шкоднай думкі пра іх нібыта поўную няздольнасць да самастойнага дзяржаўнага жыцця Я. Лёсік заяўляў: "Беларусь наша бедна, а народ наш цёмны ні за тым, што ён горшы за другіх, або ня мае здатнасьці да навукі і прасьветы. Нядоля наша ў тым, што мы, страціўшы сваю нізалежнасць, па цяжкім умовам гісторыі, ня здолелі адстаяць сваю нацыянальную самабыт-насць і сталі папасам для суседзяў, спажыткоўнаю ніваю для чужынцаў.

[1] Вольная Беларусь. 1917. 28 мая.
[2] Вольная Беларусь. 1917. 23 жніўня.

Яны высмоктвалі з нас апошнія сокі, адбіралі ў нас нашых лепшых людзей (Міцке-віч, Касьцюшка, Дастаеўскі) і зруйнавалі краіну нашу да сучаснага стано-вішча... Мы павінны дабіцца сабе аўтаноміі і стварыць у сябе свае ўласныя беларускія парадкі і зажыць сваім уласным беларускім жыцьцём. Годзі быць пашаю для чужынцаў, годзі карміць чужынцаў сабе на згубу і пастаянную паку-ту. Аўтаномія для нас – пытанне жыцьця і сьмерці. Калі мы любім свой край, калі жадаем сабе лепшае долі, калі абрыдзела нам парабецтва, калі мы ня стра-цілі да шчэнту свайго нацыянальнага гонару і ня рашыліся чалавечай вартась-ці, – дык мы павінны стаць на ўласныя ногі. Мы павінны дамагацца сама-кіравання, бо цэнтралізм маскоўскі і ўплыў польскі заесьць нас дазвання”[1].

Бясспрэчна, Язэп Лёсік беспамылкова адлюстраваў волю, жаданне вельмі многіх беларусаў, пішучы: “Мы ўсе патаміліся страшным і прыкрым цэнтраліз-мам старога і скінутага рэжыму (царскага. – Л.Л.) і ня хочам, каб ён жыў даляй, хоць бы і пад рэспубліканскім чырвоным сьцягам. Мы хочам, каб у нашым краі будавалі сваё жыцьцё нашы людзі і каб у нашы беларускія справы не мяшалася цэнтральная ўласьць з Масквы ці с Петраграду. Мы хочам, каб зьнікла нарэсьці тая абрыдлая, да сьмерці шкадлівая розьніца паміж дзяржаўнаю і нідзяржаўнаю нацыяй, каторая высмоктвала з нас усе нашы сілы. Мы хочам, каб усе народы былі дзяржаўнымі на сваёй зямлі”[2].

Ужываючы словы “нашы людзі”, Я. Лёсік залічваў да іх і небеларусаў. На-шымі для яго, як і для многіх іншых адраджэнцаў, станавіліся ўсе, хто хацеў, каб Беларусь была краінай вольнай, са сваім самабытным этнакультурным абліччам, якому не пагражалі б ні паланізацыя, ні русіфікацыя. Такі погляд сфармаваўся даволі даўно ў асяроддзі актыўных змагароў за права беларусаў быць гаспадаром на роднай зямлі, пра што сведчыць і наступнае. Разумеючы ўсю важнасць краёвага інтэрнацыяналізму для нацыянальнага Адраджэння, першая сесія Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый, якая праходзіла 5-6 жніўня 1917 г. у Менску, прызнала, што яна павінна складацца з дэпутатаў ад усіх беларускіх арганізацый, валасьцей, гарадоў, мястэчак, бежанскіх аргані-зацый і ваенных часцей, калі яны “вызнаюць права Беларусі на аўтаномію, родную мову і разьвіцьцё нацыянальнай культуры”[3].

У несумненную заслугу ідэолагам і актыўным удзельнікам нацыянальнага руху можна паставіць наданне яму ўжо на самым

---

[1] Вольная Беларусь. 1917. 4 кастрычніка.
[2] Тамсама. 11 жніўня.
[3] Вольная Беларусь. 1917. 11 жніўня.

першапачатковым этапе арга-нізацыйнага характару, дасягнуць чаго ўдалося з вялікімі цяжкасцямі найперш з-за адсутнасці належнага практычнага вопыту. Важнай заваёвай на гэтым шляху стала ўтварэнне ў сакавіку 1917 г. у Менску Беларускага Нацыянальнага Камітэта (БНК). Хаця праіснаваў ён нядоўга (у ліпені 1917 г. быў скасаваны з'ездам беларускіх арганізацый і партый), усё ж паспеў зрабіць нямала дзеля згуртавання беларускіх сіл на барацьбу за аўтаномію свайго краю ў складзе Расійскай федэратыўнай рэспублікі. Пазней усе прынцыпова важныя адраджэн-скія ідэі БНК падтрымала створаная на скліканым ім у ліпені 1917 г. у Менску з'ездзе прадстаўнікоў беларускіх арганізацый Цэнтральная Рада беларускіх арганізацый і партый. У прынятым ёю ў жніўні таго ж года Статуце заяўлялася, што ў склад яе могуць уваходзіць дэпутаты, якія "прызнаюць патрэбу аўтаноміі Беларусі, роднай мовы і развіцця беларускай нацыянальнай культуры".

Станоўча адбіўся на агульным стане беларускага нацыянальна-вызваленчага руху з'езд народаў Расіі, што праходзіў 8-15 верасня 1917 г. у Кіеве. Ініцыятыва яго склікання належала Цэнтральнай Украінскай Радзе. У працы гэтага форуму ўдзельнічала 90 прадстаўнікоў толькі ад тых 13 народаў, якія былі "захопляныя нацыанальным рухам". Ад беларусаў у Кіеў прыехала 8 чалавек. У адпавед-насці з прынятай на з'ездзе пастановай Расія абвяшчалася федэратыўнай дэма-кратычнай рэспублікай. У кожнай з яе паасобных дзяржаў павінны былі "прызнаць адну або колькі моваў данага краю за краёвыя мовы для зносін адміністрацыйных органаў з грамадзянамі, а гэтак сама с цэнтральнымі органамі федэрацыйнай едыніцы і паміж сабою". Агульнадзяржаўнай мовай для будучай расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі прызнавалася расійская. Гэтая мова павінна была стаць сродкам "зносін цэнтральных органаў фэдэрацыйных едыніц (г.зн. паасобных аўтаномій. – Л.Л.) з цэнтральнымі органамі федэрацыі і паміж сабою". Вельмі важнае значэнне ў пункце пастановы па моў-ным пытанні мела палажэнне: "...прызнаньне мовы агульнадзяржаўнаю ні дае ёй жаданае перавагі ў справе школьнай, царкоўнай і судовай над іншымі мова-мі рэспублікі"[1].

Такое абмежаванне сацыяльных функцый агульнадзяржаўнай мовы свед-чыць пра добрае разуменне ўдзельнікамі з'езда ролі моўнага фактару не толькі ў культурным развіцці народаў, але і ў іх імкненні забяспечыць сабе рэальную нацыянальна-дзяржаўную незалежнасць, бо такое немагчыма, калі

[1] Вольная Беларусь. 1917. 29 верасня.

чужая мова рознымі шляхамі пранікне, зацвердзіцца ў службовым справаводстве, народнай адукацыі, царкоўна-рэлігійным жыцці і іншых сферах дзейнасці чалавека. Нацыянальная мова і нацыянальны суверэнітэт узаемна дапаўняюць адзін адна-го. Справядлівым будзе сказаць і такое: як нацыянальны суверэніт краіны нель-га забяспечыць па-за яе нацыянальнай мовай, так і нацыянальная мова краіны не можа існаваць без рэальнага нацыянальнага суверэнітэту.

Выказаныя ў Кіеве на з’ездзе народаў Расіі слушныя думкі аб узаемазалеж-насці паміж іх палітычным самавызначэннем і сацыяльнай роляю родных моваў дапамаглі і ўсталяванню ў значнай часткі беларускай інтэлігенцыі правільнага погляду на дадзенае пытанне. У адрозненне ад бальшыні нярускіх народаў многія беларусы з-за моўнай дэфармацыі духоўнага жыцця ў выніку палані-зацыі і русіфікацыі не так глыбока разумелі ролю сваёй мовы ў нацыянальна-культурным адраджэнні. Сказанае не з’яўляецца выключэннем нават і для самых адукаваных людзей. Востры дэфіцыт нацыянальна-самасвядомай бела-рускай інтэлігенцыі асабліва адчуваўся тады, калі ўзнікла пільная патрэба штосьці канкрэтнае рабіць для інтарэсаў роднай Бацькаўшчыны на самых кру-тых паваротах яе гісторыі. Адарваная ж ад такіх інтарэсаў інтэлігенцыя часта не толькі нічога не рабіла на карысць нацыянальнай справы, а, наадварот, усяляк шкодзіла ёй. Трапную характарыстыку ўзгадаваным на чужых культурна-моўных традыцыях беларусам даў Язэп Дыла ў час правядзення ў кастрычніку 1917 г. у Менску другой сесіі Цэнтральнае Рады беларускіх арганізацый: “Перакінчыкі – беларусы лепшыя расійцы ці палякі, як праўдзівыя расійцы ці палякі. Іншы, атрымаўшы адукацыю на бацькаўскія грошы, ня хоча гаварыць з бацькам і бэсьціць усё народнае”[1]. Наяўнасць немалой колькасці такіх перакін-чыкаў стварала сур’ёзную праблему для нацыянальнага руху.

На стан барацьбы беларусаў за палітычнае самавызначэнне роднага краю адмоўна ўплываў нізкі працэнт іх у агульнай колькасці гарадскога насельніцтва. Гораду заўжды, а тым больш ужо на пачатку ХХ ст., належала вядучая роля ў палітычным, культурным жыцці народаў, толькі, на вялікі жаль, не беларус-кага. У той час, як і многа гадоў раней, у дадзеным тыпе населеных пунктаў Беларусі колькасна пераважалі яўрэі, якія ў моц сваіх традыцыйных прафесій-ных заняткаў (рамесніцтва, гандаль) не праяўлялі асаблівай зацікаўленасці да яе палітычнай аўтаноміі, а тым больш яшчэ да аддзялення ад Расіі.

---

[1] Вольная Беларусь. 1917. 26 кастрычніка.

Хаця мінула і шмат часу пасля паразы нацыянальна-вызваленчых паўстан-няў 1830-1831 і 1863-1864 гг., аднак у памяці людзей захоўваліся гэтыя гіста-рычныя падзеі. Каб і ў чарговы раз не стаць пераможанымі ў нацыянальным змаганні, некаторыя выношвалі думкі аб неабходнасці дапамогі звонку, а пакуль яна не прыйшла, дык, маўляў, няварта і брацца за справу. З такой памылковай, шкоднай пазіцыяй ніяк не магла пагадзіцца рэдакцыя газеты "Вольная Беларусь". Разлічваць толькі на ўласныя сілы заклікаў беларусаў і такі вядомы дзеяч нашага нацыянальнага адраджэння, ён жа і рэдактар гэтай газеты, як Язэп Лёсік: "У змаганьні за сваю нацыянальную самабытнасць, за свае нацыанальнае істненьне, ніхто нам ні паможа. У нашай справі мы сабе і работнікі і памоцнікі, і у справі ўласнага вызваленьня павінны чэрпаць сілу, веру і надзею".[1]

Абуджэнне нацыянальнага руху на ўсіх абсягах Бацькаўшчыны вельмі хутка выклікала абвастрэнне тэрытарыяльных спрэчак паміж беларусамі і іх суседзя-мі. Разглядаючы першых як да канца не сфармаваны нацыянальны арганізм, многімі лічылася, што ад яго нядужа цяжка будзе адарваць тыя часткі тэрыто-рыі, дзе беларусы жывуць з прадстаўнікамі іншых народаў, няхай сабе нават і ў колькаснай меншасці апошніх. Неўзабаве пасля таго, як адбылася Лютаўская рэвалюцыя 1917 г., дзеячы літоўскага нацыянальнага руху звярнуліся да Часо-вага ўрада з просьбай аддаць пад кіраванне Літвы цалкам Ковенскую, Вілен-скую і Сувалкаўскую губерні. З прапановай прадстаўнікоў Беларускай сацыя-лістычнай грамады сумеснымі сіламі правесці тэрытарыяльнае размежаванне гэтых губерняў паводле этнічнага падзелу іх насельніцтва літоўцы не пагадзіліся[2]. Найбольшую ж пагрозу для тэрыятарыяльнай цэласнасці Беларусі ўяўлялі прэтэнзіі палякаў, нацыянальна-дзяржаўная свядомасць якіх нязмена расла з кожнай перамогай кайзераўсіх войскаў. Апетыты палякаў далёка сягалі на ўсход за іх сапраўдную этнічную тэрыторыю, чаго нельга было не ўлічваць ідэолагам і актыўным удзельнікам беларускага нацыянальнага руху.

Цалкам апраўдана, што ставячы ў цэнтр нацыянальнага руху палітычнае самавызначэнне Беларусі, шчырыя змагары за яе будучае не забываліся і на надзённыя пытанні духоўнага жыцця, якое пад шматгадовым уплывам паланіза-цыі і русіфікацыі панесла вельмі вялікія страты ў этнакультурнай адметнасці нашых людзей. Не перавёўшы духоўнае жыццё краю на трывалы

---

[1] Тамсама. 21 ліпеня.
[2] Тамсама.

нацыянальны грунт, нельга было разлічваць на захаванне беларусаў як самабытнага этнасу у складзе імперскай Расіі. У свой час дзеля асвятлення гэтага лёсавызначальнага пытання не шкадавала сваіх старонак рэдакцыя газеты “Наша ніва”. І трэба сказаць не дарэмна, бо паварот да беларускасці пачаў заўважацца і сярод тых, хто жыў па-за ёю ужо не ў першым пакаленні. І важна, што такога роду пазітыўныя этнічныя зрухі пачалі заўважацца нават сярод адукаваных на поль-скіх і рускіх пачатках людзей, а таксама сярод заможных станаў грамадства. Паводле слоў беларускага пісьменніка Змітрака Бядулі, які ў 1912-1915 гг. працаваў у рэдакцыі газеты “Наша Ніва”, на яе патрэбы, а таксама на выданне беларускіх кніг паступалі грошы ад многіх памешчыкаў і шляхцічаў, княгіні Радзівіл, уніяцкага мітрапаліта Шаптыцкага[1]. На такія патрыятычныя ўчынкі, вядома, здольны толькі людзі з дастаткова поўным усведамленнем сваёй прыналежнасці да беларускасці, павагі да яе.

Лёгка зразумець адраджэнцаў таго часу, што яны ў сваім імкненні вырата-ваць духоўнае жыццё ад канчатковай дэнацыяналізацыі галоўную ўвагу нада-валі пытанням адукацыі, якая, будучы спрэс рускамоўнай, так бязлітасна раз’ядала душы маладой змены нашага народа. Нягледзячы на ўсе намаганні так і не ўдалося за царскім часам дамагчыся станоўчых зрухаў у развязванні гэтага вялікай гістарычнай важнасці пытання. Толькі адступленне рускіх войскаў з Вільні стварыла для руплівцаў нацыянальнай адукацыі рэальную магчымасць адкрыць у лістападзе 1915 г. у гэтым гістарычным, палітычным і культурным цэнтры нашага народа першую беларускую пачатковую школу. Самае вялікае старанне да гэтага прыклаў вядомы беларускі палітычны дзеяч і навуковец Іван Луцкевіч. Да такога нацыянальна-патрыятычнага ўчынку Вільня была падрыхтаваная лепш за любы іншы беларускі горад, у чым немалаважную ролю адыграла выданне тут беларускай газеты “Наша ніва”. У тым жа самым годзе дзякуючы асабістаму ўдзелу нашай славутай, з зайздросным нацыяналь-ным гартам паэткі Цёткі (Алаізы Пашкевіч) была адкрыта беларуская школа і ў горадзе Ліда насуперак характэрным для яго традыцыйна моцным польскім уплывам. У беларускіх адраджэнцаў і Вільні, і Ліды аказалася надзвычай лёгкая рука. Сетка беларускіх школ так хутка расла, што здзіўляла нават самых вялікіх аптымістаў.

Прыярытэты нацыянальнаму фактару аддавалі адраджэнцы не толькі ў сфе-ры адукацыі. Рабілася ўсё магчымае, каб узмоцніць яго пазіцыі і на астатніх дзялянках духоўнага жыцця. Пахвальна,

[1] Зьвязда. 1930. 6 снежня.

што такія падыходы знайшлі неабход-ную падтрымку ў моладзі, яка не падзяляла празмернага ўплыву на іх Бацькаў-шчыну ні рускай, ні польскай культур. Так, у зусім не лепшы для 1917 года час моладзь мястэчка Будслава Віленскай губерні стварыла мастацкі самадзейны гурток з прыгожай назвай “Вяночак”. На свае ўласныя грошы яна пабудавала для гуртка “хатку”, у якой неўзабаве арганізавалі бібліятэку, купілі піяніна і сталі штовечар ладзіць розныя культурна-асветніцкія мерапрыемствы. 27 студзеня 1918 г. сіламі “Вяночка” быў пастаўлены на беларускай мове першы спектакль “Як яны жаніліся”. Пасля спектакля самадзейны хор спяваў беларускія песні[1].

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. пэўная надзея на паварот дзяржаўнай палітыкі ў сферы культуры, народнай адукацыі ў бок беларускага нацыянальна-га інтарэсу ўзнікла і ў насельніцтва незанятай нямецкімі войскамі тэрыторыі нашага краю. У каторы ўжо раз гэтую прагрэсіўную для ўсіх часоў і народаў ідэю яшчэ да яе з’яўлення на свет пастаралася задушыць прарускай арыентацыі мясцовая адміністрацыя. І як не раз здаралася раней, у гэтым пытанні яна больш спрыяла польскай ідэі. Неабходна адзначыць, што Лютаўская рэвалюцыя 1917 г. у Расіі адразу ж абудзіла палякаў Беларусі да актыўнага нацыянальнага жыцця. Так, этнічныя палякі ці апалячаныя беларусы Бабруйска выступілі з ініцыятывай правесці ў горадзе сотую гадавіну з дня смерці свайго нацыя-нальнага героя Тадэвуша Касцюшкі і заклікалі заснаваць польскую сярэднюю школу яго імені. Вядомыя і іншыя факты выступлення за польскую школу ў населеных пунктах цэнтральнай і ўсходняй частак Беларусі, што можа разгля-дацца як сведчанне росту нацыянальнай актыўнасці яе адной з самых прадстаўнічых этнічных груп. Гэтай з’яве ў гісторыі адукацыйнага працэсу можна даць толькі станоўчую адзнаку, бо яна (з’ява) не магла не разварушыць і беларусаў, прымусіць задумацца, які трагічны лёс чакае іх, калі не ўдасца стварыць нацыянальную школу для сваёй маладой змены.

Істотна наблізіліся да разумення выключнай ролі нацыянальнай адукацыі ўдзельнікі з’езда настаўнікаў сярэдніх школ Віленскай навучальнай акругі, што праходзіў у канцы жніўня 1917 г. у Магілёве. Праводзіць ў гэтым усходнім горадзе Беларусі свой з’езд прымусіў іх захоп горада Вільні кайзераўскімі вой-скамі. У прынятай на з’ездзе пастанове прызнавалася “патрэбным, каб навучан-не ў пачатковых беларускіх школах вялося ў роднай беларускай мові, с пара-лельнай навукай і дзяржаўнай мовы”. У

[1] Вольная Беларусь. 1918. 3 (18) сакавіка.

вышэйшых пачатковых і сярэдніх школах прапаноўвалася "навучэньне беларускае мовы факультатыўна (для тых, хто захоча) і для ўсіх – грунтоўнае пазнаньне гісторыі, этнографіі і географіі Беларусі"[1]. Зразумела, толькі факультатыўнае "навучэньне беларускае мовы" ў такога тыпу школах не магло садзейнічаць таму, каб іх вучні сталі шчырымі, належным чынам падрыхтаванымі носьбітамі роднага слова, дасканала валодалі ім. Сярод удзельнікаў з'езда, відаць, было нямала асобаў, што яшчэ і самі не вызваліліся з-пад шкоднага ўплыву русіфікацыі.

Як станоўчае варта адзначыць, што ў школе на роднай мове навучання адразу ж з'явілася багата прыхільнікаў сярод усіх без выключэння груп насель-ніцтва. А гэта азначала, што дух беларускасці да канца не вынішчылі дзяржаў-ную палітыкаю русіфікацыі, да якой часта дадавалася з боку каталіцкага касцёла, мясцовых паноў яшчэ і паланізацыя.

Неаспрэчнай заваёвай трэба прызнаць такі факт, што калі паводле пастановы Часовага ўрада Расіі быў надрукаваны на шаснаццаці мовах Закон аб выбарах ва Устаноўчы сход, ён з'явіўся і ў беларускай мове. Пераклад выканалі вядомыя дзеячы беларускага нацыяльнага Адраджэння пісьменнік Змітра Жылуновіч (Цішка Гартны) і журналіст, публіцыст Язэп Варонка. Гэтай знамянальнай падзеі ніяк не магла абмінуць рэдакцыя газеты "Вольная Беларусь", даўшы ёй такую станоўчую адзнаку: "Пасьля амаль пяцівековага нявольнага сну бела-руская культура пачынае абуджацца ў новых нічаканых фазах. Сьледам за "Статутам Казіміра – Ягелонна", выданым у XV веку і Статутам Літоўскім, выданым у XVI в. у абудвух выпадках на беларускай мові, у XX в. у Расійскай Рэспубліцы выдан (па-беларуску. – Л.Л.) "Статут аб выбарах у Устаноўчы Збор" (Законъ о выборах въ Учредительное Собраніе)"[2].

У кастрычнікау 1917 г. Нацыянальны аддзел Міністэрства ўнутраных спраў Расіі выпрацаваў з усіх пунктаў гледжання прагрэсіўны законапраект, які забяспечваў кожнаму народу права "карыстацца роднай мовай пры зносінах з органамі ўпраўленьня, самакіраваньня і судовых установах"[3]. Беларусам выка-рыстаць такі законапраект не так проста было, паколькі ва ўладаў Расі не мела-ся цвёрдага погляду на іх, як на самабытны, адрозны ад рускіх этнас. Затое інакш глядзелі самі на сябе перадавыя станы беларускага грамадства. Не чакаючы афіцыйнага прызнання карэннага насельніцтва за самабытны народ, у кастрычніку 1917

---

[1] Вольная Беларусь. 1917. 4 кастрычніка.
[2] Вольная Беларусь. 1917. 30 кастрычніка.
[3] Тамсама. 9 кастрычніка.

г. у Менску пачаўся запіс на бясплатныя курсы беларускай мовы і літаратуры, гісторыі і геаграфіі Беларусі. Заявы прымалі ў памяшканні Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый (Захараўская, 18).

З тагачасных культурных падзей нацыянальнага характару можна адзначыць па ўсіх параметрах вельмі паспяховыя выступленні артыстаў Першага таварыства беларускай драмы і камедыі 31 жніўня і 2 верасня 1917 г. у Оршы. Паказвалі чатыры спектаклі: “Паўлінка”, “У зімовы вечар”, “Пашыліся ў дурні” і “Модны шляхцюк”. Выступаў хор беларускай песні, чыталіся вершы на словы Цёткі, Янкі Купалы, Альберта Паўловіча. Амаль усе выступленні “публіка зустрачала моцным плясканьнем у далоні”. Ёй вельмі падабалася “харaство беларускай гаворкі”[1].

Непараўнальна цяжэй было з арганізацыяй культурнага жыцця на нацыянальным грунце, з выданнем на вольнай ад нямецкай інтэрвенцыі тэрыторыі беларускамоўных газет і часопісаў. І не з-за недахопу матэрыяльных і фінансавых сродкаў, адмысловых прафесіяналаў, хаця і такое мела месца. Галоўная ж перашкода – гэта нежаданне праруская мясцовай улады пусціць беларускую мову ў практычную дзейнасць устаноў культуры, перыядычны друк, што, лічылася, можа выклікаць сапраўдны ўзрыў нацыянальнай актыўнасці беларусаў. Найбольшая патрэба займець такі друк была ў Менска з прычыны ўзрастання яго ролі ў нацыянальным Адраджэнні. У гэтым горадзе рускамоўных газет, прычым найчасцей вялікадзяржаўнага накірунку, аж залішне было і перад вайной, і ў час яе. Да жніўня 1917 г. выходзілі «Минский Голос», «Минская Газета», «Товарищ», «Новая Заря», «Изветия Минского губернского комиссара», «Известия Минского Совета рабочих и солдатских депутатов», «Известия Совета крестьянских депутатов Минской и Виленской губерний», «Известия Комитета Западного фронта Всероссийского Земского Союза», «Известия Комитета Западного фронта Красного Креста». У жніўні таго ж года да іх дабавіліся «Звезда», «Минский Курьер», «Школьное Дело». У Менску тады выдавалі таксама газеты “Вісти Украінзапкомітету” і “Dziennik Minski”[2].

## §2. Антыбеларуская палітыка савецкай улады

Практычнае развязванне праблемы палітычнага самавызначэння беларускага народа ў многім залежала ад стаўлення да яе бальшавіцкіх арганізацый, маштабы дзейнасці

[1] Тамсама. 4 кастрычніка.
[2] Вольная Беларусь. 1917. 8 жніўня.

якіх з кожным годам працягвалі павялічвацца. Датычыла гэта і Беларусі. Многія ўраджэнцы апошняй займалі даволі высокія месцы ў такіх арганізацыях і пры жаданні маглі б істотна ўплываць на яе палітычнае становішча. Але трэба мець на ўвазе, што з-за моцна дэфармаванай у выніку дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі нацыянальнай самасвядомасці ў нас заўжды быў вялікі дэфіцыт на бальшавікоў мясцовага паходжання з цвёрдай арыента-цыяй на інтарэсы Бацькаўшчыны. І ўсё ж становішча не магло заставацца нязменным у сувязі з нарастаннем рэвалюцыйнага руху ў цэнтральных губернях Расіі, што, як і трэба было чакаць, вылілася ў кастрычніцкі пераварот 1917 г. Па многім заўважалася, няхай і не так рэльефна, што бальшавікі пачалі пакрысе мяняць свой погляд і на беларускае пытанне, асабліва пасля таго як у кастрычніку 1917 г. У. Ленін выступіў з артыкулам "Ці ўтрымаюць бальшавікі дзяржаўную ўладу?", у якім гаварылася пра "неадкладнае аднаўленне **поўнай** свабоды для Фінляндыі, Украіны, Беларусі, для мусульман і г.д."[1]. Вось толькі на практыцы нічога не рабілася для беларусаў у плане выканання ленінскага ўказання. Пад уплывам свецкіх і духоўных русіфікатараў часоў царскай Расіі знаходзіліся і многія кіраўнікі бальшавіцкіх арганізацый, не прызнаючы і па іх прыкладзе беларусаў за самабытны народ. Нібыта ў помсту за антынацыяналь-ную палітыку ў дачыненні да ўсіх нярускіх народаў ураду Расіі, а затым і баль-шавіцкаму давялося ў час Першай сусветнай вайны сутыкнуцца з вялікім жаданнем многіх з іх вызваліцца з-пад прыгнёту гэтай краіны-мачахі з тым каб, як заяўлялася ў Дэкларацыі Беларускага абласнога камітэта (БАК) пры Усерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў ад 17 лістапада 1917 г. (Петраград), "самавызначыць свой лёс, зрабіцца самастойнымі і поўнапраўнымі гаспадарамі сваёй зямлі, сваёй культуры і свайго грамадска-палітычнага ладу". Кіраўніцтва ж БАК не пажадала такога выратавальнага шляху для беларускага народа. Пужаючы апошняга быць падзеленым паміж суседнімі дзяржавамі – Польшчай, Украінай і Літвой, – яно не пайшло далей "ідэі ўтварэння аўтаномна-вольнай Беларусі як часткі Расійскай федэратыўнай Рэспублікі"[2].

На момант здзяйснення ў кастрычніку 1917 г. у Расіі рэвалюцыйнага пера-вароту ніводзін з яе нацыянальных рэгіёнаў не знаходзіўся ў такім цяжкім эканамічным становішчы, як падзеленая расійска-нямецкім фронтам на дзве часткі Беларусь.

---

[1] Ленин В.И. ПСС. Т.34. С. 299.
[2] Турук Ф. Белорусское движение: Очерк истории нацилнального и революционнго движения белорусов. М., 1921. С. 99, 103.

Гэта добра разумелі ўсе адказныя за яе лёс арганізацыі і рухі, у т.л. Выканаўчы камітэт Вялікай Беларускай Рады, Выканаўчы камітэт Цэнтра-льнай Вайсковай Беларускай Рады і Беларускі выканаўчы камітэт Заходняга фронту. У прынятым імі ў лістападзе 1917 г. да ўсяго беларускага народа зваро-це даецца такі аналіз становішча: "Беларусь амаль на палову спалена і разбура-на. Пагібель гарадоў і вёсак, пагібель народа і ўсіх яго матэрыяльных даброт на многія гады асуджаць краіну на голад, холад і галечу. Беларускі народ не можа дапусціць нічыйго замаху на правы народа і на яго зямлю", Проста нельга не радавацца за пазіцыю пералічаных вышэй Камітэтаў, што яны і ў тых экстрэ-мальных умовах, калі нічога істотнага не было зроблена па палітычным сама-вызначэнні Беларусі, заявілі яе народу, што "правядзенне ў жыццё абавязковага бясплатнага навучання, узняцце і развіццё беларускай культуры, вывучэнне гісторыі краю і роднай мовы з'яўляюцца жыццёвым інтарэсам", што "заснаван-не на Беларусі вышэйшых навучальных устаноў: універсітэтаў, сельскагаспа-дарчых і політэхнічных інстытутаў і інш. з'яўляецца крайне неабходным для ўзняцця культурных сіл краіны"[1].

З усіх вышэйвызначаных накірункаў дзейнасці нацыянальна-патрыятычных сіл выдзелю "вывучэнне гісторыі краю". Кастрычніцкі пераварот 1917 г. застаў беларускі народ у яго асноўнай масе практычна ў поўным гістарычным бяспа-мяцтве. Наяўная праўдзівая літаратура пра мінулае краю была надзвычай беднай, мала даступнай народу. Затое з фальсіфікацыямі яго гісторыі ўсё было ў парадку. Галоўная з іх: адсутнасць у прыродзе як самога беларускага народа, так і ўласнай гісторыі ў яго. Мінулае Беларусі цалкам інтэгравалася ў рускі гістарычны працэс, да чаго нібыта заўжды імкнуўся і яе народ. Пры такой амаль нулявой гістарычнай свядомасці беларусаў надзвычай праблематычна, складана было ўключыць іх у актыўную нацыянальна-дзяржаўную дзейнасць. Гэта вельмі добра разумелі ідэолагі і кіраўнікі нацыянальных арганізацый і рухаў і паспявалі многае рабіць па хутчэйшым пераадоленні суцэльных прага-лаў у гістарычнай памяці людзей. Аператыўна адгукнуліся на далёка не про-стыя падзеі рэвалюцыйнага часу многія прадстаўнікі навуковай інтэлігенцыі. 15 снежня 1917 г. некаторыя з іх сабраліся на з'езд у Менску, дзе побач з іншы-мі разглядаліся пытанні аб тэрытарыяльных межах Беларусі, беларускай літара-турнай мове галоўных момантах айчыннай гісторыі, асвеце і школе, арганізацыі новых навуковых сіл. Каб як мага хутчэй аднавіць у час суровых выпрабаван-няў так патрэбную дзеля інтарэсаў нацыянальнага

[1] Турук Ф. Там же. С. 95-97.

Адраджэння гістарычную памяць, на дапамогу беларусам прыйшлі ўкраінскія вучоныя, у прыватнасці П. Нечыпарэнка. Пачынаючы з 21 студзеня 1918 г. газета "Вольная Беларусь" пачала друкаваць яго грунтоўную працу "Гісторыя Беларусі" (з VIII-XIII ста-леццe)". Праўдзівая выснова П. Нечыпарэнкі, што "Полацкае княства адыграло на Беларусі гэткую ролю, як Кіяўскае княства на Украіні"[1] мела вельмі важнае значэнне для адраджэння нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці беларусаў, у якога ў той час было нямала праціўнікаў.

Прагрэсіўныя павевы ў нацыянальным жыцці не абмінулі і школьную моладзь. Як бачым, і на прыкладзе беларускага народа пацвердзілася, што на крутых пераломах гісторыі людзі сталеюць значна хутчэй. У сваім звароце (першая палова снежня 1917 г.) да беларускіх вучняў Менская беларуская вучнёўская грамада заклікала іх хутчэй прачнуцца ад доўгага сну і закладваць гурткі "Таварыства прасьветы" пры школах ці арганізоўвацца "на месцах у адну "Беларускую Вучнёўскую Грамаду", каб падняць нацыянальную самасвядо-масць паміж народу, каб памагчы яму ў яго цяжкай долі..." Тлумачылася, што "Менская вучнёўская грамада, злучаючы ўсіх вучняў-беларусаў сярэдніх і вы-шэйшых пачатковых школ гораду, мае сваім першым заданнем ствараць з самых сябе тую працоўную інтэлігэнцыю, каторая аддала-б усе свае сілы на карысьць роднага народу сваёй Бацькаўшчыны – Беларусі, каб павесьці яе да новага культурнага і гістарычнага жыцця, вялікага і слаўнага!"[2].

Клопаты Менскай беларускай вучнёўскай грамады пра нацыянальную школу мелі пад сабой грунт, бо пазітыўных зрухаў тут аніяк не заўважалася. Усё пакуль што адбывалася ў горшых традыцыях царскай антыбеларускай палітыкі. Стан народнай адукацыі на вольнай ад нямецкай інтэрвенцыі тэрыторыі так характарызаваў у першыя дні пасля кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. нехта А.Д-ч: "Беларуская мова ў школах на Беларусі блізка што нідзе ні выкладаецца. У нас была школа расійская, ціпер шмат польскіх школ, а беларускіх німа. Вядомы толькі дзьве беларускія школы – адна пачатковая, а другая сярэдняя"[3]. Праз самыя розныя каналы інфармацыі вучнёўская моладзь не магла не ведаць, што ў іншых нярускіх рэгіёнах Савецкай Расіі пытанні нацыянальнай адукацыі вырашаюцца з непараўнальна большым улікам інтарэсаў іх карэннага насель-ніцтва, чым гэта назіралася на Беларусі.

[1] Вольная Беларусі. 1918. 28 студзеня.
[2] Вольная Беларусі. 1917. 15 снежня.
[3] Вольная Беларусі. 1917. 15 снежня.

На трывалых нацыянальна-беларускіх пазіцыях будавала сваю дзейнасць моладзь вёскі Старыцы Слуцкага павета Менскай губерні. У снежні 1917 г. яна прыняла "Статут гуртка Старыцкай моладзі", эпіграфам якому служылі словы "Жыве мова – жыве народ!" Вось некаторыя найбольш адметныя месцы з гэтага Статута: "1. Усе сябрукі гуртка павінны высока дзяржаць свой беларускі гонар: мы маем выдатную гістарычную мінуўшчыну і слаўную будучыню.

2. Шырыць свядомасьць між братоў беларусаў: знаёміць з гісторыяй Баць-каўшчыны, роднай літэратурай, нашымі патрэбамі і жаданнямі.

3. Падтрымоўваць еднасьць з суседнімі гурткамі, каб весьці супольную працу дзеля адраджэння роднага краю.

4. Усе сябрукі гуртка павінны гаварыць між сабой і ўсюды толькі па-бела-руску, выпісваць беларускія газэты, часопісы і кніжкі, якія выйходзяць на род-най мове і шырыць беларускую літэратуру".

Усяго ў гурток злучылася 12 чалавек. За старшыню быў абраны Алесь Колпак, за яго памочніка – Пётр Зенюк, пісара – Алесь Аніхоўскі[1].

Складаная, неспрыяльная сітуацыя ў краі, па-ранейшаму абумоўленая найперш руска-нямецкай вайной, ужо ніяк не змагла стрымаць беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, пераканаўчым сведчаннем чаму з'явілася і правядзенне ў Менску 5-18 (18-31) снежня 1917 г. першага Усебеларускага з'езду (кангрэса). Ужо сам факт, што для працы ў ім з розных канцоў беларускай этнічнай тэрыторыі і нават з-за яе межаў з'ехалася 1872 чалавекі, можна разглядаць як неабвержаны доказ велізарнай заклапочанасці лёсам Бацькаўшчыны яе найлепшых сыноў і дачок. Гэта былі людзі самых розных прафесій, неаднолькавыя паводле свайго сацыяльнага паходжання і становішча, узросту і іншых прыкмет. Не магла не кідацца ў вочы прысутнасць у зале паседжанняў моладзі, што гаварыла пра наяўнасць у адраджэнцаў так неабходнай у гэтай важнай справе адданай ім змены. Сведчаннем нацыянальнага прасвятлення моладзі, вялікай павагі да яе можна прызнаць факт выбрання студэнта Вазілу ў якасці намесніка старшыні прэзідыума з'езда, а студэнта Грыба – памочніка сакратара гэтага прэзідыума.

Як і трэба было чакаць, галоўным пытаннем з'езда стала вызначэнне шляхоў дзяржаўна-палітычнага і нацыянальна-культурнага развіцця Беларусі. Бальшы-ня выступоўцаў да развязвання гэтага пытання падыходзілі з поўным улікам

---

[1] Тамсама. 31 снежня.

нацыянальных інтарэсаў беларусаў, шмат у чым прынцыпова разыходзячыся са станаўленнем да іх тагачасных савецкіх органаў улады на Беларусі – Савета Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту. Яны пільна сачылі за ходам працы з'езда і праз пэўныя каналы імкнуліся ў выгодным для сябе накірунку уплываць на яе. Не выключана, што ёсць немалая заслуга і СНК Заходняй воб-ласці і фронту, што з'езд не адважыўся на ўстанаўленне поўнага дзяржаўнага суверэнітэту для нашага краю. У двух пунктах пастановы з'езда (№№ 1 і 8) гаварылася аб недапушчальнасці адрыву Беларусі ад Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі[1]. Паколькі бальшавіцкая ўлада варожа ставілася да палітычнай самастойнасці Беларусі нават і на ўмовах аўтаноміі ў складзе Расійскай Федэрацыі, яе (уладу) не задавальнялі і названыя пункты пастановы. СНК Заходняй вобласці і фронту не бачыў іншага выйсця, як з дапамогаю ўзброеных салдатаў (па сутнасці акупантаў) разагнаць дэлегатаў з'езда – законных, глыбокапаважаных прадстаўнікоў беларускага народа.

У асноўнай сваёй масе дасведчаная ў гэтых падзеях частка насельніцтва з вялікім абурэннем сустрэла вестку пра разгон з'езда. З вялікім болем у сэрцы успрыняла гэтую трывожную навіну навучэнская моладзь, у якой вельмі імклі-ва павышалася нацыянальна-дзяржаўная свядомасць, расло цалкам заканамернае жаданне хутчэй убачыць Бацькаўшчыну палітычна незалежнай. Накшталт многіх іншых нацыянальных рухаў вельмі моцна абуравалася разгонам баль-шавікамі першага Усебеларускага з'езда Мінская беларуская вучнёўская грамада. У сувязі з гэтым яна публічна выступіла з гнеўным пратэстам і заявіла, што "маладое пакаленне ні забудзе гэтаго паскуднаго гвалту над народам, які дамагаецца самавызначэння і запляміць пагардаю людзей, каторыя робяць напопярак сваім лозунгам". Пратэст падпісалі старшыня прэзідыуму грамады Т.Назарэнко, сябры старшыні Н. Міцкевіч, М. Рамановіч, сакратары В.А. Аля-ксандроў, Т. Каліжоўская[2]. Аднак, адраджэнскія сілы не адважыліся на рашучае, масавае выступленне ў абарону з'езда і яго прагрэсіўных ідэй з-за шматкратнай перавагі ў краі вайскоўцаў і цывільных грамадзян антыбеларускай арыентацыі над яго сапраўднымі нацыянальнымі патрыётамі. Усіх сумленных людзей краю вельмі моцна хвалявала панаванне ў ім шматлікіх і даволі ўплывовых чужын-цаў. З вуснаў апошніх ніколі нічога не было чуваць пра законнае права насельніцтва нашага краю на ўласную дзяржаву, без якой яму пагражаў немінучы канец, як гэта ўжо не раз

[1] Турук Ф. Белорусское движение. С. 105, 106.
[2] Вольная Беларусь. 1917. 31 снежня.

назіралася з многімі іншымі народамі, што траплялі пад уладу магутных, агрэсіўных краін. Каб дапамагчы беларусам лепш зразумець складанасць, трагізм іх становішча, малавядомы ў нас паэт з Полацка Петра Маслоўскі ў вершы "Песьні беларуса" пісаў:

Чулі мы – ах, чулі! – усе благія весьці:
Новае ярмо нам налажылі несьці:
Землю родну дзеляць на кавалкі два:
Адзін – бярэ немец, а другі – Масква[1].

Несумненна, разгон Усебеларускага з'езда дапамог многім людзям значна лепш зразумець, якія неверагодныя цяжкасці давядзецца пераадольваць на шля-ху стварэння сваёй дзяржаўнасці, заваёвы нацыянальнага суверэнітэту. У тага-часнай складанай, заблытанай сітуацыі глыбока разабраўся нехта Я. Р-ч, пішу-чы: "Мы павінны ясна сабе ўявіць, якія перашкоды стрэнуць нас пры адбуда-ванні дзяржаўнаго жыцця. Ні завіднае географічнае становішчо, сумная гіста-рычнасьць, страта народам свае інтэлігенцыі, застой у развіцці нашае мовы, каторая сярод нікаторых можа выклікаць спрэчкі ў здатнасьці яе да дзяржаўных мэтаў; распад народу на дзьве культуры, на два вераіспавяданні; хібнасьць беларускае школы і пазнання свае нацыянальнай асобнасці; агульная цемната, апэтыты суседзяў на "этнарафічны матэрыял", за які нікаторыя лічаць беларус-кі народ, – усе гэта такія трудношчы, што патрабуюць напружэння ўсіх нацыя-нальных сілаў"[2].

Перадавых, нацыянальна самасвядомых людзей нашага краю хвалявала, што разгон Усебеларускага з'езда не атрымаў аб'ектыўнай, справядлівай ацэнкі у перыядычным друку Расійскай Федэрацыі. Ён практычна апынуўся на баку тых, хто ўчыніў гэтую антыбеларускую акцыю, не даў нашаму народу здзейсніць у зменённай кастрычніцкім пераваротам сітуацыі першы крок у набыцці гэтак жаданага прагрэсіўнымі станамі грамадства статусу нацыянальнага суверэ-нітэту. Дапамагчы многім лепш разабрацца ў пытаннях нацыянальна-дзяржаў-нага будаўніцтва, якое ў тых умовах мела архіскладаны характар, пастараўся нехта "А.Б." (відаць, Алесь Бурбіс) сваім артыкулам "Федэрацыя і Конфэдэра-цыя", што друкаваўся ў студзені 1918 г. на старонках газеты "Вольная Беларусь". Асноўная думка яго аўтара – "…супольнае жыццё народаў Расіі мажліва толькі ў свабоднай конфедэрацыі". Калі ж іх будуць трымаць у дзяржаве штыком і нагайкай, яна

[1] Вольная Беларусь. 1918. 7 студзеня.
[2] Тамсама. 14 студзеня.

разваліцца[1]. З такой правільнай для ўсіх часоў і ўсіх канфедэрацый высновай нельга не пагадзіцца.

Чуткі, найчасцей радасныя, прыемныя, пра спробы адбудовы беларускай дзяржаўнасці хутка дайшлі і вельмі прыхільна былі прыняты многімі нашымі ўцекачамі. Адчувалася гэта і сярод тых, хто апынуўся ў далёкім Арэнбургу. Тут “прыхільнікі беларускага руху залажылі гурток, сталі зьбіраць грошы, выпіс-ваць беларускія газеты, чытаць іх і раіцца, чым і як дапамагчы роднай Беларусі... усе сышліся на адным, што трэба як можна скарэй варочацца “дамоў” і там працаваць”. На такіх пазіцыях стаяў і закінуты ў гэты горад бела-рус А. Шайко, бо лічыў, “што цяпер на Беларусі патрэбны свае інтэлігэнтныя сілы, бо там ні мейсцо перакінчыкам. Па вёсках і мястэчках трэба, каб доктара-мі, фэльчарамі, вучыцялямі, пісарамі і г.д. былі свае, беларусы”[2].

Ведаючы стаўленне Усебеларускага з’езда да пытання нацыянальнага суверэнітэту, органы мясцовай савецкай улады пры самым актыўным удзеле бальшавікоў пачалі весці растлумачальную працу з масамі па пытанні палітычнага самавызначэння ў зусім процілеглым напрамку. І такое ім многа дзе ўдавалася, асабліва сярод простага люду, які не вызначаўся высокім узроўнем палітычнай дасведчанасці, слаба разумеў вырашальную ролю ўласнай дзяржавы для свайго поўнавартаснага развіцця. Таму невыпадкова на шэрагу сходаў жыхароў сельскай мясцовасці выказваліся думкі супраць аддзялення Беларусі ад Расіі. Так, да прыкладу, заявілі 30 студзеня 1918 г. на сходзе і сяляне вёскі Крывічы Ракаўскай воласці[3]. Часта са знаходжаннем Беларусі ў адной дзяржаве з Расіяй звязвалася зусім заканамернае імкненне людзей сумеснымі намаганнямі не дапусціць уварвання на іх зямлю чарговых інтэрвентаў з Захаду. Панаванне кайзераўскіх войскаў паказала, што Германія можа ісці толькі на пэўнае задавальненне нацыянальна-культурных запатрабаванняў беларусаў, у т.л. і на адкрыццё нацыянальных навучальных устаноў, чаго ім не ўдавалася дамагчыся ад уладаў Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі на працягу некалькіх стагоддзяў, а што ж датычыць стварэння ўласнай дзяржавы, дык гэтаму ўсяк супраціўляліся і новыя акупанты, чым выклікалі справядлівы недавер і гнеў да сябе з боку нацыянальна-патрыятычных колаў беларускага грамадства. Немалой часткай людзей лічылася, што надзейным саюзнікам у змаганні з нямецкай інтэрвенцыяй можа быць толькі Расія. Усталяванню прыязных дачыненняў да яе

[1] Тамсама. 21 студзеня.
[2] Вольная Беларусь. 1918. 28 студзеня.
[3] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т.2. Мн., 1957. С. 863.

спрыялі і бальшавіцкія лозунгі пра раўнапраўе ўсіх нярускіх народаў гэтай краіны, хаця такое і не распаўсюджвалася на беларусаў з-за непрызнання іх самабытным этнасам і савецкімі ўладамі.

У тых экстрэмальных умовах нацыянальна-патрыятычныя сілы Бацькаў-шчыны не мелі для сябе іншага выбару, як працягваць змаганне за яе палітычнае самавызнанне. Тым больш, што многія нярускія народы паказвалі вельмі добры прыклад, які не маглі не ўзяць за аснову і беларусы. Менск даадказу забіты савецкімі войскамі, знаходзіцца ў руках праруской арыентацыі чыноўнікаў СНК Заходняй вобласці і фронту, а ў іх пад бокам патаемна ідзе канструяванне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. Важным крокам на гэтым шляху з'явілася абранне 21 снежня 1917 г. (3 студзеня 1918 г.) Радай Усебеларускага з'езда Выканаўчага камітэта Рады Усебеларускага з'езда – правобраза ўрада Беларусі. Не на карысць Савецкай Расіі складвалася і ваеннае становішча, што нельга было не ўлічваць нацыянальным арганізацыям і рухам Беларусі. Набліжэнне кайзераўскіх войскаў да Менска і іншых беларускіх гарадоў выклікала вялікую трывогу, сапраўдную паніку сярод бальшавікоў і іх прыхільнікаў, таму яны пастараліся як мага хутчэй падацца на ўсход. І трэба сказаць, што не памыліліся ў выбары такога рашэння, бо ў савецкай Расіі на той час адсутнічала рэальная магчымасць даць інтэрвентам належны адпор. Яны хутка апынуліся на лініі Расоны-Полацк-Сянно-Орша-Магілёў-Жлобін-Нава-зыбкаў. Цэнтр Заходняй вобласці з захопленага немцамі Менска давялося перанесці ў Смаленск, а ў красавіку 1918 г. і самую Смаленскую губерню ўключылі ў яе склад. Зразумела, такое дыктавалася не жаданнем якіх-небудзь палітычных сілаў Расійскай Федэрацыі аб'яднаць усе беларускія землі ў адно цэлае з мэтай забеспячэння яе народу спрыяльных умоў для эканамічнага, палітычнага, культурнага развіцця, а неабходнасцю мець пэўны тэрытарыяльны мінімум для гэтай вобласці, паколькі з прычыны паспяховага наступлення кайзераўскіх войскаў яна пазбавілася многіх сваіх заходніх паветаў, не адпавядала статусу нададзенай ёй адміністрацыйнай адзінкі.

Спешная эвакуацыя савецкай адміністрацыі з Менска не выклікала ў яго жыхароў ні панікі, ні расчараванняў. Затое развязала рукі беларускім незалеж-нікам для актыўнай нацыянальна-адраджэнскай дзейнасці. Такім пераменам, як пісалася ў газеце “Вольная Беларусь” ад 24 лютага 1918 г., быў “рад увесь Менск, бо большэвікі с чужынцамі на чале (Ландэр, Бэрсон, Мясьнікоў, Рэзау-скі – латышы, расійцы і гэбраі) абходзіліся з

мінчанамі, як татары пры наезьдзі Батыя. Арышты, штрафы, стрэляніна – сыпаліся на людзей, як з рогу дастатка". Вялікі прыхільнік палітычнай незалежнасці, самабытнага нацыянальна-культур-нага развіцця беларускага народа Язэп Лёсік лічыў, што нямецкая армія, увайшоўшы ў Менск, "палажыла канец маскоўскаму панаванню"[1].

Таму незвычайнаму для нашай гісторыі часу, які, на вялікі жаль, доўжыўся вельмі мала: ад уходу ў ноч на 19 лютага 1918 г. з Менска (з прычыны набліжэння да яго нямецкіх войскаў) Савета Народных Камісараў Заходняй вобласці (Аблвыканкамзаха) і яшчэ пару дзён пасля ўварвання 21 лютага ў гэты горад кайзераўскіх інтэрвентаў, газета "Белорусская Земля" (1918, № 4) дала такую характарыстыку: "Беларускі народ можа смела ўпісаць у сваю шмат-вяковую гісторыю найпрыгажэйшую ідылію пра беларускі ўрад, які існаваў пяць дзён. Гэтага нельга не ўспрыняць з запалам у сэрцы, бо гэта была рэчаіснасць, што з'явілася з мары, гэты быў апагей беларускага нацыянальна-палітычнага адраджэння"[2].

### §3. Аднаўленне беларускай дзяржаўнасці і яе функцыянаванне

З прычыны таго, што ні буржуазны Часовы ўрад, ні савецкая ўлада і пальцам не кранулі дзеля інтарэсу дзяржаўнага самавызначэння нашага краю многія яго палітычныя партыі і грамадскія арганізацыі разлічвалі, што такое можа стаць рэальнасцю з прыходам у Менск – геаграфічны цэнтр Беларусі – новага гаспа-дара ў асобе кайзераўскай Германіі. У артыкуле "Гістарычная няўхільнасць" Язэп Лёсік цвярдзіў народу, што зараз для яго самае галоўнае: "... *дзяржаўная нізалежнасьць нашае многопакутнае бацькаўшчыны Беларусі.* Тут і толькі тут наш паратунак ад нацыанальнаго, палітычнаго і соцыяльнаго палону.

Захаванне цэлакупнасьці і нацыанальнае самабытнасьці нашаго народу, развіццё яго эканамічнаго добрабыту і грамадзянскаго ладу, – павінны стаць першымі заданнямі ў нашай палітычнай чыннасьці і далейшай будзённай працы..."[3].

Трываласць погляду сярод нашых адраджэнцаў на неабходнасць мець бела-русам сваю дзяржаву дзеля абароны ўласных інтарэсаў з усёй пераканаўчасцю пацвярджаецца тым, як настойліва і паслядоўна вырашалася гэтая праблема, калі наш край пад пагрозай уварвання нямецкіх інтэрвентаў былі

[1] Вольная Беларусь. 1918. 3(18) сакавіка.
[2] Цытавана па кн.: Турук Ф. Белорусское движение. С. 36.
[3] Вольная Беларусь. 1918. 3(18) сакавіка.

вымушаны пакінуць органы савецкай улады. Ужо 21 лютага 1918. Выканкам Рады Усебе-ларускага з'езда звяртаецца да насельніцтва Беларусі з 1-й Устаўной граматай і аб'яўляе сябе часовай уладай у краіне. Тут жа ствараецца Народны Сакратарыят Беларусі (старшыня Язэп Варонка), які бярэ ў свае рукі ўсю ўладу. Праўда, прыступіць яму да выканання такіх адказных абавязкаў перад беларускім народам не дазволіў ваенны камендант горада Менска. У яго нават хапіла нахабства выкінуць Народны Сакратарыят Беларусі з памяшкання, у якім ён знаходзіўся.

Непрыхільнае стаўленне нямецкай ваеннай адміністрацыі да развязвання не-адкладных задач палітычнага жыцця Беларусі не прыпыніла працу ў гэтым напрамку. Абнадзейвалі звесткі з раней занятай немцамі часткі беларускай тэрыторыі, дзе яны нічым не шкодзілі ажыццяўленню нацыянальна-культурных адраджэнскіх мерапрыемстваў, што добра відаць на прыкладзе Вільны. Тут сканцэнтраваліся даволі магутныя беларускія нацыянальна-патрыятычныя сілы. Умела лавіруючы сярод нямецкіх інтэрвентаў, беларускія адраджэнцы з зай-здроснай упартасцю праводзілі ў жыццё ідэю нацыянальнай дзяржаўнасці, зразумела, у рамках таго, чаго можна было дасягнуць ва ўмовах акупацыі. Як і ва ўсіх падобных выпадках, няпрошаныя гаспадары не садзейнічалі пераўвасаб-ленню гэтай высакароднай ідэі на практыцы, але ў студзені 1918 г. усё ж удало-ся стварыць у Вільні другую Беларускую асамблею, якая абвясціла незалеж-насць Беларусі і сфармавала сваю адміністрацыю.

Ідэя дзяржаўнасці Беларусі набыла яшчэ большую актуальнасць, калі са значнай часткі яе тэрыторыі падаліся на ўсход органы савецкай улады, не маючы ў сябе сілы сурацьстаяць прасоўванню кайзераўскіх войскаў. Для беларускай ідэі аказалася вельмі выйгрышным, што ў шляхах яе рэалізацыі было поўнае ўзаемапаразуменне паміж удзельнікамі нацыянальна-вызваленчага руху Вільні і Менска. Беларуская рада ў Вільні і Выканкам рады Усебеларуска-га з'езда ў Менску без усякіх спрэчак дамовіліся паміж сабой аб адзінстве дзеянняў. 9 сакавіка 1918 г. яны выдалі 2-ю Устаўную грамату, у адпаведнасці з якой была створана Беларуская Народная Рэспубліка. На першым пасяджэнні Рады Усебеларускага з'езда 19 сакавіка 1918 г. яе перайменавалі ў Раду БНР.

Ужо на самым пачатку фармавання беларускай дзяржавы было відаць, як яе стваральнікі збіраюцца ўважліва ставіцца да вырашэння нацыянальнага пытан-ня. У прынятай 8(21) лютага 1918 г. у Менску Выканаўчым камітэтам Рады Ўсебеларускага з'езда 1-й Устаўной грамаце да народаў Беларусі гаварылася аб

правах яе нацыянальных меншыняў “на нацыянальна-персанальную аўтано-мію”, што да склікання Устаноўчага схода “ўся ўлада на Беларусі павінна належаць тым народам, якія на ёй жывуць”. Пра нацыянальна-персанальную аўтаномію не забыліся сказаць і ў выдадзенай 9 сакавіка 1918 г. 2-й Устаўной грамаце да народаў Беларусі. У ёй жа было зафіксавана “роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі”. У 3-й Устаўной грамаце з’яўлялася аб тым, што “Беларуская Народная Рэспубліка зацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці гра-мадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 року”.

У мэтах усебаковага, поўнага ўліку інтарэсаў нацыянальных меншыняў Беларусі пры фармаванні Рады БНР заўжды асаблівая ўвага звярталася на этнічны склад яе сяброў. І ён у значнай ступені адпавядаў такому складу ўсяго насельніцтва краіны. Так, з 71 сябра абранай 9 сакавіка 1918 г. Рады, яўрэяў было 7 чалавек, палякаў – 4, рускіх – 2, украінцаў – 1, літоўцаў – 1[1]. Але як неўзабаве высветлілася, далёка не ўсе прадстаўнікі народаў, што жылі на Бела-русі, падтрымлівалі ідэю яе незалежнага дзяржаўнага развіцця. Датычыла гэта і яўрэяў, хаця можа ніхто іншы, як яны, павіны былі быць задаволенымі стаўлен-нем да іх з боку карэннага насельніцтва. Калі 25 сакавіка 1918 г. на пасяджэнні Рады БНР было прынята рашэнне аб незалежнасці Беларусі, супроць гэтага разам з іншымі прагаласавалі і дэпутаты бундаўскай фракцыі. Што ж да прад-стаўнікоў Аб’яднанай яўрэйскай сацыялістычнай партыі (СС і ЯС) і Яўрэйскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (“Паалей Цыён”), дык яны ўстрымаліся ад галасавання.

Усебаковы ўлік Радай БНР інтарэсаў нацыянальных меншыняў забяспечваў ёй і аўтарытэт, і неабходную падтрымку апошніх, без чаго немагчыма было б дамагацца поспеху – няхай сабе і не такога значнага – у палітычным сама-вызначэнні краіны. Усяго, што было ў планах Рады БНР, яна не магла зрабіць, бо такога ніяк не жадалі і нямецкія інтэрвенты. Яны часта ў самім зародку зніштажалі ўсе яе ініцыятывы, як, да прыкладу, спробу склікаць Устаноўчы сход Беларусі. Праўда, былі і выключэнні з такой практыкі. Вядома, што нама-ганні Рады БНР да стварэння незалежнай Беларусі ў яе этнічных межах былі да такой ступені непахіснымі і паслядоўнымі, што нарэшце іх пачалі дзе-нідзе падтрымліваць і германскія палітыкі. Праўда, не па самых прынцыпова важных пытаннях, што асабліва выразна праявілася ў час перамоваў з рускім бокам па ажыццяўленні ўмоваў падпісанага 3 сакавіка 1918 г. Брэсцкага міра. З прычыны таго, што Беларусь не ўдзельнічала ў яго падпісанні, яны нават у самай

[1] Игнатенко И.М. Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии. С. 109.

мінімаль-най ступені не адпавядалі яе інтарэсам. Адкрыта выступіць супраць гвалтоўнага тэрытарыяльнага падзелу Беларусі Рада БНР не магла, чаго не дазволілі б ёй і нямецкія акупацыйныя ўлады. Больш таго, яны ўсяк перашкаджалі ўсім дзеян-ням Рады па паглыбленні працэсу фармавання беларускай дзяржаўнасці, паколькі такое не дапускалася ўмовамі Брэсцкага міра. Вартая здзіўленню непахісная ўпартасць беларускіх незалежнікаў у дасягненні сваёй галоўнай мэты: забеспячэнне Бацькаўшчыне нацыянальнага суверэнітэту. А 8-й гадзіне раніцы 25 сакавіка 1918 г. прымаецца Трэцяя Устаўная грамата, якой Беларусь абвяшчалася незалежнай і вольнай дзяржавай.

Акт 25 сакавіка 1918 г. высока ацаніўся беларускім нацыянальна-адраджэн-скім перыядычным друкам. Нехта пад крыптонімам М.К. у артыкуле "Рашучы акт" пісаў: "Устаўная Грамата за 25 сакавіка скінула "апошняе ярмо" вяліка-дзяржаўнае апекі з нашага народу, які ад гэтага часу сам за сябе можа ўсюды гаварыць, як нацыя, а ні як правінцыя ласкутнае дзяржавы. Як нацыя, меўшая сваю ўласную, асобную мінуўшчыну, ён рве старыя зьвязі, старыя адносіны нацыі паднявольнай да нацыі дзяржаўнай ды ўстае сярод народаў усяго сьвету, каб вольна й галосна сказаць ім, што ён жыве, жыве многапакутны працоўны беларускі народ…"[1]

Неўзабаве высветлілася, што ў акта 25 сакавіка 1918 г. не мелася прыхіль-нікаў ні ў афіцыйных колах Савецкай Расіі, ні ў нямецкіх акупацыйных уладаў. Найбольш насцярожвала пазіцыя апошніх, бо жылі і працавалі на падкантроль-най ім тэрыторыі. Давялося пайсці на дыпламатычную хітрасць: накіраваць на імя германскага кайзера Вільгельма II тэлеграму, у якой заяўлялася, што добрая будучыня Беларусі магчыма "толькі пад апекай германскай дзяржавы". Мэта была дасягнута: нямецкае ваеннае камандаванне стала больш памяркоўным да дзейнасці беларускіх незалежнікаў. Затое адбыўся страшэнны разлад у іх асяроддзі. Зусім не заслужана многія гісторыкі сам факт пасылкі тэлеграмы нямецкаму кайзеру і па сённяя ацэньваць не інакш, як здраду беларускаму інтарэ-су, не жадаючы бачыць у гэтым цалкам абгрунтаваны дыпламатычны прыём. Лесці на ражон да такога моцнага ворага, як германскія акупацыйныя ўлады, было б крайне неразумным. Дарэчы, шмат гадоў пазней непахіснай беларускай арыентацыі ксёндз Вінцэсь Гадлеўскі, які таксама меў пэўнае дачыненне да пасылкі тэлеграмы на імя нямецкага імператара

[1] Вольная Беларусь. 1918. 31 сакавіка.

Вільгельма, заявіць, што на гэты ўчынак Рады БНР трэба глядзець як на акт дыпламатычнага значэння[1].

Прынятыя Радай БНР захады па нармалізацыі сваіх дачыненняў з ваеннай і цывільнай нямецкай адміністрацыяй зрабілі яе больш лагоднай да ўсяго таго, што праводзілася незалежнікамі ў сферы духоўнага жыцця краіны з тым, каб вызваліць яго з-пад паланізатарскага і русіфікатарскага бруду і надаць сапраў-днае беларускае аблічча. Дасягнутым тут проста нельга не здзіўляцца, тым больш, што такое адбывалася ў забраным чужынцамі, нявольным краі. У арга-нізацыі розных формаў узброенага змагання з імі кіраўніцтва Заходняй вобласці і пасля эвакуацыі з Беларусі гатовае было дапамагчы ёй, але толькі не ў сцвяр-джэнні сябе ў якасці самастойнай дзяржавы. І здзіўляцца гэтаму ніяк не выпа-дае, бо і ў ім улада таксама належала чужым для беларускага нацыянальнага інтарэсу дзеячам. Засілле іншародных элементаў у савецкіх і партыйных органах Заходняй вобласці выклікала законную трывогу ў беларускіх секцыях РКП(б), якія існавалі ў 1918-1919 гг. у шэрагу гарадоў Расіі як часткі мясцовых партараганізацый. Імі не раз заяўлялася, што на адказных пасадах у гэтай адмі-ністрацыйнай адзінцы трэба выкарыстоўваць беларусаў-камуністаў.

У савецкіх уладных структурах вобласці не мелася намеру пераўтварыць яе ў беларускую нацыянальную дзяржаўнасць нават і пасля таго, як урад БНР абвясціў пра яе поўную дзяржаўную незалежнасць. На другім краёвым з’ездзе саветаў Заходняй вобласці (10-13 красавіка 1918 г.) насуперак праўдзе даводзі-лася “ўсяму свету, што беларускія пралетарыі не аддзяляюць сябе ад Вялікай Федэратыўнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і ад рабочых і сялян усёй астатняй Расіі”[2]. У многіх дакументах палітычнага зместу Заходняя вобласць разглядалася як непадзельная частка адзінай РСФСР і таму будаваць планы аб перарастанні гэтай адміністрацыйнай адзінкі ў нацыянальнае дзяржаўнае фар-маванне разглядалася як злачынства, выпад супраць гістарычных заваёў кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г.

Толькі адзінкі сярод партыйных і савецкіх органаў Заходняй вобласці, а пазней – Заходняй камуны бачылі заканамерную неабходнасць пераўтварэння яе ў беларускую савецкую дзяржаву. Сярод іх быў і Ісак Рэйнгольд (1897-1936; ураджэнец Капыльшчыны), які пасля выгнання немцаў з Менска заняў пасаду старшыні Менскага губернскага рэвалюцыйнага камітэта. Калі аблвыкамкам не пагадзіўся з прапановай Рэйнгольда абвясціць

[1] Спадчына. 1993. № 3. С. 66.
[2] Цытавана па кн.: Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Т.1. Мн., 1929. С. 29.

Заходнюю камуну хаця б Беларускай камунай, ён з аналагічнай просьбай звярнууся да старшыні Усера-сійскага Цэнтральнага выканаўчага камітэта Якава Свярдлова.

У нялёгкім самаахвярным змаганні за палітычную незалежнасць, вяртанне краю прыроднага нацыянальна-культурнага аблічча карэнным чынам мяняліся да лепшага самі людзі. Яшчэ задоўга да абвяшчэння Беларусі суверэннай дзяржавай на грамадска-палітычную, нацыянальна-адраджэнскую сцэну вый-шла велізарная колькасць да канца адданых народу сыноў і дачок. Пазней, калі іх рух за лепшую долю ўзначалілі ўладныя структуры БНР, у шэрагі шчырых адраджэнцаў улілося шмат новых людзей, якія да канца заставаліся надзейнымі абаронцамі беларускай справы. Яшчэ больш рашучымі і паслядоўнымі ў адстойванні законнага права беларусаў на прыстойнае нацыянальна-дзяржаўнае жыццё паказвалі тыя адраджэнцы, якія ўжо не першы год выступалі за гэтую святую ідэю. Найлепшыя людзі Беларусі пераканаўча паказалі і сабе, і іншым, што ў іх дастаткова моцы і розуму быць гаспадаром уласнага лёсу, каб толькі гэтаму не перашкаджалі чужынцы. Сярод адраджэнцаў таго часу мелася ў дастатковай колькасці асобаў, якіх за вялікі гонар лічылі б бачыць у складзе сваіх кіраўнічых органаў сённяшнія няўрадавыя партыі і апазіцыйныя рухі.

Рада БНР, абвясціўшы сваю дзяржаву суверэннай, незалежнай ад Расіі, зусім не збіралася рваць усялякія дачыненні з яе народам. Так, у ноце дэлегацыі па справах знешніх перамоваў БНР, перададзенай 29 мая 1918 г. у Кіеве Старшыні Расійскай дэлегацыі Х. Ракоўскаму, выказвалася спадзяванне, што ўрад Расіі “пойдзе насустрач беларускаму народу ў яго барацьбе за сваю дзяржаўную самабытнасць, за сваё адзінства і за цэласць сваёй зямлі і тым пакладзе трыва-лыя асновы сяброўскага сумеснага жыцця двух братніх народаў” (падкрэслена мною. – Л.Л.). Ноту падпісалі старшыня дэлегацыі Аляксандр Цвікевіч і член дэлегацыі прафесар Мітрафан Доўнар-Запольскі[1]. Па віне Савецкай Расіі выказаныя ў ноце спадзяванні не знайшлі падмацавання на практыцы. Нягле-дзячы на прыняцце савецкай уладай шэрагу дэкрэтаў па ўсталяванні нацыяналь-най сравядлівасці яны не мелі аніякага дачынення да беларусаў. Таму нічога іншага, акрамя пратэсту супроць курсу БНР на назалежнае дзяржаўнае існаванне, нельга было чакаць ад тых 220 беларускіх дэлегатаў, што ўдзельнічалі ў лі-пені 1918 г. у Маскве ў працы Усерасійскага з’езду ўцекачоў. І гэта зразумела, бо праходзіў жа ён у цэнтры Расіі і пад непасрэдным уплывам бальшавіцкай партыі і савецкай улады.

[1] Турук Ф. Белорусское движение. С. 118.

Вось чаму ў закліках з’езда і магло быць заяўлена: “Няхай жыве адзіная, вольная рабоча-сялянская Беларусь у цесным братэрскім яднанні з Расійскай Савецкай Рэспублікай!”[1] Савецкі ўрад Расіі застаўся глухім да законнай волі беларусаў быць палітычна незалежным народам. Усё, што толькі было ў яе сілах, максімальна выкарыстоўвалася дзеля недапушчэння ўсталявання палітычнай самастойнасці Беларусі. Час няўмольна імчаў, а справа як след не рухалася наперад.

Прамаруджанасць, недастатковая актыўнасць паасобных палітычных і гра-мадскіх дзеячоў Беларусі ў вырашэнні пытанняў яе незалежнага дзяржаўнага развіцця, адмоўнае стаўленне да яго з боку Расіі і Польшчы моцна хвалявалі, непакоілі тады многіх. Да іх належаў і шчыры змагар за беларускую нацыяналь-ную асвету Ігнат Дварчанін. Ён зайздросціць тым народам былой царскай Расіі, якія ў першыя ж дні пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. заявілі пра сваю гатоўнасць быць поўным гаспадаром у роднай хаце. У яго вершы “Покліч”, змешчаным у газеце “Вольная Беларусь” (8 лістапада 1918 г.), так апісана тага-часнага бязрадасная сітуацыя на Бацькаўшчыне:

Але моро так бушуе,
Так хвалюецца, шуміць,
А нас бытцам не чапае:
Усё маўчыць і ціш стаіць.
Беларусь наша святая
Чагось думае, маўчыць,
Нібы спіць сабе, ні дбае
І ні просіць, ні крычыць
(…) І цяпер, як рух падняўся,
Як стаяць усе на сваём,
Ты адна ўсё спіш, старонка,
Летаргічным, моцным сном.

Паэт-патрыёт заклікае народ прачнуцца, склікаць “усіх сыноў, параскіданых па сьвеці”, каб усім разам не чужую, а “сваю хату будаваць”. І яе нават у час нямецкай інтэрвенцыі пакрысе будавалі, не забываючыся і пра ўнутранае аздабленне за кошт узняцця да жыцця стагоддзямі запрыгоненай чужынцамі беларускай культуры. Уяўленне пра стваральную нацыянальную дзейнасць БНР на захопленай кайзераўскімі войскамі тэрыторыі было б няпоўным без асвятлення гэтага аспекту. Высока ацэньваючы праяўленую ў першыя месяцы іх уварвання ў наш край грамадскую ініцыятыву па арганізацыі беларускіх школ, кіраўнікі БНР не маглі не працягнуць далей гэтую надзвычай

[1] Борьба за Советскую власть в Белоруссии. Т.1. Мн., 1968. С. 160, 161.

важную для так моцна зрусіфікаванага народа справу. Хто-хто, а яны добра разумелі, што нішто такой велізарнай шкоды не прынесла Бацькаўшчыне, як чужая ёй спачат-ку польская, а затым руская адукацыя. Першымі гэта адчулі беларусы гарадоў, а затым і сельскай мясцовасці. Антыбеларуская накіраванасць сістэмы адука-цыі, праз якую ў канцы XIX-пачатку XX ст. удалося прапусціць і немалую колькасць вясковых дзяцей, садзейнічала таму, што, стаўшы дарослымі, яны мелі крайне памылковыя меркаванні датычна мінулага свайго краю, вызначалі-ся вельмі нізкай нацыянальна-дзяржаўнай свядомасцю. Адсюль зразумела, чаму сяляне размаўляючы на роднай мове, у той жа час не былі актыўнымі змагарамі за тое, каб даць ёй належнае месца у грамадскім жыцці, не ўсе з іх падтрымліва-лі абвешчаную Радай БНР ідэю палітычнай незалежнасці нашай краіны. Неабходнасць такога могуць разумець толькі людзі з адпаведнай гістарычнай памяццю, нацыянальнай самасвядомасцю і дастаткова адукаваныя. Адсутнасць такіх якасцяў у многіх сялян імкнуліся максімальна выкарыстаць бальшавікі. Тут яны дзейнічалі намнога больш актыўней, напорыста за беларускія нацыя-нальныя партыі і рухі. Не ўлічваць такога фактару не маглі ўлады БНР. Пабудова адукацыі на нацыянальным падмурку заняла цэнтральнае месца ў іх дзейнасці, хаця ўсё яшчэ працягвалася бойка дзвюх магутных дзяржаў, спрэс на беларускай зямлі панавала разруха. Стварць у такіх экстрэмальных умовах беларускія школы маглі толькі сапраўдныя патрыёты Радзімы.

Рэакцыяй на поўную адпаведнасць беларускаму нацыянальнаму інтарэсу палітыкі БНР у сферы адукацыі стала рашэнне краўніцтва эвакуаванага ў Яраслаў Мінскага настаўніцкага інстытута вярнуца на Радзіму, каб узяць і самім актыўны ўдзел у разгорнутай тут педагагічнай інтэлігенцыяй дзейнасці па заснаванні навучальных устаноў на роднай, беларускай мове. Выкладчыкі і студэнты прыбылі ў Менск 22 верасня 1918 г., дзе іх ветліва сустрэлі не толькі прадстаўнікі БНР, але і гарадская кайзераўская ваенна-адміністрацыйная ўлада. Заняткі пачаліся ў лістападзе, якія наведвалі і нанова залічаныя на вучобу сту-дэнты. Педагагічны калектыў інстытута браў актыўны ўдзел у многіх мерапры-емствах БНР па арганізацыі нацыянальнай сістэмы адукацыі. У яе стварэнні, у самой працы вядучая роля адводзілася нацыянальнаму фактару, бо ўсе добра разумелі, якія велізарныя этнакультурныя страты панёс беларускі народ за доўгія гады навучання яго дзяцей у польскай і рускай мовах. Усталяваны кай-зераўскімі інтэрвентамі палітычны рэжым не забараняў выкарыстоўваць у гэтых мэтах беларускую мову, быў

непараўнальна боль спагадлівым, чым улады славянскай Расійскай імперыі. Грэх быў бы максімальна не выкарыстаць такой магчымасці, якую так доўга чакалі і ўсяляк набліжалі шчыра адданыя Бацькаўшчыне яе сыны і дочкі.

Глыбокае разуменне лідэрамі нацыянальных рухаў ролі роднай мовы ў лёсе беларускага народа добра відаць і з таго, што ў час, калі кайзераўскія войскі ў лютым 1918 г. аднавілі свой паход на ўсход, наблізіліся і захапілі сэрца нашага краю Менск, газета "Вольная Беларусь" у трох сваіх нумарах друкуе артыкул Язэпа Лёсіка "Родная мова і яе значэнне" (24.02; 18, 25 III), у якім вельмі грунтоўна выкладзена яе месца ў мінулым і сучасным. Вядомы даследчык таго складанага часу ў нашай айчынай гісторыі Фёдар Турук справядліва даў у часта цытаванай мною кнізе пазітыўную ацэнку, што на самым высокім ўзроўні дзяржаўнай палітыкі пра "роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі" было заяўлена ў прынятай 9 сакавіка 1918 г. у Менску Спаўняючым Камітэтам Рады 1-га Усебеларускага з'езда 2-й Устаўной грамаце да народаў Беларусі.

Сярод тагачасных актыўных удзельнікаў руху не мелася такіх, хто не ўсве-дамляў бы выключнай важнасці вяртання беларускай мовы ў грамадскае жыц-цё. Спашлюся на артыкул Паўлюка з Гродны "Родная мова" ў газеце "Беларускі шлях" ад 9 красавіка 1918 г. Ён заканчваўся наступнымі словамі: "... пакуль мова не стане дарагой штодзённай, буднішнай беларускай мовай – німа інтэлі-генцыі, німа нацыянальнай сілы, бо мова гэта альфа і амэга нацыянальнага жыцця – яе клёк".

Беларусаў па-сапраўднаму радавала, што іх родная мова ўсё больш уладна пачала пранікаць у тыя пласты культуры, дзе раней чуваць было толькі рускае ці польскае слова. Вельмі важна, што нямецкая інрэвенцыя не з'явілася пера-шкодай для ажыўлення культурна-асветніцкай дзейнасці ў Менску, як адным з цэнтраў беларускага нацыянальнага Адраджэння. Да яе вельмі прагла моладзь, вайна і якой паспрыяла ў хуткім нацыянальным сталенні, прымусіла задумацца над лёсам уласнага народа. 3(18) сакавіка 1918 г. "Беларуская вучнёўская грамада", у склад якой уваходзілі гімназісты, рэялісты, семінарысты, паставілі ў культурна-асветніцкім клубе "Беларуская хатка" камедыю "Міхалка". Тагачасная прэса высока ацаніла гульню артыстаў, толькі крытыкавала іх за кепскае валоданне беларускай мовай[1]. Прычына тут адна і добра зразумелая: ніхто з моладзі не вучыўся і не канчаў беларускамоўных навучальных устаноў.

---

[1] Вольная Беларусь. 1918. 3(18) сакавіка.

Для дасягнення нават самых мінімальных зрухаў у падвядзенні нацыя-нальных падвалін пад культурнае жыццё, у стварэнні школ на беларускай мове патрэбныя былі немалыя матэрыяльныя і грашовыя сродкі. Ні ў народа, ні ў БНР іх не мелася ў патрэбнай колькасці. Дзе-нідзе на выручку прыйшлі мецэ-наты з больш-менш заможных станаў насельніцтва, што сведчыла пра наяўнасць у іх павагі да беларушчыны, хаця яны ўжо не ў першым пакаленні далучыліся і жылі польскай ці рускай культурамі. Не шкадавала сродкаў на беларускую справу, у т.л. і на адукацыю, Тэрэза Гардзялкоўская (псеўд. – Зязюля), якой належаў маёнтак у Габрылёве-Папоўцы Сенненскага павета Магілёўскай губерні. Свае пераклады з польскай і рускай моваў выдавала за ўласны кошт. У маёнтку адкрыла беларускую школу, у якой выкладаў Канстанцін Міцкевіч (Якуб Колас). У той трывожны, вельмі цяжкі для нашай Бацькаўшчыны час правільна разумелі ролю нацыянальнага фактару ў адукацыі і многія з тых, каго вайна закінула кудысьці на чужыну. Тут у першую чаргу варта згадаць адкрыты ў ліпені ў 1918 г. у Маскве па ініцыятыве беларускай скцыі РКП(б) і Беларускага нацыянальнага камітэта Беларускі народны універсітэт. Для чытання лекцый з цыклу беларусазнаўства сюды былі запрошаны самыя вопытныя вучоныя-педагогі, у іх ліку У. Пічэта. П. Растар-гуеў, Дз. Анучын, А. Ясінскі. Найбольш за ўсё карыснага з гісторыі і культуры свайго краю слухачы атрымалі з лекцый: “Да пытання аб тэрыторыі Беларусі”, “Гісторыя беларускага народа”, “Гісторыя адукацыі на Беларусі”, “Беларуская мова”, “Агляд беларускай літаратуры”, “Элементы тэатра ў народнай беларус-кай паэзіі”. Адной з мэт увядзення цыклу лекцый па курсу беларусазнаўства з’яўлялася “даць настаўніку школы Беларусі збор ведаў, якія неабходны яму ў справе карэннага пераўтварэння ўкладу школы на новых працоўных, сапраўды народных яе асновах”[1].

Уладным структурам БНР не давялося доўга папрацаваць пад кантролем нямецкай акупацыйнай адміністрацыі. Лістападаўская рэвалюцыя 1918 г. у Германіі вымусіла кайзераўскія войскі тэрмінова пакінуць Беларусь і падацца ў сваю краіну для ўдзелу ў навядзенні там парадку. Такую сітуацыю адразу ж выкарыстала ў сваіх інтарэсах бальшавіцкая Расія. На Беларусь ізноў вярталася савецкая ўлада, якая, акрамя сябе, не прызнавала тут нікога за гаспадара.

Для Рады БНР надышла вельмі неспакойная, адказная гадзіна. Якую заняць пазіцыю, у яе не было цвёрдага меркавання. Кідаліся ў самыя розныя бакі, але найчасцей перавагу аддавалі

[1] Цытавана па: “Народная газета”. 1991. 27 лютага.

заходняму напрамку. І ўсё ж незвычайная склада-насць становішча на Беларусі ў першыя дні пасля ўходу адсюль кайзераўскіх войскаў падштурхоўвала БНР шукаць дапамогі дзеля ўтрымання ўлады не толькі ва ўрадах ЗША, Англіі, Францыі. Рабіліся спробы, у прыватнасці Анто-нам Луцкевічам, наладзіць кантакты і з Савецкай Расіяй. Ён нават ішоў на згоду передачы ўлады на Беларусі Саветам з надзеяй вярнуць у яе склад заходнія землі Беларусі, якія захапіла Польшча, увесці ў склад новых дзяржаўных органаў і пэўнай часткі дзеячоў Рады і Сакратарыята. Сваю пазіцыю супрацоў-ніцтва з савецкай уладай А. Луцкевіч абгрунтаваў, прычым даволі пераканаўча наступным чынам: "… нацыя – гэта нешта вечнае, што павінна існаваць і выяўляць сваю жыццяздольнасць заўжды і пры ўсякіх абставінах", г.зн. і пры савецкай рэчаіснасці. Правільна вызначыў ён і асноўнае ядро, вакол якога павінна была канцэнтравацца ўся нацыянальная дзейнасць: "Неабходна асаблі-вую ўвагу звярнуць на школьную працу. Дабіваючыся беларусізацыі народных і іншых школ, неабходна абсаджваць іх нацыянальна свядомымі настаўнікамі, што давядзецца рабіць з вялікім разборам: у настаўніцкай масе пераважае элемент абруселы – з школ царскага часу, і гэта трэба мець асабліва на ўвазе"[1]. Тут ва ўсім салідарным з ім быў другі вядомы ідэолаг беларускага нацыяналь-на-культурнага Адраджэння, гісторык Усевалад Ігнатоўскі.

Не сумняваліся, што нацыянальную дзейнасць можна будзе працягваць пасля заканчэння нямецкай інтэрвенцыі на Беларусі, паўторнага ўсталявання тут савецкай улады і шэраг іншых добра вядомых дзеячоў нацыянальнага Адраджэння. Паверыць у гэта дапамагалі радасныя звесткі пра пазітыўныя перамены ў нацыянальных нярускіх рэгіёнах былой царскай імперыі, у т.л. і суседніх з Беларуссю. Сярод тых радаўцаў, што да прыходу 10 снежня 1918 г. Чырвонай арміі ў Менск не пажадалі выехаць у Вільню ці ў іншыя гарады, былі: старшыня Рады БНР Я. Лёсік, А. Уласаў, А. Смоліч, В. Іваноўскі, А. Пру-шынскі і інш. Няшмат часу ім спатрэбілася для пераканання, што ў дачыненні да Беларусі савецкая ўлада нязменна стаіць на сваіх ранейшых пазіцыях: ніякай палітычнай самастойнасці, паколькі на дадзенай тэрыторыі жывуць "истинно русские". Таму ніхто з пералічаных беларускіх дзеячоў не меў магчымасці хоць штосьці адкрыта рабіць у духу палітыкі БНР, бо савецкая ўлада лічыла гэтае дзяржаўнае фармаванне незаконным.

У мэтах прыцягнення на свой бок шырокіх колаў людзей ідэалагічны савецкі апарат разгарнуў сярод іх актыўную

[1] Нёман. 1995. № 1. С. 144.

агітацыйна-прапагандысцкую дзейнасць, не цураючыся любых паклёпаў на палітыку органаў улады БНР. Найлягчэй за ўсё бальшавікам была схіліць масы да непрызнання незалежніцкіх пазіцый БНР ва ўсходніх беларускіх землях, г.зн. там, дзе і да гэтага захоўвалася савецкая ўлада і дзе насельніцтва найбольш за жыхароў іншых рэгіёнаў вызначалася высокай ступенню зрусіфікаванасці. Таму не павінен здзіўляць змест адной з рэзалюцый грамадзян Сенненскага павета такога характару: "... мы, беларусы, ніколі не жадалі і не жадаем аддзяліцца ад Вялікарасіі".

Не разлічваючы на ўласныя сілы ў барацьбе з савецкай уладай, Рада БНР імкнулася знайсці падтрымку ў еўрапейскіх краінах, дзеля чаго А. Луцкевіч наведаў Берлін, Я. Ладноў – Парыж, І. Варонка і Р. Скірмунт – Лондан. Мэты сваёй яны не дасягнулі. Нічога не далі перамовы з Польшчай, якая, дамогшыся дзяржаўнай незалежнасці, цяпер марыла любой цаной вярнуцца да адміністра-цыйных межаў 1772 г. Рэчы Паспалітай і глядзела на беларускія землі, як на свае ўласныя. У гэтых варунках урад БНР не знаходзіў іншага варыянту, як пайсці на збліжэнне з Літоўскай Тарыбай, але і апошняя не супраць была павялічыць межы сваёй краіны за кошт беларускай этнічнай тэрыторыі. Праўда, было штосьці і пазітыўнае ў поглядах і дзеяннях буржуазных уладаў Літвы на беларускае нацыянальнае пытанне. Так, "у лістападзе 1918 г. Віленская Беларуская Рада, прадстаўнікі якой уваходзілі ў склад рады БНР, заключыла з Літоўскаю Тарыбаю згоду, паводле якой беларускім прадстаўнікам давалася 25% агульнага ліку месц у Літоўскай Тарыбе і адно месца ў габінэце міністраў Літвы; беларуская тэрыторыя ў Літоўскай дзяржаве павінна складаць аўтаном-ную адзінку з беларускаю моваю, як дзяржаўнаю; неадкладна павінна была быць арганізавана асобная беларуская школьная інспекцыя ў Літве. Назначэньне службовых асоб на беларускую тэрыторыю мела адбывацца са згоды беларускага сакратарыяту, які арганізоўваўся з беларусаў-членаў Тарыбы для сувязі паміж літоўскім урадам і беларускім насельніцтвам у Літве"[1]. Як вынікае з гэтых слоў, літоўскі ўрад на чале з прафесарам А. Вальдэмарасам не ставіў перад сабой мэтай звесці беларускае насельніцтва да катэгорыі палітычна бяспраўнага, пазбавіць яго магчымасці развівацца паводле ўласных культурна-моўных традыцый. Яго пазіцыя ў дачыненні да беларускага народа была куды больш прагрэсіўная і гуманная, чым у органаў савецкай улады Заходняй вобласці і РСФСР у цэлым.

[1] Парэчын Г. Ідэя беларускае дзяржаўнасьці перад утварэньнем Савецкае Беларусі // Запіскі аддзелу гуманітар-ных навук. Працы катэдры сучаснага права. Т.1. Мн., 1929. С. 27.

Пасля таго як у лістападзе-снежні 1918 г. у Менску зноў запанавалі савецкія парадкі, цэнтрам беларускага незалежніцкага, нацыянальна-культурнага руху становіцца Гародня. Гэтаму ў значнай ступені садзейнічаў пераезд сюды некаторых сяброў Рады БНР на чале з яе старшынёй А. Луцкевічам. Тут тэрмінова пачалі фармаваць нацыянальнае войска, органы цывільнай адміністрацыі, на беларускай мове выходзілі часопіс “Бацькаўшчына” (выдавала Беларускае культурна-прасветнае таварыства “Бацькаўшчына”), на беларускай і рускай мовах – газета “Беларускі народ”. У Гародні дзейнічалі беларускі нацыянальны тэатр і рознага роду культурна-асветніцкія суполкі, гурткі мастацкай самадзейнасці.

Пераўтварэнне Гарадзеншчыны ў падуладную Беларускай Народнай Рэспуб-ліцы тэрыторыю адразу ж выклікала пратэст у крайне нацыяналістычна настрое-ных палякаў з прычыны ўласных прэтэнзій на яе. Адсюль зразумела, чаму з такімі неверагоднымі цяжкасцямі Радзе БНР удавалася ствараць на Гарадзенчы-не сапраўднае беларускае палітычнае і культурнае жыццё. Спрадвечныя бела-руска-польскія тэрытарыяльныя спрэчкі сталіся, як ніколі раней, надзвычай шкоднымі для нашай Бацькаўшчыны. Па ўсім відаць было, што палякі не пой-дуць нават на самыя мізэрныя палітычныя ўступкі беларусам, што, натуральна, зніжала іх нацыянальна-дзяржаўную актыўнасць. Нічым іншым, як прыемнай абяцанкай, засталіся наступныя словы са звароту кіраўніка польскай дзяржавы Юзафа Пілсудскага да беларусаў, што іх “зямлі гвалтам нічога не будзе навяз-вацца, гэтая зямля ўзвысіць свой вольны і свабодны голас сярод іншых земляў і гэтая зямля сама вырашыць як на ёй жыць і якім законам ёй кіравацца”.

У многім зусім іншае становішча склалася на той частцы тэрыторыі нашага краю, дзе аднавілася савецкая ўлада. Тут нацыянальнай арыентацыі колы бела-рускага грамадства не толькі не аслабілі, а, наадварот, узмоцнілі змаганне за палітычнае самавызначэнне свайго народа. Немалая заслуга ў гэтым і нацыянал-камуністаў беларускага паходжання, асабліва тых, што займалі высокія пасады ў партыйных і савецкіх органах улады. Маючы прыклад БНР, Маскве ўсё цяжэй было стрымліваць жаданне беларусаў стварыць уласную дзяржаву. І 1 студзеня 1919 г. яна нарадзілася на свет у форме Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі (БССР). Калі беларусы больш за стагоддзе не мелі ўласнай дзяржавы, дык цяпер у іх стала дзве: БНР і БССР. Мала каму з народаў удавалася такое на іх гістарычным шляху. Толькі вось бяда, ніводная з гэтых дзяржаў як след не магла (не па сваёй

віне) працаваць на беларускі інтарэс, прычым у найбольшай ступені гэта было характэрна БССР. Калі Рада Беларускай Народнай Рэспублікі сваім крэдам лічыла правядзенне незалежнай, цалкам самастойнай дзяржаўнай палітыкі, урад БССР не прытрымліваўся такога курсу. Ужо ў прынятым 1 студзеня 1919 г. у Менску Маніхвэсце Часоваго Работніча-Селянскаго Савец-каго Правіцельства Беларусі гаварылася, што яно будзе карыстацца дэкрэтамі РСФСР, заяўлялася "што праз абарону Савецкай Беларусі – абараняецца Савец-кая Расея, абараняецца сусьветная рэвалюцыя, інтарэсы працоўнага народу ўсіх краёў на сьвеця і яскравая панства камунізму"[1]. Кіраўніцтва БССР прызнавала толькі сябе законнай уладай на ўсёй беларускай тэрыторыі У згаданым Маніх-вэсце прысутнічаюць такія пункты:

"3) Прадаўнічая буржуйная Беларуская Рада з яе так празыванымі "народ-нымі міністрамі" обвяшчаецца бязабароннай законамі.

4) Усе законы, пастановы, распарадкі і прыказы Рады і яе слуг … лічацца ня сапраўднымі…"[2].

Яшчэ ў большай ступені БССР была залежнай ад РСФСР у пытаннях пар-тыйнага будаўніцтва, што выразна прасочваецца ўжо ў матэрыялах першага з'езда Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі (30-31 снежня 1918 г.). У яго тэлеграме ЦК РКП(б) былі такія словы: "…камуністы Беларусі і ў далей-шым будуць кіравацца дырэктывамі ЦК РКП, лічачы яго сваім вышэйшым партыйным органам"[3].

Дзяржаўныя і партыйныя органы савецкай Расіі ўрэшце згадзіліся на ўтва-рэнне самастойнай беларускай дзяржавы галоўным чынам таму, што не сумня-валіся ў магчымасці ўтрымаць яе ў сваёй залежнасці, г.зн. не забяспечваць БССР поўнага нацыянальнага суверэнітэту. Ад утворанай савецкай Беларусі тут жа запатрабавалі, і яна цалкам пагадзілася, будаваць сваё жыццё на сацыялі-стычным падмурку, аддаваць усе свае сілы дзеля перамогі пралетарыяту ў сус-ветнай рэвалюцыі. Вось чаму ў Маніфесце Часовага рабоча-сялянскага савецка-га ўрада Беларусі і з'яўлялася, што на яе тэрыторыі ўводзяцца ў дзеянне ўсе дэкрэты РСФСР. Жыць жа паводле дэкрэтаў, культурна-моўных і іншых стан-дартаў якой-небудзь іншай дзяржавы цалкам несумяшчальна са статусам нацыянальнага суверэнітэту.

Ход падзей у палітычным жыцці БССР стаўся такім імклівым, што за ім проста немагчыма было паспяваць. Аднак разумныя

---

[1] Цытавана па кн.: Турук Ф. Белорусское движение. С.133.
[2] Тамсама. С.132.
[3] Игнатенко И.М. Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии. С. 178.

людзі заўважалі, што ў планах бальшавікоў ёй не надаваўся статус самастойнага дзяржаўнага фармавання. Сімвалічнасць палітычнай незалежнасці толькі што створанай БССР у поўнай меры праявілася ў тым, што не апошняя, а ЦК РКП(б) прыняў 16 студзеня 1919 г. рашэнне перадаць яе Віцебскую, Магілёўскую і Смален-скую губерні ў склад РСФСР. Маецца і шэраг іншых фактаў умяшання партый-ных і савецкіх органаў Расіі ва ўнутраныя справы Беларусі, што лічыцца недапушчальным ва ўмовах сапраўднага самастойнага суверэннага развіцця любой краіны. Гэтае партыйнае рашэнне было ўхвалена на Першым усебеларускім з'ездзе саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў (2-3 лютага 1919 г.). На ім жа была прызнана неабходнасць аб'яднання Беларусі з Літвой, у выніку чаго ўзнікла новае дзяржаўнае ўтварэнне Літоўска-Бела-руская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (ЛітБел), якая існавала на працягу лютага 1919 г. да другога абвяшчэння незалежнасці БССР 31 ліпеня 1920 г. У ім палітыкі пастараліся адвесці беларускаму фактару другарадную ролю. Зрабіць гэта было зусім проста, бо па-ранейшаму нашым краем кіравалі асобы небела-рускай нацыянальнасці.

Слабае прадстаўніцтва беларускіх камуністаў у вышэйшым партыйным органе ЛітБел – ЦК КП(б)ЛіБ не магло не адбіцца і на яго нацыянальна-моўнай палітыцы. Мова беларускага народа, на долю якога прыпадала большыня насельніцтва гэтага дзяржаўнага аб'яднання, не была прадстаўлена ў цэнтраль-ных органах друку Кампартыі Літвы і Беларусі: "Звезда" выходзіла на рускай мове, "Млот" – на польскай, "Комунистас" – на літоўскай "Штэрн" – на яўрэй-скай. Такая непрыхаваная моўная дыскрымінацыя партыйнымі органамі ЛітБела яе асноўнага карэннага насельніцтва, зразумела, моцна непакоіла неадарваных ад родных каранёў мясцовых нацыянал-камуністаў, і яны ў меру сваіх сіл імкнуліся хоць трохі палепшыць становішча, ведаючы, што не надзяліўшы роднае слова беларусаў правам прысутнічаць на старонках партыйнай прэсы, вельмі істотна ўскладніцца ў цэлым развязванне праблемы нацыянальнага абраджэння краю.

Іншым разам бальшавікам перашкаджала прыняць правільнае рашэнне да-тычна беларускага пытання неразуменне ці ігнараванне яго тымі, хто прыцягваўся да складання адпаведных дакументаў. А фальсіфікацый па гэтым пытанні распрацавана нямала, у іх ліку і падрыхтаваныя ў 1920 г. Рычардам Пікселем і Ісакам Рэйнгольдам для ЦК КП(б)Л і Б тэзісы, у якіх беларусы не прызнаваліся асобнай нацыяй, а іх мову, рэлігію і культуру нічым не адрозніва-лі ад рускай. Зыходзячы з такіх пазіцый, аўтары

тэзісаў не бачылі аніякіх этна-графічных, эканамічных і культурных падставаў для стварэння самастойнай беларускай дзяржавы. Такая хлусня асабліва недаравальна для другога з пералі-чаных аўтараў тэзісаў, бо ён нарадзіўся ў самім цэнты этнічнай тэрыторыі бела-русаў і, несумненна, добра ведаў, што гэта не рускія, а па ўсіх параметрах ёсць самабытны народ.

Варта адзначыць, што ў справе палітычнага аб’яднання беларускага і літоў-скага народаў бальшавікі не былі піянерамі. Гэтая ідэя і да іх шырока абмяркоў-валася. Аднак трэба сказаць, што ў бальшыні выпадкаў яна рашуча не падтры-млівалася прагрэсіўнымі, нацыянальна-самасвядомымі сіламі Літвы. І яны мелі рацыю, бо ў гэтай федэратыўнай дзяржаве літоўцы аказаліся б у меншыні, што рана ці позна магло б паставіць іх перад пагрозай асіміляцыі з боку больш шматлікага ў дадзенай краіне народа – беларускага. Такі суровы, бязлітасны закон этнічнага развіцця ўсіх шматнацыянальных дзяржаў: выжывае, перама-гае, прагрэсіруе ў іх самая буйная нацыя, якая звычайна з’яўляецца не толькі асноўным ядром насельніцтва, але і носьбітам палітычнай улады. Аб’яднаць Бе-ларусь і Літву бальшавісцкай партыі удалося толькі дзякуючы выкарыстанню адміністрацыйных захадаў без уліку волі, пажадання народаў гэтых дзяржаў. Зліццё Беларусі і Літвы ў адну дзяржаву іх партыйныя і савецкія органы ажыц-цявілі не без падказкі Масквы. Яе ідэалагічныя структуры на ўвесь голас заяў-лялі, што такое аб’яднанне Беларусі і Літвы будзе спрыяць цеснай інтэграцыі ўсіх савецкіх рэспублік у адну дзяржаву, пабудаваную на федэратыўных пачат-ках. І многія верылі ў такія прыгожыя абяцанні.

Нягледзячы на складанасць міжнароднага становішча ўрад Літбела штосьці спрабаваў рабіць дзеля нармалізацыі жыцця ў аб’яднанай краіне, у т.л. у сферы адукацыі і культуры. Былі тэрмінова прыняты “дэкрэты: пра абавязковае бяс-платнае навучанне дзяцей і моладзі ва ўзросце 7-18 гадоў (24.3.1919), адкрыццё ў Вільні народнага універсітэта (10.3.1919), стварэнне гісторыка-этнаграфічнага музея (25.3.1919) і музея прыкладнога мастацтва (26.3.1919). Пры Наркамаце асветы была заснавана археалагічная камісія, якая кіравала цэнтральным кніга-сховішчам, бібліятэкай, цэнтральным архівам і гісторыка-этнаграфіным музе-ем”[1]. Толькі вось на практыцы не ўдалося выявіць, наколькі дзейнасць гэтых культурна-асветніцкіх асяродкаў адпавядала б беларускаму нацыянальнаму інтарэсу, бо можна мець адну з перадавых у свеце сістэм народнай адукацыі, але калі яна працуе паводле чужых культурна-моўных стандартаў,

[1] ЭГБ. Т.4. С. 383.

дык замест карысці прыносіць толькі шкоду, асімілюе маладыя пакаленні. А не ўдалося на практыцы праверыць дэкрэты ЛітБела з-за развязанай у красавіку 1919 г. Польшчай вайны. Вялася ж яна не супраць Літвы ці Беларусі, а савецкай Расіі ў цэлым. Як след нераспачатую на тэрыторыі ЛітБела эканамічную і яшчэ ў большай меры нацыянальна-культурную дзейнасць прыпынілі ваенныя дзеянні. Развязваннем беларускага пытання з улікам тагачаснай сітуацыі зноў займаліся толькі ўлады БНР.

Спадзевы некаторых палітыкаў БНР, што з урадам суседняй славянскай дзяржавы Польшчы лягчэй будзе зняць з парадку для ўсе найважнейшыя пытанні беларускага нацыянальнага Адраджэння, чым з органамі савецкай ула-ды Беларусі, у якіх вельмі высокая ўдзельная вага падала на прадстаўнікоў неславянскага – і да таго ж яшчэ немясцовага паходжання – зусім не падмацоў-валіся на практыцы. Маладая польская дзяржава прагла для сябе адміністра-цыйных межаў 1772 г. і ніяк не жадала, каб на гэтай тэрыторыі ажыццяўляліся нейкія там захады па палітычным самавызначэнні Беларусі. Пэўныя магчыма-сці ёй даваліся – дый-то без вялікай ахвоты – для самабытнага этнакультурнага развіцця, але толькі ў такой ступені, каб гэта не прычыняла асаблівай шкоды польскаму элементу і на гістарычнай тэрыторыі беларусаў. Як бачым, славянскі фактар не адыграў нават самай мізэрнай ролі ва ўсталяванні справядлівых узае-мадачыненняў двух народаў адной і той жа этнічнай супольнасці, што нельга не браць пад увагу беларусам і сёння, будуючы свае стасункі з заходнімі, паўночна-ўсходнімі суседзямі, нягледзячы на наяўнасць шмат чаго агульнага ў гісторыі, культуры, мове, рэлігіі, побыце. Імкненне да культурна-моўнай асімі-ляцыі аднаго народа іншым, відаць, катэгорыя вечная.

Кіраўніцтву БНР робіць вялікі гонар, што і ў тых экстрэмальных умовах яны не спасавалі перад цяжкасцямі, не спынілі змагання за святую беларускую справу, якой так упарта супраціўляліся прыхільнікі адраджэння Рэчы Паспалі-тай у яе колішніх адміністрацыйных межах. Неабходна адзначыць, што такі супраціў пачаўся адразу ж пасля ўварвання нямецкіх інтэрвентаў на этнічныя беларускія землі і дасягнуў вялікай моцы дзякуючы стварэнню ў 1916 г. пры падтрымцы Германіі і Аўстра-Венгрыі марыянетачнай польскай дзяржавы. Яе кіраўнікі, як і пазней урад Савецкай Расіі, непрыхільна ставіліся да палітычнага самавызначэння Беларусі. Яна апынулася паміж двух агнёў. Прычым найбольш варожую палітыку ў беларускім пытанні праводзіла бальшавіцкая ўлада Расіі. Што ж датычыць польскага пытання, яна пайшла ў жніўні 1918 г. на адмену ўсіх дагавораў і

актаў царскай імперыі аб падзелах Рэчы Паспалітай. У лістапа-дзе таго ж года стварэннем у Любліне народнага ўрада быў пакладзены пачатак незалежнай польскай дзяржавы. Эйфарыя палітычнай самастойнасці ахапіла ўсё польскае грамадства. Нарэшце збылася мара, за здзяйсненне якой, не шка-дуючы пралівалі кроў пад час паўстанняў 1794, 1830-1831, 1863-1864 гг. Пралі-валі ж разам з беларусамі. Але з іх законнай воляй на свой уласны дзяржаўны суверэнітэт не лічылася суседняя заходняя краіна.

Спрэчкі, канфлікты паміж польскімі ўладамі і БНР трохі суняліся толькі пасля таго, як войскам Савецкай Расіі ўдалося пацясніць нямецкіх інтэрвентаў на захад і ўзнікла рэальная магчымасць прасоўвання дыктатуры пралетарыяту на захад і ў першую чаргу на тэрыторыю Польшчы.

Палітычныя вярхі Польшчы ўвесь час пільна сачылі за станам беларускага пытання на занятай савецкім войскам тэрыторыі і не маглі не бачыць, што БССР і ЛітБел ёсць не больш як толькі марыянеткі Расійскай Федэрацыі. І ў гэтым яны ніколькі не памыляліся. Амаль поўная адсутнасць стваральнай беларускай нацыянальна-дзяржаўнай дзейнасці ва ўмовах і БССР, і ЛітБел аблягчала і нават у пэўнай ступені апраўдвала асімілятарскі курс польскай улады на занятых ёю гістарычных землях нашага народа.

Зусім натуральна, што ў поглядах на беларускую справу адсутнічала ўзаема-разуменне паміж рознымі партыямі і нацыянальнымі рухамі самога нашага краю. Прычым выказваліся і такія меркаванні, што ішлі ўразрэз з яго карэннымі інтарэсамі. Вядома, да прыкладу, што беларускія эсэры, хаця і стаялі на савецкай платформе, аднак яны выступалі за палітычна самастойную Беларускую Рэспубліку ў яе этнаграфічных межах. Да гэтай партыі належалі такія актыўныя дзеячы беларускага нацыянальнага Адраджэння, як Тамаш Грыб, Палута Бадунова, Язэп Мамонька, Вацлаў Ластоўскі. У 1919 г. эсэры выдавалі газеты: “Грмадзянін” (Вільня), “Родны Край” (Гародня), “Наша Каляіна” (Слуцк).

Прынцыпова іншую ад эсераў пазіцыю па пытаннях нацыянальна-дзяржаў-нага будаўніцтва займалі беларускія сацыял-дэмакраты. Яны нават не супраць былі пайсці на роўных на федэрацыю “Беларускай Народнай Рэспублікі з Поль-шчай Пісудскага”, але выступалі супраць адкрыта рабаўніцкай палітыкі, што праводзілі на Беларусі акупацыйныя польскія ўлады. Сярод беларускіх сацыял-дэмакратаў найбольшай папулярнасцю карысталіся Антон Луцкевіч, Аркадзь Смоліч, Язэп Лёсік.

У пытаннях дзяржаўнага ўладкавання Беларусі ў апазіцыі да сацыял-дэма-кратаў знаходзіліся сацыялісты-федэралісты: Язэп

Варонка, Пётр Крачэўскі, Кастусь Езавітаў, Васіль Захарка, Яфім Бялевіч і інш. Яны стаялі "бясспрэчна супроць федэрацыі з Польшчай, за аб'яднанне з дэмакратычнай Расіяй, але не з Савецкай"[1].

Самымі зацятымі праціўнікамі надання нашаму краю нацыянальнага суверэ-нітэту былі бальшавікі, асабліва непрыналежныя да мясцовага карэннага на-сельніцтва. Прыхільнікі бальшавіцкага руху на Беларусі нібыта зусім забыліся, а можа проста не чыталі, што наконт гэтага пісаў іх правадыр Уладзімір Ленін: "Той не марксіст, той нават не дэмакрат, хто не прызнае і не адстойвае раўна-праўя нацый і моваў, не змагаецца з усякім нацыянальным прыгнётам або нераўнапраўем"[2].

Бальшавіцкія ідэолагі з мэтай зрыву дзяржаўнага будаўніцтва на Беларусі выкарыстоўвалі самыя грубыя паклёпы на актыўных прыхільнікаў гэтай патрыятычнай, цалкам законнай для яе народа ідэі. Нічым не апраўданую барацьбу з надуманым беларускім нацыяналізмам дзяржаўныя і партыйныя органы распачалі практычна ўжо ў першы ж дзень стварэння БССР. Гэта прызнаваў самы адпеты змагар супраць беларускіх нацыяналістаў, чэкіст № 1 у перадваеннай і ў першыя гады пасляваеннай Беларусі Лаўрэнцій Цанава. У доб-ра вядомай для многіх яго працы па развіцці партызанскага руху на Беларусі ў гады айчыннай вайны чытаем: "... у склад дэлегатаў І з'езда КП(б)Б (адкрыўся 30 снежня 1918 г. у Смаленску. – Л.Л.) пранікл́і замаскаваныя ворагі партыі, савецкай улады ... нацыяналісты Жылуновіч, Лагун, Чарвякоў і іншыя. Маючы контррэвалюцыйныя, нацыяналістычныя, рэстаўратарскія мэты і спрабуючы арыентаваць партыйныя арганізацыі Беларусі на адрыў ад Савецкай Расіі, яны заявілі, што лічаць неабходным стварыць беларускую камуністычную партыю, самастойную і незалежную ад ЦК УсеКП(б) і, такім чынам, спрабавалі раска-лоць партыю, якая з'яўляецца асновай адзінства працоўных розных нацыянаь-насцяў у барацьбе з імперыялізмам. Спрабуючы стварыць умовы для падрыву савецкай улады ў Беларусі знутры, яны патрабавалі ўключэння ў склад часовага рэвалюцыйнага ўрада Беларусі прадстаўнікоў буржуазных нацыяналістаў ... Жылуновіч і яго кампанія атрымалі рашучы адпор, часовы рэвалюцыйны ўрад Беларусі застаўся свадобным ад нацыяналістаў..."[3], г.зн. ад яе сапраўдных патрыётаў, законных гаспадароў гэтай зямлі.

---

[1] Турук Ф. Белорусское движение. С. 65.
[2] Ленін У. Творы. Т.20. С. 12.
[3] Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Ч.ІІ. Мн., 1951. С. 783, 784.

Негатыўнае стаўленне закінутых у наш край камуністаў да яго сапраўднай нацыянальнай эліты магла параджаць у некай часткі яе думку, што пытанні па-літычнага самавызначэння Бацькаўшчыны лепей развязваць не з усходнім славянскім народам (рускім), а з заходнім (польскім). Зразумела, выбар быў таксама рызыкоўным, безнадзейным, бо тэрытарыяльныя апетыты ў яго былі надзвычай вялікімі, інакш не распачала б Польшча ў красавіку 1919 г. свой інтэрвенцыянісцкі паход на беларускія землі. Праз чатыры месяцы яе панаванне ўсталявалася на ўсёй тэрыторыі ЛітБела. Для беларускіх змагароў за палі-тычнае самавызначэнне, нацыянальна-культурнае адраджэнне прыйшлі цяжкія часы, суровыя, адказныя выпрабаванні на спеласць. У процілеглых бакоў былі зусім не роўныя сілы, што рэльефна адлюстроўвалася ва ўсіх сферах тагачасна-га жыцця Бацькаўшчыны.

Найцяжэй за ўсё на захопленай польскімі інтэрвентамі тэрыторыі было займацца надзённымі праблемамі палітычнага характару. Усялякія планы па стварэнні беларускай дзяржаўнасці лічыліся няпрошанымі гаспадарамі злачын-нымі. Таму ўся асноўная дзейнасць беларускіх нацыянальных сіл была скірава-ная на культурную сферу ў надзеі, што гэта павысіць узровень супраціву наро-да паланізацыі, будзе садзейнічаць узмацненню у яго жадання і волі жыць паводле сваіх прыродных канонаў, а не гвалтам накінутых чужакамі. Іх змаган-не з такой дзейнасцю проста не ведала мяжы, таму ўсё, што тут удалося дася-гнуць беларускімі адраджэнцамі, заслугоўвае самай высокай пахвалы і перай-мання сучаснымі паслядоўнікамі такога руху.

Цалкам апраўдана, што ў эпіцэнтры барацьбы за нацыянальнае выжыванне была пастаўлена адукацыя, бо толькі яна пры разумнай арганізацыі здольная засцерагчы народ ад культурна-моўнай асіміляцыі, захаваць яго як самабытную этнічную супольнасць. Нягледзячы на ўсе перашкоды польскіх ваенных і цывільных уладаў не спыняла сваёй дзейнасці ў Менску "Беларуская цэнтраль-ная школьная рада". Яна была ўтворана ў пачатку 1920 г. на базе Мінскай, Віленскай і Гарадзенскай школьных рад. Найбольшую актыўнасць у справе нацыянальнай адукацыі праяўляла Рада ў самім Менску і Менскай губерні. Паводле некаторых звестак тут у 1920 г. функцыянавала каля 190 беларускіх школ. У Віленскай і Гарадзенскай губернях такіх школ было толькі два дзесяткі. Заняткі вяліся ў Менскай, Віленскай і Слуцкай беларускіх гімназіях, у дзесяці беларускіх прагімназіях[1].

[1] Турук Ф. Белорусское движение. С.62.

Ідэя беларускай нацыянальнай адукацыі прысутнічала, паспяхова ажыццяў-лялася на практыцы на тэрыторыі “Сярэдняй Літвы”, створанай ў кастрычніку 1919 г. у выніку заняцця польскай дывізій Лук’яна Жэлігоўскага Віленскага краю разам з Вільняй. У дэпартаменце асветы ўрада “Сярэдняй Літвы” ў той час якраз працаваў актыўны ўдзельнік беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, аўтар першай “Беларускай граматыкі для школ” (1918) Браніслаў Тарашкевіч. За самы сціслы тэрмін ён забяспечыў адкрыццё ў “Сярэдняй Літве” 200 беларускіх школ і настаўніцкай семінарыі ў Барунах (Ашмянскі павет), якую ўзначаліў добра вядомы на той час палітычны і грамадскі дзеяч, педагог Сымон Рак-Міхайлоўскі.

Не толькі працягваў, але і значна павялічыў свой уклад у стварэнне, функцыянаванне нацыянальнай сістэмы адукацыі ў нашым краі Менскі педага-гічны інстытут (МПІ). Пасля таго як педагагічная рада 10 верасня 1919 г. прызнала беларускую мову асноўнай мовай выкладання, ён атрымаў назву Менскі беларускі педагагічны інстытут (МБПІ). Сябру Найвышэйшай Рады БНР Вацлаву Іваноўскаму ўдалося схіліць начальніка Польскай дзяржавы Юзафа Пілсудскага да аказання дапамогі ў фінансаванні гэтай навучальнай установы, а таксама беларускіх народных школ. У ёй, без перабольшвання, канцэнтравалася тады сапраўдная краса беларускай педагагічнай інтэлігенцыі. Шмат карыснага выносілі студэнты для сябе са змястоўных і цікавых лекцый, семінарскіх заняткаў па беларускай мове згаданага вышэй Б. Тарашкевіча. Не забываўся прафесарска-выкладчыцкі склад МБПІ і пра выхаванне ў студэнтаў здаровай беларускай нацыянальнай самасвядомасці. Акурат наяўнасць такой якасці ў іх не давала прымірыцца з любымі формамі нацыянальнага прыгнёту Бацькаўшчыны, якому здавалася не будзе канца. Катэгарычна не прызнавала законнасці панавання польскай акупацыі створаная пры інстытуце падпольная арганізацыя “Маладая Беларусь”. У сваім змаганні з інтэрвентамі яна дзейніча-ла ў цесным кантакце з партыяй беларускіх эсераў, а затым з бальшавікамі. Напя-рэдадні прыходу бальшавікоў 11 ліпеня 1920 г. у Менск у яе складзе знаходзі-лася немалая колькасць актыўных сяброў цвёрдай нацыянальнай пазіцыі.

Надзейным сродкам супраціўлення паланізатарскай палітыцы, якую з зайздроснай упартасцю праводзілі на беларускіх землях улады суседняй ім дзяржавы, з’яўляўся нацыянальна-культурніцкі рух. У дзейнасці кіраўнічых структур БНР ён займаў адно з найважнейшых месцаў. А галоўнае да яго пачалі больш актыўна далучацца шараговыя людзі – непасрэдныя прыродныя

нось-біты беларускай культуры, – хаця новыя гаспадары ўсяляк перашкаджалі гэтаму.

З пачаткам польскай інтэрвенцыі ў невыносна цяжкіх умовах апынуўся параўнальна яшчэ вельмі малады беларускі нацыянальны друк. Над ім была ўстаноўлена пільная польская цэнзура. Па яе патрабаванні некаторыя газеты поўнасцю ці толькі на пэўны час спынялі свой выхад. Але якія б перашкоды ні чынілі ў гэтай справе польскія ўлады на Беларусі, тады выдавалі да дзесятка газет і часопісаў на яе нацыянальнай мове. Добра паклапаціліся пра гэта ў Мен-ску. Тут штодзённа выходзілі літаратурна-грамадская і палітычна-эканамічная газета “Беларусь” (рэдактар Язэп Лёсік), штотыднёвік літаратуры і мастацтва “Рунь” (рэдактар Іван Луцэвіч; літ. псеўданім Янка Купала), часопіс – “Падарунак Беларускаму Жаўнеру” (выданне Беларускай вайсковай камісіі) і “Саха” (рэдактар Аляксандр Уласаў). З канца жніўня 1919 г. у гэтым горадзе пачалі выдаваць газету “Звон”, якую рэдагавала Іадвіга (Ядвіга) Луцэвіч. Вы-ходзіла яна нядоўга: да 19 кастрычніка таго ж года. Як і ва ўсе папярэднія часы, шмат увагі беларускаму нацыянальнаму друку надавалі ў Вільні, дзякуючы чаму забяспечваўся выхад ілюстраванага штотыднёвіка “Беларускае Жыцьцё” (рэдактар беларускі артыст і пісьменнік Францішак Аляхновіч), штотыднёвай газеты “Крыніца” (выдавалася Беларускай Хрысьціянскай Злучанасьцю лацін-скім шрыфтам), палітычнай і грамадзянскай газеты “Беларуская Думка” (вы-ходзіла тры разы на тыдзень), газет “Незалежная Беларусь” і “Наша думка”. А вось трэці буйны на Беларусі цэнтр нацыянальна-культурнага Адраджэння – Гародня – застаўся без газет і часопісаў, у чым цалкам “заслуга” польскіх акупантаў. Яны не толькі забаранілі выхад грамадска-літаратурнага штоты-днёвіка “Бацькаўшчына”, газеты “Родны Край” (выдаваліся на беларускай мове), але і арыштавалі іх рэдактараў[1].

Не ў малой ступені з-за моцнага ўціску польскімі ўладамі беларускай нацыя-нальнай перыёдыкі некаторыя часопісы і газеты даводзілася выдаваць у іншых краінах. Як вядома, Першая сусветная вайна, Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г. у Расіі прычыніліся да таго, што па-за межамі сваёй айчыны апынулася шмат беларусаў, якім вельмі патрэбна была перыёдыка ў роднай мове. У Коўне выходзілі ілюстраваны штомесячнік “Часопісь” (рэдактар міністр беларускіх спраў БНР у Літве Язэп Варонка) і беларуская ваенная газета “Варта Бацькаў-шчыны” (выдавалася на беларускай і рускай мовах), у Рызе – літаратурна-гра-мадскі штомесячнік “На Чужыне” (рэдактар Р. Казячы). Папераменна ў

---

[1] Турук Ф. Белорусское движение. С. 63.

Берліне ці Празе друкаваўся штотыднёвы беларускі бюлетэнь “Абвесткі беларускага дзяржаўнага прэсс-бюро”. Тут пераважна змяшчаліся тыя матэрыялы, якіх немагчыма было б надрукаваць з-за ўмоваў цэнзуры ў акупаванай палякамі частцы Беларусі.

Далей ужо ніяк нельга было ігнараваць беларускую мову ў перыядычным друку дзяржаўнымі і партыйнымі органамі ЛітБела. Апынуўшыся ва эвакуацыі ў Смаленску, яны тут арганізавалі з 1 лютага 1920 г. выданне на беларускай мове газеты “Савецкая Беларусь”.

У перыяд польскай акупацыі Беларусі працягвалася праца і яшчэ раней заснаваных тут выдавецтваў, у прыватнасці: Менскае Асьветнае Выдавецтва, Беларускае Выдавецкае Таварыства “Крыніца”, “Веда” ў Вільні. У Коўне бела-рускія кнігі выдавала “Таварыства імя Ф. Скарыны”, у Кіеве – “Зорка”. Сярод публікацый апошняга найбольшую каштоўнасць уяўляла кніга “Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства”[1].

Забеспячэнне выхаду падчас польскай інтэрвенцыі немалой колькасці друка-ванай прадукцыі на беларускай мове садзейнічала не толькі распаўсюджванню сярод насельніцтва самага разнастайнага інфармацыйнага, прычым найбольш аб’ектыўнага, матэрыялу. Гэта яшчэ, як нішто іншае, добра спрыяла і папуля-рызацыі самой беларускай мовы, праўдзіваму раскрыццю ролі якой у грамад-скім жыцці прысвячалася шмат месца на старонках розных нацыянальных выданняў. І гэта мела поўнае апраўданне, бо новыя для Беларусі чужынцы не лічыліся з законным правам яе народа развівацца ў рэчышчы ўласных культурна-моўных традыцый, быць самім сабой. Сапраўдны катэхізіс аб мове беларусаў склаў для “Беларускага календара” Змітрок Бядуля. Вось найбольш слушныя выняткі з яго: “Шануй сваю мову, шануй свае песьні, свае казкі, звычаі і ўсё роднае – гэта спадчына дзядоў і вялікі нацыянальны скарб... Дзяцей вучыць трэба толькі ў роднай мове, тады навука прынясе шмат карысці... Першы скарб нацыянальны – гэта родная мова. Толькі ў роднай, добра зразумелай мове чалавечы розум разьвіваецца і багаціць родную духоўную і аканамічную культуру... Кожны з нас павінен памятаць і ведаць, што нашая беларуская мова не горшая за іншыя мовы, толькі ў нашай мове было наўмысьля забаронена пісаць і друкаваць кнігі дзеля таго, каб мы аставаліся цёмнымі людзьмі і каб былі парабкамі чужых, болей разумных людзей... Тыя людзі, з палякаў ці маскоўцаў, што скажуць вам: “кіньце сваю бедную, неразьвітую мову і прылучэцеся да нас – мы вам дадзём усё гатовенькае” – гэта, памятайце, такія людзі, што найдалей хочуць

[1] Турук Ф. Белорусское движение. С. 62, 63.

закабаліць вашую душу – ня йдзеце за імі, бо страціце сваё імя і зробіцеся нявольнікамі духа, грунтам для чужых... Толькі тады чалавек вольны – калі мае ўсё сваё”[1].

І ў жорсткіх умовах польскай інтэрвенцыі не прыпынялася тэатральнае жыц-цё, у якім усё большую ролю пачынаў адыгрываць нацыянальны фактар, закладзены яшчэ ў папярэднія гады. Як ніхто іншы, ролю апошняга вельмі добра разумеў і ўсяляк стараўся садзейнічаць яму адзін з піянераў беларускага нацыянальнага тэатра Францішак Аляхновіч. Ён нібыта наўмысна актывізоўваў сваю дзейнасць на гэтай ніве ў самыя цяжкія для Бацькаўшчыны часы, як гэта было ў акупаванай кайзераўскімі войскамі Вільні. Прыбыўшы ў чэрвені 1918 г. з гэтага горада ў Менск, стаў працаваць тут акцёрам і рэжысёрам Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. Праўда, затрымаўся ненадоўга, бо ўвесну 1919 г. падаўся ў Вільню. І гэтым разам на вельмі кароткі час: увосень таго ж самага года зноў у Менску, займаючы пасады дырэктара і рэжысёра Беларускага тэатра. Апошні ставіў п’есы, напісаныя пераважна самім Ф. Алях-новічам. З выгнаннем польскіх інтэрвентаў з Менска ён ізноў пераезджае ў Вільню. Частыя пераезды выклікаліся не жаданнем стварыць кар’еру ці якой-небудзь пераборлівасцю, а выключна патрэбамі самаго тэатральнага жыцця.

Нацыянальна-культурны рух у часы польскай інтэрвенцыі досыць актыўна падрымалі і многія прадстаўнікі заможных пластоў, знакамітых родаў, што сведчыла пра абуджэнне, рост іх этнічнай самасвядомасці. У першую чаргу варта назваць Магдалену Радзівіл (1861-1945). Адзначу, што яна і да гэтага паспела здабыць сабе заслужаную славу сваім мецэнацтвам. Дапамагала выданню твораў М. Багдановіча “Вянок”, Я. Коласа – “Родныя з’явы”, М. Га-рэцкага – “Рунь”, Ядвігіна Ш. – “Васількі”, К. Буйло – “Курганная кветака”, фінансавала дзейнасць некаторых пачатковых школ. Паводле ўспамінаў актыў-нага ўдзельніка тагачаснага беларускага нацыянальнага руху Антона Луцкевіча яна ў сваім галоўным маёнтку Ігуменскага павета “адкрыла беларускую школу, загадала весці бухгалтэрыю на беларускай мове і аткрыта пачала заяўляць, што лічыць сябе за прадстаўніцу найстарэйшага беларускага роду і ганарыцца гэтым. Яна ... ахвяравала 20 000 руб. на выданне беларускіх кніжак (літаратурных твораў, падручнікаў, папулярна-навуковых брашур). Было зарганізавана спецыяльна для выкарыстання гэтага ахвяравання

[1] Цытавана па газеце: “Літаратура і мастацтва”. 1992. 8 мая. С. 16.

паявое беларускае выдавец-кае таварыства пад старшынствам праф. В. Іваноўскага”[1].

Пры ўсіх стараннях досыць шырокага кола людзей надаць культурнаму жыццю нацыянальна-беларускі характар, дамагчыся такога аказалася зусім нялёгкай справай з-за настойлівага супрацьдзеяння акупацыйных уладаў, бо прыйшлі ж яны ў наш край у ролі паланізатараў, а не выратавальнікаў яго ка-рэннага насельніцтва ад культурна-моўнай асіміляцыі. У няпрошаных гаспада-роў было непараўнальна больш і палітычнай улады, і фінансавых сродкаў, чым у БНР і нацыянальных адраджэнцаў, што спрыяла ўсталяванню на Беларусі польскага ладу жыцця. Моцна ўступалі беларусы палякам і па такой нічым не замennай якасці, як нацыянальная самасвядомасць. У першых пад уздзеяннем дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі яна аказалася куды больш здэфармаванай, чым у апошніх. Здабытыя дасягненні ў правядзенні антыбеларускай палітыкі польскіх уладаў даволі пераканаўча засведчыў відавочца тых падзей гаспадар-чы і палітычны дзеяч Беларусі Эдвард Вайніловіч. Пасля вяртання 16 кастрыч-ніка 1919 г. з Варшавы ў Менск ён пісаў, што гэты горад “на здзіўленне хутка стаў польскім: назвы вуліц польскія, шыльды, напісаныя, праўда, на тарабар-скай польскай мове, але польскія, школы польскія, нават габрэі пачынаюць па-польску гаварыць на вуліцах, хоць яны і не зусім упэўненыя ў тым, што сапраўдны “статус-кво” прадоўжыцца доўга”[2].

Мірыцца з усталяванымі пілсудчыкамі парадкамі не збіраліся беларускія адраджэнцы. Іх упартае змаганне з паланізацыяй спыніў улетку 1920 г. чарговы прыход у Беларусь савецкай улады. У палітычным абозе частак Чырвонай арміі знаходзілася нямала людзей, якія ўсё яшчэ працягвалі глядзець на наш край, як на рускія землі. Хаця 31 ліпеня 1920 г. Беларусь паўторна была абвешчана незалежнай Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікай (БССР), Пру-жанскі павятовы Рэвалюцыйны камітэт выдае 18 жніўня таго ж года загад № 11, першы параграф якога меў наступны змест: “Грамадзянам гор. Пружаны зняць да 25 жніўня ўсе шыльды, напісаныя на польскай мове, і замяніць на рускай мове”. Пра беларускую мову, як бачым, ні слова! Спатрэбілася прыкласці нямала намаганняў, каб і ва ўмовах БССР лічыліся з яе нацыянальным інта-рэсам.

## §4. Ва ўмовах нацыянальнага суверэнітэту маскоўскай рэдакцыі

[1] Собственноручные показания А.И. Луцкевича 30 октября 1939. Нёман. 1995. № 1. С. 135.
[2] Наша слова. 2008. 30 студзеня. С. 8.

Паўторнае абвяшчэнне 31 ліпеня 1920 г. БССР незалежнай суверэннай дзяр-жавай, але на гэты раз ужо толькі ў межах колішняй Менскай губерні, не знайшло падтрымкі ў беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, сацыял-дэма-кратаў і сацыялістаў-федэралістаў. Яны рашуча выступалі за перадачу Беларус-кай дзяржаве ўсёй яе этнічнай тэрыторыі. Асаблівую актыўнасць у гэтым пра-яўляла беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў, дапамагаючыся "допу-ску беларускай дэлегацыі на перамовы ў Рызе, вываду Чырвонай Арміі з Бела-русі, вяртання на Беларусь чырвонаармейцаў – беларусаў, беларускіх настаўні-каў з РСФСР"[1]. Аднак, існавалі і іншыя падыходы да праблемы беларускай дзяржаўнасці на савецкай аснове. Так, без усялякіх хістанняў на бок савецкай улады стала арганізацыя "Маладая Беларусь" Мінскага настаўніцкага інстытута. Улетку 1920 г. яна прыняла праграму, статут і тактыку РКП(б) і ўвайшла ў склад Кампартыі Беларусі[2]. Словам, якое б стаўленне людзей ні было да новых палітычных перамен, больш за палову беларускага народа павялі савецкім шляхам, зрабілі хутчэй без уліку ўласнага жадання ўдзельнікамі буйнамаштаб-нага сацыялістычнага эксперыменту.

З паўторным абвяшчэннем БССР пачаўся і новы этап у гісторыі дзяржаўнага будаўніцтва. Ажыццяўлялася яно не паводле распрацаваных на месцы праек-таў. Гэтая функцыя цалкам належала Маскве. Гэта яна вызначыла тэрытарыяль-ныя межы БССР у рамках, як зазначана вышэй, толькі колішняй Менскай губерні, распарадзілася ў 1921 г. аддаць ладны кавалак беларускай зямлі пілсуд-скай Польшчы. Каб вярнуць у 1924 і 1926 гг. БССР забраныя Савецкай Расіяй у яе ў 1919 г. усходнія губерні, давялося беларускім палітыкам нямала паабіваць парогі самых высокіх дзяржаўных і партыйных органаў СССР. І ўсё ж які сімвалічны характар не меў бы нацыянальны суверэнітэт БССР, ён не ідзе ні ў якае параўнанне з яе палітычным статусам у форме Заходняй вобласці (камуны) у складзе РСФСР ці з рознага роду нацыянальна-аўтаномнымі ўтварэннямі гэ-тай рэспублікі. Вызначаны Масквою для БССР аб'ём нацыянальнага суверэні-тэту як-ніяк даваў ёй магчымасць сёе-тое рабіць дзеля развязвання сваіх эканамічных, сацыяльна-палітычных і культурных праблем. Хоць і павольна, але становішча паляпшалася ў дачыненні да кожнай з пералічаных праблем і вельмі важна, што і да апошняй. Бо як гучна, бясконца не заяўлялася б пра дзяржаўны суверэнітэт краіны, але калі яе карэннае насельніцтва жыве паводле чужых нацыянальна-

[1] Игнатенко И.М. Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии. С. 209.
[2] Тамсама. С.201.

культурных канонаў, яна не ёсць палітычна незалежнай, рана ці позна абавязкова страціць сваю этнічную адметнасць, растворыцца ў чужароднай стыхіі. Кіраўніцтва БССР выдатна разумела свой абавязак у гэтай сферы і стварыла даволі спрыяльныя ўмовы для нацыянальна-культурнага будаўніцтва на савецкай, сацыялістычнай аснове.

У адрозненне ад урада першай па часе абвяшчэння БССР цяперашняе кіраў-ніцтва рэспублікі мела сваю штодзённую беларускамоўную грамадска-палітыч-ную газету “Савецкая Беларусь”. З 1 лютага 1920 г. яна выдавалася ў Смален-ску, з 15 жніўня таго ж года – у Менску. Калі рускамоўная газета “Звезда” як друкаваны орган Менскага камітэта РСДРП(б), а затым Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б), у той час з рускіх вялікадзяржаўных пазіцый ставілася ці зусім абыходзіла сваёй увагай беларускае пытанне, для рэдакцыі газеты “Савецкая Беларусь” яно было галоўным, ужо пачынаючы ад яе першых нумароў. Гэтая газета можа служыць добрым прыкладам для сённяшняй афіцыйнай прэсы, як трэба папулярызаваць ролю роднай мовы, прабіваць ёй шлях у грамадскае жыццё, забяспечваючы тут за ёю пазаканкурэнтнае выкарыстанне ў параўнанні з усімі астатнімі мовамі ў краіне.

Даволі прынцыпова паставіўся да правядзення дзяржаўнай моўнай палітыкі нехта “Х” у артыкуле “Беларуская мова і савецкае будаўніцтва на Беларусі”, які быў змешчаны ў газеце “Савецкая Беларусь” ад 24 верасня 1920 г. Ён катэга-рычна выказваецца за тое, што ў БССР “паміж жыцьцём, звычаямі, разумовым разьвіцьцём, моваю і г.д. улады і працоўнага люду рожніцы ніякай быць ня можа.

(…) Ненармальнасьцю, на якую бязумоўна трэба зьвярнуць у сучасны момант увагу, ёсьць тое, што савецкіе будаўнічые на Беларусі ў аграмаднай сваей большасьці ня ведаюць беларускай мовы, гэта значыць, мовы таго народу, паміж якога яны працуюць”. “Х” разумее, што хутка беларускай мовай нельга авалодаць, аднак перакананы ў тым, што “трэба, каб усе гэтые савецкіе будаўнічые моцна пераканаліся, што кожная гутарка, кожные зносіны іх з беларускім селянінам і рабочым не на беларускай мове ёсьць шкадлівай для Савецкага будаўніцтва ненармальнасьцю, і што яны як найхутчэй мусяць ведаць беларускую мову.

Трэба пакінуць тую шкадлівую старую прывычку, калі ўлада гаварыла на розных мовах з працоўным людам, а трэба пераканацца, што ўлада беларускага працоўнага сялянства,

беларускага работніцкага клясу павінна ў зносінах з ім карыстацца беларускай мовай”.

Разам з ажыццяўленнем іншых афіцыйных захадаў такімі публікацыямі па моўнай праблематыцы ўдавалася хоць трохі скрануць з месца яе развязванне, пры-мусіць людзей задумацца над ёю. З вялікай прыхільнасцю да ўсяго беларускага ставіліся ў Камісарыяце земляробства. Тут у канцы лістапада 1920 г. былі закончаны Курсы беларусазнаўства, заняткі на якіх прайшлі 120 чалавек. Пад той час ужо ва ўсіх аддзелах Камісарыята канцылярская праца вялася на бела-рускай мове[1].

Зразумела, настойлівасць пэўнай часткі нацыянальнай арыентацыі кіраўні-чых работнікаў дзяржаўнага, партыйнага і адміністрацыйнага апаратаў па вядзенні канцылярскай справы на беларускай мове змагла выклікаць сям-там адмоўную рэакцыю, бо не ўсе жадалі, каб БССР будавала сваё жыццё ўласным на нацыянальным грунце. У рубрыцы “Менскае жыцьце” газеты “Савецкая Беларусь” ад 11 снежня 1920 г. паведамлялася наступнае: “Усе беларускіе камісарыяты атрымалі ад Ваенна-рэвалюцыйнага камітэту (ад 5 XII за № 1281) прыказ вясьці ўсё дзелаводства аж да асобнага распараджэння з цэнтру (маюцца на ўвазе цэнтральныя органы ўлады Беларусі. – Л.Л.) толькі на расейскай мове”. На шчасце беларусаў, жыццё пайшло ў выгодным для іх рэчышчы, бо гэта ж найвялікшы пардокс, каб незалежная краіна ажыццяўляла дзейнасць свайго дзяржаўнага апарату на чужой, рускай мове.

Нацыянальна-самасвядомы пласт дзяржаўных дзеячоў справядліва не зада-вальняў, як нішто іншае, стан народнай адукацыі, прычым не толькі з-за крайне беднай яе сеткі, адсутнасці вышэйшых навучальных установаў, але і мізэрнага выкарыстання тут беларускай мовы. Але паступова і ў гэтай лёсавызначальнай сферы паляпшаліся справы, што напрамую было звязана з існаваннем у бела-рускага народа ўласнай дзяржавы. Як вядома, яшчэ ў першыя гады пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Наркамасветам РСФСР прызнавалася магчымым стварэнне ўніверсітэтаў на нацыянальных мовах у мясцовасцях, дзе не пера-важае рускае насельніцтва[2]. Калі раней такое правіла нельга было распаў-сюдзіць на Беларусь з-за непрызнання яе карэннага насельніцтва самабытным, адрозным ад рускага народам, дык з атрыманнем ім нацыянальнай дзяржаў-насці падобнай несправядлівасці давялося кануць у Лету. Пры падтрымцы і ўрада, і прафесарска-выкладчыцкага складу

[1] Савецкая Беларусь. 1920. 20 лістапада.
[2] Труды Белорусского Государственного Университета в Минске. 1922. № 1. С. 181.

Расійскай Федэрацыі 30 кастрыч-ніка 1921 г. у Менску адкрываецца першая ў БССР вышэйшая навучальная ўстанова – Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Паводле зместу, мове навучальна-выхаваўчага працэсу яго на першым часе ніяк нельга было называць ні беларускім (такое найменне апраўдвалася толькі геаграфічным, палітычным фактарам), ні нацыянальным. На працу ў БДУ бралі прафесараў і выкладчыкаў толькі пасля папярэдняга зацвярджэння іх Дзяржаўным навуковым саветам Народнага камісара асветы РСФСР. Адзін са стваральнікаў гэтай навучальнай установы прафесар Фёдар Турук так пісаў: "Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт ... з'яўляецца адным з самых маладых у сям'і рускіх універсітэтаў (падкрэслена мною. – Л.Л.) з некаторымі асаблівымі рысамі, абумоўленымі мясцовымі этнаграфічнымі і палітычнымі ўмовамі і гістарычнымі прычынамі жыцця краю"[1]. У кіраўніцтва БССР хапіла і розуму, і жадання, каб з гадамі гэтым асаблівым рысам забяспечыць належнае месца ў педагагічным працэсе БДУ. У яго берарусізацыю важкі ўклад унеслі прафесары, выкладчыкі і самі студэнты пераведзенага сюды Менскага інстытута народнай адукацыі, на базе якога быў створаны педагагічны факультэт. Бальшыня з іх у адрозненне ад сваіх калег вызначалася высокім узроўнем беларускай этнічнай самасвядомасці, выдатна разумела і ўсяляк імкнулася да павышэння ролі нацыянальнага фактару ва ўзгадаванні моладзі.

Першачарговае значэнне надавалі нацыянальму фактару і ў працы іншых звёнаў народнай адукацыі. Хоць і неверагодна цяжка было, але суверэнная дзяржава хацела мець і суверэнную адукацыю, а не нешта накшталт злепка з якой-небудзь чужой педагагічнай сістэмы. Рашучы, цвёрды курс дзяржавы на стварэнне нацыянальнай адукацыі знайшоў поўную падтрымку ў народзе. Першая сусветная, Грамадзянская войны, пражытыя рэвалюцыйныя ўзрушэнні, радасць жыцця ў сваёй дзяржаве ўзнялі на нечуваную дагэтуль вышыню яго нацыянальную актыўнасць. Прагрэсіўную ідэю заснавання ў БССР нацыяналь-най педагагічнай сістэмы падтрымлівала таксама бальшыня прадстаўнікоў некарэннага насельніцтва, бо дзяржава клапацілася і пра стварэнне іншамоўных навучальных устаноў.

Пазітыўныя зрухі БССР у такой важнай сферы жыццядзейнасці, як нацыя-нальная адукацыя, моцна паўплывалі на прыцягненне ўвагі да гэтай лёсавызна-чальнай праблемы беларусаў, што па чужой волі апынуліся па-за межамі сваёй дзяржавы. Актыўна ўключыўся ў стварэнне беларускіх школ на Віленшчыне выпускнік настаўніцкіх курсаў у Слуцку (1920) Янка

---

[1] Тамсама. С. 175.

Станкевіч. Яшчэ раней славу шчырага змаганца за нацыянальную адукацыю прынёс яму выдадзены ў 1921 г. у Вільні "Новы лементар беларускі". У 1921 г. выйшаў з друку падры-хтаваны ім "Правапіс чужых слоў". Выкліканы падзеямі ўнутранага і знешняга парадку беларускі нацыянальна-культурны рух, асабліва ўжо ва ўмовах БССР, закрануў і нашых суродзічаў, што спрадвеку жылі на сваёй этнічнай тэрыторыі ў Латгаліі. Увесну 1921 г. у Дзвінску, Люцыне, Краслаўцы і іншых месцах былі заснаваны беларускія культурна-асветніцкія таварыствы з цэнтральным праў-леннем у Дзвінску. Іх праца знача актывізавалася пасля стварэння ўлетку таго ж года Беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Бацькаўшчына"[1].

З набытым беларускім народам у выніку утварэння ўласнай дзяржавы нацыянальным суверэнітэтам – няхай сабе і ва ўрэзанай форме – напрамую звязаныя заснаванне ў лютым 1921 г. і дзейнасць Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР, на базе якой ў студзені наступнага года быў закладзены Інстытут беларускай культуры. Уклад гэтых нацыянальных асярод-каў культуры ў беларускую справу надзвычай вялікі і па заслугах ацэнены навукоўцамі ў постсавецкі час, чаго не мела месца раней. Як вядома, на працягу дзесяцігоддзяў шмат з таго, што было створана і дзейнічала ў нас на карысць беларускай ідэі, яе ворагамі называлася нацыяналістычным у бальшавіцкім разуменні гэтага слова. Ад такой несправядлівай характарыстыкі не ўратавала-ся і Навукова-тэрміналагічная камісія. Паводле "выдатнага знаўцы" нацыяналь-нага руху на Беларусі, яе галоўнага чэкіста ў перадваенныя і першыя пасляваен-ныя гады Лаўрэнція Цанавы: "У склад гэтай камісіі ўвайшлі амаль усе нацыя-налістычныя сілы, якія працавалі пры польскай акупацыі, а затым засталіся ў Савецкай Беларусі. "Навукова-тэрміналагічная камісія" (Л. Цанава не ўжываў яе назвы без двукосся. – Л.Л.) складалася з беларускіх нацыяналістаў, якія мелі вялікі стаж антысавецкай барцьбы, але не мелі ніякай навуковай падрыхтоўкі. Гэтая акалічнасць пераўтварала камісію не ў навуковую ўстанову, а ў сапраўд-нае контррэвалюцыйнае аб'яднанне беларускіх нацыяналістаў"[2].

Усе найвялікшыя дасягненні ва ўмацаванні нацыянальнага пачатку ў духоў-ным жыцці БССР былі б немагчымымі без плённай стваральнай дзейнасці Інсты-тута беларускай культуры. І што вельмі паказальна: у яго працы ўдзельнічала і шмат небеларусаў, прыбылых з іншых саюзных рэспублік асобаў. Узаемапара-зуменне

[1] Езавітаў К. Становішча беларускае школы ў Латвіі. Вільня. 1923. С. 13.
[2] Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии протв фашистских захватчиков. Ч.ІІ. С. 805.

паміж імі і мясцовымі кадрамі было цалкам бездакорным, што зусім не стыкуецца з выказваннямі Л. Цанавы пра супрацоўнікаў Інбелкульта: "... бела-рускія нацыяналісты кожнага сумленнага вучонага, што прыбываў у рэспублі-ку, сустракалі ў штыкі, цкавалі як вялікадзяржаўнага шавініста..."[1] Беларускі народ, бадай, яшчэ ніколі не выказваў такой вялікай талерантнасці ў міжнацыянальных дачыненнях, як у першыя гады пасля здабыцця ўласнай дзяржаўнасці. Ураз была забытая тая несправядлівасць, што стагоддзямі зведвалася ад уладных вярхоў польскага і рускага народаў. Не лішнім будзе згадаць, што з інтарэсамі нацыянальных мяншыняў абяцала лічыцца і абвешчаная 1 студзеня 1919 г. Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка. У прынятым у гэты ж дзень Маніхвэсце Часоваго Работніча-Селянскаго Савецкаго Правіцельства Беларусі меўся наконт гэтага спецыяльны пункт: "Рабочыя, селяне і працаўнікі ўсіх нацыянальнасцяў, якія жывуць на абшары Беларусі, карыстаюцца роўным правам і знаходзяцца пад абаронаю рэвалюцыйных законаў"[2]. У адным жа з месцаў гэтага Маніхвэсту Рада БНР характарызуецца як "паганая", хаця і яна з інтэрнацыяналістычных пазіцый падыходзіла да развязвання нацыянальнага пытання. Гэтак жа ставіліся да яго вырашэння і аўтары першай Канстытуцыі Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі, прынятай у лютым 1919 г. на першым з'ездзе Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў Беларусі. Канстытуцыя прызнала роўнасць правоў "за грамадзянамі незалежна ад іх расавай і нацыянальнай прыналежнасці".

Сведчаннем адсутнасці якіх-небудзь палітычных абмежаванняў у дачыненні да нацмяншыняў можа з'яўляцца іх прадстаўніцтва ў працы IV Усебеларускага з'езда Саветаў (14-18 снежня 1922), на якім мелася вырашаць адно з самых складаных пытанняў таго часу: аб'яднанне савецкіх сацыялістычных рэспублік у саюзную дзяржаву. У працы з'езда разам са 120 беларусамі бралі ўдзел 66 яў-рэяў, 39 рускіх, 12 палякаў, 5 латышоў і 8 прадстаўнікоў ад іншых нацыяналь-ных груп[3].

Несумненна, без усебаковага ўліку інтарэсаў некарэннага насельніцтва БССР нельга было б разлічваць на станоўчыя зрухі ва ўсіх сферах жыцця-дзейнасці і асабліва ў нацыянальна-культурным будаўніцтве. Тут незаменная роля дзяржаўнага суверэнітэту выявілася ў найбольшай ступені, прычым у даволі

---

[1] Там же. С. 814.
[2] Цытавана па кн.: Турук Ф. Белорусское движение. С. 133.
[3] Игнатенко И.М. Октрябрьская революция и самоопределение Белоруссии. С. 221.

сціслы час. З велізарнай колькасці песімістаў беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння засталася нязначная частка. Асабліва многія паверылі ў яго пасля таго, як уладныя структуры распачалі рабіць практычныя захады па выкананні прынятага Усесаюзным Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам 14 красавіка 1924 г. дэкрэта “Аб мерах да пераводу справаводства дзяржаўных устаноў на мясцовыя мовы”. Паколькі ў БССР 80% ад агульнай колькасці насельніцтва падала на беларусаў, прыярытэт пры выкананні названага дэкрэта быў дадзены іх мове. Актыўнае ўключэнне апошняй ва ўсе віды службовага справаводства адразу ж зрабіла яе запатрабаванай грамадствам. Не існавала ніводнай сферы, дзе б працівіліся яе ўвядзенню. На такое маглі ісці толькі адзіночкі з людзей прарускай арыентацыі. Прыклад выкарыстання беларускай мовы ў якасці рабочай паказвалі працаўнікі сферы народнай адукацыі. Так, праз некалькі пакутлівых, стратных для беларускага народа стагоддзяў і яго дзеці на тэрыторыі БССР сталі ўзгадоўвацца паводле ўласных культурна-моўных трады-цый, з вялікай павагай да ўсяго свайго нацыянальнага, мінулага роднай Бацькаўшчыны.

Наяўнасць у нашага народа сваёй дзяржавы ў форме БССР, яе практычныя крокі па нацыянальна-культурным адраджэнні садзейнічалі росту нацыяналь-най самасвядомасці людзей, прэстыжнасці іх саманазвы “беларусы”. Праўда, зусім інакш да гэтага этноніма ставіліся некаторыя нашыя эмігранты. Так, Вацлаў Ластоўскі ў сваім часопісе “Крывіч” (1925, № 9), які ў 1923-1927 гг. выдаваўся ў Коўне, пісаў: “Называючыся беларусамі, мы ня можам пачынаць нашай гісторыі…Толькі пад іменем “крывічы” мы можам ісьці па шляху адраджэньня”. Яго погляд стаў аб’ектам крытыкі адной з публікацый газеты “Зьвязда” ад 24 снежня 1930 г.

На фоне досыць актыўнай, шматграннай дзяржаўнай дзейнасці БССР на пачатку 20-х гадоў вельмі беднай падаецца палітычная гісторыя Беларускай Народнай Рэспублікі. І гэта не дзіўна: яе ўладным структурам не знайшлося месца ні на тэрыторыі Савецкай Беларусі, ні на “ўсходніх крэсах” буржуазна-памешчыцкай Польшчы. Пасля двух гадоў блукання гэтую цалкам законную беларускую дзяржаву прытуліла ў лістападзе 1923 г. гасцінная чэшская Прага. Для БНР пачаўся яшчэ не закончаны і пасёння эміграцыйны перыяд яе змагар-най гісторыі. У першыя гады дзейнасці БНР ў эміграцыі, нягледзячы на ўсе складанасці, ладзілася нямала розных мерапрыемстваў па актывізацыі беларускага жыцця за мяжой. Тут можна назваць праведзеную ўрадам БНР у верасні 1921 г. у Празе Беларускую нацыянальна-палітычную канферэнцыю. Для ўдзелу ў яе працы прыехала 37 самых вядомых

прадстаўнікоў беларускіх партый і арганізацый. У працы Генуэзскай міжнароднай канферэнцыі па эканамічных і фінансавых пытаннях (красавік 1922 г.) ад урада БНР удзельнічалі сам кіраўнік яго В. Ла-стоўскі і міністр замежнах спраў А. Цвікевіч.

Пэўныя дасягненні БССР у нацыянальна-дзяржаўным будаўніцтве і непа-раўнальна больш прыкметныя ў сферы духоўнага жыцця моцна паўплывалі на настрой многіх дзеячоў БНР. Значная частка іх падалася ў БССР, што трэба прызнаць за вялікую не толькі тактычную, але і стратэгічную памылку, бо пазней рээміграцыя ў БССР закончылася практычна для ўсіх былых урадоўцаў БНР вышэйшай мерай пакарання савецкага правасуддзя.

Калі Масква больш-менш развязала рукі кіраўніцтву БССР у правядзенні палітыкі ў нацыянальна-культурнай дзейнасці, такога не дазвалялася яму у многіх іншых сферах дзяржаўнай дзейнасці. Без усякага ўзгаднення з ім, да прыкладу, усталёўваліся адміністрацыйныя межы БССР, прычым не на карысць апошняй, што выразна вынікае з падпісанай у сакавіку 1921 г. Рыжскай мірнай дамовы. Дзеля нармалізацыі сваіх дачыненняў з Польшчай Савецкая Расія падаравала ёй 113 тыс. км$^2$ беларускай тэрыторыі з насельніцтвам больш за 4 мільёны чалавек. Чым не прыклад шчырага братэрства двух славянскіх народаў – рускага і беларускага?! Адкрыта драпежніцкія палажэнні Рыжскай дамовы многія беларускія нацыянальныя дзеячы слушна расцанілі як нежа-данне Масквы лічыцца з інтарэсамі іх краіны. Не выключана, што гэта магло падштурхнуць некаторых ісці на пошукі шляхоў збліжэння з польскім народам і іх урадам на той беларускай тэрыторыі, што была далучана да нашай заходняй суседкі. Так, на з’ездзе, які праходзіў 12 снежня 1921 г. па ініцыятыве П. Алек-сюка і атамана “Зялёнага дуба” Дзергача (В. Адамовіча) прынялі зварот да працоўных Заходняй Беларусі з прапановай “старанна ўзяцца за працу па адбудове сваіх гаспадарак пры дапамозе польскага ўрада, стаць поплеч з братнім польскім народам, які падае нам руку, і разам ісці з ім змагацца за нашу долю і волю”[1]. Як высветлілася, гэта была вялікая памылка. Польскі ўрад зусім не збіраўся дапамагаць беларусам у адукаванні, дасканаленні іх нацыянальнага жыцця. Аніякай зацікаўленасці да гэтага не праяўляў у аснове сваёй і ўвесь польскі народ. Супроць ганебнай палітыкі паланізацыі беларусаў выступалі толькі адзінкі з ліку самых прагрэсіўных прадстаўнікоў польскага народа. Сярод нацыянальна самасвядомых беларусаў ні БССР, ні “ўсходніх

[1] Цытавана па кн.: Игнатенко И.М. Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии. С. 225.

крэсаў” Польшчы не было тых, хто ўхваляў бы Рыжскую дамову. Для лёсу беларускага народу яна адыграла крайне адмоўную ролю.

У поўнай, абсалютнай залежнасці ад Масквы знаходзілася БССР у пытаннях партыйнага будаўніцтва. Многае, што тут рабілася, зусім не адпавядала яе інтарэсам і, зразумела, не магло не выклікаць адмоўную рэакцыі да сябе. Змагацца з гэтым злом з'яўлялася зусім бесперспектыўнай справай, бо вельмі ж няроўнымі былі суадносіны ў сілах паміж беларускімі нацыянальнымі коламі і магутным бальшавіцкім таталітарным палітычным рэжымам СССР. І тым не менш заваёваны ў самаахвярным змаганні беларусамі статус дзяржаўнасці ў форме саюзнай рэспублікі меў станоўчае значэнне ў іх гісторыі. Пераканаўча пацвярджае сказанае жыццё беларусаў на тэрыторыі сваёй рэспублікі і на іх этнічных землях у складзе Расійскай Федэрацыі да 1926 г. Калі ў першым выпадку яно будавалася на сваім уласным прыродным падмурку, упэўнена пераадольваючы шкодныя наступствы русіфікацыі, дык у другім апошняя бесперашкодна працягвала сваю руйнавальную дзейнасць, што зрабіла пэўны ўнёсак у прасторавую дыферэнцыяцыю этнакультурнай самабытнасці беларусаў не на карысць нашым усходнім рэгіёнам. Што ж датычыць барацьбы савецкіх ідэалагічных структур і спецслужбаў з надуманым беларускім нацдэмакратызмам, масавых фізічных рэпрэсій 30-х гадоў, віноўнікаў гэтых трагедый трэба шукаць у выключна толькі розных агульнасаюзных цэнтрах, да чаго яны ўсяляк імкнуліся падключыць і перыферыю. Так было, да прыкладу, пры ажыццяў-ленні імі супрацьпраўных акцый у дачыненні да беларускіх “нацдэмаў”. Шырока выкарыстоўваўся ў гэтых мэтах перыядычны друк, які цалкам знаходзіўся ў руках партыйных органаў. З вельмі небяспечным, шкодным для беларускай справы артыкулам “Першыя вынікі верасьнёўскага (1929. – Л.Л.) пленуму ЦК КП (б)Б выступіў у “Полесской правде” (Гомельская акруга) ад 15 кастрычніка 1929 г. Я. Васілевіч. На розум і псіхіку чытача не маглі не ўдзейнічаць фразы такога кшталку з названага артыкула:

“… генеральная бойка, якую верасьнёўскі пленум ЦК і ўся арганізацыя далі …беларускаму нацыянал-дэмакратызму, з'яўляецца толькі першым этапам ба-рацьбы, што разгортваецца на гэтым фронце.

У гэтай барацьбе асноўнай задачай з'яўляецца ня даць магчымасці праціўні-ку адступіць і сабрацца з сіламі, трэба і далей бязьлітасна біць і дабіць яго”.

Аўтар беспадстаўна, яўна надумана бачыць шмат агульнага паміж “нацдэма-кратызмам” у БССР і “нацыянал-фашызмам” у

Заходняй Беларусі і лічыць, што гэта ўяўляе вельмі вялікую пагрозу для сацыялізму. У гэтай сітуацыі ён лічыць найважнейшай і актуальнейшай задачай партыі граміць да пераможнага канца беларускі “нацдэмакратызм”, прыцягваючы дзеля гэтага на свой бок шырокія пралетарскія масы, працоўную інтэлігенцыю. Артыкул заканчваецца такім заклікам: “Будзем весьці жорсткую барацьбу за генеральную лінію партыі, будзем бязьлітасна змагацца з правым ухілам на практыцы, беларускім нацыял-дэмакратызмам, найбольш небясьпечным праяўленьнем нацыянальнага шаві-нізму на даным этапе, і прымірэнчымі да іх адносінамі – і на вопыце гэтай барацьбы будзем выхоўваць і бальшавізаваць нашы кадры”.

Што з такой барацьбы атрымалася, сёння добра вядома дзякуючы грунтоў-ным даследаванням сучасных навукоўцаў. Ім жа мы абавязаны дастаткова глыбокімі ведамі пра генацыд элітарнага пласта беларускай нацыі падчас масавых фізічных рэпрэсій 30-х гадоў. Але трэба ведаць, што апошнія, як і ба-рацьба з “нацдэмамі”, ніколькі не вынікалі з сутнасці дзяржаўнага суверэнітэту БССР, а, наадварот, прыйшлі сюды насуперак яе волі з Масквы, чаго нельга не ўлічваць у сучаснай практыцы стварэння з ёю адзінай супольнай расійска-беларускай дзяржавы, бо ў выніку страты ад такой палітычнай інтэграцыі нацыянальнага суверэнітэту мы канчаткова ўпусцім і без таго хісткую на сёння надзею заставацца народам з самабытным этнічным абліччам.